**Міхась Скобла. ВОЛЬНАЯ СТУДЫЯ: Кніга гутарак.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Міраслава Шавыркіна*
Мастак *Генадзь Мацур*

У кнізе зьмешчаныя фатаздымкі Ўладзімера Грыдзіна, Сяргея Грыца, Генадзя Жынкова, Анатоля Клешчука, Тацьцяны Матафонавай, Міколы Новікава, Аляксандра Ружачкі, Міхася Скоблы, Сяргея Шапрана.



ISBN 978-0-929849-31-7



# Зьмест

# Quis es? Quis sum?

Каб зрабіць найлепшую ў сьвеце кнігу беларускіх гутарак пачатку XXI стагодзьдзя, трэба:

– нарадзіцца ў цэнтры Эўропы ў другой палове XX (бо калі раней – вы й вашы героі скончыце ў Гулагу ці на вайне, а калі пазьней – бяз вас пройдзе сьвята змаганьня за волю і незалежнасьць);

– атрымаць асалоду ад агульначалавечай спадчыны, але жыць сваёй мовай, сваёй культурай і сваёй гісторыяй (хоць вы й вашы героі ад гэтага ня станеце валадарамі жыцьця тут і цяпер);

– штотыдзень ужо другое дзесяцігодзьдзе, гледзячы суразмоўцу ў вочы, пытацца, казаць і пісаць так, як насамрэч бачыце, разумееце і думаеце (і быць гатовым выпіць цыкуту, якую тут умеюць вырабляць не раўнуючы як у старажытнасьці),

бо толькі ў гутарцы свабодных людзей адказ на вечнае пытаньне:

Quis es? Хто ты?

можа стаць адказам на вечны пошук:

Quis sum? Хто я?

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*



# Міхась Скобла: «Раскоша размовы, альбо VS – МЫ»

«Адзінота не павінна быць празьмернай, – гаворыць Янка Брыль. – Хочацца часам падзяліцца думкамі, абмеркаваць нешта, хочацца, каб хто прыехаў, бо тэлефонам карыстацца мне лекары забаранілі». Мы стаім з Іванам Антонавічам у маладым дубняку на беразе Нёмана ў Крынічным і назіраем адлюстраваны ў зацішнай затоцы лес. Промні вечаровага сонца сьлізгаюць па вадзе, і здаецца, што зялёныя на беразе дрэвы пажаўцелі на сваіх адбітках… Як быццам прырода лішні раз нагадвае людзям пра хуткаплыннасьць жыцьця, якое немагчыма спыніць, але магчыма зафіксаваць і пакінуць у гербарыях памяці ў выглядзе словаў.

Колькі было такіх сустрэчаў і размоваў пры мікрафоне! У Крынічным з Брылём, у Вушачах з Рыгорам Барадуліным, у Гудзевічах з Алесем Белакозам, у Маладэчне зь Міколам Ермаловічам, у Крынках з Сакратам Яновічам, у Горадні з Данутай Бічэль, у Варшаве зь Юрыем Туронкам, у Жыровічах зь інакам Мікалаем (Зьнічом), у Бабры з Алесем Пушкіным… Памятаюцца і больш кароткія сустрэчы ў менскіх радыёстудыях зь менчукамі: пісьменьнікамі, мастакамі, гісторыкамі, культуролягамі, палітыкамі…

За 11 гадоў у этэр выйшла больш за 500 перадачаў. У кнізе іх толькі 50. І гэта была найбольшая пакута – выбраць кожную дзясятую. Цэлы год я перачытваў знаёмыя тэксты, перабіраў, вымяркоўваў, роспачна разумеючы, што, каб выдрукаваць іх усе, патрэбен як мінімум дзесяцітомавік. Яны і цяпер не даюць мне спакою – яшчэ 450 гутарак, што так і засталіся на старых магнітафонных касэтах, на дысках і архіўных сайтах Радыё Свабода.

Пра што тыя паўсотні гутарак, што склалі гэтую кнігу? Пра свабоду і творчасьць. Пра ўладу і пакору. Пра адстойваньне праўды і пазбаўленьне ад страху. Пра найноўшыя плыні ў мастацтве і тысячагадовую Літву. Пра Біблію і

рэлігійную талеранцыю. Пра нацыянальную мімікрыю і Кастуся Каліноўскага. Пра Курапаты, Хатынь, Дражна...

Калі Віктар Хурсік у адной зь перадачаў расказаў пра дражненскую трагедыю, з усёй Беларусі пачалі адгукацца людзі, паведамляць пра сваё мясцовае Дражна.

Радыё мае свой жорсткі хранамэтраж, часам у этэр ішла толькі палова ці траціна запісу. Таму зьмешчаныя ў кнізе гутаркі – розныя з аб'ёму, што, вядома ж, кідаецца ў вочы. У некаторых выпадках недамоўленае патрабавала працягу, перадачы прырасталі фрагмэнтамі іншых запісаў – гэтак жалезнае пілавіньне лепіцца да магніту.

Сэнт-Экзюпэры назваў звычайную размову паміж людзьмі адзінай сапраўднай раскошай. У час эсэмэсак, мабільнікаў, мэйлаў і скайпаў асабліва разумееш, наколькі ён меў рацыю. У імклівым кругабегу дзён, у палоне электронных камунікацыйных сыстэмаў мы нячаста дазваляем сабе нясьпешнае, зацікаўленае сумоўе. Раскошу размовы. Тае, якая – сьвята і пір душы.

Адна з маіх улюбёных кніг – «Вялікая кніга інтэрвію» Іосіфа Бродзкага. Прачытаўшы 60 гутарак з нобэлеўскім ляўрэатам, я зразумеў яго паэзію.

Спадзяюся, што і гэтая кніга дапаможа вам спасьцігнуць опэрнае мастацтва Віктара Скарабагатава, распазнаць жывапісныя тайнапісы Аляксея Марачкіна і Алеся Шатэрніка, зразумець рэжысэрскае майстэрства Мікалая Пінігіна, пранікнуць у паэтычныя сусьветы Алеся Разанава, Уладзімера Някляева і Анатоля Сыса, адчуць багавейную любоў да Беларусі Паўла Севярынца...

Той, хто працуе з двухшрыфтавай клявіятурай, ведае: часам забудзеш шрыфт памяняць і друкуеш, пакуль не зірнеш на манітор, немаведама што. Лацінскі крыптанім, файлавае імя перадачы «Вольная студыя» – VS. Бывае, набіраеш VS, а атрымліваецца – МЫ, бо М знаходзіцца на адной клявішы з V, а S – з Ы. Здаецца, невыпадкова. Бо «Вольная студыя» стваралася мноствам людзей.

VS – МЫ.



*Аляксей Дударэй* –

драматург, празаік, сцэнарыст кіно. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Беларускім тэатры юнага гледача, галоўным рэдактарам часопісу «Мастацтва». Цяпер – старшыня Саюзу тэатральных дзеячаў, мастацкі кіраўнік Тэатру Беларускай Арміі. Аўтар п'есаў «Вечар», «Парог», «Чорная дама Нясьвіжа» ды інш. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Кляны на Дубровеншчыне. Жыве ў Менску.

## *Аляксей Дудараў:* «Мае п’есы неаднойчы правакавалі скандал»

*20 студзеня 2001 году*

*Аляксей Дудараў і за савецкім часам ня быў абдзелены славай і ўвагай уладаў. Яшчэ ў тую пару, калі ягоныя п’есы адначасова ставіліся ў тэатрах ад Берасьця да Ўладзівастоку, ён атрымаў Дзяржпрэмію СССР ды ажно дзьве прэміі Ленінскага камсамолу. Але ці не найбольшы розгалас выклікала нядаўна атрыманая драматургам прэмія «За духоўнае адраджэньне», якую штогод у Палацы Рэспублікі ўручае кіраўнік краіны.*

**Міхась Скобла:** Спадар Аляксей, пасьля таго як вас летась павіншаваў зь юбілеем прэзыдэнт Беларусі, вы сказалі, што насамрэч вас павіншаваў не Аляксандар Лукашэнка, а дзяржава, маўляў, гэтага патрабаваў пратакол. Якое значэньне мае для вас прэмія «За духоўнае адраджэньне», якую вам асабіста ўручыў Лукашэнка, вітаючы вас падкрэсьлена прыязна?

**Аляксей Дудараў:** Сапраўды, мяне ўлада не абдзяляла ніколі, хоць я па кабінэтах ня тое што стараўся не хадзіць, я не люблю гэтага рабіць. Я ніколі нічога не прасіў. Гэта ўсё атрымлівалася само па сабе. Калі я скажу, што я абыякавы да ўсяго гэтага, ну, я буду какетнічаць. Для творцы патрэбныя воплескі, патрэбныя прызнаньне і ўдзячнасьць. Што да прэзыдэнта Лукашэнкі... Ён – кіраўнік краіны. Для мяне ён – легітымны прэзыдэнт. Ён выконвае сваю ролю. А тое, што адзначаюцца чыесьці заслугі, дык гэта адзначае дзяржава, адзначае краіна, адзначае народ – праз прэзыдэнта. Я тут ня бачу ніякіх праблемаў. Шмат хто пачаў абуракцца: навошта Дудараў пайшоў атрымліваць тую прэмію? А чаго вы чакалі ад мяне? Я не прасіў. Падчас уручэньня я сказаў: дзякуй, Аляксандар Рыгоравіч. А ён у адказ: дай Бог не апошняя. Па-беларуску, дарэчы. Вось і ўсё.



**М. С.:** А ці не разглядаеце вы гэтую прэмію як своеасаблівую кампэнсацыю за фактычную забарону вашай п’есы «Прынц Мамабук»? Адна рука пакарала, другая ўзнагародзіла.

**А. Д.:** У мяне ўвогуле ёсьць некалькі п’есаў, якія справакавалі скандалы. У тым ліку і «Прынц Мамабук». Ніхто яе не забараняў і не забараняе. Яна пасьпяхова ідзе ў Маладэчанскім тэатры, некалькі народных тэатраў яе паставілі. Рэч у тым, што я працую наўпрост з тэатрам. Нейкі чыноўнік прачытаў п’есу і знайшоў там крамолу. А можа, яго пакрыўдзіла, што я ў абход чыноўнікаў маю справу адразу з тэатрам? Ён прыйшоў у вышэйшую інстанцыю, паклаў п’есу перад начальнікам і папярэдзіў, маўляў, тут – чорт ведама што. Ведаеце, якія ў нас часы... Гэта няпроста – набрацца мужнасьці, перачытаць п’есу ды запярэчыць: паслухай, не ганяй ты вальтоў. Але мужнасьці не набраліся. А раптам там штосьці-небудзь сапраўды ёсьць! Каб раптам чаго ня выйшла... А тэатар «Вольная сцэна», наадварот, сьмелы стаў: яму рэкамэндуюць ня ставіць, а ён ставіць! Канфлікт паміж Міністэрствам культуры і тэатрам узьнік проста зь нічога, з-за перастрахоўкі... А асацыяцыі, алюзіі нейкія знайсьці можна дзе заўгодна, нават у «Трох сёстрах» Чэхава! Яе таксама лепш ня ставіць. Памятаеце, гераіня п’есы Ірына ходзіць і ўвесь час паўтарае: «В Москву! В Москву! В Москву!» А гэта ж камэдыя! На што ж гэта вы, Антон Паўлавіч, намякаеце? Мы ж з Расеяй нейкую там саюзную дзяржаву будуем.

**М. С.:** Вы ня лічыце, што «Прынц Мамабук» спрычыніўся да разгону «Вольнай сцэны»?

**А. Д.:** Магчыма, і п’еса падліла алею ў агонь. Але там, хутчэй за ўсё, непакорлівы характар Валерыя Мазынскага сваю справу зрабіў. Прызнаюся, мне было нясоладка, бо выглядала на тое, быццам

найперш я вінаваты ў тым, што адбылося з «Вольнай сцэнай». Але я размаўляў з адным чыноўнікам, ад якога ўся гэтая справа залежала. Я ў яго спытаўся: «А калі б “Прынца Мамабука” я не напісаў, калі б яго не існавала ўвогуле, ці быў бы падоўжаны кантракт з Мазынскім?» І адназначна мне было адказана: «Не!»

**М. С.:** Мінулым тыднем ад’ехаў у Нямеччыну Алесь Разанаў, яшчэ раней апынулася ў Італіі Сьвятлана Алексіевіч. Уладзімер Някляеў цяпер у Фінляндыі, па-ранейшаму за мяжой Васіль Быкаў. Можна гэта называць доўгатэрміновымі творчымі выправамі, можна – вымушанай эміграцыяй. Відавочна адно: сёньня творцу, які не падтрымлівае ўладу, на Беларусі жыць і тварыць вельмі складана. Дзе выйсьце: усім выяжджаць ці ўсім зьмірыцца, маўляў, кожная ўлада ад Бога?

**А. Д.:** Тое, што кожная ўлада ад Бога, – гэта відавочна. З гэтым не паспрачаесься. Гэтак і ў самай мудрай кнізе напісана. Што да выездаў-прыездаў, то я лічу, што ў кожнага свой шлях. Ведаю, як сябе адчувае на чужыне Валодзя Някляеў. Вядома, гэта бяда, што творцы зьяжджаюць. Але тут ня трэба ўсё вытлумачваць перасьледам уладаў. Творцу зарабіць сабе на жыцьцё ў сёньняшняй Беларусі немагчыма. Асабіста я нікуды не паеду. Трэба жыць жыцьцём сваёй Радзімы, якое яно ні ёсьць. А Васіль Уладзімеравіч Быкаў за мяжой лечыцца, яму там больш утульна, чым тут, дзе ён ня можа нармальна пражыць нават на сваю пэнсію Героя Сацыялістычнай Працы. За мяжой побытава жыць лягчэй, але ўнутрана я нікому зь іх не зайздрошчу. І ўсё ж паўтару: каб пабудаваць свой дом, трэба знаходзіцца там, дзе ён будуецца.

**М. С.:** Паводле вашага сцэнару зьняты ці ня самы вядомы беларускі фільм – «Белыя росы». Але вось дзіўна: і рэжысэр, і аўтар сцэнару, і кінастудыя – беларускія, а нічога беларускага ў фільме



практычна няма, калі не лічыць народнай песьні, што чуецца за кадрам. Наадварот, прыканцы фільму гучыць рэпліка, што раней усю нашу краіну называлі Расеяй, а адзін з галоўных герояў апэлюе да імя Суворава. Чаму стваральнікі «Белых росаў» палічылі патрэбным праігнараваць нацыянальныя адметнасьці? Мне здаецца, яны выглядалі б натуральна: у стужцы здымаліся ж выдатныя беларускія акторы – Генадзь Гарбук, Стафанія Станюта, Галіна Макарава...

**А. Д.:** Давайце прыгадаем: фільм здымаўся ў 1983 годзе, яму ўжо 18-ы год пайшоў. Я з вамі не пагаджуся, што ў «Белых росах» няма нацыянальнай адметнасьці. Я ўсё ж лічу, што фільм гэты беларускі, нягледзячы на тое што ён зьняты па-расейску і ў ім занятыя, апроч беларускіх, выдатныя расейскія акторы – Усевалад Санаеў, Іван Кузьміч Новікаў, сьветлая ім памяць...

**М. С.:** І беларускія акторы ня менш таленавітыя, проста ім далі другасныя ролі.

**А. Д.:** Я згодзен. Але актораў падбірае рэжысэр, гэта ягонае права. Што да заяваў пра Расею ды апэляцыяў да імя Суворава... Дык выйдзіце на вуліцу і спытайцеся ў выпадковых людзей: хто вы? І многія адкажуць: мы рускія. Такі ўжо ў нас мэнталітэт. Але я яшчэ раз падкрэсьлю: «Белыя росы» – фільм беларускі. Ён і атрымаўся, і стаў папулярным у гледачоў таму, што стварыўся на гэтай зямлі. У фільм дух гэтай зямлі, гэтай дзяржавы нават тады, сямнаццаць гадоў таму, перайшоў. Сёньня ў Беларусі адбыліся вялікія зьмены і зрухі, так што, каб фільм цяпер здымаўся, то і героі так не гаварылі б.

**М. С.:** Увогуле, як мне падаецца, беларускае нацыянальнае кіно – вызначэньне даволі ўмоўнае. Чаму так адбываецца: беларускі рэжысэр здымае паводле беларускага ж клясычнага твору фільм – і ў выніку атрымліваецца нешта безаблічнае, нічыйнае. Куды падзеліся беларускія акцэнты ў «Дзікім

паляваньні караля Стаха» Ўладзімера Караткевіча? Куды выветрыўся беларускі дух з фільму «Птушкі бяз гнёздаў», пастаўленага паводле «Споведзі» Геніюш, – яна ж ім літаральна прасякнутая?! А аповесьць Віктара Казька «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел»? Там гэткія каларытныя тыпажы, характары! А што мы ўбачылі на экране – рамантызаваны вэстэрн, пасрэдную гульню актораў! А з усяго беларускага – адзін трактар. Чаму так адбываецца?

**А. Д.:** Кіно – гэта рэжысэр, гэта не акторы нават, ня аўтар сцэнару, хоць літаратурная аснова, падмурак фільму – вельмі істотная рэч. Усё вырашае і за ўсё адказвае рэжысэр, фільм – гэта ягонае бачаньне, ягонае адчуваньне. А калі рэжысэр – масквіч, ён ня здыме фільму, у якім было б усё тое, пра што вы гаворыце, – і наша шчымлівая беларускасьць, і наш гістарычны лёс. А з нацыянальнай рэжысурай у нас пагана, у кіно яе проста няма. Я вельмі люблю аповесьць Уладзімера Караткевіча «Дзікае паляваньне караля Стаха», я яе ледзь не на памяць ведаю. І калі я паглядзеў фільм паводле кнігі, я быў проста абураны! Я пачаў абурацца ўголас, але мяне пасадзіў на месца малады тады рэжысэр Саша Карпаў: «Ты прыйшоў чытаць Караткевіча ці глядзець фільм? Калі фільм глядзець, дык сядзі і глядзі!» І я супакоіўся.

**М. С.:** Але ж на «Беларусьфільме» былі і ёсьць беларускія рэжысэры – Віктар Тураў, Міхаіл Пташук... А ўласнай рэжысэрскай школы няма.

**А. Д.:** У аднаго чалавека спыталіся: чаму вы такі разумны, адкуль у вас такі інтэлект? А ён кажа: я скончыў чатыры ўнівэрсытэты. Як так – вы ж яшчэ такі малады, калі вы пасьпелі? А ён адказвае: адзін унівэрсытэт скончыў мой прадзед, другі – мой дзед, трэці – мой бацька, а чацьверты – я сам... Вось чаму мы ня маем пакуль сваёй рэжысэрскай школы.

**М. С.:** Пасьля скандальнай пастаноўкі стужкі «Ў жніўні 44-га», ад якой адрокся аўтар сцэнару Ўладзімер Багамолаў, рэжысэр Міхаіл Пташук абвясьціў пра сваю новую задуму – экранізаваць вашага «Князя Вітаўта». Гэткі фільм яму ўяўляецца актуальным, бо, ці бачыце, вялікі князь Вітаўт быў зьбіральнікам славянскіх земляў, і сёньня такі ж зьбіральнік у Беларусі абʼявіўся. Як вам падабаюцца паралелі Пташука, ці гатовыя вы да супрацоўніцтва зь ім?

**А. Д.:** А што тут быць гатовым? Даўным-даўно напісаны сцэнар, дарэчы, ухвалены мастацкім саветам кінастудыі. Але ён ляжыць бяз руху ўжо некалькі гадоў... Перад здымкамі фільму паводле багамолаўскага раману я казаў Пташуку (у нас зь ім даўнія сяброўскія адносіны): я жадаю табе посьпеху, але я слаба веру ў тое, што фільм атрымаецца выдатным. Будзе сярэдняя, на прафэсійным узроўні зробленая карціна. Так яно і выйшла. А вось каб ён зьняў «Князя Вітаўта», у яго, я проста ўпэўнены, атрымалася б. І справа тут не ў зьбіральніку. Пташук, пэўна, сказаў так дзеля прыгожага слоўца. Князь Вітаўт быў сапраўднай асобай. Ён ня толькі дзяржаву будаваў, ён яшчэ і ў Бога верыў. Акрамя Пташука, ніхто з рэжысэраў маёй пʼесай не зацікавіўся. А ў мяне ёсьць некалькі гістарычных рэчаў, якія маглі б стаць мастацкімі стужкамі, прытым папулярнымі, – я ў гэтым не сумняваюся! Але яны напісаны на нацыянальным матэрыяле. А ў нас, у тым ліку ва ўладных структурах, мае сілу дурнота такая, што калі пішаш пра нацыянальную гісторыю, значыць, ты – нацыяналіст! Вось калі расейцы пра сваю гісторыю, пра сваіх герояў пішуць і фільмы здымаюць – гэта нармальна. А ў нас – якія там Вітаўт, Ягайла, Рагнеда... Пакуль тут усе не зразумеюць і не адчуюць сваіх каранёў, добрага плёну чакаць не даводзіцца. Да тэатру гэта ўжо дайшло, на гістарычныя пʼесы чэргі стаяць – я, аўтар, квітка не магу дастаць! Але калі гэта зразумеюць усе астатнія? Праўда,

папракаць кагосьці ня трэба сьпяшацца. Чаго ж вы хочаце, калі некалькім пакаленьням у галаву лапці ўбівалі! З усіх гістарычных герояў толькі Кастуся Каліноўскага часам прыгадвалі, і то толькі таму, што яго цар павесіў. Дык тады цары былі ня ў модзе, а цяпер цары ў модзе! Выходзіць, што нездарма яны тады з Кастусём так абышліся...

**М. С.:** Днямі трыста культурных дзеячаў едуць разам з Лукашэнкам у Маскву – мацаваць культурную інтэграцыю з Расеяй. У складзе дэлегацыі ажно чатыры пісьменьнікі, у тым ліку Эдуард Скобелеў і вы. І вось уявім сытуацыю: у маскоўскім Вялікім тэатры дыктар аб'яўляе: «А цяпер слова пра славянскае яднаньне скажа беларускі драматург Аляксей Дудараў». Паводле рэглямэнту ў вас адна хвіліна.

**А. Д.** *(сьмяецца)*: Што да Дзён культуры, дык яны заўсёды былі. Штоbecause разу, калі нашы майстры выяжджалі ў Маскву, Дні культуры праходзілі на высокім мастацкім узроўні. Што датычыць рэглямэнту...

**М. С.:** І славянскага яднаньня...

**А. Д.:** ...То гэта наўрад ці адбудзецца, паколькі там ёсьць каму і безь мяне выступаць. А калі б я атрымаў слова, то сказаў бы прыкладна наступнае: «Мы сапраўды – карані аднаго дрэва, але розныя на гэтым дрэве растуць плады, абсалютна розныя. І гэта цудоўна. Культура, мастацтва не прызнаюць межаў і разбураюць іх паміж людзьмі і дзяржавамі. Але пры ўсім тым, што мы падобныя, мы ўсё ж іншы народ, чым расейцы, чым украінцы. Але сябраваць з украінцамі супраць расейцаў я ня буду, таксама як і сябраваць з расейцамі супраць украінцаў я таксама не магу і ня буду. Мы – суседзі, у нас у кожнага ёсьць свой дом, і мы павінны хадзіць адзін да аднаго ў госьці. Дні культуры – гэта сьвята найперш культуры, а ня нейкія скокі пад палітычныя лёзунгі ды фаервэркі».



*Рыгор Сітніца –*
мастак-графік. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Працуе выкладчыкам у Беларускім каледжы мастацтваў. Намесьнік старшыні Саюзу мастакоў Беларусі, сябра суполкі «Пагоня». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы Петрыкаўскага раёну. Жыве ў Менску.

## *Рыгор Сітніца:* «Дзяржава павінна станавіцца больш культурнай»

*4 лютага 2001 году*

*Мы сустрэліся ў майстэрні, у якой амаль дваццаць гадоў (з 1966 да 1985 году) зьбіралася ці ня ўся апазыцыйна настроеная беларуская інтэлігенцыя: Зянон Пазьняк, Лявон Баразна, Міхась Раманюк, Яўген Кулік (гаспадар майстэрні), Міхась Чарняўскі... Тут быў і дыскусійны клюб, і месца, дзе адзначаліся гадавіны забароненых на той час дзеячаў – Вацлава Ластоўскага, Язэпа Драздовіча, Казімера Малевіча. Са згуртаванага ў гэтай майстэрні ядра вальнадумцаў пазьней узьніклі і Беларускі Народны Фронт, і суполка «Пагоня». А знаходзілася гняздо вальнадумства на галоўным менскім праспэкце, акурат насупраць будынку КДБ... Сёньня ў майстэрні, што застанецца ў гісторыі пад назвай «На паддашку», другі гаспадар – мастак Рыгор Сітніца.*

**Міхась Скобла:** Рыгор, ці не прыгнятае цябе, ці не перашкаджае табе ў творчасьці гэткае суседзтва?

**Рыгор Сітніца:** Пра сваіх суседзяў цераз дарогу я ня дужа часта згадваю. Для мяне больш важна тое, што раней тут зьбіраліся мастакі, гісторыкі, пісьменьнікі – дысыдэнты, якія, як маглі тады, супрацьстаялі савецкаму рэжыму. Мне пашчасьціла быць нашчадкам гэтай аўры, і яна мне дапамагае. Каго толькі ні пабачыла гэтая майстэрня! На яе сьценах можна вешаць мэмарыяльныя шыльды! Апрача названых, сюды заходзілі Ўладзімер Караткевіч, Мікола Ермаловіч, Міхась Стральцоў... Дарэчы, тут у сярэдзіне 1980-х гадоў я пазнаёміўся зь Зянонам Пазьняком. Так што якое тут КДБ! Хіба пра яго думкі...



**М. С.:** Нядаўна Саюз мастакоў – першы і пакуль адзіны сярод творчых саюзаў – падтрымаў палітыку Аляксандра Лукашэнкі. Ніхто зь сяброў Саюзу не запратэставаў, відаць, чакаючы, пакуль расчулены ды ўдзячны Аляксандар Рыгоравіч «поўны гусьлі насыпле дукатаў». Мастакі сапраўды салідарныя са сваім кіраўніцтвам ці, седзячы па майстэрнях, не заўсёды ведаюць, што там ды як у іхным Саюзе робіцца?

**Р. С.:** Заява, прынятая Радай Саюзу мастакоў, ня мае нічога агульнага са сьветапоглядам пераважнай большасьці сяброў Саюзу. Я магу пэўна сьцьвярджаць, што 80%, а то і 90% мастакоў не падтрымліваюць палітыкі былога прэзыдэнта нашай краіны. Пра якую падтрымку можна казаць, калі беларускае мастацтва, як і ўся нацыянальная культура, у страшэнным занядбаньні? А тое, што падобныя пастановы прымаюцца, – гэта найперш вынік шантажу, да якога ўлады часта зьвяртаюцца. Пагражаюць, напрыклад, у дзясяткі разоў павялічыць арэндную плату за майстэрні. І гэта дзейнічае, асабліва на людзей сталага веку. Але бальшыня мастакоў разумеюць сытуацыю адэкватна. Вось нядаўна прайшла «нарада па пытаньнях культуры з удзелам прэзыдэнта». У мяне адразу ўзьнікае пытаньне: а якой культуры праблемы абмяркоўваліся? Можа, праблемы беларускага кнігавыданьня, беларускага мастацтва, якія амаль загнаныя ў падпольле? А хто іх, гэтыя праблемы, стварыў? Тая ж улада. А хто вырашаў гэтыя праблемы са спадаром Лукашэнкам? Народных пісьменьнікаў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча там не было. Дык пра якую культуру і з кім улада размаўляла?!

**М. С.:** Тыдзень таму слухачы нашага радыё пачулі твой «верш на Свабоду», дзе рэфрэнам, шматкроць паўтараўся радок: «Іграй, саксафон... Ня сьвятасьць, аблуда цяпер узыходзіць на трон. Іграй, саксафон!». Я зразумеў верш так: мастак заўсёды мае

права зачыніцца ў вежы са слановай косткі – дзеля творчасьці. Што б там ні адбывалася вонкі...

**Р. С.:** Я гэта разумею трохі іначай: мастацтва мае права самасьцьвярджацца. Мастацтва, якое сьцьвярджае сябе, сьцьвярджае дабрыню, прыгажосьць, сьвятасьць. Мастацтва – гэта дар Божы, і ніякая цемра яго не пераможа. І таму саксафон мусіць іграць і прапаведваць Божае сьвятло і дабро.

**М. С.:** Вернемся, аднак, да больш надзённых рэчаў. Нядаўна ў Маскве прайшлі Дні беларускай культуры, дзе апрача ўсяго іншага была адмысловая выстава беларускага жывапісу. Пакуль маскоўскія аматары мастацтва зьбіраліся наведаць выставу, на тэлеканале «Культура» выступіў Аляксандар Лукашэнка і заявіў, што, маўляў, беларуская культура бедная, нават свайго Шаляпіна ды свайго Рэпіна ня мае... Ну чаго было ісьці на тую выставу пасьля такіх заяваў?

**Р. С.:** Што тут скажаш, у кожнага свая культура. Ну, не хапае яму Рэпіна, не хапае Шаляпіна. А ў мяне ёсьць Забэйда-Суміцкі, ёсьць Рушчыц, ёсьць Бялыніцкі-Біруля, якія аніяк ня горшыя за Рэпіна, які добры мастак, але далёка ня ўзор сусьветнага мастацтва. Дарэчы, на той маскоўскай выставе быў і адзін мой твор. Праўда, я ня ведаў, што гэта будуць нейкія Дні культуры. Ведаў, што ў Маскве рыхтуецца выстава, а я там даўно не выстаўляўся, то чаму і не паказацца... Лукашэнку ня шкодзіла б паслухаць выступ па Беларускім тэлебачаньні дырэктара Трацьцякоўскай галерэі, які сказаў, што ў Беларусі ёсьць вялікае мастацтва, якое будзе дужа цікавае расейскай публіцы.

**М. С.:** А я здагадваюся, чаму Лукашэнка ня бачыць «свайго Рэпіна». Бо ж не ўвекавечылі першага прэзыдэнта беларускія мастакі. Вось пісьменьнік Уладзімер Якутаў сеў ды напісаў дакумэнтальную аповесьць пад назвай «Александр Лукашенко». Яе



выдалі летась спэцвыпускам часопіса «Немига». А што ж мастакі? Чаму да гэтай пары не стварылі параднага партрэту Аляксандра Рыгоравіча?

**Р. С.:** Мастакі таксама стварылі, хіба не парадны партрэт. Згадайма Алега Карповіча, ягоную сэрыю выдатных карыкатураў на Лукашэнку. А вядомы рымэйк Артура Клінава на кустодзіеўскую купчыху, дзе Лукашэнка п'е гарбату, над ім нейкія гусі лятуць. Вельмі вясёлы рымэйк, чалавек з добрым пачуцьцём гумару і густу мог бы нават і ў кабінэце павесіць. Варта згадаць і «Габэлен стагодзьдзя» нябожчыка Аляксандра Кішчанкі, які ці не 19 мэтраў вышынёй. Гэты габэлен цяпер даядае моль у майстэрні мастака. Гэта вельмі сумна, бо Кішчанка – творца таленавіты, і вялікі сьлед пакінуў у нашым мастацтве. На тым габэлене выявы Лукашэнкі і самога Кішчанкі разьмешчаныя вышэй за Госпада Бога. Аднаго гэтага было дастаткова, каб твор напаткаў лёс нікому не патрэбнае палатніны, якую кінулі на спажытак молі... Дарэчы, гэты габэлен пачалі рабіць задоўга да прышэсьця нашага цяперашняга кіраўніка, і месца па-над усімі доўга заставалася пустым. Урэшце прыйшлося выткаць там галаву Лукашэнкі. Можа, прыйдзе час – і нейкай іншай галавой заменяць, але гэта ўжо ня нашыя праблемы.

**М. С.:** Ты нярэдка ўдзельнічаеш у мастацкіх пленэрах за мяжой. І там гэта – адна зь яскравых праяваў культурнага жыцьця. Ці часта ладзяцца падобныя пленэры ў Беларусі, чым яны адрозьніваюцца ад замежных?

**Р. С.:** На жаль, у нас пленэры ладзяцца гады ў рады. Найчасьцей мне даводзіцца бываць у Польшчы: там штогод праводзяцца дзясяткі, калі ня сотні самых розных пленэраў. Яны ладзяцца ў кляштарах, у іншых незвычайных месцах. Напрыклад, сусьветна вядомы рэжысэр Кшыштаф Занусі ладзіць свой прыватны пленэр на ўласнай віле пад Варшавай. А што ў нас? У нас ёсьць пленэр

імя Язэпа Драздовіча, які штогод праводзіць на Віцебшчыне суполка мастакоў «Пагоня». Ладзіцца яшчэ адзін салідны пленэр імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі на Магілёўшчыне. Ён арганізоўваецца на дзяржаўныя сродкі, і ён беларуска-расейскі: адбываецца на Магілёўшчыне і ў Расеі, на гэтак званай Акадэмічнай дачы. Гэты пленэр мае добрае фінансавае забесьпячэньне, і дзякуй Богу, што дзяржава лічыць патрэбным яго падтрымаць. Я хацеў бы, каб падобныя пленэры ладзіліся і ў гонар Напалеона Орды, Валенція Ваньковіча, Віталя Цьвіркі. Гэта маглі б быць магутныя пленэры. Але тут павінна дапамагаць дзяржава.

**М. С.:** Пісьменьнік Віктар Карамазаў, які вельмі шмат зрабіў дзеля ўшанаваньня памяці Бялыніцкага-Бірулі, расказваў, што некаторыя замежныя мастакі пакідаюць магілёўскі пленэр на знак пратэсту супраць афіцыёзу, які там пануе. Разам зь дзяржаўнай дапамогай на пленэр прыходзіць афіцыёз. Як тут быць?

**Р. С.:** Ды вельмі проста. Дзяржава павінна станавіцца больш культурнай. І той кіраўнік пленэру, які прызначаецца дзяржавай, павінен быць адукаваным, культурным чалавекам. Нягледзячы на грэблівае стаўленьне сёньняшняй улады да беларускай культуры, я перакананы, што дзяржава рана ці позна павінна адумацца і павярнуцца тварам да нацыянальных каштоўнасьцяў, бо гэта адзіны разумны шлях. Гэта адзіная магчымасьць захаваць і дзяржаву, і саміх сябе – як нармальных цывілізаваных людзей. Часам чалавек, які доўга не галіўся, хадзіў зарослы, раптам паголіцца, і ўсе адразу заўважаюць перамену – гляньце, чалавекам стаў! Так можа быць і з нашай дзяржавай. І нічога дзіўнага тут ня будзе. Гэта – норма.



*Васіль Сёмуха –*
перакладчык. Закончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя М. Ламаносава. Працаваў у тыднёвіку «ЛіМ», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Сярод перакладаў – Біблія, «Фаўст» Ё. В. Гётэ, «Санэты Арфэя» Р. М. Рыльке, творы В. Гамбровіча, В. А. Гофмана, Ф. Дзюрэнмата. Нарадзіўся ў 1936 годзе на хутары Ясянец на Пружаншчыне. Жыве ў Менску.

## *Васіль Сёмуха:* «Беларускую Біблію чытаюць нават атэісты»

*14 красавіка 2001 году*

*Васіль Сёмуха заўсёды перакладаў надзённыя для айчыннага чытача творы. «Фаўст» Гётэ выйшаў па-беларуску ў змрочныя 1970-я, абазваўшыся да зьняверaных духаўздымнымі радкамі: «Той толькі праўды і свабоды варты, хто кожны дзень ідзе за іх на бой!». Ніцшэ па-беларуску загаварыў на пачатку 1990-х, калі Беларусі гэтак бракавала нацыянальнай волі. Пра актуальнасьць Бібліі гаварыць не выпадае – яна вечна надзённая. І народ, які мае Біблію на роднай мове, – неўміручы. Гэта разумеў яшчэ Францішак Скарына, у далёкім 1517 годзе ператлумачваючы па-беларуску Псалтыр. Былі спробы – больш ці менш удалыя – перакласьці Біблію і ў найноўшыя часы. Адны перакладчыкі экспэрымэнтавалі з моваю Сьвятога Пісьма, што выглядала не заўсёды дарэчы. Другім не хапіла цярпеньня, трэцім – жыцьця, каб закончыць велічную справу. Васілю Сёмуху хапіла ўсяго. За доўгія гады перакладчыцкай дзейнасьці ён зазнаў і бізуна, і перніка – быў выключаны з Саюзу пісьменьнікаў («за сувязі з замежжам і спробу надрукаваць "Фаўста» ў Мюнхэне"), уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь 1992 году. (за пераклад «Доктара Фаўстуса» Томаса Мана), звольнены зь дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура» (за «выпуск сумнеўнай літаратуры»). А нядаўна прэзыдэнт Нямеччыны ўзнагародзіў Васіля Сёмуху ордэнам...*

**Міхась Скобла:** Спадар Васіль, я віншую вас з высокай узнагародай. Вы сталі кавалерам ордэна «За заслугі перад Фэдэратыўнай Рэспублікай Нямеччынай». Але сёньня, калі ў Беларусь, паводле афіцыйных мэдыяў, зноў засылаюцца шпіёны і дывэрсанты з Захаду, атрымліваць гэткую ўзнагароду даволі рызыкоўна. Не баіцеся, што вас абвесьцяць нямецкім агентам?



**Васіль Сёмуха:** Калі ў нас такая сытуацыя... Што ж, можаце лічыць мяне нямецкім шпіёнам, я не баюся. У свой час я чытаў у газэце «Славянский набат», што Сёмуха прадаўся Захаду. А колькі праўды ў гэтым – самі мяркуйце. Я памятаю словы Валодзі Караткевіча (ён любіў іх паўтараць): «Калі ваўку няма чым с...ць, дык ён – лыкам». Вось і тут гэтае лыка з усіх дзірак лезе.

**М. С.:** Апошнім часам вам даводзіцца працаваць пераважна ў шуфляду, паколькі перакладныя кнігі ў дзяржвыдавецтвах амаль не выходзяць. Зразумела, што без сусьветнае клясыкі беларуская культура абысьціся ня зможа. Але наколькі тое, што вы перакладаеце, актуальнае менавіта для сёньняшняй Беларусі?

**В. С.:** Мае пераклады апошніх гадоў усе актуальныя. Нават тыя, якія на першы погляд такімі не здаюцца. Чым актуальная, напрыклад, «Кніга цара Давіда» нямецкага пісьменьніка Штэфана Гайма? У ёй апісваюцца біблійныя падзеі, часы параваньня Саламона – самага мудрага, самага справядлівага цара. Прынамсі, пра мудрасьць ягоную мы ўсе ведаем. Але ў кнізе выкрыты мэханізм ягонай тыраніі, дэспатыі, дыктатарства. І калі вы паглядзіце, што рабіў цар Салямон дзеля ўмацаваньня свайго трону, то вы і сярод кіраўнікоў сучасных дзяржаваў пазнаеце такіх салямонаў, якія дзейнічаюць тымі самымі сродкамі. Усе дыктатуры падобныя адна да адной як два пальцы. Чытаць пра гэта і разумець гэта, я лічу, актуальна, бо мы перажываем падобныя часы – часы дыктатара Салямона.

**М. С.:** А хіба старажытныя і сучасныя дыктатуры падобныя між сабой? Хіба іхныя мэтады і сродкі

не зьмяніліся на працягу тысячагодзьдзяў? Якія яны?

**В. С.:** Перш за ўсё – заткнуць глотку сродкам масавай інфармацыі. Гэта рабілася тады (хоць сродкі інфармацыі былі іншыя), гэта робіцца і цяпер. Мэта адна – паставіць на калені вучоных, філёзафаў, гісторыкаў, каб яны думалі і перапісвалі гісторыю так, як патрэбна ўладарам. Нават па біблійных тэкстах відно, як перапісвалася гісторыя цара Давіда: не супадае адно з другім, розныя трактоўкі даюцца. Няма такога сьмяротнага граху, якога не было б на сумленьні цара Давіда. У яго рукі былі па локці ў крыві. Ён і ад Бога адступаўся. І здраджваў свайму народу. І ваяваў супраць свайго народу. І злачынствы разбойныя ўчыняў. Усё гэта паказана ў рамане Штэфана Гайма. Гэта вельмі цікава. А сёньня ў Беларусі мы што назіраем? Тое ж самае – як душыцца свабода слова, як перапісваецца беларуская гісторыя. У часы Салямона ўсё гэта рабілася таксама. Дык актуальныя мае пераклады ці неактуальныя? Яшчэ як актуальныя!

**М. С.:** Вы перакладаеце зь нямецкай мовы ўжо каля сарака гадоў. Сорак гадоў спасьцігалі Нямеччыну ў сваіх уяўленьнях, сваіх мроях, паколькі ўвесь гэты час былі невыязны, нядобранадзейны для ўладаў. І вось летась вы мелі магчымасьць упершыню наведаць Нямеччыну. Якія ўражаньні склаліся ў вас падчас візыту? Ці ёсьць у немцаў разуменьне таго, што адбываецца ў нашай краіне?

**В. С .:** Для мяне самым галоўным было сустрэцца ў Нямеччыне са звычайнымі жывымі людзьмі, якія нясуць крыж пакаяньня перад Богам за ўчыненае калісьці ня імі канкрэтна, а іхнымі кіраўнікамі. Цяпер нямецкі народ каецца. Сёньня нямецкі народ дае прыстанішча сусьветна вядомаму пісьменьніку, гонару і сумленьню нашай нацыі Васілю Быкаву. Парадокс гісторыі – чалавек, які так шмат за сваё жыцьцё зрабіў для змаганьня з фашызмам, якога



беларуская ўлада абвінавачвае ў фашысцкіх поглядах, – гэтаму чалавеку дае прыстанішча менавіта нямецкі народ! Гэта ганьба для нашай краіны, для нашай улады, для нас усіх, што Васіль Быкаў вымушаны шукаць даху над галавой у Нямеччыне. Але гэты факт сьведчыць і пра адносіны немцаў да нас. Яны разумеюць нашу сытуацыю. Што тычыцца фашызму... Усяго некалькі дзён таму я слухаў па дзяржаўным радыё дэпутата гэтак званай Палаты прадстаўнікоў Касьцяна. Ён дагаварыўся да таго, што чалавецтву ў свой час былі патрэбныя Гітлер, Сталін і Піначэт! Я ня ведаю, каго Касьцян хоча параўнаць з названымі асобамі, але яўна, што ён мае на ўвазе кагосьці... І гэты камуніст засядае ў парлямэнце! Я скажу, чаму ён там засядае, – ёсьць на чым сядзець, задніца ёсьць. А галавы няма. І ён думае тым, на чым сядзіць, калі гаворыць такое.

**М. С.:** Вы прыгадалі Васіля Быкава. На гэтым тыдні была апублікаваная заява 19 беларускіх пісьменьнікаў з патрабаваньнем спыніць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі шальмаваньне Быкава. Пад заявай стаіць і ваша прозьвішча. Вы чакаеце нейкай афіцыйнай рэакцыі ад беларускіх уладаў?

**В. С.:** Мне пляваць на беларускую ўладу ў сувязі з Быкавым! Усё тое, што гэтая ўлада выплюхнула на галаву геніяльнага пісьменьніка, нашага Васіля Быкава, – гэта хлусьня! І таму я ад іх нічога людзкага і добрага не чакаю. Калі Лукашэнка (я сам чуў) абвінавачвае пісьменьніка па радыё, маўляў, Быкаў ня згодны з маёй палітыкай, Быкаў – радыкал фашыстоўскага толку, ну ведаеце... А калі там нейкія Казіятка ці Азаронак вылазяць на тэлеэкран з падобнымі выказваньнямі, то, апрача агіды, я анічога не адчуваю. Людзі, якія, кажучы біблійнымі словамі, ня вартыя завязаць шнуркі на сандалях Васіля Быкава, дазваляюць сабе такое плявузгаць на ўвесь белы сьвет! А вярхоўная ўлада гэтаму

патурае, лічыць гэта свабодай слова. Гавары што хочаш кепскага на Быкава – гэта добра, а на абарону пісьменьніка – гэта кепска... Пляваць я хацеў на такую ўладу!

**М. С.:** Давайце пагаворым пра мову вашых перакладаў. Усе, хто чытаў па-беларуску Якаба фон Грымэльсгаўзэна, Германа Гесэ, Візму Бэлшавіцу ды іншых перакладзеных вамі пісьменьнікаў, не маглі не захапіцца мовай. Я перад нашай гутаркай зазірнуў у кнігу Фрыдрыха Ніцшэ «Так сказаў Заратустра» і не ўстрымаўся, каб ня выпісаць колькі выразаў і словаў: Заратустра *шчасьціўся* з духу свайго і *адлюдненасьці*; *людовішча* на пляцы; хадзіць у пурпурах *шаноўлі*; *любацерпцы* і *любасьнікі* ісьціны; *мольбіты* ўсталі з каленяў; вусны *зьнямовіліся*... Але словаў гэтых няма ў сучасных нарматыўных слоўніках. У якіх моўных сусеках вы іх адшукалі?

**В. С.:** У беларускай мове. Іх няма ў нарматыўных слоўніках, але яны ёсьць у мове. Усе гэтыя словы ўласьцівыя нашай роднай мове. Я чуў ад нашага салямона, што па-беларуску нельга выказаць вялікіх думак, бо, ці бачыце, беларуская мова бедная. А існуе ўсяго дзьве вялікія мовы – ангельская і расейская. Праўда, у апошнім інтэрвію «Советской Белоруссии» салямон пашырыў гэты сьпіс да шасьці моваў. Праўда, і ў гэтым сьпісе месца беларускай мове не знайшлося. Але ад гэтага мудрага салямона за шэсьць гадоў я не пачуў ніводнай разумнай думкі – ні на адной з моваў! Дык пры чым тут мова? Увогуле, падзел моваў на вялікія і малыя даволі ўмоўны. Скажыце, у якой мове сьвету вы знойдзеце 45 словаў для адценьняў сьнегу? А ў мове чукоцкіх эскімосаў іх 45! Таму што гэта іхнае жыцьцё! І ніякая ангельская ці кітайская мовы не заменяць ім сваёй, роднай. Дык што ёсьць вялікая мова? Вялікая тая мова, якую Бог даў кожнаму чалавеку і народу.

**М. С.:** Нягледзячы на тое што сёньня вы шмат перакладаеце ў шуфляду, усё ж многія вашыя пераклады запатрабаваныя, прачытаныя. Я сам быў сьведкам, як падчас хросту немаўляці настаяцель менскай Петра-Паўлаўскай царквы айцец Георгі Латушка карыстаўся перакладзеным вамі Псалтыром. «Фаўст» паводле ж вашага лібрэта быў пастаўлены ў Нацыянальным опэрным тэатры... А якую сваю перакладчыцкую працу вы лічыце найбольш значнай?

**В. С.:** Паводле патрэбнасьці для народу, для грамадзтва я назаву хіба гэтую пару – Біблія і «Фаўст». Маім грамадзянскім абавязкам было перакласьці гэтыя творы. А ў паэзіі мне найбліжэй творчасьць латыскай паэткі, нашай сучасьніцы Візмы Бэлшавіцы. Пакуль што я пераклаў адзін зборнічак яе вершаў – «Белы алень». Бэлшавіца піша пра тыя праблемы, якія і нас спрадвеку мучылі і працягваюць мучыць, пра лёс інтэлігенцыі ва ўмовах дыктатуры – ці то сталінскай, ці то лукашэнкаўскай. Мы – белыя алені. Інтэлігенты ў наш спажывецкі час, у моры электарату – белыя алені, альбіносы, белыя вароны, якія першымі гінуць ад ваўкоў, ад драпежных кіпцюроў. А яшчэ Візма Бэлшавіца піша пра тое, што такое нацыянальная здрада. Адзін зь яе найлепшых твораў – «Запіскі Генрыка Латыскага на палях Лівонскай хронікі». Падзеі, падобныя да апісаных там, мы сёньня перажываем. Бэлшавіца піша пра Генрыка, пра чалавека, які быў выхаваны ў чужой культуры, у чужой цывілізацыі. Вярнуўшыся на радзіму, ён праходзіцца па ёй агнём і мечам, караючы яе як чужынец. Такім быў Генрык Латыскі. І Аляксандар Лукашэнка, я лічу, пайшоў падобным шляхам.

**М. С.:** Вы пераклалі на беларускую мову Біблію. Пачуцьці, падобныя да вашых, за ўсю гісторыю перажылі толькі два беларусы – Францішак Скарына і Янка Станкевіч, якія ў свой час таксама зрабілі поўныя пераклады Бібліі. Але ні пераклад Скарыны ў XVI стагодзьдзі, ні пераклад Станкевіча ў стагодзь-

дзі XX не былі афіцыйна прызнаныя Царквой. Як вы лічыце, ці будзе прызнаны ваш пераклад у XXI стагодзьдзі?

**В. С.:** Я ня ведаю, ці будзе ён прызнаны цэрквамі. Мяне гэта мала хвалюе. Я зьвяртаўся ва ўсе беларускія канфэсіі з прапановаю супрацоўніцтва, каб мне дапамаглі ў выданьні Бібліі. Кожная з канфэсіяў лічыць сябе адзіна правільнай, і кожная ставіла мне ўмовы, каб тэкст выдаваўся пад іх кантролем. Гэта ішло ўразрэз з маімі пажаданьнямі. Я хацеў, каб беларуская Біблія была патрэбная і даступная для ўсіх, а ня толькі для той ці іншай канфэсіі. Для мяне яны ўсе роўныя. Цікава, што да мяне зьвяртаецца маса людзей, якія ў сваім жыцьці ніколі ня тое што не чыталі Бібліі, ніколі яе ў руках не трымалі! Гэта і атэісты, і нават модныя цяпер атэісты праваслаўнай арыентацыі. Яны хочуць чытаць беларускую Біблію! У мяне нават зьмяніўся погляд на сваю працу. Чым больш атэістаў, бязбожнікаў прачытаюць Біблію беларускую – тым лепш.

**М. С.:** З паўгоду таму госьцем «Вольнай студыі» быў Іван Чарота – сакратар Біблійнай камісіі і аўтар кнігі «Беларуская мова і царква». Дык вось, ён даводзіў, што пераклад Сьвятога Пісьма мусіць быць саборным. Паводле найноўшага энцыкляпэдычнага даведніка «Рэлігія й царква на Беларусі», «саборнасьць – гэта супрацьлеглы панятак як індывідуалізму, які разбурае чалавечую прыроду, так і калектывізму, які нівэлюе асобу». Прызнаюся шчыра: ні са словаў спадара Чароты, ні з прыведзенай цытаты я так і не дацяміў, што ёсьць саборнасьць увогуле і саборны пераклад у прыватнасьці? А як вы разумееце «саборны пераклад», якога трымаюцца, я так разумею, вашыя апанэнты?

**В. С.:** Я меў досьвед саборнай працы ў згаданай Біблійнай камісіі. Што гэта азначае? Нехта адзін сядзіць і перакладае. Гэтым адным у той камісіі быў адзін час Сёмуха, перакладаў ён Эвангельле



ад Мацьвея... Пасьля сабралася кампанія хлопцаў, сьвятых і ня вельмі сьвятых, – філёлягаў, царкоўнікаў – і давай чытаць тое, што перакладзена, зьвяраючыся і са Скарынам, і са Станкевічам, і з расейскім перакладам, выбіраючы найлепшы варыянт. А перакладчык ня згодны, ці нехта з камісіі ня згодны з тым ці іншым варыянтам. Тады браліся вырашаць галасаваньнем: хто за тое, каб пакінуць тое ці іншае слова. Як можна падобныя пытаньні вырашаць галасаваньнем? Гэта немагчыма! Але ў выніку прымаўся нейкі варыянт, які задавальняў большасьць чальцоў камісіі. Згадзіцеся, што ніякага стылёвага адзінства, ніякай індывідуальнасьці ў перакладзе, прынятым галасаваньнем, быць ня можа. Гэта будзе абсалютна бясстрасны, неэмацыйны тэкст. А ўжо што там правільна, а што няправільна – пытаньне вельмі спрэчнае. Ну, мабыць, правільна, калі большасьцю прынята. Вось гэтая большасьць і ёсьць саборнасьць... Так працаваў Інстытут марксізму-ленінізму, які перакладаў творы Леніна і Сталіна. Я памятаю, як у перакладзе зь Леніна нейкі фразэалягізм пераклалі правільна, але, натуральна, іншымі словамі. Дык запатрабавалі, каб было слова ў слова. Няхай гэта гучала дзіка па-беларуску, але па сутнасьці гэта мела быць правільным, як у Леніна. Вось вам прыклад саборнага перакладу... Натуральна, што ў такой саборнасьці я працаваць ня мог і выйшаў з камісіі. Мой пераклад камісія адрэдагавала, што палічыла патрэбным – пакінула, што не – выкінула, прагаласавалі і выдалі, не згадаўшы нават імя перакладчыка. Гэта называецца – украсьці. Вось гэта і ёсьць саборнасьць, шчыра кажучы... Мае апанэнты закідаюць мне, што мой пераклад нясе адбітак асобы перакладчыка. Дык жа і кожнае Эвангельле нясе адбітак асобы свайго аўтара, ніякай саборнасьці там не было. Марк пісаў сваё Эвангельле, Павал пісаў свае пасланьні. І ніхто не галасаваў! Так і перакладацца павінна Біблія, каб пераклад меў

адзінства стылю ад пачатку да канца, і пры гэтым каб аўтар кожнай часткі быў прадстаўлены як асоба сваім адметным, сваім непаўторным стылем. А гэта можа зрабіць толькі адзін перакладчык.

**М. С.:** Рыхтуючыся да нашай гутаркі, я нечакана для сябе выявіў, што спробаў перакласьці на беларускую мову тую ці іншую частку Бібліі было вялікае мноства. І амаль усе гэтыя пераклады выдадзеныя, я пералічу дзе: у Нью-Ёрку, Таронта, Лёндане, Гельсынках, Вільні, Рыме, Менску, Стакгольме, Чыкага, Кліўлендзе, Варшаве, Мельбурне, Лодзі... Пераклады рабіліся рознымі людзьмі з рознай тэалягічнай ды філялягічнай падрыхтоўкай. І калі іх параўнаць, абавязкова ўзьнікаюць пытаньні. Я разумею, калі сустракаюцца варыянты напісаньня, прыкладам «Галгофа – Гальгота». Але як патлумачыць, што адна і тая расьліна з Эвангельля ад Лукі ў перакладчыка Чарняўскага названая шыпшыньнікам, у Станкевіча – чупчыньнікам, у Міцкевіча – асотам, у Клышкі – ажынай, а ў Сёмухі – хмызьняком?

**В. С.:** Тут няма нічога дзіўнага. Калі вы пачытаеце батанічныя слоўнікі, вы ня ўбачыце там адзінства. Адзінства ў батанічных тэрмінах існуе толькі на лаціне. А народы і людзі ўсе расьліны называюць па-рознаму. Для кожнай расьліны ў розных мясцовасьцях ёсьць дзясяткі назваў, і дайсьці тут да нейкага адзінства проста немагчыма. Лаціна для навукі – выйсьце. Але біблійныя тэксты перакладаць лацінскімі тэрмінамі ня варта. Так што можа быць і шыпшыньнік, і хмызьняк. Я прывяду вам такі прыклад. Старажытныя грэкі пісалі, чытаем у Эвангельлі ад Яна: «Спачатку быў логас...» І пачынаюць перакладаць «логас» як «слова», «дело», «сіла», «подвиг», «учынак»... І кожны з варыянтаў правільны, але недастатковы. Бо ў старажытнагрэцкай мове слова «логас» мела 27 асноўных значэньняў! У сучасных мовах яму проста няма ўнівэрсальнага адпаведніка. А таму кожны перакладчык,



кіруючыся сваёй інтуіцыяй, выбірае слова, якое ён лічыць найбольш адпаведным. Таму на месцы слова «логас» у перакладзе можа паявіцца 27 розных словаў. Для навукі гэта непрымальна, але для нашага з вамі разуменьня тэксту падыходзіць. Для навукі ёсьць арыгінал – старажытнагрэцкі і старажытнагабрэйскі. І ніводзін тэоляг ня будзе дасьледаваць Біблію па перакладах, бо гэта ўжо другасныя тэксты. Пераклад – гэта людзкая спроба перадаць ісьціну людзям, каб ім яна была зразумелая. Бо арыгінал жа недаступны.

**М. С.:** Вашыя тэксты заўсёды натуральна гучаць па-беларуску...

**В. С.:** Дзякуй на добрым слове.

**М. С.:** ...А таму хацелася б пачуць думку адмыслоўца-філёляга ў пытаньні, якое сёньня хвалюе ўсё беларускае грамадзтва, – маю на ўвазе дзяржаўны гімн Беларусі. Вы ў свой час пераклалі адзін з гімнаў, гімн каханьню – «Найвышэйшую песьню Саламонаву». На гэтым тыдні адмысловая камісія выбрала нарэшце самы ўдалы на яе гледзішча варыянт і будзе прадстаўляць яго на зацьвярджэньне. Музыка старая, Нестара Сакалоўскага, тэкст – пераніцаваны са старога, Клімковіча – Карызны. Як вы ацэньваеце гэты твор, ці варты ён быць дзяржаўным гімнам?

**В. С.:** Я прачытаў усе варыянты. Выбраны самы горшы, які павінен служыць палітыцы сёньняшняга дня, славіць саюз, прэзыдэнта, інтэграцыю, панславянства і г. д. У ім усё старое, і музыка старая, хоць і прыгожая, і словы старыя, хоць і напісаныя сёньня. Гэта ўсё такая старызна спрахлая, пра якую і гаварыць ня варта. Ну, хай граюць, хай людзі пад гімн гэты ўстаюць ці не ўстаюць. Прыйдзе час, і ўсё гэта зьменіцца, бо яно відавочна часовае. Кароткі век будзе ў гэтага гімну.

**М. С.:** І на заканчэньне нашае гутаркі – рэлігійна-палітычнае пытаньне. Адзін мой знаёмец, які належыць да эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў,

расказаў мне, што яны на сваіх сходах моляцца за дзейнага прэзыдэнта Беларусі. На маё зьдзіўленьне, ён прывёў гэткі прыклад. Нямецкі навуковец Лютэр Бэрбанк, аўтар кнігі «Расьліны нас слухаюць», выгадаваў кактус бяз голак і белую лілею, якая пахла, штодзённа зьвяртаючыся да іх як да жывых, з адпаведнымі просьбамі. Як вы лічыце, ці можа мець плён згаданая ініцыятыва хрысьціянаў-баптыстаў?

**В.С.:** Сьцяг ім у рукі! Калі нашыя баптысты моляцца за тое, каб беларускі прэзыдэнт прыйшоў да розуму, то я ўхваляю іх малітву. Яны правільна робяць, што моляцца за «вразумление» Лукашэнкі, яму гэта патрэбна. Асабліва сёньня патрэбна. Вось я чытаю ў газэтах выказваньні пісьменьнікаў і тых, хто прызначаны кіраваць літаратурнымі часопісамі, і мне ўпершыню робіцца шкада прэзыдэнта. Яму няма на каго абаперціся ў культуры. Божа мой, на каго ты абапёрся?! Яны цябе кампрамэтуюць перад усім белым сьветам! Ніна Чайка* ў інтэрвію «Белорусской газете» нядаўна заявіла, што культура нацыі заключаецца ў тым, каб паважаць свайго прэзыдэнта. Ну што за ідыятызм!? Дык правільна робяць баптысты, калі моляцца за яго. Тыя калялітаратурныя дзеячы, на якіх Лукашэнка абапіраецца, яны добрага слова ня вартыя. Але што паробіш – другіх у яго няма.

**Ніна Чайка – публіцыст і радыёжурналіст, з 2002 году – галоўны рэдактар часопіса «Нёман».*



*Сяргей Законьнікаў –*
паэт, публіцыст, перакладчык. Выпускнік філфаку БДУ. Настаўнічаў, працаваў у рэдыкцыях газэтаў «Чырвоная зьмена» і «Зьвязда», быў загадчыкам сэктару мастацкай літаратуры ЦК КПБ, галоўным рэдактарам часопісу «Полымя». Аўтар кніг «Вера, надзея, любоў», «Вячэра пад райскім дрэвам», «Заклінаньне» ды інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада Бешанковіцкага раёну. Жыве ў Менску.

## *Сяргей Законьнікаў:* «З ЦК КПБ я спрабаваў сысьці чатыры разы»

*25 жніўня 2001 году*

*Пісьменьнік і ўлада – тэма неадназначная, разнаплянавая і ... вечная. І тысячу, і дзьве тысячы гадоў таму яна не магла не цікавіць і аўтара берасьцяных граматаў, і чалавека, надзеленага ўладай. Неаднойчы на гэтую тэму выказваліся і беларускія творцы ў «Вольнай студыі». Пераважная бальшыня іх сьцьвярджалі, што любы мастак павінен асьцерагацца абдымкаў улады, што супрацоўніцтва зь ёю прыносіць творцу больш шкоды, чым карысьці. Але самі творцы (таму безьліч прыкладаў) нярэдка ня толькі ўмелі дагадзіць уладзе, але і ішлі ва ўладу. Дастаткова згадаць кіраўніка ўраду Ваймарскага герцагства Ёгана Вольфганга фон Гётэ, міністра юстыцыі Расейскай імпэрыі Гаўрылу Дзяржавіна, першага старшыню беларускага савецкага ўраду Цішку Гартнага ці – паэта Сяргея Законьнікава, які восем гадоў працаваў у ЦК КПБ.*

**Міхась Скобла:** Спадар Сяргей, вы працавалі ў аддзеле мастацкай літаратуры ЦК КПБ з 1978 да 1986 году – час, наскрозь пранізаны камуністычным фальшам. Як вам падабалася сама цэкоўская атмасфэра?

**Сяргей Законьнікаў:** Я прыйшоў працаваць у ЦК з рэдакцыі газэты «Зьвязда», дзе быў звычайным карэспандэнтам аддзелу літаратуры і мастацтва. У ЦК на працу мяне запрашалі тройчы, пры гэтым прыгаворвалі: «Мы бярэм цябе не на заўсёды, гады два папрацуеш, а потым мы цябе адпусьцім – будзеш займацца сваёй творчасьцю». Тады я яшчэ ня ведаў, што дзьверы ў гэтую ўстанову шырока адчыненыя для тых, каго хацелі ўзяць туды на працу. Але назад вырвацца было вельмі цяжка. Мне пазьней давялося чатыры разы пісаць заявы на звальненьне. А сакратар ЦК па ідэалёгіі Аляксандар Кузьмін браў іх, рваў і выкідваў у сьметніцу. І давялося мне адпрацаваць у ЦК 8 гадоў і 5 месяцаў. Што датычыць атмасфэры... Я меў там свой невялікі кабінэцік. І ў гэтым кабінэціку перад паходам наверх, на пяты паверх, дзе сядзелі сакратары ЦК, дый пасьля яго, рабілі перадышку падцэнзурныя пісьменьнікі ды іхны неўтаймоўны выдавец Міхал Дубянецкі. Тады ў кабінэціку ішло ў ход усё: і валідол, і нітрагліцэрына, і нецэнзурныя словы на адрас цэнзараў – і партыйных, і непартыйных. Асабліва не цырымоніўся Андрэй Макаёнак. Але лаянка ў ягоных вуснах гучала настолькі калярытна ды смачна, што ніколі ня рэзала вуха.

**М. С.:** Вы працавалі ў час Пятра Машэрава. Ён давяраў вам вырашэньне нейкіх адказных заданьняў?

**С. З.:** Пётар Міронавіч Машэраў сам браў мяне на работу – як асноўны працадаўца. Усё адбывалася, як у Савецкай Арміі, дзе першае афіцэрскае званьне прысвойвае міністар абароны. Любога кандыдата на інструктара, загадчыка аддзелу запрашаў да сябе на гутарку Машэраў. Помню, у мяне ён запытаўся: «Вы с желанием идёте к нам работать?» Я адказаў, што жаданьня ў мяне асаблівага няма, але мяне ўгаварылі. Машэраў быў неадназначнай асобай. Ён, як мне здаецца, шчыра верыў, што будзе пабудаваны камунізм, настане лепшае, сьветлае жыцьцё. Але пад лёзунгамі змаганьня за лепшае жыцьцё зачыняліся беларускія школы, асушалася Палесьсе... У той жа час шмат было зроблена, каб абараніць Беларусь ад імпэрскіх памкненьняў Масквы. Мне давялося прысутнічаць пры дзьвюх размовах Машэрава з Брэжневым. Перад адной зь іх я быў у яго па нейкім пытаньні. Зазваніў тэлефон, і Машэраў сказаў мне: «Не выходи из кабинета». Хто сёньня ведае, што на пачатку 1980-х былі расстрэлы рабочых на Ўрале?

Тады баставалі рабочыя – і на Ўрале, і на Алтаі, усюды. Даведзеныя голадам да такога стану, што гублялі прытомнасьць каля кавальскага стану. Ім жылося вельмі цяжка, і яны падняліся. Былі задзейнічаныя войскі. І вось Брэжнеў прасіў: дайце мяса.

**М. С.:** Гэта была просьба ці загад?

**С. З.:** Просьба, таму што на той час Беларусь у паўтара раза перавыканала саюзны плян паставак па мясе і малаку, які быў ёй даведзены. Гэта быў чэрвень, і таму Машэраў сказаў Брэжневу, што Беларусь ня можа загубіць усю сваю жывёлагадоўлю. Прасіў пачакаць да восені. Але ж мяса трэба было неадкладна, каб накарміць рабочых... Гэта была вельмі цяжкая размова. Брэжнеў пад канец нават вылаяўся. Але Машэраў усё ж настояў на сваім – фактычна адмовіў Генэральнаму сакратару ЦК КПСС. Паклаў слухаўку, як касец, выцер рукавом пот і кінуў мне: «Вы ничего не слышали!»

**М. С.:** Прыгадайце два выпадкі са сваёй васьмігадовай працы ў ЦК: якім сваім учынкам вы ганарыцеся і за які вам сёньня сорамна?

**С. З.:** Я магу спакойна глядзець людзям у вочы. За той час, што я працаваў у ЦК, я ня зьдзейсьніў ніводнага подлага ўчынку. Як вядома, у той час актыўнічала цэнзура. Галоўны цэнзар – Галоўліт. А зь ім спаборнічаў у выкрываньні антысавеччыны аддзел прапаганды ды агітацыі ЦК. Вайна ішла зацяжная, зь пераменным посьпехам. Аднойчы і я, стомлены ды знэрваваны бясконцымі цэнзарскімі дамаганьнямі аддзелу прапаганды і агітацыі, прыйшоў да Аляксандра Кузьміна: «Аляксандар Трыфанавіч, мне надакучыла гэтая валтузьня паміж гестапа і абвэрам». Той ускрыкнуў: «Тихо, тихо! Какое гестапо, какой абвер?» А акурат у тыя дні ўся савецкая краіна глядзела тэлесэрыял «Сямнаццаць імгненьняў вясны», дзе была паказаная канкурэнцыя нямецкіх спэцслужбаў. «Як гэта якія? Гестапа – гэта аддзел прапаганды ды агітацыі, а абвэр – гэта Галоўліт. Паглядзіце, што робіцца. Мы стараемся абараніць ад сваіх ды маскоўскіх цэнзараў кожны таленавіты твор, а нашы суседзі пастаянна ўмешваюцца ў літаратурны працэс, здымаюць з выдавецкіх плянаў рукапісы». Кузьмін замахаў рукамі: «Тихо, тихо! Не говори такое – Никулкин услышит». А Якаў Нікулкін узначальваў на той час КДБ БССР. Я наіўна пацікавіўся: «А што, Аляксандар Трыфанавіч, і вас праслухоўваюць?» Кузьмін адказаў, памаўчаўшы: «Молодой ты ещё, неопытный. У нас всех и всё прослушивают». Гэтую фразу былога франтавіка, адважнага ваеннага лётчыка, дасьведчанага партыйнага апаратчыка я і цяпер часта ўспамінаю.



**М. С.:** Якія літаратурныя творы ў той час абаранялі?

**С. З.:** Найперш прыгадваецца аповесьць «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава. Трэба аддаць належнае дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхалу Дубянецкаму, які зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб гэтая аповесьць была надрукаваная ў быкаўскім чатырохтомніку. Нават тэлеграму ў ЦК КПСС даваў... Помню, як Галоўліт затрымаў кніжку Пімена Панчанкі «Маўклівая малітва», адшукаўшы там 9 крамольных вершаў. Мне ўдалося іх адстояць, толькі ў адным зь вершаў аўтару давялося паправіць два радкі. Ці возьмем кнігі Алеся Адамовіча. Рукапіс «Карнікаў» трапіў на стол Машэраву. Ён даручыў вырашыць лёс кнігі мне, свайму «юнаму экспэрту» (ён мяне так называў). А ў «Карніках» расказвалася пра тое, што і ў нашым народзе былі як героі, так і здраднікі. Што фактычна ў Беларусі грамадзянская вайна распачалася, калі брат-паліцай ішоў на брата-партызана. Кніга перавярнула мне ўсю душу, і я прыйшоў да высновы, што яе абавязкова трэба выдаць. І яна пабачыла сьвет. І я ганаруся, што Адамовіч мне на ёй зрабіў такі надпіс: «Сяргею Законьнікаву, які спрыяў гэтай кнізе. 13.02.1981».

У мяне падобных надпісаў вельмі шмат. Скажам, мне вельмі дарагі аўтограф Уладзімера Караткевіча на кнізе «Зь вякоў мінулых»: «Міламу сябру Сяргею Іванавічу, Сярожу Законьнікаву, перад якім нізка схіляюць галовы вякі мінулыя». Ён любіў такія размашыстыя надпісы. Вякі перада мною галоваў не схіляюць. Проста я ў сваім часе стараўся зрабіць нешта добрае.

**М. С.:** Пасьля таго як Бюро ЦК КПБ зацьвердзіла вас на пасадзе галоўнага рэдактара часопісу «Полымя», вы ўздыхнулі з палёгкай ці з жалем? Няўжо, праходзячы міма ЦК, вас не цягнула настальгічна зазірнуць у вокны кабінэтаў з абавязковым партрэтам Леніна на сьцяне?

**С. З.:** Абсалютна не цягнула. У 1991 годзе знаёмы маскоўскі выдавец прапаноўваў мне напісаць кнігу «Восем гадоў у ЦК КПБ», завяраў, што яна абавязкова стане бэстсэлерам. Я адмовіўся – не хацелася ўспамінаць той час, яшчэ раз перажываць тыя горкія хвіліны, калі ты проста ня мог зрабіць таго, што хацеў. Усё ж служба ў ЦК КПБ была не раўнуючы як салдацкая... Я вельмі люблю свой часопіс. Калі я прыйшоў сюды працаваць, то ў першы дзень мяне прадставілі калектыву начальнікі з ЦК. А назаўтра ў рэдакцыі паявіўся Васіль Быкаў. Я запомніў той дзень – 30 сьнежня 1986 году. Была лёгкая ласкавая завея. Ён зайшоў у сваёй балёневай куртачцы, строс сьнег, паздароўкаўся з усімі і падышоў да мяне. А ў руках у яго былі 9 ружаў. Быкаў працягнуў іх мне і сказаў: «Вазьмі. Ад сягоньняшняга дня ўсе свае буйныя рэчы я буду аддаваць у “Полымя”. І я да сёньня ўдзячны яму за такі жэст, які быў мне, маладому, добрай падтрымкай*.

*Сяргей Законьнікаў быў звольнены з пасады галоўнага рэдактара «Полымя» ў 2002 годзе. Да выхаду на пэнсію ня змог працаўладкавацца.



*Ніл Гілевіч –*

паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Закончыў філфак БДУ, дзе пасьля доўгі час выкладаў. Быў адным са стваральнікаў і першым кіраўніком ТБМ імя Ф. Скарыны, працаваў першым сакратаром Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету. Народны паэт Беларусі. Аўтар кніг «Сьвятлынь», «І чую я голас…», «Толькі мы самі» ды інш. Сярод перакладаў – творы Г. Джагарава, Л. Леўчава, Н. Вапцарава. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Менску.

## *Ніл Гілевіч:* «Улада хацела мяне нэўтралізаваць»

***13 кастрычніка 2001 году***

*Менскі касьцёл Сьвятых Сымона і Алены. Густацесна людзі сядзяць на лаўках, стаяць у праходах, многія трымаюць у руках кветкі. Не прыпомню гэткай шматлюднасьці на касьцельных багаслужбах. Можа таму, што гэтым разам у прасторным храме сышліся вернікі дзьвюх канфэсій – каталіцкай і паэтычнай. І адбылося нечуванае: ксёндз саступіў месца на сьвятая сьвятых – амбоне – паэту. Народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу, якому 30 верасьня споўнілася семдзесят гадоў.*

**Міхась Скобла:** Ніл Сымонавіч, за сваё літаратурнае жыцьцё вам, пэўна ж, даводзілася выступаць у розных месцах. 4 кастрычніка вы чыталі вершы з амбону. Чаму ваша юбілейная вечарына адбылася ў храме, а не, скажам, у Доме літаратара?

**Ніл Гілевіч:** Вечарына павінна была прайсьці ў Доме літаратара. Але, узважыўшы ўсе абставіны, я адмяніў яе. Бо яна мусіла быць афіцыйнай, з удзелам афіцыйных асобаў, як заплянавала кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў без узгадненьня са мной. Але паралельна з Саюзам пісьменьнікаў Таварыства беларускай мовы рыхтавала невялікую сяброўскую вечарыну, дзе павінны былі сабрацца паплечнікі, аднадумцы, дзе не было б выпадковых людзей. Для мяне была вялікая нечаканасьць, калі ў дольную залю Чырвонага касьцёлу, дзе 200 з гакам месцаў, паспрабавала ўціснуцца больш за тысячу чалавек! Я вельмі ўдзячны ксяндзу магістру Ўладыславу Завальнюку, які дазволіў правесьці вечарыну наверсе, у вялікай залі.

**М. С.:** Ці павіншавалі вас улады? Званьне народнага паэта нібыта абавязвае...



**Н. Г.:** Ніякіх віншаваньняў не было – ні ад ураду, ні ад міністраў, ні ад кіраўнікоў дзяржаўных ведамстваў. Ніводнага дзяржаўнага віншаваньня! І дзякуй Богу! Я задаволены гэтым.

**М. С.:** Відавочна, што беларуская апазыцыя павінна шукаць падтрымкі як на Захадзе, гэтак і на Ўсходзе. Месяц таму быў апублікаваны ваш зварот да расейскай інтэлігенцыі з заклікам не падтрымоўваць дыктатарскі рэжым у Беларусі. Ці пачулі вас, ці былі нейкія водгукі з Расеі ад тых, да каго вы зьвярталіся?

**Н. Г.:** Гэты мой зварот, меркавалася, меўся быць надрукаваны і ў расейскіх газэтах. Мне абяцалі такую падтрымку. Але гэтага не адбылося. Скажу шчыра, я ня надта верыў, што будуць водгукі. Я ж вельмі добра ведаю сучасную расейскую інтэлігенцыю. Сёньняшняя яе пазыцыя, на маю думку, проста ганебная. Выдаюць сябе змагарамі за свабоду, за справядлівасьць – у традыцыях вялікай расейскай літаратуры... А тут побач канкрэтная гістарычная бяда. Дык падтрымайце ж брацкі беларускі народ, падтрымайце яго ў найлепшых ягоных памкненьнях, у ягонай гістарычнай місіі! Дапамажыце разумным словам, запярэчце сваім кіраўнікам ды ўсім тым, хто сёньня хоча ізноў заграбастаць Беларусь, інкарпараваць яе ў імпэрыю! Маўчаць. Мне хацелася б, каб людзі ведалі сёньняшнюю пазыцыю расейскай інтэлігенцыі, якая асабіста ў мяне выклікае вялікае засмучэньне.

**М. С.:** У свой час вы ачольвалі дзяржаўную камісію, якая арганізоўвала конкурс на стварэньне гімну незалежнай беларускай дзяржавы. На жаль, колькігадовая праца камісіі не прынесла тады станоўчых вынікаў. І Рэспубліка Беларусь да гэтай пары фактычна ня мае свайго паўнавартаснага гімну. Зразумела, што Лукашэнка ў 1995 годзе адмяніў бы новы гімн, як ён зрабіў тое зь бела-чырвона-белым сьцягам і гербам «Пагоня». Але цэлых

чатыры гады Беларусь магла прачынацца не пад мэлёдыю, што адгукаецца ў памяці радком: «Мы беларусы, з братняю Русьсю...». Чаму ўсё ж не была скарыстаная яшчэ і гэтая магчымасьць дзяржаватворства?

**Н. Г.:** Вы памыляецеся, калі думаеце, што былі гэтыя чатыры гады для стварэньня гімну. Было проста ўвесьці герб і сьцяг, таму што яны былі. У верасьні 1991 году іх проста зацьвердзілі ў Вярхоўным Савеце па прапанове нашай камісіі па адукацыі і культуры, я, дарэчы, быў дакладчыкам. А гімн трэба было стварыць. Вось і пачалі глядзець, абмяркоўваць розныя варыянты. Камісія была створаная на даручэньне Саўміну, і ў яе ўвайшлі пераважна кампазытары і музыказнаўцы: Лучанок, Вагнэр, Смольскі, Роўда. Адпачатку прапаноўваліся да разгляду наступныя творы: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» – вайсковы гімн часоў БНР, «Не пагаснуць зоркі ў небе» – на верш Янкі Купалы, «Малітва» Міколы Равенскага на словы Натальлі Арсеньневай, а таксама славуты палянэз Агінскага. Усе названыя творы музыказнаўцы адпрэчылі як непрыгодныя. Вырашылі абвесьціць конкурс. А час ідзе. І тут трэба сказаць пра галоўнае. Пакуль цягнулася абмеркаваньне, адбылася перамена настрояў у Вярхоўным Савеце, дзе і раней сытуацыя няпростая была: сьцяг і гімн зацьвердзілі зь перавагай усяго аднаго голасу! Некаторыя дэпутаты-камуністы апомніліся, пачалі да мяне падыходзіць, маўляў, мы тады паслухалі вас і прагаласавалі, а цяпер прыйшла пара адкруціць усё назад. Дый ва ўрадзе падтрымка ім была. Не забывайце, што тагачасны прэм'ер Вячаслаў Кебіч гаварыў усё тое, што потым падхапіў Лукашэнка, – і пра інтэграцыю з Расеяй, і пра агульныя грошы. І пайшла ўжо палітыка, каб не прапусьціць гімн. Маўляў, прамахнуліся са сьцягам і гербам, але тут ужо мы не прапусьцім! Пачалі спэцыяльна зацягваць справу. Конкурс нічога ня даў. А тым часам



дайшло ўжо да 1993 году. Вырашылі шукаць тэкст. Спыніліся на Купалавай «Маладой Беларусі». Пасьля конкурсу музыкаў на гэты тэкст выбралі музыку Багатырова. А твор жа трэба развучыць, даць у выкананьні сымфанічнага аркестру, у выкананьні хору, пусьціць на Беларусь некалькі разоў, каб людзі паслухалі. І Вярхоўнаму Савету паказаць. І тут я адчуў наўмыснае тармажэньне, байкатаваньне гэтай задумы. Я некалькі разоў тэлефанаваў тагачаснаму міністру культуры, пытаўся: чаму справа зацягваецца? А ён: вы ведаеце, аркестар на гастролях, хор таксама ў ад'езьдзе... Вось так і цягнулася да 1994 году. І мне ўсё стала ясна. Я ў роспачы выступіў у друку: гімн у нас ёсьць – «Малітва». Давайце зробім трохі больш энэргічную аранжыроўку і зацьвердзім. Але было ўжо позна. У студзені 1994-га зьнялі з пасады Шушкевіча, ужо бралі верх рэваншысты.

**М. С.:** У вас заўсёды былі свае чытачы. Яскравае пацьверджаньне гэтаму – перапоўнены Чырвоны касьцёл 4 кастрычніка. Але падобна на тое, што ў вас зьявіўся самы галоўны чытач – Аляксандар Лукашэнка. Я маю на ўвазе ягоную хваравітую рэакцыю на ваш верш «Быль пра чалавечнасьць тырана», надрукаваны ў «Народнай волі». Лукашэнка публічна прадэманстраваў з трыбуны Ўсебеларускага сходу ў Палацы Рэспублікі, што чытае вашу паэзію. Некалі Кандрат Крапіва прызнаваўся, што, як толькі сядзе за пісьмовы стол, перад вачыма Лукаш Бэндэ паўстае. А ці не паўстае перад вамі ваш высокапастаўлены чытач?

**Н. Г.:** Я не для яго пішу. Зашмат гонару для яго было б. Я пішу для людзей, і пішу так, як падказвае мне маё сумленьне, маё сэрца. Я выказваюся, спадзеючыся, што мае чытачы мяне зразумеюць. Часам даводзіцца чуць, што палітычная паэзія – гэта не мастацтва, яна нікому не патрэбная. Мяне зьдзіўляюць такія меркаваньні. Я заўсёды прыгадваю вершы Купалы 1905, 1918, 1920 гадоў. Гэта была акурат

палітычная паэзія, прыгадайце: «До спаць! Паўстаньце грамадою, каб вораг вас ня мог зламаць!». Або ўспомніце верш Лермантава «На сьмерць паэта»: гэта таксама палітычная паэзія, але яна цэлую эпоху распачала ў расейскай паэзіі, прымусіла многіх задумацца над лёсам Расеі, над лёсам свабоды, над лёсам паэта... Таму мая справа – выказваць у вершах тое, што я лічу патрэбным, вядома ж, са спадзяваньнем, што пачуюць тыя паважаныя людзі, для якіх я пішу. Ну, а калі нехта і зь непаважаных мною пачуе... Што ж, мо яму карысна будзе.

**М. С.:** Перш чым задаць вам наступнае пытаньне, я мушу сёе-тое патлумачыць. Нядаўна я глядзеў па тэлеканале НТВ дакумэнтальны фільм пра пярэдадзень Другой сусьветнай вайны. Мяне ўразіла падабенства праяваў народнай любові ў Нямеччыне і Савецкім Саюзе да сваіх правадыроў. Калі Гітлер і Сталін сустракаліся з народам – вось гэтыя людзкія вочы, якія сьвецяцца, гэтыя багавейныя позіркі... Але яшчэ больш мяне ўразіла, што ў той жа дзень гэткімі самымі вачыма глядзеў беларускі люд на свайго правадыра – на плошчы Мазыра падчас «Дажынак». Як вы мяркуеце, ці не пачалася ў нас сакралізацыя ўлады, якая ў гісторыі неаднойчы прыводзіла да сумных вынікаў?

**Н. Г.:** Сакралізацыя ўлады ў нас па-сапраўднаму ніколі не заканчвалася. Яна не адменьвалася самім жыцьцём, людзі проста чакалі адпаведнага моманту. Я – чалавек яшчэ даваенны, і памятаю па здымках даваенных, і цяпер бачу ў рэтраспэктыўным кіно, як радаваліся тады тысячы людей, калі абвяшчаліся прысуды гэтак званым ворагам народу... Мяне таксама вельмі ўражвае гэтая здольнасьць людзей, натоўпу радавацца там, дзе трэба плакаць. Нейкі масавы псыхоз адбываецца зь людзьмі ў пэўных гістарычных сытуацыях. Але трэба ўдакладніць: у краінах, якія прайшлі доўгі гістарычны шлях дэмакратычнага разьвіцьця, падобныя сцэны немагчымыя. Дзе іх можна было назіраць? У фашысцкай Нямеччыне, у фашысцкай Італіі, у сталінскай савецкай імпэрыі. Мяне вельмі трывожыць тое, што адбываецца сёньня ў нас, што можна назіраць па беларускім тэлебачаньні. Глядзіш – ну добрыя ж людзі, нашы ж беларусы, што ж вас прымушае радавацца там, дзе ніякіх падставаў для радасьці няма?! Там, дзе трэба засмучацца і думаць, як мы далей будзем жыць, якім шляхам мы пойдзем далей. Тут загадам нічога ня зробіш, тут трэба падымаць агульную культуру людзей, тлумачыць.



**М. С.:** У вас багаты жыцьцёвы досьвед суіснаваньня з уладай. Вы дзевяць гадоў, з 1980 да 1989 году, узначальвалі Саюз пісьменьнікаў Беларусі. Кожная ўлада спрабуе з абаранкам ці бізуном падступіцца да людзей творчых. Генадзь Бураўкін пасьпеў пры гэтай уладзе некалькі месяцаў пабыць намесьнікам міністра культуры. Янка Брыль у адным са сваіх абразкоў прыгадваў, як яго настойліва запрашалі прыйсьці атрымаць мэдаль з рук прэзыдэнта. Ці рабіла спробы гэтая беларуская ўлада наблізіць вас да сябе?

**Н. Г.:** Спроба наблізіць мяне да ўлады ці хоць бы нэўтралізаваць, выкрасьліць мяне з шэрагаў апазыцыі была аднойчы зробленая. Заходзіць неяк да мяне адзін паэт-начальнік, які быў на той час у фаворы ва ўлады. Бачу, што размова будзе незвычайная, бо нават трохі нападпітку быў. Кажа, прыйшоў да вас з такой праклятай місіяй – лепш бы не прыходзіць. Дастае пачатую пляшку каньяку: давай напачатку глынем перад размовай. Я кажу: не, давай спачатку пагаворым, у чым вашая місія? «Мне даручылі пагаварыць з вамі, ці не далі б вы згоду сустрэцца з усенароднаабраным». Мяне гэта вельмі зьдзівіла. Гавару: «Каб вы тут доўга ня мучыліся, я вам адразу скажу сваю думку. Такая сустрэча адбыцца ня можа. Каб яна адбылася, трэба, каб гэты ўсенароднаабраны спачатку папрасіў прабачэньня ў народу

за тое, што абразіў яго найвялікшую сьвятыню – мову. Ён толькі-толькі ўзьлез на трон – і сказаў, што беларуская мова нічога ня вартая, на ёй думак вялікіх нельга выказаць. Калі ён хоча сустрэцца, няхай верне спачатку герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сьцяг! Няхай перастане спачатку прозьвішчы Быкава, Гілевіча ды іншых называць у множным ліку і ганьбаваць невядома за што! Зробіць усё гэта, тады я падумаю, ці мы спаткаемся. А цяпер, лічыце, размова закончаная». Паэт-начальнік сказаў: «Ну, то давайце хоць цяпер вып'ем». На гэтым і разьвіталіся. Больш ніякіх спробаў і прапановаў не было і не магло быць. Наша ўзаемная «любоў» з Лукашэнкам пачалася яшчэ ў залі Вярхоўнага Савету. Яшчэ цягам 1991–1992 гадоў я раскусіў усю сутнасьць гэтага чалавека, яго стаўленьне да нацыянальных каштоўнасьцяў, да мовы, да культуры, да сапраўдных інтарэсаў народу. Таму пра ніякае супрацоўніцтва не магло быць і гаворкі.

**М. С.:** Мне прыгадаўся адзін ваш сатырычны верш: «Паэт на дачы зьеў ранэт, / пасьля ўздыхнуў і склаў санэт / аб тым, наколькі розны сьвет / і розныя паэты: / чатырохсоткавы паэт, / і паўгектаравы паэт, / зямлі бацькоўскае паэт, / паэт усёй плянэты». Беларуская паэзія ўся заглыбленая, укаранёная ў родную зямлю. Як вы лічыце, хто з нашых творцаў мысьліў катэгорыямі сапраўды плянэтарнымі?

**Н. Г.:** Вы кажаце пра заглыбленасьць беларускай паэзіі ў беларускі дол. А што, вугорская паэзія менш заглыбленая? Ці баўгарская, якую я вельмі добра ведаю, менш заглыбленая? Рэч у тым, што кожны значны паэт, як сын сваёй зямлі, заглыблены ў родны дол каранямі сваёй творчасьці. І разам з тым, вядома ж, ён належыць усяму сьвету. Бо ўсё тое, што зьяўляецца клопатам усяго чалавецтва, гэта і яго клопат.

**М. С.:** І ўсё ж хто зь беларускіх паэтаў наўсьлед за Максімам Багдановічам найперш дбаў пра агульначалавечыя каштоўнасьці? Паколькі – усе мы разам ляцім да зор?



**Н. Г.:** Найперш Янка Купала. А з маіх сучасьнікаў, каго ня толькі ведаў, але і меў гонар сябраваць, назаву Максіма Танка. Гэта паэт эўрапейскага ўзроўню. Але ці можам мы сказаць, што ён недастаткова нацыянальны? Не. Тое самае Аркадзь Куляшоў – паэт эўрапейскага і нават сусьветнага гучаньня. Я так лічу: кожнаму сапраўднаму паэту, якімі повязямі ён ні прывязаны да сваёй малой радзімы, абавязкова баліць, павінна балець тое, што баліць усім людзям, дзе б яны ні жылі па ўсёй плянэце.

**М. С.:** Пасьля ўсіх перактрусаў беларускага календара, пасьля адмены адных сьвятаў і ўвядзеньня другіх якія даты вы адзначаеце?

**Н. Г.:** Галоўнае сьвята для мяне – Дзень Волі, 25 Сакавіка. Потым – старыя народныя сьвяты: Новы год, Каляды, Вялікдзень, Радаўніца, Купальле, Дзяды. Сьвята абаронцаў Айчыны... Я яго сьвяткаваў бы, але чаму яно прыпадае на 23 лютага? Калі б яно прыпадала на 8 верасьня! Выдатная дата – мы абаранялі Айчыну! Божа мой, якое б гэта было выдатнае сьвята! Я вельмі хацеў бы, каб у нас быў Дзень жанчыны. Але зноў – чаму нейкія там нямецкія сацыял-дэмакраткі пастанавілі сьвяткаваць 8 Сакавіка? Тут ёсьць пытаньні. Таму я стараюся быць ветлівым у такія дні, але не магу гэтых датаў прыняць да сэрца, як я прымаю вялікія нашы народныя сьвяты.

**М. С.:** Вы назвалі сваім галоўным сьвятам 25 Сакавіка. Вы ж нараджэньня паваеннага, у літаратуру прыйшлі на пачатку 1950-х, калі ўсё беларускае заганялася па ціхіх кутках ды вясковых школках. А калі вы ўпершыню пачулі, што ёсьць такая гістарычная дата – 25 Сакавіка?

**Н. Г.:** Думаю, гэта адбылося неўзабаве пасьля вайны. Быў такі паваенны падручнік па гісторыі Беларусі, і вось у ім у сувязі з усталяваньнем са-

вецкай улады ў рэспубліцы згадвалася і дата 25 сакавіка – вядома ж, у цалкам нэгатыўным кантэксьце, з асуджэньнем, як акцыя ворагаў беларускага працоўнага народу, якую зладзілі ідэолягі беларускага буржуазнага нацыяналізму. БНР падавалася як нешта страшнае для лёсу Беларусі. Дык вось, пра 25 Сакавіка я ўпершыню даведаўся яшчэ падлеткам, мне было 15–16 гадоў. Ня буду гаварыць, што мне сёньня сорамна. Чаго ж тут саромецца... Горка, крыўдна, але доўгія гады я давяраў афіцыйнай ідэалёгіі і сапраўды думаў, што ў 1918-м нейкія незычліўцы, ворагі хацелі зла нашаму народу, выступалі супраць утварэньня БССР... І паварот у маёй сьвядомасьці адбыўся дзесьці ў канцы 1950 – пачатку 1960-х гадоў.

**М. С.:** Падчас вашага дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце ў 1991 годзе прымаўся Закон аб сьвяточных днях. Што перашкодзіла 25 Сакавіка стаць агульнадзяржаўным сьвятам?

**Н. Г.:** Гэта ўсё рабілася на маёй памяці і з маім удзелам. У 1991 годзе на верасьнёўскай сэсіі назва дзяржавы «Рэспубліка Беларусь» была зацьверджаная, герб «Пагоня» быў зацьверджаны, бела-чырвона-белы сьцяг быў зацьверджаны. Назву сталіцы не зацьвердзілі. Як мог, я, будучы старшынём парлямэнцкай камісіі і дакладчыкам па гэтых пытаньнях, даводзіў, што трэба *Менск* зрабіць, што *Мінск* нам насадзілі чужакі. *Менск* не прайшоў. А сьвяты зацьвярджаліся на наступнай сэсіі, у кастрычніку. І мне зноў выпала быць дакладчыкам. У праекце закону была дата 25 Сакавіка – як Дзень Рэспублікі. Але не было ў тым сьпісе 7 Лістапада. Бальшыня дэпутацкага корпусу, камуністы, былі пакрыўджаныя, абражаныя, і яны пачалі змагацца супраць 25 Сакавіка і адначасова за тое, каб вярнуць 7 Лістапада ў сьпіс дзяржаўных сьвятаў. Урэшце не прайшло ні тое, ні другое. Памятаю, як у траўні 1993 году пачаў са мною даверлівую размову дэпутат-камуніст Качан: «Вы, напэўна, ведаеце, што мы, камуністы ў Вярхоўным Савеце, рыхтуемся ўнесьці на разгляд сэсіі пытаньне аб тым, каб вярнуць у лік сьвятаў 7 Лістапада. У нас да вас вялікая просьба: мы вас у свой час падтрымалі, падтрымайце і вы нас. У крайнім выпадку, не выступайце супраць нашай ініцыятывы, не бярыце слова». «Прабачце, – адказаў я, – вы не далі ўзаконіць Сьвята Рэспублікі – 25 Сакавіка!» «Ну, – сказаў Качан, – гэта немагчыма было, каб мы, камуністы, галасавалі за сьвята БНР. Гэта немагчыма!»



**М. С.:** І ўсё ж дзень 25 Сакавіка аднойчы сьвяткаваўся на дзяржаўным узроўні. Адбылося гэта на 75-я ўгодкі БНР, у 1993-м. Як такое магло стацца: сьвята бясстатуснае, а адзначалася як дзяржаўнае?

**Н. Г.:** Як бачыце, гэта было, значыць, магло быць. Можна гаварыць пра пэўнае двоеўладзьдзе ў тагачаснай Беларусі. Сьпікер Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, фактычна галава дзяржавы, займаў адну пазыцыю, а прэм'ер-міністар Кебіч і бальшыня дэпутатаў у Вярхоўным Савеце – другую. Але на той час дэмакраты мелі моцную падтрымку грамадзкасьці, і выканаўчая ўлада адкрыта забараніць сьвяткаваньне 25 Сакавіка пабаялася. І сьвята было арганізаванае найлепшым чынам. Я гэта добра памятаю, бо мне выпаў гонар яго адкрываць. Праходзіла ўрачыстая вечарына ў вялікай залі філярмоніі. У прэзыдыюме – Станіслаў Шушкевіч, Васіль Быкаў, натуральна, быў Зянон Пазьняк. Прысутнічалі і госьці – старшыня Рады БНР Язэп Сажыч, наш знакаміты сьпявак Данчык... Заля была перапоўненая, і партэр, і ўсе бальконы. І што рабілася ў залі! Як слухалі! Якія былі воплескі!.. Як усімі адчувалася, якое гэта вялікае ўсенароднае сьвята! Што было далей – мы ведаем. Нам не ўдалося ўтрымацца на той вышыні, якая ўжо была заваяваная.

**М. С.:** Дата 25 Сакавіка знайшла адлюстраваньне

ў беларускай літаратуры, найперш у паэзіі беларускай эміграцыі: Натальлі Арсеньневай, Міхася Кавыля, Уладзімера Дудзіцкага... Не абміналі гэтай тэмы і пісьменьнікі Заходняй Беларусі. А ці згадваўся сакавік 1918-га ў літаратуры БССР?

**Н. Г.:** Згадваўся ў літаратурнай публіцыстыцы 1920-х гадоў, найперш у часопісе «Полымя рэвалюцыі». Ацэнка давалася нэгатыўная, станоўчай ацэнкі проста не магло быць. Майце на ўвазе, што літаратары, якіх цікавіла гістарычная тэма, былі вымушаныя прыслухоўвацца да голасу ідэолягаў, да голасу афіцыйных гісторыкаў. Гістарыяграфія Беларусі XX ст. водападзелам мела адносіны да БНР. Панавала думка, што беларускі народ не прыняў гэтай падзеі, лічыў яе чужой. І пісьменьнікі мусілі ісьці за афіцыёзам. Хоць завуалявана гэтая тэма ў літаратуры праходзіла. Скажам, у паэзіі Янкі Купалы. А так... «Прыняў ці не прыняў народ Беларускую Народную Рэспубліку?» «Не прыняў!» – у тысячы глотак крычалі афіцыйныя ідэолягі, публіцысты, навукоўцы. Ну, а хто ж мог дазволіць пісьменьнікам ухвальна адазвацца пра БНР? Адразу пасьледавала б пакараньне, і вельмі жорсткае.

**М. С.:** А як ставіліся да Акту 25 Сакавіка старэйшыя пісьменьнікі? Ня ў друку, зразумела, а ў прыватных гутарках?

**Н. Г.:** Хто са старэйшых мог расказаць мне, маладому чалавеку, пра БНР? Усе баяліся. Але, вось ведаеце, дзіўна... Нешта недзе прасочвалася. Я памятаю, паэт Сяргей Дзяргай пару разоў да тэмы разгрому нацыянальнай інтэлігенцыі вяртаўся. Ну, і пытаньні ўзьнікалі. Як яны маглі не ўзьнікаць? 1946 год. На гарышчы хаты майго вясковага сябра мы знайшлі старыя беларускія газэты, дзе былі зьмешчаныя вершы Тодара Кляшторнага, Цішкі Гартнага... Я ня чуў пра такіх пісьменьнікаў, дзе яны падзеліся? Памятаю, як Зінаіда Бандарына вывела мяне ў сквэр, селі на лаўку. І пытае (а быў



1954 год): «Ці чыталі вы што-небудзь Дубоўкава?» Я пахітаў адмоўна галавою. І яна мне пачынае чытаць па памяці: «О Беларусь, мая шыпшына...» І чытае да канца ўвесь верш. Я быў проста агаломшаны – такое моцнае ўражаньне зрабіў на мяне гэты твор! Вось бачыце, якімі тонкімі ручаёчкамі праходзіла ў душу маладога чалавека тэма нацдэмаў, тэма змаганьня за Беларусь... Ужо недзе на мяжы 1950–1960-х гадоў я пазнаёміўся з Васілём Быкавым, і мы вельмі лёгка адразу сышліся. Ён мне расказваў пра рэчы, якія аніяк ня ўкладваліся ў рамкі афіцыйнай ідэалёгіі. Пытаю: «Адкуль табе гэта вядома?» А ён: «І ты можаш пра ўсё гэта даведацца, калі маеш прымач. Круці ноччу прымач і слухай "Свабоду". Прыслухаўшыся да яго парады, я з таго часу і слухаю «Свабоду».

**М. С.:** А ці памятаеце вы той дзень, калі ўпершыню сталі пад бела-чырвона-белы сьцяг?

**Н. Г.:** Думаю, адбылося гэта 19 верасьня 1991 году ў залі Вярхоўнага Савету, калі сьцяг унесьлі. Хоць, можа, і раней: я ж хадзіў на мітынгі, часам выступаў на іх. У кожным разе хай будзе багаславёны той дзень, калі я стаў пад гэты сьцяг. Памятаю, як бела-чырвона-белы сьцяг быў узьняты над будынкам былога ЦК КПБ. А я жыву праз вуліцу. І мая жонка Ніна Іванаўна, бывала, вечарам кажа: «Адзявайся! Пойдзем». – «Куды?» – «Пайшлі! Менш гавары». Ну, калі так настойвае... Я вельмі паважаў жонку, ну, не ў карчму ж яна мяне запрашае. Значыць, нешта вельмі сур'ёзнае задумала. Выходзім да Купалаўскага тэатру. І Ніна Іванаўна штурхае мяне пад локаць: «А цяпер паглядзі». А над будынкам на ветры ў сьвятле пражэктараў палошчацца вялікі бела-чырвона-белы сьцяг! І жонка зноў: «Во, дажыліся, дачакаліся! Віншую!»

**М. С.:** Сёньня нават у асяродку дэмакратычным можна пачуць меркаваньні, што і чырвона-зялёны сьцяг нам не чужы. Маўляў, трэба ўвесьці два

паняткі – дзяржаўны сьцяг і гістарычны, – і тады беларускі народ нарэшце зьяднаецца. Як вы ставіцеся да такога яднаньня?

**Н. Г.:** Я – за яднаньне нацыі, за еднасьць беларускага народу. Але пры адной катэгарычнай умове: яднаньне павінна адбывацца на грунце нацыянальнай ідэі, свабоды, незалежнасьці, сувэрэнітэту, пры ўмове вяртаньня нашай нацыянальнай сымболікі, сапраўднай дзяржаўнасьці беларускай мовы. Але сьмешна гаварыць пра яднаньне, стоячы на дыямэтральна супрацьлеглых пазыцыях. У Беларусі сёньня пры ўладзе знаходзіцца антынацыянальны, антыбеларускі рэжым. А як яго іначай назваць, калі я тыднямі па БТ ня чую беларускай мовы, ня бачу перадачаў, дзе б гаварылася праўда пра нашую гісторыю, у тым ліку і пра БНР, пра Акт 25 Сакавіка. А калі гэтага нічога няма, то якое можа быць яднаньне? З кім? Усе народы ў сьвеце, наколькі я ведаю гісторыю, аб'ядноўваліся ўрэшце на грунце нацыянальнай ідэі. Нават калі знаходзіліся пад прыгнётам палітычных рэжымаў. Дык чаму мы не змагаемся за нацыянальныя інтарэсы, як змагаюцца ва ўсім сьвеце? Давайце з гэтага пачнем. Па-за гэтым мне вельмі сумнеўнай здаецца любая палітычная дзейнасьць – і правых, і левых. Нас можа зьяднаць толькі беларуская нацыянальная ідэя. Толькі зьяднаныя гэтай ідэяй, мы дойдзем да беларускай Беларусі.



*Алесь Шатэрнік –*
скульптар, мастак. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Аўтар шматлікіх манумэнтальных кампазыцый, прысьвечаных выдатным дзеячам нацыянальнай гісторыі і культуры. Сябра мастацкай суполкі «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў горадзе Іванава (Расея). Жыве ў Менску.

## *Алесь Шатэрнік:* «“Пагоню” на камені я абавязкова дараблю»

***4 лістапада 2001 году***

*Камень, жалеза і золата – вось тыя вечнатрывалыя матэрыялы, якія, паводле вызначэньня клясыка, прыдатныя для скрыжаляў гісторыі. І насамрэч, што больш надзейнае за камень? Эгіпецкія піраміды і помнікі дойлідзтва, надмагільныя помнікі і закутыя ў граніт узьбярэжныя, тысячагадовыя крыжы і расьцяганыя па музэях жорны – усё з каменя. І жалеза, і золата гатовыя паслужыць фігурнай аздобкай яго вялікасьці Каменю. Ператварыць камень у падатлівы матэрыял умее скульптар Алесь Шатэрнік, які пілуе валуны, як дровы, а потым выштукоўвае з каменных брылаў свае скрыжалі.*

**Міхась Скобла:** Спадар Алесь, у прафэсіі скульптара шмат таямнічага, таму я прапаную пачаць з азоў. Наш сусед у вёсцы неўзабаве пасьля вайны, маючы надзвычайную сілу ў руках, зрабіў сабе каменны сьвіран. Адмысловым молатам абчасаў і склаў камяні так, што сьцяна выглядала як суцэльная. А якая сучасная тэхналёгія апрацоўкі каменю?

**Алесь Шатэрнік:** Скульптар перад тым, як пачаць працу, вельмі ўважліва аглядае камяні, адбірае патрэбны – каб на ім не было трэшчынаў і пашкоджаньняў. А тэхналёгія ды інструмэнты тыя самыя – долата, малаток, і, як той дзяцел, цюкцюк – дзяўбеш камень. Што праўда, апошнім часам зьявіліся спэцыяльныя электрычныя машынкі, што дазваляе паскорыць працу. Даўней вялізную брылу як можна было перавезьці? Таму камень драбнілі на месцы. Настаўляліся кліны ў радок у прадзёўбаныя сантымэтраў на пяць дзіркі, і скульптар біў па іх, нібы граў на ксыляфоне. Калі ён удала вызначаў напрамак, брыла расколвалася, атрымліваліся пліты. Часьцей за ўсё скульптарамі выкарыстоўваецца мармур. Ён шмат дзе ў сьвеце ёсьць – знакамітыя карарскія, італьянскія мармуры. За савецкім часам да нас мармур трапляў з Уралу. Але ў самой Беларусі камянёў якасных хапае. Тыя ж валуны ледніковага пэрыяду – цудоўны матэрыял для скульптара! У Мікашэвічах здабываюць добры камень. Але тамтэйшы кар’ер амаль выбралі падчас савецкіх новабудоўляў, зь мікашэвіцкага каменю рабілі гравій. А можна было рабіць выдатныя манумэнты!

**М. С.:** Днямі ў Полацку была ўсталяваная ваша скульптурная кампазыцыя «Крывічы», прысьвечаная заснавальнікам гораду. На цырымоніі адкрыцьця полацкі мэр паабяцаў неўзабаве ўсталяваць у горадзе яшчэ адзін помнік – на гэты раз воінам-інтэрнацыяналістам (што, вядома ж, больш адпавядае ідэалягічным устаноўкам сёньняшняй беларускай улады). Як вам удалося паставіць у Полацку «Крывічоў»?

**А. Ш.:** Тут я мушу вам запярэчыць. Полацкія ўлады якраз добра разумеюць, што Полаччына – старажытная зямля. Мэр Полацку Ўладзімер Тачыла робіць добрую справу, ён выступае акурат за тое, каб аднавіць векавечную спадчыну. Памятаеце, колькі спрэчак было наконт помніка Эўфрасіньні Полацкай? Але ж помнік стаіць! Мэр хоча ўсталяваць у горадзе помнік Сімяону Полацкаму, ня толькі воінам-інтэрнацыяналістам, на які, дарэчы, палачане сабралі грошы. Над «Крывічамі» я працаваў доўга. Не заўсёды скульптару шанцуе на ажыцьцяўленьне сваіх мараў. Жывапісцу прасьцей: узяў пэндзаль, фарбы, тканіну – і пішаш. Я гісторыю Беларусі пачаў вывучаць яшчэ ў канцы 1970-х гадоў, тады мінуўшчына многіх мастакоў вабіла. Я зрабіў тры кампазыцыі, прысьвечаныя тром прабеларускім плямёнам: крывічам, дрыгавічам і радзімічам. У іх я ўбачыў паэтычную мэтафару. Кампазыцыі

называліся: «Крывічы. Стыхія вады», «Дрыгавічы. Стыхія зямлі», «Радзімічы. Стыхія агню». З гэтых стыхій і ўтварылася Беларусь. Кампазыцыі я зрабіў з шамоту. Яны ў 1987 годзе выстаўляліся ў Полацку, там, у музэі, і засталіся. Тады ж я ў Полацку пазнаёміўся зь Мікалаем Ільніцкім, і ўжо тады мы зь ім марылі пра ўсталяваньне «Крывічоў» на гарадзкой плошчы. І вось у 2001 годзе наша мара зьдзейсьнілася.

**М. С.:** Вы даўно працуеце ў станковай і манумэнтальнай скульптуры, стварылі цэлую галерэю выдатных дзеячаў нацыянальнага руху: «Рагнеда», «Вітаўт», «Мікола Гусоўскі», «Максім Багдановіч», «Якуб Колас». І вось цяпер – «Крывічы». І гэта натуральна, калі гісторыя краіны ўвечненая ў скульптурных выявах. Але што рабіць з помнікамі дзеячам, якія да гісторыі Беларусі маюць апасродкаванае, а то і зусім ня маюць ніякага дачыненьня, проста ёсьць спадчынай мінулых эпохаў? Прыкладаў можна прывесьці безьліч: Жукаў у Слуцку, Леў Талстой у Полацку, Чапаеў у Горадні, Ленін у кожным райцэнтры... У незалежнай Беларусі яны маюць права на існаваньне?

**А. Ш.:** Гэта абсурд, калі Леніну замест адпалай гіпсавай рукі прымацоўваюць драўляную, як гэта было нядаўна на Берасьцейшчыне. І ўсё ж спэцыяльна я помнікі не ламаў бы. Час усё расставіць па сваіх месцах. Я з павагай стаўлюся да скульптараў-калегаў, якія ў свой час ляпілі савецкіх стодзіваў. Часам і сярод Ленінаў трапляюцца цікавыя работы. Дарэчы, многія зь іх зробленыя з гіпсу і бэтону, так што самі неўзабаве разбурацца. Вазьміце манумэнты часоў фашысцкай імпэрыі – там жа ёсьць сапраўдныя творы мастацтва. А эгіпецкія фараоны, яны хто былі – барбары, тыраны? Прайшло некалькі тысячаў гадоў, і яны для нас – найперш шэдэўры мастацтва... Я разумею нашу сёньняшнюю прагу свабоды, асабліва пасьля працяглага існаваньня



ў савецкай імпэрыі. Я таксама прымаў удзел у мітынгах. Але рамантычныя настроі мінуліся, цяпер трэба больш талерантна ставіцца да падобных рэчаў. Калі робіцца рэканструкцыя плошчы, то тады і трэба вырашаць лёс помнікаў. Вось помнік Леніну работы Манізэра на плошчы Незалежнасьці – яго мо і трэба прыбраць, але яшчэ не прысьпеў час. Ён пасуе да гэтага архітэктурнага ансамблю. А калі будзе рэканструявацца плошча, то яго неабходна замяніць на помнік Незалежнасьці.

**М. С.:** Нядаўна былі Дзяды, многія людзі адведвалі магілы родных. Сотні людзей пры сьвятле сьвечак памянулі ў Курапатах тых, хто знайшоў там вечны супачын. Вы нярэдка атрымліваеце замовы на надмагільныя помнікі. Скажам, вы зрабілі надмагільлі Міхасю Ткачову, Генадзю Каханоўскаму, Анатолю Майсеню. Якім, на вашу думку, павінен быць мэмарыял у Курапатах?

**А. Ш.:** Яшчэ ў 1989 годзе, калі мы ставілі ў Курапатах крыж з шыльдай «Пакутнікам Беларусі», мы думалі над тым, якім павінен быць мэмарыял. Але абставіны зьмяніліся, і сёньня тыя варыянты не падыходзяць. Сёньня неабходна выкарыстаць тое, што каля Курапатаў праходзіць кружная дарога, што многа людзей будуць праяжджаць міма. Можна пусьціць дарогу па двух баках, як у Воўкавічах, гэта два кілямэтры ад Менску па Берасьцейскай шашы. Там дарогай «абхоплены» матэль, ён апынуўся як на высьпе. Можна было б зрабіць, каб курапацкі лясны масіў таксама быў «абхоплены» двума рукавамі кружной дарогі. Зрабіць падземныя пераходы, каб людзі маглі прайсьці. І абавязкова трэба ў Курапатах узьвесьці Храм памяці бязьвінна загінулых. Памятаю, у 1994 годзе, падчас афіцыйнага візыту ў Беларусь прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана, была зь ім сустрэча ў Курапатах. Там якраз усталявалі мармуровую лавачку з надпісам «Народу Беларусі – ад амэрыканскага народу».

Я вырашыў аддзячыць спадару Клінтану за павагу да нашых сьвятыняў і перадаў яму праз амбасаду невялічкую скульптурную выяву заступніцы Беларусі сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Праз пэўны час мне з Вашынгтону прыйшоў падзячны ліст ад прэзыдэнта ЗША. Калі я даведаўся, што ў Курапатах нейкія вандалы паламалі тую мэмарыяльную лавачку, мне зрабілася непамысна. Хлопцы з БНФ прывезьлі яе ў маю майстэрню, і я вырашыў яе адрэстаўраваць. Лавачка расколатая папалам, і мне будзе ня вельмі складана змацаваць яе. Цяпер я акурат і займаюся яе аднаўленьнем. Пайшлі чуткі, што лавачку з Курапатаў скралі. Не, яна ў мяне. Думаю, што мы яе неўзабаве зноў усталюем на ранейшым месцы.

**М. С.:** Падчас адной з вандровак па Віцебшчыне, у ваколіцах Шаркаўшчыны, мы з дарогі ўбачылі незвычайны камень з высечанай на ім «Пагоняй». Мясцовы дасьведчаны чалавек нам патлумачыў, што гэта незакончаная работа Алеся Шатэрніка. Ці завершылі вы тую каменную «Пагоню»?

**А. Ш.:** Я правёў каля таго каменю два мастацкія пленэры, прысьвечаныя Язэпу Драздовічу. Жывапісцы пісалі карціны, я дзёўб камень. Электрычнасьці там не было, так што ўсё прыходзілася рабіць уручную. Памятаю, толькі пачаў працу, як прыехалі хлопцы на роварах і кажуць: у вас хата гарыць! А там, за 150 кілямэтраў ад Менску, у мяне лецішча. Я ўсё ж зрабіў апошні штрых і толькі тады паехаў. Хату тушылі вяскоўцы безь мяне, але не ўратавалі – згарэла. Дзякуй Богу, усе жывыя засталіся. Найбольш шкада было журавінаў – жонка назьбірала 10 вёдраў... Наступным годам я зноў паехаў на Віцебшчыну і працягваў сваю работу. Але яна да гэтай пары, на жаль, не завершаная. І ўсё ж «Пагоню» на камені я абавязкова дараблю!



*Мікалай Пінігін –*
тэатральны рэжысэр. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Расейскім драматычным тэатры імя М. Горкага ў Менску, у Вялікім акадэмічным драмтэатры імя Г. Таўстаногава ў Санкт-Пецярбургу, цяпер – галоўны рэжысэр Нацыянальнага драматычнага тэатру імя Я. Купалы. Сярод пастановак – «Тутэйшыя» Я. Купалы, «Ідылія» і «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў горадзе Ізюм на Харкаўшчыне (Украіна). Жыве ў Менску.

## *Мікалай Пінігін:* «Састарэлыя дэкарацыі ў «Тутэйшых» – гэта хлусьня»

***5 сьнежня 2001 году***

*Два тыдні таму на галоўнай тэатральнай сцэне краіны – у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы – адбылося беспрэцэдэнтнае здарэньне. За некалькі гадзінаў да пачатку спэктакля «Тутэйшыя», пастаўленага па аднайменнай купалаўскай п'есе, паказ адмянілі. Ніхто ня быў папярэджаны загадзя – ні акторы, занятыя ў «Тутэйшых», ні гледачы, якія набылі квіткі менавіта на купалаўскую п'есу. Адміністрацыя тэатра замест п'есы Я. Купалы ні з пушчы ні з поля паставіла ў рэпэртуар «Свае людзі – паладзім» А. Астроўскага. Купалаўскіх «Тутэйшых» забаранілі ўжо як мінімум пятым разам. У 1927 годзе, неўзабаве пасьля выхаду ў сьвет, быў зьнішчаны трэці том першага Збору твораў Купалы, дзе была надрукаваная п'еса. Годам раней, у 1926-м, Галоўліт забараніў «Тутэйшых» на сцэне 1-га Беларускага дзяржаўнага тэатру (сёньняшняга Купалаўскага) – у пастаноўцы рэжысэра Мікалая Папова. На пачатку 1980-х у выдавецтве «Мастацкая літаратура» быў рассыпаны набор зборніка «Спадчына», дзе пасьля больш як паўвекавога замоўчваньня была спроба надрукаваць «Тутэйшых». І нарэшце, у 1982 годзе рэжысэру Магілёўскага драмтэатра Валерыю Масьлюку было настойліва рэкамэндавана пасьля двух паказаў, у Магілёве і Менску, зьняць «Тутэйшых» з рэпэртуару. Што і было зроблена. Калі б існаваў беларускі адпаведнік Кнігі рэкордаў Гінэса, то варта было б занесьці туды і Купалавых «Тутэйшых» – як самы шматпакутны, пяцёрачы (!) забаронены твор у беларускай літаратуры. Мы спэцыяльна счакалі два тыдні. А мо памылачка выйшла, мо нехта некага ня так зразумеў? А мо вернуцца «Тутэйшыя» на перадкалядную тэатральную афішу? Цішыня. Маўчыць адміністрацыя Купалаўскага тэатру. Маўчаць Саюзы пісьменьнікаў і тэатральных дзеячаў. Мы вырашылі разабрацца, што ж насамрэч адбылося з «Тутэйшымі»? У гутарцы бяруць удзел рэжысэр Мікалай Пінігін, які ў 1993 годзе за пастаноўку «Тутэйшых» на Купалаўскай сцэне стаў ляўрэатам Дзяржпрэміі, паэт Леанід Дранько-Майсюк і дасьледчык літаратуры дацэнт Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту імя Янкі Купалы Ігар Жук.*



**Міхась Скобла:** Першае маё пытаньне – рэжысэру Мікалаю Пінігіну. Ці была для вас нечаканасьцю раптоўная адмена спэктакля 14 лістапада?

**Мікалай Пінігін:** Не, не была. Я ня так часта бываю цяпер у Менску, але падчас кожнага прыезду я пытаўся ў актораў, якія занятыя ў «Тутэйшых»: чаму не ідзе спэктакль? І мне адказвалі: ідуць выбары – у мясцовыя органы ўлады, прэзыдэнцкія ці нейкія іншыя. Ва ўсялякім разе падчас нейкіх палітычных кампаній спэктакль, як правіла, не ішоў. Ніхто ніколі гэтага не тлумачыў. Пасьля восеньскай палітычнай кампаніі* «Тутэйшыя» павінны былі зноў зьявіцца на сцэне, але не зьявіліся. Таму, паўтаруся, гэта не было для мяне нечаканасьцю.

**М. С.:** Я так зразумеў, што вам як рэжысэру нават нічога не паведамілі?

**М. П.:** Не. А хто я такі?..

**М. С.:** Скажыце, ці магчыма нешта падобнае ў санкт-пецярбурскім Вялікім акадэмічным драмтэатры імя Таўстаногава, дзе вы цяпер працуеце?**

---

*Маюцца на ўвазе выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

**З 2009 году М. Пінігін – галоўны рэжысэр Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы.

**М. П.:** Там гэта немагчыма, таму што сёньня ніякай палітычнай цэнзуры для тэатраў у Расеі не існуе. Больш за тое, калі я нядаўна ехаў у піцерскім мэтро, пабачыў на вагонным акне вялікі рэклямны плякат Радыё Свабода.

**М. С.:** Днямі ў Купалаўскім тэатры прайшоў бэнэфіс народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, якая, нагадаю, выканала ў спэктаклі «Тутэйшыя» ролю Ганулі Зношчыхі. Такім чынам, жыцьцё тэатра працягваецца. А як аднесьліся да нечаканай адмены «Тутэйшых» у калятэатральным, творчым асяродку? Пытаньне Леаніду Дранько-Майсюку, які жыве ў сотні-другой мэтраў ад тэатра і, напэўна, ведае ўсю інфармацыю.

**Леанід Дранько-Майсюк:** Ад майго дому да Купалаўскага тэатра 752 крокі. Гэта ня жарт. Я гэтую адлегласьць перамераў вельмі дакладна ў той час, калі зьявіліся на сцэне «Тутэйшыя», на якія я хадзіў разоў пятнаццаць. Я сёньня прыгадваю тыя дні, калі мы з табой, Мікалай, стваралі, прыдумвалі вершызонгі да твайго спэктакля «Дракон» паводле вядомай п’есы Я. Шварца. І вось ты тады спытаўся: «А які сэнс закладзены Купалам у “Тутэйшыя”?» І я зразумеў, што калі ты паставіш гэты твор, то спэктакль будзе мець незвычайны, фэнамэнальны, фаерычны посьпех! Што неўзабаве і сталася. «Тутэйшыя» – гэта ня проста спэктакль. Гэта цэлая эпоха, прычым ня толькі ў нашым тэатральным існаваньні, але і ў беларускім культурным жыцьці.

**М. С.:** Наступнае сваё пытаньне я адрасую ў Горадню, дзе з намі на тэлефоннай сувязі Ігар Жук. Скажыце, Ігар, за што забаранялі «Тутэйшых» у 1920-я гады?

**Ігар Жук:** Кантэкст тагачаснай забароны змыкаецца з днём сёньняшнім. У 1922 годзе Галаўліт, які падпарадкоўваўся палітычнаму аддзелу ЦК КПБ, дазволіў надрукаваньне п’есы «Тутэйшыя» ў часопісе «Полымя». А калі расейскі рэжысэр Мікалай Папоў паспрабаваў паставіць яе на сцэне, то ўлада забараніла гэтую пастаноўку. П’еса была адпраўленая на дапрацоўку аўтару, Купала нібыта павінен быў яе паправіць. Хоць Купала, мы пра гэта ведаем дакладна, лічыў п’есу ня выдумкай, а цалкам узятай з тагачаснага беларускага жыцьця. За тагачаснай забаронай «Тутэйшых» мы можам бачыць забарону існаваньня беларускай нацыі – акурат у момант чарговай хвалі Адраджэньня. Тады гэтая справа выглядала як цалкам палітычная, як, зрэшты, і сёньня.



**М. С.:** Нагадаю, што гады два таму новапрызначаны дырэктар Купалаўскага тэатра Генадзь Давыдзька публічна заявіў, што «спэктакль “Тутэйшыя” трэба прычасаць». Тады ж нібыта сапсаваўся мэханізм, які падымаў дзіцячую калыску, да якой у фінале п’есы прымацоўвалася бела-чырвона-белае палотнішча. Але мэханізм тады наладзілі. Сёньня афіцыйная прычына адмены спэктакля – зношанасьць дэкарацый. Пытаньне Мікалаю Пінігіну: колькі часу можа спатрэбіцца на тое, каб змазаць колы ў выязной батлейцы, надраіць да бляску пажарную каску Мікіты Зноска ды пашыць новы партфэль прафэсару Сьпічыні?

**М. П.:** Я адпрацаваў 12 гадоў у Купалаўскім тэатры, гэта мой родны тэатар. І я ня маю ні на каго крыўды. Спэктакль, як за савецкім часам, не рэкамэндавана ставіць. І мы, я лічу, ніколі не даведаемся, хто канкрэтна не рэкамэндаваў. Можа, гэта зрабіў нейкі дробны чыноўнік Міністэрства культуры, можа, нехта перастрахаваўся, а можа, забарона ідзе з самага верху. А тое, што дэкарацыі састарэлі і іх трэба мяняць, – гэта хлусьня. Таму што ў панядзелак, 12 сьнежня, як мне расказвалі акторы, адбылася рэпэтыцыя, і ўсё там рухалася ды працавала. І раптам у сераду – за адзін дзень – дэкарацыі маральна і фізычна састарэлі... Гэта, паўтараю, хлусьня!

**М. С.:** Вядома, што Гарадзенскі тэатар лялек у

свой час таксама ставіў «Тутэйшых». Ці доўга спэктакль пратрымаўся ў рэпэртуары там?

**І. Ж.:** Гады два, калі не памыляюся. П'еса дазваляла пастаноўку на лялечнай сцэне. Рэжысэр Мікалай Андрэеў вельмі творча падышоў да п'есы. Фігуры Ўсходняга і Заходняга вучоных паўсталі ну проста незвычайна! Рэжысэр паклаў на сцэну вялікую карту Беларусі. І вучоныя замест таго, каб яе вывучаць (да чаго абавязвае статус вучонага), пачалі яе разьдзіраць. Сцэна, акторы і гледачы ў залі замкнуліся агульнай нерухомай прасторай. Ніводнага руху – апрача бойкі дзьвюх недарэчных фігураў у акадэмічных мантыях. Атрымалася, што і гледачы, і лялькі сталі пасіўнымі сузіральнікамі нашага нацыянальнага сіроцтва. Выдатнае было рэжысэрскае вырашэньне! Натуральна, я далучаюся да высокіх ацэнак спэктаклю, створанага Мікалаем Пінігіным. У нас ня кожнае стагодзьдзе нараджаецца Янка Купала і ня кожнае стагодзьдзе прыходзіць на беларускую сцэну Мікалай Пінігін! І, бачачы такія адносіны ўладаў да ягонай працы, толькі шкадаваць даводзіцца... Я ахвотна веру ў тыя 752 крокі, якія самотна робіць Дранько-Майсюк, ідучы да Купалаўскага тэатра, але я ня веру, што гэтым незразумелым крокам уладаў завершыцца тэатральны лёс «Тутэйшых» – ужо ў наш час.

**М. С.:** Ігар, відавочна, што «Тутэйшыя» ў любым варыянце, нават у лялечным, – вострапалітычны твор. Пасьля таго як улады практычна разагналі тэатар «Вольная сцэна», гаварылася пра тое, што прынц Мамабук – старшыня Бусяросі і герой адной з пастановак Валерыя Мазынскага – надта ўжо нагадваў аднаго беларускага палітыка. А ў чым сёньня актуальнасьць «Тутэйшых»? Каго нагадваюць героі гэтай п'есы?

**І. Ж.:** Давайце паставім пытаньне трошкі па-іншаму. Чаму героі «Тутэйшых» вечна актуальныя? Таму, што рэчаіснасьць няўмольна піша для Беларусі адзін і той жа тэкст. І пакуль гэты тэкст ня будзе напісаны нашай уласнаю рукою, з нашай прапіснай літары, «Тутэйшыя» будуць заставацца поўным тэкстуальным заменьнікам рэчаіснасьці. А каго нагадваюць героі... Напомню некалькі цытатаў з п'есы: «Эх каб я быў, между протчым, царом, завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі, ад Смаленска да Бэрліна адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе прыпяваючы». Гістарычныя алюзіі, мяркую, даволі празрыстыя. Альбо: «Сюда градзёт большэвік». Ну, багі мае! Гэта ж наш сёньняшні дзень, лічы. Ды і сама ідэя бязбацькавіча, якая знайшла яскравае ўвасабленьне ў Мікіце Зноску... Янка Купала, наперакор усёй тагачаснай літаратурнай традыцыі, замахнуўся на нешта нябачанае, што ў беларускай літаратуры было яшчэ нулявым цыклем. Купала стварыў грандыёзны, усёабдымны, з разьлікам на гістарычную мінуўшчыну і пэрспэктыву, вобраз *безнацыянала*. Вось якраз у гэтым – найбольшая прысутнасьць «Тутэйшых» у нашым часе.

**М. С.:** Многія творы Купалы былі непажаданыя за савецкім часам. Некаторыя зь іх нават ня згадваліся ў энцыкляпэдычным даведніку «Янка Купала», што выйшаў у сьвет у 1986 годзе. Напрыклад, верш «Акоў паломаных жандар – сядзіць расейскі чынадрал...». Цікавая гістарычная даведка: аказваецца, у 1942 годзе ў акупаваным Менску немцы забаранялі пастаноўку купалаўскай «Паўлінкі». З такой матывацыяй – у п'есе прыгадваецца імя Максіма Горкага, а яшчэ з тае прычыны, што «сам автор Я. Купала как будто находится в Москве». Як бачым, творы Купалы былі недаспадобы акупантам рознай масьці... І апошняе пытаньне – усім тром удзельнікам гутаркі. У чым значнасьць Янкі Купалы асабіста для вас?

**Л. Д.-М.:** Творы Янкі Купалы ня толькі для чужынцаў у розны час былі непажаданыя, яны нам самім, беларусам, не заўсёды псыхалягічна камфортныя. У гэтых творах, у тым ліку ў «Тутэйшых»,

утрымліваецца тая вялікая праўда пра нас, якую нам не заўсёды хочацца ведаць. У Зноску мы пазнаем сябе, пазнаем сваю недалужнасьць, зь якой мы павінны вылузвацца, луску гэтую, што ўрасла ў нашую скуру, мы павінны зь сябе зьдзіраць! Я ня памятаю, у якім творы, але Купала сказаў, што «памяркоўнасьць – гэта наш адвечны ратунак, але адначасова гэта і наша пагібель».

**І. Ж.:** Самае істотнае ў творах Купалы для мяне – гэта ягоная невынішчальная самакрытычнасьць. Уся творчасьць Купалы дапамагае нам адшукаць тую запаветную дарогу, па якой мы павінны далёка зьнесьці сваё нацыянальнае гора, зьнесьці, умоўна кажучы, Мікіту Зноска, зьнесьці зь Беларусі назаўсёды. Купала – самы яскравы выразьнік беларускай нацыянальнай мэнтальнасьці.

**М. П.:** Гэта сьведчыць пра геніяльнасьць Купалы, калі ён не пасаромеўся высьцебаць нацыю – у асобе Мікіты Зноска. Купала стварыў геніяльны псыхалягічны тып беларуса. Канфармізм – вельмі тыповая рыса беларуса, які прыстасоўваецца, каб выжыць. Гэта вынік жыцьця «на скрыжаваньні». Купала не абвінавачвае, ён шкадуе чалавека. Гэта самае галоўнае, што ёсьць у п'есе. І потым – там адлюстраваная ўся беларуская гісторыя, усе рысы беларускай мэнтальнасьці. «Тутэйшыя» – вельмі жорсткі і праўдзівы погляд аўтара на беларускую мінуўшчыну, на беларускую сучаснасьць і, на жаль, на беларускую будучыню.



*Віктар Скорабагатаў –*
сьпявак (лірычны барытон), пэдагог, дасьледнік гісторыі музыкі. Закончыў Беларускую кансэрваторыю. Саліст Нацыянальнага тэатру опэры, выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі, нязьменны мастацкі кіраўнік створанай ім Беларускай капэлі. Аўтар кніг «Зайгралі спадчынныя куранты», «Абышоўся бяз славы: кампазытар Ян Тарасевіч». Нарадзіўся ў 1951 годзе ў Менску, дзе і жыве.

## *Віктар Скорабагатаў:* «Мастацтва – гэта нацыянальна-вызвольны рух у дзеяньні»

***18 сьнежня 2001 году***

*Віктар Скорабагатаў з гледзішча партыйнасьці – чалавек непасьлядоўны. Бо за сваё творчае жыцьцё зьмяніў гэтых самых партый – безьліч. Тут і партыя Фігара ў «Сэвільскім цырульніку» Расіні, і партыя Ніклаўса ў «Казках Гофмана» Афэнбаха, і партыя Альмавіва ў «Вясельлі Фігара» Моцарта. Вось і нядаўна на сваім бэнэфісе (а ў лістападзе сьпявак адзначыў сваё 50-годзьдзе) ён выканаў партыю Беларэцкага ў «Дзікім паляваньні караля Стаха» Ўладзімера Солтана. Так што ўсе партыі Віктара Скорабагатава самыя апалітычныя – опэрныя. Пра опэрнае мастацтва са сьпеваком можна гаварыць бясконца, але цікавіць яго і гісторыя беларускай музыкі, і ўласны радавод...*

**Міхась Скобла:** Спадар Віктар, вы нарадзіліся ў Менску, тысячы вашых прыхільнікаў успрымаюць вас як самага сапраўднага беларуса, але карані вашага радаводнага дрэва цягнуцца, здаецца, у Расею?

**Віктар Скорабагатаў:** У культуралягічным сэнсе я – стоадсоткавы беларус. Што тычыцца этнічнага паходжаньня, то я сапраўды расеец. Род наш вядзе пачатак з XVII ст., ён ці не баярскі, і мае продкі былі Мілавідавы. Адзін з маіх прашчураў узяў удзел у бунце Хаванскага, а Пётр I быў тады яшчэ маладзенькі і не адважыўся той бунт задушыць з тою жорсткасьцю, зь якою ён пазьней душыў усе астатнія паўстаньні і змовы. І мой прашчур, на шчасьце, ня быў закатаваны. Яго саслалі на мяжу Масковіі і Вялікага Княства Літоўскага. Цяпер гэта мястэчка Сеўск на сумежжы Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны



і Браншчыны. Там нарадзіліся мае бацькі. Як жа Мілавідавы сталі Скорабагатавымі? Справа ў тым, што за маім прадзедам у Сеўску ішла слава гулякі, і аднойчы ён выйграў у карты шынок. Гэта неістотна, што ён той шынок праз паўгоду прайграў. А вось тое, што ён раптоўна стаў заможным, і спрычынілася да таго, што за ім замацавалася мянушка – Скорабагаты. Пасьля адмены прыгоннага права пачалі даваць пашпарты, найперш вольным людзям. А прадзед мой быў стралец і меў права на атрыманьне пашпарту. Калі ён прыйшоў запісвацца і назваў сваё прозьвішча, чыноўнік спытаўся: «Ты які Мілавідаў? Мілавідавых шмат». І тут нехта падказаў: «Гэта той, які Скорабагаты». Так і запісалі. Так што прозьвішча Скорабагатаў усяго некалькі каленаў мае.

**М. С.:** На пачатку 1990-х гадоў Беларусь перажыла кароткачасовы рэнэсанс нацыянальнай культуры, у тым ліку і культуры музычнай. Вы ў 1992 годзе заснавалі «Беларускую капэлю», нязьменным мастацкім кіраўніком якое зьяўляецеся да гэтай пары. І вось «Беларуская капэля» існуе ўжо 9 гадоў. Чаго было больш за гэты час – хвілінаў трыюмфу ці гадзінаў расчараваньня?

**В. С.:** Гадзінаў расчараваньня не было ўвогуле. Я тут мушу з вамі не пагадзіцца, што пэрыяд рэнэсансу быў кароткачасовым. На мой погляд, ён працягваецца і да гэтай пары. І тут я вось што хацеў бы заўважыць. На працягу апошніх 500–600 гадоў па Беларусі ходзяць і ходзяць чужацкія нашэсьці і зьнішчаюць гэты бедны народ. Прычым зьнішчаюць ня горшых людзей, а лепшых. Але як толькі надарылася мажлівасьць свабоднай творчасьці – адкуль толькі ўсё ўзялося! Невынішчальнасьць, вытрываласьць беларускай культуры – гэта проста фэномэн у гісторыі Эўропы! Сапраўды, быў страшны гвалтоўны ўціск за саветамі – асабліва ў 1950-я, 1960-я, 1970-я гады. Але як толькі зьявілася магчымасьць сваю інтэлектуальную працу зафіксаваць...

Паглядзіце, колькі ўсяго зроблена, колькі выдадзена матэрыялаў па музычнай культуры! І, на маё перакананьне, гэта ўсё нарастае як сьнежная лавіна.

**М. С.:** Вы – мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлі», першы барытон нацыянальнай опэрнай сцэны. Але ж вы можаце і дырыгаваць аркестрам. Кажуць, што аднойчы на замежных гастролях нават падмянілі маэстра Анісімава...

**В. С.:** Ну, гэта так і ня так. Тое адбылося на гастролях у Ірляндыі, у Дубліне. Проста паводле сюжэту той опэры, маецца на ўвазе інтэрмэцца італьянскага кампазытара Даменіка Чымароза «Il maestro di kapella», сам сьпявак зьяўляецца дырыжорам. Дырыгаваць прыходзіцца паводле сюжэту. А я, паверце, чалавек адказны ў адносінах да сваёй прафэсіі, і я навучыўся гэта рабіць. І ўсё атрымалася, мяне вітала і публіка, і прэса. Пасьля спэктакля да мяне падыходзілі аркестранты і гаварылі, што дырыжор быў проста выдатны. Мне, безумоўна, было прыемна. Але і дома бывае так, што дырыжор на рэпэтыцыю ня прыйдзе, а ідзе складаная сцэна аркестравая. Даводзіцца станавіцца за пульт і дырыгаваць. Так здараецца. Але гэта свавольства, балаўство.

**М. С.:** Сярод вашых шматлікіх талентаў не выпадае не ўзгадаць яшчэ адзін: вы знаны дасьледчык гісторыі музычнага мастацтва, аўтар чатырох кніг. Вось і сёлета пабачыла сьвет кніга «Абышоўся бяз славы» – пра малавядомага ў Беларусі кампазытара Яна Тарасевіча. Шчыра прызнаюся, што ў маім уяўленьні неяк ня вельмі сумяшчаюцца опэрны сьпявак і дасьледчык, залітая сьвятлом сцэна і архіўны зацішак. Дзе ж вам працуецца з большым імпэтам?

**В. С.:** На жаль, такое ўспрыманьне сьпевакоў даволі распаўсюджанае. Што такое гук? Гук – гэта рэзананс, а рэзананс утвараецца ў пустотах. Значыць, чым менш мазгоў, тым лепшы голас. *(Сьмяецца.)* Лічыцца, што сьпявак павінен найперш займацца сваім голасам. І сапраўды, наша прафэсія вельмі складаная, патрабуе шмат часу менавіта на ўдасканальваньне голасу. Далей – музыканты граюць па нотах, мы ж сьпяваем усё на памяць, трэба ж і гэтым займацца. Але сярод сьпевакоў таксама бываюць разумныя людзі. Напрыклад, нямецкага сьпевака Дытрыха Фішэра Дыскаў Сьвятаслаў Рыхтэр назваў найлепшым музычным інтэлектуалам XX ст. І ніхто яму не запярэчыў. А Рыхтэр ведаў, што казаў, ён меў стасункі з самымі выдатнымі людзьмі свайго часу. Дыскаў – ня проста добры сьпявак, ён піша кнігі, выкладае фартэпіяна ў музычнай акадэміі, уваходзіць у эліту дырыжораў сьвету.

**М. С.:** На сваім бэнэфісе вы выканалі партыю Беларэцкага ў опэры «Дзікае паляваньне караля Стаха». Герой аднайменнай аповесьці Ўладзімера Караткевіча, паводле якой і пастаўленая опэра, Андрэй Беларэцкі, гаворыць прыканцы твора: «Я прачынаюся і думаю, што не прайшоў час дзікага паляваньня караля Стаха». Ці не здаецца вам, што гэтае паляваньне працягваецца і ў наш час, у сёньняшняй Беларусі? Нашы людзі, нібы насельнікі маёнтка Балотныя Яліны, працягваюць жыць у страху...

**В. С.:** «Дзікае паляваньне караля Стаха» належыць да клясычных опэраў. А клясычны твор мастацтва ніколі не бывае музэйнай рэдкасьцю, ён заўсёды адпавядае пачуцьцям і настроям грамадзтва. І гэта вялікая бяда, калі сёньня ў Беларусі «Дзікае паляваньне...» так успрымаецца. Што тут можна параіць? Прыслухацца да Антона Чэхава і па кроплі выціскаць зь сябе раба. І тады ніякае паляваньне нас не дагоніць.

**М. С.:** Вам належыць афарыстычнае выслоўе: «Мастацтва – гэта нацыянальна-вызвольны рух у дзеяньні». Я ведаю, што калі вы аднойчы апынуліся ў першых шэрагах гэтага руху, вас арыштавалі і завезьлі ў пастарунак. Як гэта адбылося?

**В. С.:** На той момант я ня ўдзельнічаў у тым

руху, я проста быў ягоным сьведкам. Гэта было ў 1996 годзе, незадоўга да рэфэрэндуму. У Менску праходзіла вялікая дэманстрацыя пратэсту, і я, едучы на працу, апынуўся ў пастцы на праспэкце Скарыны каля Галоўпаштамту. Амон цалкам заблякаваў праспэкт, быў спынены рух транспарту. Мы зь сябрам Валодзем Неўдахам вылезьлі з тралейбуса ды ішлі, гутарачы, па праспэкце. На Кастрычніцкай плошчы разышліся кожны ў свой бок. На плошчы Свабоды, паблізу кансэрваторыі, мяне схапілі і кінулі ў «варанок». Аказваецца, за намі сачылі, бо мы з Валодзем між сабой размаўлялі па-беларуску. За тое, што ў Беларусі чалавек карыстаецца роднай мовай, яго могуць забраць у пастарунак. Толькі за гэта! Гэта ж проста жах!

**М. С.:** Наўрад ці амонаўцы наведвалі спэктаклі ў Опэрным тэатры і ведалі, каго затрымалі...

**В. С.:** У пастарунку ў мяне забралі пашпарт, але сядзеў я там нядоўга, гадзіны тры. Потым мне далі пачытаць пратакол: там была розная лухта напісаная, быццам я некага крыў матам, людзей да нечага заклікаў. А я ўвогуле не карыстаюся нецэнзурнай лексыкай – так выхаваны. Я кажу маёру: «Я сьпявак, як я магу крычаць на вуліцы такім халодным надвор'ем? Я ж назаўтра бяз працы застануся!» «Сьпявак?» – у вачах маёра зьявілася нешта, падобнае на роздум. Ён пачаў некуды тэлефанаваць, пра нешта даведвацца. І ўрэшце адпусьціў мяне – з умовай, каб я ў цэнтры гораду ў той дзень не зьяўляўся, бо зноў буду затрыманы. Я, праўда, праігнараваў яго пажаданьне і адразу ж паехаў у цэнтар. І ніхто мяне ўжо не затрымліваў.



*Віктар Казько –*

празаік, публіцыст. Выпускнік Кемераўскага індустрыяльнага горнага тэхнікуму і Літаратурнага інстытуту імя М. Горкага. Працаваў на шахтах, у геалягічных экспэдыцыях, у рэдакцыі часопісу «Нёман». Аўтар кніг «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», «Хроніка дзетдомаўскага саду», «Бунт незапатрабаванага праху» ды інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах. Жыве ў Менску.

## *Віктар Казько:* «Беларускі пісьменьнік існуе насуперак дзяржаве»

***28 красавіка 2002 году***

*Пасьля чарнобыльскай трагедыі мінулася ўжо шаснаццаць гадоў. І калі ў першае дзесяцігодзьдзе па ўсім сьвеце ствараліся адмысловыя фонды, то пазьней ручаёк дапамогі паступова перасыхаў. Эўропа стамілася ад Чарнобылю, у сьвеце іншыя праблемы выйшлі на авансцэну. Што праўда, і стаўленьне саміх беларусаў да чарнобыльскай праблематыкі зьмянілася. Традыцыйны Чарнобыльскі шлях зьбірае ўсё менш і менш людзей. Абыватель мяркуе: ну, калі сам прэзыдэнт у зону езьдзіць, значыць, нічога страшнага там няма. Народ амаль супакоены. А супакойвацца ня варта, – лічыць пісьменьнік, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар Казько.*

**Міхась Скобла:** Спадар Віктар, словы «чарнобыльская зона» ўжо не ўспрымаюцца як знак бяды. Ці добра гэта?

**Віктар Казько:** Я ня ведаю, кім гэта аплачана, але ў многіх СМІ пачалі зьяўляцца проста абуральныя матэрыялы. Мне гэта нагадвае першы час пасьля трагедыі, калі МАГАТЭ нас супакойвала, маўляў, нічога страшнага не адбылося, гэта ня больш як апраменьваньне пры рэнтгене. Так і цяпер, даходзіць ужо да развагаў пра карысьць радыяцыі! Расьце ў зоне і жыта, і бульба, і ўраджаі неблагія зьбіраюцца. А ў той самы час прафэсар Юры Бандажэўскі, які сур'ёзна вывучаў уплыў радыяцыі на здароўе людзей, сядзіць у турме... Мне расказвалі такую гісторыю пра пра лася і ласіху, якія жылі ў зоне. Яна – па адзін бок калючага дроту, ён – па другі. Надышоў час гону – і яны абыходзілі гэты дрот, каб сустрэцца ў час звярынага каханьня. І ня здолелі абысьці дрот – ён ніяк не заканчваўся. І тады лось кінуўся на калючы дрот і загінуў. Дык вось, для мяне сымбалем пасьлячарнобыльскай Беларусі зьяўляецца гэтая зьвярыная прага жыцьця і немагчымасьць яго працягваць.



**М. С.:** Прага жыцьця ў нас часам выяўляецца неардынарна. Памятаю, як мяне ў свой час уразілі чарнобыльскія прыпеўкі, што друкаваліся ў газэце «Зьвязда». Жвавыя, вясёлыя прыпеўкі пра сьмерць: «Да 2000 году шмат паляжа ў нас народу...». Альбо: «Смутна стала жыць на сьвеце – унукі мруць у лязарэце ад чарнобыльскай бяды, хоць жывуць яшчэ дзяды». Немцы называюць гэта Galgenhumor – весялосьць вісельніка. А што вы скажаце пра падобную творчасьць?

**В. К.:** За савецкім часам на месцы могілак танцпляцоўкі рабілі – дык не заўсёды ведалі пра гэта. І на касьцях памерлых і загінулых скокі ладзіліся. Сёньня нешта падобнае адбываецца ў чарнобыльскай зоне. Ты ведаеш, што там бардэль існуе?

**М. С.:** Дзе, у зоне?

**В. К.:** У зоне бардэль зрабілі! Для аматараў экзатычнага сэксу. Аўтадром там зрабілі, нешта накшталт «Формулы-1», гонкі там ладзяцца. Там плянуецца рабіць вялікія шоў, відовішчы, каб прыехалі турысты, капітал прывезьлі. Але з патанулых караблёў толькі піраты золата дастаюць. А на могілках, як сёньня кажуць, адмарозкі толькі грошы шукаюць. І Бог за гэта карае. Як і за тое, калі забягаюць наперад нябожчыку. Калі ты едзеш на аўтамабілі, дык спыняесься і чакаеш, каб не перашкаджаць сьмерці. Не перашкаджаць рабоце вечнасьці. А мы пра гэтую работу вечнасьці і наагул пра вечнасьць забыліся. Гэта ўжо пайшло чаканьне апакаліпсісу. І толькі слабенькая надзея захоўваецца, што ўсё ж чалавек апамятаецца і чалавецтва ацалее.

**М. С.:** На гэтым тыдні кіраўнік краіны выступіў з чарговым пасланьнем да парлямэнту. Быў у тым

пасланьні і разьдзел «Аб разьвіцьці навукі, адукацыі і культуры». Якія ўражаньні выклікала ў вас прэзыдэнцкае бачаньне разьвіцьця гэтых сфэраў?

**В. К.:** Я не знайшоў у тым пасланьні ніводнай думкі ні пра навуку, ні пра культуру. Лукашэнка здольны ператварыць усё ў калгасны сход: прэзыдэнцкая больніца, вось я займаюся, я запісваю, я выпісваю... Ці гэта справа прэзыдэнта? Уласьцівасьць усіх дэмагогаў, у тым ліку Лукашэнкі, – хлусіць і займацца падтасоўкай. Людзей заварожваюць яговыя маналёгі, што нагадваюць мантры заклінальніка гадаў, – дзе ён клянецца ў шчырасьці, у любові да народу: я плачу, я пацею, я перажываю, калі бачу, як мучаецца мой народ... Гэта імкненьне зачараваць шчырасьцю, зачараваць тым, чаго няма. Мы кожны дзень чуем заклінальніка гадаў... Што да культуры. Хіба можна лічыць прэзыдэнцкім клопатам пра культуру будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі? Культура – гэта не будаўніцтва. Культура – гэта клопат пра душу чалавека, пра мову, якую ён, дарэчы, зьневажае на кожным кроку.

**М. С.:** Прэзыдэнцкі клопат пра культуру выявіўся і ў другой падзеі гэтага тыдня. Начальнік усіх беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў Сяргей Касьцян пачаў мяняць рэдактараў, звальняць нелаяльных да ўлады і прызначаць «сваіх». У «Полымі» на месца Сяргея Законьнікава сеў Мікола Мятліцкі. Што чакаць ад такіх кадравых ператрусаў?

**В. К.:** Улада бесцырымонна пайшла на парушэньне і юрыдычных, і чалавечых законаў. Аддалі часопісы невядома каму... Тых людзей, якія прыйшлі пры жывых рэдактарах кіраваць часопісамі, я назваў бы штрэйкбрэхерамі нашага часу. Такога культурнага штрэйкбрэхерства я не прыпомню – нават за сталінскім часам падобнага не было. Калісьці мянялі Твардоўскага, дык аднаго мянялі. Але каб адным махам узяць і пазбавіцца ад усіх... Касьцян у інтэрвію «БДГ» назваў творчасьць Васіля Быкава



састарэлай. А таго не разумее, што Быкаў навечна ўпісаны ў сусьветную літаратуру, яго ва ўнівэрсытэтах па ўсім сьвеце вывучаюць. Ён паказаў характар беларуса, душу беларуса ў экстрэмальных умовах. Быкаў вельмі сьціплы чалавек, яму многага ня трэба. Дайце спакойна жыць на Радзіме. Не даюць...

**М. С.:** Рада Саюзу пісьменьнікаў прыняла рашэньне аб скліканьні нечарговага зьезду. Але ў Саюзе няма ранейшай еднасьці. Што можна чакаць ад зьезду?

**В. К.:** Поўнага разбурэньня, разброду і хістаньняў. Калі б усё, што мы назіраем сёньня, адбылося пасьля вайны, калі партызаны ішлі ў літаратуру, то пісьменьнікі проста панабівалі б адзін аднаму морды. Потым выпілі б скрынку гарэлкі і памірыліся. Цяпер міру ня будзе. Саюз пісьменьнікаў амаль распаўся. Ён павінен быў распасьціся раней, але мы ўсё на нешта спадзяваліся, пісалі адкрытыя лісты, выступалі з артыкуламі. А час лістоў, скаргаў на сваё няшчаснае жыцьцё даўно мінуўся. Трошкі раней яшчэ можна было паказаць зубы, пазмагацца. Калі пачалі адбіраць Дом літаратара, а Максім Лужанін, хворы, прасіў прывезьці яго ў крэсьле-каталцы да Саюзу, каб пачаць акцыю пратэсту. А цяпер нас разлучылі, нас амаль разьбілі. Пройдзе зусім няшмат часу, і мы пачнем прадавацца новай уладзе. Гэта пачатак канца літаратуры – прыход гэтых штрэйкбрэхераў.

**М. С.:** Ніл Гілевіч на знак пратэсту выйшаў з рэдкалегіі «Полымя». Ці гатовыя пісьменьнікі на знак нязгоды з такім абыходжаньнем уладаў хоць бы ня несьці свае творы гэтым штрэйкбрэхерам?

**В. К.:** Я думаю, маё пакаленьне ўжо можа дазволіць сабе пісаць у шуфляду. Мне шкада маладых: дзе ім падзецца? Людзі, якія прыйшлі кіраваць часопісамі, і шэлягу ня вартыя. Я іх разумею: ідзе час, жыцьцё праходзіць, а як літаратара – цябе няма. І што тады застаецца? Лізнуць уладам адно месца,

прыслужыць, дзе скажуць. А старонкі часопісныя яны знойдуць, чым запоўніць. Я недзе чытаў, што, калі заканчваецца культура, жыцьцё народаў страчвае сэнс. Такая страта нас чакае са сконам тае культуры, якое мы доўгі час трымаліся.

**М. С.:** Мне часта прыходзіць на памяць ваша даўняе ўжо эсэ «Дзікае паляваньне каралёў сталіншчыны», надрукаванае ў маскоўскім часопісе «Юность» неўзабаве пасьля разгону менскіх Дзядоў у 1988-м. З тае пары беларусаў разганяюць пэрыядычна. Але застрашыць дарэшты ўсё ж не ўдаецца. А можа, удаецца – і «дзікае паляваньне» дасягае сваёй мэты?

**В. К.:** З тых разагнаных Дзядоў мне памятаецца, як міліцыя пагнала моладзь ад могілак, і яна пайшла ў мэтро. А мы зь сябрам на машыне паехалі па праспэкце Скарыны, а міліцыя кінулася пільнаваць выхады з мэтро. Міліцыянты спадзяваліся, што на нейкім прыпынку моладзь выйдзе, яны рыхтавалі аблавы на станцыях «Усход», «Парк Чалюскінцаў», «Плошча Якуба Коласа». Чакалі, пакуль моладзь выйдзе. Але чакалі яны марна: моладзь ня выйшла з-пад зямлі, як растварылася! Быццам нешта міфічнае адбылося. Яны пайшлі туды, пад зямлю, і да гэтага часу чакаюць, дзе і калі выйсьці. А наконт таго, застрашылі ці не... Пэўную частку застрашылі. Але толькі пэўную. Моладзь, якая толькі чула пра тыя разагнаныя Дзяды ад сваіх бацькоў, сёньня самая актыўная. Гэта яна сёньня ў навучальных установах патрабуе ад уладаў выканаць іх канстытуцыйнае права і зябясьпечыць выкладаньне на роднай мове.

**М. С.:** У вашым новым рамане «Бунт незапатрабаванага праху», што быў летась апублікаваны ў часопісе «Полымя», вы паказалі чалавека, які, умоўна кажучы, зусім нядаўна выйшаў зь пячоры, зазірнуў у сябе – і спалохаўся той зьвярынай сутнасьці, якая ў ім да часу драмала. Што загнала чалавека, які даўно адвык паляваць на мамантаў, чалавека ХХ ст., назад у пячору?

**В. К.:** А ён адтуль ніколі дарэшты і не выходзіў – ні фізычна, ні біялягічна. А апошнім часам, калі навокал столькі хлусьні, ён вылезьці з тае пячоры ня можа. Я прывяду адзін прыклад, можа, ён не зусім да месца ў нашай гутарцы, тым ня менш... Я рэдка ўключаю беларускае дзяржаўнае радыё – можна натрапіць на якую-небудзь Чайку ці Касьцяна. А тут уключыў і акурат натрапіў на Чайку. Вядзе яна размову зь нейкай увогуле прыстойнай настаўніцай. І тут тэлефонны званок ад слухачкі. Тэлефануе бабулька і зьвяртаецца да настаўніцы: «Слухайце, што мне рабіць? Мой унук прыходзіць са школы і кажа: бабуля, мне патрэбен прэзэрватыў!» Больш за ўсё бабулю абурыла, дзе яна знойдзе для дзесяцігадовага ўнука неабходнага памеру прэзэрватыў? Гэта і сьмешна, і роспачна. Гэта сьведчаньне таго, што адбываецца з нашым грамадзтвам. Гэта дзікасьць, у тым ліку і нашых уладаў. Але больш за ўсё гэта сьведчыць пра нашы пячоры.

**М. С.:** Падчас чытаньня вашага раману «Бунт незапатрабаванага праху» мне прыгадаўся адзін гістарычны эпізод. Вялікі кампазытар і скрыпач Нікола Паганіні яшчэ пры жыцьці быў адлучаны ад Царквы, і пасьля сьмерці сваякі не маглі яго пахаваць. Больш за паўстагодзьдзя (!) ягоны прах вандраваў па зямлі, пакуль каталіцкія ўлады далі дазвол на пахаваньне... У рамане ўражвае эпізод пахаваньня паліцая, якому аднавяскоўцы не даюць месца на могілках. Вы гэта прыдумалі, ці нешта падобнае сапраўды было?

**В. К.:** Гэтая гісторыя адбылася ў Жыткавіцкім раёне, на жаль, я забыўся назву вёскі. Яна не давала мне спакою гадоў дваццаць. Я расказаў яе ў свой час у Нью-Ёрку на сустрэчы зь землякамі, калі быў там на сэсіі ААН. Там былі эмігранты, быў, дарэчы, і родны брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Выгаварыцца

выгаварыўся, а ўсё роўна нешта даймала. У жыцьці беларускага народу ў XX ст. не было нічога больш жахлівага за вайну. Былі, праўда, часы яшчэ страшнейшыя, калі гінула палова насельніцтва. Сёньня ў нас у Беларусі жыцьцё – як на вайне, і нават горшае. Таму што на вайне людзі ведалі, за што змагаліся: з аднаго боку была Радзіма, з другога – фашызм. І пасьля вайны яшчэ змаганьне працягвалася. Але было відно сьвятло ў канцы тунэлю. Вылазілі зь зямлянак, будавалі хаты... Сёньня ж Беларусь як сувэрэнная краіна знаходзіцца ў безнадзейным стане. Калі за бальшавікамі беларуса пазбавілі ягонага апірышча, пазбавілі ягоных лясоў, балотаў – гэта было ня проста асушэньне. Савецкая мэліярацыя – гэта ня толькі экалёгія, гэта ўзялі бульдозэрам, скрэпэрам згрэблі нашу памяць, нашу гісторыю. Пусьцілі зь ветрам тарфянікі на Месяц і беларуса туды ж адправілі. А цяпер мы за гэта разьлічваемся – стратай сваіх каранёў, сваёй душы. І я ў прыгаданым табой рамане якраз і хацеў гэта паказаць. Што ўсё ж, нягледзячы ні на што, у людзей хоць на самым донцы душы засталося нешта сьвятое. Засталося адчуваньне віны перад сваёй зямлёй, перад сваёй хатай, засталася неабыякавасьць да таго, з кім на тым сьвеце яны будуць дыхаць адным паветрам.

**М. С.:** Вы адзін зь нямногіх беларускіх літаратараў, які працягвае супрацоўнічаць з маскоўскімі выданьнямі, у прыватнасьці з часопісам «Дружба народов». Якое стаўленьне вашых расейскіх калегаў-пісьменьнікаў да саюзу Беларусі і Расеі? Падчас нядаўніх расейска-беларускіх Дзён культуры мы ўбачылі, як некаторыя расейскія палітычныя ды культурныя дзеячы ахвотна падстаўляюць свае грудзі пад ордэн Францішка Скарыны.

**В. К.:** Пад ордэн Францішка Скарыны кожны гатовы падставіць свае грудзі. Сёньня наўрад ці хто адмовіцца ад узнагароды, як гэта зрабіў некалі Салжаніцын, адмовіўшыся ад дзяржаўнага ордэна.



У той жа час усе расейскія дэмакраты – дэмакраты да пэўнай мяжы. Пакуль не заходзіць гаворка пра сьцягваньне новай імпэрыі. Яны разумеюць наш стан, разумеюць, хто такі Лукашэнка (дастаткова адзін раз яго паслухаць, каб атрымаць пра яго яскравае ўяўленьне). Тут яны нам спачуваюць. Але калі даходзіць да незалежнасьці Беларусі, да таго, каб яна болей ніколі не называлася «Северо-Западным краем», тут забываюцца ўсе. Забывае той жа Салжаніцын, які называе Казахстан «подбрюшьем» Расеі. Гэта імпэрскае мысьленьне. Яны бачаць толькі Расею, толькі сябе на чале ўсяго.

**М. С.:** Вы многа гадоў (да нядаўняга часу) працавалі на кінастудыі «Беларусьфільм», якая перажывае не найлепшыя часы. Зьмяняюцца дырэктары, здымаюцца фільмы пад асабістым патранажам прэзыдэнта – нічога не дапамагае, кінастудыя занядбаная. Што яе можа выратаваць?

**В. К.:** Усё пачалося з паваеннага часу, калі галоўнай тэмай на «Беларусьфільме» стала партызанская. Беларусь была рэспублікай-партызанкай, і кінастудыя стала партызанскай. Зьнятыя на ёй «партызанскія» фільмы ішлі па ўсім СССР – трэба сказаць, зь немалым посьпехам. І гэткая сітуацыя датрывала да нашага часу. Фільм Пташука «У жніўні 44-га» – з таго самага шэрагу. Гэта таксама спроба вярнуць кінастудыю «Беларусьфільм» у партызанскае рэчышча, у камуністычны час. Тая праўда, якая задзейнічаная ў гэтым фільме, – гэта СМЕРШ, гэта органы. Мы ад гэтага адхрышчваемся, імкнемся адысьці, а нас упарта ізноў спрабуюць вярнуць у той жахлівы час. Нам ізноў навязваюць смершаўскі «гераізм». Мне пра такі «гераізм» у рэдакцыі часопісу «Нёман» расказваў адзін былы палкоўнік. Прыгадваў адступленьне савецкіх войскаў пад Масквой: «Войска з тэхнікай адступае па дарозе, а мы – ідзем па ўзбочынах». Чаму па ўзбочынах? «А там паўзьлі нашы раненыя, дык мы іх дабівалі...»

Усё гэта ўжо аддадзенае на суд гісторыі. Калі нешта рабіць пра СМЕРШ, то рабіць, паказваючы ўсю тую праўду, якая яшчэ не дайшла да нас, якая захоўваецца ў архівах КДБ. Але ж захацелася праекту веку! А ўрэшце атрымалася, што мы ўваходзім у трэцяе тысячагодзьдзе з тым самым кінабагажом, зь якім ішлі палову XX ст.

**М. С.:** Якое ўражаньне засталося ў вас пасьля нядаўняй сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з работнікамі культуры, якую афіцыйныя СМІ падавалі як эпахальную падзею?

**В. К.:** Нічога больш хлусьлівага, больш жахлівага прыдумаць было немагчыма. Перад гэтай эпахальнай падзеяй Лукашэнка сказаў, выступаючы па тэлебачаньні, што ў нас няма сваіх рэпіных і шаляпіных. Такім чынам ён адмовіў Беларусі ў культуры. Адразу пасьля гэтай заявы з тым жа кавалерыйскім наскокам ён сабраў апляваных, пазбаўленых годнасьці і вартасьці дзеячаў і пачаў ім нешта даводзіць пра культуру… Тыя пісьменнікі і дзеячы культуры, мастацтва, музыкі, якія круцяцца каля дзяржаўнай кармушкі, – гэта тое, што на эстрадзе называецца падтанцоўкай. Лукашэнкава дзяржаўная падтанцоўка пазбаўленая сапраўднай мастацкасьці, пазбаўленая творчага пачатку. Сёньня беларускі пісьменьнік існуе ня дзякуючы дзяржаве, а насуперак ёй.



*Інак Мікалай* (сапр. імя Алег Бембель) — філёзаф, паэт. Вучыўся на энэргетычным факультэце БПІ, у Беларускай кансэрваторыі. Працаваў у Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Ф. Скарыны, у Інстытуце філязофіі і права АН Беларусі, адкуль быў звольнены за выдадзеную ў Лёндане кнігу «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс». Аўтар зборнікаў паэзіі «Рэха малітвы», «Саната ростані», «За мурам» ды інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Менску. З 1996 году жыве ў Жыровіцкім Сьвята-Ўсьпенскім манастыры.

## *Інак Мікалай:* «Неўцаркаўлёны палітык – гэта бяда»

***7 траўня 2002 году***

*Раней я думаў, што манастыр – гэта рэпэтыцыя сьмерці. Чалавек зьнікае са звыклага сьвету, дзе – сябры і сваякі, тлумныя застольлі і штодзённае змаганьне за месца пад сонцам. Ён апынаецца ў абмежаванай прасторы, дзе не змаўкае рэха малітваў, дзе зусім іншая, у параўнаньні са сьвецкім жыцьцём, сыстэма каштоўнасьцяў. Чалавек сыходзіць, і свет спахопліваецца і абураецца: яго пакінулі, бо знайшлі лепшы, яму сказалі «бывай», але не дазволілі падвесьці рысу эпітафіяй. Але і за манастырскім мурам працягваецца жыцьцё... З братам Мікалаем, інакам Жыровіцкага Сьвята-Ўсьпенскага праваслаўнага манастыра (ён жа – паэт Зьніч), мы сустрэліся ў тым самым манастыры пасьля ранішняга богаслужэньня.*

**Міхась Скобла:** Брат Мікалай, у вашым разуменьні манастыр – гэта...

**Інак Мікалай:** Манастырскі мур сымбалізуе адно: той, хто за яго ступіў, памірае для сьвету. Для сьвету як пэўнай сыстэмы грахоўных узаемінаў паміж людзьмі. Але ён уваскрасае для жыцьця вечнага і для сумоўя з душамі чалавечымі, якія засталіся за манастырскім мурам. Ён ачышчаецца душою, і душа яго робіцца праменьчыкам сьвятла для тых, каго ён пакінуў за манастырскім мурам. Так што сыход за манастырскі мур – гэта набліжэньне да чалавечых сэрцаў праз сьмерць для грахоўнага сьвету.

**М. С.:** Нядаўна мне давялося пабываць у Кіева-Пячорскай лаўры. Што адразу кідалася ў вочы ці, дакладней, у вушы – расейскамоўнасьць яе насельнікаў. Лаўра – як чужамоўны востраў пасярод украінамоўнага Кіева. У Жыровічах беларускай



мовы таксама амаль не пачуеш. Атрымліваецца, што манастыры – гэткія сабе амбасады Расеі, яе Праваслаўнай царквы. Ці ж ня так?

**І. М.:** У Жыровіцкай абіцелі я, грэшны інак, з усімі размаўляю па-беларуску. Мушу дадаць, што ў нашай сэмінарыі выкладае протаярэй Сергій Гардун. Ён і грэцкую, і лацінскую мову, і гісторыю Царквы выкладае на беларускай мове. Алесь Кароль царкоўна-славянскую мову выкладае па-беларуску. Канспэкты ў іх студэнты пішуць на беларускай мове. Так што мова ў Жыровічах гучыць.

**М. С.:** Ёсьць у манастыра свой друкаваны орган – «Жыровіцкая абіцель». Выйшла ўжо 34 нумары. Я параўнаў тыя, якія выходзілі два-тры гады таму, і тыя, якія зьявіліся сёлета, і, на вялікі жаль, мушу канстатаваць, што беларускай мовы ў «Жыровіцкай абіцелі» становіцца ўсё менш і менш. Дзеля таго каб бюлетэнь рабіўся ўсё больш расейскамоўным, ёсьць нейкія ўказаньні духоўнага кіраўніцтва?

**І. М.:** Рэдактар «Жыровіцкай абіцелі» інак Мікалай трымаецца такога пункту погляду. Ужо не адзін дзясятак гадоў я ня толькі прафэсійна, але і сэрцам вывучаю праблему мовы. Дык вось, і сэрцам, і досьведам сваім уключанасьці ў вір гэтай праблемы я прыйшоў да такіх высноваў. Як уваскрасіць Беларусь? Сумовіцца па-беларуску. Як уваскрасіць чалавецтва? Бога-Чалавека пусьціць у сэрцы. Сэкулярызацыя грамадзтва давяла да таго, што літаратура сэкулярызавалася таксама, аддзялілася ад Царквы. Асабліва цягам апошняга стагодзьдзя – стагодзьдзя бесаў – яна цалкам сэкулярызавалася. І ў ёй высахла плынь духаноснай лексыкі, а сьвецкая літаратура не напрацавала гэтай лексыкі. І таму адбыўся разрыў, якога не было сем вякоў, які паступова пазначыўся і адбываўся цягам трох апошніх стагодзьдзяў, а дасягнуў кульмінацыі ў наш час. Сёньня сьвецкая літаратура, нават самая эстэтычна дасканалая, прабуксоўвае з-за таго, што ў

ёй перасохлі духаносныя плыні мовы, якія засталіся ў царкоўна-славянскай. І вось гэты прагал...

**М. С.:** Даруйце, пра які недахоп духаноснай лексыкі вы кажаце? Існуе ж Біблія па-беларуску. Як можна было перакласьці Біблію без духаноснай лексыкі?

**І. М.:** Ёсьць вялікая расколіна паміж духаноснымі плынямі літаратурнай мовы і літургічнай мовы, каторую павінна запоўніць маладое пакаленьне нашых сьвятароў, якое мяне вельмі натхняе, яно ўзрастае на маіх вачах. Гэтае пакаленьне ведае і сучасную літаратурную мову, і старабеларускую мову. І гэтая работа паступова вядзецца.

**М. С.:** Наўрад ці гэтую расколіну можна запоўніць расейскамоўнай хрысьціянскай літаратурай. Мне неаднойчы даводзілася бачыць, як вы займаецеся яе распаўсюдам. Даруйце за нетактоўнае пытаньне: чаму вы гэта робіце? Ці ад падобных заданьняў адмовіцца немагчыма?

**І. М.:** Сёньня вакол праблемы мовы моцна закручаныя віры сучаснага палітыканства. Праблему мовы ў адрыве ад сусьветнага супрацьстаяньня Хрыста і антыхрыста, якое ў наш час дасягнула кульмінацыі, разглядаць немагчыма. У кантэксьце гэтай праблемы тыя сілы, якія я пазначаю як «антыхрыстаў інтэрнацыянал», сёньня фактычна кантралююць амаль усе абшары Зямлі.

**М. С.:** А супраць «інтэрнацыяналу антыхрыста» па-беларуску нельга змагацца?

**І. М.:** Можна. У гэтым кірунку я, наколькі маю сілаў, і працую.

**М. С.:** Знаходжаньне ў манастыры, безумоўна, накладае адбітак на вашу творчасьць. «Хай стане маленьнем верш» – ваш радок. За што вы моліцеся ў сваіх вершах?

**І. М.:** Я малюся свайму нябеснаму ахоўніку Мікалаю Цудатворцу, каб ён дапамог усім плямёнам Зямлі – вялікім, меншым, зусім маленькім, усім – прыйсьці да Хрыста праз ягоную Царкву.



**М. С.:** Я ведаю, што да вас у Жыровічы прыяжджаюць ня толькі браты па веры, але і палітыкі. Ходзяць чуткі, што Пятро Краўчанка нават абрад паслушаньня ў вас праходзіў.

**І. М.:** Так, раб Божы Пятро жыў як паломнік у Жыровіцкай абіцелі. Ён прысутнічаў на богаслужэньнях, і ня проста прысутнічаў, а цалкам трымаў манастырскі рэжым. Скажам, калі ў 6 гадзінаў раніцы пачыналася богаслужэньне, дык раб Божы Пятро таксама маліўся. А з 9 гадзінаў пачыналіся манастырскія паслушаньні, якія працягваліся да 17 гадзінаў. І раб Божы Пятро быў на паслушаньнях.

**М. С.:** І што канкрэтна яму даводзілася рабіць?

**І. М.:** Сёлета была сьнежная зіма, дык ён з ломам ачышчаў заледзянелыя дарожкі. А гэта паслушаньне вельмі цяжкое – да крывавых мазалёў. З 9 да 17 гадзінаў, поўны рабочы дзень, з ломам – ня кожны менскі шляхцюк вытрымае. А потым з 18 да 22 гадзіны – ізноў богаслужэньні зь перапынкам на вячэру. А ўвечары – хросны ход вакол цэнтральнай часткі манастыра.

**М. С.:** А ці доўга вам даводзілася навучаць раба Божага Пятра малітвам?

**І. М.:** Я яго не навучаў, ён і сам моліцца добра. Ён прыяжджаў акурат на Вадохрышча, калі былі моцныя маразы. Мы зь ім тройчы на дзень акуналіся ў крынічцы са сьвятой вадой. Нават мяне на другі-трэці дзень, шчыра кажучы, лянота ўзяла. А ён настойваў: «Не, пойдзем на крыніцу». І мы акуналіся тры дні зімой. Я думаю, што ўсім, хто спрабуе займацца палітыкай, не зашкодзіць спачатку ўцаркавіцца, прайсьці манастырскія паслушаньні (хоць на працягу тыдня), а тады ўжо Гасподзь іх можа ўразуміць. Палітыка – вельмі адказная справа. І Гасподзь спагоніць з усіх палітыкаў, якія могуць сваімі дзеяньнямі ўводзіць у спакушэньне людзей.

Асабліва калі яны будуць супраць Хрыста весьці палітыку. А каб правіць лёсы сьвету, які Гасподзь трымае ў сваіх руках, каб быць памочнікам у творчасьці Божай, трэба быць уцаркаўлёным. Неўцаркаўлёны палітык – гэта бяда і вялікая небясьпека для грамадзтва.

**М. С.:** Вы жывяце ў манастыры, пішаце хрысьціянскія вершы, рэдагуеце «Жыровіцкую абіцель», а ў якасьці псэўданіму ўзялі сабе імя язычніцкага бога Зьніча. Ці няма тут разыходжаньня з вашым хрысьціянскім сьветапоглядам?

**І. М.:** Няма. У манастыры зьявіўся хрышчоны Зьніч – дух сьмерці, свяшчэнны Божы агонь, каторы вынішчае на зямлі зло. Хрышчоны Зьніч не супярэчыць праваслаўю.

**М. С.:** Беларусь – адзіная краіна ў сьвеце, у якой колеравая гама нацыянальнага сьцягу (бела-чырвона-белая) супадае з колерамі Хрыста. Чаму ж пра гэта так мала ведаюць праваслаўныя вернікі?

**І. М.:** Мы – сапраўды адзінае племя на зямлі, якое колерамі сваёй плашчаніцы пакрыў Гасподзь. Таму мы найбольш блізкія да Яго. І хросны шлях Хрыста – гэта і шлях Беларусі, наш з вамі шлях. А вернікі, на жаль, ня ведаюць ня толькі гэтага. Мы слаба ведаем Эвангельле, Новы Запавет, запаведзі Божыя, Нагорную пропаведзь... Шмат чаго мы ня ведаем. А трэба ведаць, заглыбляцца ў слова Божае, разумець сымболіку нашу, адчуваць яе глыбінныя карані... Як вядома, касавінка на Божым крыжы сымбалізуе двух разбойнікаў, расьпятых побач з нашым Збаўцам. Яны абодва адчувалі аднолькавыя фізычныя пакуты і спачатку праклінalі ўсё на сьвеце: і свой лёс, і сваіх мучыцеляў, і самога Хрыста, які ня можа ні сабе, ні ім дапамагчы. Але калі разбойнік справа пачуў, як моліцца Хрыстос, у сэрцы ягоным нешта зварухнулася, і ён папрасіў: «Госпадзе, памяні мяне, калі прыйдзеш у Царства Тваё». І Гасподзь адказаў яму: «Існа кажу табе: сёньня са мной будзеш у раі». Першым, каго Гасподзь узяў у рай, быў раскаянны разбойнік. Дык вось, усе мы, у той ці іншай меры, – разбойнікі, кожны разбойнічае па-свойму. Будзем ісьці шляхам раскаяннага разбойніка, а будзем раскаяннымі – зразумеем, чаму нас Гасподзь пакрыў бела-чырвона-белым сьцягам. Будзем не раскаяннымі – што ж, тады выберам вечнасьць без Хрыста.



**М. С.:** Вы кантактуеце са слонімскімі школамі. Ці хінуцца сучасныя школьнікі да рэлігіі, да Бога?

**І. М.:** Магу вам адказаць канкрэтна. Пяць гадоў мы з настаўніцай Слонімскай гімназіі Ліліяй Шынкевіч вялі клясу і давялі да выпуску. І сёлета 100% яе вучняў паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Цягам пяці гадоў вучні гэтай клясы прыяжджалі на манастырскія паслушаньні, дапамагалі нам у гаспадарчых клопатах, у выданьні лістка «Жыровіцкая абіцель», удзельнічалі ў богаслужэньнях, прычашчаліся. І пасьля паступленьня яны адзінадушна сказалі: «Дапамога Божая была з намі, мы яе адчувалі рэальна». Дзякаваць Богу, што цяпер школа і Царква разам.

**М. С.:** У 1985 годзе за выданьне кнігі на Захадзе вас выключылі з Камуністычнай партыі. А калі б сёньня да вас у манастыр прыехаў прадстаўнік гэтай самай партыі, выбачыўся і вярнуў партбілет, вы ўзялі б яго?

**І. М.:** Узяў бы! Толькі з адной умовай, што КПСС будзе расшыфроўвацца так: Крыжаўзьвіжанскі Праваслаўна-Сацыяльны Саюз – з адпаведнай зьменай свайго статуту і праграмы.

**М. С.:** Ну, гэта была б ужо іншая партыя... «Жыровічы – сьвяты для нас куточак» – гэтак пачынаецца адзін зь вершаў Ларысы Геніюш. Вы нядаўна з Жыровіцкага манастыра выяжджалі ў Зэльву дзеля ўшанаваньня памяці паэткі. Што для вас значыць гэтае імя?

**І. М.:** Раба Божая Ларыса – вялікая наша

рыфмарка, шчырая праваслаўная верніца. Царства ёй нябеснае! Беспасярэдне мне зь ёю ў жыцьці не пашанцавала сустрэцца. Але празь сяброў ёй было перададзена маё чатырохрадкоўе, якое яна вельмі цёпла ўспрыняла: «Вякі плывуць, а Ён раскрыжаваны, / жывы... ў крыві цячэ цьвікоў іржа... / А род людзкі, нячыстым апантаны, / ня мае сілы зьняць Яго з крыжа». Праз гэтае чатырохрадкоўе я адчуваў з Ларысай Геніюш нейкую малітоўную лучнасьць. І цяпер я кожны дзень малюся за супакаеньне душы рабы Божай Ларысы і адчуваю, як ад яе ідзе цеплыня.

**М. С.:** Працытаванае вамі чатырохрадкоўе было надрукаванае, здаецца, у адной з вашых «замежных» кніг. Увогуле, зьдзіўляе геаграфія іх выданьня. Кніга «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» выйшла ў Лёндане, «Рэха малітвы» – у Нью-Ёрку, «Саната ростані» – у Беластоку. Ці не прыйшла пара выдавацца на радзіме?

**І. М.:** Калі я ў свой час падаваў заяву на ўступленьне ў Саюз пісьменьнікаў, я яе сфармуляваў наступным чынам: «Максіму Танку, Нілу Гілевічу. Прашу прыняць мяне ў ваш Саюз. Бо ў краіне сіняй, дзе я ўваскрасаю / ў сузор'і мар, найбялейшых у сьвеце, / я не самотны, я кнігу маю / з друкарні пані Маргарэт Тэтчэр». Браты-пісьменьнікі пасьмяяліся і ніяк не адрэагавалі на маю заяву. Потым я да яе дапісаў дадатак: «Марыся Тэтчэр сваёй ральлёй / пайшла, болей поле маё не арэ яна. / Другая кніжка самоты маёй – / з друкарні пана Рональда Рэйгана». А потым яшчэ адзін post scriptum зьявіўся: «І вось нечакана кніжачка трэцяя – / з друкарні пана Войцеха Ярузэльскага». Калі Гасподзь захоча, можа, мая наступная кніга «За мурам»* выйдзе ў друкарні якога-небудзь тутэйшага пана.

*Паэтычны зборнік Зьніча «За мурам» выйшаў у 2006 годзе ў Слоніме.



*Славамір Адамовіч –*

паэт, празаік. Закончыў філфак БДУ. Працаваў у саўгасе «Будслаўскі», на Беларускай чыгунцы, у «Настаўніцкай газэце». У 1995 годзе быў асуджаны за напісаньне верша «Убей президента!», у турме трымаў сухую галадоўку. Пасьля вызваленьня выяжджаў на заробкі ў ЗША, сем гадоў жыў у Нарвэгіі ў статусе гуманітарнага ўцекача. Аўтар кніг «Зямля Ханаан», «Плавільшчыкі расы», «Турэмны дзёньнік» ды інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Ўнежма Архангельскай вобласьці (Расея). Жыве ў Менску.

## *Славамір Адамовіч:* «Падмятаць чужыя стайні для мяне не ганебна»

***9 верасьня 2002 году***

*Са школьных гадоў многім памятаецца багдановічаўская «Эміграцкая песьня» – пра людзей, якім «прыемны стракатыя сьцягі караблёў акіянскага порта». Сучасьнікі клясыка пакідалі радзіму пераважна дзеля кавалка хлеба. Сёньняшнія эмігранты шукаюць за мяжой ня толькі хлеб, але і свабоду. Паэт Славамір Адамовіч за верш «Убей президента!» дзесяць месяцаў адсядзеў у менскай турме, дзе трымаў сухую галадоўку. У ягоную падтрымку выступілі міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, айчынныя і замежныя дзеячы культуры. Выйшаўшы на волю, С. Адамовіч ня змог знайсьці працу, выяжджаў на заробкі ў ЗША. Вярнуўшыся з-за акіяну, даверліва прызнаўся, што думае пра эміграцыю палітычную. І вось – рашэньне пра выезд прынятае.*

**Міхась Скобла:** Славамір, чаму ты выбіраеш шлях эміграцыі?

**Славамір Адамовіч:** Мне абрыдла назіраць сёньняшнюю беларускую сытуацыю, тым больш у ёй знаходзіцца. У такіх умовах я не знаходжу адэкватнай для сябе рэалізацыі – і ў літаратурнай творчасьці, і ў грамадзка-палітычным жыцьці.

**М. С.:** У якую краіну ты едзеш і чым там мяркуеш займацца?

**С. А.:** Я пакуль не магу назваць адну са скандынаўскіх краінаў*, у якую еду. Яна вельмі падобная на Беларусь – найперш сваёй гісторыяй, але на сёньня грамадзка-палітычная і эканамічная сытуацыя там

*З 2002 да 2009 году Славамір Адамовіч жыў у Нарвэгіі, сёлета вярнуўся ў Беларусь.



непараўнальная з нашай. Па тэрыторыі тая краіна ўдвая меншая за Рэспубліку Беларусь, яе насельніцтва складае каля 5 мільёнаў чалавек. Яна можа сабе дазволіць прымаць у сябе іншаземцаў, тым больш палітычных уцекачоў. Колькі часу мне давядзецца жыць за мяжой, я не бяруся прагназаваць. Гэта адначасова і палітычная, і эканамічная і, у вялікай ступені, духоўная эміграцыя.

**М. С.:** Нядаўна госьцем «Вольнай студыі» быў прадпрымальнік з Горадні Валянцін Дубатоўка. Сярод іншага ён сказаў вельмі слушную рэч: «Ня варта пакідаць Беларусь Лукашэнку». І сапраўды, у кожнай эміграцыі ёсьць элемэнт капітуляцыі. Ты згодзен з гэтым?

**С. А.:** Гадоў пяць таму я, можа, і пагадзіўся б з такой тэзай. Сёньня – не. Можна, вядома, распускаць палітычныя пёры, я гэта рабіў апошнія гадоў восем. Але ўрэшце мне стала шкада сваіх высілкаў: у краіне нічога не мяняецца да лепшага. Сытуацыя толькі пагаршаецца. Ідзе татальная дэмаралізацыя – ня толькі гэтак званай вэртыкалі, але і тае часткі грамадзтва, якую мы называем апазыцыяй. Дэмаралізуецца і сфэра літаратуры. Нейкі поўны распад. Калі б я быў слабейшы духам, то ад роспачы нарабіў бы глупстваў. А я глупстваў больш не жадаю рабіць... Кожнага дня, выходзячы ў горад, я сустракаю маладых людзей, якія ня бачаць у Беларусі пэрспэктывы. Гэта дзейныя, энэргічныя людзі. І я сёньня ім кажу: трэба выяжджаць. Гэта ня значыць, што трэба парываць з гэтай краінай. Калі ёсьць магчымасьць за мяжой зарабляць грошы, дзейнічаць там у палітычнай сфэры, трэба ехаць і працаваць там. У Беларусь цягам бліжэйшых двух-трох гадоў я не вярнуся.

**М. С.:** За мяжою ты ўжо жыў – пазалетась на паўгоду выяжджаў на заробкі ў ЗША, пра што напісаў у сваім «Амэрыканскім дзёньніку». Ты заўсёды падкрэсьліваў сваю прыналежнасьць да старога бела-

рускага роду, тое, што ты паэт свабодалюбны. А цябе не бянтэжыць, што на чужыне ты – чалавек цалкам паднявольны і вымушаны рабіць тое, што скажуць: падмятаць падлогу ды прыбіраць сьмецьце?

**С. А.:** Гэта мяне бянтэжыць, і я пра гэта таксама пісаў. Але падмятаць чужому і падмятаць свайму – дзьве вялікія розьніцы. Ідучы ў наймы да чужога, ты не здаеш у наймы свой духоўны, псыхалягічны стан. Падмятаць чужыя стайні для мяне не ганебна, а рабіць тое самае ва ўласнай краіне для мяне непрымальна. Тут я Славамір Адамовіч, літаратар. Там я не магу прэтэндаваць на стаўленьне да мяне як да паэта. Тут я магу зашываць рот, сядзець у турме. Але – каб гэта было запатрабавана грамадзтвам, каб быў нейкі кантэкст. І тады я магу адэкватна дзейнічаць.

**М. С.:** Я адчуваю, што табе пра гэта ня вельмі прыемна гаварыць. Давай зьменім тэму. У друку і ў этэры працягваецца абмеркаваньне расейска-беларускіх дачыненьняў. Адзін мой знаёмец, дарэчы этнічны расеец, даўся дзіву: як гэта ніводная беларуская радыкальная арганізацыя ня выступіла з заявай, што калі Беларусь будзе далучаная да Расеі, у апошняй на заходняй мяжы зьявіцца яшчэ адна Чачэнія. Дзе, маўляў, «Белы легіён», дзе «Правы рэванш», пра якія не-не дый згадае незалежны друк? А і праўда, дзе? Палітычныя заявы – гэта таксама спосаб змаганьня.

**С. А.:** «Правага рэваншу» на сёньня не існуе. Не існуе таму, што я ня змог разьвітацца са сваімі мастакоўскімі, пісьменьніцкімі прэтэнзіямі. Палітычная дзейнасьць радыкальнага кшталту, як і мастацтва, патрабуе чалавека цалкам. Я паспадзяваўся (скажу гэта з пэўнай доляй аплёмбу), што мой радыкалізм падхопяць прафэсіяналы, якія будуць займацца вылучна палітыкай. Таму я на пэўным этапе (калі быў зьняволены) справу «Правага рэваншу» спыніў. А што да іншых арганізацыяў, то я за іх не адказваю...



Я магу з пэўнасьцю сказаць, што ў Беларусі ёсьць многа людзей, якія ў патрэбны момант гатовыя стаць пад штандары нацыянальных радыкальных рухаў.

**М. С.:** У сваім «Амэрыканскім дзёньніку» ты даволі зьняважліва раіш беларускім апазыцыйным палітыкам панюхаць турэмнай парашы. Няўжо, нюхнуўшы яе ды залезшы на нары, палітык зробіцца больш разумным і дальнабачным?

**С. А.:** Я маю права на такую параду. Турма – гэта дзіўна, непрыемна, але яна можа дапамагчы палітыку больш адэкватна паводзіць сябе ў грамадзка-палітычнай прасторы. Яна вучыць гаварыць зь людзьмі, зь любымі людзьмі, а ня толькі з тымі, з кім прыемна ці карысна бавіць час. Варта прыгадаць гісторыю Індыі. Здабыцьцю індыйскай незалежнасьці папярэднічалі гадоў трыццаць негвалтоўнага змаганьня, калі тысячы індыйцаў сядзелі ў турмах, і найперш – духоўныя кіраўнікі: Джавахарлал Нэру, Махатма Ганды. Можна згадаць і сучаснага прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавала, які таксама сядзеў. А тыя ж бальшавікі, яны таксама прайшлі праз турмы, яны былі загартаваныя і ўрэшце дамагліся сваёй мэты – збудавалі гіганцкую імпэрыю СССР. Сядзець у турме палітыкам, можа, і неабавязкова, але ня варта гэтага баяцца.

**М. С.:** Ты пішаш, што цябе апошнім часам перасьледуе жаданьне «пайсьці ўзарваць аўтамабіль і даць па мордзе». Першае, як мне здаецца, ажыцьцявіць прасьцей, адшукаўшы дзе-небудзь у двары лядашчы, кінуты гаспадаром «запарожац». Другое больш філязофскае – трэба мець ворагаў. У цябе іх шмат?

**С. А.:** У мяне яны ёсьць. Мае ворагі – гэта адзін усім вядомы чалавек і агульнае здранцьвеньне. Мне абрыдла існаваць у гэтай сытуацыі здранцьвеньня, быць побач з гэтым чалавекам. Я зьяжджаю, каб захаваць дух свой, псыхіку не зламаць сваю. Таму што

ў нашай краіне ўсё ставіцца з ног на галаву і наадварот. Сёньня мы чуем, што Лукашэнка – ледзь не гарант нашай канстытуцыі і незалежнасьці. І ўжо хтоніхто гатовы забыць пра тысячы маладых людзей, якія прайшлі праз турмы, якіх пакалечылі, якім аднялі здароўе. Мы маем канкрэтных ахвяраў, маем зьніклых людзей. Мы ўжо гатовыя пра гэта забыць. Мяне сёньня такая сытуацыя больш бянтэжыць, чым тая, калі раней я бачыў на экране чалавека, які пачынаў з духоўнага згвалтаваньня мовы, гісторыі, сымбаляў нацыянальных, а потым перайшоў да фізычнага зьнішчэньня людзей. І сёньня гэты чалавек можа стаць для нашай апазыцыі гарантам канстытуцыі! Такая сытуацыя для мяне найбольш непрымальная... Вось я чытаю ў «ЛіМе» словы дырэктара Інстытуту літаратуры Ўладзімера Гніламёдава, што трэба аб'яднацца вакол нашага прэзыдэнта і рабіць... Але што рабіць і як рабіць – не расшыфроўваецца. Каму аб'яднацца – мне, табе? І што рабіць з чалавекам, які зьнішчае кожным сваім учынкам той сродак, пры дапамозе якога мы і ствараем гэтую самую беларускую літаратуру?! Што далей? Мая галава адмаўляецца ўсьведамляць тую рэчаіснасьць, якая вакол.

**М. С.:** Ты сказаў, што адзін з матываў твайго ад'езду – немагчымасьць быць поруч з чалавекам, які зараз ледзь не гарант... І ў той жа час ты носіш майку з выявай Лукашэнкі на грудзях. Навошта?

**С. А.:** На майцы Лукашэнка поруч зь Бін Лядэнам, і надпіс пад імі па-ангельску: «Расшукваюцца». Іх аб'ядноўвае тэрор. Толькі адзін зьдзяйсьняе яго ў адносінах да іншых народаў, а другі – тэрарызуе свой. І таму калі я чую за сьпінай сьмех моладзі, у мяне паляпшаецца настрой. Бальшыня людзей успрымаюць маю майку адэкватна. Няхай гэта будзе маім унёскам у агульную антыпрэзыдэнцкую кампанію ў Беларусі.



*Анатоль Сыс –*
паэт. Закончыў гісторыка-філялягічны факультэт Гомельскага дзяржунівэрсытэту. Працаваў тэхнікам на Беларускім тэлебачаньні. Адзін з арганізатараў літаратурнага таварыства «Тутэйшыя». Аўтар кніг «Агмень», «Пан Лес», «Лён» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёну. Жыў і памёр у 2005 годзе ў Менску.

## *Анатоль Сыс:* «Я – яшчэ ня попел і ня прысак...»

***27 кастрычніка 2002 году***

*Апошнім часам паэт Анатоль Сыс рэдка зьяўляецца на публіцы. Пачуўшы гэта, нехта з палёгкаю ўздыхне, прыгадаўшы яго з рондалем баршчу ў паважным прэзыдыюме ці няўседлівым і заўсёды чымсьці абураным у шматлюднай залі. Але найбольшую трывогу выклікала тое, што падобныя дзівацтвы рабіліся ледзь не адзіным сродкам самавыяўленьня для таленавітага творцы. А таму выхад у сьвет яго новай кнігі зацікавіў чытачоў: няўжо Сыс не зьмяніўся, ня ўзяўся нарэшце за розум? Калі паэт прыйшоў у менскае бюро Радыё Свабода, наша гутарка пачалася з абмеркаваньня кнігі, якая і сваёй назвай, і мастацкай аздобай падказала першыя пытаньні.*

**Міхась Скобла:** Анатоль, з тваім новым зборнікам будуць мецць клопат бібліёграфы, рэгіструючы яго ў каталёгах. Аўтар – Сыс, назва таксама – «Сыс». Навошта ты і тут стварыў праблему?

**Анатоль Сыс:** Я ў гэтым не вінаваты. Я хацеў назваць кніжку «Лён». Але яе афармляў мастак Аляксей Марачкін, і ён прапанаваў назваць яе «Сыс». А мне што? Кажу, назаві мяне хоць чыгуном, толькі ў печ ня стаў. Пагаварылі гэтак, і я паехаў дамоў, у вёску Гарошкаў Рэчыцкага раёну. Мама мая хварэе моцна, і таму я павінен быць пры ёй. А прыехаў – і мяне паставілі перад фактам: кніжка выйшла і называецца «Сыс». Я быў вельмі шчасьлівы, і ўсе мае аднавяскоўцы і сябры. Яны – таксама ўсе нацыяналісты, як і я.

**М. С.:** На вокладцы тваёй кнігі зьмешчаны фотакаляж: Сыс углядаецца ў Сыса. Што ты бачыш, паглядзеўшы на сябе збоку?



**А. С.:** Што я бачу... Сыс – гэта нарцыс, так мяне заўсёды рыфмуюць. Але я не нарцыс. Прайшоў той час, калі я быў маладым і вельмі раўнівым у паэзіі. А цяпер прачытаю чые-небудзь вершы, прыкладам Віцькі Шніпа, ён сто вершаў за год піша, і калі знайду хоць адзін радок прыгожы, дык бегаю, усіх сяброў сваіх клічу і хвалюся: во, як Віцька напісаў! Быццам бы сам напісаў, я крэпка рады. Раўнівасьць у мяне прайшла ў паэзіі. Ужо ня той узрост. Во, мне 26 кастрычніка споўнілася 44 гады... А каляж той прыдумаў таксама Марачкін. Ён, мабыць, паленаваўся маляваць. Паклікаў сына Ігара, ён таксама мастак. Той прыйшоў зь лічбавай фотакамэрай, я распрануўся да поясу, яны мяне фатаграфавалі. А потым далі здымкі на вокладку. А мне і так добра.

**М. С.:** Ты цяпер жывеш пераважна ў Гарошкаве. Са сталічнай мітусні – у вясковую заціш. Ня сумна?

**А. С.:** Не, гарошкаўцы – цікавыя людзі. Гарошкаў стаіць на Дняпры, гэтым летам я крэпка рыбу лавіў. Была нядаўна такая гісторыя. Да нас з Гомельскага ўнівэрсытэту студэнты прыяжджалі народную творчасьць запісваць. Знайшлі гарошкаўскага дзеда Грыньцю. Дык ён ім тры касэты нагаварыў сваіх вершаў. Яны прыйшлі да мяне пахваліцца. Я кажу: урубіце мне запіс. Паслухаў-паслухаў, і да мяне дайшло. Гавару: «Дурні вы гэткія! Няўжо вы ня ведаеце беларускую літаратуру?» А дзед Грыньця начытаў ім з Багушэвіча, зь Якуба Коласа... У мінулую вайну ён быў артылерыстам, і яго кантузіла пад Бэрлінам. Застаўся адзін пры гармаце і адстрэльваўся ад фашыстаў. Ён цяпер глуханямы, але памяць выдатную мае! Ня тое што я, – толькі некалькі ўласных вершаў памятаю. Вось такі ў нас «народны паэт» дзед Грыньця. І гэткіх незвычайных людзей багата ў Гарошкаве. Але сёньня мой Гарошкаў, а мабыць, і ўся Беларусь, дажыліся да таго, што ўсе маладыя людзі п’юць. А як толькі нап’юцца – адна

размова: каб не было гэтага... (ня буду мацюгацца) Лукашэнкі. Ён загнаў нас у кут. Ой-ёй, я ня ведаю... На нядаўнім пісьменьніцкім зьезьдзе я надпісаў і перадаў яму сваю кніжку з гэткім надпісам: «Алесь, любі Беларусь, любі сваю маці. Яна ў цябе старэнькая, як і ў мяне. Дык беражы яе!».

**М. С.:** Я памятаю тваю маці ў перапоўненай залі Дому літаратараў, дзе адбывалася прэзэнтацыя зборніка «Пан Лес». Мне здаецца, яна была тады шчасьлівай. Тваё жыцьцё ў вёсцы мае сялянскі ўклад, ці вярнуцца да яго ў цябе няма змогі?

**А. С.:** У нас ёсьць невялікая гаспадарка: карова, певень, пяцёра курэй і чатыры каты. У маці пэнсія – семдзесят тысячаў рублёў. Я нідзе не працую, мне за вершы нічога ня плацяць. Кніжка выйшла толькі дзякуючы спонсару – маёй сяброўцы Валянціне Якімовіч. Дзяржаўнае выдавецтва ніколі ня выдала б.

**М. С.:** А хто займаецца гаспадаркай? Карове сена трэба накасіць, дый падаіць...

**А. С.:** Бывае, сястра з Рэчыцы пад'едзе, падоіць, а так даводзіцца самому, навучыўся. Матцы восемдзесят гадоў споўнілася, яна хворая ляжыць. Няма сілы карову трымаць, будзем прадаваць.

**М. С.:** У Менску засталіся твае чытачы. А ў Гарошкаве ці чытаеш ты каму свае вершы, ці маеш з кім пагаварыць пра літаратуру?

**А. С.:** Усім здаецца, што простыя людзі далёкія ад літаратуры і ўвогуле ад культуры. А ў Гарошкаве, як толькі сядзем пагаварыць, усе просяць, каб я пачытаў, усім хочацца ўзвышанага ў гэтым сьвеце. А яны мне за гэта ў якасьці ганарару пад'есьці дадуць, калі ў мяне няма, а часам і чарку нальюць. Калі ў іх няма пад'есьці, я зь імі дзялюся, малака ім прынясу. Так мы і жывём, дзелімся, адзін не пражывеш.

**М. С.:** Памятаю, як ты гаварыў: «Вось выйдзе кніжка, і я пачну новае жыцьцё: кіну піць, блазнаваць, пачну пісаць». Кніжка выйшла, а новае жыцьцё пачаць не ўдаецца. Ці ты не спрабуеш?



**А. С.:** Як Бог дасьць. Нядаўна ў мяне быў Алег Бембель, цяпер брат Мікалай, з Жыровіцкага манастыра. Дарэчы, ён асьвяціў маю кватэру, хоць пастрыжаныя манахі і ня маюць на гэта права. Але я яму ўдзячны за гэта. «Пути Господни неисповедимы», як кажуць расейцы...

**М. С.:** Яны яшчэ кажуць: «На Бога надейся, а сам не плошай». А па-беларуску гэта будзе: на Бога спадзявайся, але і сам старайся...

**А. С.:** Я згодзен. Усе людзі такія радыя, што ў мяне кніжка выйшла. Усе так у мяне вераць. Я буду пісаць – так адчуваю па сабе, па сваім нутры.

**М. С.:** Даводзілася чуць, што кампанія па спойваньні Сыса была сплянаваная ледзь не ў кабінэтах КДБ. І сапраўды, ты часта заседжваўся ў застольлях з малазнаёмымі людзьмі. А сам ты што думаеш пра сваё пакланеньне шкляному богу?

**А. С.:** Ды ніхто мяне ня спойваў. Гэта спадчыннае. Бацька ў мяне піў, браты мае п'юць, родзічы ўсе п'юць, апрача жанчынаў. Мужчынская палова ўся п'е. Я быў народжаны на 50% спэрмаю і на 50% гарэлкаю. І ад гэтага нікуды не падзенесься.

**М. С.:** Чытаючы тваю новую кніжку, я лавіў сябе на думцы, што тэксты выпалі з кантэксту часу. Альбо час зь іх выпаў – ці ня ўсё адно. І толькі верш «Беларускія Ікары» рэзануў двума радкамі: «Ёсьць, Ікары, ёсьць і ў вас сталіца. Там тыран накрыў для вас сталы...». Ці тыран у цябе тут – вобраз абагульнены?

**А. С.:** Абагульнены. Тыраны былі, ёсьць і будуць. І нічога з гэтым не паробіш. Але Лукашэнка – не тыран. Ён ня тое што заблудзіўся, у яго – амбіцыі. І няхай ён кіне свае амбіцыі. У нас адна Радзіма, у нас адна зямля і адзін хлеб.

**М. С.:** Ну, калі ты ўжо такі неабыякавы да Лукашэнкі, то наступнае пытаньне акурат пра яго.

Месяцы два таму ў газэтах быў апублікаваны рэйтынг кіраўніка Беларусі, сацыёлягі цьвердзяць, што нібыта чарговым разам ён упаў. А як па тваіх вясковых назіраньнях?

**А. С.:** Пастараюся адказаць аб'ектыўна. У маім Гарошкаве дзесьці адсоткаў 60 супраць Лукашэнкі, астатнія – за. Абыякавых мала. Чаму так шмат за Лукашэнку? Відаць, таму, што наш калгас «Савецкая Беларусь» – адзін з самых багатых. У нас камбайнэры Ярыловічы штогод займаюць прызавыя месцы на ўборцы збожжа. Аўтамабілі ім давалі, матацыклы, лядоўні. Нашы людзі з ранку да цямна працуюць, хто працаваць хоча. Трактарысты атрымліваюць па дзьвесьце тысячаў, пастухі – па сто пяцьдзесят тысячаў. Нармалёва, пражыць можна. Але нядаўна да нашага калгасу прыядналі суседні калгас «Сьвірыдавічы», які разваліўся, дык у нашага старшыні інфаркт быў: чым людзям заробак плаціць?

**М. С.:** У тваёй менскай аднапакаёўцы – запусьценьне. Ствараецца ўражаньне, што і кніжкі, якія стаяць на паліцах, ты ў рукі не бярэш. Няма патрэбы чытаць, ці няма тых кніжак, чытаць якія ёсьць патрэба?

**А. С.:** Чаму, я чытаю. Гарошкаўскую бібліятэку я напалову ўжо прачытаў. Праўда, да мастацкай літаратуры апошнім часам мала зьвяртаюся, чытаю больш газэты. З матчынай пэнсіі выпісаў «Народную волю». У суседа бяру «Советскую Белоруссию». А калі няма чаго пачытаць, дык гарэлку чытаю. А самае лепшае чытаньне – сустрэцца і пагаварыць з нармалёвым, цьвярозым чалавекам, сябрам.

**М. С.:** Калі выходзілі твае зборнікі «Агмень» і «Пан Лес», усе крытыкі адзначалі ў іх паганскія матывы. Думаю, з такім жа посьпехам там можна было адшукаць і матывы хрысьціянскія. А якое ў цябе стаўленьне да рэлігіі, да Бога?

**А. С.:** Калі я вучыўся ў Гомельскім унівэрсытэце, дык зьбіраў абразы. У мяне іх было каля сямідзесяці! Я з-за іх ледзь вучобу ня кінуў, яны мне нават сьніліся. А потым я падараваў сваю калекцыю ў Гомельскі краязнаўчы музэй – цэлы аўтобус напакавалі. Я сабе пакінуў чатыры абразы ўсяго, дый потым сябрам раздарыў. Цяпер у мяне ў менскай кватэры толькі адзін абраз – зь вёскі Холмеч Лоеўскага раёну.

**М. С.:** А ці ёсьць у Гарошкаве царква?

**А. С.:** Не, няма, ёсьць у суседняй вёсцы. Нядаўна пабудавалі. Дарэчы, Аляксей Марачкін падараваў маёй маці Марыі абраз уласнай работы – «Маці Божая Чарнобыльская». Дык я маму ўгаварыў перадаць яе ў новазбудаваны храм, там жа сьцены голыя былі. Абраз той там і цяпер вісіць, недалёка ад алтара... Я веру ў Бога. Але ў царкву хаджу рэдка, гады ў рады. Калі вельмі-вельмі цяжка на душы. Дык калі прыпрэ, я бягу ў царкву. Было такое, што прыбягаю і на калені станаўлюся. Але лягчэй мне ўсё адно ня робіцца. Мабыць, я крэпка зграшыў у гэтым жыцьці...

**М. С.:** «Я яшчэ ня попел і ня прысак...» – пішаш ты ў сваёй новай кніжцы. Што падтрымлівае твой прыцьмелы творчы агмень сёньня, не дае яму передчасна патухнуць?

**А. С.:** Матка мая. Яна сказала: «Толік, я буду жыць, пакуль ты жывеш. І таму, калі выйшла кніжка, я адразу прынёс яе маці. Яна была радая. Мама, для цябе я верш пачытаю, можа, ты яго і ня чула: «На твары шчаціньне, як пожня жытнёвая, / вочы – праталіны мутнай вады... / – Мілы сынок мой, пачні жыцьцё новае, / грэх блазнаваць у Хрыстовы гады. / – Мама, я рады б – як пчолы на ліпень, / музы лятуць на хмяльнога мяне. / Жыць без паэзіі – гэта ж пагібель! / Жыць без віна? Гэта ж сьмерць удвайне. / Хто ж вінаваты, што аж з нараджэньня / зь мёдам смакчу я зь цябе малако? / Ведаю, сохне пацяху карэньне, / хоць і жывеш над

Вялікай Ракой. / Ну і няхай музам колкая пожня, / горкія вусны мае, дык няхай. / Мама, такога народзіць ня кожная, / мама, не перажывай!». Матка мая працавала настаўніцай, потым была хатняй гаспадыняй, гадавала дзяцей. Нас у сям'і было чацьвёра: сёстры Тамара і Валянціна, брат Віктар ды я. Хапала клопату. Перад пэнсіяй матка працавала ў калгасе, дзе лёгкай работы няма. Напрацавалася, цяпер хварэе. Я стараюся ёй памагаць, усё раблю. Мама, мы ўчора адзначылі мой дзень народзінаў, выпілі трохі. «Мая ж хата без сяброў – ня хата...» І ў Менску так, і ў Гарошкаве – ты ж ведаеш. Усё будзе добра – мы яшчэ пажывем.



*Ігар Дабралюбаў –*
кінарэжысэр. Закончыў БДУ і Ўсесаюзны інстытут кінематаграфіі ў Маскве. Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», у менскім Інстытуце сучасных ведаў. Сярод зьнятых фільмаў – «Іван Макаравіч», «Белыя росы», «Восеньскія сны», «Плач перапёлкі». Народны артыст Беларусі. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў Новасібірску (Расея). Жыве ў Менску.

## *Ігар Дабралюбаў:* «Экранізаваць творы Васіля Быкава – мая мара»

***1 сьнежня 2002 году***

*Да Ігара Дабралюбава музы, у адрозьненьне ад уладаў, заўсёды былі прыхільныя. Ня кожнаму рэжысэру ўдаецца ў трыццаць зь лішкам гадоў атрымаць прыз на міжнародным кінафэстывалі ў Вэнэцыі альбо зьняць любімы многімі пакаленьнямі фільм накшталт «Белых росаў». На жаль, апошнім часам рэжысэр зусім не здымае, а ўсе ягоныя творчыя ідэі не знаходзяць падтрымкі ў Міністэрстве культуры. Там да народнага артыста Беларусі, клясыка савецкага кіно стаўленьне падазронае: ня тыя ідэі прапаноўвае знакаміты рэжысэр чыноўнікам. І ўсё ж, нягледзячы на цэнзуру ідэяў, Ігар Дабралюбаў ад сваіх творчых плянаў адмаўляцца не зьбіраецца і марыць пра экранізацыю твораў Васіля Быкава.*

**Міхась Скобла:** Ігар Міхайлавіч, сёлета роўна сорак гадоў, як вы прыйшлі працаваць на «Беларусьфільм». Зразумела, што за гэты час кінастудыя перажыла розныя этапы: і час няўдачаў, і пэрыяд росквіту, зьвязаны, у тым ліку, і з вашымі фільмамі. Як бы вы ацанілі сёньняшнюю сытуацыю на «Беларусьфільме»?

**Ігар Дабралюбаў:** Калі я ўпершыню зьявіўся на «Беларусьфільме», там панавала вельмі творчая атмасфэра. Пад крыло да карыфэяў беларускага кіно Ўладзімера Корш-Сабліна ды Юрыя Тарыча прыехалі многія выпускнікі маскоўскага Ўсесаюзнага інстытуту кінаматаграфіі. Адносіны да маладых былі прыхільныя, старэйшыя майстры ведалі, што маладыя рэжысэры – гэта саджанцы. А каб саджанцы добра расьлі, іх трэба доўга даглядаць: паліваць, падкормліваць і нават калготкамі



абвязваць, каб драпежнікі розныя кару не паелі. Маладым давалі працу, ім дапамагалі стаць на ногі. І было нямала карцінаў, зьнятых пачаткоўцамі, якія рабіліся пераможцамі на міжнародных кінафэстывалях. Скажам, мой фільм «Іван Макаравіч» у 1970 годзе атрымаў «Срэбную Мінэрву» ў Вэнэцыі. Праўда, я ня змог паехаць на той фэстываль, гэта даволі забаўная гісторыя. Я толькі сабраўся ехаць, як з Масквы далі каманду зрабіць Дабралюбаву і ўсім, хто ехаў, прышчэпку ад халеры, бо ў Італіі быццам бы эпідэмія. Я пайшоў у паліклініку, зрабіў укол, а доктар патрабуе прыйсьці яшчэ некалькі разоў, бо аднаго ўколу мала... А я ўзяў і не пайшоў. Так і застаўся дома бяз «Срэбнай Мінэрвы».

**М. С.:** Затое ад халеры ўратаваліся.

**І. Д.:** Ага, Бог мілаваў. А сёньня сытуацыя на «Беларусьфільме» проста катастрафічная. Памятаю, галоўным рэдактарам на студыі працаваў паэт Аркадзь Куляшоў, гэта ж была асоба – інтэлект, талент. Ён усіх нас, маладых, любіў. Сёньня на «Беларусьфільме» ўвогуле няма ні мастацкага кіраўніка, ні галоўнага рэдактара, ні мастацкай рады! Пры Міністэрстве культуры ёсьць нейкая рада, экспэртная, але я ня ведаю там ніводнага экспэрта! У вытворчасьць запускаецца невядома што. Маладым не даюць працаваць. Вось запусьцілі нядаўна «Настасьсю Слуцкую» – ну гэта ж Сярэднявечча, гэта ж дорага. За гэтыя грошы можна было б зьняць дзьве, а то і тры сучасныя карціны!

**М. С.:** Дык «Настасьсяй Слуцкай» апякуецца асабіста Аляксандар Лукашэнка. Увогуле, калі паглядзець збоку, беларускі прэзыдэнт зацікаўлены праблемамі кіно, нават на здымачную пляцоўку наведваецца, паказвае сваю заклапочанасьць. Ці гэта гульня на публіку?

**І. Д.:** Лукашэнку, відаць, вельмі хочацца прайсьці па чырвонай дарожцы дзе-небудзь у Канах. Але туды трэба атрымаць запрашэньне, сам не паедзеш.

Дый з выездам за мяжу ў яго праблемы. Тут неабходна ўдакладніць адну важную рэч. Прэзыдэнт наведваў не кінастудыю, а кінафабрыку – гэта розныя ўстановы, хоць і пад адной страхой. Студыя – гэта творчыя людзі, сустракацца зь імі ў яго няма асаблівай ахвоты. А калі каго і запрасілі на сустрэчу, то сваіх, правераных, па адмысловым сьпіску. Я туды не хадзіў. А калі б пайшоў, то не прамаўчаў бы... Таму і не запрашаюць.

**М. С.:** Вы ўжо 10 гадоў не здымаеце. Што рабіць беспрацоўнаму рэжысэру, каб не памерці з голаду?

**І. Д.:** Не паміраць. Я жыву на сваю пэнсію, трохі дзеці дапамагаюць.

**М. С.:** А якая пэнсія ў народнага артыста Беларусі, калі не сакрэт?

**І. Д.:** Ажно 134 тысячы ды яшчэ 30 тысячаў за званьне даплачваюць. Але я не хачу скардзіцца. Горш тое, што працаваць не даюць. Я чыноўнікам зь Мінкульту сказаў: «Вы ставіцеся да мяне так, быццам прачыталі мой нэкралёг. Так пакажыце яго мне, можа, я і праўда памёр?!» Любому мастаку прыемна, калі яго карціна вісіць у Люўры, але яму ўдвая прыемней, калі яго паважаюць удома.

**М. С.:** Днямі паказвалі па тэлебачаньні адзін з вашых фільмаў. Ці атрымліваеце вы нейкія аўтарскія адлічэньні за дэманстрацыю сваіх твораў?

**І. Д.:** Пра што ты гаворыш?! Ніхто ў мяне не пытае ніякага дазволу і ніякіх аўтарскіх я не атрымліваю! Пра тое, што паказваюць мой фільм, я выпадкова даведваюся з тэлепраграмы. Такая дробязь, як аўтарскае права, у нашай краіне нікога не цікавіць!

**М. С.:** Вы – народны артыст Беларусі. І ў той жа час – праблемны рэжысэр, праблемны для чыноўнікаў. Колькі фільмаў вам не ўдалося зьняць з прычынаў зусім ня творчых?

**І. Д.:** Мне вельмі цяжка гаварыць пра гэта, ты кранаеш мае інфаркты і шрамы на сэрцы. Тут цяжка



адназначна адказаць. Раней усё зацьвярджалася ў адпаведных інстанцыях, а ўжо творчыя прычыны для адмовы былі ці нятворчыя – сёньня меркаваць цяжка... І ўсё ж раскажу пра адзін выпадак. Разам са мною ў Менск з Масквы прыехаў Уладзімер Караткевіч, ён там заканчваў Вышэйшыя сцэнарныя курсы. Валодзя паказаў мне выдатны сцэнар «Белае сонца пякучае». Пра чалавека і пачуцьцё страху, бо ў розным узросьце чалавек баіцца па-рознаму. Сцэнар не прайшоў. Гэта мяне выбіла з каляіны. Дзякуй Богу, дапамог мой настаўнік Міхаіл Ільліч Ром, які пераслаў мне сцэнар пра канструктара ракетаў Каралёва, я зьняў фільм, усё прайшло нармальна. Праз пэўны час я задумаў экранізаваць быкаўскага «Сотнікава» – Васіль сам напісаў сцэнар. Так шмат было надзеяў на гэтую работу! Але нічога зрабіць не ўдалося, не прапусьцілі.

**М. С.:** Я ведаю, што вы зьбіраліся экранізаваць апавяданьне Васіля Быкава «Жоўты пясочак». Беручыся за гэты матэрыял, ці ведалі вы, што ўжо зьняты паводле быкаўскага апавяданьня «На Чорных лядах» фільм пакладзены на паліцу?

**І. Д.:** Ведаў, вядома ж. Толькі не магу ўцяміць чаму? За што гэты фільм – пад сукно?! Шкада рэжысэра Панамарова, ён вельмі перажываў з-за гэтага, дый цяпер яшчэ, мабыць, не супакоіўся. Чалавеку зь незразумелых прычынаў паламалі творчы лёс – хіба ж так можна?! А «Жоўты пясочак» – апавяданьне біблійнага ўзроўню, дый затраты на яго патрэбны невялікія. Што трэба? «Варанок», у якім возяць зьняволеных, ды лясная палянка, за якую ўвогуле плаціць ня трэба. Я ня вытрымаў і пайшоў да міністра культуры Гулякі – расказаць пра тэму, пра сюжэт. А ён ня слухае! Адразу гаворыць, што грошай няма! Я яму «Народную волю» з «Жоўтым пясочкам» паказваю, а ён мне старшыняваць на Берасьцейскім кінафэстывалі прапаноўвае! Я пра адно, а ён – зусім пра другое. Як більярдны шар

качаецца, няма за што зачапіцца. Гэта ў іх цяпер такі стыль працы, у чыноўнікаў. Не даюць гаварыць – як быццам у Беларусі 1000 Дабралюбавых, якія штодня дураць галаву міністру. Я разумею, у чым тут справа. Усе чыноўнікі баяцца Лукашэнкі, які, як вядома, «вырас на вершах» Васіля Быкава. Быкаў – гордасьць беларускага народу, геніяльны пісьменьнік. Пачытаць яго творы, зразумець іх – усім карысна было б: і міністру, і капіталісту, і ўсяму народу. Мне некаторыя раяць: схадзі да Лукашэнкі і папрасі грошай. Не пайду, прыніжацца перад уладай я ня ўмею.

**М. С.:** Сёньня беларускія акторы, за невялікім выняткам, працуюць толькі ў тэатрах. Вы родам з Расеі, нарадзіліся ў Новасібірску. Але заўсёды здымалі на беларускім матэрыяле, беларускіх актораў. А чым адрозьніваецца беларускі актор ад расейскага, калі зірнуць уважлівым рэжысэрскім вокам?

**І. Д.:** Школай, талентам сваім адрозьніваецца. Ніхто ў Расеі не замяніць нашага Віктара Тарасава. А якімі непаўторнымі былі Паша Дубашынскі, Валеры Філатаў! У мяне ў фільме «Плач перапёлкі» (у дзевяці сэрыях) здымаліся 150 беларускіх актораў, ніводнага збоку не запрашалі. У маіх фільмах здымаліся і Галіна Макарава, і Генадзь Гарбук, і Фёдар Шмакаў, і Валянцін Белахвосьцік, і Генадзь Аўсянікаў. Праўда, у «Белыя росы» давялося запрасіць Новікава з Санаевым, бо ў беларускіх тэатрах не засталося старых актораў, не зьберагглі.

**М. С.:** А ці можна сёньня ўвогуле казаць пра беларускую кінаматаграфічную школу? Старыя акторы адыходзяць, рэжысэрам працаваць не даюць...

**І. Д.:** Нядаўна мы з Генадзем Бураўкіным працавалі ў журы на конкурсе дзіцячага кіно. Дзеці ў звычайным гуртку здымаюць свой двор, сваё дрэва, старое вядро, якое валяецца. І зроблена гэта з такой любоўю! А без любові нічога ня будзе. І кіно здымаць трэба доўга вучыцца. Цяпер фільмы здымаюць



людзі без адукацыі, апэратары парабіліся рэжысэрамі. А гэта ня тое самае. Вось вазьмі Мікіту Міхалкова – выдатны актор, але, калі задумаў фільмы здымаць, пайшоў вучыцца дадаткова на рэжысэра! А наш Алесь Адамовіч – ён жа доктарам навук быў, а спэцыяльна вывучаў кіно! Днём вучыўся, а вечарам выкладаў у Маскоўскім унівэрсытэце літаратуру. І вывучыўся, каб зьняць свае стужкі «Сыны ідуць у бой» і «Вайну пад стрэхамі». Мне горка пра гэта гаварыць, але я ніколі ня думаў, што дажыву да таго часу, калі будзе развальвацца «Беларусьфільм».

**М. С.:** Зрэдку па Беларускім тэлебачаньні паказваюць мастацкія фільмы, агучаныя па-беларуску. І тое ўсё больш замежныя. Ігар Міхайлавіч, а ад каго залежыць, на якой мове павінен паказвацца фільм?

**І. Д.:** Ад тэлебачаньня і залежыць. Ня ведаю, як цяпер, а раней усе фільмы дубляваліся на беларускую мову. На «Беларусьфільме» працавала перакладчыкам дачка Кузьмы Чорнага Рагнеда Аляхновіч. Перакладаць фільмы было прынята. Дарэчы, мой фільм «Іван Макаравіч» днямі ішоў па-беларуску. З мовай беларускай у нашай краіне ўвогуле невядома што творыцца. Калі ў нас дзьве дзяржаўныя мовы, дык давайце ўсё рабіць на дзвюх мовах: і па-беларуску, і па-расейску. Мова ж у нас старажытная, прыгожая. І ў беларускіх кінатэатрах паказваць трэба не стрыптыз-шоў, не амэрыканскія баевікі круціць, а фільмы свае, напрыклад: «Я – Францыск Скарына» альбо «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Дзе яны, чаму пыляцца ў сховішчах?! Дайце мне «рафік», я зьбяру каманду і праеду па ўсёй Беларусі – пакажу народу сапраўднае беларускае кіно!

**М. С.:** У беларускім кіно пакуль што вызначаная адна роля. Гэта роля мэцэната. І выконваць яе хочацца Лукашэнку. Памятаецца, як ён даваў мільён даляраў на фільм «У жніўні 44-га». Цяпер гаворыць

пра такую самую суму, паляпваючы па плячы рэжысэра «Настасьсі Слуцкай». А што б зьнялі вы, каб мільён даляраў быў выдзелены вам?

**І. Д.:** Я зьняў бы «Жоўты пясочак» за траціну гэтай сумы. Там жа аніякіх дэкарацыяў ня трэба будаваць. Быкаў вельмі кінематаграфічны пісьменьнік у тым сэнсе, што ў яго амаль няма батальных сцэнаў. І масоўкі ў «Жоўтым пясочку» няма, некалькі герояў на краі ямы. Адзін зь іх, былы супрацоўнік органаў дзяржбясьпекі, сам сабе капае магілу і аддае свайму кату, калегу-энкавэдысту, сваё адзеньне – не прападаць жа дабру... Быкаўскія героі мужна глядзяць у вочы сьмерці, і ў гэтым іх прыцягальнасьць для чытача і гледача. Прыгадайце Сотнікава, Івана Цярэшку з «Альпійскай баляды», Глечыка з «Жураўлінага крыку», Сьцепаніду са «Знаку бяды». Ня ведаю дзе, але я пастараюся знайсьці сродкі і камэру. Экранізаваць «Жоўты пясочак» Васіля Быкава – мой грамадзянскі абавязак. І я абавязкова зраблю гэты фільм!



*Уладзімер Клімовіч –*
пісьменьнік, бард, прадпрымальнік. Закончыў Беларускую акадэмію мастацтваў. Працаваў на БТ, дзе вёў тэлепраграму «Землякі». Аўтар кніг «Выратаваньне безданьню», «Лаліта і кактус», «Той, хто будуе горад», песеннага альбому «Дзеці вятроў». Нарадзіўся ў 1969 годзе ў вёсцы Ігнаткаўцы на Лідчыне. Жыве ў горадзе Гуанахуата (Мэксыка), дзе займаецца аўтабізнэсам.

## *Уладзімер Клімовіч:* «Мэксыка – як міксэр, дзе ўсё перамяшалася»

***27 траўня 2003 году***

*Уладзімера Клімовіча ў Менску пазнавалі на вуліцах – дзякуючы ягонай тэлепраграме «Землякі». Ён займаўся прадпрымальніцтвам, пісаў кнігі, сьпяваў пад гітару ўласныя песьні. Аднак сямейныя абставіны складліся так, што месцам жыцьцёвага прыстанку давялося абраць далёкую Мэксыку. Для беларусаў гэта адна з самых малавядомых і экзатычных краінаў, якая знаходзіцца на дыямэтральна супрацьлеглым баку зямнога шару. Што мы пра яе ведаем? Хіба тое, што бульба наша незаменная – аднекуль з Мэксыкі. І таму, калі «беларускі мэксыканец» упершыню за тры гады прыехаў на радзіму, мы зь ім не маглі не сустрэцца.*

**Міхась Скобла:** Уладзімер, у Беларусі ў цябе была свая праграма на тэлебачаньні, выходзілі кнігі, магнітаальбомы тваіх песьняў. Не шкада было ўсё гэта кінуць і зьехаць у Мэксыку?

**Уладзімер Клімовіч:** Мне гэтае рашэньне далося вельмі няпроста. Ужо нават прадаўшы кватэру ў Менску, каб не з пустымі кішэнямі ехаць, разьвітаўшыся з роднымі і сябрамі, я ўсё адно апошнім часам прачынаўся сярод ночы і пытаўся ў самога сябе: «Правільна я раблю ці няправільна? Куды я еду – за трыдзевяць зямель?! За моры-акіяны?!» А Мэксыка мне малявалася смутна. Я толькі ведаў, што там жывуць індзейцы і растуць кактусы.

**М. С.:** У цябе ж кніжка называлася «Лаліта і катус». Значыць, было нейкае прадчуваньне?

**У. К.:** Магчыма. Яшчэ зь дзяцінства я рабіў лукі са стрэламі, і мы з хлопцамі гулялі ў вайну. Ня ў немцаў і партызанаў, а ў індзейцаў. У нашай вёсцы была папулярная менавіта гульня ў індзейцаў.



**М. С.:** І як хутка табе ўдалося інтэгравацца ў мэксыканскае жыцьцё?

**У. К.:** Ой, няхутка. Я прыехаў туды з трыма гішпанскімі фразамі: буэнас ночэс (дабранач), буэнас цардэс (добры вечар) і бэссамэ, бэссамэ мучо (цалуй, цалуй мяне многа разоў). І ўсё! Найпершай праблемай было – пераадолець моўны бар'ер. І я пайшоў шукаць працу. Зайшоў у булачную і ўбачыў, што на сьцяне вісіць аб'ява: патрабуюцца рабочыя, якія могуць прадаваць булачкі, мыць падносы і рабіць усё астатняе.

**М. С.:** Ты ў Менску быў даволі вядомай асобаю, а тут – булачкі прадаваць. Відаць, няпроста было заціснуць гонар у кулак?

**У. К.:** Яшчэ як няпроста! Я тую аб'яву чытаў, літаральна сьцяўшы сківіцы! Давялося забыць, што я – беларускі пісьменьнік, вядучы папулярнай тэлеперадачы, што ў мяне прасілі аўтографы на вуліцах! Я зайшоў у кабінэт уладальніка булачнай. «Што вы хочаце, малады чалавек?» – спытаўся ён. (Я пайшоў з жонкай, яна трохі ведала гішпанскую і перакладала.) Кажу: дазвольце ў вас папрацаваць. Добра, кажа, прыходзьце з паперамі. Назаўтра я паклаў перад ім: свой пісьменьніцкі білет, усе свае кніжкі, касэты і дыплём Беларускай акадэміі мастацтваў з запісам «актор тэатру і кіно».

**М. С.:** І якая была рэакцыя ўладальніка крамы?

**У. К.:** Роўна дзьве хвіліны ён маўчаў, разглядаў і перакладаў мае паперы. А потым абурана запытаўся: «Вы зь мяне зьдзекуецеся?! Вам трэба працаваць у тэатры ці на тэлебачаньні, а не ў мяне!» «Але ж я ня ведаю мовы, дазвольце мне папрацаваць у вас, каб падвучыць мову». Я пераконваў дзядзьку цэлую гадзіну, але пераканаў! Мы заключылі кантракт на месяц, і я пачаў працаваць. Праз два тыдні ён падышоў і кажа: «Мне падабаецца, як вы працуеце, і я хачу вас павысіць. Вы будзеце лічыць булачкі. Вы ж эўрапеец, сумленны чалавек, вы прыходзіце

своечасова на працу». Ох, і павучыў я мову – адных найменьняў булачак з тае пары ведаю каля 200!

**М. С.:** А які занятак у Мэксыцы ты маеш сёньня?

**У. К.:** Мой бізнэс зьвязаны з аўтамабілямі. Я маю лот – так называюць у Мэксыцы аўтакраму пад адкрытым небам. Я прадаю машыны.

**М. С.:** У якой мясцовасьці ты жывеш?

**У. К.:** Зь мясцовасьцю мне пашанцавала. Я жыву ў Гуанахуата – гэта невялікі гарадок накшталт маёй Ліды, каля якой я нарадзіўся. Але ў адрозьненьне ад Ліды ён добра захаваўся з каляніяльных часоў, з часоў заваяваньняў гішпанскага каланізатара Картэса. У Гуанахуата ёсьць музэй мумій – такіх толькі два ў сьвеце, яшчэ адзін у Японіі. У Мэксыцы зямля такая багатая на мінэралы, што нябожчыкі праз шэсьць гадоў становяцца муміямі, можна выкопваць і прадаваць у Японію, у музэй. Гуанахуата называюць жамчужынай Лацінскай Амэрыкі, гэта горад фэстываляў. На фэстываль Сэрванціна туды прыяжджаюць госьці з усяго сьвету – з Эўропы, зь Японіі, з Аўстраліі. Выступаць на ім вельмі прэстыжна. Праводзіцца ў Гуанахуата таксама фэстываль кветак – усе вуліцы запоўненыя букетамі! Увогуле, у Мэксыцы, нягледзячы на сьпякотнае сонца, дыхаецца надзвычай лёгка, на гэтую краіну дыхаюць адразу два акіяны. Але як падумаеш, што Беларусь знаходзіцца на супрацьлеглым баку Зямлі... Я неяк зірнуў на глёбус: Мэксыка і Беларусь – амаль антыподы.

**М. С.:** Мэксыка знаходзіцца на сумежжы дзьвюх Амэрык, на мяжы этнасаў. Пэўнае ўяўленьне пра тамтэйшы народ дае характарыстыка мэксыканскага пісьменьніка Актавія Паса, дадзеная яму адным калегам. Той называў Паса «сынам Мэксыкі, братам Лацінскай Амэрыкі, пасынкам Гішпаніі, прыёмным сынам Францыі, сямейным сябрам Японіі і пазашлюбным сынам Злучаных Штатаў Амэрыкі». Як у гэткім канглямэраце разабрацца: хто свой, хто чужы, хто каму сват, хто каму брат?



**У. К.:** Сапраўды, дзіўная сытуацыя. Са словам «Мэксыка» ў нас асацыюецца хіба слова «міксэр». У Мэксыцы, як у міксэры, усё зьмяшалася. Мэксыканцы, напрыклад, проста шалеюць ад Борхэса. Скажам, на якім-небудзь афіцыйным банкеце пасьля трэцяй чаркі тэкілы можа падняцца мэр гораду ці які іншы начальнік і чытаць на памяць Борхэса. І любы мэксыканец скажа: Сэрвантэс – наш пісьменьнік! Борхэс – наш пісьменьнік! Я кажу: хлопцы, я ведаю яшчэ аднаго вашага пісьменьніка, на Кубе жыў, – Гэмінгуэя. Яны кажуць: не, гэта ня наш пісьменьнік, бо лепшыя свае рэчы напісаў паангельску.

**М. С**.: А сваіх, сапраўдных мэксыканцаў, яны чытаюць?

**У. К.:** Чытаюць і паважаюць. Але ўсіх пісьменьнікаў, якія пісалі і пішуць па-гішпанску, яны лічаць сваімі. І тым самым узбагачаюць сваю нацыянальную культуру. Яны ўдзячныя Гішпаніі, удзячныя свайму заваёўніку Картэсу, які разам з заваяваньнем прынёс культуру, адукацыю. З Гішпаніяй у Мэксыкі самыя сяброўскія адносіны. А яшчэ яны працягваюць любіць Савецкі Саюз. І калі даведваюцца, што я з былога СССР, то кажуць: паважаны Блядзімір...

**М. С.:** Як-як яны кажуць?

**У. К.:** Мэксыканцы ня могуць вымавіць ані «Ўладзімір», ані «Владзімір», усё адно атрымліваецца «Блядзімір». Спачатку я крыўдаваў, а потым махнуў рукою – называйце хоць гаршчком, толькі ў печ ня стаўце. Ну што зробіш, такое вымаўленьне ў гэтага народу.

**М. С.:** Мэксыка і мэксыканцы сапраўды вартыя зьдзіўленьня. Яшчэ і таму, што апошнія паўстагодзьдзя прэзыдэнты там зьмяняюцца кожныя шэсьць

гадоў. Адбыў адзін тэрмін – і сыходзіць. Як там удалося дасягнуць такой дэмакратыі?

**У. К.:** На Мэксыку моцна ўплываюць ЗША: з гэтай краінаю вельмі доўгая мяжа і вельмі цесныя стасункі. Мэксыканскаму прэзыдэнту і ў галаву не прыходзіць застацца на другі ці трэці тэрмін. Шкада, што ў маёй Беларусі так не адбываецца. Але тут ня толькі віна прэзыдэнта, але і выбарнікаў. Дарэчы, мэксыканцы зьдзіўляліся, калі Лукашэнку абралі на новы тэрмін, для іх гэта незразумела.

**М. С.:** Прыгаданы ўжо Актавія Пас пісаў, што «палітычная ўлада стэрылізуе мастака». У нас ахвотнікі на стэрылізацыю час ад часу знаходзяцца. А ў Мэксыцы?

**У. К.:** Палітычны ціск зьнішчае мастака. У Мэксыцы няма цэнзуры на тэлебачаньні. Там у жывым этэры ідуць палітычныя шоў, дзе крытыкуецца замежная ці ўнутраная палітыка дзяржаўных уладаў. СМІ там змагаюцца за дабрабыт народу, ва ўсім астатнім ніякіх абмежаваньняў няма. Калі прэзыдэнт робіць памылку, скажам, падпісаўшы нейкую дамову з ЗША, пра гэта адкрыта гаворыцца ў жывым этэры.

**М. С.:** Да ад'езду ў Мэксыку ты заснаваў прэмію «Пэрспэктыва» – для падтрымкі маладых талентаў. І яе нават атрымалі некалькі шчасьлівых ляўрэатаў. Якім будзе яе лёс, ці спадзявацца маладым на пэрспэктыву ад Уладзімера Клімовіча?

**У. К.:** Прэмія «Пэрспэктыва» – адзін з маіх самых дарагіх успамінаў. Я думаю яе аднавіць, каб падтрымаць беларускую маладую літаратуру, каб у пачаткоўцаў была надзея і ўпэўненасьць, што іх чытаюць, што яны патрэбныя. Праўда, лёс прэміі будзе залежаць ад майго мэксыканскага бізнэсу. Але я перакананы, што ў нас усё атрымаецца.



*Аляксей Марачкін –*
мастак. Закончыў мастацка-графічнае аддзяленьне Віцебскага пэдагагічнага інстытуту і аддзяленьне жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Настаўнічаў у школе, выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. Адзін з арганізатараў і першы кіраўнік суполкі «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Папоўшчына Чэрыкаўскага раёну. Жыве ў Менску.

## *Аляксей Марачкін:* «Крэсла для прэзыдэнта чакае інагурацыі»

***15 ліпеня 2003 году***

*Беларусь і Літва адзначылі 750-годзьдзе каранацыі Міндоўга. Літва – на дзяржаўным узроўні, урачыста, з пачуцьцём гонару за слаўнае мінулае Вялікага Княства Літоўскага. Беларусь – сьціпла, высілкамі грамадзкіх арганізацый. У Вільні Міндоўг паўстаў адлітым з бронзы на старым гарадзкім пляцы. У Менску – з гіпсу, на мастацкай выставе, замоўчанай афіцыйнымі СМІ. Беларуская дзяржава працягвае дэманстраваць сваю абыякавасьць да супольнай спадчыны ВКЛ – на ціхую радасьць нашым паўночным суседзям. На выставе, зладжанай суполкай «Пагоня», паказвалася некалькі Міндоўгаў. Адзін зь іх, які належыць пэндзлю Аляксея Марачкіна, неспадзявана апынуўся ў цэнтры скандалу, бyў перахоплены яшчэ па дарозе ў сталічны Палац мастацтваў і на выставу так і ня трапіў.*

**Міхась Скобла:** Спадар Аляксей, раней вашыя творы некалькі разоў здымалі з выставаў. Цяпер жа ўвогуле не дапусьцілі ў Палац мастацтваў. Што і каму не спадабалася ў вашым творы «Сьляза Міндоўга»?

**Алесь Марачкін:** Папраўдзе кажучы, калі я пісаў гэты твор, то ня думаў, што вакол яго будзе такая калатнеча і тым больш што яго не дапусьцяць на выставу. У мяне былі гэткія аргумэнты: калі прыязджаюць у Менск маскоўскія артысты Максім Галкін ці Міхаіл Задорнаў, то ім дазваляецца іранізаваць з Аляксандра Лукашэнкі, я чуў на свае вушы. Калі я быў у Лёндане, то бачыў, як там у тэлевізары даволі жорстка кпяць з каралеўскай сям'і. І там гэта таксама нікога ня дзівіць. «Сьляза Міндоўга» – абсалютна бяскрыўдная, але зь вялікім падтэкстам карціна.



**М. С.:** Раней адборам твораў на выставы займалася адмысловая камісія. А ў выпадку з вамі – судзьдзі хто?

**А. М.:** Сапраўды, раней пра Саюзе мастакоў існаваў выстаўкам, ён прымаў працы. Пры падрыхтоўцы Міндоўгавай выставы Саюз мастакоў склаў зь сябе паўнамоцтвы, ягонага кіраўніцтва на адкрыцьці не было. Актыўна ўдзельнічалі толькі сябры суполкі «Пагоня». Хто канкрэтна не дапусьціў мой твор у экспазыцыйную залю, я так і не даведаўся. І ніхто толкам нічога ня можа сказаць, усе ківаюць на Міністэрства культуры, на Менгарвыканкам. Такое адчуваньне, быццам з вуліцы прыйшлі людзі, не прадставіліся, забралі маю працу, замкнулі яе на ключ, і тры дні «Сьляза Міндоўга» знаходзілася фактычна пад арыштам, я ня мог яе вярнуць.

**М. С.:** Апошнім часам любы ваш твор выклікае павышаную цікавасьць з боку ўлады. Уладзімер Арлоў на прэзэнтацыі сваёй кнігі «Ордэн Белай Мышы» расказваў, што ў выдавецтве «падрэдагавалі» вашы ілюстрацыі да кнігі.

**А. М.:** Гэта так. Бывалі і іншыя выпадкі. Яшчэ раней для экспазыцыі ў Літаратурным музэі, прымеркаванай да юбілею Кастуся Каліноўскага, я прапанаваў сваю даўнюю карціну «Мураўёў-вешальнік». За савецкім часам яна выстаўлялася, і ўсё было нармальна. А тут, у музэй, яе не пусьцілі. Пытаюся: чаму? А мне адказваюць: лысіна і вусы ў Мураўёва – як у кіраўніка краіны. Малюнкі, якія сталі ілюстрацыямі да кнігі Арлова, былі створаныя яшчэ ў 1978 годзе, гэта мае ўспаміны пра службу ў войску. Але ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» таксама зачапіліся за вусы. Урэшце іх давялося падкруціць і падоўжыць. Гэта нейкі тэатар абсурду. Скажам, чаму не загадаць на ўсю краіну, што мець вусы і лысіну мае права толькі адзін чалавек? І

калі недзе, ня дай Бог, яны ня так намаляваныя, то павінны неадкладна забараняцца.

**М. С.:** Мастакі часам ідэалізуюць караля Міндоўга. Ваша ж карціна антыгераічная паводле самой назвы – «Сьляза Міндоўга». Па чым плача ваш Міндоўг?

**А. М.:** Вэктар Міндоўгавай палітыкі быў выразна эўрапейскі. Нездарма Папа Рымскі даў дазвол на каранацыю. І калі вэктар гэты зьмяніўся, калі сёньняшні кіраўнік Беларусі пішчом лезе ў Расею, то я паказваю Міндоўга ў роспачы. Ён трымае папскую булу, атрыбуты ўлады, разьвёўшы рукі, бо ўсё тое, за што ён змагаўся, дзеля чаго ён жыў, перастала быць каштоўнасьцю, ідзе раздача зямель. Я паказваю ўсё ў тэатралізаваным выглядзе, гэта маскі. Адна маска плача, другая трымае расейскую сторублёвую купюру, а трэцяя прыхавана паказвае кукіш, маўляў, я вас усіх абхітру. І заўважце – конь спутаны... Дарэчы, «Сьляза Міндоўга» выдадзеная як паштоўка невядомымі мне людзьмі. На адваротным баку паштоўкі – верш, падпісаны В. Н.: «Зрабіла ўлада падарунак / Да каранацыі Міндоўга – / Адзіны з маскалём рахунак / Чакаць ужо ня надта доўга. / Ды не чуваць пакуль Пагоні, / І дзе Касьцюшка, Каліноўскі? / Ці люд наш – ідалапаклоньнік, / І ў нас адзіны ідал – Шклоўскі? / Ці вінаваты кволы конік? / Ці конюх? Ці гешэфт цыганскі? / Але маёр і падпалкоўнік / Адкажуць за базар славянскі!».

**М. С.:** 750-годзьдзе каранацыі Міндоўга прыпала на сёлетняе дзяржаўнае сьвята – Дзень Незалежнасьці. Аднак у сьвяточным выступе Аляксандра Лукашэнкі, дарэчы беларускамоўным і надзвычай «незалежніцкім», пра Міндоўга не было сказана ні слова. Я слухаў прэзыдэнцкі выступ і думаў пра хату, якую спрабуюць узьвесьці без падмурку, бярвеньні кладуцца на сырую зямлю. Але ж так у жыцьці не бывае.

**А. М.:** Безумоўна, не бывае. Кіраўнік дзяржавы падсякае той сук, на якім сядзіць. Нельга без фундамэнту будаваць ні хату, ні краіну. У Вільні каранацыю Міндоўга адзначылі на дзяржаўным узроўні, з размахам, з удзелам замежных дэлегацый і нават прэзыдэнтаў – з Брытаніі, з Бэльгіі, зь Нямеччыны. У Вільні адкрылі помнік Міндоўгу.



**М. С.:** А вы заўважылі, што некаторыя беларускія СМІ «дапамагалі» сьвяткаваць літоўцам?

**А. М.:** Гэта было навідавоку. Карэспандэнтка ОНТ так і расказвала – пра каранацыю *Міндаўгаса* ў нейкім, відаць, невядомым ёй *Наўгардукасе*. Беларусь чыста інфармацыйна зь лёгкасьцю аддала Міндоўга суседняй краіне... Зусім ня тое было ў 1980 годзе, калі адзначалася 500-годзьдзе Міколы Гусоўскага. Мы тады наладзілі выставу, была шыкоўна выдадзеная ў беларускім перакладзе «Песьня пра зубра» з ілюстрацыямі Яўгена Куліка. І ўжо ніхто не насьмеліўся гаварыць, што Гусоўскі – не беларускі паэт, хоць тыя ж літоўцы да гэтай пары працягваюць лічыць яго сваім. Дык радзіму Гусоўкага гісторыкі дагэтуль не знайшлі. Адны пішуць пра Гузава ў Польшчы, другія прывязваюць прозьвішча і паходжаньне паэта да ракі Вусы ў Беларусі. А ў выпадку зь Міндоўгам маем неаспрэчны факт: каранаваўся ён у першай сталіцы ВКЛ Навагрудку.

**М. С.:** Вы нядаўна вярнуліся са Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія да гэтай пары ня могуць апамятацца пасьля тэракту 11 верасьня 2001 году. Дзякуючы тэлебачаньню нью-ёрскія хмарачосы з тысячамі людзей абрынуліся і ў кожнай беларускай хаце. Як змагацца з тэрарызмам? Ну, заляціць у пячору Бін Ладэна звышдакладная ракета, як у свой час у намёт Джахара Дудаева. Вайна ж у Чачэніі не спынілася пасьля ягонай сьмерці...

**А. М.:** Прыроду тэрору трэба ведаць. Каін забіў Абэля – гэта таксама тэрарыстычны акт. Каін зайздросьціў Абэлю, бо ў таго ўсё атрымлівалася. Зайздрасьць, крыўда і маніякальная ідэя – тры фактары,

якія могуць спарадзіць тэрор. Я ведаю выпадак, калі працавітая беларуская сям'я выехала ў Расею, каб распачаць сваю справу, бізнэс фэрмэрскі. Яны пасяліліся ў вёсцы, пабудавалі хату. А ў вёсцы той людзі жылі – абы дзень да вечара, гарэлку пілі, не працавалі, зьбіраліся на «завалинке» і г. д. А ў беларусаў – усё атрымліваецца, гаспадарка завялася: каровы, сьвіньні, парасяты... І ім аднойчы падпалілі хату... Багаты чалавек ці багатая краіна павінны зьвяртаць увагу і на тых, хто бедны, хто іначай глядзіць на цябе. Трэба мець адмысловы падыход да гэтых людзей. У мяне малодшы брат – фэрмэрам на Магілёўшчыне, непадалёк ад чарнобыльскай зоны. У яго гадоў шэсьць таму няблага пайшла справа. І я яму казаў: «Мікола, калі ўсё наладзіцца, у цябе будзе безьліч зайздросьнікаў, а нават і ворагаў. Ты павінен зьмякчаць сытуацыю – дапамагай людзям: старым, нямоглым, хто папросіць. Перш – ім, а пасьля – сабе». І ўсё абышлося добра. Ён бясплатна ўдовам, старым людзям араў поле, бульбу сеяў... Гэтую сытуацыю я пераношу на Амэрыку, дый на іншыя краіны.

**М. С.:** Існуе меркаваньне, што тэракт, падчас якога тэрарыст ахвяруе сваім жыцьцём, – гэта вынік уплыву на чалавека ўсходніх рэлігіяў. Як прыклад, найчасьцей згадваюцца японскія лётчыкі-камікадзэ. Але ж у шэрагу вядомых тэрарыстаў ёсьць і беларусы – Ігнат Грынявіцкі, які забіў Аляксандра II, ці Барыс Кавэрда, што застрэліў расейскага пасла Войкава. Як вы лічыце, ці сумяшчальны тэрарызм як зьява зь беларускім мэнталітэтам, зь беларускім сьветапоглядам?

**А. М.:** Грынявіцкі ішоў на тэрор таксама ня дзеля грошай, а дзеля ідэі. Як і тыя лётчыкі-налётчыкі, тэрарысты-самазабойцы – імі таксама кіравала ідэя. Магчыма, маніякальная ідэя, якая была і ў Гітлера. Гітлер – таксама тэрарыст сусьветнага маштабу. Ён быў перакананы, што нямецкая раса, нямецкая культура выратуюць увесь сьвет... Любы народ, у тым ліку беларускі, можна давесьці да таго, што ён будзе займацца тэрорам. Барані Божа, я не заклікаю да тэрору. Але калі сыстэматычна, штодня ў дзяржаўных СМІ вядзецца самая сапраўдная прапаганда супраць іншадумцаў, прытым паважаных, аўтарытэтных людзей, то што гэта калі не інфармацыйны тэрор?! Ледзь ня кожны дзень мы чуем, што апазыцыя вось-вось зрыхтуецца бамбаваць Менск. Сам Лукашэнка неаднойчы гаварыў, што ў беларускіх лясах хаваюцца тысячы баевікоў. Гэтыя выказваньні могуць справакаваць дзеяньні, бо сказанае прэзыдэнтам мусіць рэалізоўвацца... Беларусь ператвараецца ў пляцдарм для ажыцьцяўленьня нейкіх дурных ідэяў! Мне ў рукі выпадкова трапіла кніга Сяргея Касьцяна, дэпутата-палатніка, намесьніка старшыні гэтак званага міжнароднага аргкамітэту славянскага парлямэнцкага саюзу. Паслухайце, што ён там піша, маючы на ўвазе падзеі ў Югаславіі: «Вовсе не обязательно вступать в войну. Мы уже находимся в состоянии этой войны». Далей ён беспардонна навешвае ярлыкі: «Клинтон – фашист, Олбрайт – то же самое. А сегодня одной ракеткой (заўважце – не ракетай) ударить по Вашингтону – и Америка на коленях будет»... Як падобныя словы можна расцэньваць? Гэта выказваньне тэрарыста, які блізкі да самога кіраўніка краіны!

**М. С.:** Беларускае грамадзтва цягам апошніх гадоў паступова звыкаецца з атмасфэрай страху, у якой даводзіцца жыць, – страх за пасаду, за сказанае слова, за жыцьцё... Да чаго можа прывесьці сытуацыя жыцьця ў страху?

**А. М.:** Грамадзтва ня мае пэрспэктывы, калі яно знаходзіцца пад прыгнётам страху. І тым больш ня мае пэрспэктывы чалавек, які кіруе гэтым грамадзтвам. Мы сёньня жывем у перавернутым сьвеце. У нас што ні выбары, то падман і хлусьня, якіх яшчэ

Беларусь ня бачыла. Гэта вынік працы геніяльнага шулера, які ведае, што карты мечаныя, і ён робіць так, як хоча. Страх прысутнічае і на вяршынях улады. Лідзія Ярмошына, старшыня Цэнтарвыбаркаму, неяк заявіла, што калі прайграе Лукашэнка, то гэта будзе ейная асабістая трагедыя. А яна ж сядзіць на месцы Віктара Ганчара, які бясьследна прапаў, – гэта таксама на сумленьні сёньняшняй беларускай улады. Ярмошына гэтым сваім выказваньнем паказала, што яна ня толькі залежная ад улады, але і баіцца гэтай самай улады... Мы ў вельмі страшнай сытуацыі цяпер апынуліся. Дзе выйсьце шукаць? У сваіх галовах. Трэба найперш арыенціры выбраць для сябе, вызначыцца – з кім ты. Для мяне адзін з такіх арыенціраў – Васіль Быкаў, ягоная грамадзянская пазыцыя.

**М. С.:** Даўнавата ўжо я бачыў у вашай майстэрні адмысловае троннае крэсла, прызначанае для інагурацыі прэзыдэнта. Куды яно зьнікла? Ці далёка вы яго прыхавалі?

**А. М.:** Гэтае крэсла дэманстравалася на выставе мастацкай суполкі «Пагоня», якая праходзіла перад самымі выбарамі ў 1994 годзе. Мы яго так і назвалі – «Крэсла для прэзыдэнта». Зрабіў яго майстар, сябар Беларускага саюзу мастакоў Уладзімер Колас. Крэсла прызначалася для Зянона Пазьняка. Яно цяпер знаходзіцца ў самога майстра. Я ўпэўнены: прыйдзе час, і крэсла тое вынясуць з майстэрні, і ў яго сядзе годны чалавек, які павядзе Беларусь за цывілізаваным сьветам.



*Пятро Краўчанка –*
палітык, гісторык. Закончыў гістфак БДУ, дзе пасьля выкладаў, працаваў сакратаром Менскага гаркаму КПБ па ідэалёгіі, быў першым міністрам замежных справаў Рэспублікі Беларусь. Займаў пасаду амбасадара Беларусі ў Японіі. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету. Аўтар кнігі «Беларусь на ростанях». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў Смалявічах. Жыве ў Менску.

## *Пятро Краўчанка:* «Самае галоўнае для нас – пераадоленьне страху»

***30 лістапада 2003 году***

*Пасьля сыходу з дыпляматычнай службы і заявы аб удзеле ў прэзыдэнцкіх выбарах Пятро Краўчанка ўзяў палітычны тайм-аўт. Ён актыўна кантактуе з інтэлігенцыяй, выступае на розных культурніцкіх імпрэзах, нават заняўся дабрачыннай дзейнасьцю, што для апазыцыйнага палітыка нехарактэрна. А яшчэ ён выглядае дастаткова дасьведчаным і ўпэўненым у сваіх сілах чалавекам. Пасады міністра замежных справаў і паўнамоцнага амбасадара Беларусі ў Японіі ён ня хоча лічыць вяршынямі сваёй палітычнай кар'еры. Што ж, дай Божа нашаму цялятку ваўка зьесьці – як спрадвеку гаварылі ў народзе. Хоць насамрэч штоbecause адбывалася наадварот. Вучэньне Дарвіна пра натуральны адбор у палітыцы дзейснае як нідзе.*

**Міхась Скобла:** Пятро Кузьміч, хачу пачаць нашую гутарку з камплімэнту: вы заўсёды маеце імпазантны выгляд. Адпаведна апранацца, трымаць сябе ў форме раней абавязваў міністэрскі, амбасадарскі ранг. Пасьля вашага сыходу з дыпляматычнай службы прайшоў ужо даволі працяглы час. Ці ўладкаваліся вы на працу?

**Пятро Краўчанка:** Доўгі час я нідзе не працаваў і толькі гэтай восеньню змог уладкавацца ў Маскве. Цяпер займаюся некалькімі праектамі адначасова, адзін зь іх зьвязаны з пастаўкамі энэргетычных рэсурсаў у Паўднёвую Карэю, Кітай і Японію, што дазваляе мне часта выяжджаць за мяжу. Я таксама займаюся інфармацыйна-аналітычнай дзейнасьцю і думаю, што праз пэўны час будзе створаная адпаведная структура. Калі родная Беларусь ня можа мне нічога прапанаваць (я тут ня скарджуся на Радзіму, а маю на ўвазе іншыя колы), то мае здольнасьці, мае сувязі і кантакты выкарыстоўвае братняя Расея на сваю карысьць.

**М. С.:** А дзе вы жывяце?

**П. К.:** Пераважна ў Маскве. Гэта напамінае вахтавыя мэтады працы нашых людзей, якія лётаюць працаваць на нафтавых і газавых радовішчах у Цюмені, Сургуце ды іншых рэгіёнах Расеі. А трымаць сябе ў добрай форме – імпэратыў любога палітыка. Сёньня палітык павінен быць рэспэктабэльны, людзям надакучылі маргіналы, якія ня сочаць за сабой, абы-як апранаюцца і нецывілізавана паводзяць сябе.

**М. С.:** Вы ахвотна наведваеце розныя культурніцкія імпрэзы, літаратурныя вечарыны. Гэта патрэба душы, ці гэтага вымагае ваша дзейнасьць як палітыка, які як найчасьцей павінен бываць у гушчыні народу?

**П. К.:** Сваімі ўдзеламі ў культурніцкіх мерапрыемствах я проста хачу засьведчыць сваю павагу да творчай інтэлігенцыі, якая сёньня перажывае ня лепшыя часы. Мне хочацца добрым словам, сваім прыкладам, сваёй невялікай спонсарскай дапамогай падтрымаць інтэлігенцыю і сказаць: ня ўсё так безнадзейна, давайце верыць у лепшую будучыню. Толькі цягам апошніх месяцаў мне давялося ўдзельнічаць у дзясятку розных акцыяў. Днямі ў Доме літаратара прайшла ўрачыстая вечарына, прысьвечаная 100-годзьдзю нашай вялікай паэткі Натальлі Арсеньневай, зь якой я меў гонар быць знаёмым і некалькі разоў сустракаўся ў ЗША. Вечарына прайшла без удзелу дзяржавы, але якая цёплая сяброўская атмасфэра была на ёй! Таксама днямі я езьдзіў у Маладэчна на адкрыцьцё помніка гісторыку Міколу Ермаловічу. Быў і ў Зэльве, дзе на цьвінтары царквы ўстаноўлены помнік славутай паэтцы Ларысе Геніюш. Прынагодна мне хацелася б выказаць падзяку ўладыку Філярэту, які даў дазвол на ўстаноўку гэтага помніка. Мне прыемна, што я

зьяўляюся адным са спонсараў гэтага праекту. Я дапамог таксама адліць з бронзы і мэмарыяльную дошку ў гонар Натальлі Арсеньневай, якую неўзабаве мяркуецца ўсталяваць у Вільні на будынку Беларускай гімназіі, дзе вучылася паэтка.

**М. С.:** Будучы яшчэ міністрам замежных справаў Беларусі, вы часам надзявалі кашулю-вышыванку зь беларускім нацыянальным арнамэнтам. Вы яе знасілі ці прыхавалі да лепшых часоў?

**П. К.:** Кашуляў-вышыванак з рознымі ўзорамі ў мяне, можа, пяць ці шэсьць. Адна зь іх мае цікавую гісторыю. Яе ў свой час прэзэнтаваў Панцеляймон Панамарэнка Якубу Коласу, Якуб Колас – Максіму Лужаніну, а Лужанін – мне. Я захоўваю яе як каштоўную рэліквію, як сьведчаньне таго, што і сярод кіраўнікоў КПБ, прытым не беларусаў па крыві, былі людзі, якія шанавалі нашыя традыцыі, адносіліся з павагай да беларускай культуры. А тую кашулю, якую я надзяваў у рангу міністра, мне падаравалі жанчыны зь Менску. Я зьяўляўся ў ёй на трыбуне ААН, разумеючы ўсе наступствы гэтага кроку. Але я рабіў гэта сьвядома. Па-першае, лічыў, што беларускі традыцыйны строй ня горшы за строі іранцаў ці інданэзійцаў, якія прыходзілі ў ААН у сваім нацыянальным адзеньні. Па-другое, мне хацелася зацікавіць, нават эпатаваць дыпляматычную публіку. Я рабіў усё, каб прыцягнуць увагу да Беларусі. Але я ня толькі вышыванку надзяваў. У кожным сваім выступе ў ААН я выкарыстоўваў цытаты зь беларускіх клясыкаў. З ААН-аўскай трыбуны гучалі радкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзімера Жылкі, Уладзімера Дубоўкі, Ларысы Геніюш, Натальлі Арсеньневай. І на эмацыйныя нетрадыцыйныя выступы маладога міністра незалежнай Беларусі зьвярталі ўвагу замежныя калегі.

**М. С.:** Вы былі міністрам у той час, калі ўлада была больш інтэлігентная. Сёньня яна больш



жорсткая, брутальная і цынічная. Як у такіх умовах змагацца і перамагаць? Як увогуле інтэлігент можа перамагчы хама, які разумее толькі сілу?

**П. К.:** Выйсьце толькі адно: інтэлігент можа перамагчы хама сваёй творчасьцю. Сёньня ўсе беларускія пісьменьнікі і мастакі павінны працаваць з падвойнай, патройнай энэргіяй і ствараць такія творы, якія паказвалі б усю недарэчнасьць гэтай улады. Мы забываем, якая гэта магутная зброя – сатыра і гратэск. Таму давайце будзем сьмяяцца з гэтай улады, будзем яе высьмейваць і паказваць усю яе нікчэмнасьць і разбэшчанасьць. Яна сёньня нічога ня вартая. І яна будзе зьнішчаная народным сьмехам. Так што сатыра, гратэск і гумар – сёньня нашая галоўная зброя.

**М. С.:** А самі вы як ставіцеся да насьмешак, да крытыкі на свой адрас?

**П. К.:** На крытыку я рэагую таксама сьмехам, сьмяюся разам з тым, хто мяне крытыкуе. Ні ў якім разе ня трэба ставаць у хваравітую позу. Калісьці паэт Рыгор Барадулін напісаў эпіграму на мяне: «Дыпляматычныя валізкі / Цяпер цягае, як свае. / Пра блізкі крах капіталізму / Ужо пытаньня не ўстае». Гэтыя радкі дапамаглі мне многае зразумець.

**М. С.:** Наступнае маё пытаньне не зусім дыпляматычнае. Вядомы філёзаф-сатырык Станіслаў Ежы Лец пісаў, што многія ўладары адсякалі б сваім падначаленым рукі, каб ня мелі патрэбы ў аплядысмэнтах. За пяць гадоў працы амбасадарам у Токіё колькі разоў вам даводзілася пляскаць у ладкі таму, хто вас туды прызначыў?

**П. К.:** Я тут мушу зрабіць невялічкае адступленьне. Чаму Лукашэнкам з усёй апазыцыі толькі мне была прапанаваная пасада амбасадара? Думаю, што ён разумеў: я для яго канкурэнт. Нягледзячы на тое што я быў сярод тых 68 дэпутатаў, якія падпісаліся пад імпічмэнтам (дарэчы, ад свайго подпісу

я не адмовіўся нават тады, калі быў паслом). І ўсё ж ён у 1998 годзе падпісаў указ аб маім прызначэньні. Сытуацыя была вельмі простая: Краўчанку як палітычную фігуру трэба было зьняць з шахматнай дошкі і адсунуць убок. Гэта было формай палітычнай нэўтралізацыі і нават палітычнага зьнішчэньня. Лукашэнка разумеў, што апазыцыя таксама адрэагуе адпаведна.

**М. С.:** Так яно і сталася.

**П. К.:** Так і сталася, і часткова ён дамогся сваёй мэты. Але тут прысутнічаў яшчэ і расейскі фактар, які ён ня мог ня ўлічваць. Пэўныя расейскія палітычныя колы зрабілі ўсё магчымае, каб палітычна мяне захаваць. А я хацеў працаваць на карысьць беларускай дзяржавы і разумеў, што ў наступныя пяць-сем гадоў у апазыцыі няма чаго рабіць. Выводзіць моладзь на вуліцу, на барыкады? Рызыкаваць яе жыцьцём? Я не хацеў гэтага рабіць, разумеў, што яшчэ не прыйшоў час. Паехаўшы ў Японію, я служыў не Лукашэнку, а Беларусі. Я апынуўся ў тым асяродзьдзі, якое ведаў, змог прафэсійна аднавіцца і – самае галоўнае – змог усталяваць патрэбныя мне палітычныя кантакты на Ўсходзе і Захадзе. Я скантактаваўся з эўрапейскімі палітыкамі, пазнаёміўся з усёй расейскай палітычнай элітай, якая бывала ў Токіё, я пачаў умацоўвацца. Што і стала прычынай маёй адстаўкі і таго скандалу, які быў справакаваны беларускімі ўладамі... А што датычыць плясканьня ў ладкі, то я ніколі гэтым не займаўся. За пяць гадоў майго знаходжаньня ў Японіі вы ня знойдзеце ні ў прэсе, ні ў дакумэнтах ніводнага майго дыфірамбу на адрас Лукашэнкі. Я шчыра працаваў для Беларусі і дазволіў сабе крытычныя выказваньні ў бок улады толькі тады, калі пакінуў пасаду амбасадара. У красавіку гэтага году, выступаючы перад ідэалягічным актывам Беларусі, Аляксандар Лукашэнка прызнаўся, што «даў дазвол сакрэтным службам выкрасьці Краўчанку з Токіё і прывезьці ў Беларусь». Выкрасьці і прывезьці – як мяшок з бульбай. І калі мне стала зразумела, хто стаяў за гэтай правакацыяй, я адказаў ударам на ўдар. Я не шукаў сваркі, але калі мне б'юць па твары, я вымушаны адказваць. У палітыцы нэўтралітэту не бывае. На кожны крок з боку афіцыйных уладаў я буду адказваць адэкватна. І сёньня я магу сказаць, што ёсьць пэўная раўнавага: улада разумее – мяне лепш не чапаць.



**М. С.:** Вы часта вымушаныя езьдзіць у Маскву. У маскоўскім цягніку выспацца не пасьпееш. Што вы бераце пачытаць у дарогу?

**П. К.:** Я вельмі люблю чытаць творы Ларысы Геніюш – яе «Споведзь» я перачытаў разоў сем і лічу гэтую кнігу адной з самых выдатных у XX стагодзьдзі. Яе павінен прачытаць кожны малады беларус. Часам я бяру з сабой кнігу Натальлі Арсеньневай «Між берагамі», вось і цяпер яна ў мяне з сабой. На ёй ёсьць аўтограф: «На добрую памятку даражэнькаму Пятру Краўчанку – таму, хто любіць і разумее паэзію і паэтаў. Натальля Арсеньнева. Красавік 1992 году». Дарэчы, у мяне ёсьць і яе ўнікальнае выданьне – зборнік «Сягоньня», выдадзены яшчэ ў 1944 годзе ў Вільні.

**М. С.:** І вы носіце гэткія рарытэты з сабой?

**П. К.:** Нашу, а вольная хвіліна надарыцца – чытаю. І ў цягнік бяру, не баюся. Апрача таго, я люблю паказваць беларускія рарытэты землякам, якія жывуць у Маскве. Гэта можа быць манэта, мэдаль, кніга, рукапіс, старадрукі. У мяне вялікая калекцыя, я зьбіраю ўсё, што працуе на беларускую ідэю, што служыць сьведчаньнем тысячагадовай дзяржаўнасьці Беларусі. Мая мара як калекцыянэра – знайсьці і мець у сваім зборы Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году.

**М. С.:** Неаднойчы публічна вы гаварылі, што сучасная Рэспубліка Беларусь – гэта квазідзяржава. «Квазі» з лацінскай мовы перакладаецца як «нібыта».

Такім чынам, паводле вас, Беларусь – несапраўдная дзяржава. Але ж усе атрыбуты дзяржаўнасьці ў нас у наяўнасьці. Дык чаму квазідзяржава?

**П. К.:** У нас дзяржавы няма. Тое, што збудаваў за апошнія дзевяць гадоў Аляксандар Лукашэнка, зьяўляецца дзяржавай-прывідам. Дзяржава складваецца не за адно дзесяцігодзьдзе, гэта складаны працэс. Гэта, калі хочаце, палітычная мэталюргія. Дзяржава, як і нацыя, павінна высьпець. Ня можа быць дзяржавы бяз нацыі. У той жа час і нацыі няма безь дзяржавы. Таму мы сёньня бачым толькі зьнешнія прыкметы беларускай дзяржавы. Праўда, у тым сэнсе, як дзяржаву разумелі францускія каралі, прыкладам той самы Людовік XVI Сонейка, то, вядома, дзяржава ў нас ёсьць. Лукашэнка, як і Людовік, можа сёньня заявіць: «Дзяржава – гэта я». Але ўся дзейнасьць Лукашэнкі скіраваная не на тое, каб склалася, высьпела беларуская нацыя, каб была сфармаваная нацыянальная ідэалёгія, каб узьніклі ўсе адпаведныя атрыбуты нацыянальнай дзяржавы: нацыянальны сьцяг, нацыянальны гістарычны гімн, канстытуцыя, якая адпавядае высокім міжнародным стандартам. Каб узьнікла цывілізаванае грамадзтва з пэўнай гульнёй палітычных сілаў, з канкурэнцыяй, з разьвітай дэмакратыяй, зь легальнай апазыцыяй, дзе ідзе разумнае палітычнае спаборніцтва, але дзе няма варажнечы. Вось у гэтым сэнсе дзяржава ў нас не сфармаваная... Сёньня ў Эўропе ідзе хуткі працэс глябалізацыі, і ён ёсьць для нас значнай небясьпекай. Гісторыя рубам ставіць пытаньне: ці пасьпеем мы сфармавацца як нацыя, каб потым уліцца ў агульныя працэсы ўнівэрсалізацыі і глябалізацыі. Пытаньне ў тым, што ідзе хутчэй: ці згаданыя працэсы, ці працэс высьпяваньня беларускай нацыі. Я думаю, што ў нас яшчэ ёсьць адно-два дзесяцігодзьдзі, каб пасьпець. Але гэта магчыма толькі пры зьмене існай улады ў Беларусі. Бо пры гэтай уладзе людзі ў нас ня могуць праявіць сваёй беларускасьці, ня могуць у многіх сфэрах карыстацца нацыянальнай мовай. Тэндэнцыі апошніх дзевяці гадоў сьведчаць пра тое, што ў Беларусі ідзе нябачная вайна супраць свайго народу, у выніку якой нашая нацыя можа зьнікнуць. Разумее гэта дзейная ўлада ці не? Хутчэй за ўсё, не разумее. А людзі, якія гэта разумеюць, павінны біць ва ўсе званы. Можна па-рознаму ставіцца да экс-прэм'ера Ўкраіны Юліі Цімашэнкі. Але калі яна прыйшла да ўлады, то адразу падпісала распараджэньне, якім дзяржаўная выплата маці пры нараджэньні дзіцяці павялічылася ў 11,2 разу і склала 1500 даляраў. Вось як дзяржава павінна стымуляваць сваю будучыню, свой чалавечы патэнцыял, які ёсьць асноўным багацьцем нацыі.

**М. С.:** Вядомы ангельскі палітоляг Пітэр Экерман напісаў цэлую кнігу, у якой падсумаваў досьвед адхіленьня ад улады аўтарытарных рэжымаў у 67 краінах за апошнія 30 гадоў. Экерман вызначае пяць неабходных умоваў дзеля гэтага: згуртаваньне апазыцыі вакол адзінай мэты, наяўнасьць стратэгіі негвалтоўных дзеяньняў, нэўтралізацыя сілавых структураў, навязаньне кантактаў з замежнымі СМІ, пазбаўленьне грамадзтва страху. Якіх з гэтых умоваў можна дасягнуць у Беларусі?

**П. К.:** Самае галоўнае для нас – пераадоленьне страху. Таго сталінскага страху і жаху, які ў беларусаў захаваўся на генэтычным узроўні. І галоўны кірунак дзейнасьці ў гэтым кірунку – гэта стварэньне дэмакратычнага тэлебачаньня. Я год свайго жыцьця патрацію на тое, каб ня толькі я асабіста як палітык, але і мае калегі, якія стаяць на дэмакратычных пазыцыях, атрымалі тэлевізійную трыбуну. Без свайго тэлебачаньня мы нічога ня зробім. На вялікі жаль, у Эўразьвязе мы не знайшлі адпаведнай падтрымкі. У тым Эўразьвязе, які мае бюджэт 4 мільярды эўра і ў якім штогод застаюцца нявыкарыстанымі і пераходзяць на другі год 400 мільёнаў! Эўрапейская

бюракратыя, якая выкарыстоўвае велізарныя сродкі на любыя мэты, не знайшла некалькі дзясяткаў мільёнаў эўра, каб стварыць адпаведныя дэмакратычныя каналы ўплыву на Беларусь. Я прапаноўваў у якасьці сталіцы тэлевяшчаньня нашу духоўную сталіцу – Вільню. І спрыяньне нашых літоўскіх сяброў было.

**М. С.:** Як жа пераадолець страх? Я ня бачу палітыка, які знайшоў бы агульную мову з тым жа Паўлічэнкам ці Навумавым – кіраўнікамі сілавых структураў.

**П. К.:** Праз пэўны час, я ў гэта веру, на нашых плошчах будзе стаяць не 500 чалавек і не 2 тысячы, а 20–50 тысяч. І вось тады ці Краўчанку, ці іншаму палітычнаму дзеячу ня будзе складана правесьці перамовы зь сілавымі структурамі. Яны будуць з народам, калі ўбачаць, што народ супраць рэжыму. Гэта справа палітычнай тэхналёгіі, ня больш за тое.

**М. С.:** Нядаўна мне давялося быць у Польшчы на міжнароднай літаратурнай сустрэчы «Пабочча». Там я і прачытаў адрасаваны беларусам ліст падтрымкі, падпісаны найвядомейшымі ў Польшчы людзьмі, сярод якіх кінарэжысэр Анджэй Вайда, ваш калега – польскі экс-міністар замежных справаў Уладыслаў Барташэўскі. Як вы лічыце, замежная Эўропа нас разумее?

**П. К.:** На жаль, пакуль што палітычная Эўропа нас не разумее. Пра гэта сьведчаць дзеяньні эўрапейскай бюракратыі. 120 мільёнаў эўра за дзесяць гадоў патрачаныя на гэтак званыя дэмакратычныя інстытуцыі ў Беларусі. 120 мільёнаў як пыл аселі ў Беларусі, прайшлі праз рукі пэўных людзей, і хто сёньня бачыў тыя грошы? Якія мы бачым вынікі па стварэньні дэмакратыі? Я, выступаючы за мяжой, неаднаразова крытыкаваў эўрапейскую бюракратыю за гэта. Таму што менавіта мне даводзілася стаяць ля пачаткаў многіх эўрапейскіх праграмаў



у Беларусі, той жа праграмы TASIS, многія дакумэнты я падпісваў як міністар замежных справаў. Сёньня эўрапейская бюракратыя не разумее, што яшчэ дзесяць-дваццаць гадоў можна ствараць дэмакратычныя інстытуцыі ва ўмовах таталітарнага рэжыму. І тут узьнікае пытаньне: што зьяўляецца першасным, а што другасным? Ці трэба спачатку памяняць правілы гульні, зьмяніць палітычную сытуацыю, і тады аўтаматычна будзе высьпяваць дэмакратычнае грамадзтва, ці выкідаць велізарныя грошы эўрапейскіх падаткаплатнікаў на стварэньне неэфэктыўных структураў? Сёньня ў многіх краінах – нашых суседках склаліся палітычныя кланы, якія асядлалі фінансавыя патокі, якія ўступаюць часам у адпаведныя адносіны з прадстаўнікамі нашай апазыцыі. І для іх галоўнае – ня зьмена палітычнай сытуацыі ў Беларусі, а сам працэс. Яны гатовыя яшчэ дзесяцігодзьдзямі цярпець рэжым Лукашэнкі. Таму што за гэтым стаіць іх асабістая зацікаўленасьць. І вы разумееце якая.

**М. С.:** Адна з самых вялікіх праблемаў беларускай апазыцыі – вызначэньне лідэра. Падкажыце, як спрактыкаваны палітык, нейкія тэхналягічныя хады.

**П. К.:** Нацыянальныя лідэры абіраюцца не на сходах, яны зьяўляюцца ў працэсе палітычнай барацьбы. Я да гэтай барацьбы гатовы. Я прэтэндую на тое, каб стаць агульнанацыянальным лідэрам – у працэсе, магчыма, на працягу не аднаго, а двух-трохпяці гадоў. Гэта будзе вырашацца пры адпаведных палітычных умовах. Сёньня сытуацыя надзвычай складаная... Я з павагай стаўлюся да нашай апазыцыі, але разумею яе абмежаваныя магчымасьці. Усё будзе вельмі ўзважана. Я буду паступова пераўтварацца ў сур'ёзны, стабільны палітычны фактар незалежна ад партыйных раскладак. Гэта зусім іншая стратэгія. Я ня той Сусанін, які будзе вадзіць пэўную колькасьць людзей па балотах. Для мяне

палітычная барацьба ня ёсьць самамэтай, ня ёсьць працэсам заробку грошай. Для мяне барацьба мае сэнс тады, калі яна скіраваная на канчатковую перамогу. У палітыцы я быў і застаюся дзяржаўнікам і ўпэўнены, што беларуская дзяржава зойме пачэснае месца між эўрапейскімі краінамі.

**М. С.:** Многія ведаюць вас як заўзятага кніжніка, зьбіральніка рэдкіх выданьняў. Тыя, хто бачыў ваш кнігазбор, лічаць яго адным з найлепшых у краіне. І раптам вы кажаце, што новая Нацыянальная бібліятэка – непатрэбная ў Беларусі піраміда Хэопса, што грошы, затрачаныя на яе збудаваньне, трэба было аддаць дзецям. Пагадзіцеся, гэта папулізм.

**П. К.:** Гэта не папулізм, а абсалютная праўда жыцьця. Мы не такая багатая нацыя, каб выкідваць 100 мільёнаў даляраў на адзін будынак. Лукашэнку ў свой час сказалі, што той чалавек, які пабудуе бібліятэку, аўтаматычна ад ЮНЭСКА атрымае адпаведны статус. І не беларукія ўлады, а ЮНЭСКА прысвоіць гэтай бібліятэцы імя стваральніка. Падобнае было ў Францыі, калі ў цэнтры Парыжа паўстала новая супэрсучасная бібліятэка, і ёй было нададзена імя прэзыдэнта Пампіду. Знайшліся падхалімы і ўбілі гэта ў галаву Лукашэнку.

**М. С.:** Новая бібліятэка будзе насіць імя Лукашэнкі?

**П. К.:** Так, у нас будзе Нацыянальная бібліятэка імя Лукашэнкі. І Лукашэнка будзе лоўка прыкрывацца адпаведнымі рашэньнямі ЮНЭСКА. Такім чынам, усё скіраванае толькі на тое, каб задаволіць асабістыя амбіцыі. І Лукашэнка рыхтуецца да таго, каб у новай бібліятэцы зь вялікім размахам, з помпай сустракаць Пуціна, Назарбаева, Карымава і іншых кіраўнікоў замежных краінаў – на чарговым саміце СНД. Я пра гэта добра ведаю, у адпаведных структурах ужо пішацца сцэнар. Саміт-2006 будзе праходзіць менавіта ў бібліятэцы. Лукашэнка проста хоча падцерці нос Пуціну, ён хоча паказаць, што Назарбаеў зь яго шыкоўнымі праектамі ў Астане – гэта дробязь у параўнаньні зь ім. Лукашэнка вельмі зацікаўлены ў такой архітэктурнай гігантаманіі. А я лічу, што гэта проста звышэгаістычна – дзеля задавальненьня асабістага «я» выкідаць 100 мільёнаў даляраў з кішэняў нашых людзей. Я вельмі паважаю людзей інтэлектуальнай працы, з шаснаццаці гадоў улюбёны ў кнігу. Але на месцы Лукашэнкі зрабіў бы інакш. Было б выдзелена прыкладна 5–7 мільёнаў даляраў для рэканструкцыі старога будынку бібліятэкі і пара мільёнаў, каб прыбудаваць да яе некалькі новых памяшканьняў. Кнігі трэба ратаваць, але не такімі папулісцкімі крокамі.



**М. С.:** У мінулым месяцы ў Зэльве мы з вамі былі сьведкамі ганебных паводзінаў мясцовых уладаў. Калі дзясяткі людзей, у тым ліку прадстаўнікі дыпкорпусу, прыехалі ўшанаваць памяць Ларысы Геніюш і вымушаныя былі мокнуць пад дажджом, паколькі ўсе памяшканьні ў Зэльве раптоўна зрабіліся недаступнымі. Чаму сёньняшняя ўлада, у якой сіла, баіцца паэткі, якая памерла дваццаць два гады таму?

**П. К.:** Страх – праява слабасьці ўлады. Калі ўлада не адчувае сябе моцнай у гістарычнай пэрспэктыве, яна заўсёды прыбягае да рэпрэсіяў. Рэпрэсіі – заўсёды праява непаўнацэннасьці. Жыцьцё і дзейнасьць Ларысы Геніюш непрымальныя для тых, хто сёньня кіруе ў Беларусі. А сёньня ў нашай краіне пры ўладзе нашчадкі Цанавы, і гэтыя нашчадкі ніколі ня зьмірацца з тым, што Ларыса Геніюш вярнулася на радзіму назаўсёды. Яны вельмі хацелі б выкрасьліць яе імя з гісторыі, але я перакананы, што ў іх нічога не атрымаецца. Як толькі зьменіцца палітычная сытуацыя ў Беларусі, тыя самыя міліцыянты, якія ў Зэльве хапалі на могілках людзей, будуць біць сябе ў грудзі і гаварыць, што яны заўсёды былі з намі, з дэмакратамі... Я люблю паўтараць словы нашага выдатнага паэта Максіма

Лужаніна: «Каб ня Ўсходняй, не Заходняй – ты была сама сабой!». Гэта азначае, што Беларусь павінна вызначыцца са сваімі зьнешнепалітычнымі арыенцірамі, займець свае ўласныя інтарэсы, стаць цэласнай, скансалідаванай дзяржавай. Кіраўніцтва нашай краіны спрабуе злучыць незлучальнае – рынак і кіраваньне, дэмакратыю і таталітарызм. У выніку сёньня ў нас няма дзяржавы, а ёсьць спробы зьляпіць каркас аўтарытарнай улады, стварыць вартую жалю дзяржаўную мадэль. Але ўсё, што ствараецца на страху і дыктаце сілы, абавязкова рассыплецца, як скульптура зь пяску. Мы жывем у палоне старой ідэалёгіі, у старых сацыяльных дачыненьнях, у разьмежаваным грамадстве. А Беларусь павінна ўяўляць зь сябе адзінае нацыянальнае цела, якое ні нашы суседзі, ні іншыя нашы сябры-ворагі не змаглі б падзяліць па жывым, як тое неаднойчы здаралася ў гісторыі.



*Ева Лявонава –*
пэдагог, літаратуразнавец. Закончыла філфак БДУ, дзе цяпер выкладае замежную літаратуру. Аўтарка кніг «Плыні і постаці», «Агульнае і адметнае», «Беларуская літаратура XX стагодзьдзя і эўрапейскі літаратурны вопыт». Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Ноўкі на Крычаўшчыне. Жыве ў Менску.

## *Ева Лявонава:* «Студэнтам не хапае замежнай клясыкі па-беларуску»

***29 студзеня 2004 году***

*На працягу дзесяцігодзьдзяў савецкі рэжым абмяжоўваў доступ грамадзянаў СССР да замежнай літаратуры. Каб, крый Бог, у людзкія галовы не закралася крамола. Сёньня ў Беларусі можна назіраць нешта падобнае. Апошні нумар альманаху «Далягляды» выйшаў у 1992 годзе, яшчэ раней спыніўся выхад гадавіка «Братэрства», дзе друкаваліся найлепшыя творы замежнага прыгожага пісьменства ў перакладзе на беларускую мову. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» амаль спыніла кніжную сэрыю «Скарбы сусьветнай літаратуры». Адсутнасьць замежнай клясыкі па-беларуску – галаўны боль для катэдраў замежнай літаратуры, дзе выкладаньне вядзецца на беларускай мове. На адной з такіх катэдраў – на філфаку Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту – працуе кандыдат філялёгіі Ева Лявонава.*

**Міхась Скобла:** Спадарыня Ева, раней за тыдзень да іспыту студэнт праходзіў і ангельскую, і нямецкую, і францускую літаратуры – усё, што ўваходзіла ў курс замежнай літаратуры. Як вынік у галаве перамешваліся літаратуры, эпохі, імёны – атрымліваўся боб з гарохам. А сёньня якое становішча з вывучэньнем замежнага прыгожага пісьменства?

**Ева Лявонава:** Перад чарговай сэсіяй у галаве студэнта, як правіла, – боб з гарохам... Гэта, я думаю, не ад курсу замежнай літаратуры залежала і залежыць. Цяпер таксама агульны курс замежнай літаратуры чытаецца на аддзяленьнях беларускай мовы і літаратуры, расейскай мовы і літаратуры, на раманска-германскім аддзяленьні. Але сёньня на аддзяленьні раманска-германскай філялёгіі чытаюцца і курсы асобных нацыянальных літаратураў: нямецкай, ангельскай, францускай і італьянскай. Ужо некалькі гадоў дзейнічае, і вельмі пасьпяхова, аддзяленьне кітайскай філялёгіі, якое, дарэчы, карыстаецца папулярнасьцю сярод студэнтаў. У нас таксама пасьпяхова працуе катэдра славянскіх літаратураў, якой раней не было.



**М. С.:** Тэрмін «сусьветная літаратура» (Weltliteratur) упершыню ўжыў Гётэ ў 1827 годзе. Прычым у той час пад гэтым паняткам разумелася толькі заходнеэўрапейскае прыгожае пісьменства. Сёньня ж абсалютна іншыя магчымасьці камунікацыі, і паэт з Вэст-Індыі, з закінутых у акіяне выспаў, Дэрэк Уолкат становіцца нобэлеўскім ляўрэатам. А як беларуская літаратура ўпісваецца ў сусьветны кантэкст? Ці ведаюць яе ў той жа Заходняй Эўропе?

**Е. Л.:** Сёньня зьмяняецца сам зьмест панятку «сусьветная літаратура», зьмяняецца паступова, з разьвіцьцём міжнацыянальных зносінаў: сацыяльных, эканамічных, гістарычных, эстэтычных, культурных і г. д. І, што вельмі важна, зьмяняецца зьмест гэтага панятку ў адпаведнасьці з разьвіцьцём нацыянальных літаратураў. Гэта як два бакі аднаго мэдаля. Што ведае заходні чытач з нашай літаратуры? Ведае творы Караткевіча, яшчэ больш ведае творы Быкава. Учора толькі я даведалася, што ў Францыі нядаўна выйшаў зборнік апошніх апавяданьняў Быкава, перакладзены на францускую беспасярэдне зь беларускай мовы. У Нямеччыне Быкава выдавалі і раней – прычым як ва Ўсходняй, так і ў Заходняй. Сьвятлана Алексіевіч вельмі многа друкуецца – ад Японіі да Заходняй Эўропы. Алесь Разанаў у Эўропе вядомы, у яго больш за дзясятак зборнікаў выйшла ў розных краінах. Асабліва ён вядомы ў Нямеччыне, дзе выходзяць яго кнігі ў перакладзе на нямецкую і дзе выходзяць яго нямецкамоўныя кнігі. Я б нават сказала, што ён – пэўная зьява ў нямецкамоўным літаратурным працэсе.

**М. С.:** У сёньняшнія падручнікі па беларускай літаратуры ўведзеныя творы замежных пісьменнікаў. Усё для таго ж – каб сваё ўбачыць і асэнсаваць у сусьветным кантэксьце. Але я ўяўляю роспач выкладчыка роднай літаратуры, у якога забіраюць гадзіны, адведзеныя на Максіма Гарэцкага ці Алеся Гаруна, і прымушаюць вывучаць сярэднявечны ангельскі эпас. І сапраўды, ці варта рабіць такое?

**Е. Л.:** Гэтае пытаньне дастаткова складанае. У кожнай клясе прысутнасьць твораў замежных пісьменьнікаў мінімальная. Гэта два-тры творы. Але рэч ня ў гэтым. Тут трэба іншае мець на ўвазе. Калі мы бярэмся за вывучэньне творчасьці Гарэцкага, Багдановіча, таго ж Караткевіча, мы павінны іх у кантэксьце выкласьці. Калі пра таго ж Караткевіча размова ідзе, дык тут жа проста неабсяжная прастора для вывучэньня Яго ў сусьветным кантэксьце! Ён інтэрпрэтуе Біблію, ён інтэрпрэтуе антычнасьць – згадайце яго зборнік «Мая Іліяда». Калі браць ягоны раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», складваецца ўражаньне, што, па сутнасьці, няма такой нацыянальнай літаратуры, няма такой эпохі, якія не сілкавалі б творчасьць Караткевіча! Як жа гэты кантэкст пакідаць па-за ўвагай?

**М. С.:** Як важна і тое, што агульная колькасьць гадзінаў на літаратуру скарачаецца. Чыноўнікі ад адукацыі сёньня аддаюць перавагу дакладным навукам. А хіба сапраўды літаратура больш актуальная за інфарматыку?

**Е. Л.:** Літаратуразнаўчыя пытаньні сёньня нельга ўспрымаць як пытаньні чыста філялягічныя. Таму, што літаратура – самы кароткі шлях да разуменьня душы чалавека іншай нацыянальнасьці. Ніякае іншае мастацтва ня можа данесьці да чалавека звычкі, традыцыі, мэнталітэт іншага народу так, як гэта робіць літаратура. Шлях да ўзаемаразуменьня ляжыць найперш празь літаратуру. Мы можам па-рознаму ставіцца да клясыкаў марксізму-ленінізму, але ня дурнямі яны, мусіць, былі. І тыя ж Маркс і Энгельс свае чыста сацыяльныя выкладкі падмацоўвалі спасылкамі на Бальзака ці Сьвіфта. А сёньня недалёка ад нас у постсавецкіх краінах успыхваюць ваенныя канфлікты паміж народамі, якія, здавалася, заўсёды ў згодзе жылі. Ад розьніцы да разьніцы – адзін крок, і трэба гэтую розьніцу разумець. А каб разумець, трэба вывучаць душу суседа, трэба яе ведаць.



**М. С.:** Мы, беларусы, можам лёгка падладзіцца пад іншых. У тым ліку і ў літаратуры. Памятаю, як у друку з падачы Вячаслава Адамчыка Ларысу Геніюш доўга называлі «беларускай Ахматавай». Нам усё здаецца, што падобнымі параўнаньнямі мы падвышаем статус беларускай літаратуры. Але ці ж так гэта?

**Е. Л.:** З аднаго боку, здаецца, што так, гэта кідкія параўнаньні, якія робяць гонар нашым пісьменьнікам. Але мы самі не разумеем, што часам апынаемся ў сытуацыі казусу. Напрыклад, Уладзімера Караткевіча цяпер часам называюць «беларускім Маркесам» альбо «беларускім Умбэрта Эка». Сапраўды, ёсьць усе падставы для параўнаньня «Дзікага паляваньня караля Стаха» са славутай кнігай Гарсія Маркеса «Сто гадоў адзіноты», а рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» – зь «Імем ружы» Ўмбэрта Эка. Але Караткевіч апублікаваў свайго «Стаха...» у 1964 годзе. У той час як Маркес свае «Сто гадоў адзіноты» – у 1967 годзе. А на расейскую мову твор быў перакладзены ўвогуле ў 1970-м. «Хрыстос...» (які называюць постмадэрнісцкім творам) быў завершаны ў 1966 годзе, а «Імя ружы» Эка (які лічыцца тэарэтыкам і практыкам постмадэрнізму) выдадзены ажно ў 1980-м. Што з гэтага лягічна вынікае? Што тыя адкрыцьці, якія прынесьлі славу (безумоўна, заслужана) і Ўмбэрта Эка, і Гарсія Маркесу, былі зробленыя Ўладзімерам Караткевічам. Але хто пра гэта ў сьвеце ведае?!

**М. С.:** Мне прыгадваецца час, калі савецкі рэжым строга абмяжоўваў доступ да замежнай літаратуры. І Оруэла, і Кафку, і Сартра мы змаглі прачытаць толькі ў адносна нядаўні час. Ці не назіраем мы тое самае сёньня? Нас зноў спрабуюць ізаляваць ад сусьветнага літаратурнага працэсу.

**Е. Л.:** У пэўным сэнсе вы маеце рацыю. Васіль Быкаў у сваёй «Доўгай дарозе дадому» ўспамінаў, як быў узрушаны, калі яму ўдалося прачытаць раман Гэмінгуэя «Па кім звоніць звон». Быкаву далі яго ў выглядзе машынапісу, на тонкай папяроснай паперы. А нядаўна давялося пачуць аповед Алега Лойкі пра тое, як у 1967 годзе, па вяртаньні з Францыі, ён выйграў «паядынак» з мытнікамі аэрапорту, ахвяраваўшы стосікам «Фігаро» дзеля выратаваньня прыхаваных томікаў Вэрлена на французскай мове. Мытнікі задаволіліся, што нешта-такі адабралі ў беларускага прафэсара і на астатняе не зьвярнулі ўвагі. Як вынік на сьвет зьявілася кніга выдатных перакладаў «У месяцавым зьзяньні». Мусіць, нямала такіх гісторыяў, датычных пранікненьня перакладаў у айчынны друк, маглі б распавесьці і Ніл Гілевіч, і Васіль Сёмуха, і Сяргей Панізьнік, і Лявон Баршчэўскі, і многія-многія іншыя. Дзякуй Богу, хоць нейкім чынам замежная літаратура і тады да нас даходзіла. У самыя змрочныя пэрыяды XX стагодзьдзя знаходзіліся перакладчыкі, якія спрыялі, кажучы словамі аднаго іх расейскага калегі, «душэўнаму здароўю публікі пры блякаднай разумовай пайцы». Але яшчэ вельмі шмат творцаў і твораў застаюцца для беларускага чытача за сямю пячаткамі.

**М. С.:** І можна здагадацца чаму. Беларускамоўны Шэкспір, беларускамоўны Апалінэр становяцца поруч з Багдановічам і Купалам на абарону беларускай культурнай незалежнасьці, у чым сёньняшняя ўлада не зацікаўленая. Можа быць, гэта і ёсьць асноўнай прычынай?



**Е. Л.:** Я – толькі спажывец, дасьледчык і выкладчык замежнай літаратуры. Мне цяжка меркаваць пра гэтыя прычыны... Мне лягчэй гаварыць пра катастрафічны недахоп тэкстаў замежных пісьменьнікаў на беларускай мове. Як выкладчык, магу пра гэта сьведчыць, бо стараюся выкладаць замежную літаратуру па-беларуску, і ўжо дастаткова даўно. Часам мне дапамагаюць студэнты, адшукваюць нейкія пераклады, якія публікаваліся ў 20-я, 30-я гады XX стагодзьдзя. А пра новыя пераклады застаецца толькі марыць. Крыўдна робіцца, калі размаўляеш са сваімі калегамі-навукоўцамі нават з постсавецкіх краінаў. Я ўжо не кажу пра заходнеэўрапейскія краіны, пра тую ж Нямеччыну. Дарэчы, цікавы факт: больш за 50% мастацкай літаратуры, якая выдаецца ў Нямеччыне, – перакладная. У Расеі вельмі шмат перакладаецца. Мне крыўдна да болю становіцца, калі даведваюся, што «Санэты Арфэю» Рыльке перакладзены там ажно ў сарака варыянтах! А збор санэтаў Шэкспіра, усе 154, перакладзеныя ажно трыццаць разоў! Ва Ўкраіне таксама шмат перакладаецца.

**М. С.:** Студэнты слухаюць лекцыі па-беларуску, праграмныя творы чытаюць у «Иностранной литературе» па-расейску альбо ў «Всесвіте» па-ўкраінску... А іспыты здаюць на якой мове?

**Е. Л.:** На той, на якой чытаюць. Вядома ж, калі існуе беларускі пераклад, зроблены на высокім эстэтычным узроўні, мы яго ніколі не абмінем. Але калі беларускіх тэкстаў няма, мы вымушаныя зьвяртацца да расейскіх ці ўкраінскіх. На раманска-германскім аддзяленьні працуем з арыгінальнымі тэкстамі.

**М. С.:** Уяўляю, як гэта замінае навучальнаму працэсу.

**Е. Л.:** Гэта проста немагчыма перадаць словамі! Калі ў мяне нейкая нямецкая кніжка паяўляецца, яна адразу ідзе па руках. Скажам, зьявіўся ня так

даўно зборнік сучаснай нямецкай паэзіі, перакладзены Алесем Разанавым: «Кропка, кропка, працяжнік». Яго ў бібліятэках – проста лічаныя асобнікі. З-за ўсяго гэтага навучальны працэс сапраўды надзвычай ускладняецца.

**М. С.:** Вы сказалі, што студэнты знаходзяць пераклады, выдадзеныя ў 1920–1930-я гады. Рыхтуючыся да перадачы, я адшукаў цікавую лічбу: у 1931 годзе ў Беларусі па-беларуску выйшлі 124 (!) перакладныя кнігі. А што вы можаце сказаць пра наш час? Скажам, што выйшла цягам мінулага году?

**Е. Л.:** За мінулы год я, на вялікі для мяне жаль, магу літаральна тры-чатыры кнігі назваць: «Мур» Сартра ў перакладзе Зьмітра Коласа, «Кніга гадзінаў» Рыльке ў перакладзе Васіля Сёмухі, кніга Віславы Шымборскай «Хвіля» ў перакладзе Ніны Мацяш. Вось і ўсё. Яшчэ паспрабуй даведацца, што дзесьці штосьці выйшла. Проста палюеш, ператвараесься ў паляўнічага за нейкім вершам асобным. Чаму так адбываецца – незразумела. Мне здаецца, не абрынулася б неба, калі б выйшлі па-беларуску Джойс, Бальзак, Гамэр. Узбагацілася б наша культура, узбагацілася б мова, у якой найперш і адлюстроўваецца душа нацыі. А так – назіраецца проста нейкае абсурднае становішча. Я лічу, што перакладчыцкая справа для нас – прыярытэтная. Бо, перакладаючы на беларускую мову, мы не аддаем, а набываем. Гэта ня Джойсу трэба, гэта ня Фолкнэру трэба, не Эліёту, не таму ж Умбэрта Эка, гэта трэба ў першую чаргу нам. Пісьменьніца Раіса Баравікова, да паэзіі якой я стаўлюся зь вялікай павагай, адказваючы на анкету тыднёвіка «ЛіМ», задалася іранічна-рытарычным пытаньнем: «А беларускіх пісьменьнікаў вывучаюць за мяжой так, як мы іх?». Гэта мне нагадвае дзіцячую гульню: «Ты мне ня даў сваю цацку пагуляць – я табе таксама сваю ня дам». Тут чаргі ўсталёўваць ня трэба. Мы самі яшчэ нічога не зрабілі, каб ад іншых падарункаў чакаць.



*Янка Брыль –*
празаік, перакладчык. Удзельнік Другой сусьветнай вайны. Працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, у Саюзе пісьменьнікаў, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету БССР. Народны пісьменьнік Беларусі. Аўтар кніг «Жменя сонечных промняў», «Вячэрняе», «Пішу як жыву» ды інш. Нарадзіўся ў 1917 годзе ў Адэсе. Жыў і памёр у 2006 годзе ў Менску.

## *Янка Брыль:* «Каб беларусу загадалі стаць беларусам – быў бы выдатны беларус»

***23 жніўня 2004 году***

*Шчасьлівы той творца, які знаходзіць сваё месца на зямлі, той прыродны ляндшафт, які адпавядае памкненьням ягонай душы. Янка Купала выбраў для свайго лецішча высокі бераг Дняпра. Максімілян Валошын упадабаў выпалены сонцам Кактэбель. Эрнэст Гэмінгуэй трызьніў трысьняговай Кубай і жыў там гадамі. Ва ўсім сьвеце вядомыя Ясная Паляна Льва Талстога, лесьнічоўка Пране Канстанты Ідэльфанса Галчыньскага, сонечны Грас на беразе Міжземнага мора, дзе меў жыцьцёвы прытулак Іван Бунін... Крынічнае Янкі Брыля, што знаходзіцца на беразе Нёмана на мяжы Карэліцкага і Стаўпецкага раёнаў, таксама займела вечную прапіску ў літаратуры. Там, у лясной зацішы, напісаныя апошнія па часе кнігі пісьменьніка. Там Янку Брылю добра працуецца, думаецца, адпачываецца, успамінаецца. Там ён любіць прымаць гасьцей.*

**Міхась Скобла:** Іван Антонавіч, да вас ні даехаць ні дайсьці. Ня сумна вам тут, на бязьлюдзьдзі, між ракой і лесам?

**Янка Брыль:** Мая родная вёска Загора – палявая. Зь вёскі па дровы ці будаўнічыя матэрыялы езьдзілі ажно ў Налібоцкую пушчу, за 20 кілямэтраў. Дзіўна сказаць, але салаўя я ўпершыню пачуў толькі ў гадоў пятнаццаць. Вось такое ў мяне веданьне лесу. Хоць і Загора мела сваю красу. У маленстве ж кожны кусьцік можа падказаць больш, чым цяпер пушча. Потым я ў партызанах да лесу звыкаў. А ў Крынічным я апынуўся дзякуючы свайму сябру Яўгену Крамко, чыё роднае Бережнае недалёка адсюль, ён мяне сюды заманув. Мы ў 1978 годзе пасяліліся ў аднаго гаспадара ў Крынічным, чатыры леты ў яго пражылі – спадабалася, і тады мы пабудавалі сабе вось гэты домік, у якім мы з вамі сядзім і гаворым. Калі я сюды трапляю, у гэтую атмасфэру, у гэтае спалучэньне зялёнага, сонечнага і ціхага, то мне нікуды ня хочацца.

**М. С.:** На вашым ганку сядзіш, як на каленях у прыроды. Хіба што краявід псуе старая недабудаваная хата, да якой рукой падаць.

**Я. Б.:** А для мяне хата гэтая зьвязаная з прыемнымі ўспамінамі. Яна перавезеная сюды зь мястэчка Турэц, дзе належала памешчыцы пані Ліпінскай. Пані здавала яе пад школу, і я ў гэтай хаце канчаў сёмую клясу, праходзіў польскіх пісьменьнікаў Ажэшку, Красінскага, Славацкага, а зь беларускіх – Багдановіча, Купалу. Але хата ўжо старая, парахня адна.

**М. С.:** Гэта проста неверагодна! Вы штодня бачыце сваю школу, як у маленства вяртаецеся.

**Я. Б.:** Часта адчуваньне такое паўтарацца ня можа. Але калі зруб толькі перавезьлі, і я разабраўся, што гэта за хата, то было прыемна – быццам старога знаёмага сустрэў. Той чалавек, які купіў зруб, закінуў яго, больш дзесяці гадоў нічога ня робіць, толькі бур'ян навокал расьце.

**М. С.:** Вы згадвалі сваю Загору, мне нядаўна давялося ехаць паўз яе ў кірунку мястэчка Турэц. Уся дарога – нібы пад наглядам старой местачковай царквы. Падумалася, што вы, ходзячы па той дарозе ў Турэцкую школу, мусілі адчуваць на сабе ўплыў, прысутнасьць храма. Ці была рэлігійнай ваша сям'я?

**Я. Б.:** Бацьку я амаль ня памятаю: ён памёр, калі мне было шэсьць гадоў. Гадаваўся я пры маме – меншанькі, па ліку дзясяты ў сям'і, можна сказаць, любімчык. Мама была рэлігійная, набожная. А адзін з маіх братоў, Ігнат, старэйшы за

мяне на сямнаццаць гадоў, ён быў праваслаўным сьвятаром. І яго ўплыў, вядома ж, я адчуваў на сабе. Я толькі не магу зразумець, хто на каго больш уплываў – ці мама на яго, ці ён на маму. А мама і малілася, і спавядалася. Я памятаю, як яна неяк вярнулася з Турца, з абедні, села і кажа: «Во, хоць ачалавечысься, як у царкву сходзіш». Мама была непісьменная, але начытаная, як ні дзіўна гэта гучыць. Яна прымушала дзяцей чытаць ёй услых. Усё ж такі ў нашай сям'і былі два чалавекі з вышэйшай асьветай. А сёстры паканчалі царкоўна-прыходзкую школу. Так што ўплыў на мяне быў – і маці, і брата. Пасьля вайны ўжо я зь ім перапісваўся – жыў ён на Ўрале. Ігнат ня быў, груба кажучы, папом-тарбахватам, ён быў ідэйным сьвятаром. Ён верыў, ён пакутаваў за веру, прайшоў і тайгу, і Беламорканал. І толькі пасьля вайны, вярнуўшыся з пэдагагічнай работы на сьвятарскую, ён завочна закончыў Ленінградзкую духоўную сэмінарыю і памёр у сане протаярэя. Яго ідэалам з маленства быў Алёша Карамазаў Дастаеўскага. І я памятаю, як брат пісаў мне: «Достоевский – это писатель, а вы, инженеришки человеческих душ, мелко плаваете».

**М. С.:** Вы не крыўдавалі на брата за гэткае прыніжэньне вас як пісьменьніка?

**Я. Б.:** Ды не, я зь ім хіба паспрачацца мог. Прытым я сам быў закаханы ў Алёшу Карамазава. Памятаеш той эпізод, дзе Алёша пацалаваў зямлю? Я «Братоў Карамазавых» прачытаў вельмі рана, прытым папольску. Аднойчы ішоў з суседняй вёскі позьняй парой і таксама паўтарыў учынак Карамазава. Хай гэта было наіўнасьцю, але – і сьвятасьцю маленства. Так што злавацца на брата я ня мог. Бо на той час я ўжо ведаў, што такое «инженеры» і «инженеришки» чалавечых душ. Лухты ж я таксама многа чытаў – і літаратурнай, і нелітаратурнай, але абавязковай. Так што спрэчкі ў нас з братам былі на роўных.

**М. С.:** «Ці-шы-ня!» – так называецца разьдзел вашай новай кнігі «Блакітны зьніч», што выйшла сёлета ў выдавецтве «Про Хрысто». А што яшчэ да цішыні трэба, каб пісалася?

**Я. Б.:** Калі не карыстацца высокім словам «натхненьне», трэба, каб было што сказаць і хацелася сказаць. Першыя мае апавяданьні напісаныя пры цьмянай газавай лямпе. А потым, калі трэба было гадаваць дзяцей, то часам з сынам на каленях пісалася, і таксама нядрэнна атрымлівалася. Я ня буду наракаць, і цяпер, у старасьці, у мяне жаданьне пісаць ня зьнікла, і я пішу патроху. Але з гадамі хочацца большай лучнасьці са сьветам, каб хто прыехаў, каб хто патэлефанаваў (ужо гады два ў мяне тут зьявіўся тэлефон). У Крынічным я ўжо больш за дваццаць гадоў, зь ім у мяне зьвязаныя добрыя ўспаміны: нямала старонак тут напісалася, вось на гэтым стале, якому больш за пяцьдзясят гадоў.

**М. С.:** А ці пішацца вам у менскай кватэры?

**Я. Б.:** Па-рознаму бывае. Я ўсё жыцьцё не расстаюся з блякнотам, запісваю хоць два-тры сказы, каб ведаць, за што зачапіцца. А некаторыя рэчы адразу ў блякноце робіш. Цяпер халодныя раніцы жнівеньскія, гэта спрыяе добраму творчаму настрою, а калі яшчэ працуецца... Знаеш, прачнуцца ў шэсьць гадзінаў, памыцца ды сесьці за стол і раптам – пайшло. А Божа мой, як добра жыць на сьвеце! – хочацца сказаць тады.

**М. С.:** Усім вядома, што вы заўзяты кніжнік і чытач. Зразумела, бо літаратура – гэта вашае жыцьцё. А другія віды мастацтва? Што вас кранала і кранае ў музыцы, жывапісе, кіно, тэатры?

**Я. Б.:** Я зь вельмі пявучай вёскі. Гэта дзіўна, але ў маёй Загоры вельмі добра сьпявалі мужчыны, а за паўтара кілямэтра – вёска маёй жонкі, там добра жанчыны сьпявалі. Таму я з маленства ў песьнях рос, я люблю харошыя хары. Для мяне вялікім сьвятам было пабыць на канцэртах Рыгора Шырмы, Генадзя Цітовіча. Мода можа зьмяняцца, а грунт

усяму – народная і клясычная музыка. Дарэчы, клясычная музыка вельмі зьвязаная з народнай. Вазьміце Чайкоўскага ці Глінку: яны чэрпалі з народнага расейскага і беларускага мэлясу.

**М. С.:** А ў жывапісе якія ў вас прыхільнасьці?

**Я. Б.:** Мне давялося пабываць у многіх краінах сьвету – у Амэрыцы, Эўропе, Азіі. Я пабываў у многіх галерэях. Праўда, у турыста заўсёды мала часу на мастацтва. Проста сьмешна, калі прыводзяць у Люўр і даюць дзьве гадзіны часу на агляд! Але я потым пачаў вучыцца глядзець. І калі ў 1974 годзе быў у Мадрыдзе, у музэі Прада, то абмежаваўся Гоям і Вэляскэсам, думаю, гэтых двух пагляджу і хопіць. Я люблю графіку. Неяк на выстаўцы пастаяў каля карціны Рыгора Сітніцы «Хата» і – нібы пагрэўся душой каля звычайнай вясковай сьцяны.

**М. С.:** А да кіно якое ў вас стаўленьне?

**Я. Б.:** Харошае кіно я вельмі люблю. Памятаю, італьянскі фільм «Два грошы надзеі» я глядзеў чатыры разы і параўноўваў гэта зь перачытваньнем Чэхава: кожны раз адкрываеш нешта новае. З францускіх актораў памятаю Жана Габэна, прыгадваю кінаэпапэю, дзе ён у ролі катаржніка цяжкім старэчым бегам уцякае ад жандармэрыі... Шкада, што наша беларускае кіно не набыло самастойнасьці ні раней, ні цяпер. Скажам, Віктар Тураў вельмі добра пачынаў з апэратарам Анатолем Забалоцкім. Але ім у Менску не далі разгарнуцца. Старыя рэжысэры не любілі моладзь, былі зайздросныя, як старыя арангутангі. Ты ж ведаеш, як старыя арангутангі распраўляюцца з маладымі? Ня ведаеш? Ну, яны выгрызаюць ім тое-сёе... Гэта пацьверджана навукай. Так было і на «Беларусьфільме». І маладыя таленты зьяжджалі. Як потым хораша праявіўся Забалоцкі з Шукшыным!

**М. С.:** А з тэатральных пастановак што памятаецца?

**Я. Б.:** Я любіў купалаўцаў Глебава, Платонава, Дзядзюшку, Пола, Ржэцкую, вялікую Стафанію Станюту – акторку Божай міласьцю, Галіну Макараву, люблю Машу Захарэвіч. На жаль, у тэатры я цяпер не бываю, бо мне цяжка па вечарах выходзіць. Апошні спэктакль, які глядзеў, – «Тутэйшыя». Пастаўлены добра, і акторы – малайцы. Але з купалаўскай драматургіі я больш люблю «Паўлінку» і «Раскіданае гняздо». А «Тутэйшыя» – п'еса слабаватая, плякатная, палітычная, але і яна патрэбная, і вельмі добра, што яна ідзе.

**М. С.:** Пісьменьнікі цяпер ня вельмі прыкметныя. У Беларусь на гадавіну па Быкаву прыяжджалі ўкраінцы. Яны паслухалі наша радыё, паглядзелі наша тэлебачаньне, пачыталі нашы газэты і спыталіся: «А дзе вашы пісьменьнікі?» А і праўда – дзе?

**Я. Б.:** Што да прэтэнзіяў нашых украінскіх сяброў, то ім таксама няма чым хваліцца. Кожнаму, хто прыедзе ў другую краіну, хочацца сваё пахваліць. «А дзе вашы пісьменьнікі?» А можа, той пісьменьнік сядзеў і працаваў, то што, лаяцца на яго трэба, што ён не пайшоў сустракацца з тымі ўкраінцамі? З іншага боку, дзе ж нам сустракацца? У нас адабралі Дом літаратара, мы пазбаўленыя нават сваёй пісьменьніцкай бібліятэкі. Але і пэўная інэртнасьць ёсьць. Я хадзіў нядаўна ў Музэй Максіма Багдановіча – на прэзэнтацыю часопісу «Куфэрак Віленшчыны», які выдае ў Маладэчне Міхась Казлоўскі. Апошні, дзявяты, нумар быў прысьвечаны блізкаму мне і маёй сям'і чалавеку – Рыгору Семашкевічу. Харошая была вечарына, заля – паўнюткая, але з усіх сяброў-літаратараў Рыгора быў адзін Вячаслаў Чамярыцкі.

**М. С.:** Вы шануеце Льва Талстога, заўсёды пішаце пра яго з адпаведным піетэтам. Тым большай нечаканасьцю быў для мяне ваш папрок Талстому, там, дзе ён піша прыканцы жыцьця, што «стаміўся мозг». Вы іранізуеце: «Аднак ці было ў яго столькі

страху, колькі пеpажылося намі, ці ведаў ён і такую стому?» Ці часта ў сваім літаратурным жыцьці вы зьведвалі стому ад страху?

**Я. Б.:** Ад такой калясальнай работы, якую прарабіў Талстой (цяпер выходзіць яго збор твораў у 120 тамах) стаміцца можна. Папракаць яго я і блізка ня думаў, я падумаў, што ў яго не было яшчэ і такой стомы, якая была ў нас, – стома ад вечнага страху, ад кантролю, ад цэнзуры. Талстой усяго гэтага ня ведаў. Ён пісаў, а ў Лёндане сядзеў Чарткоў і друкаваў поўнасьцю ўсё. Можна ўспомніць сьвятое абурэньне Талстога, калі ён прыехаў аднекуль і ўбачыў, што ў ягоную адсутнасьць жандармы зрабілі ў яго маёнтку ператрус, хочучы прыпісаць яму нейкую антыдзяржаўную дзейнасьць. І Талстой настолькі быў абураны, што напісаў цару Аляксандру II пра сваё жаданьне ад такой абстаноўкі зьехаць за мяжу... Цяжка ўявіць Талстога бязь Яснай Паляны, якая была для яго ўсім. Цяпер некаторыя мудрагелістыя хлопчыкі гавораць: у Талстога маёнтак быў! Падтэкст такі, што калі б і ў гэтага маладзёна маёнтак быў, то і ён Талстым стаў бы. Справа не ў маёнтку, а ў родным гнязьдзе. У Талстога шмат розных бедаў было, у тым ліку адлучэньне ад Царквы. Гэта нам здаецца, што чыесьці беды меншыя, чым нашы... Але як успомніш, як нас заганялі ў стойлы сацрэалізму – цэнзураю, рэдактураю, выклікамі наверх, заказамі, дурацкімі патрабаваньнямі! Помніцца, прыехаў новы работнік у ЦК, Буслаў, і выклікаў мяне: «У нас есть мнение, что вы должны написать повесть об МТС». А я кажу: у мяне ёсьць свае задумы. Дык ён пасьля прымаў Анатоля Вялюгіна і сказаў: «Какой строптивый молодой человек этот Брыль!» Вось ад чаго мы найбольш стамляліся!

**М. С.:** Наколькі істотныя для вас грамадзкія паводзіны пісьменьніка? Ці дастаткова добра пісаць і ня ўмешвацца ў грамадзкае жыцьцё?

**Я. Б.:** Вялікі расейскі пісьменьнік Міхаіл Прышвін так і пісаў: «Пісьменьніку трэба перш за ўсё думаць пра свае паводзіны». Я ў літаратуры ўжо шэсьцьдзесят шэсьць гадоў і сёе-тое помню. Для мяне добрым прыкладам заўсёды быў Максім Танк. Памятаю, здымалі з дырэктара Маладэчанскага музэю Генадзя Каханоўскага, і ён прыйшоў да мяне разгублены. Мы пайшлі да Танка, і ён дапамог. Вызваліць Натальлю Арсеньневу з казахстанскай ссылкі таксама Танк дапамагаў, і працаўладкоўваў пасьля яе. Тое самае было ў 1968 годзе, калі Алеся Разанава, Віктара Яраца выганялі з БДУ за тое, што зьбіралі подпісы ў абарону роднай мовы. Танк і ім дапамог. Мала таго, напісаў ліст маці Разанава: «Вы яшчэ будзеце ганарыцца сваім сынам!». А вазьміце адносіны Танка з Ларысай Геніюш. Здавалася б, генэрал, фэльдмаршал літаратуры і – апальная паэтка. А ён так па-чалавечы хораша ліставаўся зь ёю і ў Зэльву да яе езьдзіў, і дапамагаў, чым мог. І падобным чынам паводзіў сябе не адзін Танк... Калісьці Міхась Лынькоў, калі абмяркоўваліся выдавецкія пляны, адмовіўся ад выданьня свайго збору твораў на карысьць маладых. Дзе вы цяпер такое бачылі? Цяпер кожны лезе як жаба на корч, стараецца толькі для сябе!.. Той жа Лынькоў (камуніст Лынькоў!), калі арыштавалі Яўхіма Кіпеля, дапамагаў яго сям'і. Такое не забываецца. У такіх рэчах праяўляюцца па-сапраўднаму сумленьне, годнасьць і высакароднасьць людзей.

**М. С.:** У розныя часы літаратура займала рознае месца ў грамадзтве. Калі ўявіць будову грамадзтва ў выглядзе пірамiды, дзе ў аснове народ, а наверсе ўлада, дзе ў такім разе месца пісьменьніка?

**Я. Б.:** Па ўсёй пірамідзе яго месца. Пісьменьнік павінен быць голасам народу, перадаваць яго зьнізу даверху.

**М. С.:** А голас зьверху хто павінен перадаваць?

**Я. Б.:** А зьвеху ўніз, бывае, і каменьне скочваецца. (*Сьмяецца.*) Зрэшты, піраміды я толькі на малюнках

бачыў, і ўявіць месца пісьменьніка ў пірамідзе мне цяжка.

**М. С.:** Апошнім часам шмат гаворыцца пра глябалізацыю, пра тую пагрозу, якую яна нясе культуры. Ідзе яна да нас, як прынята лічыць, з Захаду. Але вось я чытаю ў адной моднай расейскай пісьменьніцы: «Бог трахнуў Марыю, і яна нарадзіла Хрыста». Па-мойму, на Захадзе да такога яшчэ ніхто не дадумаўся. Дык адкуль ідзе пагроза культуры?

**Я. Б.:** Поскудзь якая!.. Дарэчы, жаночыя дэтэктывы па мове сваёй, па вобразнасьці больш распусныя, чым мужчынскія. Што тут можна сказаць... Дурань – гэта панятак інтэрнацыянальны, дурань – паўсюль дурань: і ў Амэрыцы, і ў Аўстраліі. І такая шалава, прабач, якую ты працытаваў, можа знайсьціся ў любой мове – і па-расейску, і па-ангельску, і па-беларуску. А жанчына была заўсёды носьбітам маралі народнай пачынаючы ад калыскі. Калісьці мая мама гаварыла: калі жанчына вылаецца матам, то пад ёй на сажань зямля загарыцца. А пад такой пісьменьніцай, відаць, цэлая шахта вогненная палыхае.

**М. С.:** «Пражыў жыцьцё – раскажы» – вядомае выказваньне Льва Талстога. Вы дзесьці прыгадвалі, што нават у чатырнаццатым выданьні вашага раману «Птушкі і гнёзды», які шмат у чым аўтабіяграфічны, рэдактары не давалі вам «расказаць жыцьцё», рабілі купюры. Ці часта цэнзары знаходзілі крамолу ў вашых творах?

**Я. Б.:** Нават зачаста. З мае першай кніжкі апавяданьняў дырэктарам выдавецтва Міхасём Клімковічам было зьнята некалькі рэчаў – з цэнзурных меркаваньняў. Асабліва шмат «рэзалі» мае запісы. Калі выходзіў мой чатырохтомавік у 1967–1968 гадах, мяне паклікалі ў выдавецтва і паказалі ці ня тушшу замазаныя, павыкрэсьліваныя, каб я ня мог аднавіць, цэлыя старонкі запісаў. Тое самае адбывалася з «Птушкамі і гнёздамі». Прычым у



адным выданьні мне ўдавалася сёе-тое адстояць, а ў другім – не. І толькі ў трохтомавіку 1993 году раман пайшоў у тым выглядзе, у якім я яго напісаў.

**М. С.:** А што з раману выкідалася?

**Я. Б.:** Я не павінен быў гаварыць, што існавалі два віды палону. А была ж вялікая розьніца, як утрымліваліся ў палоне грамадзяне Польшчы і савецкія салдаты. Бо Савецкі Саюз, як вядома, не падпісаў Жэнэўскае пагадненьне. Знаходзячыся як салдат польскага войска ў нямецкім палоне, я аднойчы трапіў у савецкае консульства ў Бэрліне. Рэч у тым, што немцы, рыхтуючыся да вайны з СССР, вызвалялі лягеры ад палонных, захопленых падчас вайны з Польшчай. 4 чэрвеня 1941 году я быў вызвалены і пераведзены на завод пад нагляд паліцыі. Там мы запаўнялі анкеты для вяртаньня дахаты. А анкеты поштай жа не пашлеш – мы па чарзе мусілі вазіць іх у Бэрлін. І вось апошняя чарга прыпала мне, я быў у консульстве 21 чэрвеня, за дзень да вайны. Я глядзеў на партрэт Сталіна на сьцяне і думаў: Божа, куды я вяртаюся і што там са мной будзе?! Усё гэта адбываецца і з героем рамана Алесем Руневічам. І кожнага разу сцэна ў консульстве выкідалася цэнзарамі.

**М. С.:** Вы былі знаёмыя зь першымі асобамі Беларусі. Хто з высокага начальства сапраўды цікавіўся беларускай літаратурай, чытаў яе і меў уяўленьне пра яе ня толькі з цытатаў, што рыхтавалі памочнікі?

**Я. Б.:** Тут хочацца гаварыць перш за ўсё пра Пятра Міронавіча Машэрава, які чытаў і мог перадаць пісьменьніку праз кагосьці, што «я вас прачытаў». Я хачу прыгадаць адзін выпадак. Цяпер зыгзагамі машыны з зацемненымі вокнамі лятаюць, каб хаця хто не зачапіў... А тады я падымаюся па менскай вуліцы Маркса, а Машэраў ідзе насустрач. Следам за ім, праз крокаў дзесяць, адзін, спартовага выгляду, малады чалавек. Калі мяне Машэраў спыніў, і мы загаварылі, той, ззаду, зрабіў выгляд,

што закурвае. А Машэраў кажа: «Я тваю апошнюю рэч прачытаў і ня вельмі зразумеў. Цяпер перачытаў – нядрэнна». І гэта гаворыць першы сакратар ЦК КПБ пісьменьніку! Пра што гэта сьведчыць? Пра сапраўдную інтэлігентнасьць дзяржаўнага дзеяча. Машэраў гэтым вызначаўся. У мяне нават захавалася фота, зробленае нашым вядомым фоталетапісцам Валодзем Круком: мы з Машэравым у фае Купалаўскага тэатру. Што ён мне гаварыў? Ён гаварыў пра кнігу «Я з вогненнай вёскі» літаральна наступнае: «Ды вы самі ня ведаеце, што вы зрабілі!» Машэраў мог перадаць, што прачытаў у «Полымі» пераклады польскіх партызанскіх апавяданьняў, і рэзюмаваць: «вось як трэба пісаць пра нас, пра партызанаў!» Ціхан Якаўлевіч Кісялёў быў таксама вельмі інтэлігентным, вельмі беларускім чалавекам. Ён таксама шмат чытаў. Уявіце сабе такі факт: будучы ўжо безнадзейна хворым на рак, ён з маскоўскай больніцы папрасіў, каб юбілей Максіма Танка адклалі на некалькі дзён, каб самому папрысутнічаць. Нядаўна Сяргей Законьнікаў, які тады працаваў у ЦК, апублікаваў успаміны пра тое, як з Масквы, з больніцы, Кісялёў прасіў яго перадаць прывітаньні цэламу шэрагу пісьменьнікаў. Мне было вельмі прыемна, і, думаю, кожнаму з нас. Вось такія кіраўнікі патрэбныя. Інтэлігентныя.

**М. С.:** У дзёньніках Канстанціна Сіманава ёсьць згадка пра тое, як вас чытаў сам таварыш Сталін...

**Я. Б.:** Там трошкі ня так было. Сталін не называў мяне. Калі разглядалася пытаньне пра маю аповесьць на камітэце па прэміях, ён спытаў у Сіманава: «А что, это действительно талантливо или просто на нужную тему?» І калі яму сказалі, што сапраўды таленавіта, ён прамовіў: «Ну тогда другое дело, пусть идёт». Сталін жа ў нейкай ступені і сам быў літаратарам. Адзіны яму плюс, што ён не друкаваў уласных вершаў. Уяўляеш, як халуі завылі б ад захапленьня, каб ён іх надрукаваў!



**М. С.:** Арыстоцель лічыў, што дэмакратыя магчымая толькі ў невялікіх краінах. І сапраўды, у імпэрыях дэмакратыяй і ня пахла. Калі і пры якіх умовах магчымы дэмакратычны лад у Беларусі?

**Я. Б.:** Алесь Адамовіч пісаў, і тут я зь ім згодзен, што Беларусі дадзена магчымасьць паказаць сьвету высокія агульначалавечыя праўды, узоры паводзінаў на зямлі. Беларусаў крыўдзілі вельмі многа і доўга, мы разумеем, што гэта значыць – крыўда слабейшага. І цяпер у сьвеце слабейшых крыўдзяць, няма сапраўднага міжнароднага братэрства. Ларыса Геніюш пісала ў сваёй «Споведзі», што Міхал Забэйда-Суміцкі быў патрыётам, але ёй не падабалася, што ён патрыёт-інтэрнацыяналіст. А па-мойму, гэта ідэал: быць патрыётам роднай мовы, роднага краю і адначасова – патрыётам міжнароднага братэрства.

**М. С.:** Сьпеваку лягчэй быць інтэрнацыяналістам. Забэйда-Суміцкі сьпяваў на шаснаццаці мовах, пісьменьнік ня можа пісаць на шаснаццаці.

**Я. Б.:** Ён павінен добра пісаць на адной мове, а тады ён выступае на спаборніцтва. Трэба пісаць, а як яно адгукнецца, які атрымае міжнародны рэзананс... Мы ганарымся, што Быкаў перакладзены на пяцьдзясят моваў, а я нядаўна прачытаў у «Литературной газете», што Чынгіза Айтматава пераклалі на 154! Гэта ж пра нешта гаворыць, і яно як вада ў пясок ня пойдзе, будзе працаваць на міжнароднае братэрства. Праўда, мы рознага «братэрства» нагледзеліся. Калісьці адзін з маіх польскіх сяброў, выдатны паэт Уладыслаў Бранеўскі, прысутнічаў на сходзе, дзе гаварылася пра зьліцьцё моваў пры камунізьме. Бранеўскі ўстаў і сказаў, што калі пры камунізьме ня будзе польскай мовы, то ён ня хоча такога камунізму. А я хачу бачыць Беларусь дэмакратычнай, нэўтральнай краінай, якая спавядае вялікія агульначалавечыя вартасьці. І каб

мы экспартавалі ня толькі МАЗы ці трактары, але і добрыя кнігі.

**М. С.:** Любая ўлада ня здольная палюбіць таго, хто, мякка кажучы, ня любіць яе. Але ж узаемная нелюбоў непрадукцыйная, ды і не па-хрысьціянску гэта. Ці павінен пісьменьнік шукаць прымірэньня з уладай?

**Я. Б.:** Тут нельга ўніфікаваць улады, яны розныя і па-рознаму ставяцца да літаратуры. Калі мяне спыняў на вуліцы Машэраў, каб падзяліцца ўражаньнямі пра нейкі мой твор, то я нічога ня маю супраць такой улады. Такога кіраўніка было за што шанаваць. Я ня думаю, што прынцыпова трэба выступаць супраць улады. Калі яна перашкаджае мне быць свабодным мастаком – іншая справа. А калі не, то я не цікаўлюся, хто там сядзіць наверсе і хто яго заменіць.

**М. С.:** Ці мае пісьменьнік права на маўчаньне? Ці павінен жыць паводле прынцыпу «ні дня без радка»?

**Я. Б.:** Некаторыя мае сябры гаварылі: я павінен кожны дзень дзьве старонačкі зрабіць. А я адказваў: калі ў мяне ёсьць адпаведны настрой, то чаму толькі дзьве? У гэтым сэнсе мне спадабалася выказваньне Аляксандра Твардоўскага: «Як можна дакараць пісьменьніка, што ён мала піша, калі ў першую чаргу ён сам пакутуе ад маўчаньня!». Тут усё залежыць ад тваёй унутранай гатоўнасьці гаварыць тое, што ты павінен і можаш сказаць. Мы ж не марксісты, у нас колькасьць у якасьць ніколі не пераходзіць.

**М. С.:** Шматгадовая дружба між пісьменьнікамі – даволі рэдкая зьява. Як вам удалося сябраваць каля 30 гадоў з Уладзімерам Караткевічам, каля паўстагодзьдзя – з Анатолем Вялюгіным і Ўладзімерам Калесьнікам?

**Я. Б.:** Успамінаецца, як Іван Мележ, задумлівы, збоку гледзячы, нават нібы сумны, сказаў мне аднойчы: «Я табе зайздрошчу – у цябе столькі сяброў!»



І сапраўды, я лічу сябе шчасьлівым чалавекам з гэтай прычыны. На жаль, пра ўсіх сваіх сяброў я, мабыць, і напісаць не змагу... Мне нядаўна спадабаліся словы Салжаніцына: «Пером за жизнью не поспеешь». Вось я перажыў Максіма Танка, зь якім мы сябравалі з 1944 году. Каб ён перажыў мяне, то я ня ведаў бы, што ён пісаў пра мяне ў дзёньніках, не прачытаў бы яго шчырых сяброўскіх словаў. Я плаваў з Танкам вакол Эўропы ў адной каюце. Каюта вялікая, люкс, у адным баку ён мармыча свае вершы (а ў яго была такая звычка пры пісаньні), а ў другім – я вяду дзёньнікавыя запісы. І я цяпер з гонарам гавару, што тады быў напісаны славуты Танкаў верш «Ave Maria»... Я назаву імёны найбліжэйшых сяброў: малавядомы, але вельмі таленавіты паэт Валянцін Таўлай, вельмі багаты душою і інтэлектам паэт Анатоль Вялюгін. Мы яго называлі даведачным бюро: калі табе трэба нешта даведацца зь беларускай і ўвогуле з сусьветнай літаратуры, патэлефануй Вялюгіну, ён табе скажа. Вялюгін быў апекуном маладых, выдатным рэдактарам. Мы зь ім сябравалі зь лета 1945 году. Працяглая дружба была ў мяне зь Піменам Панчанкам, з Уладзімерам Калесьнікам. З апошнім падружыў мяне брат, яны абодва мастакі, хадзілі разам на этуды. З Калесьнікам у мяне была ня проста дружба, а перадача дружбы, як эстафэта. Ён мяне падружыў са сваімі сябрамі: выдатным мовазнаўцам і эсэістам Фёдарам Янкоўскім, з пэдагогам Міхасём Петрыкевічам, з Уладзімерам Ягоўдзікам – выдатным пісьменьнікам і энэргічным рэдактарам адразу двух дзіцячых часопісаў – «Бярозкі» і «Лесавіка», якія ён сам заснаваў... Алесь Адамовіч, калі вучыўся на сцэнарных курсах у Маскве, падружыўся сам і пазьней падружыў мяне з расейскім літаратарам Валянцінам Аскоцкім, малдаўскім празаікам Іонам Друцэ, украінскім паэтам Іванам Драчом. А калі ўжо ўспамінаць Адамовіча і Калесьніка, то з нашай

дружбы нарадзілася кніга «Я з вогненнай вёскі». Мы ўтрох аб'езьдзілі ўсю Беларусь, мы ўтрох запісвалі ўспаміны тых, хто ацалеў падчас паленьня беларускіх вёсак, і плакалі, і маўчалі, усё было перажыта намі разам. І як гэта замацоўвае дружбу! Здорава гэта – дружыць! Шкада, што дружбаў у нас цяпер малавата. Мы чамусьці на дробязі разьменьваемся, мурзаемся ў жыцьцёвай бядоце, забываючы пра тое, што дружба дапамагае жыць.

**М. С.:** Перад сваім наступным пытаньнем я прыгадаю словы расейскага паэта Афанасія Фета: «Если бы даже последний сапожник издавал журнал, названный словом из трёх букв, которое обычно пишут на заборе, то и тогда я согласился бы печататься в этом журнале. Поэзия очищает». Вы забралі свае творы з «Полымя», калі там галоўным рэдактарам стаў Мікола Мятліцкі. Гэта азначае, што «ачышчацца» палымянскія чытачы будуць стэнаграмамі выступаў А. Лукашэнкі, прозай І. Шамякіна ды вершамі самога Мятліцкага. Умоўна кажучы, ёсьць сумленнасьць, этыка і эстэтыка ў творах Брыля і ёсьць нахабства нячыстай на рукі кампаніі, якой творы гэтыя мо найперш і неабходныя – чыталі б і лепшалі. А вы забралі...

**Я. Б.:** У наш час мае ўсё-такі вялікае значэньне, дзе друкавацца. Я не ўяўляю сябе ў органе друку, які мне па сваёй накіраванасьці не адпавядае. Пішу я мала, і мне неабыякава, дзе мае творы пабачаць сьвет. Калі я атрымаў новае «Полымя», мне было прыкра, што там надрукаваліся Ўладзімер Конан, Янка Сіпакоў, Уладзімер Казьбярук. Маглі б яны надрукавацца і дзе ў іншым месцы. Фет нам тут не дарадца. «Сапожник...» Дзе ў той час і які «сапожник» мог выдаваць часопісы?.. Я забраў свае падрыхтаваныя да друку запісы з «Полымя» і «Нёмана», для якога іх пераклаў Валянцін Тарас. Мне была агідная сама думка, што ізноў вяртаецца цэнзура. Толькі пакарыся ёй, і твор будзе выглядаць, як у той



прыказцы: каза рагатая, паўбоку абадратыя, пашматана нешта, нешта павыкідана. Мы за апошнія дванаццаць гадоў адвыклі ад дурнога палітычнага рэдагаваньня. Вяртацца да гэтага я не магу.

**М. С.:** Сёньня многія нашыя суайчыньнікі, пераважна добрыя спэцыялісты, выяжджаюць за мяжу: іх зманьваюць высокімі заробкамі, дабрабытам. А ці не прапаноўвалі нешта падобнае пісьменьнікам з умовай, што яны будуць пісаць не па-беларуску?

**Я. Б.:** Палякі мне ні разу не падказвалі пісаць папольску. Хоць у Польшчы я свой чалавек – і празь веданьне польскай мовы, і праз тое, што ў 1939 годзе ваяваў супраць немцаў у складзе Войска Польскага. Нешта падобнае мне даводзілася чуць ад нашых усходніх суседзяў. Аднойчы адна старая габрэйка ў шапіку, убачыўшы маю кніжачку, што выйшла ў бібліятэчцы «Огонька» з партрэтам на вокладцы, зьдзівілася: «Такой мужчина и пишет не по-русски! Почему?». Аднойчы ў замежнай паездцы адна высокаадукаваная дама, доктар мэдыцыны, дарэчы, унучка скульптара Канёнкава, спыталася: «Иван Антонович, а вы сразу по-русски не можете писать?» У яе такое ўяўленьне, што я пішу па-беларуску, бо ў мяне ступень разьвітасьці ня тая, бо я, мабыць, яшчэ «приготовишка», па-расейску кажучы. Але гэта факт не з маёй біяграфіі, а зь яе... Усё гэтае так званае аб'яднаньне Беларусі і Расеі – незразумелае і непрымальнае. Я ня мыслю сябе без Талстога, Чэхава, Пушкіна, Гогаля, без украінцаў, латышоў, літоўцаў. Але ж мне ніхто не перашкаджае быць самастойным беларусам і любіць сваіх суседзяў не ў парадку падначаленасьці, а як свабодны свабоднага, як шчасьлівы шчасьлівага. Дай Божа да гэтага дажыць!

**М. С.:** Нядаўна былі апублікаваныя вашыя згадкі пра Віктара Астаф'ева, зь якім вы сябравалі. У дні разьвітаньня зь ім па ОРТ быў паказаны

тэлефільм, зьняты падчас падарожжа Астаф'ева па родных мясьцінах – па Енісеі на цеплаходзе. Па ўсім адчувалася, што ён расчараваны: і зьмененым ляндшафтам, і людзьмі. А якое адчуваньне ў вас, калі вы наведваеце свае Мір, Турэц, Загору?

**Я. Б.:** Ад Крынічнага, дзе мы з табой гаворым, да Загоры недалёка, і я там часам бываю. У нашых вёсках страшэнная спустошанасьць, там амаль няма мужчынаў. Зямлю трэба ўрабляць, а няма каму. Сёньняшнія аўралы, бітвы за ўраджай раней былі непатрэбныя, бо людзі любілі зямлю, сваю працу на ёй, і ўсё рабілася зь вялікай жыцьцёвай патрэбы, а не зь меркаваньняў палітыканскага характару. Я іду па сваёй вёсцы і бачу, наколькі там не хапае людзей. Старэнькія жанчыны жывуць адным клопатам: хто ім дапаможа зграбці соткі, хто ім набавіць пэнсію рублі на два. Але ж гэта ня выйсьце. Нешта трэба мяняць карэнным чынам, каб адрадзіць вёску. У Крынічным я жыву з 1978-га – з траўня да кастрычніка кожны год. І самоты тут хапае, і цішыні – часам нават здаецца, што залішне. Я ўспамінаю, як гаварыў Рамэн Ралян: «Уединение важно в меру». Тут добра думаецца, працуецца. Адгэтуль я раблю выезды па раёне, сустракаюся са сваімі людзьмі. Гадоў дваццаць таму, у дажджлівы дзень лежачы на сенавале, я заняўся падлікам: колькі чалавек былі б радыя, калі б я прыйшоў да іх госьцем. І налічыў я сяброў ажно на два месяцы штодзённага гасьцяваньня! А цяпер ужо бывае – няма да каго зайсьці... Нядаўна спыніўся ад непаладак азотна-тукавы камбінат, дык у ваколіцы зноў зьявіліся жаўранкі і жабы – ужо радасьць вялікая. Тут недалёка хутарок, і на слупе ў бусьлянцы – двое дарослых буслоў і ажно пяцёра бусьлянятак. Значыць, ім ёсьць, што есьці, ёсьць, куды ляцець. У іх тут быў пленум нейкі ці манэўры перад адлётам у вырай. І адзін малады замарыўся і сеў на мой домік. І я так быў рады і ўдзячны яму! Гэты домік стаіць ужо дваццаць гадоў, і ўпершыню



на яго сеў бусел. Як быццам дабраславіў дом на далейшае маё тут жыцьцё.

**М. С.:** Вы заўсёды многа чытаеце – гэта відаць па вашых лірычных запісах. Чытаючы іх, можна падумаць, што жывяце вы ў бібліятэцы. А ў вашай менскай кватэры, як помніцца, кніг зусім мала.

**Я. Б.:** Ну, і хата ж малая таксама, звычайная двухпакаёўка. Я адсяліўся ад сына, якому пакінуў ільвіную долю сваёй бібліятэкі – зборы твораў па дваццаць, па трыццаць тамоў. Я лічу, што кнігі павінны працаваць, яны не для таго, каб стаяць у шафах, чакаючы, пакуль нехта зьлітуецца ды прачытае. Таму я раздаваў кнігі. Прыкладам, Гуманітарнаму ліцэю аддаў некалькі соцень адборных, харошых кніг, каторыя цяпер Бог ведае дзе. Скарынаўскаму цэнтру я аддаў многа ўкраінскай і польскай літаратуры. Пэўную частку свайго кнігазбору перадаў бібліятэцы Саюзу пісьменьнікаў. Да таго ж у нашых архівах ёсьць спэцыяльныя фонды аўтографаў, куды я таксама перадаў нямала кніг, – там яны больш надзейна захоўваюцца.

**М. С.:** Адзін з такіх аўтографаў у Акадэмічнай бібліятэцы я прачытаў на кнізе Валянціна Тараса: «Янку Брылю – мае сьціплыя руны. Вялікаму караблю ад маленькае шхуны». Столькі кніг вы раздалі, а з чым засталіся?

**Я. Б.:** З аўтографамі кнігі я ня ўсе раздаў. Засталіся самыя дарагія кнігі маіх блізкіх сяброў – Івана Мележа, Уладзімера Калесьніка, Уладзімера Караткевіча, Аляксея Пысіна, Анатоля Кудраўца, Міхася Стральцова, кнігі ад сям'і акадэміка Радзіма Гарэцкага. Даведачная літаратура – беларуская, польская, украінская (у мяне ёсьць увесь Грынчанка – украінскі Даль), усё патрэбнае для працы ў мяне засталося. Улічы ж і тое, што мне ўжо столькі гадоў, што я ўсё чакаю – вось-вось, вось-вось... Так што я не зьбіраю кнігі, а раздаю. Хай ідуць у людзі, хай робяць сваю справу.

**М. С.:** Вы часам апісваеце сны. Гэта літаратурны прыём ці сны сапраўдныя?

**Я. Б.:** Не, гэта не літаратурны прыём, гэта рэальныя сны, якія вырашалі нейкае ўнутранае пытаньне майго жыцьця. Але тое ў літаратуры ня новае. Скажам, у Льва Талстога ёсьць апавяданьне, якое так і называецца: «Што я бачыў у сьне», – шэдэўр, напісаны ім ужо ў сталым веку. Як вядома, і наш Максім Гарэцкі запісваў сны. Наагул, гісторыя літаратуры шмат падобных прыкладаў ведае. Зь Бібліі пачынаючы. Памятаеш: «І пачуў у сьне – бяжы ў Эгіпет...»? Так што і ў мяне сны не прыдуманыя.

**М. С.:** Сёньня быць беларусам не забаронена. Гэтага дастаткова для разьвіцьця і ўмацаваньня нацыі?

**Я. Б.:** На вялікі жаль, не. А вось калі б беларусу загадалі быць беларусам – атрымаўся б выдатны беларус!



*Юры Грыбоўскі –*
гісторык. Выпускнік гістфаку БДУ і Беларускага калегіюму па спэцыяльнасьці «Найноўшая гісторыя». Працаваў у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, цяпер – супрацоўнік Гістарычнага інстытуту Варшаўскага ўнівэрсытэту. Аўтар кнігі «Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваньнях 1918–1945 гадоў». Нарадзіўся ў 1979 годзе ў вёсцы Забрэзьзе на Валожыншчыне. Жыве ў Варшаве.

## *Юры Грыбоўскі:* «Бітва пад Монтэ-Касіна – белая пляма нашай гісторыі»

*11 кастрычніка 2004 году*

*Яшчэ адзін непрыкметны юбілей, яшчэ адны незаўважаныя ў нашай дзяржаве ўгодкі: 60 гадоў таму адбылася бітва пад Монтэ-Касіна. У ёй на баку антыгітлераўскай кааліцыі ўдзельнічалі і беларусы, а прозьвішчы некаторых зь іх можна прачытаць на мэмарыяльным монтэ-касінскім могільніку. Афіцыйнае замоўчваньне гэтай бітвы і гэтай даты тым больш незразумелае ў час, калі ўлада шырока адзначыла вызваленьне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ды рыхтуецца да сьвяткаваньня 60-х угодкаў перамогі ў той самай вайне. Але ж ніхто з удзельнікаў Другой сусьветнай не павінен быць забыты. Пра змаганьне нашых суайчыньнікаў з фашызмам па той бок савецка-нямецкага фронту малады гісторык Юры Грыбоўскі напісаў кнігу «Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна».*

**Міхась Скобла:** Юры, у найноўшай 18-томавай «Беларускай энцыкляпэдыі» ёсьць горад Монтэ-Альбан, порт Монтэ-Карла, горны масіў Монтэ-Роза. А Монтэ-Касіна няма. Дык што гэта за мясьціна і якое дачыненьне яна мае да Беларусі?

**Юры Грыбоўскі:** Пару гадоў таму я падрыхтаваў энцыкляпэдычны артыкул пра бітву за Монтэ-Касіна і ўдзел у ёй беларусаў. Але ён не ўвайшоў у энцыкляпэдыю, і прычынаў мне ніхто не патлумачыў. Монтэ-Касіна – гэта ўзвышша, якое знаходзіцца на поўдзень ад сталіцы Італіі Рыму. На ім знаходзіцца сярэднявечны кляштар Сьвятога Бэнэдыкта, збудаваны яшчэ ў XIV ст. Праславілася Монтэ-Касіна ў гады Другой сусьветнай вайны. У 1944 годзе, калі



войскі заходніх хаўрусьнікаў ужо знаходзіліся на Апэнінскай паўвысьпе і рухаліся на поўнач, то акурат на поўдзень ад Рыму праходзілі дзьве ўмацаваныя нямецкія лініі абароны «Густава» і «Гітлер». Некалькі разоў 5-я армія ЗША і 8-я брытанская армія рабілі спробы авалодаць узвышшам, праламаць гэтыя лініі, але ўсе штурмы заканчваліся безвынікова. І толькі калі ў 1944 годзе ў штурме ўзялі ўдзел жаўнеры 2-га польскага корпусу генэрала Андэрса, пераможны вынік быў дасягнуты.

**М. С.:** Армія генэрала Андэрса – даволі таямнічае вайсковае фармаваньне. Дзесьці ўглыбіні Расеі раптам узьнікае 75-тысячнае польскае войска, якое цераз Іран і Эгіпет перапраўляецца ў Італію. Адкуль столькі ваеннаабавязаных палякаў у 1941 годзе ў Расеі?

**Ю. Г.:** Галоўнай крыніцай рэкрутацыі сталі грамадзяне даваеннай польскай дзяржавы, якія на той момант знаходзіліся на тэрыторыі СССР у якасьці ваеннапалонных і спэцпасяленцаў. Гэткі статус тысячы людзей займелі пасьля 1939 году, калі Польшча была падзеленая паміж гітлераўскай Нямеччынай і сталінскім Савецкім Саюзам. Згодна з польскімі зьвесткамі, іх агульная колькасьць складала каля 400 тысяч чалавек – афіцэраў і жаўнераў. Калі іх вывозілі, афіцэраў пакінулі ў Катыні, а жаўнераў павезьлі далей як дармавую рабочую сілу. Ваеннапалонныя разьмяшчаліся ў Гразавецкім, Суздальскім, Старабельскім і Юскім лягерах ваеннапалонных. Апрача таго, Андэрс набіраў і грамадзянаў, дэпартаваных органамі НКУС з тэрыторыі Беларусі і Ўкраіны зь лютага 1940 да чэрвеня 1941 году.

**М. С.:** І колькі беларусаў магло знаходзіцца ў названых лягерах?

**Ю. Г.:** Беларусаў сярод ваеннапалонных на ліпень 1941 году было 2848 чалавек, сярод якіх толькі 111 адмовіліся ўступаць у Польскую армію. Тым часам

сярод дэпартаваных дакладную лічбу нашых земля-коў вызначыць складана. Вядома, што сярод 120 тысяч дэпартаваных (лесьнікі, асаднікі, урадаўцы, паліцыянты, заможныя сяляне, дзеячы некамуністычных партыяў) з Заходняй Беларусі ўглыбіню СССР беларусы складалі ня менш за 20–25 тысяч чалавек. Менавіта сярод гэтай катэгорыі былых польскіх грамадзянаў знаходзіліся пісьменьнік Пятро Сыч і будучы прэзыдэнт БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч. 30 ліпеня 1941 году падціскам брытанскага боку была падпісаная дамова паміж савецкім урадам і польскім эміграцыйным урадам генэрала Ўладыслава Сікорскага ў Лёндане. У адпаведнасьці з гэтай дамовай былыя ворагі ператварыліся ў хаўрусьнікаў і ўзнавілі дыпляматычныя адносіны. У СССР была адчыненая польская амбасада на чале са Станіславам Котам. Неўзабаве, 14 жніўня 1941 году, была падпісаная савецка-польская вайсковая дамова, згодна з якой на тэрыторыі Савецкага Саюзу пачалося стварэньне Польскай арміі пад камандаваньнем генэрала Ўладыслава Андэрса. Першапачаткова штаб гэтай арміі кватараваўся ў Маскве, аднак 12 верасьня 1941 году ён быў перамешчаны ў мястэчка Бузулук Арэнбурскай вобласьці. Месцамі дысьлякацыі першых двух злучэньняў былі абраныя мястэчка Тоцкае Чкалаўскай вобласьці (5-я пяхотная дывізія) і мястэчка Тацішчава Саратаўскай вобласьці (6-я пяхотная дывізія).

**М. С.:** Вы пішаце, што беларусы, паступаючы да Андэрса, пісаліся палякамі. Чаму?

**Ю. Г.:** Праз уступленьне ў Армію Андэрса беларусы мелі магчымасьць вырвацца з «савецкага раю», дзе яны напоўніцу зьведалі сталінскі рэжым – прымусовую калектывізацыю, арышты і дэпартацыі ў Сібір, сьмерць блізкіх і родных ад голаду і холаду падчас знаходжаньня ў месцах спэцпасяленьняў. Як адзначаў у сваіх нататках польскі амбасадар Кот, «сяляне-беларусы з імпэтам ідуць у польскую армію, дасюль не заўважаныя сярод іх выпадкі нечаканьня». На 1 сакавіка 1942 году Андэрс набраў каля 75 тысяч жаўнераў. Згодна з афіцыйнымі зьвесткамі польскага камандаваньня, беларусы сярод эвакуяваных вайскоўцаў складалі 1397 чалавек. Аднак насамрэч іх колькасьць была большай. Добраахвотнае «апалячваньне» адбывалася таксама пад уплывам палітычных умоваў, у якіх праходзіла мабілізацыя ў Польскую армію. Так, у сьнежні 1941 году савецкі ўрад зарыентаваўся ў тым, што мабілізацыя ў армію Андэрса непалякаў можа нашкодзіць інтарэсам СССР у спрэчках з Польшчай у пытаньнях пасьляваеннай дзяржаўнай прыналежнасьці Заходняй Беларусі ды Заходняй Украіны. Савецкі бок асьцерагаўся, што прысутнасьць сярод польскіх вайскоўцаў беларусаў і ўкраінцаў дазволіць ураду Сікорскага аргумэнтаваць знаходжаньне заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх тэрыторыяў у складзе Польшчы. У сувязі з гэтым 25 сьнежня 1941 году Дзяржаўны камітэт абароны СССР выдаў распараджэньне, якім забаранялася мабілізацыя ў армію Андэрса прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Каб патрапіць у армію Андэрса, палякамі назваліся нават такія вядомыя беларусы, як Пятро Конюх, Пятро Сыч, Хведар Кажаневіч ды іншыя. Хведар Кажаневіч прыгадвае: «Я ўбачыў вельмі шмат беларусаў і ўкраінцаў, якіх палякі не прымалі ў армію, даведаўшыся, што яны не палякі. Даведаўшыся аб гэтым, я быў вымушаны схаваць той факт, што я зьяўляюся беларусам... Было мне тады толькі 17 гадоў».

**М. С.:** Людзкія страты пад Монтэ-Касіна склалі 52 тысячы чалавек. Гэта вельмі шмат. Навошта было гэткім коштам здабываць тое Монтэ-Касіна?

**Ю. Г.:** Вы, відаць, маеце рацыю. Ускладняў сытуацыю і ляндшафт. Монтэ-Касіна – гэта гарыстая непрыступная мясцовасьць, становішча для абаронцаў проста ідэальнае. Як пісаў у сваіх успамінах

удзельнік бітвы Пётра Сыч, «беларусы шчодра амылі сваёй крывёй шурпатыя, дзікія горы каля манастыра Монтэ-Касіна». Пра гэта ж сьведчаць успаміны як польскіх вайскоўцаў, так і цывільных асобаў. Вось як вядомы польскі журналіст і пісьменьнік Мэльхіёр Ванькові апісаў геройскі ўчынак стральца Рыгора Булака падчас атакі: «Не засталося ніводнага сапёра, таму пяхотнікі мусілі самі прабіваць сабе дарогу наперад. Першым ідзе просты праваслаўны хлапец зь Віленшчыны Рыгор Булак – міна адрывае яму нагу. Аднак ён падымаецца на адной назе і стаіць... Я гляджу на яго знэрвавана. Ён паварочваецца плячыма да непрыяцеля і ўздымае руку, нібыта гаворыць: "Сябры, раблю вам дарогу!" і кідаецца ўсім целам наперад. Выбух міны. Жаўнеры пайшлі на прарыў». Нейкі час Булак уважаўся загінулым, аднак пасьля вайны высьветлілася, што падчас атакі ён страціў руку, нагу і вока, аднак не загінуў, а быў падабраны немцамі і знаходзіўся ў палоне.

**М. С.:** З тысячаў беларусаў, што ўдзельнічалі ў бітве пад Монтэ-Касіна, сёньня ў Беларусі застаўся толькі адзін чалавек – 92-гадовы Якуб Конан. Ён з намі на тэлефоннай сувязі зь мястэчка Бярэзінскае Маладэчанскага раёну. Спадар Якуб, чым вы патлумачыце такія вялікія страты з боку андэрсаўцаў?

**Якуб Конан:** Ой, вялікія... З нашай пяхотнай 5-й дывізіі мала хто застаўся. З нашага боку такі агонь усю ноч вёўся, што мы думалі: капут немцам. Але яны адседзеліся ў бункерах, выдзеўбаных у скалістых горах. Нічога мы не зрабілі ім гэтым агнём. І як выйшла наша дывізія пяшочкам пад гэтыя горы, так уся і лягла там... Беларусаў і ўкраінцаў вельмі многа было.

**М. С.:** Чаму вы пасьля перамогі не засталіся на Захадзе?

**У. К.:** Дык жа радзіма цягнула!.. Стала мяне так мучыць, невыносна зрабілася. Ехаў і думаў: хоць убачуся з роднымі. Ведаў, што могуць далей павезьці. І павезьлі – і руднікі прайшоў, і Сібір усю... У Беларусі з усіх андэрсаўцаў я толькі адзін застаўся.



**М. С.:** Скажыце, Юры, ці былі беларусы пад Монтэ-Касіна на кіраўнічых пасадах, ці выкарыстоўваліся як «гарматнае мяса»?

**Ю. Г.:** Бальшыня беларусаў – гэта пераважна стральцы, старшыя стральцы, капралы, сяржанты. У кнізе «Беларусы пад Монтэ-Касіна» зьмешчаны сьпіс 180 палеглых беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі іншых нацыянальнасцяў, дзе прыведзеныя расшуканыя ў архівах зьвесткі: даты і месцы нараджэньня, веравызнаньне, вайсковыя званьні. Ці былі сярод беларусаў афіцэры? Былі. Вызначыліся гераізмам падчас бітвы і загінулі сьмерцю герояў падпаручнік Часлаў Лазічонак, паручнік Леанід Федарук быў нават пасьмяротна ўзнагароджаны найвышэйшай польскай вайсковай узнагародай – ордэнам Virtuti Militari. Увогуле, 80 беларусаў атрымалі высокую польскую вайсковую ўзнагароду – Крыж змагарных, 45 – Срэбны Крыж заслугаў зь мячамі і 7 – Залаты Крыж заслугаў зь мячамі. Усе палеглыя пахаваныя на могілках Монтэ-Касіна, дзе праводзяцца ўшанаваньні палеглых.

**М. С.:** Хведар Кажаневіч, які жыве ў Манчэстэры, можна сказаць, нелегальна ўдзельнічаў ва ўшанаваньні палеглых на 35-я ўгодкі бітвы, у 1979 годзе. Вось як гэта адбывалася.

**Хведар Кажаневіч:** Мы былі ўтрох – Віктар Сянкевіч, айцец Кастусь Маскалік і я. Сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасьцямі, паколькі ня мелі афіцыйнага запрашэньня. Дапамагло тое, што з намі ў машыне быў сьвятар, італьянцы пабачылі яго і прапусьцілі нас на гару. Мы прынесьлі прыгожы вялікі вянок зь бела-чырвона-белымі стужкамі і надпісам пабеларуску: «Яны змагаліся за нашу і вашу свабоду». Нягледзячы на гэта, палякі паставіліся да нас

непрыхільна, але праганяць нас адтуль было ўжо запозна. Самі могілкі вельмі прыгожыя, у галаве – вядома ж, польскі Белы Арол.

**М. С.:** Спадар Хведар, сёньня ў Беларусі добраўпарадкаваныя помнікі загінулым у мінулай вайне. Але да гэтай пары беларуская дзяржава не ўшанавала тых беларусаў, што загінулі пад Монтэ-Касіна. Як вы да гэтага ставіцеся?

**Х. К.:** Вельмі прыкра, што беларускі ўрад гэтым не зацікавіўся. Вельмі прыкра. Ва ўсім сьвеце вядомая гэтая бітва. Урад павінен зьвярнуцца да італьянскіх і польскіх уладаў, каб ушанаваць памяць загінулых. Гэта прэстыж дзяржавы. З іншага боку, ёсьць яшчэ адна прыкрая зьява. Тыя андэрсаўцы, якія вярнуліся дахаты, былі дэпартаваныя саветамі ў Іркуцкую вобласьць. Але калі іх адпусьцілі ў 1956-м, то амаль ніхто зь іх не вярнуўся ў Беларусь, усе паехалі ў Польшчу. У Польшчу, якая заўсёды была мачахай для нас! Гэта вельмі прыкрая зьява.

**М. С.:** Юры, Хведар Кажаневіч прыгадаў, што тыя беларусы, якія вярнуліся дахаты, былі вывезеныя ў Іркуцкую вобласьць. Ці многа было такіх?

**Ю. Г.:** Дахаты, у Беларусь, цягам 1946–1948 гадоў вярнулася каля тысячы былых жаўнераў арміі Андэрса. Спачатку савецкі ўрад заахвочваў іх да вяртаньня, абяцаў працаўладкаваньне і г. д. Але савецкая палітыка толькі вонкава нагадвала добразычлівую. З самага пачатку стаўленьне саветаў да жаўнераў заходніх хаўрусьнікаў было варожае. Так, у фільтрацыйных справах мелася рубрыка «Ці служыў у варожых фармаваньнях», дзе супрацоўнікі рэпатрыяцыйных органаў нярэдка занатоўвалі: «Служыў у арміі здрадніка генэрала Андэрса...». У ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 году органы МУС правялі масавую акцыю па арышце і дэпартацыі 5 тысячаў асобаў – андэрсаўцаў і членаў іх сем яў, якія былі вывезеныя ў Сібір. І пасьля вызваленьня ў 1956-м яны былі вымушаныя хаваць



свой удзел у вайне. Толькі ў 1993 годзе, згодна з новым Законам аб вэтэранах, былыя жаўнеры арміі Андэрса атрымалі статус паўнапраўных удзельнікаў вайны. Аднак на той час у Беларусі жылі толькі 12 вэтэранаў бітвы за Монтэ-Касіна.

**М. С.:** Як склаўся лёс тых жаўнераў, якія засталіся на Захадзе?

**Ю. Г.:** Пасьля дэмабілізацыі многія абралі ў якасьці сталага месца жыхарства Вялікабрытанію, Францыю, Канаду, Бэльгію, краіны Лацінскай Амэрыкі. Нацыянальным ядром беларускага вэтэранскага руху стала сотня былых выхаванцаў камандзерскай школы Беларускай краёвай абароны (БКА) ды іншых беларускіх нацыянальных фармаваньняў, якія ўліліся ў армію Андэрса ў 1945 годзе. Сярод іх былі Юры Весялкоўскі, Павал Навара, Янка Міхалюк, Кастусь Акула, Віктар Сянкевіч, Аляксандар Надсан... Пра іхны баявы настрой сьведчыць ліст Тодара Цімафейчыка, які, знаходзячыся ў шэрагах 2-га Польскага корпусу, у студзені 1945 году пісаў да айца Часлава Сіповіча: «Нягледзячы на тое што лёс закінуў нас у чужую і ад веку варожую армію, мы заўсёды будзем адданыя прысязе, прынятай перад абліччам беларускага народу і нашага прэзыдэнта». Неўзабаве сярод вайскоўцаў 2-га Польскага корпусу паўстаў беларускі нацыянальны рух. Беларускія жаўнеры наладзілі сувязь з Радай БНР у Парыжы і атрымлівалі адтуль газэту «Беларускія Навіны». Беларускую дзейнасьць сярод польскіх вайскоўцаў падтрымлівалі грэка-каталіцкія сьвятары айцец Часлаў Сіповіч і айцец Леў Гарошка, у памяшканьні якіх адбываліся нарады вайскоўцаў. 25 сакавіка 1946 году імі было наладжанае сьвяткаваньне ўгодкаў абвяшчэньня БНР. А ў 1947 годзе на ўстаноўчым зьезьдзе Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі прысутнічала каля 150 былых вайскоўцаў-беларусаў, яны актыўна ўлучыліся ў грамадзкае жыцьцё.

**М. С.:** Пад Монтэ-Касіна быў цэлы інтэрнацыя-

нал: палякі, беларусы, ангельцы, амэрыканцы, нават індусы. Як трактуецца бітва ў іншых краінах, у той жа Польшчы, Вялікабрытаніі?

**Ю. Г.:** У сьвеце выходзяць цэлыя стосы гістарычнай літаратуры пра Монтэ-Касіна. Тут можна прыгадаць 3-томавы твор «Бітва за Монтэ-Касіна» Мэльхіёра Ваньковіча, які ўславіў мужнасьць польскіх жаўнераў. А ў Беларусі нават на 60-я ўгодкі ўдзел тысячаў беларусаў у адной з найкрывавейшых бітваў Другой сусьветнай вайны застаецца амаль невядомым. Бітва пад Монтэ-Касіна застаецца белай плямай. Дасюль на Беларусі няма помніка тым, якія палеглі за волю свайго народу ў далёкай Італіі. Спадзяюся, што мая кніга нейкім чынам кампэнсуе гэты прагал у гістарыягафіі і будзе чымсьці накшталт помніку гэтым героям, што знайшлі сабе вечны спачын у італьянскай зямлі.



*Станіслаў Шушкевіч –*
палітык, фізік. Закончыў БДУ, працаваў у Інстытуце фізікі АН Беларусі, у Менскім радыётэхнічным інстытуце, у БДУ. Абіраўся дэпутатам Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, з 1991 да 1994 году займаў пасаду Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Разам з кіраўнікамі Расеі і Украіны ў 1991 годзе падпісаў Белавескія пагадненьні. Доктар фізыка-матэматычных навук. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Менску, дзе і жыве.

## *Станіслаў Шушкевіч:* «Улада мяне не разбэсьціла»

***12 сьнежня 2004 году***

*Такі ўжо лёс ці ня ўсіх экс-кіраўнікоў Беларусі. Пазбавіўшыся пасады, яны сыходзілі ў палітычны цень, стараліся працаўладкавацца ў спакойным месцы ды зрэдку пісалі мэмуары, дзе не забывалі пахваліць дзейную ўладу. У гэтым шэрагу былы старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыкметна вылучаецца. Ён многа езьдзіць па сьвеце, чытае лекцыі ў замежных унівэрсытэтах – ад ЗША да Японіі, па-ранейшаму бярэ актыўны ўдзел у грамадзкім ды палітычным (наколькі гэта магчыма) жыцьці краіны. Цяжка ўявіць С. Шушкевіча ў шэзьлёнгу на лецішчы, хоць гэтае самае лецішча адыграла не апошнюю ролю ў ягонай палітычнай кар'еры. Пэнсіянэр бяз пэнсіі, помсьліва адабранай вярхоўнай уладай, ён і на старэчы жанр мэмуараў, як выглядае, забыўся. Адчуваецца, што і надыходзячы паважны юбілей нічога ня зьменіць у кругабегу дзён Станіслава Шушкевіча.*

**Міхась Скобла:** Спадар Станіслаў, усяго нейкіх семдзесят гадоў таму вы нарадзіліся ў Менску. Якой яна вам помніцца – даваенная беларуская сталіца?

**Станіслаў Шушкевіч:** Я ўсьведамляю сябе з году 1940-га. Я памятаю Менск, і ён мне падабаўся. Жыў я на Камароўцы, дом стаяў на месцы цяперашняй філярмоніі. Там, дзе сёньня плошча Якуба Коласа, пачыналася балота, а там, дзе сёньня парк Чалюскінцаў, былі толькі падступы да гораду. Менск на той час налічваў 220 тысяч жыхароў, але ў горадзе захаваліся помнікі архітэктуры. У вайну ўсё згарэла, а муры касьцёлаў стаялі. Там, дзе цяпер



палац-«саркафаг» на Кастрычніцкай плошчы, літарай Г выгінаўся касьцёл, ня памятаю ягонай назвы. Але вялікіх дамоў у горадзе засталося мала, і найвялікшай уцехай для нас, дзяцей, было патрапіць у Дом спэцыялістаў (там цяпер Палац мастацтваў) і праехаць на ліфце. Гэта была вяршыня шчасьця!

**М. С.:** Вашага бацьку, паэта Станіслава Пятровіча Шушкевіча, шмат хто ведаў. Маці – менш. Хоць я прыгадваю, што, як толькі вы сталі старшынём Вярхоўнага Савету, у польскім друку зьявілася публікацыя «Маці прэзыдэнта», дзе паведамлялася, што кіраўніком Беларусі стаў сын польскай пісьменьніцы Гэлены Раманоўскай. Удакладнім: яна ўсё ж была сябрам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.

**С. Ш.:** Так, але належала да польскай філіі. У тагачасным Саюзе пісьменьнікаў былі польская, габрэйская, беларуская і расейская філіі. Напэўна, маці хацелася паказаць, што яна ўмее і па-польску пісаць. Але яна своечасова зразумела, што трэба кідаць гэтую пісьменьніцкую справу, таму што і тады, як і цяпер, у Менску хапала прыслужнікаў і сэксотаў. І сёньня многія са мною гавораць, згаджаюцца, а потым дакладваюць куды трэба – проста агідна... Дык вось і тады маці зразумела, што працаваць на радыё, нешта пісаць у тых умовах ня мае сэнсу. І яна стала настаўніцай мовы і літаратуры ў 17-й менскай школе. І пэдагогам яна была выдатным – адзін зь яе вучняў акадэмік Георгі Сідарэнка можа і сёньня гэта пацьвердзіць.

**М. С.:** А вашае выдатнае веданьне польскай мовы адкуль – ад маці?

**С. Ш.:** Не. Маці ўдома заўсёды гаварыла толькі па-беларуску. А мову яна вывучыла ў польскай школе, дзе, дарэчы, сядзела за адной партай зь Янінай Кахаmoўскай – бабкай Багдана Андрусішына, сьпевака і цяперашняга супрацоўніка Радыё Свабода. Для мяне гэта было вялікім адкрыцьцём – які цесны сьвет! А вось бабка мая малілася па-польску і

хацела зрабіць мяне шчырым каталіком. А для мяне быў добры спосаб зарабіць на кіно ці квас: трэба было вывучыць літаньне для бабкі. І я час ад часу вывучваў і расказваў ёй. А пасьля яна забывалася, што мне задавала, я «вывучваў» зноў тое самае, зноў ёй расказваў, і яна мне давала трохі грошай са сваёй маленькай пэнсіі. Ведаеце, я з чатырох гадоў чытаў на трох мовах: па-польску, па-беларуску і па-расейску. Але маці патрабавала, каб я бацьку ў Сібір пісаў толькі на роднай мове. А яшчэ я ў маленстве выпісваў польскія часопісы, скажам, «Пшэкруй», які выходзіў у Кракаве. Праўда, яго хутка савецкія ўлады забаранілі.

**М. С.:** Калі вам было ўсяго два гады, вашага бацьку арыштавалі. Фактычна вы гадаваліся бяз бацькі. Скажыце, вярнуўшыся з высылкі, ён маўчаў, як многія, ці вы ўжо тады ведалі, што адбываецца ў роднай савецкай краіне?

**С. Ш:** Я добра ведаў, што адбываецца ў роднай краіне, але мне здавалася, што ва ўсім вінаватыя подлыя выканаўцы мудрых рашэньняў партыі. Я верыў, што савецкія камуністычныя прынцыпы правільныя. Самае жудаснае, што мой бацька верыў у тыя самыя прынцыпы значна даўжэй, чым я. Ён уступіў у Камуністычную партыю ў 1964 годзе. Мне, па адукацыі фізіку, ня трэба было быць камуністам, але калі мяне прызначылі прарэктарам па навуцы Радыётэхнічнага інстытуту, я ўбачыў, што ўсе пытаньні вырашаюцца не на рэктарацe, а ў парткаме. І ў 1968 годзе мяне таксама прынялі ў партыю, і я змог нармальна працаваць на сваёй пасадзе. За час маёй працы ў інстытуце разоў у пяцьдзясят павялічыліся аб'ёмы навукова-дасьледчай работы, і я гэтым ганаруся.

**М. С.:** Вы сказалі, што бацька ў сьветлыя ідэалы верыў значна даўжэй за вас. А як доўга?

**С. Ш.:** Вы ведаеце, амаль да самага канца жыцьця. Бацька памёр у 1991 годзе, я якраз вёў сэсію Вярхоўнага Савету, калі мне паведамілі. Перад гэтым ён трапіў у шпіталь, яго лячылі добрыя лекары. І памёр ён вельмі нечакана – ад тромбу, пасьля апэрацыі. Бацька мой быў вельмі рашучым чалавекам. Ведаеце, калі я быў першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету, на мяне ў друку пачалі зьяўляцца розныя пасквілі. І адна зь іхніх тэмаў была – нібыта я здрадзіў бацьку, калі ён у высылцы знаходзіўся. Дык мой бацька ўзяў кій, на які апіраўся, і пайшоў па ўсіх савецкіх і партыйных інстанцыях тлумачыць: вы, падлюгі, ня маеце права так гаварыць!

**М. С.:** Я добра ўяўляю, як ваш бацька бараніў гонар сына. Бо аднойчы бачыў у Доме літаратара, як Станіслаў Пятровіч публічна лаяў на чым сьвет стаіць Эдзі Агняцьвет, якая, як лічылася, пісала даносы.

**С. Ш.:** Тут ня так усё проста. Хачу вам расказаць пра сваю асабістую, калі хочаце, драму. Пра гэта я нікому не расказваў. У нашай сям'і было рознае разуменьне, хто такая Эдзі Сямёнаўна Каган (Агняцьвет). Мая маці да самай сьмерці лічыла яе найлепшай сваёй сяброўкай, прыстойным чалавекам і ніколі не падазравала яе ў нейкіх злачынных ці амаральных дзеяньнях. А бацька сказаў у хаце пра Агняцьвет адкрытым тэкстам: я бачыў яе данос. Тут трэба зазначыць, што бацька мой ніколі ня хлусіў. Ніколі ў жыцьці! Нават у самыя цяжкія моманты! І заўсёды гаварыў толькі па-беларуску, нават у Сібіры. І ведаеце што? Я апынуўся паміж двух агнёў: маці адно гаворыць, бацька – другое. І я лічыў, што не павінен умешвацца і ў чымсьці пераконваць бацькоў. Савецкая сыстэма ўтварыла столькі подлых, агідных сытуацый, што да гэтага часу цяжка разабрацца... Я прыгадваю, як у Дзяржсавеце СССР вырашалася пытаньне – адкрываць ці не адкрываць архівы КДБ. І я быў гарачым прыхільнікам іх адкрыцьця! Але пачалі выступаць кіраўнікі азіяцкіх рэспублік: Узбэкістану, Казахстану, Туркмэністану.

Яны сказалі: калі вы хочаце спарадзіць шматгадовую, на стагодзьдзі, разьню і помсту – адкрывайце... Відавочна, мой дзяржаўны досьвед прымушаў мяне быць больш стрыманым і абачлівым. А бацька лічыў іначай. Ён, дарэчы, знайшоў таго судзьдзю, які яго асудзіў, той працаваў у Акадэміі навук, пайшоў туды і ганяў яго сваім кіем як сідараву казу! І мне сказаў: я ўсім дакажу, што гэта падлюга з падлюг, які зьнявечваў людзкія лёсы. Ну, што паробіш – такое было жыцьцё.

**М. С.:** Выступаючы нядаўна па БТ, у сэрыяле «Найноўшая гісторыя», Мечыслаў Грыб заявіў, што вы напаўсур'ёзна, напаўжартам прапанавалі Аляксандра Лукашэнку на старшыню антыкарупцыйнай камісіі. Вы не шкадуеце, што тады *так* пажартавалі?

**С. Ш.:** Я ніколі, паўтараю, ніколі ніякай кандыдатуры ні на якую пасаду ў Вярхоўным Савеце, акрамя сваіх намесьнікаў, не прапаноўваў! Паўтараю: ніколі! Старшыні парлямэнцкіх камісій прапаноўваліся дэпутатамі і абіраліся камісіямі. І навязваць свой пункт гледжаньня старшыня Вярхоўнага Савету ня мог. Грыб нешта блытае, бо Грыб, відавочна, заблытаўся ў той прапагандзе, якая цяпер вядзецца. Але я пагадзіўся з кандыдатурай Лукашэнкі – гэта праўда.

**М. С.:** Такім чынам, вы ўсё ж спрычыніліся да палітычнай кар'еры Лукашэнкі?

**С. Ш.:** Ну, вы ведаеце, я ж ня думаў, што ў чалавека няма ніякага сумленьня... Я вам скажу іншае: сумленьне час ад часу здраджвала і людзям, зь якімі я пасьля працаваў. Вы ўжо мне прабачце: у дзень, калі зьнік Віктар Ганчар, я сустракаўся зь ім двойчы. Яшчэ раз ён прыходзіў да мяне дахаты, мяне не было, і ён падараваў маёй жонцы, ня памятаю, зь якой нагоды, кветкі і пудэлачак цукерак. Відаць, зрабіў апошні ў сваім жыцьці падарунак. Ён быў вельмі элегантным чалавекам. Але менавіта



Ганчар найбольш эмацыйна выступіў супраць мяне на Вярхоўным Савеце... Я ўжо не гавару пра самых сапраўдных прыстасаванцаў, якія не клапоцяцца пра тое, каб іхныя дзеці іх паважалі. Прыкладам, той самы Дзьмітры Булахаў – ён наўпрост хлусіў і круціў! Ганчар – той на эмоцыях: міт першы, міт другі, міт трэці... Ён маніпуляваў фактамі, гарачыўся, што не варушымся. А справа была ў тым, што мы сапраўды не сьпяшаліся прымаць Канстытуцыю. 101-ы артыкул быў прыняты пад маім старшынёўствам. А 38 артыкулаў адзін за адным былі прынятыя пры Грыбе галасаваньнем, якое арганізаваў Булахаў. І вось менавіта гэтыя артыкулы спарадзілі ў нас і цемрашальства, і прэзыдэнцтва, і прарасейскасьць, і антыбеларускасьць! Не хапіла цярпеньня, і прынялі на сваю галаву. Бо як толькі канстытуцыю можна трактаваць двояка, тады і пачынаюцца непаразуменьні... А тады Лукашэнка быў лялькай у руках Саўміну. Усе для яго кампрамат шукалі – і Кебіч, і Мясьніковіч, і ўсё іхнае асяродзьдзе. Я быў для іх косткай у горле. Яны зьвесткі пра мяне давалі Лукашэнку. І ніводзін факт не пацьвердзіўся, ніводзін! Бо ўсё гэта была хлусьня, каб вырашыць адно-адзінае пытаньне – адсунуць мяне ад кіраўніцтва ВС... Я скажу вам без асаблівай сьціпласьці: у мяне няма праблемы пазнаваньня. Ва Ўкраіне, у Літве, у Польшчы мне цяжка быць самім сабой. Я выходжу ў Польшчы ў Лазенках, і мяне тут жа абступаюць жанчыны, называюць прозьвішча, і пачынаецца... У Кіеве ў мэтро праехаць немагчыма. Гэтым летам я там быў двойчы, дык нарэшце мой сябра проста вазіў мяне па горадзе на аўтамабілі. І ўсюды, паўтаруся, да мяне стаўленьне добрае.

**М. С.:** Вы згадалі пра адносіны да сябе ў Польшчы, ва Ўкраіне. А як ставяцца да вас людзі на менскіх вуліцах?

**С. Ш.:** Я спрабаваў лічыць: адна адмоўная рэакцыя на 19 станоўчых. Але гэта ў Менску сярод

людзей дасьведчаных. А ў правінцыі, дзе народ адурманены, прапорцыя можа выглядаць зусім наадварот.

**М. С.:** Мне прыгадваецца 1993 год. 75-годзьдзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Вы – у прэзыдыюме поплеч са старшынём Рады БНР Язэпам Сажычам. У вас не было намеру пераняць ад яго паўнамоцтвы?

**С. Ш.:** Не, і памкненьняў гэткіх не было ніколі. Але размова на падобную тэму вялася, маўляў, немэтазгодна захоўваць Раду БНР. Ды, бачыце, час паказаў, што мэтазгодна. І вельмі добра, што сёньня існуе Рада БНР і што яе ўзначальвае Івонка Сурвіла – жанчына, якой можа ганарыцца любая нацыя.

**М. С.:** Улада нярэдка мяняе людзей, часам непазнавальна. Скажыце, што адбываецца ў душы чалавека, калі ён пачынае глядзець на сьвет з акна ўрадавага «мэрсэдэса»?

**С. Ш.:** На маё абсалютнае перакананьне, чалавек, які ўжо адбыўся ў жыцьці, ён і на вяршынях улады не мяняецца. Я гляджу на радыёфізыка Хавіера Саляну, зь якім я знаёмы, неаднойчы сустракаўся. Ён паводзіць сябе абсалютна проста, натуральна, таму што ён ужо склаўся як навуковец, як унівэрсытэцкі прафэсар. Паглядзіце на Леха Валэнсу – што, зьмянілася ягонае стаўленьне да людзей? Ён як ставіўся добра да Касьцёлу, так і ставіцца, як быў спраўным каталікам, так і застаецца ім, як быў энэргічным палітыкам, так і застаўся, нават выйшаўшы ў адстаўку. Прыгадаю яшчэ аднаго свайго знаёмца – Вітаўтаса Ландсбэргіса. Яго ўлада таксама не сапсавала. Няхай ён мне прабачыць, па нашых беларускіх мерках, ён – вялікі зануда, зь ім даволі цяжка весьці гаворку. Але што да прыстойнасьці, да вернасьці прынцыпам, да ягонай адданасьці Літве – я ня ведаю другога такога палітыка. Я добра ведаю Віктара Юшчанку і ведаў яго яшчэ як прэм'ер-



міністра і кіраўніка Нацыянальнага банку Ўкраіны. Гэта цудоўны чалавек, патрыёт Украіны, прычым зь вялікай літары. Ён вельмі сьціплы чалавек. Мы зь ім разам атрымлівалі прэмію Орліка, сымбалічную па грашах, але прэстыжную, міжнародную паводле статусу. І калі пачалі скідвацца, каб адзначыць, то ён кажа: з вас ня возьмем, бо вам жа яшчэ на дарогу трэба. А для мяне – справа гонару, як жа так: усе ў складчыне ўдзельнічаем. Тым больш на дарогу тых грыўнаў хапала, можа, каб не хапала, то пабярог бы... Так што Юшчанка – нармальны чалавек і ведае, што такое шчырыя адносіны паміж людзьмі. Паўтаруся: людзі, якія не самасьцьвярджаюцца дзякуючы ўладзе, не мяняюць сваіх паводзінаў. Знаходзячыся ва ўладзе, я не набыў сабе новых сяброў, але і ня страціў старых – гэта важна. І ўлада мяне не зьмяніла і не разбэсьціла. Я не злоўжываў ні ўладай, ні тымі магчымасьцямі, якія яна давала.

**М. С.:** Вы згадалі Віктара Юшчанку, і мне захацелася прыгадаць украінскі прыклад стаўлення ўлады да творцаў. Месяцы тры таму прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма даў званьне Героя Ўкраіны свайму палітычнаму ворагу, аднаму з заснавальнікаў «Руху» паэту Дзьмітру Паўлычку. Бізун і пернік – што часьцей трэба ўладзе прымяняць у адносінах да творцаў?

**С. Ш.:** Ведаеце, Кучма даў яму Героя, бо Паўлычка яму патрэбен! Кучму трэба, каб Паўлычка да яго добра ставіўся. Вось і ўсё.

**М. С.:** Ну, вы пернікі таксама раздавалі. Скажам, Рыгор Барадулін атрымаў званьне народнага паэта з вашых рук.

**С. Ш.:** А я і тады, і цяпер не патрэбен Барадуліну, абсалютна не патрэбен. І, прабачце, лепш, чым я да яго стаўлюся, ставіцца немагчыма. Для мяне Рыгор Барадулін – найлепшы наш паэт і сьвяты чалавек. А што да перніка... Ведаеце, немагчыма не адзначыць дзяржаўнай прэміяй Васіля Быкава, калі яго

творы выдадзеныя на ўсіх мовах і шырокавядомыя ў сьвеце. Немагчыма! І толькі па гэтай прычыне яму давалі тыя прэміі. І думалі, што вось узяў ён прэмію – і перавыхаваецца, будзе служыць верна. Але – памыляліся. Творца павінен усьвядоміць адну рэч: калі сёньня твае творы не запатрабаваныя, то набярыся цярпеньня і застанься самім сабой, застанься годным свайго таленту. Прыгадайце мастакоў-імпрэсіяністаў – як яны жылі, у якім жабрацтве?! А сёньня іх творы мільёны каштуюць. І яшчэ адзін істотны момант: я ніколі не саромеўся прызнацца, што ў нейкім мастацтве не разьбіраюся. Асабліва ў сучасным. Сын мне сёньня так і кажа: бацька, ты цёмны чалавек.

**М. С.:** Нехта з клясыкаў абмовіўся, што пісаць вершы пасьля трыццаці непрыстойна. А ці існуе нейкі ўзроставы парог для палітыкаў?

**С. Ш.:** Сёлета ў Вялікай Брытаніі адзначаецца 130-годзьдзе Ўінстана Чэрчыля – самага вялікага брытанскага палітыка ўсіх часоў. Дык вось, ён прыкладна ў 90-гадовым узросьце гаварыў: «Не баюся фізычнай нямогласьці, баюся нямогласьці разумовай». І я згодны з Чэрчылем. Гэта матэматыкі ў 19 гадоў могуць рабіць адкрыцьці, а палітыка – занятак для людзей сталага веку, прыгадайце таго ж Чэрчыля, Конрада Адэнаўэра, дэ Голя... Але адновіць і адродзіць Беларусь моладзь. Праўда, зьберагчы моладзь ад дурных наступстваў чыіхсьці непрадуманых дзеяньняў могуць толькі спрактыкаваныя палітыкі. Сёньня нашу моладзь нярэдка падстаўляюць тыя, хто ня мае досьведу палітычнай барацьбы. Палітыкай могуць займацца людзі розных узростаў. Галоўнае, каб яны ня страцілі кандыцыі, розуму і здольнасьці рабіць дабро.



*Хрысьціна Лялько –*

празаік, паэтка, перакладчыца. Выпускніца філфаку БДУ. Працавала ў Літаратурным музэі Янкі Купалы, у рэдакцыях тыднёвіка «ЛіМ», часопіса «Беларусь». Цяпер – рэдактарка квартальніка «Наша вера». Аўтарка кніг «Сьвітанак над бярозамі», «На далонях любові», «Канваліі». Сярод перакладаў – кніга філязофскіх роздумаў Яна Паўла II. Нарадзілася ў 1956 годзе на хутары Хадзюкі на Лідчыне. Жыве ў Менску.

## *Хрысьціна Лялько:* «Часопіс “Наша вера” яднае хрысьціянаў»

***5 лютага 2005 году***

*Беларускае тэлебачаньне на Каляды шчодра дае найпраставыя тэлетрансьляцыі з праваслаўных і каталіцкіх храмаў. Мы бачым на экранах учарашніх заўзятых змагароў з «опіюмам для народу», якія трымаюць сьвечкі ў правай руцэ... У такія хвіліны думаецца, што з эпохі ваяўнічага атэізму наша грамадзтва пераступіла адразу ў III тысячагодзьдзе хрысьціянства. Што і спарадзіла ўсе непазьбежныя праблемы ў духоўным жыцьці народу. Усё ж, каб дайсьці да рэлігійнага рэнэсансу, нам неабходна, хоць паскоранымі тэмпамі, прайсьці эпоху асьветніцтва. Дзесяць гадоў таму ў постсавецкай Беларусі пачаў выходзіць каталіцкі часопіс «Наша вера», потым узьнікла выдавецтва «Про Хрысто», якое выпускае тэалягічную і мастацкую літаратуру па-беларуску. І часопіс, і выдавецтва ад часу ўтварэньня нязьменна ачольвае пісьменьніца і перакладчыца Хрысьціна Лялько.*

**Міхась Скобла:** Хрысьціна, «Наша вера» зьявілася ў час, калі многае пачынала зьнікаць, – у 1995 годзе. У чыю сьветлую галаву прыйшла ідэя выданьня часопіса?

**Хрысціна Лялько:** Гэтая ідэя прыйшла найперш да Провіду Божага. Гэта нам здаецца, што ідэі ўзьнікаюць у нашых галовах, а насамрэч яны проста пасылаюцца нам аднекуль звыш. Я была абраная як прылада для ажыцьцяўленьня Божай задумы. І ня больш.

**М. С.:** У першым нумары «Нашай веры» са шкадаваньнем канстатавалася, што ў айчыннай культуры застаецца незапоўненай духоўная ніша, што востра не хапае рэлігійнай літаратуры па-беларуску. А сёньня яе хапае?



**Х. Л.:** Я б не сказала адназначна, што гэтай літаратуры сёньня хапае, але тая духоўная ніша за прамінулыя дзесяць гадоў запоўнілася. Вазьміце хоць бы 34 нумары «Нашай веры», кожны нумар у сярэднім мае 70 старонак – усяго 2500 старонак. Ужо ж ёсьць нешта пакласьці ў тую нішу, праўда ж? Выйшла больш за 100 нумароў штомесячніка «Авэ Марыя». А вазьміце выданьне «Маленькі Рыцар Беззаганнай» для маленькіх дзетак, які цяпер рэдагуе Ірына Жарнасек. У згаданую нішу можна пакласьці і «Імшал» па-беларуску, і малітоўнік «Ойча наш». На беларускую мову перакладзеныя дзесяць кніг Сьвятога Айца Яна Паўла II. Так што можна падвесьці пэўныя вынікі і шчасьліва ўздыхнуць. А дзесяць гадоў таму перад намі была абсалютная пустка.

**М. С.:** «Наша вера» – часопіс і тэалягічны, і літаратурны, і архітэктурны, і мастацтвазнаўчы... Як вам удаецца на сямідзесяці старонках абняць неабдымнае?

**Х. Л.:** Складана, вядома, але ўдаецца. Пра сакральнае мастацтва, пра сакральную архітэктуру ў нас жа не пісалася дзесяцігодзьдзямі! Мы цяпер да такога багацьця дапалі, дарваліся! І нашыя аўтары шчасьлівыя, што маюць, дзе надрукавацца. Але прыйшоў час, калі «Наша вера» гатовая пайсьці не на пашырэньне, а на паглыбленьне тэматычнае. Часопіс будзе рабіцца ўсё больш тэалягічным, філязофскім, мы будзем больш увагі зьвяртаць на спадчыну айцоў Царквы.

**М. С.:** «Гербарыем пачуцьцяў і жарсьцяў, які зьберагае засушаныя ўзоры ўсіх цывілізацыяў» назваў бібліятэку слынны францускі паэт Поль Клядэль. Вы таксама ствараеце свой гербарый. Што з выдадзенага ў бібліятэчцы «Нашай веры» зьберажэ «водар нашай цывілізацыі» для наступных эпохаў?

**Х. Л.:** Бібліятэчка была маёй марай ад пачатку заснаваньня часопіса. Але дзесяць гадоў таму яна выглядала рызыкоўнай і нават сьмешнай. Не было за што часопіс выдаваць, якая там бібліятэчка! Але, дзякаваць Богу, і гэтая мая мара ажыцьцявілася. Што ў нас добрага выйшла? Кніга прафэсара Ўладзімера Конана пра ксяндза Адама Станкевіча, кнігі мастацтвазнаўца Аляксандра Ярашэвіча пра абразы Маці Божай Сьнежнай і Маці Божай Будслаўскай. Выйшла першая частка альбому «Каталіцкія сьвятыні Беларусі» Аляксея Яроменкі... З мастацкай літаратуры пабачылі сьвет кнігі Янкі Брыля, Ірыны Жарнасек, Алы Сямёнавай, Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль, Ніны Мацяш, Мар'яна Дуксы... У праекце застаецца вялікі том спадчыны Адама Станкевіча, які наша выдавецтва «Про Хрысто» плянуе выдаць супольна зь «Беларускім кнігазборам»*. На жаль, нават аб'яднанымі высілкамі нам да сёньня не ўдаецца ажыцьцявіць гэты праект. Усе мае намаганьні знайсьці фундатара па касьцельных каналах выніку пакуль што не далі.

**М. С.:** Я нездарма спытаўся пра вашыя кніжныя навінкі. Іх жа немагчыма набыць у звычайных кнігарнях.

**Х. Л.:** Для нас распаўсюд кніг застаецца праблемай. Мы іх, зразумела, прапаноўваем кнігарням, і яны бяруць часам – па адным асобніку. Таму набыць іх можна толькі ў парафіяльных кіёсках пры касьцёлах, у нашым катэдральным кіёску на плошчы Свабоды, 9.

**М. С.:** Касьцёлы сталі кнігарнямі?

**Х. Л.:** Ну, такая сытуацыя сёньня.

**М. С.:** Днямі споўнілася трыццаць дзён з дня сьмерці Яна Паўла II (нагадаю, што каталікі адзначаюць менавіта 30 дзён, як праваслаўныя – 40). Ён

*Выбраныя творы Адама Станкевіча выйшлі ў сэрыі «Беларускі кнігазбор» у 2008 годзе.



вельмі прыхільна ставіўся да беларусізацыі касьцёлу ў нашай краіне. Як вы лічыце, ці захаваецца гэтая тэндэнцыя і надалей, пры новым пантыфіку?

**Х. Л.:** Мы так увогуле ня можам ставіць пытаньня – ці захаваецца... Нямецкая мова ў нямецкім касьцёле, італьянская ў італьянскім, беларуская ў беларускім – гэта пастанова Другога Ватыканскага сабору, які адбыўся ў 1965 годзе. Пасьля прыняцьця гэтай пастановы набажэнствы ў касьцёлах пачалі перакладзіцца на нацыянальныя мовы. Ясна, што пры савецкай уладзе беларускі касьцёл быў нямы, ён быў у падпольлі, таму пра мову ў касьцёле тады гаварыць не выпадала. А калі пачалося духоўнае адраджэньне на пачатку 1990-х, пачала адраджацца і беларуская мова ў касьцёле. Таму беларуская мова ў каталіцкіх храмах была і застаецца, гэта пастанова Ватыкану і, вядома ж, асабістая заслуга Яна Паўла II.

**М. С.:** Дарэчы, згадаю цікавы факт. Тыдні два таму па НТВ была перадача памяці Яна Паўла II. І журналіст кажа: а цяпер мы паслухаем, зь якой асаблівай павагай ставіўся папа да расейцаў, нават гаварыў па-расейску. Уключаецца запіс, і гучыць голас Яна Паўла II: «Дарагія мае беларусы! Жадаю вам вясёлых Калядаў!».

**Х. Л.:** Ян Павал II называў касьцёл у Беларусі «ўмілаваным». Ён ведаў пакутны шлях гэтага касьцёлу, цаніў тое, што гэты касьцёл у вельмі неспрыяльных умовах захаваў жывую веру. Я двойчы мела аўдыенцыю ў Яна Паўла II і была сьведкаю, зь якой трапяткой увагай ён адносіўся да касьцёлу ў Беларусі. Яна Паўла II лічылі найперш вялікім палякам, вялікім патрыётам Польшчы. І я часта думала, адкуль у яго такая любоў да іншых культураў, да іншых моваў, ён жа паліглётам быў, столькі моваў ведаў... Проста гэты чалавек па-сапраўднаму любіў сваё, а любячы сваё, змог палюбіць і чужое.

**М. С.:** Што мяне яшчэ зьдзіўляла, калі глядзеў рэпартажы з сустрэчаў Яна Паўла II, – людзкія

сьлёзы ў яго прысутнасьці. Чым гэта можна патлумачыць?

**Х. Л.:** Я гэта патлумачу толькі адным – узрушэньнем. Я памятаю і свае сьлёзы. Я двойчы сустракалася са Сьвятым Айцом, і двойчы на вочы наварочваліся сьлёзы. І гэта былі самыя сьветлыя ў маім жыцьці сьлёзы. Гэты чалавек быў сьвяты. Я не баюся так гаварыць, бо падобнае было ўжо сказана пры яго пахаваньні. Людзі стаялі на плошчы Сьвятога Пятра і трымалі таблічкі з надпісам «Santo subito!» – «Неадкладна сьвяты!». Людзі патрабавалі, каб Яна Паўла II неадкладна бэатыфікавалі, вынесьлі да хвалы алтароў. Калі ён быў жывы, у ім гэтая сьвятасьць адчувалася, яна як магніт прыцягвала людзей. Ведаеце, гэта фэномэн, але нашаму сучаснаму сьвету не хапае сьвятасьці. Чалавек шукае сьвятасьці. І ён яе знаходзіў у Яну Паўлу II – у пастыры ня толькі ўсіх каталікоў, але і ўсіх людзей. І ягонае пахаваньне акурат і паказала, што ён быў духоўным айцом для ўсяго сьвету. Таму што ўвесь сьвет укленчыў у жалобе. Столькі краінаў абвясьцілі ў сябе жалобу! Куба тры дні смуткавала. Фідэль Кастра дзьве гадзіны ў саборы на жалобнай імшы адстояў! Дзе вы такое бачылі? Філіпіны, Нігерыя... Увесь сьвет плакаў і шкадаваў гэтага сьвятога чалавека. Таму што сьвету нашаму сёньня патрэбная сьвятасьць.

**М. С.:** На старонках «Нашай веры» выступаў і кіраўнік Праваслаўнай беларускай царквы мітрапаліт менскі і слуцкі Філярэт. Ці атрымліваецца ў вас супрацоўніцтва з праваслаўнымі братамі?

**Х. Л.:** У нас ідзе самае цеснае супрацоўніцтва з праваслаўнымі аўтарамі, якіх у нас бальшыня. Памятаеце, што сказаў у сваёй малітве Хрыстос, зьвяртаючыся да Айца Нябеснага? «Каб усе былі адно – Ut unum sint». Я лічу, што кожны сапраўдны хрысьціянін імкнецца да гэтай еднасьці. І адна з задачаў часопіса «Наша вера» – гэта менавіта паяднаньне. Каб хоць на старонках часопіса ўзьнікла хрысьціянская еднасьць. І дзякуй Богу, яна ёсьць.



**М. С.:** Вы перакладаеце польскую духоўную паэзію. Пераважна паэтаў-ксяндзоў. У Польшчы гэта даволі распаўсюджаная зьява, калі сьвятары зьяўляюцца яшчэ і паэтамі. А чаму беларускія ксяндзы забыліся на паэзію?

**Х. Л.:** Таму што яны змагаюцца з тымі праблемамі, якіх у іх сёньня багата і якія, на жаль, не спрыяюць натхненьню. Уявіце сабе: прыяжджае ўчорашні выпускнік духоўнай сэмінарыі у парафію, а там – няма сьвятыні альбо сьвятыня разбураная, жыльля няма. Ясна, што такія абставіны наўрад ці спрыяюць паэзіі. Думаю, што сваю паэтычную энэргію ксяндзы ўкладаюць у муры новых, у рэстаўрацыю старых сьвятыняў, у пераклады літургічных тэкстаў, якіх у нас не хапае, у свае душпастырства. Але казаць, што беларускія ксяндзы зусім ня пішуць вершаў, не выпадае. У часопісах «Наша вера» і «Ave Maria» я друкавала паэзію і прозу ксяндзоў Вячаслава Пялінка і Паўла Халяўкіна. Думаю, прыйдзе паэтычны час і для сьвятароў. Традыцыя мусіць жыць.

**М. С.:** У «Цэнтральнай кнігарні» Менску нядаўна адчыніўся аддзел праваслаўнай кнігі. На жаль, толькі праваслаўнай, спрэс расейскамоўнай. А дзе, апрача касьцёлаў, можна сёньня набыць каталіцкую літаратуру?

**Х. Л.:** Вельмі добра, што аддзелы хрысьціянскай літаратуры зьявіліся ў нашых кнігарнях. Будзем лічыць, што гэта першыя ластаўкі, прыйдзе час – там зьявіцца і каталіцкая літаратура. Але мы не чакаем, мы хочам адчыніць сваю кнігарню «Духоўная кніга». Менавіта «Духоўная кніга», мы не звужаем яе да вузкаканфэсійнага азначэньня*. Мы хочам

*Кнігарня «Духоўная кніга» знаходзіцца па адрасе: Менск, вул. Максіма Багдановіча, 25.

паказаць узор – як павінна выглядаць хрысьціянская кнігарня. Там на адной паліцы будуць стаяць праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанцкія выданьні, кнігі айцоў Царквы і Касьцёла, увогуле хрысьціянская літаратура. І, зразумела, кнігі нашага выдавецтва «Про Хрысто».

**М. С.:** У сьвеце не сьціхае палеміка вакол фільму «Код да Вінчы». Гадоў пару таму падобныя спрэчкі выклікаў фільм Мэла Гібсана «Пакуты Хрыстовы». Калі за аснову мастацкага твора бярэцца рэлігійны сюжэт, дзе палягае мяжа, за якую аўтар са сваёй фантазіяй ня мае права ступіць? І ці ўвогуле існуе такая мяжа?

**Х. Л.:** Несумненна, такая мяжа ёсьць. Мяжою тут павінна быць праўда. Тым больш, калі пісьменьнік ці рэжысэр бярэ неаспрэчныя факты, на якіх грунтуецца дагматыка хрысьціянскай веры. Вельмі небясьпечна, калі сучасны мастак, спасылаючыся на Эвангельле, пачынае гэтыя факты перакручваць. Але што паробіш, ва ўсе часы былі тыя, хто імкнуўся несьці сьвету добрую навіну, і тыя, каму гэтае Дабравесьце страшэнна перашкаджала. Гэткая сытуацыя захавалася і да сёньня... Яшчэ Сьвяты Павал у сваім Другім Пасланьні да Цімафея прароча папярэджваў, што «будзе час, калі здаровае навукі прымаць ня будуць, але паводле свайго жаданьня будуць выбіраць сабе настаўнікаў, каб лашчылі слых іх, і ад праўды слых адвернуць і зьвернуцца да казак». А «Код да Вінчы» – дэтэктыўная казка, угрунтаваная на домыслах, легендах, показках, хоць і займальна напісаная, па ўсіх правілах жанру. Ізноў, калі зьвярнуцца да Другога Пасланьня Паўла да Цімафея, то ён папярэджваў свайго вучня, а праз яго кожнага хрысьціяніна: «Але ты будзь чуйны ва ўсім, цярпі гора, рабі справу Дабравешчаньня, служэньне сваё выконвай».

**М. С.:** Фільм «Код да Вінчы» зьняты зь менскага пракату. Але, несумненна, пры жаданьні яго можна



будзе набыць на касэтах ці DVD. Дык ці варта добраму хрысьціяніну яго глядзець?

**Х. Л.:** Глядзець варта, калі гэты хрысьціянін упэўнены, што ягоная вера моцная. І тут ёсьць яшчэ адзін момант. Мы памятаем здраду Юды. Цяпер таксама многа шуму нарабіла «Эвангельле ад Юды», якое адшукалі на копцкай мове і перакладаюць на мовы сьвету. Мы гаворым пра тое, што Юда прадаў Хрыста за трыццаць срэбнікаў. І ня думаем, што самі сёньня прадаем яго, але ўжо за мільёны даляраў. Паводле сродкаў масавай інфармацыі, толькі першае выданьне кнігі «Код да Вінчы» прынесла аўтару больш за трыццаць мільёнаў! Чым не цана, адпаведная часу?! А параўноўваць творы Мэла Гібсана і Дэна Браўна не выпадае. Гібсан ідзе строга за фактам і на гэтым будуе вобразную структуру фільму, яго сымболіку і алегарычнасьць, што праўда, часам, даводзячы свае мастацкія прыёмы да мяжы натуралізму. А Дэн Браўн да гэтай мяжы даходзіць у сваіх фантазіях і выдумках. Я лічу, што такія кнігі, як «Код да Вінчы» Дэна Браўна, і падобныя да іх фільмы, яны проста змушаюць нас быць хрысьціянамі, змушаюць нас выйсьці са сьпячкі, з гэтага, кажучы па-расейску, «благодушия». Яшчэ Дзьмітры Меражкоўскі казаў, што агонь хрысьціянства памірае, калі яго не разьдзьмухвае вецер. І вось для таго, каб ён гарэў, і зьяўляюцца падобныя творы. Каб мы былі чуйнымі.

**М. С.:** Мне запомніліся радкі з вашага аднаго верша: «На розных мовах гаворым – яднае маўчаньне». Так сталася, што Беларусь сёньня гаворыць на розных мовах. Дык што нас зьяднае – маўчаньне ці «крык, што жыве Беларусь»?

**Х. Л.:** Маўчаньне дапаможа толькі ў тым выпадку, калі за ім стаіць любоў. Але лепш за ўсё яднае слова. Галоўнае – каб не было між людзьмі анямелае самоты і разьяднаньня. Наўрад ці трэба крычаць, што «жыве Беларусь». Але памятаць,

думаць пра гэта пастаянна, дбаць пра тое, каб яна жыла, – неабходна.

**М. С.:** Нядаўна я пабываў у маленькай лясной вёсачцы Дубок на Смаргоншчыне. Там – драўляны касьцёл у лесе, а непадалёк – язычніцкі камень, да якога і сёньня таксама ходзяць людзі як да сьвятыні. Наколькі сумяшчальныя хрысьціянскае і язычніцкае месцы пакланеньня?

**Х. Л.:** Хрысьціяне настолькі талерантныя ў сваіх адносінах да іншых вераваньняў, што яны ня сталі зьнішчаць гэты камень, яны пакінулі яго як памяць аб тым, што на гэтым месцы калісьці была паганская сьвятыня. Нашыя продкі перажылі пэрыяд паганства. Потым прыйшло хрысьціянства – і цяпер мы маем сваю веру, веру ў адзінага Бога. Так атрымалася, што хрысьціянская сьвятыня – касьцёл – быў пабудаваны нашымі продкамі побач з гэтым каменем. Я ня думаю, што вернікі, хрысьціяне, прыносяць свае ахвяраваньні да гэтага каменя. Яны ўсяго толькі не абражаюць памяці сваіх продкаў, яны яе захоўваюць як памяць пра сваю даўнюю прагісторыю. Я лічу, што гэта абсалютна натуральна. Але я лічу ненатуральным той факт, што ў наш час, калі большасьць з нас зьяўляюцца хрысьціянамі, знаходзяцца людзі, якія пачынаюць зьвяртацца да паганства і лічыць яго панацэяй ад усіх нашых бедаў. Мы сёньня кажам пра тое, што ў нас пачалося хрысьціянскае адраджэньне, мы пазбыліся матэрыялізму, атэізму, але, аказваецца, мы трапілі ў іншую пастку – у пастку пантэізму. Пантэізм – гэта калі мы абагаўляем стварэньне, ставім яго вышэй за Творцу. Вось гэта палохае, гэта страшна, гэта вядзе нас да вялікай бяды. Таму нас павінна непакоіць ня тое, што побач з адной сьвятыняй захавалася іншая, а тое, што ў нашай сьвядомасьці адбываецца падмена каштоўнасьцяў, падмена ярархіі рэчаў. Мы не павінны вяртацца на тысячагодзьдзі назад. Гэта немагчыма.



*Андрэй Хадановіч –*
паэт, перакладчык. Закончыў філфак БДУ, дзе цяпер выкладае замежную літаратуру. Старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтру. Аўтар кніг «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «Бэрлібры» ды інш. Падрыхтаваў да выданьня аўтарскую анталёгію паэтычных перакладаў «Разам з пылам». Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Менску, дзе і жыве.

## *Андрэй Хадановіч:* «Паэт павінен быць тэатрам аднаго актора»

***10 красавіка 2005 году***

*Сто гадоў таму на сьвет зьявіліся першыя беларускія санэты, трыялеты і актавы. Саджанцы-экзоты з заходнеэўрапейскага старога саду прышчапіў у садзе беларускім Максім Багдановіч; яны прыняліся, разрасьліся і да гэтай пары пладаносяць. Беларуская літаратура з удзячнасьцю засвоіла вершаваныя формы, вынайдзеныя на Захадзе. Зь цягам часу прыйшла чарга атрымаць апыленьне зь вісячых садоў Усходу. І вось на мяжы стагодзьдзяў наўсьлед за лірыкай Алішэра Наваі і рубаі Амара Хаяма, перастворанымі па-беларуску адпаведна В. Жуковічам і Р. Барадуліным, выйшлі цэлыя зборнікі беларускіх хоку («Высакосны год» У. Сіўчыкава) і танку («На струнах смутку» Н. Гілевіча). Што б там ні казалі крытыкі пра спэцыфіку японскай паэзіі, як бы іранічна ні пакепнівалі з айчынных «хокуістаў», «танкістаў» і «басёкоў» (гэтыя насьледуюць Басё), відавочна адно: літаратура, якая і ў старыя мяхі налівае хмельнае маладое віно, мае пэрспэктывы. А нядаўна беларускі чытач меў шчасьце пазнаёміцца зь яшчэ адным, раней не чуваным на родных абшарах відам вершу – лімэрыкам. Гэтым разам садоўнікам-сэлекцыянэрам выступіў паэт Андрэй Хадановіч – аўтар кнігі «Землякі, альбо Беларускія лімэрыкі» (2005).*

**Міхась Скобла:** Андрэй, патлумач, калі ласка, мне, недасьведчанаму, зь якой вярбы грушы – твае лімэрыкі?

**Андрэй Хадановіч:** Лімэрык – старажытны жанр, яму некалькі стагодзьдзяў. Ён мае мудрагелісты назоў, але нічога мудрагелістага ў ім няма, такая сабе гумарыстычная, пяцірадковая прыпеўка-



дрындушка. У першым радку абавязкова рыфмуецца населены пункт: горад, мястэчка, зьяўляецца іх жыхар – загадкавы, дзіўнаваты, недарэчны, зь якім адбываецца нейкая прыгода. Заснавальнік лімэрыка – ангельскі паэт Эдвард Лір, яго «Кніга нонсэнсу» стала клясыкай жанру. Аднойчы мне падумалася: чаму на месцы якога-небудзь Сан-Паўлу ня можа быць нашых Лынтупаў? У Беларусі сотні гарадоў і мястэчак, жыхары якіх таксама могуць быць героямі цікавых гісторый. І яшчэ ў мяне была такая наіўная, мабыць, думка: зачапіць глыбінныя пласты недаразьвітай людзкой самасьвядомасьці. Ёсьць у нас процьма такіх «недабеларусаў», нацыя для іх – абстракцыя, а вось назва роднага мястэчка – гэта нешта блізкае, гэта ўжо пароль і водгук. Гэткім спосабам можна знайсьці з такім чалавекам паразуменьне. І вось я паспрабаваў закінуць такую вуду.

**М. С.:** Тэорыю лімэрыкапісаньня мы збольшага прайшлі. Засталася практыка.

**А. Х.:** Пачнем з клясыкаў: «Завіталі ў музэй у Кушляны / тры Каляны й чатыры Таляны:/ стрэсьці ў экскурсаводкі / *Бурачковае* водкі – / для таварышаў зь Яснай Паляны».

**М. С.:** А я і ня ведаў, што Багушэвіч меў свой рэцэпт самагону...

**А. Х.:** Сапраўдны клясык павінен умець усё. Тым больш, калі яго ўласны псэўданім абавязвае. Дарэчы, у мяне ёсьць лімэрык і на гэтую тэму: «Неразважны сатырык з-пад Слоніму / вершы надрукаваў без псэўдоніму / супраць валадара – / і за спробу пяра / атрымаў...» («Не знаходжу сыноніму»). А вось некалькі лімэрыкаў на зьлёгку палітычныя тэмы: «Афтальмоляг з Лагойскага тракту / прэзыдэнту лячыў катаракту / й невядома чаму / раптам сеў у турму / зь дзіўным выракам: “спроба тэракту”. Альбо: «Самы шчыры палітык з-пад Шклова / даў насельніцтву чэснае слова: / “Будзе водка й расол!” / Моцны цешыўся пол / і рыдала другая палова».

**М. С.:** Памятаю, гады два таму ў Менску праходзіла міжнародная канфэрэнцыя пад назвай «Інтэлектуалы: спакуса маўчаньня». З таго часу, як мне здаецца, гэтая спакуса яшчэ пабольшала. Доступ на тэлеэкран закрыты, у радыёэтэр – абмежаваны. Што ў такіх умовах павінен рабіць інтэлектуал: маўчаць у шапку, пісаць у шуфляду ці ў манастыр сыходзіць, як тое зрабіў паэт і філёзаф Алег Бембель?

**А. Х.:** Творца павінен рабіць дзьве рэчы: голасна гаварыць тады, калі маўчаньне ганебнае, і маўчаць тады, калі відавочная спакуса пустаслоўя і марнаслоўя. Інтэлектуал – гэта той, хто адчувае розьніцу паміж патрэбным і непатрэбным тут і цяпер словам. У сытуацыі, калі маўчаць ганебна, трэба шукаць новую мастацкую форму, каб нагадваць пра слушнасьць старых ісьцінаў. Іх ня так шмат. Зь іншага боку, сьвет ператварыўся ў нейкі суцэльны шум, дзе словы абясцэньваюцца. Вось вам сьвежы прыклад. Ледзь пасьпеў памерці ў Ватыкане папа Ян Павал ІІ, а ўжо нехта ў інтэрнэце робіць маленькія літскандалы, маніпулюючы імем папы ў сваіх вершыках. А можа, дарэчней было б прамаўчаць і ня пляміць сьвятое... Інтэлектуалы мусяць усімі магчымымі і немагчымымі сродкамі змагацца за права фармаваць грамадзкую думку, як гэта яны рабілі, напрыклад, у XVIII ст. Вальтэр казаў: «У мяне няма скіпэтра, але ёсьць пяро!» І ён меў права так казаць, бо мог вырашыць пытаньне жыцьця і сьмерці, ён мог выступіць і кагосьці выратаваць ад інквізыцыі, ад вогнішча. Сёньня ніхто ня чуе інтэлектуалаў, іх выпіхнулі на маргінэз, на ўзбочыну жыцьця. Людзей больш цікавяць сёньня цана на нафту, банкаўскія траншы і г. д. Інтэлектуалы павінны нагадваць грамадзтву пра больш істотныя рэчы ў гэтым сьвеце. Аднак хопіць інтэлектуальнага снабізму: літаратура – рэч для абраных, далучаных... Мы павінны сёньня працаваць і са школьнікамі, і са студэнтамі, і з інтэрнэт-карыстальнікамі – зь любым чалавекам, якога можна зацягнуць у мастацкі дыялёг.



**М. С.:** Уладзімер Караткевіч некалі ў роспачы выгукнуў: «Хай лепей ніколі ня будзе краіны, чым будзе краіна бяз волі!» А як гэтыя дзьве рэчы – краіна і свабода – разьмеркаваныя ў тваёй сыстэме каштоўнасьцяў?

**А. Х.:** Давай ізноў зьвернемся да вечнага. Калісьці ў XVIII ст. францускі асьветнік Мантэск'ё сказаў: «Калі б мне прапанавалі выбіраць паміж маімі інтарэсамі і інтарэсамі маёй сям'і, я адмовіўся б ад сваіх на карысьць сямейных. Калі б я выбіраў паміж інтарэсамі сям'і і нацыі, я выбраў бы інтарэсы нацыі. Калі б я выбіраў паміж інтарэсам сваёй нацыі і інтарэсамі ўсяго чалавецтва, я не вагаючыся выбраў бы інтарэсы чалавецтва». Гэта адзін скрайні пункт. Але ўжо празь некалькі дзесяцігодзьдзяў прыйшлі рамантыкі і перакулілі ўсю гэтую сыстэму. І чалавечая адзінка, асоба, заняла самае галоўнае месца. Мне здаецца, што мы зрабілі з нацыянальнага інтарэсу свайго роду фэтыш, абраз, на які молімся. І займаемся гэтым залішне шмат часу.

**М. С.:** У эсэ «Беларусь у эўрапейскай пясочніцы» ты пішаш: «Як бы цяжка было сёньня не дэманізаваць лукашэнкаўскую Беларусь, рабіць гэтага не выпадае. Бо цяперашняя Беларусь – гэта ня толькі прэзыдэнт, як на мяне, даўно нелігітымны, і ня толькі ягоны электарат, суцэльна ачмураны сродкамі масавай інфармацыі...» Што застаецца, паводле М. Валошына, «маліцца за тых і за другіх»?

**А. Х.:** Мне здаецца, што інтэлектуал, літаратар ня мае ні маральнага, ні чалавечага права змагацца зь людзьмі. Маё правіла – змагацца з ідэямі, а не зь людзьмі, іх носьбітамі. У Беларусі вельмі моцны апарат прапаганды, і сярэдняму чалавеку вельмі складана застацца неачмураным лукашэнкаўскай ідэалёгіяй. Па вялікім рахунку чалавек ні ў чым не вінаваты, яму затлумілі галаву, яго так выхавалі. І

ён мае права ня тое што на сэанс перавыхаваньня, але і на шанец, каб яго зачапілі чымсьці іншым, яскравым, супрацьлеглым. Але трэба гэтае іншае яму паказаць, зьдзівіць яго моцна, парушыць ягонае чаканьне. А мы са сваёй беларушчынай часам адразу ж прымаем абарончую позу. Я гляджу на сваіх добрых прыяцеляў, якія гавораць па-беларуску ў чужым асяродку, і бачу, як яны напружваюцца, бо наперад чакаюць адмоўнай рэакцыі. Таму іхныя галасы мімаволі пачынаюць гучаць агрэсіўна. А зьвяртацца да людзей трэба з максымальным зарадам дабрыні і любові. І тады тое, што ты нясеш, будзе прынятае.

**М. С.:** Я ведаю, што ты жаданы госьць у студэнцкай аўдыторыі ня толькі ў якасьці выкладчыка замежнай літаратуры. Нядаўна знаёмы дэкан філфаку прызнаўся мне, што ім на рэктараце не рэкамэндавалі запрашаць да сябе пісьменьнікаў. Ці былі выпадкі, калі цябе чакалі, а сустрэцца магчымасьці не было?

**А. Х.:** Безумоўна, такія выпадкі здараліся, і ня толькі ў мяне. Апошнія пару гадоў я займаюся апякунствам конкурсу маладых літаратараў, які арганізоўвае Беларускі ПЭН-Цэнтар. Па выніках конкурсу выходзяць кнігі маладых творцаў, іх трэба прэзэнтаваць. Мы ўжо другі год запар ладзім турнэ па беларускіх унівэрсытэтах: Гомель і Горадня, Магілёў і Віцебск, Полацак і Мазыр, менскія ўнівэрсытэты... І тут на пустым месцы паўстае праблема, бо бюракратыя ў ВНУ, здаецца, зацікаўленая, каб не было ніякіх прэзэнтацый і сустрэчаў. У нас усё, што не дазволена, забаронена. Калі выкладчык будзе ўзгадняць з дэканам, дэкан – з прарэктарам, прарэктар – з рэктарам, то, хутчэй за ўсё, на адным з гэтых зьвёнаў усё замкнецца і забароніцца. Сёньня падобныя сустрэчы – плён добрай волі выкладчыка і рызыкі загадчыка катэдры ці дэкана, якія могуць атрымаць спагнаньне. Дзякуй ім усім за дапамогу – шкада, імёнаў назваць не магу, каб не нашкодзіць людзям... У нас ёсьць зацікаўлены чытач і ёсьць літаратура, але паміж імі небясьпечная стыхія, якую трэба пераплысьці. У нас сёньня ніхто, апрача аўтара, не зацікаўлены ў прамоцыі ягоных твораў. Паэт у нас мусіць быць такім рухомым баляганчыкам, тэатрам аднаго актора. І шмат хто так робіць. Трэба часьцей езьдзіць, часьцей сустракацца і ламаць дурныя недарэчныя стэрэатыпы, што беларуская паэзія – анахранізм. Будучыня за Беларусьсю і беларускай паэзіяй, і гэтыя рэчы мусяць быць паяднаныя і таленавіта ўвасобленыя. Будучыня – гэта сума нашых намаганьняў. Хочаш, каб цябе чыталі заўтра, – выхавай свайго чытача сёньня. Гэта датычыць усяго цэху беларускіх літаратараў.



**М. С.:** Ты яшчэ і перакладчык, і, наколькі я ведаю, наступнай тваёй кнігай мае быць аўтарская анталёгія замежнай паэзіі «Разам з пылам». У Беларусі вось ужо гадоў дванаццаць няма ніводнага пэрыёдыка накшталт сьветлай памяці альманаху «Даляглядь». Мы спрабуем жыць у палітычнай ізаляцыі, а ці выжывем у культурнай?

**А. Х.:** Гэта катастрофа, гэта ахілесавая пята, гэта самы слабы пункт сучаснай беларускай культуры. Ведаеш, Шэксьпір па-ангельску – гэта абстракцыя, Шэксьпір па-беларуску – гэта ўжо планка, да якой можна дарастаць. Я тут не хачу сказаць, што ў нас няма «беларускага Шэксьпіра», сёе-тое ёсьць, але колькі ж белых плямаў! Палякі маюць звышпрэстыжную «Literaturu na swiece», расейцы – «Иностранную литературу», украінцы – «Всесвіт». Аналягічны пэрыёдык патрэбен беларускай літаратуры як паветра. Добра, што ёсьць незалежныя выданьні, якія даюць трыбуну перакладчыкам, – часопісы «Дзеяслоў» і «ARCHE», газэта «Наша Ніва», але робяць яны гэта непастаянна, трэба часьцей і больш даваць перакладаў. Нам патрэбен як мінімум штомесячнік, дзе б друкавалая і клясыка, якой катас-

трафічна не хапае, і дзе можна было б, напрыклад, паўдзельнічаць у пагоні за бэстсэлерамі. Гэта значыць выдаць хоць бы на месяц раней за нашага ўсходняга суседа твор, які чытае ўвесь сьвет. Украінцы зрабілі стаўку на «Гары Потэра» – выдалі яго раней за Маскву ў выдатным паліграфічным афармленьні масавым накладам, які цалкам разышоўся. Ведаеш, можна бясконца пераконваць, агітаваць «за мову», а выніку ня будзе. А вы прапануйце цікавы прадукт – і яго купяць. Украінская мова жыве ва ўкраінскім «Гары Потэры». Пра што я толькі мару ў адносінах да Беларусі.

**М. С.:** Я пра пераклады спытаў нездарма. Набыў нядаўна шыкоўна выдадзены том польскага паэта Канстанты Ідэльфанса Галчыньскага. Там сярод перакладчыкаў – Іосіф Бродзкі, Леанід Мартынаў, Давід Самойлаў і – Андрэй Хадановіч. Ты практыкуеш пераклады на расейскую?

**А. Х.:** Практыкаваў. У 1995 годзе я скончыў унівэрсытэт, і ў маім дыплёме было напісана – «выкладчык расейскай мовы і літаратуры». Мяне занесла на расейскае аддзяленьне, дзе я сумленна займаўся расейскай паэзіяй і, у тым ліку, перакладамі на расейскую мову. Адной з маіх першых любовяў быў Галчыньскі, на якога я літаральна накінуўся і ў меру сваіх сьціплых сілаў перакладаў на расейскую. Пасьля перакладзеныя тэксты гадоў дзесяць ляжалі бяз руху. І раптам на міжнароднай канфэрэнцыі я ўразіў кагосьці з расейцаў сваімі беларускімі перакладамі з Галчыньскага. І мне прапанавалі паўдзельнічаць ў зборніку Галчыньскага па-расейску. Я паглядзеў свае юначыя пераклады, штосьці паправіў і адаслаў у Маскву. На маё вялікае зьдзіўленьне, яны ўвайшлі ў кнігу, дарэчы вельмі сымпатычную. І сёй-той з крытыкаў кажа, што мае пераклады там ня горшыя.

**М. С.:** Мы раней гаварылі пра спакусу маўчаньня. Пісаць па-расейску – гэта аўтаматычна пашырыць



сваю чытацкую аўдыторыю. Ці не было ў цябе *гэткай* спакусы – пасьля Галчыньскага?

**А. Х.:** Гэткай спакусы для мяне не існуе. Першае, што прапанаваў мне маскоўскі выдавец Галчыньскага: давайце працаваць над наступнай кніжкай, давайце перакладзем яшчэ кагосьці. Я падзякаваў за давер і ветліва адмовіўся. Мне здаецца, што сёньня, заўтра і ў больш адлеглай будучыні я падобнымі рэчамі займацца ня буду. Вялікая, магутная і шматстайная расейская літаратура дасьць рады існаваць і безь мяне. Адначасова ў мяне ёсьць адчуваньне, што вельмі цікавая і сымпатычная беларуская літаратура вымагае і патрабуе маёй прысутнасьці. І я буду ёй дапамагаць ва ўсіх сваіх іпастасях.

**М. С.:** А як ты ставісься да дзьвюхмоўных пісьменьнікаў? Наш Максім Багдановіч пісаў на дзьвюх мовах, былі такія творцы, як Мілан Кундэра, Уладзімер Набокаў...

**А. Х.:** Тут я не пагаджуся. Ні Кундэра, ні Набокаў ніколі не былі дзьвюхмоўнымі пісьменьнікамі. Быў расейскі паэт Сірын, які з часам стаў ангельскім пісьменьнікам Набокавым. Быў чэскамоўны пісьменьнік Кундэра, які цягам доўгага жыцьця ў Францыі зрабіўся франкамоўным пісьменьнікам. Так і Хадановіч у пэўны час стаў беларускамоўным. Не таму, што гэта трэба, а таму, што пісаць па-беларуску для мяне прыемней, і атрымліваецца яно неяк само па сабе. Урэшце атрымліваецца лепей, чым некалі атрымлівалася па-расейску. Прыклад з тым самым Галчыньскім пра тое ж сьведчыць. Геракліт казаў, што двойчы немагчыма ўвайсьці ў адну і тую ваду. Я мару выдаць томік беларускага Галчыньскага, добра было б пасьпець да 100-годзьдзя паэта*. Ня ўсё ж расейцам выдаваць.

*Гл.: Галчыньскі К. І. Сёмае неба: выбраныя творы / укл. А. Хадановіча, прадм. Л. Дранько-Майсюка. Мінск: Логвінаў, 2006.

**М. С.:** Наколькі для паэта актуальнае ўвесьчаснае знаходжаньне ў стыхіі роднай мовы? Таму ж Іосіфу Бродзкаму заміналі пісаць ангельскамоўныя шыльды на вуліцах Нью-Ёрку. Уявім сытуацыю: ідзе паэт Хадановіч па праспэкце Скарыны, а над праспэктам вісіць расьцяжка: «Остановим торговлю женщинами!». (А гэткі плякат сапраўды вісіць.) Табе гэта перашкаджае – на вэрбальным узроўні?

**А. Х.:** Гэткі плякат – для мяне добрая тэма!.. Я добра разумею паэта-набэліста. Чужая моўная стыхія, вядома ж, замінае, але... Нават ангелец у сваёй ангельскамоўнай стыхіі таксама замкнёны, у яго свая прастора, свая творчая лябараторыя, ён перабірае свае гукі, сугуччы, моўныя адценьні. І дай Бог, каб ён пад грамадзкі транспарт пры гэтым ня трапіў. Моўная стыхія праходзіць паўз вушы на ўзроўні шуму, зь якога калі-нікалі ўдаецца выцягнуць пэрлінку. Навакольны шум паэту глыбока па барабане. Ён можа быць для тэмпэрамэнтнага паэта добрым вонкавым раздражняльнікам.

**М. С.:** Я так разумею, гэта такі сучасны сынонім натхненьня...

**А. Х.:** Так-так. Дарэчы, рэкамэндую ўсім беларусам халерычнага тэмпэрамэнту зранку глядзець па БТ навіны, сэлектарныя нарады з галоўным дзеячам, які іх праводзіць. Калі ў вас апускаюцца рукі, калі вы ня ведаеце, што рабіць далей, калі ўзьнікае адчуваньне стомы і марнасьці – паглядзіце на пэрсанажы, паглядзіце на навакольны абсурд. Глядзіш і зьявіцца дадатковая матывацыя што-небудзь зрабіць, каб зубы паказаць. Ва ўсьмешцы.

**М. С.:** Дзіўна, але сёньня ў сьвеце зьявілася мода на мёртвыя мовы. Скажам, папулярныя літаратурныя творы перакладаюцца на старажытнагрэцкую. Другі прыклад: існуе рух нэалаціністаў (у яго, дарэчы, уваходзіць наш Уладзімер Шатон, перакладчык «Песьні пра зубра»), які мае за мэтуператварыць лаціну ў міжнародную мову. Як бы ты схарактарызаваў гэтую зьяву?



**А. Х.:** Мне ў гэтым бачыцца спроба стварыць сваю субкультуру і існаваць у ёй. Нешта падобнае мы назіралі ў 1960-я, 1970-я, 1980-я гады, калі людзі зьбіраліся ў клюбы бардаўскай песьні, сядзелі каля вогнішча ды гралі на гітарах. У сьвеце, дзе кожныя некалькі дзён памірае адна мова, ня можа ня радаваць адваротны працэс, калі да моваў вяртаюцца.

**М. С.:** Ці ня робіцца больш аптымістычнай у сувязі з гэтым будучыня мовы беларускай?

**А. Х.:** Беларуская мова яшчэ досыць жыцьцяздольная, і ўсе чуткі пра яе сьмерць, як той казаў, занадта перабольшаныя.

**М. С.:** Твае вершы нашпігаваныя відавочнымі і прыхаванымі цытатамі. У сувязі з гэтым раскажу гісторыю. Адзін крытык знайшоў у аднаго беларускага паэта верш, які пачынаўся радком: «Маўчаць труніцы, муміі і косьці...». Ён і напісаў у рэцэнзіі, што гэта радок Івана Буніна. Паэт расьперажываўся, ды так, што неўзабаве сышоў у манастыр. У цябе няма адчуваньня, што за пазычанае трэба ну... хоць бы дзякаваць, а ўнізе пісаць такімі маленечкімі літаркамі: гэты радок належыць, прыкладам, Максіму Багдановічу?

**А. Х.:** Няма ў мяне такога адчуваньня. Наадварот, ёсьць адчуваньне, што карыстаньне чужым словам мяне пад манастыр не падвядзе. Чаму я не бяру пазычанае ў другіх у двукосьсе? Ды таму, што я ня страціў вялікай павагі да свайго чытача, ня страціў адчуваньня, што мы можам зь ім размаўляць на роўных. Я магу загадваць яму загадкі, і ён здольны іх пасьпяхова разгадваць. Я прапаноўваю гульню, якая цікавая абодвум бакам. Я мог бы зрабіць, як гарадзенец Юрась Пацюпа, якога я, зрэшты, дужа шаную. Ён напісаў санэтны цэнтон: 14 радкоў, і кожны радок пазычаны ў нейкага паэта. Юрась, відаць, вырашыў не трапляць пад манастыр – кожны

радок узяў у двукосьсе, а ўнізе дадаў сьпісачак аўтараў: гэты радок – Гаруна, гэты – Багдановіча, гэты – Арсеньневай... Аднак падобны прыём не для мяне. Постмадэрністы Ўмбэрта Эка, Міларад Павіч ды іншыя шмат пісалі пра этычнасьць і неэтычнасьць цытаваньня, маральнасьць і немаральнасьць карыстаньня чужымі тэкстамі. І да чаго прыйшлі? Калі мы чытаем у «Імені ружы» моцную эратычную сцэну паміж манахам і сярэднявечнай куртызанкай, то выяўляецца, што ўся гэтая сцэна сатканая зь мікрацытатаў зь сярэднявечнага пісьменства – ад тэалёгіі да самай нізкай літаратуры. І ніводнага слова самога Ўмбэрта Эка ў ёй няма! Пісьменьнік абсалютна шчыры са сваімі чытачамі, ён усімі сродкамі, так бы мовіць, расстаўляе «смайлікі», па-кампутарнаму кажучы, – зьвярніце ўвагу: гэта літаратурны прыём. Я ня стаўлю двукосьсяў, але раблю ўсё магчымае, каб чужое ў маіх вершах чытачамі адразу пазнавалася.

**М. С.:** Прадэманструй, як можна чужымі словамі выказваць свае думкі.

**А. Х.:** Прачытаю некалькі твораў з будучай кнігі «Дурка беларуская». Першы – такі мікрабаевічок: «Зайшоў і – рукі дагары, / усе навокал уцякаюць. / Сьмяецца Тэрмінатар-3: / “Што я мужык, усе тут знаюць!”. Пастаральнае: «Ня маючы больш сябровак, / у веку пэнсіянэра / завёў сабе дзьвюх каровак / і кліча: “Зорка, Вэнэра!”». Ну і нарэшце, эпічнае: «Ах, нумар ейнае мабілы!.. / Забыць цябе ня маю сілы».

**М. С.:** А я назаву тваіх суаўтараў: Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас. Ты часам парадыруеш творы, зь якіх ніхто да цябе не іранізаваў. Багушэвіч, Каліноўскі, Купала ў нашым літаратуразнаўстве – як сьвятыя каровы ў Індыі. Да якой пары, прызнайся, будзеш «апаганьваць сьвятыні»?

**А. Х.:** Як паказвае практыка, наяўнасьць сьвятых кароваў шкодзіць жывёлагадоўлі... Я вельмі люблю беларускую літаратуру і лічу, што ўсе добрыя радкі, добрыя слоганы ў ёй ужо ёсьць. Застаецца малое: памяняць іх месцамі, расставіць у патрэбным парадку. І я гэтым займаюся, як гэта адчуваю сам, стараючыся паглядзець на ўсё вачыма сучаснага чалавека. Барані Божа, я не кажу, што творчасьць таго ці іншага паэта памірае, а я займаюся рэанімацыяй! Проста можна сказаць, што я пашыраю адрасную аўдыторыю гэтай паэзіі.



**М. С.:** Пад твае цытаты захацелася і мне цытаваньнем заняцца. «Андрэй Хадановіч відавочна ня стане зашываць сабе рота, бо іначай ён ня зможа есьці», – напісала газэта беларускіх анархістаў «Навінкі». Якія ж магчымасьці застаюцца паэту для грамадзянскага пратэсту?

**А. Х.:** Дай Бог здароўя беларускім анархістам з «Навінак»! Мне здаецца, яны слушна праніклі ў маю эстэтыку. Безумоўна, актуальныя рэаліі проста правакуюць паэта на пратэст, і не пратэставаць абсалютна немагчыма. Разам з тым гэты пратэст, як на мяне, не павінен мець нічога супольнага з нашай папярэдняй «змагарнай», «барыкаднай» літаратурай! Я супраць яе. Найлепшае, што можа зрабіць сучасны паэт, – гэта ўцягнуць у арбіту беларушчыны новых і новых, раней выключна расейскамоўных інтэлектуалаў, даўшы ім зразумець, што беларускамоўны культурны прадукт – гэта зусім ня тое, чым яны раней грэбавалі дзякуючы школе. А такога ўцягваньня не адбудзецца без канкрэтных мастацкіх падзеяў, без канкрэтных эфэктных паэтычных акцыяў, без канкрэтнага пасьпяховага «хаджэньня ў народ»!

**М. С.:** Я ведаю, што ты часта бываеш ва Ўкраіне, дзе цябе шмат перакладаюць, выдалі тваю кнігу паўкраінску. Некаторыя твае вершы, як, прыкладам, «Прадмова да кнігі Юдыф», проста непарыўныя зь беларускім кантэкстам. Ці не абцяжарвае гэтая акалічнасьць кантакт з украінскімі чытачамі?

**А. Х.:** Калі ў 2002 годзе ў Кіеве выйшла мая кніга «Лісты з-пад коўдры», я праехаўся з выступамі па трох гарадах – Івана-Франкоўску, Львове і Кіеве. Адсоткаў дваццаць ад надрукаванага накладу (1000 асобнікаў) раскупіліся на сустрэчах, усе жвава шыхтаваліся па аўтограф. Так што аўтар меў усе шанцы захварэць на манію велічы. Кантакту з публікай згаданая табой акалічнасьць не замінала, але, ведаю, страшна абцяжарыла працу перакладчыкаў. Месцамі мае тэксты практычна неперакладальныя. Эстэтыка постмадэрну бярэ сваю даніну – і часам мой верш мантуецца з тэкстаў папярэднікаў, як дом з цаглінак. І гэтыя цытаты не заўсёды зразумелыя ўкраінцам – як у той самай «Прадмове да кнігі Юдыф»: яе чытач мусіць ведаць творчасьць Францішка Скарыны. Але Беларусь і Ўкраіна культурна блізкія. Шмат якія нашы рэаліі ўкраінцам ня трэба тлумачыць. На кожную нашую трасянку яны маюць свой украінскі суржык. Адзін з маіх перакладчыкаў, выдатны паэт і празаік Юры Андруховіч, калі пісаў прадмову да маіх «Лістоў...», гуляўся: ва Ўкраіне ёсьць прэзыдэнт з замашкамі дыктатара, са сваімі арламі баявымі, якія разганяюць дэманстрацыі, і ў Беларусі ёсьць адпаведны тып, якому ўкраінцы маглі б яшчэ і «пазайздросьціць». І арлы баявыя ў нас ёсьць, Андруховіч іх «эскадронамі сьмерці» называе і, мабыць, ня вельмі перабольшвае. Але ёсьць і становучая блізкасьць. На кожнае наша багушэвіцкае «каб ня ўмёрлі» ўкраінцы маюць сваё «ще не вмерла». Таму «щоб не вмерлі» па-ўкраінску гучала пераконліва і абгрунтавана.

**М. С.:** Памятаю, згаданы ўжо Юры Андруховіч дзесьці дзяліўся ўражаньнямі ад сваёй пабыўкі ў Менску ўлетку 2000 году. Ён стаў сьведкам, як на сьвяце, прысьвечаным Янку Купалу, амонаўцы заломвалі людзям рукі і адбіралі бела-чырвона-белыя сьцягі. Спачатку Андруховіч зрабіў выснову, што ў Беларусі *зусім трохі горш*, чым ва Ўкраіне. Але



потым удакладніў, што ў Беларусі *з усім трохі горш*, калі параўнаць з украінскай сытуацыяй. Цікава пачуць аналягічныя параўнаньні ад беларуса.

**А. Х.:** Розьніца паміж Беларусьсю і Ўкраінай залежыць ад таго, якія рэгіёны параўноўваць. Мы ня маем такога рэзкага падзелу на ўсход, захад і цэнтар, які існуе ва Ўкраіне. Хоць і кажуць у нас, што Гомельшчына і Гарадзеншчына – гэта дзьве розныя плянэты, дзе людзі жывуць па-рознаму, маюць розныя звычкі і па-рознаму галасуюць на выбарах. Ва Ўкраіне гэтая розьніца нашмат болей відавочная. Мае кантакты з Украінай пачыналіся з Харкава, з харкаўскага паэтычнага фэстывалю «Паэзія № 1». Я хадзіў па Харкаве і зьдзіўляўся, наколькі ён яшчэ больш зрусіфікаваны, чым Менск! У Харкава яшчэ больш сталічных амбіцыяў: ён жа калісьці прэтэндаваў на ролю ўкраінскай сталіцы. Якім цацачна-ўтульным ракако выглядае наш сталічны ампір у параўнаньні з харкаўскім! Абсалютна іншае ўражаньне ў мяне ад Галіччыны, ад Заходняй Украіны. Я ў Львове ледзьве на расплакаўся, пачуўшы ўкраінскую мову ад бамжоў, скінхэдаў, скэйт-бардыстаў. Ну, калі ўжо і яны гавораць па-ўкраінску, значыць, «вернай дарогай ідзяце, таварышы».

**М. С.:** Ты ўкраінскія месты згадаў. А вось пад некаторымі тваімі вершамі пазначана – «Сьвінск Беларускі». Што гэта за горад?

**А. Х.:** Гэта віртуальны горад. У мяне быў Сьвенск Вялікалітоўскі, гэта ўкраінцы перайначылі. Гэткая забаўная геаграфія поруч з забаўнай храналёгіяй сустракаецца ў лістах маіх герояў Івана Жахлівага і Надзеі Крупскай. Яны думаюць пра Беларусь і з розных часоў і местаў шлюць адно аднаму лісты. Каб яны апынуліся ў адным пэўным часе, я прыдумаў для іх спэцыяльны каляндар. Там ёсьць месяцы: глістапад, дзе адбываюцца глістападаўскія сьвяты, чэргень, крэсавік, стравень і г. д. Перакладчык Максім Стрыха доўга чухаў патыліцу, сутыкнуўшыся

зь месяцам зэкавік. Ну, няма ў іх сакавіка, ёсьць «березень». У выніку атрымалася «кадэберезень»... А Сьвінск Беларускі і Сьвенск Вялікалітоўскі – гэта з таго самага геапалітычнага рэгіёну. Сьвінск – ён умоўны, але ён пазнаецца. Гэта Мінск, ці Менск, у сваіх самых непрывабных праявах, якія мяне раздражняюць і не даюць пачувацца ў гэтым Сьвінску да канца ўтульна.

**М. С.:** Нядаўна ты вярнуўся зь Літвы, дзе прадстаўляў Беларусь на паэтычным фэстывалі. Ці ўдалося прыўзьняць прэстыж беларускай літаратуры ў вачах замежнікаў?

**А. Х.:** «Паэтычная восень у Друскеніках» – міжнародны, вельмі прэстыжны ў саміх літоўцаў фэстываль. Часткова ён адбываецца ў Друскеніках, а часткова – у самой Вільні. Чытаць там даводзілася штодня і ў Друскеніках, і ў Вільні – у гарадзкой ратушы, у артыстычных кавярнях у суправаджэньні джазавых музыкаў. Яскравым відовішчам было шоў агню (а фэстываль прысьвячаўся адной з чатырох стыхіяў – агню) на возеры ў Друскеніках. Уяві сабе ноч, невялікі параходзік на сярэдзіне возера, аздоблены паходнямі. На параходзіку некалькі паэтаў, а на беразе шмат публікі. Мне хапіла розуму залезьці на самую высокую кропку таго карабліка і голасна закрычаць у мікрафон па-беларуску: «Людзі добрыя! Я вам прачытаю санэт пра тых, хто ўмеў спыняць сонца!» І прачытаў свой санэт пра караля Карла Вялікага, які сваім загадам спыніў у небе сонца, каб перамагчы ў бітве. Тое самае, як мы ведаем зь Бібліі, рабіў Ісус Навін. Пасля выступу да мяне падышоў амэрыканскі паэт Крэйг Чуры, выцягнуў з кішэні прыгожую асадку і працягнуў мне, кажучы па-ангельску: «У нас, паэтаў, няма іншай зброі. Вазьмі, братка, і я веру, што ты будзеш старацца зваліць існуючы ў Беларусі палітычны рэжым. Абавязкова скарыстай гэтую зброю».



*Аляксандар Фядута –*
палітоляг, філёляг. Выпускнік філфаку Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Я. Купалы. Настаўнічаў, у 1991–1994 гадах займаў пасаду першага сакратара ЦК ЛКСМ (СМБ). Пазьней працаваў начальнікам управы грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзыдэнта, у 1995-м сышоў у незалежную журналістыку. Аўтар кніг «Лукашенко: политическая биография», «Паэтычны аглядальнік» ды інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Горадні. Жыве ў Менску.

## *Аляксандар Фядута:* «Лукашэнка – не выпадковы прэзыдэнт»

*17 траўня 2005 году*

*Пра Аляксандра Лукашэнку напісана некалькі кніг у розных жанрах – ад іканаграфіі да памфлету. Выданьняў пяць вытрымаў ягоны цытатнік, складзены палітолягам Уладзімерам Падголам. Выйшаў зборнік літаратурных твораў, прысьвечаных першаму прэзыдэнту Беларусі. Усё гэта сьведчыць пра незьнікомую цікавасьць грамадзтва да асобы Лукашэнкі. Зь іншага боку, ад падобнай літаратуры чытач заўсёды чакае праўдзівых фактаў, хай сабе і творча асэнсаваных у мастацкім творы. Трэба прызнаць, што гэткаму падвіду homo sapiens, як палітыкі, найбольш адпавядае жанр мэмуарна-біяграфічны. Палітык без прыжыцьцёвай біяграфіі выглядае несур'ёзна. Таму і ня дзіўна, што нядаўна ў адным з маскоўскіх выдавецтваў 10-тысячным накладам выйшла ў сьвет кніга Аляксандра Фядуты «Лукашенко: политический портрет».*

**Міхась Скобла:** Аляксандар, чым вашая кніга адрозьніваецца ад літаратуры падобнага кшталту: ад «Звычайнага прэзыдэнта» Сьвятланы Калінкінай і Паўла Шарамета ці ад «Шклоўскіх жарсьцяў» Вольгі Паўлавай?

**Аляксандар Фядута:** Я паспрабаваў асэнсаваць, чым зьяўляецца Аляксандар Лукашэнка ў нашым жыцьці, у жыцьці нашай краіны. Зразумець, чаму ён прыйшоў да ўлады, чаму ён аказаўся здольным утрымліваць уладу вось ужо больш за дзесяць гадоў. Калі гаварыць пра тыя кнігі, якія вы назвалі, то першай спробай больш-менш сур'ёзнага дасьледаваньня Лукашэнкі была кніга Вольгі Паўлавай. Гэта значны мэмуарны твор, на які будуць спасылацца



ўсе, хто займаецца Лукашэнкам. У ёй шмат што тлумачыцца пра нашага агульнага героя. Кніга Сьвятланы Калінкінай і Паўла Шарамета – гэта памфлет. Таму што толькі ў памфлеце можна было назваць Лукашэнку «выпадковым прэзыдэнтам». Лукашэнка – чалавек невыпадковы на прэзыдэнцкай пасадзе. І зусім невыпадкова ён прыйшоў да ўлады менавіта ў Беларусі, найбольш савецкай рэспубліцы былога СССР. І тое, што адбываецца з намі, – гэта ня выпадак, гэта заканамернасьць. І ў гэтым вінаватыя ўсе мы, у тым ліку і аўтар гэтай кнігі – адзін са сьведкаў і суўдзельнікаў падзеяў апошняга часу. І пакуль беларускія палітыкі, інтэлігенцыя ня здолеюць зразумець, што Лукашэнка – заканамернасьць, а ня выпадак, да той пары яны будуць прайграваць. І я пісаў сваю кнігу менавіта дзеля таго, каб мы ўсе гэта асэнсавалі. Мне было цяжка пісаць, але пакуль я пісаў, яшчэ больш пераканаўся ў невыпадковасьці Лукашэнкі.

**М. С.:** Як на маё гледзішча, каштоўнасьць вашай кнігі яшчэ і ў тым, што яна дакумэнтальная, заснаваная на ўспамінах канкрэтных людзей. І ўспаміны гэтыя могуць калісьці спатрэбіцца ў судзе, на якім будуць судзіць вінаватых, напрыклад, за зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў красавіку 1995 году. Вы сабралі безьліч і другіх сьведчаньняў. Але мяне заўсёды бянтэжаць дыялёгі ў мэмуарах. Бо немагчыма дакладна прыгадаць праз дзесяць гадоў, што і ў якой пасьлядоўнасьці сказаў той ці іншы чалавек. І ў выпадку з вашай кнігай сёй-той можа закінуць: ды мала чаго Фядута мог панапісваць!

**А. Ф.:** Усе магнітафонныя стужкі са словамі маіх суразмоўцаў існуюць. Сказанае імі трошкі адрэдагаванае, але сэнс пакінуты бязь зьменаў. Я ўпэўнены, што ніводзін з маіх суразмоўцаў ня зьвернецца ў суд з-за таго, што я нешта пераблытаў альбо нешта прыдумаў... Кожны чалавек мае права на памылку і на асэнсаваньне гэтай памылкі. Аднак мне менш

за ўсё хацелася б, каб мая кніга выступала ў якасьці рэчавага доказу ў судзе. Таму што ўсе ўдзельнікі і сьведкі зьбіцьця дэпутатаў у красавіку 1995 году вельмі цяжка да гэтай пары перажываюць тое, што адбылося. Зразумейце, калі глядзіш у вочы генэрала Валерыя Кеза, які прыгадвае тыя падзеі, і бачыш у яго вачах сьлёзы, то разумееш, што ён усьведамляе ўсё, да чаго ён спрычыніўся.

**М. С.:** Удакладнім, што намесьнік старшыні КДБ Кез у тую ноч камандаваў спэцгрупай «Альфа».

**А. Ф.:** Так, і ён быў там, у парлямэнцкай залі. І яго сьлёзы – на адной шалі вагаў, а на другой – сьлёзы дэпутата Валянціна Голубева, які мне расказваў, як іх білі. І яго сьлёзы гучаць на стужцы. І я разумею: і таму чалавеку, якога білі, і таму, які прысутнічаў і, магчыма, аддаваў загады на зьбіцьцё, – ім сёньня абодвум аднолькава цяжка. І гэта таксама трэба зразумець... Падкрэсьлю, мая кніга – ня заклік да помсты, яна заклік да разуменьня. Перш за ўсё мы павінны зразумець, што адбылося ў нашай краіне. Калі зразумеем, то я спадзяюся, што ніхто ня будзе патрабаваць ад будучай улады люстрацыі, перасьледу ўсіх, хто працаваў у ранейшай уладзе. Таму што гэта ня мае сэнсу. Мы ўсе вінаватыя ў тым, што адбываецца. Усе. У кожнага з нас свая мера гэтай віны. Але яна ёсьць! Нават у тых, хто ніводнага дня ня быў ва ўладзе. Нават у тых, хто лічыў сябе апазыцыяй. Яны ж таксама працавалі над Канстытуцыяй, якая прывяла Лукашэнку да ўлады. Яны зрабілі так, што ўся грамадзкая апазыцыя зьвялася толькі да парлямэнцкай працы. Так што і апазыцыя нясе сваю долю віны.

**М. С.:** Былы кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын папракнуў вас, аўтара, за тое, што вы мала паказалі «ролю каманды», якая зрабіла прэзыдэнта. Адчуваецца, што чалавек ганарыцца і камандай, і сабой, стваральнікам тае каманды. Вы таксама ў кнізе ня вельмі перажываеце, што былі



актывістам выбарчага штабу Лукашэнкі, хоць вынік тае штабной дзейнасьці агульнавядомы.

**А. Ф.:** Я лічу, што ў кнізе роля каманды паказаная дастаткова, каб нам было чым ганарыцца і каб нам было сорамна. Вы ведаеце: Лукашэнка прыйшоў да ўлады з апазыцыі. Улада мела свайго кандыдата – Вячаслава Кебіча. І тое, што апазыцыйны кандыдат здолеў перамагчы, робіць гонар любой камандзе.

**М. С.:** Вы маглі так ганарыцца да 1995 году, але ж ня сёньня.

**А. Ф.:** Нагадаю, што я – адзіны з каманды чалавек, які пакаяўся яшчэ ў 1996 годзе. За месяц да рэфэрэндуму, 18 кастрычніка, выйшла «Народная воля» з маім артыкулам «Памылка», дзе я расказаў, што было, як было, і дзе я прызнаў сваю віну за тое, што адбылося. Неўзабаве пасьля таго на вуліцы я сустрэў разумнага і паважанага мною чалавека – Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна. І ён мне сказаў: «Саша, чаму ты ўвесь час пішаш так, нібы просіш прабачэньня? Ты яго ўжо папрасіў. Хай іншыя знойдуць у сабе мужнасьць зрабіць тое самае». Але я так і не пабачыў ніводнага чалавека, які выбачыўся перад народам за свой уклад у перамогу Лукашэнкі. Мала таго, я памятаю 1994 год. Я памятаю тую ноч, калі падлічвалі лічбы. І я добра памятаю, што нават у Менску за яго прагаласавала большасьць дарослага насельніцтва. І калі сёньня ў мяне на вуліцы людзі пытаюць, а хто ж за яго прагаласаваў, я кажу: вы! Бо я памятаю, як тады людзі глядзелі адзін на аднаго і ганарыліся: мы выбралі! Нешта я сёньня ня бачу гэтых менчукоў. Нешта ніхто, хто галасаваў за Лукашэнку на выбарах і рэфэрэндумах, не прызнаецца, што так, я галасаваў, але я зразумеў сваю памылку... Дык я сваю памылку зразумеў яшчэ ўзімку 1995 году, калі пайшоў у адстаўку. А колькі людзей яшчэ засталося працаваць ва ўладзе, ужо белыя плямы ў газэтах былі, дэпутатаў зьбілі, ужо было зразумела, што дэмакратыі ня будзе. А цяпер вінаватая толькі

каманда?! А тыя, хто цягам двух гадоў байкатаваў мясцовыя і парлямэнцкія выбары, не нясуць адказнасьці? Калі ў 2001 годзе пасьля выбараў мяне спаткаў адзін зь лідэраў БНФ і сказаў: «Вы навязалі Лукашэнку беларускаму народу!», я не пагадзіўся: «За 1994 год я адказваю, а за 2001-ы адказваеце вы! Вы зрабілі ўсё дзеля таго, каб ён застаўся!»

**М. С.:** Вы цэлы год працавалі поплеч з Лукашэнкам і, пэўна ж, лепш ведаеце звычкі свайго колішняга шэфа. Але мяне зьдзівіла вашае сьцьверджаньне, быццам ягонае вядомае выказваньне пра Гітлера – не няўдалы экспромт, а «сьвядомы зандаж грамадзкай думкі». Вы лічыце, што ў Беларусі такі зандаж можа прыносіць палітычныя дывідэнды?

**А. Ф.:** Мяркую, Лукашэнка лічыў і лічыць, што зрабіць моцную дзяржаву можна толькі выкарыстоўваючы сілавы рэсурс. Гэта калі тваё слова выконваецца абавязкова, калі ўсе без выключэньня законы задавальняюць цябе як кіраўніка, калі ты не абраны прэзыдэнт, а правадыр, фюрэр... Адзін з супрацоўнікаў кансалтынгавай фірмы Эйдзіна (на жаль, ён ужо не жыве) расказваў мне, як іх у Адміністрацыі прэзыдэнта папрасілі напісаць праграму новай дзяржаўнай ідэалёгіі. Яны ў фірме паглядзелі гэтак званую ўводную – тое, што прапаноўвала дзяржава. І зразумелі, што справа ідзе пра тое, што ўжо напісана, пра ідэалёгію нацыянал-сацыялізму. Нацыянал-сацыялізму, дзе галоўным зьяўляецца сацыялізм, а пад нацыянальным складнікам маецца на ўвазе складнік дзяржаўны. Я займаюся гісторыяй грамадзкай думкі і літаратуры Расеі першай паловы XIX стагодзьдзя, і я павінен сказаць, што задуманая ідэалёгія адпавядала клясычнай увараўскай фармулёўцы: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасьць. І калі ў фірме Эйдзіна гэта зразумелі і я пра гэта даведаўся, для мяне стала зразумела: развагі Лукашэнкі пра Гітлера – невыпадковая агаворка. Проста, каб ён быў больш адукаваным, ён сапраўды абышоўся б бяз Гітлера. Ён сказаў бы: ня ўсё дрэннае было зьвязанае зь Бісмаркам. Бісмарк таксама жалезам, полымем і крывёю зрабіў моцную германскую імпэрыю. Тое, што тая імпэрыя была прыгодная толькі для вайны, што яна потым і разьвязала Першую сусьветную вайну, забылася б. А гаварылася б так: жорсткая ўлада зрабіла моцную дзяржаву. Ну, Лукашэнка і насамрэч думае, што толькі жорсткая ўлада можа зрабіць так, што народу будзе хораша.

**М. С.:** Шмат гаворыцца пра алягічнасьць учынкаў Лукашэнкі. Самы сьвежы прыклад – перайменаваньне праспэкту Машэрава. Ён жа так стараўся быць палітычным нашчадкам Машэрава, ведае, наколькі Машэраў папулярны ў народзе. І раптам гэтак зьняважыць ягоную памяць.

**А. Ф.:** Ён не зьняважыў памяць Машэрава. Тое, што Лукашэнка вырабляе з тапаграфіяй Менску, ідзе толькі ў адным кірунку: ён зьмяняе палітычны ляндшафт, які існаваў да яго, у 1991–1994 гадах. Папершае, Лукашэнка добра памятае, што адбывалася на плошчы Незалежнасьці ў сакавіку – красавіку 1991 году. І таму на плошчы Незалежнасьці ў нас цяпер будзе нейкі падземны кірмаш, а галоўнай будзе тая плошча, якая калісьці насіла імя Сталіна. Заўважце: праспэкт Машэрава ня зьнік цалкам, ён будзе там, дзе дазволіць Лукашэнка! Зразумейце: вельмі цяжка кожны дзень езьдзіць на працу па праспэкце, які носіць імя чалавека, зь якім цябе параўноўваюць, Лукашэнка вельмі ня любіць гэтага параўнаньня... Памятаеце, калісьці Вольга Іпатава на сустрэчы прэзыдэнта зь беларускай інтэлігенцыяй прыгадала імя Машэрава. І Лукашэнка амаль крычаў на яе! Не таму, што яна пісьменьніца, не таму, што гаварыла па-беларуску. А таму, што яна прыпомніла Машэрава. А ўжо было вядома, што дачка Машэрава знаходзілася ў больш-менш мяккай апазыцыі да дзейнай улады. Лукашэнка ня

здолееў выкарыстаць імя Машэрава ў сваіх мэтах, знайшоўся іншы чалавек. Памятаеце выбары 2001 году? Рост рэйтынгу Натальлі Машэравай? Я так і пішу ў сваёй кнізе: «Пятроўна ішла як танк». Яна і сапраўды ішла як танк. І што б там ні казалі пра яе, у той час яна магла перамагчы ўсіх, таму што за ёю стаяў яе бацька! Народ паміж жахлівым і літасьцівым царом, зразумела, выбірае літасьцівага. А Машэраў быў менавіта літасьцівым царом. Параўнаньне з Машэравым Лукашэнка прайграе заўжды. З Машэравым немагчыма параўноўвацца. У Машэрава былі дзьве зоркі – Героя Саюзу і Героя Працы. І народ добра ведаў, што абедзьве зоркі былі ім цалкам заслужаныя.

**М. С.:** У сваёй кнізе вы дзе-нідзе як бы любуецеся сваім героем. Напрыклад, калі апісваеце, як у Нагана, на Алімпіядзе, ён праходзіць праз здранцьвелую ад страху японскую ахову «як нож праз масла». Гэта камплімэнт. На прэмію «За духоўнае адраджэньне» разьлічваеце?

**А. Ф.:** У кнізе шмат іншых, непрыемных для майго героя, момантаў. А што датычыць таго, ці не любуюся я ім... Ведаеце, кожны аўтар любуецца сваімі героямі, прычым як станоўчымі, так і адмоўнымі. Калі ты не знаходзіш у сваім герою пэўнай моцы, навошта пісаць пра яго кнігу? Пра выпадковага прэзыдэнта чалавек, які сябе паважае, кнігі пісаць ня будзе. Лукашэнка – постаць гістарычная, гэта першы ўсенароднa абраны кіраўнік Беларусі, гэта моцны палітык. Калі б ён ня быў моцным палітыкам, ён ужо ня быў бы прэзыдэнтам. У адзін дзень зь ім абралі прэзыдэнта Рэспублікі Крым Юрыя Мяшкова – таксама папуліста, таксама дэмагога, таксама чалавека з народу. І дзе ён цяпер? Пра яго ўсе забыліся. А пра Лукашэнку ведае амаль увесь сьвет.

**М. С.:** Вашы шанцы на прэмію растуць... Вы слушна сказалі пра адносіны аўтара да сваіх адмоўных герояў. Памятаю, мяне зьдзівіла, як Віктор Гюго ў рамане «Сабор Парыскай Божай Маці» любуецца Квазімода.



**А. Ф.:** Ня толькі Квазімода, але і Клёдам Фралё таксама. А прыгадайце, як выпісвае сваіх адмоўных герояў Уладзімер Караткевіч! Ён любіў іх таксама, як і станоўчых. І тое, што свой раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ён назваў эвангельлем ад Юды, таксама невыпадкова. У сьвядомасьці кожнага чалавека, выхаванага на хрысьціянскіх каштоўнасьцях, Юда – гэта цалкам адмоўны пэрсанаж. А вось і ня цалкам. Юда – складаны пэрсанаж. І Лукашэнка – вельмі складаны пэрсанаж. Вы кажаце, што я ім любуюся. Прабачце, а чаго я не сказаў з таго, што можна паставіць яму ў віну? Ці схаваў я ад чытача хоць што-небудзь? Не. А калі я нічога з адмоўнага не схаваў, то чаму я павінен хаваць тое, што зьяўляецца яго моцным бокам?

**М. С.:** У сваёй кнізе вы згадваеце, як падаравалі Лукашэнку сваю кнігу пра Пушкіна. А ён увогуле нешта чытае, апрача дакладных запісак і «вершаў» Васіля Быкава?

**А. Ф.:** Напэўна, нешта чытае. Я дакладна ведаю, што ён чытаў Івана Шамякіна. Ня думаю, што па-беларуску, хутчэй за ўсё, у перакладзе на расейскую мову. І тое, што ён з павагай адносіўся да Шамякіна, гэта я таксама ведаю.

**М. С.:** З такой павагай, што не адказаў на чатыры лісты народнага пісьменьніка.

**А. Ф.:** Што не адказаў – дрэнна. На лісты трэба адказваць. Магчыма, стаўленьне Лукашэнкі да Шамякіна з часам зьмянілася, і ранейшай павагі ня стала.

**М. С.:** Наклад вашай кнігі – 10 тысяч асобнікаў. Якая частка накладу трапіць у Беларусь?

**А. Ф.:** Ня ведаю, гэта справа выдавецтва. Але многія людзі пытаюцца пра кнігу, ім, як і мне, таксама хочацца асэнсаваць: што з намі адбылося.

Бо часта нашыя незалежныя выданьні толькі канстатуюць факт: у нашай краіне дрэнна, але не тлумачаць сапраўдных прычынаў. Я паспрабаваў растлумачыць.

**М. С.:** А ці выйдзе вашая кніга па-беларуску?

**А. Ф.:** А каму яна патрэбная па-беларуску? Калі ў кагосьці ёсьць грошы на выданьне, на перакладчыка, хай лепш выдасьць па-беларуску «Дон Кіхота» Сэрвантэса. Гэта будзе зьявай нацыянальнай культуры. Ёсьць яшчэ сто кніг, якія неабходна перакласьці на беларускую мову. А маю кнігу людзі прачытаюць і па-расейску.

**М. С.:** Хачу вас пацешыць: Якуб Лапатка, які жыве ў Фінляндыі, пераклаў «Дон Кіхота». Цяпер справа за выдаўцамі... Вы, Аляксандар, займаецеся пушкіністыкай. Адкажыце на пушкінскае пытаньне: «Навошта людзям кліч свабоды?».

**А. Ф.:** Кліч свабоды людзям патрэбны заўжды. Калі няма свабоды, няма чым дыхаць. Памятаеце, Блок у сваёй пушкінскай прамове сказаў: «Пушкіна забіла ня куля Дантэса, яго забіла адсутнасьць паветра». Мая кніга прыйдзецца недаспадобы па абодва бакі барыкадаў. Таму што па абодва бакі барыкадаў даводзіцца сёньня чуць падказкі: як пісаць, пра што пісаць і пра што думаць. І я разумею, наколькі меў рацыю Гаўрыла Дзяржавін, які пісаў: «Спаймалі птушку галасісту – пішчыць, бядняжка, замест сьвісту. А ёй крычаць – сьпявай, сьпявай». Птушка, якой здушылі глотку, сьпяваць ня здольная. Пушкіна забіла адсутнасьць паветра. А што, Янку Купалу забіла не адсутнасьць паветра? Нядаўна мы з вамі былі на грамадзянскай паніхідзе па Анатолю Сысу ў сталічным Доме літаратара. Што, яго забіла не адсутнасьць паветра? Калі няма свабоды – няма чым дыхаць.



*Павал Севярынец –*
палітык, пісьменьнік. Закончыў геафак БДУ. Працаваў журналістам, абіраўся намесьнікам старшыні Партыі БНФ, старшынём Маладога Фронту. Цяпер – сустаршыня партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя.
За палітычную дзейнасьць быў асуджаны да трох гадоў пазбаўленьня волі (праз два гады амніставаны). Аўтар кніг «Лісты зь лесу», «Брату», «Люблю Беларусь» ды інш. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Воршы. Жыве ў Менску.

## *Павал Севярынец:* «На пытаньне пра нацыянальную ідэю ў мяне 200 адказаў»

***29 траўня 2005 году***

*Беларусь – краіна падзелаў. На беларускай тэрыторыі адбываецца водападзел. У Беларусі здарыўся падзел шырокай плыні хрысьціянства на дзьве канфэсіі. Новая і найноўшая гісторыя прынесла беларускаму народу яшчэ два падзелы: паводле мовы і адносінаў да прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі. Здаецца, што падзелы – наш кон, наша выпрабаваньне на трываласьць. А што можа аб'яднаць беларусаў? Палітык і публіцыст Павал Севярынец прапанаваў свой варыянт беларускай нацыянальнай ідэі, галоўная формула якой: «Хрысьціянізацыя беларусаў і беларусізацыя хрысьціянаў». Прэзэнтацыя кнігі, дзе аўтар паспрабаваў адказаць на адно з самых актуальных беларускіх пытаньняў – што ёсьць нацыянальная ідэя, – адбылася паміж паседжаньнямі ў Цэнтральным судзе Менску, дзе Паўла – ужо 42-і раз! – судзяць за апазыцыйную дзейнасьць.*

**Міхась Скобла:** Павал, калі я чытаў вашую кнігу, то час ад часу прыгадваў самую галоўную кнігу ўсіх туркмэнаў – «Рухнаму» (дарэчы, выдадзеную і па-беларуску). У яе аснове Кур'ан, у вас – Біблія. А якія кнігі паслужылі для вас своеасаблівым узорам?

**Павал Севярынец:** У першую чаргу, безумоўна, узорам для мяне была Біблія. Калі ж гаварыць пра літаратуру мастацкую, то гэта «Зямля пад белымі крыламі» Ўладзімера Караткевіча. Плюс найлепшыя беларускія энцыкляпэдыі, якія нават у савецкі час выдаваліся ў Беларусі. Кніга «Нацыянальная ідэя» напісаная не для расейцаў, не для ўкраінцаў, не для немцаў, а для беларусаў. Задача кнігі – абудзіць у беларусах тое пачуцьцё, якое дазволіць ім дзейнічаць так, як яны дзейнічалі ў свае лепшыя часы, напрыклад, у XVI ст. А тады Беларусь сапраўды ўздымала Расею, натхняла Эўропу і істотным чынам уплывала на Захад. На мой погляд, беларуская нацыянальная адметнасьць заключаецца ў хрысьціянскім мэсіянстве, якое праз пакуты, праз ахвяры ідзе да любові. Да той любові, якая дазваляе любіць ворага, выратоўваць іншых нават коштам свайго ўласнага жыцьця, свайго дабрабыту. Вось такі лёс, такое наканаваньне ў Беларусі.



**М. С.:** Любіць ворага, ратаваць другіх... Можа, прыйшоў час Беларусі падбаць найперш пра сябе? Ці ня выдаткавала Беларусь свой патэнцыял на іншых, нічога не пакінуўшы сабе?

**П. С.:** Тут я з вамі ня згодны. Таму што свае найлепшыя часы Беларусь перажывала якраз падчас хрысьціянскіх абуджэньняў. Нельга сказаць, што сёньняшняя Беларусь – краіна веруючая. Наш час нельга параўнаць з XII ст., з часам Эўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага ці Кліма Смаляціча. Нельга параўнаць і з XVI ст. – часам Радзівілаў, Сымона Буднага, Мялеція Сматрыцкага. Наш час нават нельга параўнаць з тымі гадамі, калі Зянон Пазьняк заклікаў суайчыньнікаў «шукаць не каўбасы, а Бога». Цяпер усё значна больш прагматычна, духова прыземлена. Сёньняшняя Беларусь мае патрэбу ў закліку да пакаяньня. Толькі праз пакаяньне яна можаісьці да абуджэньня, нацыянальнага адраджэньня і ўсьведамленьня свае місіі. З гэтага гледзішча, мая кніга – ня проста выклік агульнапрынятым канцэпцыям нацыянальнай ідэі, гэта яшчэ і заклік да самой нацыі.

**М. С.:** Вы прыдумалі трапную формулу: «Беларуская форма – хрысьціянскі зьмест». Але і форма сама па сабе можа быць вылучна ваяўнічай. Вазьміце ножны – акрамя як для шаблі, яны больш ні для чаго непрыдатныя. Так і вы: пішаце пра хрысьціянскую міласэрнасьць, і раптам гэткі пасаж: «Бе-

ларусь – найлепшы кірунак удару па Расеі, сходу і пад дых. Мы – Божая зброя ў апошнім паходзе на Маскву». Проста нейкі новы крыжовы паход... Які вірутнік з-пад чорнай зоркі штурхануў вашае міралюбнае пяро, калі вы гэта пісалі?

**П. С.:** Мілітарысцкая лексыка ўласьцівая ня толькі ваяўнічым тэкстам. У Бібліі можна прачытаць ваяўнічыя радкі. «Ня мір я вам прынёс, а меч, – кажа Ісус. – Апраніцеся ў браню праведнасьці, вазьміце шалом збаўленьня і меч, які ёсьць Слова Божае». Усе гэтыя словы блізкія чалавечай сьвядомасьці. Іх выкарыстоўваю і я. Безумоўна, тут маецца на ўвазе духовая экспансія, а ня збройная.

**М. С.:** Сваё разуменьне нацыянальнай ідэі вы разьмясьцілі ў своеасаблівую пэрыядычную табліцу беларускіх зьяваў, фактаў, падзеяў. Іх роўна 200. Хімік Мендзялееў сваю табліцу прысьніў, а вы якім чынам правялі свой топ-рэйтынг беларушчыны?

**П. С.:** Будова кнігі сяміпавярховая, яе зьмест як бы падымаецца ад зямлі да неба, ад матэрыяльнага да духовага. Для сучаснай масавай сьвядомасьці – рэклямнай і кліпавай – ролю вырашальнай аргумэнтацыі адыгрываюць агульнавядомыя, раскручаныя брэнды. Чым беларусы могуць ганарыцца перад усім сьветам? Якой беларуская нацыя мусіць быць у ідэале? На гэтыя пытаньні ў мяне 200 адказаў – 200 фэномэнаў, прыведзеных у кнізе. Кніга выбудоўвае ярархію нацыянальнае ідэі. Ад зямлі, на якой грунтуецца Беларусь, ад гісторыі, што фармуе нацыянальны падмурак беларускасьці, праз зьдзяйсьненьні нацыі ў гаспадарцы, культуры і спорце – да постацяў нацыянальных герояў, асобаў і найвышэйшай сфэры сымбалічнага, рэлігійнага, звышнатуральнага – духовасьці. Нацыянальная ідэя – 200 фэномэнаў сусьветнага значэньня. Якія гэта фэномэны? Напрыклад, дзяржаваўтваральныя гарады – Полацак, Менск, падземныя воды, соль, далей – БелАЗ, трактар «Беларус», Няміга, «Песьняры», «N.R.M.», «Наша Ніва», бела-чырвона-белы сьцяг – усё гэта ключавыя паняткі беларушчыны. Ёсьць такі закон у біяхіміі, які цьвердзіць: у кожным кавалку рэчыва адбываецца крышталізацыя паводле сваёй сыстэмы. Сфакусаваць Беларусь у кожным зь пералічаных фэномэнаў і была задача кнігі. Скажу шчыра, было няпроста, працэс адбору працягваўся некалькі тыдняў, а потым пачалася карпатлівая праца над кожным з гэтых фэномэнаў. Прызнаюся, свой сьпіс фэномэнаў я карэктаваў з дапамогай аўтарытэтных людзей, спэцыялістаў у нейкай пэўнай галіне. Фэномэнаў беларускасьці нашмат больш, чым 200. І ў кнізе іх магло быць і 500, і 1000, але гэта значна запаволіла б працу. Але і 200 кавалачкаў мазаікі здольныя даць уяўленьне пра карціну.

**М. С.:** Пасьля прачытаньня вашай кнігі я зразумеў, чаму Беларусь ёсьць нязручнай для сьвету. Вы пішаце: «Яна – гіганцкія могілкі, поле бою і поле болю, на якім усе павінны каяцца». А я нават прыкінуў каму дзе: расейцам – у Курапатах, немцам – у Хатыні, палякам – у Картуз-Бярозе, латышам – у Асьвеі, французам – на Бярэзіне, швэдам – пад Лясной... А людзі каяцца ня любяць. Вось яно, апраўданьне ізаляцыі Беларусі! Гэты аргумэнт, дарэчы, могуць выкарыстаць беларускія ўлады.

**П. С.:** Пакаяньне – адзін з самых галоўных паняткаў у сыстэме хрысьціянскага сьветапогляду. Яно – першы крок на шляху да Бога, а першы крок, як вядома, самы цяжкі. А што да магчымай спробы ўладаў выкарыстаць маю вэрсію ў сваіх мэтах, то я сумняваюся, што праваслаўным атэістам нешта ў ёй можа спатрэбіцца... Мне здаецца, што вы маеце рацыю, кажучы пра тое, што людзі каяцца ня любяць. І немцы, і палякі, і расейцы быццам перажываюць амнэзію, калі згадваюць пра Беларусь. Яны гатовыя гаварыць пра Савецкі Саюз, Літву, Расею, толькі

не пра Беларусь. Як чалавек, які ведае, дзе баліць, і стараецца не дакранацца да балючага месца. Тут трэба сур'ёзна, на мэнтальным роўні праанналізаваць нацыянальны характар ня толькі беларусаў, але і нашых суседзяў.

**М. С.:** Варта згадаць прыклады дзяржаўнага пакаяньня. Нямеччына пакаялася за грахі нацызму. Ватыкан пакаяўся за грахі інквізыцыі. «Папа Рымскі просіць дараваньня, Папа ўкленчыў каля ўкрыжаваньня» – радкі Анатоля Вярцінскага. А перад кім і за што канкрэтна мусяць пакаяцца беларусы?

**П. С.:** Насамперш беларусы мусяць пакаяцца за тое, што яны выракліся Бога і Беларусі. На мой погляд, беларусы здрадзілі свайму Богу ў XVII–XVIII стст., што аўтаматычна пацягнула за сабой аслабленьне дзяржавы, яе распад, акупацыю і наступныя стагодзьдзі прыгнёту. Беларусы мусяць каяцца за тое, што яны страцілі беларускасьць, самасьвядомасьць. Беларусы як народ мусяць вельмі моцна каяцца. Практычна ўсе нашы народы-суседзі засталіся вернымі сваёй мове, сваёй зямлі, якую даў ім Бог. Беларусы, на жаль, тут далёка ня прыклад. Але мы ведаем, што Бог дае найбольшыя выпрабаваньні тым, каго чакаюць найбольшыя дабраславеньні. Таму, я лічу, крыжовы шлях беларусаў вядзе да вялікае Беларусі, да Беларусі, якая пакаецца, адродзіцца і будзе выконваць вельмі значную місію ў самым сэрцы Эўропы.

**М. С.:** У вас нацыянальная ідэя грунтуецца на Бібліі. «Гісторыя Беларусі – як Біблія», – кажаце вы. Але ж Біблія ўнівэрсальная, і можна сказаць, што і ўкраінская гісторыя нагадвае біблійную, і польская...

**П. С.:** Так сказаць, вядома ж, можна, але задача беларусаў – знайсьці ў Бібліі нешта сваё. Як казаў Францішак Скарына, Біблія – як рака. Яе бывае і слану цяжка пераплыць, але і авечка можа перабрысьці празь яе. Гэта азначае, што тыя глыбокія месцы ў Бібліі, дзе мне бачыцца Беларусь, беларусы павінны ведаць дасканала. Напрыклад, вывучыць Кнігу Ёва – самую пакутную, самую балючую, самую беларускую. А вазьміце Нагорную казань – гэта ж проста гімн нацыянальнай беларускай ідэі! «Дабрашчасныя ўбогія духам, бо іх ёсьць валадарства нябеснае...» Якую яшчэ больш убогую за Беларусь краіну можна прывесьці ў прыклад? Альбо вазьміце знакамітае: «Любіце ворагаў вашых, добраслаўляйце кляцьбітаў вашых, маліцеся за тых, хто ненавідзіць вас, – дзеля таго, каб былі вы сынамі Айца вашага, які ёсьць у нябёсах». Сказана – нібы пра Беларусь, і беларусы павінны адчуць, як словы гэтыя адгукаюцца ў беларускім мэнталітэце. Сапраўды, беларуская гісторыя вельмі нагадвае Біблію. Беларусь, як і Біблія, мае два пэрыяды сваёй гісторыі – Стары і Новы Запаветы. «Прышэсьце Божае» ў беларускай гісторыі, паводле маіх разьлікаў, адбылося ў XVI ст., калі Беларусь перажыла наймацнейшае хрысьціянскае абуджэньне. Я нават паспрабаваў вылічыць дакладны год – 1563. У гэты час беларуская гісторыя робіць кардынальны паварот, як і гісторыя чалавецтва, калі ў сьвет гэты прыйшоў Ісус Хрыстос. У Беларусі пачынаецца пэрыяд ахвяры, пэрыяд пашырэньня Эвангельскага слова, пэрыяд пакутаў, крыві, пэрыяд, які ў беларускай гісторыі пазначаны сымбалем уваскрослага Хрыста – бела-чырвона-белай палатнінай. І вось якраз да гэтых новазапаветных ісьцінаў з Нагорнай казані, з Эвангельляў, з Пасланьняў апосталаў, мы і павінны скіроўваць сваю ўвагу. Бо паглядзіце, як прэзэнтавалася ў сьвеце Беларусь: убогая, невыразная, у параўнаньні зь іншымі суседзямі мае неваяўнічую гісторыю, незахопніцкую псыхалёгію, беларусы чужых земляў не здабывалі, не былі багатымі... А вы паглядзіце на гісторыю раньнехрысьціянскай Царквы, на служэньне Ісуса

Хрыста – максымальная ўбогасьць, мінімум матэрыяльных дабротаў. Так і Беларусь – багатая духам, але бедная матэрыяльна.

**М. С.:** Вы даволі падрабязна спыняецеся на праваслаўі, каталіцтве, пратэстантызьме, іх ролі ў беларускай гісторыі. І фактычна прамінаеце паганства. Але ў нас вельмі моцныя паганскія перажыткі, тыя ж Дзяды – гэта цалкам паганскі абрад. Вы згадвалі на пачатку гутаркі, што Беларусь – не зусім хрысьціянская краіна. «Беларусы – кшчоныя паганцы», – пісаў і Рыгор Барадулін. Зноў жа, згадайма, як беларускія землі хрысьцілі тысячу гадоў таму – агнём і мячом. А нашыя продкі прымусу не любілі. Дык можа, настаў час правесьці ўсебеларускую акцыю – яшчэ адно, добраахвотнае і сьвядомае хрышчэньне беларускага народу?

**П. С.:** Ідэя грандыёзная. Бо – і гэта вынікае з маёй кнігі – для беларусаў хрысьціянская ідэя асноватворная. Кожны чалавек і кожная нацыя ў куточку сваёй душы носяць паганства, якое здольнае пашырацца на ўсю істоту, на чалавека ці нацыю, калі чалавек адыходзіць ад Бога, бо сьвятое месца пустым, як вядома, не бывае. Я не зусім згодны, што хрысьціянства на беларускіх землях насаджалася гвалтоўна. Не заўсёды і не паўсюль так было. Так, Тураў хрысьцілі агнём і мячом, але адносна Полацку такіх зьвестак няма. Што да ўсеагульнага хрышчэньня краіны, кіраўнік якой да гэтай пары публічна вызнае сябе «праваслаўным атэістам», то гэта вельмі цікава. Пра гэта варта падумаць і да гэтага варта ісьці.

**М. С.:** Вы слушна пішаце пра «вакуум бязьвер'я» ў Беларусі. Але прырода чалавека такая, што зусім ня верыць ён ня можа. Калі ня верыць у Бога, ён пачынае верыць у нешта ці ў некага. Калі разабрацца, дык сапраўдных атэістаў на сьвеце папросту няма. І гэта выдатна разумеюць палітыкі, прапаноўваючы на пастамэнт веры – сябе. Вы ж, наадварот, сваю палітычную дзейнасьць не ўяўляеце бязь веры ў Бога. А ці няма тут супярэчнасьці?



**П. С.:** Супярэчнасьці тут якраз няма. Бо, на мой погляд, у Беларусі ёсьць вялікі дэфіцыт маральных і сумленных людзей, якія вераць у Бога. Беларусь выратуе не якісьці лідэр. Нашы суайчыньнікі палічылі так у 1994 годзе і – памыліліся. Гэтая вельмі спрошчаная пастаноўка пытаньня і прывяла нас да дыктатуры. Беларусь выратуюць вера і вернікі. Маральная база для пераменаў – гэта дзясяткі тысячаў вернікаў, якія павінны прыйсьці ў грамадзкі рух і палітыку. Таму мы і мяркуем стварыць беларускую хрысьціянскую дэмакратыю, таму мы і спрабуем актывізаваць менавіта вернікаў. Каб не атрымалася так, як у Расеі ці ва Ўкраіне, дзе моцныя грамадзкія ініцыятывы і аксамітныя рэвалюцыі правальваюцца таму, што там на першым месцы ў лідэраў – прагматызм, прыватныя інтарэсы, амбіцыі, бізнэс, а ня вера ў Бога, не мараль, не сумленнасьць.

**М. С.:** Адзін з вашых галоўных пастулятаў: «Вера ў Хрысьце і любоў да ўсіх аб'яднаюць Беларусь». Гучыць прыгожа, а што атрымліваецца насамрэч? «Вера ў Хрысьце» непазьбежна натыкаецца на межавую агароджу паміж праваслаўем і каталіцтвам. І, як мне здаецца, агароджа гэтая зь цягам часу будзе толькі мацнець і вышэць. Дык ці аб'яднае Беларусь менавіта вера?

**П. С.:** Аб'яднае, адназначна аб'яднае. У Эўропе, куды мы імкнемся, хрысьціяне розных канфэсіяў ужо мала чым адрозьніваюцца між сабой. Для ўсіх іх выклікам ёсьць нехрысьціянскі сьвет. І каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты сёньня ў Эўропе разам. І мы таксама ідзем да гэтага. Больш за тое, сёньняшні беларускі рэжым кідае выклікі ўсім хрысьціянам. Згадаем усхваленьні Сталіна, камунізму, згадаем помнікі Леніну, якія дагэтуль застаюцца ідаламі ў кожным беларускім горадзе. Гэта менавіта выклікі ўсяму хрысьціянству. А на нядаўнім

фэсьце ў Будславе пратэстанты зьбіралі подпісы за свабоду сумленьня, каталікі ўдзельнічалі ў імшы, праваслаўныя прапаноўвалі сваю літаратуру. І ўсё гэта адбывалася без аніякіх міжканфэсійных непаразуменьняў. І гэта прыклад таго, якую Беларусь мы хочам бачыць. Дарэчы, сьвята ў Будславе мяне пераканала, што будучая Беларусь нараджаецца ўжо сёньня. Будслаў – увогуле ўнікальная мясьціна на беларускай зямлі. Туды, за 170 кілямэтраў ад сталіцы, ніхто нікога ня звозіць аўтобусамі, ніхто не прапаноўвае хлеба і відовішчаў. Людзі туды тыднямі ідуць у пілігрымках. Там зьбіраецца вялізная колькасьць людзей – некалькі дзясяткаў тысяч! І гэта, натуральна, азначае, што будучыня менавіта за такой Беларусьсю. Духовым гімнам Беларусі застаецца «Магутны Божа», сьцягам – бела-чырвона-белае палотнішча, якое сымбалізуе ўваскрашэньне Ісуса Хрыста. Пад гэтымі сымбалямі Беларусь жыла тысячу гадоў, і дзесяць, пяцьдзясят, семдзесят гадоў бязбожніцтва кардынальна нічога ня зьменяць.

**М. С.:** Ці прымальная для вас вера ў Бога безь беларусізацыі?

**П. С.:** Не, непрымальная. У Беларусі гэта немагчыма. І ня толькі для мяне, гэта немагчыма ў прынцыпе. Бог стварыў Беларусь як асобную дзяржаву. Бог даў нам асобную мову. Бог стварыў беларусаў дзеля свайго пакліканьня, сваёй місіі. І той цуд незалежнасьці, які мы атрымалі чатырнаццаць гадоў таму, якраз і пацьвярджае тое, што ўсё гэта не было выпадковасьцю. Тысячагадовая гісторыя Беларусі і беларускасьці – гэта таксама сьведчаньне Божага наканаваньня. Той, хто адмаўляецца ад Божага наканаваньня і лічыць «ат, давайце маліцца па-расейску ці па-польску, мы будзем верыць у Бога, і Бог нас дабраславіць», яны моцна памыляюцца.

**М. С.:** Чытаючы вашу кнігу, я амаль з усім пагаджаўся, пакуль не дайшоў да спорту. Патлумачце, якое дачыненьне да нацыянальнай ідэі можа мець



замежны спартсмэн-легіянэр, найміт? Ён жа куплены (а значыць, і мэдаль яго куплены) за грошы, як... бляшанка кансэрваў дзе-небудзь у Рызе.

**П. С.:** Перад прынцыпам этнічнага паходжаньня таго ці іншага героя я аддаю перавагу прынцыпу зямлі. Мне здаецца, што тыя людзі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, працуюць на Беларусь, зьяўляюцца ў пэўнай ступені беларусамі. І калі яны здольныя выступаць пад сьцягам нацыянальнай зборнай, то сур'ёзна засьведчваюць сваю беларускасьць. Нацыя – панятак для мяне ня так этнічны, як грамадзянскі. Гэта як у ЗША, дзе прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў утвараюць амэрыканскую нацыю. Зрэшты, у маёй кнізе героі беларускай гісторыі – пераважна этнічныя беларусы. Кожны, хто прыяжджае ў Беларусь, адчуваючы яе духовую энэргетыку, пераўтвараецца і робіцца крыху беларусам.

**М. С.:** Аднак я меў на ўвазе даволі распаўсюджаную у сусьветным спорце зьяву. Спартсмэн зьяўляецца ў краіну, за якую выступае, толькі на трэніроўкі. Выходзіць на памост, ставіць рэкорд і зьяжджае выступаць за іншую краіну. Але пры чым тут нацыянальная ідэя?

**П. С.:** Усёй душой спартовага заўзятара я з вамі згодны. Глядзець на расейскія чарнаскурыя футбольныя каманды проста сьмешна і няёмка. Ведаеце, тут вельмі тонкая мяжа паміж этнічным нацыяналізмам і грамадзянскім патрыятызмам, і я стараўся на гэтай мяжы балянсаваць. Але пытаньні да гэткіх спартсмэнаў, як Зубрылава і Драчоў, застаюцца. Наколькі яны змогуць прадстаўляць менавіта беларускую Беларусь? Мне здаецца, што Беларусь здольная нараджаць спартоўцаў ня горшых за іх. Для гэтага трэба ствараць адпаведныя ўмовы.

**М. С.:** Вашую кнігу, у якой за тры сотні старонак, павінны прачытаць як мага больш людзей. Выцісь-

ніце галоўнае, зрабіце квінтэсэнцыю ў трох абзацах: што ёсьць беларуская нацыянальная ідэя?

**П. С.:** Беларуская нацыянальная ідэя – хрысьціянская ў сваёй сутнасьці. Ні адрадзіць, ні ўявіць Беларусь бяз Бога, без хрысьціянства, без Царквы – немагчыма. Задача нацыянальнай ідэі можа быць коратка сфармуляваная так: хрысьціянізацыя беларусаў і беларусізацыя хрысьціянаў. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Сэрца. Сэрца Эўропы, што церпіць, баліць і любіць за ўсіх. Сэрца, празь якое праходзяць усе шляхі і якое абліваецца крывёю з кожным нашым уздыхам. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Сьвятла, белі, чысьціні, сьвятасьці, якой Беларусь літаральна зіхаціць зь сярэдзіны. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Солі. Краіна, нетры якой складзеныя з солі, выступае як эвангельскі эквівалент сэнсу, зьместу, сутнасьці – і шчопцю асаляе сьвет, захоўваючы ад псуцьця, надаючы смаку. «Гэты запавет солі вечны перад Госпадам, дадзены табе і нашчадкам тваім з табою» (Лікі 18:19). Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Міжмоўя. Месца сумоўя царкоўнаславянскае і лаціны, грэцкае і нямецкае, польскае і расейскае моваў, калыска эспэранта ды іўрыту. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Храму. «На Беларусі Бог жыве». Храму вялікага, ціхага, урачыстага, дзе маліліся ўсе канфэсіі. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Крыжа. Вялікага геапалітычнага скрыжаваньня, на якім, між варагаў і грэкаў, Захаду і Ўсходу, Эўропы і Расеі, укрыжаваная Беларусь. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Слова. Краіна кнігадрукаваньня, Статуту і Мэтрыкі, паэзіі і прозы, краіна, якая жыве ў слове і абуджаецца Словам, – самае месца, каб сказаць: «Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам» (Ян 1:1).



*Аляксандар Ірванец –*
украінскі паэт, празаік, драматург, перакладчык. Закончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (Масква). Аўтар кніг «Преамбули і тексти», «Очамимря», «Тінь великого класика» ды інш. Раман «Роўна/Ровно» выйшаў па-беларуску ў перакладзе Ўладзімера Арлова (Менск, 2007). Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Львове. Жыве ў Ірпені пад Кіевам.

## *Аляксандар Ірванец:* «Пісьменьнік ня мае права на эміграцыю»

*4 верасьня 2005 году*

*Язык да Кіева давядзе, – гаварылі нашы дзяды-прадзеды, выпраўляючыся ў далёкае падарожжа не па загадзя вызначаным маршруце. І даходзілі ў залатакупальны Кіеў праз палескія балоты, і даплывалі па шырокаплынным Дняпры. Па азымуце сэрца. Трошкі, вядома ж, і язык дапамагаў. Беларуская і ўкраінская літаратуры спрадвеку – ад «Слова пра паход Ігара» – існавалі поплеч. Журыўся над Тарасовай доляй Янка Купала, уплятаў у Багдановічаў «Вянок» палыновы квет з украінскага стэпу Міхайла Драй-Хмара, а Ўладзімера Караткевіча ледзь ня выгналі з Кіеўскага ўнівэрсытэту – за... украінскі нацыяналізм. На шчасьце, беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі не абарваліся і сёньня. Вось і нядаўна ў кіеўскім выдавецтве «Факт» у перакладзе на ўкраінскую мову пабачылі сьвет адразу дзьве кнігі беларускіх аўтараў – «Ходільці» Васіля Быкава і «Реквієм для бензопилки» Ўладзімера Арлова. На прэзэнтацыю ў Менск прыехаў іх перакладчык Аляксандар Ірванец – адзін з самых папулярных сучасных пісьменьнікаў ва Ўкраіне.*

**Міхась Скобла:** Пан Ірванец, беларуская літаратура сёньня – гэта своеасаблівая малітва ў катакомбах: вонкі амаль нічога не чуваць. Што прымусіла вас заняцца гэтай рызыкоўнай дзейнасьцю – перакладаць і выдаваць сучасную беларускую прозу?

**Аляксандар Ірванец:** Я б не сказаў, што сытуацыя ў Беларусі безнадзейна трагічная. Хутчэй, можа быць, вы самі ня ведаеце сваёй сілы, сваёй вартасьці. Што мяне прымусіла займацца перакладамі зь беларускай? Калі я чытаў і Быкава, і Арлова,



то адчуваў, што такая проза мусіць быць цікавай і для ўкраінскага чытача. А паколькі ва Ўкраіне мала хто чытае па-беларуску, мне захацелася падзяліцца сваёй чытацкай радасьцю са сваімі суайчыньнікамі. І Быкава, і Арлова я патроху перакладаў і друкаваў ва ўкраінскіх літаратурных пэрыёдыках. Было нямала, каля дзясятка, публікацый. І ўвесь гэты час я хадзіў па выдавецтвах прапаноўваў выдаць свае пераклады кнігамі. Але выдаўцы, паколькі прыйшоў рынак, мысьлілі камэрцыйна і гаварылі мне: «Сашко, гэта добрая ідэя, ты – раскручаны аўтар, але дзе гарантыя, што гэтыя кнігі прададуцца?» І пакуль я сам не знайшоў фундатараў, з выдаўцамі не было згоды. А калі я прыйшоў і сказаў, што выданьне будзе прафінансаванае, выдавецтва «Факт» адразу пайшло насустрач.

**М. С.:** З усяго шматстайнага, разнажанравага Быкава вы аддалі перавагу менавіта «Пахаджанам» – зборніку апавяданьняў і прыпавесьцяў, створаных пісьменьнікам у апошняе дзесяцігодзьдзе жыцьця. Чым вы патлумачыце свой выбар?

**А. І.:** Найперш я кіраваўся ўласным густам. Наколькі я сам сябе магу распазнаць, то я – найперш сатырык. А ў «Пахаджанах» Высіль Быкаў паказаў узор добрай сатыры. Я памятаю, як упершыню чытаў яго апавяданьні і прыпавесьці і тут жа, зь ліста пераказваў і перакладаў прачытанае сваёй жонцы. Вось такога новага Быкава я і павінен быў пераклясьці. І я гэта зрабіў. Ніколі ў жыцьці я ня ўзяўся б за яго ваенную прозу. Яна не мая. Яе мусіў бы перакладаць равесьнік Быкава або хто-небудзь зь «дзяцей вайны». Мне 44 гады, я параўнальна малады чалавек, і я не належу да «дзяцей вайны». Гэта зусім іншыя людзі. Бываючы ў Менску раней, я набыў кнігу мэмуараў Быкава «Доўгая дарога дадому». Прачытаў, дужа цікавая рэч. І я быў уражаны: колькі ўсяго перажыло пакаленьне Быкава! Вайна, Далёкі Ўсход, нейкі Сахалін... Гэта жахліва. Калі б

на маю долю выпалі такія выпрабаваньні, я ня ведаю, ці ўвогуле выжыў бы. І таму вайсковая проза Быкава – не мая. Хоць яе ва Ўкраіне перакладалі і яна ў нас вядомая.

**М. С.:** Быкаў мусіў дажываць свае апошнія гады за мяжою. «Я заўжды была з маім народам там, дзе мой народ няшчасны быў», – пісала Ганна Ахматава. Уладзімер Арлоў, кнігу якога вы таксама пераклалі, гаворыць, што пакіне Беларусь хіба што па этапе. А калі і пры якіх умовах пісьменьнік мае права на эміграцыю?

**А. І.:** На маю думку, ён ня мае такога права. Тут я салідарны і з Ахматаваю, і з Арловым – з абаімі працытаванымі аўтарамі. Асабіста я меў шмат замежных стыпэндыяў, прэміяў і прапановаў застацца за мяжой. Але я ведаю, што маё месца ва Ўкраіне. Таксама як Арлоў ведае, што ягонае месца ў Беларусі. Як ведаў пра гэта і Васіль Быкаў, і ён вярнуўся ў Беларусь, і ён назаўжды застаўся зь Беларусьсю і беларусамі. Я разумею людзей, якія выяжджаюць з эканамічных прычынаў. Ну хочаш ты зарабляць 10 тысячаў даляраў у месяц, ты і едзеш на заробкі. Добра. Але як мастак ты можаш рэалізавацца толькі ў сваім народзе, у сваім Краі. Тут тваёй творчасьці энэргетыка самой зямлі, мэнтальнасьць самога народу спрыюць. Я нават не бяру мову, справа ня ў мове. Жывучы ва Ўкраіне ці жывучы ў Беларусі – у сваім Краі – ты на месцы. І таму я ня ведаю, якія абставіны, нават найстрашнейшыя – вайна, дыктатура, могуць змусіць мяне пакінуць Украіну. А ў выпадку з Быкавым важна ня тое, што ён некалькі астатніх гадоў жыў за мяжой, а тое, што ён цягам апошніх месяцаў, тыдняў ці дзён вярнуўся. Вярнуўся сам, з уласнай волі вярнуўся дадому. Вось што самае важнае ў дадзеным выпадку.

**М. С.:** Беларускі чытач трохі знаёмы з вашай творчасьцю. У вашай п'есе «Электрычка на Вялікдзень» («Дзеяслоў», 2002, № 1) у вагоне электрычкі, захопленай едучымі з зоны уркамі, раптоўна зьяўляюцца амэрыканскія паліцыянты і выбаўляюць зь бяды грамадзянку ЗША. Электрычка ў гэты час знаходзіцца дзесьці пад Бердычавам. Амэрыканскія жаўнеры сёньня зьявіліся ў Азэрбайджане, Грузіі, Літве. Яны могуць зьявіцца і ва Ўкраіне?



**А. І.:** Вы правільна заўважылі: у маёй п'есе амэрыканцы зьяўляюцца, каб выратаваць менавіта амэрыканку. Я думаю, што ўкраінскі жаўнер і сёньня, і ў будучыні будзе здольны абараніць Украіну незалежна ад таго, ці будуць на яе тэрыторыі амэрыканскія жаўнеры, ці не. Зыходзячы з таго, куды рухаецца мая краіна, то найбліжэйшым часам, цягам наступных гадоў або дзесяцігодзьдзяў, магчыма, амэрыканскія жаўнеры зьявяцца і ва Ўкраіне. Але, выбачайце, да нядаўняга часу ў маёй краіне стаялі жаўнеры расейскія. І да сёньня стаяць расейскія маракі – я маю на ўвазе Севастопаль, базу Чарнаморскага флёту. І пакуль што нават не прадбачыцца іх вывад з Украіны.

**М. С.:** Апошнім часам у Беларусі не суцішваюцца размовы вакол Нобэлеўскай прэміі. Раней дыскутавалася тэма Быкаў і Нобэль, цяпер – Рыгор Барадулін і Нобэль. Што б ні гаварылася, усе разумеюць: вельмі цяжка даказаць швэдзкаму акадэміку, што Барадулін – геніяльны паэт, што, напрыклад, украінская паэтка Ліна Кастэнка – геніяльная паэтка. З Нобэлеўскай прэміяй і беларусам, і ўкраінцам аднолькава не шанцуе. У адрозьненьне ад нашых агульных суседзяў – палякаў. Ва ўкраінскай культурнай прасторы гэтая тэма актуальная?

**А. І.:** Так, у нас яна таксама дыскутуецца, хоць я ў падобных дыскусіях удзелу не бяру. З аднаго боку, я разумею, што нобэлеўскі ляўрэат, кажучы фігуральна, – гэта чэмпіён сьвету па літаратуры. З другога боку, існуе гамбурскі рахунак, нават між пісьменьнікамі. І штогод у кожнай дзяржаве сьвету, і ў Беларусі, і ва Ўкраіне, і ў Польшчы, і ў Нямеччыне

зьяўляюцца як мінімум некалькі пісьменьнікаў, якія вартыя гэтай прэміі. Але ж прэмія па літаратуры адна, і яна дастаецца камусьці аднаму... Я недзе чытаў пра аднаго швэда-дзівака, які штогод ходзіць на ўручэньне прэміі. Нярэдка прэмія прысуджаецца творцу малавядомаму. Гадоў колькі таму яе атрымаў добры вугорскі пісьменьнік Імрэ Кэртэш, якога, аднак, ніхто ня ведаў. І вось той швэд, калі абвяшчаюць імя чарговага ляўрэата, шторазу ўзьнімаецца са свайго месца і крычыць: «Ну, нарэшце!» То бок іранізуе, маўляў, таго аўтара ўсё роўна ніхто ня ведае. І таму я таксама гатовы за ім паўтараць: «Ну, нарэшце! Далі таму, далі гэтаму...» Я думаю, што мы павінны падвышаць узровень нашых літаратураў незалежна ад таго, дадуць нам Нобэлеўскую прэмію ці не дадуць. Прэмія – гэта значка, мэдалёк плюс пэўная сума грошай. А да літаратуры яна мае даволі аддаленае дачыненьне.

**М. С.:** Калісьці, яшчэ студэнтам, мне давялося прачытаць страшныя радкі ўкраінскага паэта Ўладзімера Сасюры зь ягонай паэмы «Мазэпа», адрасаваныя Ўкраіне: «У галаве тваёй макуха. / Хіба ты можаш жыць сама, / Расейска-польская ты шлюха, / Маларасейская турма?!» Пры якіх абставінах паэт мае права гаварыць са сваёй радзімай такою мовай?

**А. І.:** Складанае пытаньне. Для мяне падобных абставінаў не бракуе, у маёй сытуацыі яны здараюцца даволі часта. Сапраўдны мастак павінен быць у апазыцыі заўжды. Улада – яна ёсьць амаральная ўжо таму, што яна ўлада. Магчыма, беларуская супольнасьць калісьці зразумее гэта. Прыкладам, у Амэрыцы інтэлектуалы дужа незадаволеныя Бушам, але, на жаль, сярэдняя кляса пераабрала яго ўжо на другі тэрмін. Так ёсьць. Але пісьменьнік, інтэлектуал абдымацца з уладай не павінен. Тарас Шаўчэнка з моцнымі сьвету гэтага чаркі ня піў. І Збаўца наш Ісус Хрыстос, ён таксама не сябраваў



з царамі. Так што месца сапраўднага мастака дзесь там, на баку працытаванага вамі Сасюры. І ня толькі з уладай творца мае гэткія няпростыя адносіны. Сапраўдныя мастакі ў пераважнай бальшыні «лупцавалі», калі можна так сказаць, свой народ сатырычнай пугай... Як тут не згадаць выдатную п’есу вашага Янкі Купалы «Тутэйшыя». У нашага Міколы Куліша ёсьць вельмі падобная п’еса, якая называецца «Міна Мазайла». Яе герой, таксама як і Мікіта Зносак, па-прыстасавальніцку зьмяняе сваю нацыянальнасьць, запісваецца то расейцам, то ўкраінцам. І дзеі ў п’есах прыблізна ў адзін і той жа час адбываюцца. Толькі ў Купалы ў 1918–1919 гадах, а ў Куліша трошкі пазьней, калі Ўкраіна стала дарэшты савецкай. Калісьці я напісаў верш, які пачынаўся страфою: «Це здогадка давня, але не іржава, / Її промовляти пручається рот: / В нас гарна країна й паскудна держава, / В нас люди хороші й паскудний народ». Таму з уласным народам таксама трэба размаўляць сур’ёзна. Я ведаю, што ўкраінскі народ трыста гадоў таму не пайшоў за Мазэпаю і прайграў. Дзевяноста гадоў таму ён не пайшоў за Пятлюраю і зноў прайграў. (Не пайшоў у пераважнай сваёй большасьці, бо пэўная частка ўсё ж пайшла.) У 1991 годзе, выбіраючы між Краўчуком і Чарнаволам, украінскі народ выбраў Краўчука – і таксама да сёньня зьбірае плады свайго памылковага выбару. Таму Радзіма, Бацькаўшчына – гэта адно, а народ, які робіць выбар на карысьць Краўчука, а не Чарнавола, такі народ заслугоўвае на сур’ёзную і жорсткую зь ім размову.

**М. С.:** Нядаўна ў інтэрвію адной беларускай газэце латыскі міністар замежных справаў Артыс Пабрыкс параўнаў Латвію і Беларусь адпаведна з дагледжаным падворкам і недагледжаным, дзе няма парадку. І дадаў, што немагчыма навесьці парадак цераз плот, церазь мяжу. Вы згодныя?

**А. І.:** Згодны з другой часткай сэнтэнцыі латыс-

кага міністра. Звычайна на сваім падворку кожны мусіць разьбірацца сам. Аднак я хацеў бы працягнуць алюзію з Латвіяй. У вас жа падобныя сьцягі, у іх чырвона-бела-чырвоны, у вас бела-чырвона-белы. Чырвоны колер у людзкой сьвядомасьці найперш асацыюецца з кроўю. На латыскім сьцягу дзьве чырвоныя палоскі, то бок за сваю свабоду латышы пралілі крыві ўдвая больш за беларусаў. Мабыць, у іх праз гэта ўдвая больш парадку. Тут варта працытаваць Томаса Джэфэрсана: «Дрэва свабоды час ад часу трэба паліваць крывёю патрыётаў і тыранаў». Але ў любым выпадку я не прыехаў падказваць беларусам, як ім ладкаваць сваё жыцьцё. Я прыехаў пахваліцца тым, што я зрабіў ва Ўкраіне, – выдаў дзьве кнігі беларускіх аўтараў. А беларусы мусяць самі падбаць пра свой парадак і лад. Рэвалюцыю немагчыма экспартаваць, яна мусіць высьпець на месцы. Зь беларускай дыктатурай беларускі народ мусіць разабрацца сам. На парозе XXI стагодзьдзе, у людзей у кішэнях мабільныя тэлефоны. Таму зьмены могуць настаць раней, чым мы нават спадзяёмся. А што да парадку, то я мушу сказаць, што Беларусь нашмат чысьцейшая за Ўкраіну. У нас паўсюль накідана сьмецьця, рознага плястыкавага посуду, поліэтэленавых мяшэчкаў уздоўж чыгункі. Падазраю, што ў вас папросту не хапае паковачнага матэрыялу. Я ў краме купляў дзьвесьце грамаў карамелі, і яе мне проста кінулі на вагі – бярыце. Ніякага, нават папяровага кулька не далі. Вось таму ў Беларусі і чыста.

**М. С.:** Сёлета ў Кіеве адчыніўся Беларускі дом – установа, якая павінна спрыяць дэмакратызацыі Беларусі. Чым там найперш павінны займацца?

**А. І.:** Пра гэты Дом я чытаў у газэтах, хоць ён застаўся на маргінэзе маёй сьвядомасьці. Я думаю, што мэтаю дзейнасьці такой інстытуцыі павінна быць папулярызацыя Беларусі, насамперш беларускай культуры ва Ўкраіне. Добрай культуры. А зваротны эфэкт абавязкова будзе. Калі дзякуючы Беларускаму дому, ва Ўкраіну прыедуць з канцэртамі гурты «N.R.M.», «ULIS», ці барды Алесь Камоцкі, Віктар Шалкевіч – гэта будзе карысна.



**М. С.:** Самым надзейным апірышчам і электаратам улады зьяўляюцца пэнсіянэры і вэтэраны. І гэта зразумела: чым больш старэйшы чалавек, тым больш ён кансэрватыўны. Як уплываць на гэтую частку народу, калі пэнсійны фонд знаходзіцца ў руках улады?

**А. І.:** Аднаго разу я быў у Францыі. У іх удзельнікі Супраціву называюцца рэзыстанты. Дык там жартуюць, што рэзыстанта, пачынаючы ад 1944 году становіцца ўсё больш і больш. Але будзьма шчырымі: вэтэранаў больш не становіцца. Яны адыходзяць. Я адношуся да іх з глыбокаю павагаю, бо яны сапраўды зьдзейсьнілі вялікі подзьвіг. А што датычыць пэнсіянэраў... Ведаеце, нядаўна ва Ўкраіне прайшоў зьезд Камуністычнай партыі. І першы сакратар КПУ Пятро Сіманенка дужа наракаў на тое, што сучасныя пэнсіянэры дзеляцца на пэнсіянэраў часоў сацыялізму, якія шчыра і безумоўна падтрымліваюць КПУ, і на пэнсіянэраў новых часоў, якія камуністаў ня хочуць падтрымліваць. Таму трэба папросту пачакаць, пакуль крытычная маса пяройдзе на бок пэнсіянэраў новых часоў. І зьмены настануць, бо такая лёгіка гістарычнага разьвіцьця.

**М. С.:** Апошнім часам Украіна голасна прамаўляе сьвету вельмі сымпатычныя лёзунгі. З Майдану мы чулі: «Разом нас багато, нас не подолати». Цяпер вось: «Кохаймася! Нас мае бути сто мільёнів!». Ці дае вынікі каханьне, узьведзенае ў ранг дзяржаўнай палітыкі?

**А. І.:** Мабыць, пра гэта яшчэ рана гаварыць. (*Сьмяецца*) У любым выпадку я тут не зьбіраюся сьпяваць хвалу ўкраінскай уладзе. Але калі вярнуцца да мінулагодніх падзеяў, аранжавая рэва-

люцыя – гэта рэвалюцыя маладых. Увесь украінскі Майдан, прылеглыя вуліцы і падземныя пераходы былі запоўненыя пераважна маладымі людзьмі. На адсоткаў 90 гэта былі маладыя людзі, хлопцы і дзяўчаты, якія цалаваліся, сьпявалі песьні. Дзяўчаты ўстаўлялі кветкі ў рулі аўтаматаў амонаўцаў, якія стаялі ў ачапленьні вакол Адміністрацыі прэзыдэнта. Украінскую аранжавую рэвалюцыю зрабіла любоў. Не палітыкі, ня Юшчанка зь Цімашэнкай, хоць іх роля таксама значная. Рэвалюцыю зрабіла любоў – да сябе, да сваёй краіны, да свайго народу, да свайго бліжняга. Таму беларусам я магу пажадаць толькі любові!



*Таццяна Валодзіна –*
этнакультуроляг. Закончыла філфак БДУ, працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі. Аўтарка кніг «Талака ў сыстэме духоўнай культуры беларусаў», «Народная мэдыцына: рытуальна-магічная практыка», «Сэмантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў» ды інш. Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Суша на Лепельшчыне. Жыве ў Менску.

## *Таццяна Валодзіна:* «Беларускі эрас напоўніцу выявіўся ў фальклёры»

***9 ліпеня 2006 году***

*Нацыя тады жыццястойкая, калі ў яе фальклёры эрас пераважае над танатасам. Нават павярхоўнае знаёмства са шматтамовай кніжнай сэрыяй «Беларуская народная творчасьць» дазваляе гаварыць пра жыццястойкасьць беларускай нацыі. Эрас падсьвечвае амаль усе фальклёрныя жанры – і песьні, і замовы, і казкі, і абрады. Падобная літаратура заўсёды карысталася попытам, хоць у Савецкім Саюзе за яе распаўсюд можна было трапіць за краты. А ў найноўшыя часы першым спахапілася маскоўскае выдавецтва «Ладомир», выпусьціўшы ў сьвет том «Беларускага эратычнага фальклёру». Прадмова і камэнтары ў ім пададзеныя па-расейску, а асноўныя тэксты – на мове арыгіналу. Уклала кнігу беларускі этнакультуроляг Таццяна Валодзіна.*

**Міхась Скобла:** Таццяна, пачынаючы з 1970 году ў нас выдаецца сэрыя «Беларуская народная творчасьць». За трыццаць пяць гадоў выйшлі каля 50 тамоў, сярод якіх «Легенды і паданьні», «Замовы», «Народны тэатар», «Вясельле» і г. д. Некаторыя тамы нават перавыдадзеныя. Чаму ж у згаданай сэрыі так і не зьявіўся эратычны фальклёр?

**Таццяна Валодзіна:** Асноўным прынцыпам названай сэрыі быў жанравы падзел беларускага фальклёру. Што да фальклёру эратычнага, то яго дэманструюць большасьць песенных і празаічных жанраў: тут і абрадавы фальклёр, і казкі, і песьні, і малыя жанры – прыказкі, загадкі, замовы, тут і народны тэатар. Таму тэрмін «эратычны фальклёр» – хутчэй, умоўны, кабінэтны. Эратычны фальклёр – зьява міжжанравая, яго немагчыма



ўціснуць у адзін жанр. Да таго ж сэксуальная патэнцыя чалавека ўсьведамлялася як адна з праяваў стваральнай касьмічнай энэргіі, што дазваляла архаічнаму чалавеку нароўні з багамі браць удзел у касьмічных падзеях. Сэксуальная энэргія – рэальнае ўвасабленьне тварэньня, крэацыі, таму эратызм арганічна ўвайшоў ці не ва ўсе абрады каляндарнага і сямейнага цыкляў. Да таго ж ня станем забываць, што ва ўсе часы чалавек кахаў, і не будзем адносіць эротыку толькі да рытуальных праяваў.

**М. С.:** Думаю, што і айчынныя выдаўцы не адмовіліся б ад выпуску падобнай літаратуры. Але ў нас ёсьць адпаведнае заканадаўства, зьбярэцца адмысловая камісія, і даказаць ёй, што гэта эротыка, а не парнаграфія, будзе складана. Дык што рабіць: мяняць заканадаўства ці працягваць выдаваць аналягічныя кнігі за мяжой?

**Т. В.:** У маскоўскім выдавецтве «Ладомир» апошнім часам былі апублікаваныя грунтоўныя тамы расейскага эратычнага фальклёру і яго дасьледаваньняў. Таму недзе падсьвядома нам хацелася і параўнаць нашы напрацоўкі з досьведам суседзяў. Падрыхтоўка зборніка беларускага эратычнага фальклёру распачалася гадоў дзесяць таму, калі галава працягвала кружыцца ад свабоды, якая прыйшла да нас на пачатку 1990-х. Зь іншага боку, хацелася паказаць нашу самабытнасьць, непадобнасьць, адметнасьць – і ў эратычным фальклёры ў тым ліку. Беларусы ж «пра гэта» гавораць ці сьпяваюць ня так, як у расейскай глыбінцы ці гуцульскай вёсцы. Безумоўна, міталягічныя падтэксты і мітапаэтычныя вобразы яднаюць эратычны фальклёр беларусаў ня толькі са славянскім, але і зь іншым эўрапейскім (і ня толькі) фальклёрам, але форма, увасабленьні, паэтычны сынтаксіс і граматыка вобразаў у нас усё ж свае. Да таго ж на пачатку 1990-х гадоў у Беларусі актыўна распрацоўваўся гэтак званы нацыянальны міт. І часам гучалі высновы пра

нейкую адмысловую цнатлівасьць, рахманасьць і сарамлівасьць нашых суайчыньнікаў. Але беларус ніколі не адмаўляўся ад гэткіх радасьцяў жыцьця, як плоцевыя ўцехі, што падмацоўваюцца глыбокімі сакральнымі сэнсамі.

**М. С.:** У Старажытнай Грэцыі эратычныя сцэны зьмяшчаліся на амфарах. У Індыі акурат эратычнымі барэльефамі знакаміты храм Кхаджураха. Залаты падсьвечнік у выглядзе гратэскна-фалічнай фігуры знойдзены ў Пампэі... А вось ад нашых археолягаў я пра падобныя знаходкі ня чуў. Атрымліваецца, увесь беларускі эрас сабраўся ў фальклёры?

**Т. В.:** Не, і на тэрыторыі Беларусі зафіксаваныя адпаведныя археалягічныя знаходкі. Пра тое, што ідэі фалічнага культу былі вядомыя і нашым продкам, расказаў яшчэ на пачатку мінулага стагодзьдзя археоляг І. Баршчэўскі ў артыкуле «З гісторыі фалёктанізму». А на пачатку XXI ст. у часе экспэдыцыі Студэнцкага этнаграфічнага таварыства ў Паўночна-Заходняй Беларусі была знойдзеная каменная выява фаласа ў даволі добрым выглядзе... Але вы маеце рацыю: эрас у нас выявіўся найперш у рытуале і песьні.

**М. С.:** Уважліва прачытаўшы кнігу «Беларускі эратычны фальклёр», я зразумеў, што надзвычай важную ролю ў гэтым самым фальклёры выконвае сымболіка мужчынскага і жаночага пачаткаў. Растлумачце, ад якой печы таньчаць фальклярысты? Чаму ў звычайнай песьні «Хлопец пашаньку пахае, ў яго сошанька крывая...» трэба абавязкова бачыць полавы акт?

**Т. В.:** Апазыцыя мужчынскага і жаночага пачаткаў палягае ў падвалінах асэнсаваньня ўсяго Сусьвету, калі паводле згаданай прыкметы падзяляліся як жывыя істоты, так і нежывыя прадметы. Лад і парадак у Сусьвеце, акрамя іншага, меў на ўвазе і гарманічнае ўзаемадзеяньне гэтых полюсаў. Пад ідэю кантактаваньня мужчынскага і жаночага пачынае



падводзіцца цэлая сыстэма ўяўленьняў. Цела – як каштоўнасьць, яго інтымныя часткі – як таямніца і бездань сэнсаў – вось ідэі народнае творчасьці. Яскравымі малюнкамі дачыненьняў мужчыны і жанчыны становяцца якраз ворыва і апрацоўка глебы. Як, прыкладам, у загадцы: «Ехаў плуг на чоран луг, за ім пара слуг...». Ці ў песьні: «Казалі нам, Сямёнка – гультай, / Залатую сошаньку папраўляў, / Чорную аблогу разьдзіраў...». Наогул, тут прыхаваныя і глыбокія міталягічныя зьместы, калі ў засяваньні поля бачыўся акт шлюбаваньня Зямлі і Неба. Што да рэчавых сымбаляў, то мужчынскую сэмантыку заканамерна набылі прадметы даўгаватай, падоўжанай формы, прызначаныя для рознага запіхваньня, утыканьня, зьмяшчэньня ўсярэдзіну. Гэта нож, шыла, таўкач, агурок, грэбень. Былі надзеленыя сэмантыкай асаблівай плоднасьці зьвяры і свойскія жывёлы – казёл, заяц, конь. Паеньне каня, прыкладам, прачытваецца як мэтафара стасункаў паміж мужчынам і жанчынаю.

**М. С.:** «Я буду твая, напаю каня» – гэта таксама мэтафара полавых дачыненьняў?

**Т. В.:** Безумоўна. Ці іншы прыклад: «Дзеўкадзявіца, / напой майго каня. / Напой майго каня, / ці ня будзеш ты мая? / Я ня буду паіці – / будзе мяне татка біці». Зь іншых жывых істотаў мужчынскую сэмантыку мае і бусел, і журавель, які «ўнадзіўся ў бабіну канапель», і «гарэза-верабей».

**М. С.:** Калі ў выпадку з буслам сапраўды мае месца фалічная сымболіка ягонай дзюбы, то чаму і нэўтральная з выгляду пчала ў фальклёры таксама набывае мужчынскую шлюбную сымболіку? Пчала ж увогуле жаночага роду!

**Т. В.:** Тут мае месца асацыяцыя джала і мэтафара полавага акту як укусу. І тады пчала ў загадках зьвяртаецца да дзяўчат: «Не хадзі, дзеўка, па саду, / бо як даганю, дык усьсяду. / Я такую моду маю – / як усуну, не вымаю». Тут жа і шарсьцень, што «ўтык-

нуў жала, / аж сэрца маё задрыжала», і камар, які «дзеўку ўкусіў, жывот разьдзімаецца».

**М. С.:** Цяпер давайце пагаворым пра жаночы пачатак. Якія матэрыяльныя рэчы ў беларускім фальклёры ўвасабляюць жаночую генітальную сымболіку?

**Т. В.:** Найперш варта пазначыць сымбалічную тоеснасьць зямлі і жанчыны, якая грунтуецца на ўласьцівых ім патэнцыях урадлівасьці, плоднасьці і наогул выступае як сусьветная этналягічная ўнівэрсалія. Сярод элемэнтаў прадметнага коду жаночы ніз абазначаюць рэчы, якія судачыняюцца з колам або маюць адтуліну ці паглыбленьне. Да таго ж гэта прынцыпова пасіўныя прадметы: спадніца, фартух, ступа, дзяжа, гаршчок, хамут, пярсьцёнак, вянок. Генітальная сымболіка гэтых прадметаў абумовіла выкарыстаньне іх у павер'ях і абрадах жыцьцёвага цыклю, дзе яны ўключаліся ў магічныя рытуалы, накіраваныя на забесьпячэньне будучай плоднасьці ці ўрадлівасьці глебы. Жаночая сэмантыка прыпісваецца і памяшканьням. Тут і сені, і сама хата, дзе дзьверы, вароты прачытваюцца як сымбалі жаночага нізу... Асабліва наглядна жаночая сымболіка выяўляецца ў прыкладзе са ступай, якая прадстаўляе сабой жанчыну, а таўкач – мужчыну. Адпаведна працэс таўчэньня ў ступе мэтафарычна абазначае полавыя дачыненьні. Рытуальнае таўчэньне вады ў ступе ўваходзіць у склад вясельнага абраду. Напрыклад, у Мазырскім павеце родныя маладой гучна білі сякерай аб сякеру, таўклі ваду ў ступе. «Нячэснай» нявесьце ставілі таўкача замест жаніха, клалі яго ў ложак, маладую абводзілі вакол ступы, што выглядала ганебна. Адна ступа, без таўкача, сымбалізавала шлюбную пасіўнасьць і таму знайшла рытуальнае выкарыстаньне ў масьленкавых звычаях пакараньня нежанатай моладзі. У панядзелак на Масьленым тыдні хлопцы цягалі ступу па хатах, дзе жылі незамужнія дзеўкі.



**М. С.:** Ня ступа, а проста дзіва... Дык што, баба-яга, якая лётае ў ступе, – таксама сэксуальны вобраз?

**Т. В.:** Ну, баба-яга ня толькі ў ступе едзе, але і таўкачом паганяе. Вобраз бабы-ягі, несумненна, архаічны і глыбока амбівалентны. Менавіта яна – як першапродак, як першанябожчык – кіруе ініцыяцыяй героя, што ў яе хатцы на курынай лапцы перанараджаецца да новага жыцьця. Прыкладам, прыйшоў да бабы-ягі Іван-царэвіч ці Іванька-дурачок, а яна яго накарміла, напаіла, у лазенку завяла. У выніку герой як бы перанараджаецца, надзяляецца новымі здольнасьцямі. Таму і хатка бабы-ягі ўспрымаецца ня толькі як месца сьмерці, але і як калыска новага жыцьця, як улоньне маці. Ступа, у сваю чаргу, выступае і як сымбалічны эквівалент хаткі. Фактычна ступа – бытавое ўвасабленьне міталягемы першакрыніцы, зямлі і жанчыны, яе дзетароднага ўлоньня.

**М. С.:** Ці трэба казаць, што пры такой сэксуальнай фантазіі беларусаў традыцыйнае беларускае вясельле таксама мусіла мець эратычны код. Я безьліч разоў бачыў, як перад уваходам маладых у хату б'юць посуд. Навошта? Спатрэбіўся б новай сям'і ў гаспадарцы.

**Т. В.:** Мушу ўдакладніць: фантазіі тут быць ня можа. Кожны сымбаль, вобраз укладваюцца ў прынятыя, строгія схемы і стэрэатыпы. Усё заканамерна ў рэчышчы іх мітасэмантыкі. Што да посуду, то ён уяўляўся перадусім крыніцай жыцьця, надзяляўся творчай патэнцыяй і азначаў сабой жанчыну. Разьбіваньне, скажам, гаршэчка на вясельлі сымбалічна пазначала дэфлярацыю маладой (посуд білі пасьля першай шлюбнай ночы) і нават роды. Калі маладая брала шлюб нецнатлівай, яе матулі прыносілі чарапкі або давалі ёй піць у трэснутым, дзіравым посудзе. Казалі: каму твой разьбіты гаршчок патрэбен?

**М. С.:** І яшчэ адзін успамін зь вясельля. Памятаю, як мы, падлеткі, ад вясельнага караваю стараліся адшчыкнуць шышку – яна здавалася самай смачнай. А навошта шышкі на караваі – ён жа не ялінка?

**Т. В.:** Каравай у традыцыйных уяўленьнях сымбалізаваў сабою багацьце, род, шчасьце, долю. Да таго ж каравай выступае як яскравы мужчынскі і нават фалічны сымбаль. Такую прадукцыйную функцыю караваю падвойвалі, памнажалі шышкамі. Ну, а пра іх у вясельнай паэзіі гаворыцца: «Пад елкаю спала, / ня дзеўкаю стала – / шышка зь елкі ўпала, / дзеўку сапсавала». Так што шышка тут вядома якая... Традыцыйнае разуменьне караваю як фалічнага сымбалю таксама паказвае на жаночую сэмантыку печы, як, напрыклад, у каравайнай песьні: «Даўно печка зіяе, / а прыпечак рагоча. / Печ караваю хоча». Перад шлюбнай ноччу на каравай саджалі маладую. Не выпадкова каравай пяклі толькі дзяўчыне, што ўпершыню выходзіла замуж, і ніколі не пяклі ўдаве. Часам вясельны каравай у песьнях замяняўся сырам, які таксама азначаў жаніха, маладога мужчыну: «Ой, ляжыць сырок бяленькі – / зяць цешчы міленькі». Фалічнасьць сыру магла абапірацца і на сымболіку яго белага колеру, які ў славянаў здаўна асацыяваўся з актыўным пачаткам, мужчынскай сілай. Шматлікія песьні, замовы, прыпеўкі суадносяць вобраз сыру з нараджэньнем дзіцяці: «Вынясі сыра – народзіш сына».

**М. С.:** На вясельлі маладым жадалі сямейнага шчасьця, дзетак, дабрабыту. І часам пажаданьні гучалі паэтычна-эратычна. Ці не маглі б вы паказаць узоры гэткіх пажаданьняў?

**Т. В.:** Прыкладам, жаніху хто-небудзь жадаў: «Дару дайніцай, / каб не заглядаў пад чужыя спадніцы» (гэта што тычыцца яго паводзінаў па-за хатай). А ў сямейным жыцьці жадалі: «Дару петухом, / каб не ляжаў уверх трыбухом». Маладой жа зычылі: «Дару дукаты, / каб маладая была сьпераду гарбатай».



**М. С.:** Нядаўна беларусы адзначалі Купальле, моладзевае сьвята, ад якога, як паведамлялася ў адной царкоўнай кнізе, «отрокам осквернение, а девам растление». Ці сапраўды падчас Купальля адмяняліся ўсе табу і дазвалялася распуста?

**Т. В.:** На Купальле вольнасьць у полавых дачыненьнях не ўспрымалася як распуста, а насіла падкрэсьлена сакральны сэнс. Зірніце ў акно: усё жывое проста буяе, квітнее, перажывае пік вэгетацыі, вітальнасьці. Архаічны чалавек не выключаў сябе з агульнае прыроднае прасторы. І вось гэтае расьлінна-сонечнае буйства знаходзіла працяг і ў міжполавых дачыненьнях. Да таго ж Купальле разумеецца як час адкрытага Раю, час адкрытых межаў між сьветамі, між зямлёю і небам, што працягвалася і ў паслабленьні патрабаваньняў, адкрыцьці межаў і ў зносінах мужчыны і жанчыны.

**М. С.:** Беларускі эратычны фальклёр увесь зашыфраваны, закадаваны. І яго трэба ўмець чытаць. Ня мог не пранікнуць эрас і ў самы загадкавы жанр – у загадкі. А загадайце пару-тройку нашым слухачам.

**Т. В.:** Эратычныя загадкі – проста ўзор двухсэнсоўнасьці. Разам з тым яны глыбока іранічныя, дэманструюць эфэкт падманутага чаканьня. Большасьць загадак маюць зусім бяскрыўдны адказ, азначаюць рэчы, якія знаходзяцца вакол нас. Напрыклад: «Валасы з валасамі сходзяцца, / сэрца заходзіцца. / Седзячы харашо, / а лежачы – яшчэ лепш». Што гэта? Звычайны сон. Ці яшчэ: «Лытка ўздрыгае, / касмаценьне ўставае, / а гладкі д’ябал / дзіркі шукае». Здаецца, усё тут гаворыць пра адно... Але адгадка – кросны. На зьмену старым вобразам прыходзілі новыя: «Сьпераду – па блату, / ззаду – хоць каму. / Дзеўкі любяць стоя, / мальцы на хаду».

Хто б даўмеўся, што гэта – грузавік. Але падобныя загадкі загадваліся ў пэўныя каляндарныя адрэзкі часу і ў пэўнай аўдыторыі. Проста дзеля сьмеху і для шырокай публікі загадваць іх не дазвалялася. Фальклёр наогул разьлічаны не на слухача, а на суўдзельніка пэўнай сьвяточнай, абрадавай сытуацыі. Калі я і той, хто побач, ад пачатку валодаем падобнымі сыстэмамі ўяўленьняў і каштоўнасных прыярытэтаў.

**М. С.:** Падазраю, што кніга «Беларускі эратычны фальклёр» не залежыцца ў кнігарнях (наклад – 1500 асобнікаў). Але ж ня езьдзіць беларусам па яе ў Маскву. Ці ёсьць задума перавыдаць яе ў Беларусі?

**Т. В.:** Пакуль не. Гэта ж навуковае выданьне. Ня варта заклікаць да папулярызацыі ці тыражаваньня эратычнага фальклёру. Укладаючы кнігу, я імкнулася паказаць усю патаемнасьць беларускага фальклёру, яго ўнікальную, усёабдымную, архаічную, паэтычную, глыбокую ў сваіх вытоках мэтафарычнасьць. Эратычны фальклёр прадэманстраваў усім нам, наколькі арганічнымі, гарманічнымі могуць быць стасункі ня толькі між мужчынам і жанчынаю, але і наогул між Чалавекам і Сьветам.



*Уладзімер Някляеў –*

паэт, празаік. Закончыў Менскі пэдагагічны інстытут імя М. Горкага. Працаваў на Беларускім тэлебачаньні, быў галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца» і тыднёвіка «ЛіМ». Узначальваў Саюз пісьменьнікаў і Беларускі ПЭН-Цэнтар. Аўтар кніг «Прошча», «Так», «Цэнтар Эўропы» ды інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Менску.

## *Уладзімер Някляеў:* «Беларусы не адчуваюць якасьці жыцьця»

*14 ліпеня 2006 году*

*11 ліпеня 2006 году ў Крэўскім замку (дакладней, у пазасталых ад яго сьценах) назіраўся вялікі рух: дзясяткі людзей вышуквалі ў траве камяні і зносілі іх у крушню. Пасьля імправізаванай талакі пад сьпякотным сонцам камянёў павінна было быць роўна шэсьцьдзесят. Поруч з крушняй неўзабаве паўстала высокае крэсла, якое ў пэўным гістарычным антуражы (харугвы і г. д.) выглядала як троннае седала. І нарэшце ў вянку з палявых кветак (чым ня лаўравы?) зьявіўся Паэт... Гэткім тэатралізаваным дзействам Уладзімер Някляеў адзначыў у Крэве сваё 60-годзьдзе.*

**Міхась Скобла:** Спадар Уладзімер, да гэтай пары юбілейныя літаратурныя вечарыны адбываліся ў Доме літаратара, у дамах культуры, у касьцёлах апошнім часам праходзяць. Вы першым скарысталі для гэтай мэты старажытны замак. Чыя гэта была ініцыятыва?

**Уладзімер Някляеў:** Крэва і замак ад пачатку меліся на ўвазе, я нікуды не зьбіраўся ехаць, апрача як да сваякоў, да сваіх крэўных, да магілаў тых, каго ўжо няма на сьвеце. Ідэя правесьці імпрэзу ў замку належыць мастакам Рыгору Сітніцу і Ўладзімеру Вішнеўскаму. Прычым, калі яны падзяліліся са мною сваёй задумай, я, шчыра кажучы, не зразумеў і не пагадзіўся. Меркавалася назваць імпрэзу «Час зьбіраць камяні», пасадзіць мяне ў княскае крэсла, выкласьці крушню з 60 камянёў і г. д. Аднак яны не здаліся і ўсё арганізавалі. Без афіцыёзу, без тэлекамэраў. На імпрэзе былі ўсе свае, усё і выйшла па-свойску, нібыта і ўсур'ёз, нібыта і жартам, але адбылася дзея, якая ўсім спадабалася.



**М. С.:** Памятаю, як сваё 50-годзьдзе вы адзначалі на стадыёне ў Маладэчне, падчас фэстывалю беларускай песьні і паэзіі, заглушанага пазьней віцебскім «Славянскім базарам». Чытаньне вершаў на стадыёне і ў замку чым розьніцца?

**У. Н.:** Розьніцца ня толькі чытаньне вершаў на стадыёне і ў замку, розьніцца і тая літаратура, якая была дзесяць гадоў таму, і сёньняшняя. Былая – гэта рэшткі савецкай імпэрскай літаратуры. І я, па сутнасьці, стаяў на тых рэштках, бо я ніколі не хаваў, што я, як і ўсе мае аднагодкі, вырас на той самай імпэрскай савецкай літаратуры. Тая літаратура патанула, як «Тытанік». Трагічны лёс тых, хто патануў разам зь ім, але сумны лёс і тых, хто стаіць на беразе і глядзіць на хвалі, якія сышліся над караблём. У гэтым істотная псыхалягічная праблема для творцаў, якія доўга плылі на гэтым караблі. І вось што дзіўна... Лягічна мне было б змагацца за той час, калі я меў усё найлепшае. А ўсё найлепшае я меў у савецкія часы: я быў запатрабаваны, славуты, матэрыяльна забясьпечаны. Але вось нейкая лёгіка часу заключаецца ў тым, што ня толькі я, але амаль усе мы пачалі змагацца з тым, што нас, па сутнасьці, да гэтай пары грэе. Дзіўная рэч, але давай ня будзем у яе паглыбляцца... Вядома, калі ты стаяў на стадыёне, калі ўзмахам твае рукі, твайму голасу падпарадкоўваліся дзясяткі тысячаў людзей, гэта заварожвала, у гэтым была свая «нарката», як сказалі б сёньняшнія маладыя. Памятаю, у 1970-я гады я трапіў у Італію, мяне ўгаварылі ехаць туды маскоўскія паэты. Мне там давалі нейкую прэмію, і прыйшлі на сустрэчу 20 чалавек. Я падумаў, што італьянцы зь мяне зьдзекуюцца, і нават адмовіўся выступаць... Ну а сёньня і ў нас падобнае ня дзіва. Літаратура сёньня перастала быць сродкам здабыткаў, ёю займаюцца тыя, хто ня можа не пісаць. І ў гэтым у літаратуры сучаснай ёсьць свае перавагі перад тою літаратурай, якая была раней.

**М. С.:** На тыдзень пазьней пасьля імпрэзы ў Крэўскім замку ваша вечарына адбылася і ў Смаргоні, ганаровым грамадзянінам якое вы зьяўляецеся. А наколькі важна, каб прызнаньне знайшло паэта ня толькі ў роднай сталіцы ці Італіі, але і ў вёсцы ці мястэчку, адкуль ён родам?

**У. Н.:** Раней я лічыў, што гэта драбяза. Што такое малая радзіма? Сто чалавек у параўнаньні са сьветам, дзе – мільёны. А цяпер мне ўсё даражэй тое, што адбываецца там. За прызнаньне высакалобага крытыка мне даражэй прызнаньне цёткі, якая засталася з усёй маёй радні ў Крэве. І тое, як яна мяне сустрэла на дзедаўскім падворку ў сьпёку, апрануўшы строй, у якім ёй было невыносна горача. Але яна трывала і проста са сьлязьмі радасьці глядзела на мяне, свайго родзіча, крэўніка.

**М. С.:** Яна сустрэла пляменьніка Валодзю Някляева. А ці чытала яна вашы вершы?

**У. Н.:** Чытала. І брат Іван чытаў. Аб прызнаньні на радзіме ў свой час добра Янка Брыль напісаў: «Мяне называюць вядомым беларускім пісьменьнікам. І ў Маскве мне кажуць: што з таго, што ты вядомы беларускі... А я, ім не адказваючы, сам сабе гавару: а мне дастаткова». Так і мне. Наогул, мае стрыечныя браты, хоць жылі мы бедна, усе выйшлі ў людзі. А брат Іван лічыць сваім абавязкам клапаціцца пра Крэўскі замак, які на нашых вачах працягвае развальвацца. Калі ў мяне былі магчымасьці, мы разам зь ім арганізоўвалі фонд «Крэва» дзеля ўратаваньня замку. У мяне такое перакананьне: калі паўстане з руінаў Крэўскі замак, зь ім паўстане і Беларусь. Паглядзі, у Крэве ўсё і пачалося: і вунія, і шлюб Ягайлы, і апалячваньне... Кажуць, што чалавек складаецца на 90% з вады. Дык вось, я на 90% з крэўскай вады. І таму ёсьць аб'ектыўныя прычыны гарнуцца да свайго, роднага і любіць сваю зямлю і сваіх людзей.

**М. С.:** Вы з такой цеплынёй гаворыце пра свае



родныя мясьціны. А мне згадваюцца вашыя радкі: «Вяртацца на радзіму, а куды? Нідзе няма радзімы». Радзіма – краіна – дзяржава – для вас гэтыя паняткі роднасныя ці ўзаемавыключальныя?

**У. Н.:** Яны і роднасныя, і ўзаемавыключальныя адначасова. Але на глыбінным узроўні нідзе няма радзімы. На глыбінным узроўні нідзе няма ніякай тваёй дзяржавы. І наогул, на глыбінным узроўні нічога ў цябе нямашака. Гэта адчуваньні абсалютнай касьмічнай пустаты, абсалютнай касьмічнай адзіноты. І гэтыя адчуваньні існуюць у табе незалежна ад цябе самога. І чым большыя ты робіш намаганьні ад іх пазбавіцца, тым глыбей і глыбей ты ў іх патанаеш. А ў працытаваных радках я меў на ўвазе зусім ня тое, што на паперы.

**М. С.:** Я дапоўню сваё пытаньне, праілюструю яго радкамі ўкраінскага паэта Аляксандра Ірванца: «Це здогадка давня, але не іржава, / Її промовляти пручається род: / В нас гарна країна й паскудна держава, / В нас люди хороші й погани народ». А ў нас народ таксама горшы, чым людзі?

**У. Н.:** У вачах уладароў, філёзафаў ці паэтаў народ быў заўсёды горшы за іх саміх. Ну, вазьмі Купалу: «Па колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой...». Купала і народ – праблема? Праблема. Нават народ і Колас, які, здаецца, плоць ад плоці народу, – таксама праблема. Ня кажучы ўжо пра эстэта Багдановіча. Сёньняшнія ўлады і народ – што, не праблема? Уявім сабе такую сытуацыю: кіраўнік Беларусі заснуў летаргічным сном. Заснуў і сьпіць. А служкі ягоныя ня кажуць нікому, што ён сьпіць. І ён сьпіць, сьпіць і сьпіць – месяц, паўгода, год... Ну і што, што-небудзь зьменіцца? Не. Ужо ня ў ім праблема, а ў тым, што прарасло. А прарасло таму, што недзе там і было. Бо калі б яно ад пачатку адпрэчылася, то і ня сталася б.

**М. С.:** А мне здаецца, калі б здарыўся летаргічны сон, зьмены адбыліся б. Напрыклад, я не ўяўляю

чарговай «бітвы за ўраджай» без сэлектарнай нарады.

**У. Н.:** Ды дзьве наладзілі б «бітвы»! Ці шэсьць – па колькасьці абласьцей! Не, машына ўжо адладжаная, працуе. Гэта наогул законы дыктатуры, а ў нас, што б ні гаварылі, усе фармальныя прыкметы дыктатуры ў наяўнасьці. Дыктатура паўсюдна па адных і тых жа пісаных і няпісаных законах дзейнічае. Мы тут гаворым пра асобу, народ. Няма больш вядомай асобы, чым Ісус Хрыстос. А другі знакаміты, дзякуючы Хрысту, чалавек – Варава. А вось хто мне скажа што-небудзь пра трэцяга? А на Галгофе быў трэці крыж, і на тым крыжы быў трэці чалавек, які прамаўчаў і пра якога да гэтай пары ўсе маўчаць. Вось гэтым трэцім мне на сёньня і ўяўляецца наш народ. І наогул, большасьць людзей на сьвеце – гэта трэція, якія фізычна існуюць і нават раскрыжаваныя, а на ўзроўні духу, мэтафізычным узроўні іх нібыта і нямашака.

**М. С.:** Адзін беларускі літаратар зь Беласточчыны (ня буду называць яго імя) прызнаўся, што «беларускі праект» у ягоным жыцьці ня ўдаўся. Ён перастае пісаць па-беларуску і пачынае тварыць на падляскім дыялекце, які Польшча з уступленьнем у Эўразьвяз мусіць падтрымліваць. Ці ня стане ў недалёкай будучыні падобная зьява масавай, калі той ці іншы пісьменьнік пяройдзе на свой, умоўна кажучы, дыялект?

**У. Н.:** Гэтыя выбрыкі я разумею. І на нашай памяці была спроба адрадзіць «палескую мову». Уся справа ў тым, што сёньня сэгмэнт культуры, дзе можа праявіць сябе творца, вельмі звузіўся. Вельмі цяжка сябе выявіць. Надрукаваўся ты ў часопісе – цябе прачытае купка людзей, якая і так усё пра цябе і тваю творчасьць ведае. Таму і хочацца нешта незвычайнае зрабіць, як таму беластоцкаму літаратару... Але тут мне хочацца вось пра што сказаць. Каля мяне апошнім часам усё больш пэсымістаў. Той жа



Васіль Быкаў быў страшэнным пэсымістам. Янка Брыль быў далёка не аптымістам пры ўсёй сваёй энэргічнасьці і жыцьцёвай сіле. Але ўва мне проста як дадзенасьць існуе пераканаsuccessfulьне: усё беларускае – яно проста будзе. Тое беларускае, якое, нягледзячы на расейскую бацькаву кроў, стала для мяне больш крэўным, чым усё астатняе. Яно проста будзе! Яго ня можа ня быць!

**М. С.:** «Глухі камень веры»? Гэта мэтафара польскага паэта і ксяндза Яна Твардоўскага.

**У. Н.:** Нешта накшталт таго.

**М. С.:** Многія вашыя вершы апошніх гадоў загучалі афарыстычна: «Мне не хапае ланцуга, намазанага мёдам». Чаму імпэратыў свабоды ў вачах беларусаў – нішто ў параўнаньні зь мёдам на ланцугу?

**У. Н.:** Так склаўся наш гістарычны лёс. Папершае, усе міты пра Вялікае Княства Літоўскае, усе творы, напісаныя Ўладзімерам Караткевічам і яго пасьлядоўнікамі, не пасьпелі паўзьдзейнічаць на сьвядомасьць людзей, як тое магло быць. Часу не хапіла. Па-другое, аддаленасьць і неверагоднасьць таго, пра што яны распавядалі, зрабіла сваю справу. Бо цягам трох апошніх стагодзьдзяў мы назіралі зусім іншую рэальнасьць... Я нават не ўяўляю, колькі трэба будзе затраціць часу і высілкаў людзям, якія возьмуцца вярнуць беларусам страчанае. Вось гэта будзе праблема! Але так станецца, і ў сьвеце ёсьць аналягі. Паколькі я жыў у Фінляндыі, то магу сказаць пра фінаў. Нам палякі і расейцы, а фінам швэды і расейцы даводзілі, што бязь іх ні беларусы, ні фіны не пражывуць. А фінаў жа ўдвая меней, яны жывуць на тэрыторыі, якая на дзьве траціны ў Запаляр'і, дзе нічога не расьце. У іх там наогул – толькі лес і вада. Дарэчы, у іх таксама быў страшэнны крызіс на пачатку 1990-х. Ну і што? За дзесяць гадоў яны вырашылі эканамічную праблему, і вырашылі без сваіх нафты і газу. Таму, маючы

такое геаграфічнае становішча, якое мае Беларусь, мы маем усе шанцы стаць нармальнай краінай. Усе гэтыя байкі пра нашую эканамічную залежнасьць прыдуманыя толькі дзеля таго, каб зрабіць нас залежнымі палітычна.

**М. С.:** І яшчэ адзін ваш верш згадаю – пад назвай «Піянэрскае прывітаньне»: «Дзякуй лідэру нацыі за электрычнасьць і газ, за эпахальную працу нацыі на ўнітаз». Але ж нацыя працуе ня толькі «на ўнітаз». Нешта ж застаецца, Нацыянальная бібліятэка напрыклад.

**У. Н.:** Працытаваныя радкі – вядома ж, перабольшваньне, як гэта зазвычай у вершах бывае. Я, дарэчы, ня з тых людзей, якія радуюцца няўдачам уладаў. Вось нядаўна ўпаў спадарожнік «БелКА», і сёй-той пачаў паціраць рукі... А мне таксама крыўдна, таму што спадарожнік рабілі тысячы людзей. І трэба аддаць належнае: сёньня зрабіць касьмічны спадарожнік здольная далёка ня кожная краіна.

**М. С.:** Катастрофа са спадарожнікам адбылася не па віне беларусаў, ягоны вывад на арбіту не змагла ажыцьцявіць расейская ракета.

**У. Н.:** Вось каб не напаткала Беларусь тая самая катастрофа ў больш шырокім сэнсе... А то мы ўсё караскаемся на расейскую ракету, зь якой можам грымнуцца. І гэта лёгка можа здарыцца. Я напалову расеец, я люблю Расею, нічога з гэтым не паробіш. Але я абсалютна аб'ектыўна ацэньваю сытуацыю ў сёньняшняй Расеі і той напрамак, куды яна рухаецца. І таму «ракета» яе вельмі небясьпечная.

**М. С.:** На мінулым тыдні ўсе мы перажылі вялікую страту: ня стала Янкі Брыля. Пасьля сьмерці Быкава і Брыля ў мяне такое адчуваньне, нібы два кутнія камяні вываліліся з падмурку нацыянальнай літаратуры. Ці ўстоіць яе нетрывалы гмах?

**У. Н.:** Я не адчуваю асаблівай трывогі за лёс мовы і літаратуры. Патлумачу чаму. У мяне ад пачатку не было ніякай сваёй значнасьці ў літаратуры. Толькі па выхадзе кнігі «Прошча» я зразумеў, што ня здарылася памылкі на нябёсах, калі мяне называюць паэтам. Калісьці мне прызнаваліся старэйшыя, што ўсё, яны ўжо на краі, за імі – прорва і пустэча. Памятаю, як, здаецца, Анатоль Вярцінскі мне сказаў: «А тут раптам ты паявіўся!» Майму пакаленьню таксама падобнае здавалася. А не пасьпелі мы азірнуцца – зьявіўся Юрась Пацюпа, зьявіўся Андрэй Хадановіч. І за імі ўжо ідзе хваля за хваляй. Гэта ж ня штучныя зьявы. Праблема ў іншым. Сёньняшнім творцам вельмі цяжка выявіцца. У нас і так паўсюль героі, паўсюль змагары, ужо сотні людзей пасядзелі ў турме... А Брыль і Быкаў зрабілі тое, што яны павінны былі зрабіць у свой час. А маладзейшыя зробяць сваё.

**М. С.:** На пахаваньне народнага паэта Максіма Танка прыходзіў кіраўнік дзяржавы. Памяць другога народнага пісьменьніка Васіля Быкава была ўшанаваная вянком ад прэзыдэнта. Трэці народны Янка Брыль ня меў і вянка. Пра што сьведчыць гэткая эвалюцыя ўлады?

**У. Н.:** Сьведчыць пра адну істотную акалічнасьць. Ня сьлед марыць беларускай апазыцыі пра тое, што праз пэўны час Лукашэнка стане ледзь не нацыянальным лідэрам і будзе бараніць сувэрэнітэт Беларусі. А таму ўжо сёньня трэба набівацца да яго ў дарадцы, каб ён калі ўжо паверне, то павярнуў туды, куды нам усім трэба. Нічога падобнага ніколі ня будзе!.. Пра сьмерць Янкі Брыля «Зьвязда» дала кароткую інфармацыю, БТ бягучы радок кінула. Ні пра месца, ні пра час пахаваньня – ні слова. Чаму так? Адчуваньне вялікіх стратаў патрэбнае для нацыі ня менш, чым адчуваньне вялікіх зьдзяйсьненьняў. У адчуваньні вялікіх стратаў гартуюцца моц і дух нацыі. Урэшце, у адчуваньнях стратаў нацыя і самастварaецца. І таму нашу вялікую страту, страту Янкі Брыля, улада проста замаўчала. Чаму?

Таму што яна займела досьвед, як глыбінна адчула Беларусь страту Васіля Быкава. І не дала паўтарыць тое самае яшчэ раз. Тут усё відавочна. Чаму Янка Брыль у Калодзішчах? Сёньня ўлада можа казаць пра ягоны запавет і г. д. Усё гэта лухта. У 2003 годзе ў Брыля памерла жонка. І я сам, плюнуўшы на ўсе акалічнасьці, грукаўся ў Адміністрацыю прэзыдэнта, каб сказаць там тое, пра што мяне ціха папрасіў Брыль, – дазвольце пахаваць жонку на Кальварыйскіх могілках. Я ім кажу: «Вы зразумейце, Брыль, па сутнасьці, для сябе просіць, бо ён ляжа там, дзе жонка. І ён ня просіць у вас ганаровыя Ўсходнія могілкі». Што я пачуў? «А, ты говоришь, что он в 1917 году родился, а я думал, что он умер давно...» Такі жарт нібыта. Але ў гэтым жарце – адносіны ўлады да той зьявы эпахальнай, якой быў Янка Брыль. І – было адмоўлена! Таму сёньня Брыль у Калодзішчах.

**М. С.:** Янка Брыль – гэта бездакорны стыль, гэта густ, гэта пэўныя маральныя каардынаты. А вось адзін зь літаратурных маладзёнаў піша на форуме Litara.net: «Мы – цынікі, мы пасьлядоўнікі Адама Глёбуса». А літаратура можа быць цынічнай?

**У. Н.:** Літаратура можа быць любой, у тым ліку і цынічнай. Але чалавек цынічным доўга быць ня можа, нават калі ён літаратар. Так ці іначай, жыцьцё, як гільятына, з чатырох бакоў паабсякае ўсё, што поруч з табой. І яно ўжо абсякае... Так і з тымі маладымі, хто знайшоў сабе куміра... Няма ніякага сораму абвяшчаць сябе гуру ад літаратуры. Без усякіх тармазоў пачалі людзі жыць. Але ўсё гэта лухта. Я кінуў думаць пра тое, кім я буду заўтра, ці «вырасту» я ў начальнікі ці ў «большыя» паэты. Гуманістычная місія мастацтва і літаратуры спрадвеку ішла побач з рэлігіяй, зь верай. Так заўсёды было і дайшло да нас, і мы, так ці іначай, на гэтым выраслі і фармаваліся. І так яно будзе заўжды. А ўсе гэтыя заявы пра тое,



што «мы цынічныя», – проста дэкларацыі, і нічога сур'ёзнага за імі стаяць ня можа.

**М. С.:** Я сёньня шмат цытую вашых вершаў, яны таго вартыя. Згадаю яшчэ адзін: «А пакуль на прасторах Айчыны, / Што ўсё толькі зьбіраецца быць, / Аніводнай ня знойдзеш прычыны, / Каб ня піць!». Няўжо нас чакае ўсенародны алькагалізм?

**У. Н.:** Сёньня беларусы п'юць ня больш, чым раней. Вось я ўспамінаю сваё дзяцінства. Пілі гэтаксама. І бацька мой піў, і сябры ягоныя пілі. Да дураты, да пісталетаў, да страляніны... І сёньня п'юць ня ў меншых маштабах, таму што ў нас няма адчуваньня якасьці жыцьця. Яно для нас не каштуе столькі, колькі, напрыклад, для заходняга чалавека, які жыве ва ўмовах сваёй цывілізацыі доўга і камфортна. І ён цэніць гэтае жыцьцё, якое далося яму цяжкай працай, і ня будзе яго самахоць губіць. А наш чалавек разважае так: якая розьніца, год туды, год сюды... Заўсёды ў нас чалавечае жыцьцё нічога не каштавала, жалеза – каштавала, а жыцьцё – не. Так думалі правадыры, так сталі ўрэшце думаць і людзі. А якую прычыну можна знайсьці, каб ня піць... Трэба працаваць. Сёньня звузела і ўшыркі, і ўдоўжкі наша літаратурная дзялянка. Значыць, калі мы ня можам узяць колькасьцю, трэба браць якасьцю. Іншага выйсьця ў нас няма.

**М. С.:** У нобэлеўскага ляўрэата Чэслава Мілаша ёсьць кніга пад назвай «То», у вас – «Так». У абодвух выпадках назвы нібы падказваюць, што паэты спазналі нейкую жыцьцёвую таямніцу. Вашае сьцьвярджальнае «так» – адказ на якое пытаньне?

**У. Н.:** Што датычыць назвы, то чым карацей, тым лепш. Як чалавек ні пляную сваё жыцьцё, свой лёс, здараецца так, як здараецца. Якраз у гэтым была сутнасьць назвы – так, а не інакш. З тых нечаканак, якія цягам апошніх гадоў здараліся ў маім жыцьці, зьяўленьне кнігі «Так» – самая вялікая нечаканка. Бо ў свой час, напісаўшы кнігу «Прошча», я вы-

рашыў разьвітацца з паэзіяй – справай маладой і энэргічнай. Ужо нібыта не па ўзросьце – бадацца з маладымі. Але чалавек – не гаспадар свайго лёсу. І калі я ўбачыў, што напісалася кніга «Так», я зьдзівіўся і самому сабе, і таму, што сталася. Наогул, што ёсьць кніга паэзіі? Гэта – як ідзе паэт па лесе, знайшоў баравіка – кінуў у кошык, знайшоў падасінавіка – кінуў, сыраежку – туды ж... Насамрэч кніга – нешта больш істотнае, чым проста сабраныя пад адну вокладку вершы. У кнізе «Так» мне хацелася стварыць унутраную архітэктуру. Скажам, яна пачынаецца вершам: «Я Богу ўсё перамаўчаў, / Як сіла слабла, / І кнігу шостую пачаў... / – Да д'ябла! / Ён спакусіў узьняць кулак / На самым нізе – / І праступіў ягоны знак / На шостай кнізе. / Каб зноў я ў мораку начы / Глядзеў, зьдзіўлёны, / На строгія, як на мячы, / Пісьмёны». І пасьля гэты ж самы верш, але ўжо ў разьвіцьці, зьяўляецца ў паэме «Ложак для пчалы»: «Каб меч, што лёс мне адкаваў, / Я ўзяў і рогам / Упёрся і паспрабаваў / Пабіцца з Богам. / І калі Бог мяне зваліў, / Як дуба вецер, / Душа мая пяяла – жыў, / Любіў на сьвеце!».

**М. С.:** «Пабіўся з Богам...» Ці не зашмат блюзьнерчай ваяўнічасьці ў гэтым радку?

**У. Н.:** Я вырас у сям'і вернікаў, мой дзед і яго сям'я былі найшчырэйшымі вернікамі. І я помню зь дзяцінства, як добра было мне зь дзедам і дзедавым Богам, калі мы разам чыталі Сьвятое Пісаньне. І як страшна мне было, калі я ішоў у царкву. Як усё сьціналася, як я баяўся, што Боданька глядзіць зь нябёсаў і ведае, што ўчора я залез у сад да суседкі, нарваў яблыкаў за пазуху. Ніхто ня бачыў, а Бог жа бачыў, ведае. І вось глядзіць і ківае мне пальцам зь нябёсаў: «Ну ты глядзі, Воўка!.. Сёньня я яшчэ прамаўчу, але вось наступным разам прыйдзеш ты ў царкву...». Гэтыя дзіцячыя адчуваньні нагадваюць стан чалавека, нашага праваслаўнага беларуса ў храме. Душа беларуса – паганская тэрыторыя. І



на сёньня большасьць з нас – вернікі ўмоўныя, я ў гэтым проста перакананы. І калі сыходзіць з гэтага, то трэба вызваліцца... Ня трэба, вядома, задавацца некарэктнымі пытаньнямі, ці ёсьць Бог. Бог ёсьць. І да гэтага больш ня варта вяртацца.

**М. С.:** А як быць з вашым наступным радком: «Прысьнілася, што ёсьць на сьвеце Бог...»? Толькі прысьнілася?

**У. Н.:** Вось у тым і ўся глыбіня пытаньня і глыбіня Бога. Кожны чалавек – штодня іншы. Я, напрыклад, часам устаю з раніцы тым жа вернікам, чалавекам, які, як і ўсе, баіцца сьмерці, гатовы ісьці маліцца, каб дараваліся грахі. А часам устаеш і думаеш: дай я разьбяруся ў самім сабе, чаму мяне нешта палохае, што мяне, выхаванага ў атэістычным грамадзтве чалавека, нітуе з Богам? Наогул, вера і мастацтва – паралельныя шляхі асэнсаваньня быцьця. І калі б я адчуваў сябе мацнейшым чалавекам, чым ёсьць, я б адназначна стаў на шлях веры. Але я не такі моцны, таму я стаў на паралельны шлях, на шлях мастацтва, ён больш лёгкі. І яшчэ ён больш вальнейшы ў тым, пра што мы цяпер гаворым. Ён дае магчымасьць разьбірацца і «біцца з Богам». Але ж размова не пра гэта ідзе... Гэта ж бойка ўнутры самога сябе, гэта бойка за самога сябе і за Бога ў сабе самім. Гэта бойка са слабасьцю ў самім сабе. І каб ня быць слабым, робіш такія пасылы, часам, я згодны, даволі рызыкоўныя.

**М. С.:** У той самай кнізе «Так» ёсьць верш «Над магілай Манэргейма», спрэчны з хрысьціянскага гледзішча. Вы ў ім дзякуеце Богу за геній Купалы і Коласа, але просіце хоць аднаго Манэргейма – «хай у чатыры бакі пастраляе». А ці не прыходзіла вам у галаву думка, што нашае ўпартае беларускае «нестраляньне» і ёсьць адной з формаў сапраўднага хрысьціянства? Бо ж «не забі» – адзін з Божых запаветаў.

**У. Н.:** Не складана апраўдаць народ, які ты

любіш. Але ранейшыя звышпіетэтныя адносіны з народам у мяне асабіста скончыліся. Талерантны, мяккі, хоць ты яго да аднаго месца прыкладай... Аб'ектыўна кажучы, калі грамадзтва дазваляе, каб зь ім абыходзіліся так, як абыходзяцца, не аказвае ніякага супраціву, значыць, трэба шукаць глыбінныя прычыны ў самім народзе. І калі пачынаеш шукаць, то хочаш ня хочаш, але відно, што ня ўсё так хораша, як мы насьпявалі пра гэты народ у сваёй літаратуры. Зрэшты, менавіта літаратура фармавала нацыю, гэта неаспрэчная штуковіна. І вось гэтае ўзаемнае самалюбаваньне між народам і мастакамі прывяло да таго, што мы сёньня маем. І калі мы сёньня ня можам знайсьці такой постаці, якая па сутнасьці зратавала нацыю, Фінляндыю, можа, ня Боскім учынкам, – стралянінай...

**М. С.:** Вы маеце на ўвазе фінскага генэрала Манэргейма?

**У. Н.:** Так, бо ён прымусіў увесь народ, які мог трымаць зброю, страляць, страляць і страляць... Бо інакшага выйсьця для фінаў на той момант не было. Наогул, у гісторыі Фінляндыі і Беларусі вельмі шмат падобнага. Проста супадзеньні. Але на гістарычных скрыжаваньнях, у нейкія вузлавыя моманты фіны скарыстоўвалі тыя магчымасьці, якія давала ім гісторыя, а мы чамусьці спускалі іх ва ўнітаз. Вось пытаньне для філёзафаў нашых і гісторыкаў.

**М. С.:** Жыцьцё павінна цікавіць мастака ў розных праявах, ці, робячы рызыкоўныя пасылы, высьвятляючы, што ёсьць дабро і зло, мастак павінен асьцерагацца, каб сваёй творчасьцю не памножыць зла?

**У. Н.:** Ніякіх асьцярагаmake асьцераганьняў быць не павінна. Як толькі ты пачынаеш нечага баяцца, зноў жа ці ў самім сабе, ці навокал сябе, ты паралізуесься, ты ня можаш думаць так, як хочацца. У кожным разе трэба мець сілу і рабіць учынак, рабіць так, як ты на максымуме можаш. Апроч усяго астатняга, што такое



паэзія? Вось я кажу – «у мяне», «я». Насамрэч гэта вельмі адносна. Скажам, паэма «Ложак для пчалы» напісаная не Ўладзімерам Някляевым. Някляеў такую паэму ня змог бы напісаць.

**М. С.:** А хто ж яе напісаў? Яна ж зьмешчаная ў вашай кнізе.

**У. Н.:** Яе напісаў Нехта, хто выбраў мяне проста ў праваднікі тэксту. І няма ў мяне аніякай пыхі наконт таго, які я малайчына. Фізычна адбывалася так: я пісаў тую паэму тры месяцы амаль бяз сну. Калі адчуваў, што ўжо не магу сядзець за сталом, клаўся на гадзіну-другую на ложак. І тыя строфы, якія я запісваў ня так, як Некаму хацелася, яны мне ў сьне, у глыбокім сьне перадыктоўваліся. І я ўставаў і перапісваў. Той стан я магу параўнаць хіба з наркатычным, ён мяне не адпускаў ні на імгненьне. Я не разумеў, у якой прасторы знаходзіўся – у нябеснай ці зямной. Гэта тое, што, відаць, называецца банальным словам «натхненьне». І калі такое ў табе адбываецца, ты ўжо не змагацца з Богам хочаш, а дзякаваць Яму за тое, што ён цябе для гэтай справы выбраў.

**М. С.:** Выходзіць, паэт-мэдыюм – не прыдумка саміх паэтаў для падвышэньня свайго аўтарытэту?

**У. Н.:** Не, гэта не прыдумка. Клясьціся ня буду, але я шчыра расказаў, што адбывалася са мной. Памятаеш пушкінскага «Прарока»? Гэта адзін з самых магутных ягоных вершаў. Пушкін сам прызнаваўся, што ад першага да апошняга радка ён яго пачуў у сьне, устаў і запісаў. А мне прысьніўся верш «Над вадой».

**М. С.:** Запісваньне пад дыктоўку – гэта няблага. Усё ж давайце вернемся да дабра і зла. Увогуле, ці павінен мастак канцэнтраваць сваю ўвагу на гэткай зьяве, як зло? Бо, наводзячы на яго свой «магічны крышталь», паэт міжволі павялічвае яго.

**У. Н.:** Ня трэба перабольшваць уплыў літаратуры на жыцьцё. Уплыў той бальшавікі прыдумалі,

прыраўнялі пяро да штыка. І толькі за верную службу гэтага прыраўнянага да штыка пяра яны нас і падкормлівалі, і падпойвалі, і жытло давалі. Насамрэч мастацтва мала ўплывае на чалавека. Паглядзі, якія творы зьявіліся ў літаратуры за часы існаваньня чалавека! Усё раскладзена па палічках, усе героі выпісаны ад Дон Кіхота пачынаючы. А чалавецтва засталося такім самым, не палепшылася... Іншая справа, што мастацтва дазваляе ў сутнасьці сваёй чалавеку быць чалавекам. Кіраўнік нашай дзяржавы ўвесь час гаворыць толькі пра адно: сёньня вы зарабляеце сто даляраў і жывяце добра; заўтра будзеце зарабляць сто пяцьдзясят даляраў і жыць яшчэ лепш; а пасьлязаўтра – дзьвесьце пяцьдзясят... Ну хай сабе. Але дзеля чаго жыць – пра гэта не гаворыцца, такое пытаньне не задаецца. А так проста жыць – гэта існаваць дзеля ўнітазу. За дзьвесьце ці за чатырыста даляраў схадзіў на ўнітаз – невялікая ў выніку розьніца. Якраз культура дапамагае чалавеку адказваць на самае галоўнае пытаньне: дзеля чаго жыць? А культура ў нашай краіне адсунутая ня тое што ўбок, а туды, дзе яе ўжо і не відно. І гэта страшна.

**М. С.:** Мяне ў спрадвечнай дыспазыцыі «паэт і цар» вось што цікавіць. Кідаючы пальчатку ўладару, становячыся ў пазыцыю двубою, пісьменьнік становіцца вышэй? Ну як жа, мужнасьць, сьмеласьць грамадзянскую праяўляе, ісьціну абараняе. Так было і ў Пушкіна з царом, і ў Васіля Быкава з Лукашэнкам. Гэта абавязак мастака ці, наадварот, ён любымі спосабамі павінен пазьбягаць сутыкненьня з уладай?

**У. Н.:** Тут кожны выбірае сам. Гэта вельмі няпростая, гранічна няпростая сытуацыя. Каб кінуць пальчатку і выстаяць, трэба спачатку паглядзець, ці ёсьць у цябе на гэта сілы. Бо выстаяць – неверагодна цяжка. Неверагодна. Але, калі браць мяне асабіста, я ніколі не шкадаваў аб зробленым. Я меў і тры пасады,



і кабінэты, і машыны, і грошы, і ўсё гэта імгненна страціў. Іншым разам прачнесься ўночы і задасіся пытаньнем: дзеля чаго? Але пасьля напішаш паэму і падзякуеш Богу, што ўвесь гэты пыл зь цябе зьляцеў, уся гэтая лухта засталася ззаду, і ў цябе ёсьць свабода пісаць, выконваць тое даручэньне, якое ўскладзена на цябе ў гэтым жыцьці.

**М. С.:** Да выезду за мяжу ў 2002 годзе вы былі з уладай у даволі блізкіх стасунках, нават лятаілі на адным самалёце з Аляксандрам Лукашэнкам на розныя палітычныя мерапрыемствы ў Расею. У які момант вы адчулі, што чым так лятаць, то лепш хадзіць пешкі?

**У. Н.:** У Смаленску сьвяткаваўся 80-гадовы юбілей БССР. Як памятаеш, у Смаленску Савецкая Беларусь і была абвешчаная. Туды паляцеў увесь наш палітычны бамонд, у тым ліку і я. Расейскую дэлегацыю ачольваў старшыня Думы Селязьнёў. І вось ідзе ўрачыстае паседжаньне. У залі – інтэрнацыяналізм, панславізм зашкальвае проста, прамовы коцяцца. Лукашэнка толькі пра гэта ў сваім выступе і гаварыў. І тут выступае мітрапаліт смаленскі і калінінградзкі Кірыла і ў запале панславянізму гаворыць пра тое, што ня бачыць ніякіх перашкодаў для нашай усеагульнай еднасьці, што няма ніякіх беларускіх і ўкраінскіх моваў, няма беларускіх і ўкраінскіх народаў. А ёсьць толькі адно вялікае расейскае дрэва, на якім беларуская і ўкраінская галіны ці абсякуцца, ці самі абламаюцца... І калі ён гэтую дурату прагаварыў, падымаецца прэзыдэнт Беларусі і пачынае пляскаць у далоні. Чалавеку, які сказаў, што Беларусі – нямашака! Калі нямашака Беларусі, то скуль ты ўзяўся, беларускі прэзыдэнт?! Чаму ты стаіш і пляскаеш? Тут ужо сьвядомасьць не ўключаецца, гэта нешта інфэрнальнае, надсьвядомаснае, і з гэтым немагчыма справіцца... І якраз пасьля гэтага я на прэзыдэнцкі самалёт ужо ня сеў. У які самалёт сядаць, куды ляцець, у якую Бела-

русь – якой няма?! Дадому вярнуўся на цягніку. З тае паездкі і пачаўся мой шлях на Захад.

**М. С.:** У расейска-беларускіх адносінах, апошнім часам даволі млявых, зьявіўся новы далікатны нюанс. Расея абвясьціла сваім нацыянальным сьвятам дзень 4 лістапада, у якім ажно ў 1612 годзе яны здолелі адбіцца ад войска Рэчы Паспалітае, якое было захапіла Маскву. Мяне зьдзівіла, што расейцы ўвогуле здолелі прызнаць захопнікамі палякаў і беларусаў, а жылі мы зь імі тады ў адной дзяржаве. Які крок Беларусь магла б зрабіць у адказ?

**У. Н.:** Само напрошваецца: абвесьціць нацыянальным сьвятам 8 верасьня – дзень бітвы пад Воршай. На гэты конт можна, вядома ж, і павесяліцца, аглядаючыся на далёкую гісторыю. Але гэта вельмі сур'ёзная справа. Мой бацька – расеец, зь мяне рабіць русафоба – проста сьмешна. Расея для мяне – сардэчная любоў, якую не выбіраюць, з гэтым я нічога не магу зрабіць і не зьбіраюся рабіць. Але гэта не азначае, што я не разумею таго, што адбываецца сёньня ў Расеі. Нічога добрага там не адбываецца. Расея як жыла за нафтадаляры, так і працягвае жыць, эканоміка на месцы стаіць. У такіх выпадках чым больш сьвятаў, тым лепш. Ну паглядзім, як яны дзень вызваленьня ад нас будуць сьвяткаваць. Я проста не магу ўцяміць, як адначасова абдымацца і сьвяткаваць дзень, калі вы нас пабілі... Такое можна прыдумаць толькі ў наш час і тымі мазгамі, якія ёсьць.

**М. С.:** У вашым вершы «Новы Сьвят» Сталін і Берыя гавораць па-расейску. І гэта ў іх натуральна атрымліваецца. Адзін наш паэт нападпітку жартаваў: «Дайте водки и закуски – напишу стихи по-русски». А сур'ёзнае пісаньне на бацькавай мове вас ня вабіць?

**У. Н.:** Я дастаткова добра ведаю расейскую мову, каб напісаць па-расейску верш. Але прысьніць верш па-расейску я не магу.



*Леанід Левін –*
архітэктар. Выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытуту. Працаваў у «Мінскпраекце», дзе ўзначальваў архітэктурныя майстэрні. Праектаваў станцыі мэтро «Плошча Незалежнасьці» і «Няміга», мэмарыяльны комплекс «Хатынь» ды інш. Старшыня Саюзу беларускіх габрэйскіх арганізацый. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў Менску, дзе і жыве.

## *Леанід Левін:* «Хатынь магла зьявіцца ў Сярэдняй Азіі»

***20 лістапада 2005 году***

*35 мільёнаў наведнікаў пабывалі ў Хатыні ад часу адкрыцьця там мэмарыяльнага комплексу. За савецкім часам ці ня ўсе афіцыйныя дэлегацыі абавязкова ехалі ў Хатынь, па дарозе робячы прыпынак ля Кургану Славы. Хатынь, Курган, менская плошча Перамогі ды яшчэ Берасьцейская крэпасьць і былі галоўнымі помнікамі незьлічоным ахвярам самай страшнай у гісторыі чалавецтва вайны. Новы час вымагае новых помнікаў, і сёньня турыстаў рыхтуецца актыўна пераймаць псэўдагістарычная «Лінія Сталіна», якая выглядае дзіўным збудаваньнем на фоне прыгаданых мэмарыялаў. Адзін з аўтараў Хатыні архітэктар Леанід Левін напісаў кнігу пра тое, як стварайся вядомы на ўвесь сьвет мэмарыяльны комплекс.*

**Міхась Скобла:** Спадар Леанід, вы раней праектавалі і стваралі праспэкты, манумэнты, станцыі мэтро. Што прымусіла вас узяцца за кнігу?

**Леанід Левін:** Прычынаў тут некалькі. За маёй сьпінай – дзясяткі пражытых гадоў, безьліч сустрэчаў зь цікавымі людзьмі, мне хацелася пра многае расказаць. Да таго ж у друку нярэдка зьяўляліся міты: хто і як прыдумаў Хатынь. Напрыклад, у кнізе мэмуараў паважанага мною Кірылы Мазурава напісана, што гэта ён запрасіў нас, архітэктараў, і даручыў нам працаваць над праектам мэмарыялу. А ўжо потым Машэраў быў прызначаны кіраўніком будаўніцтва Хатыні. А гэта ж зусім ня так. Кожны лічыць, што ён пачынальнік хатынскай тэмы. А пачынальнік, арганізатар і куратар Хатыні – Пятро Міронавіч Машэраў. Сумна пра гэта гавараць, але выходзяць наборы паштовак пра Хатынь, дзе



забываюцца згадаць яе аўтараў. У выдавецтве «Беларусь» некалькі разоў выходзілі падобныя паштоўкі, у выходных зьвестках згаданыя ўсе рэдактары, карэктары, а пра аўтараў мэмарыялу – ні слова. Скажыце, можна надрукаваць «Вайну і мір» без імя аўтара? Рытарычнае пытаньне. А ў прапагандзе манумэнтальнага мастацтва, аказваецца, такое магчыма.

**М. С.:** У кнізе вы апісалі сваё жыцьцё – ад гадоў студэнцкіх да 1990-х. Але ўсю кнігу назвалі «Хатынь». Чаму?

**Л. Л.:** Бо Хатынь – гэта лейтматыў маёй творчасьці, усяго майго жыцьця. Хатынь для яе аўтараў – Анатоля Градава, Валянціна Занковіча і мяне – як візытоўка. Адначасова яна для нас і цяжкі груз, на працягу ўсяго жыцьця было нялёгка трымаць тую мастацкую планку, якую мы ўзялі ў маладыя гады. Усім нам падчас працы над Хатыньню трохі за трыццаць было.

**М. С.:** Калі вы праектавалі і рабілі Хатынь, ці чулі вы пра Катынь на Смаленшчыне? Бо ж назва Хатынь сярод 186 спаленых вёсак была выбраная невыпадкова, каб за словам «Хатынь» схаваць слова «Катынь», дзе ў 1940 годзе саветы расстрэльвалі палонных польскіх афіцэраў.

**Л. Л.:** Нічога мы пра Катынь тады ня чулі. Упершыню я пра яе даведаўся ў 1974 годзе падчас паездкі ў ЗША – пасьля таго як прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксан пабываў у Хатыні. І тады я зразумеў, што калі пішуць па-ангельску Khatyn, то няма адрозьненьня паміж Катыньню і Хатыньню. Але трэба прызнаць, што Хатынь не прыдуманая савецкай прапагандай, хоць падобнае ў тыя часы магло адбыцца. Хатынь існавала, і яе спалілі разам з жыхарамі. Так што тут ніякіх фальсыфікацыяў няма.

**М. С.:** На старонках кнігі вы падкрэсьліваеце ролю Пятра Машэрава ў стварэньні мэмарыялу. Ён падтрымліваў вас, разумеў вашыя мастацкія

задумы. А як ставілася да Хатыні маскоўскае кіраўніцтва?

**Л. Л.:** У нас з Машэравым была дамова: пакуль не пабудуем мэмарыялу, пра Хатынь ня трэба пісаць і гаварыць у СМІ. У той час ніхто проста не разумеў, што робіцца. Усе найлепшыя творчыя сілы і сродкі былі кінутыя на Берасьцейскую крэпасьць, якая ўзводзілася адначасова. Што там нейкая Хатынь? Будуецца недзе ў лесе помнік ахвярам вайны. Сотні мэмарыялаў будуюцца... Я думаю, што Масква папросту нічога ня ведала. Пасьля адкрыцьця Хатыні нас вылучылі на атрыманьне Ленінскай прэміі (атрымаць якую, дарэчы, было вельмі-вельмі цяжка). І вось калі мы прывезьлі Хатынь у Маскву, на нас накінулася абураная міністар культуры СССР Фурцава: «Гэта ня наша, не савецкае, хто дазволіў?! Чаму мы нічога ня ведалі? Няўжо нельга было паставіць фігуру салдата, як у Трэптаў-парку? Дзе гімн Перамозе? Тут жа адзін пэсымізм! Зьнесьці бульдозэрамі!» Сытуацыю выратаваў Машэраў, ён зьвязаўся з сакратаром ЦК КПСС па ідэалёгіі Дземічавым, які прыехаў, паглядзеў і ўхваліў.

**М. С.:** Канец 1960-х гадоў, час будаўніцтва мэмарыялу, – эпоха ваяўнічага бязбожжа. Адкуль бралі званы на 26 комінаў, што стаяць на месцы спаленых хатаў? Ходзяць чуткі, што іх здымалі з зачыненых храмаў.

**Л. Л.:** Гэта чуткі, і ня больш. Гэта вам могуць пацьвердзіць тыя, хто адліваў званы. Ніхто не здымаў званоў з храмаў і не пераплаўляў іх для Хатыні.

**М. С.:** А вось што прыгадаў першы дырэктар мэмарыяльнага комплексу «Хатынь» Анатоль Белы.

**Анатоль Белы:** За аснову быў узяты звон, які цяпер вісіць на месцы хаты Камінскага. Няйначай, ён быў зьняты зь нейкай царквы. У яго ёсьць язык. А ў астатніх званоў, адлітых па ягоным узоры, языкоў няма, там такія малаточкі. На ўзор прывезенага звону былі адлітыя ўсе астатнія званы. Але ён адрозьніваецца ад астатніх сваёй мэлядычнасьцю, прыгажосьцю гуку. Адлітыя спэцыяльна для мэмарыялу званы – глухія, яны ня так зьвіняць.



**М. С.:** Гісторыю з хатынскімі званамі прыгадаў і скульптар Алесь Шатэрнік.

**Алесь Шатэрнік:** Прыканцы 1960-х гадоў у Менску на Радыятарным заводзе быў створаны невялікі цэх мастацкага ліцьця. Мы там адлівалі свае першыя творчыя працы. Аднойчы я зайшоў у цэх і моцна зьдзівіўся. На падлозе, як шалупіньне, ляжалі аскабалкі бронзы. Я прыгледзеўся і ўбачыў, што гэта разьбітыя званы. У рабочых, якія там працавалі, я спытаўся: што гэта? І яны мне расказалі, што з усёй Беларусі звозяць невялікія, прыкладна пудовыя, званы, разьбіваюць іх і адліваюць званы для Хатыні. Калі я ўзяў тыя аскабалкі ў рукі, то пабачыў на іх цудоўныя выявы, там і тэксты нейкія былі. Мяне проста жах апанаваў. Я кажу: «Хлопцы, што ж вы робіце?!» А яны адказваюць: «Гэта ня мы, у нас загад начальства». Там пару званоў цэлых было. І я іх выкупіў за гарэлку. І адзін з тых званоў роўна праз дваццаць гадоў прагучаў на плошчы Незалежнасьці падчас Чарнобыльскага шляху – гэтак званы Чарнобыльскі звон. Пасьля мы яго выкарыстоўвалі падчас шэсьцяў, мітынгаў, на Дзяды, на 25 Сакавіка. Адлітыя званы ў Хатыні не гучалі. І ведаеце, што яны зрабілі? Запісалі гукі званоў на магнітафон і пракручвалі кожны раз.

**М. С.:** Хатынскія званы гучаць пад фанаграму?

**А. Ш.:** Пад фанаграму. Прынамсі, у савецкі час так і было. Я думаю, тое самае і цяпер засталося.

**М. С.:** Ваш камэнтар да сказанага, спадар Леанід.

**Л. Л.:** Ды няпраўда гэта. Званы Хатыні ня зробленыя са званоў, якія здымаліся з храмаў. Не, не і яшчэ раз не!

**М. С.:** У гісторыі манумэнтальнага мастацтва нярэдкія выпадкі, калі нейкі твор капіюецца і

таксама выстаўляецца. Мабыць, самы вядомы такі манумэнт – Статуя Свабоды, якую прывезьлі ў Нью-Ёрк з Парыжу. А Хатынь растыражаваць нікому не прыходзіла ў галаву?

**Л. Л.:** Прыходзіла. У 1970-я гады мы працавалі над помнікам загінулым у гады Другой сусьветнай вайны ва Ўзбэкістане. І так здарылася, што падчас абмеркаваньня праекту я сустрэўся зь першым сакратаром ЦК Кампартыі Ўзбэкістану Рашыдавым. А ён у свой час прысутнічаў на адкрыцьці Хатыні. Дык вось, галоўны ўзбэцкі камуніст зарэзаў наш помнік героям-бухарцам і запрапанаваў копію Хатыні паставіць у Бухары. Яшчэ ён сказаў: «Мастак можа стварыць толькі адзін сапраўды таленавіты твор. Вы ўдзельнічалі ў стварэньні Хатыні... Вельмі таленавітая праца. Колькі яна каштуе?» Я назваў суму.

**М. С.:** А колькі каштавала Хатынь?

**Л. Л.:** Сумесна з дарогай, якую падвялі да Хатыні, комплекс абышоўся ў паўтара мільёна савецкіх рублёў. Гэта былі выдаткі, незраўнаныя са сродкамі, скарыстанымі на ўзьвядзеньне Берасьцейскай крэпасьці ці Мамаевага кургана. Там сумы былі проста астранамічныя. А Рашыдаў даваў 15 мільёнаў і казаў: «Нашы людзі шмат працуюць, зьбіраюць бавоўну, ім няма калі езьдзіць у Беларусь. А я бачыў Хатынь, і мне вельмі спадабалася. Давайце мы пабудуем яшчэ адну Хатынь у Бухары»... Але – і гэта вельмі важна – Хатынь нельга пабудаваць ні ў якім іншым месцы. Хатынь – беларуская. Яна нарадзілася на нашай зямлі, яна блізкая кожнаму беларускаму сэрцу. І беларуская зямля прыняла Хатынь.

**М. С.:** Вы – адзін са стваральнікаў архітэктурнага аблічча нашай сталіцы. Праспэкт Машэрава, Траецкае прадмесьце, станцыя мэтро «Няміга» – гэта вашая праца. А як вы ставіцеся да сёньняшніх сталічных новабудоўляў, тае ж Нацыянальнае бібліятэкі?

**Л. Л.:** Калі новазбудаваная бібліятэка будзе называцца Нацыянальнай, то яна павінна мець і нацыянальнае аблічча. Яна ня можа стаяць у Парыжы ці Брусэлі. Калі мы працавалі над гарадзкімі аб'ектамі, тады не было часопіснай архітэктуры, якою сёньня запоўнены інтэрнэт. Краіна наша называецца Беларусьсю, і архітэктура ў нас павінна быць беларуская. Гэта вельмі адказная і цяжкая праца. Шкло і бэтон – гэта не архітэктура. Калі б я будаваў бібліятэку, я б ня гнаў коней без аглядкі. Трэба глядзець на сваю Беларусь, на сваю спадчыну, слухаць дыханьне сваёй зямлі.

**М. С.:** Відаць, для нацыянальнага каларыту перад будынкам бібліятэкі якраз і паставілі помнік Францішку Скарыну.

**Л. Л.:** Я быў прыхільнікам таго, каб паставіць помнік Скарыну перад Акадэміяй навук. Гэта больш адпаведнае для яго месца. Скарына – гэта Беларусь. Калі я чую слова «Скарына», я адчуваю дух і літару Беларусі.

**М. С.:** Вы – знакаміты архітэктар. Ці з вамі раяцца ўлады, ці запрашаюць вас на нейкія горадабудаўнічыя нарады?

**Л. Л.:** Пры гарвыканкаме існуе архітэктурная рада, якая разглядае ўсе праекты. Нас не запрашаюць на абмеркаваньні. Я нават ня сябра гэтае рады.

**М. С.:** Што гэта за архітэктурная рада бязь Левіна?

**Л. Л.:** Не, гэта нармальна.

**М. С.:** Скажыце, чаму ў Беларусі, мірнай краіне, схільныя мілітарызаваць гарадзкі ляндшафт? Я ня бачыў танкаў на п'едэсталах ні ў Варшаве, ні ў Празе, ні ў Будапэшце. А ў нас, куды ні глянь, гэтыя прызначаныя для забойства машыны – на пастамэнтах. Навошта?

**Л. Л.:** Я з вамі згодзен толькі часткова. Вы ж памятаеце, як быў растыражаваны салдат. Іх стаялі тысячы. Тое самае адбылося і з танкамі.

Але ня кожны танк заслугоўвае пастамэнту. Я разумею, калі танк дасталі адкуль-небудзь з балота. Знайшлі ў ім парэшткі салдатаў, перазахавалі іх, а танк паставілі як помнік. Але ж у нас як пачнуць ставіць.... У Хатыні вы ня ўбачыце, каб хтосьці кагосьці штыхом пароў, душыў ці страляў. Калі прыходзяць школьнікі і бачаць у помніку агрэсію, бачаць, што людзі адзін аднаго забіваюць, яны думаюць, што так можна рабіць. У Хатыні, паўтаруся, вы не пабачыце ніякай агрэсіі. Мне здаецца, што на вайну можна глядзець і праз прызму любові.

**М. С.:** Вы кіруеце Саюзам беларускіх габрэйскіх арганізацый. Адкажыце шчыра: у сёньняшняй Беларусі мае месца антысэмітызм?

**Л. Л.:** Буду шчырым – мае месца. Нібыта дзяржаўнага антысэмітызму няма, але ёсьць тыя, хто яго правакуе. Сустракаюцца антысэміцкія заклікі на старонках друку, у тым ліку дзяржаўнага. Вы пачытайце, што піша Эдуард Скобелеў. Такім людзям трэба даваць па руках. А прыгадайце кнігу «Война по законам подлости»? А ўспомніце, як помнікі на габрэйскіх могілках разбурылі? Мы кожны раз зьвяртаемся ў адпаведныя праваахоўныя органы, але яшчэ ні разу не знайшлі вінаватых. Усё супакойваюць: гэта звычайнае хуліганства. Але мы не павінны глядзець на падобнае скрозь пальцы. На расквітнелым беларускім полі ня месца пустазельлю. Яно не павінна размнажацца, яго трэба вырываць з коранем.



*Зінаіда Бандарэнка –*
дыктарка тэлебачаньня. Выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працавала на Беларускім тэлебачаньні, кіравала дыктарскай групай. Народная артыстка Беларусі. Нарадзілася ў 1939 годзе ў Менску, дзе і жыве.

## *Зінаіда Бандарэнка:* «На БТ нас любілі за беларускую мову»

***25 сьнежня 2005 году***

*Жыцьцё сучаснага чалавека немагчыма ўявіць без тэлебачаньня. Мадэрныя тэлевізары на паўсьцяны замяняюць нам кінатэтры. Мінітэлевізары ўсталёўваюць цяпер нават у аўто і салёнах пасажырскіх самалётаў. Тэлебачаньне дазваляе нам зазірнуць на дно акіяна і разгледзець кратэры вульканаў на Марсе, не выходзячы з дому, падарожнічаць па сьвеце і Беларусі. Гісторыя Беларускага тэлебачаньня пачалася 1 студзеня 1956 году, калі выйшла ў этэр першая айчынная тэлеперадача. Глядзелі яе лічаныя шчасьліўцы па маленькіх тэлепрымачах, экраны якіх часам даводзілася саматужна павялічваць з дапамогай напоўненай вадою лінзы. Героямі жыцьця тады былі дыктары тэлебачаньня, якія штодня ўваходзілі ў беларускія дамы пераважна з добрымі навінамі. 38 гадоў жыцьця народнай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнкі зьвязаныя з тэлеэкранам.*

**Міхась Скобла:** Спадарыня Зінаіда, калі вы ўпершыню ўбачылі тэлевізар? Ці памятаеце свае ўражаньні?

**Зінаіда Бандарэнка:** Вельмі добра памятаю, я тады вучылася на другім курсе Гомельскай мэдыцынскай вучэльні. Ішла па другім паверсе, зайшла ў гэтак званы чырвоны пакой – так называлася памяшканьне, дзе зьбіраліся студэнты. Заходжу – і бачу маленечкі такі тэлевізарчык, які стаіць на адмысловай паліцы, прымацаванай на сьцяне. I ўсе студэнты ўважліва сочаць, што адбываецца на экране. I я на ўсё жыцьцё запомніла прыгожую жанчыну, якая з экрану нешта гаварыла па-беларуску. Мяне гэта проста зачаравала!



**М. С.:** А ці думалася вам пра тое, што пройдзе час, і вы самі будзеце нешта гаварыць з тэлеэкрану? Ці вы марылі пра іншую прафэсію?

**З. Б.:** Я марыла пра іншую прафэсію. Калі я вучылася ў мэдвучэльні, я адначасова наведвала драматычную студыю, якая знаходзілася ў гомельскім Палацы чыгуначнікаў. Выконвала ролі на сцэне і, вядома ж, марыла стаць актрысай. Мяне мой настаўнік, які выкладаў беларускую мову, вазіў у Кіеў – паступаць у Тэатральны інстытут. Але мы не ўлічылі адной акалічнасьці: здаваць іспыты і вучыцца там трэба было на ўкраінскай мове. Да іспытаў заставалася мала часу, вывучыць мову было немагчыма. Так мы і вярнуліся дахаты ні з чым.

**М. С.:** Вы пачыналі працаваць на Гомельскай тэлестудыі. Што яна на той час уяўляла зь сябе?

**З. Б.:** Студыя знаходзілася на гарышчы таго самага Палацу чыгуначнікаў, на пятым паверсе. Займала тры пакоі, мэтраў трыццаць квадратных, ня больш. У студыі працавалі дзьве камэры, якія былі прымацаваныя да падлогі, ня рухаліся. I нам даводзілася выходзіць і заходзіць у кадр. Дарэчы, ніхто ня ведае, але першыя пробныя тэлеперадачы пачаліся менавіта з Гомелю, а ня зь Менску. Прынамсі, так мне гаварылі гамяльчане, калі я прайшла конкурс і паступіла на працу. А ў сталіцы тэлебачаньне зьявілася крышачку пазьней, гэты дзень зафіксаваны ў гісторыі. 1 студзеня 1956 году знакамітая Тамара Бастун выйшла і сказала: «Добры вечар, дарагія таварышы, пачынаем нашу першую перадачу». I вось ужо з тае пары мінула роўна пяцьдзясят гадоў.

**М. С.:** Многія гледачы бачылі вас на экране ў вышытых беларускім арнамэнтам строях. Гэта было ваша ўласнае рашэньне, як апранацца перад камэрай?

**З. Б.:** Спачатку гэта была ідэя рэжысэра, які працаваў са мною. На вялікія сьвяты нам раілі надзяваць нешта беларускае. I таму я адразу, як

толькі паступіла працаваць на Гомельскую студыю тэлебачаньня, пабегла ў атэльe, дамовілася з вышывальніцамі, і мне вышылі сукенку беларускім арнамэнтам. Гэта ручная праца, і сукенка атрымалася вельмі прыгожай. А потым гэта ўжо сталася традыцыяй: на кожнае сьвята я старалася здымацца ў беларускім нацыянальным строі. Я вельмі ўдзячная Беларускаму дому моды, дзе працавалі цудоўныя вышывальніцы беларускага арнамэнту, і яны мне пераважна рыхтавалі касьцюмы. Шылі мы і ў атэльe Савету Міністраў. Там працавалі не асабліва майстравітыя швачкі і мадэльеры, але ў іх быў вельмі цудоўны набор тканінаў. Можна было прыйсьці і выбраць на складзе, дзе ляжалі цэлыя скруткі вельмі прыгожых матэрыялаў, якія атрымлівалі з Францыі, Аўстрыі, Вялікай Брытаніі.

**М. С.:** Аднойчы па тэлевізары я бачыў, як на нейкім канцэрце да вас прыхінуўся Аляксандар Лукашэнка. Памятаеце такі эпізод?

**З. Б.:** Гэта было на першых «Дажынках» у Століне. Ішоў канцэрт, які быў разьлічаны на чатыры гадзіны. І ўсе думалі, што Лукашэнка будзе да канца. Аднак высьветлілася, што праз дзьве гадзіны ён павінен устаць, прайсьці на верталётную пляцоўку і адляцець у Менск. Я вяла той канцэрт. А ўсе баяцца падысьці да Лукашэнкі і спытацца, ці будзе ён разьвітвацца з народам, ці паціху адыдзе. Нехта нават сказаў: ня будзем спыняць канцэрту, можа, ён устане і ціхенька выйдзе. Ну, гэта было на пачатку прэзыдэнцтва Лукашэнкі, думалася, што ён будзе больш сьціплы... Да яго ніхто не падыходзіць, а першае аддзяленьне канцэрту ўжо заканчваецца. І нам ахоўнікі кажуць: мы неўзабаве проста спынім канцэрт. А людзей жа – мноства, канцэрт адбываўся на беразе ракі, надвор'е было добрае. І тады я, пакуль Толя Ярмоленка заканчваў сваю песьню, падышла да краю сцэны, прысела і спытала: «Аляксандар Рыгоравіч, вы пацішу сыдзеце ці на сцэну падымецеся?» «Не, я абавязкова падымуся на сцэну!» Ён падняўся, наблізіўся і сказаў: «Вось тут Зіна хацела, каб я цішком сышоў, але я хачу з вамі разьвітацца. І хачу пажадаць усім вам, каб вы былі заўсёды такія прыгожыя, як гэтая дзяўчына!» Сказаў і пайшоў да свайго верталёту. А канцэрт працягваўся.



**М. С.:** Сёлета мы страцілі паэта Анатоля Сыса. Памятаю, зь якім гонарам ён заяўляў: «Я працую тэхнікам на тэлевізіі!» Цягам усяго жыцьця ён меў сантымэнт да тэлебачаньня. І вас заўсёды добрым словам згадваў.

**З. Б.:** І я пра яго хачу ўспомніць. У свой час мы на тэлебачаньні абвяшчалі конкурсы дыктараў і езьдзілі на прагляды ў абласныя цэнтры. І ніяк мы не маглі знайсьці дыктараў славянскага тыпу. І вось аднойчы ў Гомелі да нас прыходзіць хлопец: высокі, з блакітнымі вачыма, прыгожы, з усьмешкай вельмі добрай, такі адкрыты, шчыры. Я была проста зачараваная! А ён адразу пачынае чытаць вершы. Чытаў цудоўна, а размаўляць пры мікрафоне не атрымлівалася ў яго. І ўсё ж мы яго ўключылі ў сьпіс. Думаю, пройдзе ня пройдзе, але ў сьпіс апошняга туру ўключылі. Сыс прыйшоў на прагляд у Менску, і журы адразу яго закасавала: дыктар зь яго наўрад ці мог атрымацца... А Белтэлерадыёкампанію тады ўзначальваў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. І ён мне параіў: «Зіна, схадзіце да першага сакратара Саюзу пісьменьнікаў Ніла Сымонавіча Гілевіча, ён нешта для хлопца прыдумае». І я схадзіла. І мы вырашылі хоць нейкім чынам зачапіць Сыса за Менск. Генадзь Мікалаевіч узяў яго на працу тэхнікам, далі яму інтэрнат, і ён пачаў працаваць. Я памятаю, атрымала ад Анатоля напісаны з гумарам ліст: «Зінаіда Аляксандраўна, я прыехаў да маці ў Гарошкаў. Ляжу на печы і ўспамінаю вас...».

**М. С.:** Давайце, аднак, вернемся да тэлебачаньня. Якім каналам вы аддаяце перавагу? У вас ёсьць спадарожнікавая антэна?

**З. Б.:** Ёсьць. У нас вельмі шмат каналаў, выбар вельмі багаты. І таму мне вельмі крыўдна, калі глядзіш ОНТ абрэзанае і глядзіш ОРТ. Што да інфармацыйных выпускаў, то я іх, шчыра кажучы, гляджу вельмі рэдка. Проста ня хочацца чуць тую няпраўду, якая гаворыцца з экрану штодня.

**М. С.:** «Я не гляджу Беларускае тэлебачаньне» – словы гэтыя мне даводзілася чуць неаднойчы. А што павінна зьмяніцца, каб глядзелі?

**З. Б.:** Калі б Беларускае тэлебачаньне перайшло на нашу родную беларускую мову, да яго павярнулася б больш людзей. Я ў гэтым проста перакананая! Нас любілі менавіта за беларускую мову. Я памятаю, як я абараняла беларускую мову на Цэнтральным тэлебачаньні ў Маскве. Мы туды прыяжджалі, з намі прыяжджалі нейкія калектывы ці выканаўцы – «Сябры», «Песьняры», аднойчы я з народнай артысткай Сьвятланай Данілюк езьдзіла. Як тады рабіліся тэлеканцэрты? Мы рыхтавалі мастацкую падводку, а пасьля нас ішоў канцэртны нумар. І вось эстонская дыктарка Тэльмак павінна была прамаўляць такія словы: «Эстония, советская страна». А яна на рэпэтыцыі ўсклікнула: «Эстония! Моя страна!» О, які вэрхал пачаўся! «Вы что говорите?! Не ваша, а советская страна!» А эстонка ў адказ: «О да, я веччером скожу, как нужно». І вечарам на ўвесь Савецкі Саюз яна ізноў паўтарыла: «Эстония! Моя страна!» А мне далі чытаць верш Петруся Броўкі ў перакладзе Якава Хялемскага, дзе былі такія радкі: «Шуршащие ленты шуршащих дорог...». Я думаю: Божачка мой, ну чаму ўсё «шуршащее»? Нешта ня вяжацца. І я прачытала верш Анэлі Тулупавай, які яна напісала спэцыяльна для мяне: «Сінявокая азярніца, дай да рук тваіх прытуліцца, да тваіх ласкавых далоняў, ці ж маглі яны быць у палоне...». А пасьля верша пайшла песьня. Усё было добра, праўда, потым я даведалася, што з-за мяне пакаралі рэдактара. Бо ўсе дыктары чыталі па-расейску, адна я па-беларуску.



**М. С.:** Пры найноўшых тэхналёгіях у Беларусі да гэтай пары няма 100-адсоткавага ахопу насельніцтва айчынным тэлевяшчаньнем. Паводле афіцыйнай статыстыкі, 2% жыхароў краіны ня маюць сыгналу БТ. Вы ім спачуваеце ці зайздросьціце?

**З. Б.:** О, я ім зайздрошчу! У такім выпадку, вядома ж, яны атрымліваюць больш праўдзівую інфармацыю.

**М. С.:** Кіраўніком краіны перад новым кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі пастаўлена задача «ўзьняць беларускае тэлебачаньне да сусьветнага ўзроўню». У вашым разуменьні што гэта такое?

**З. Б.:** Сусьветны ўзровень – гэта свабода думкі. Калі няма свабоды думкі ўдзельнікаў перадачаў, ня будзе і глядацкага прызнаньня. Да ўдзелу ў перадачах павінны запрашацца людзі з рознымі поглядамі – тады будзе цікава. Я думаю, што самы чорны час на тэлебачаньні яшчэ наперадзе. Мне прыпамінаецца, як аднойчы Аляксандар Зімоўскі наракаў, што на БТ мала аналітычных праграмаў. І сапраўды, аналітыкі на тэлебачаньні няма, і гэта ўсе адчуваюць. І людзям робіцца нецікава, губляецца глядацкая аўдыторыя. Гледачы ж маюць магчымасьць параўнаць БТ з расейскімі тэлеканаламі. Колькі там аналітыкі! Людзі сустракаюцца, выказваюць розныя пункты гледжаньня, спрачаюцца, дыскутуюць. У нас гэтага няма. Таму сьцяг Зімоўскаму ў рукі! Але мне думаецца, нічога зьмяніць да лепшага яму ў дадзеных умовах ня ўдасца.

**М. С.:** Вы сталі народнай артысткай у 1985 годзе, яшчэ ў Савецкім Саюзе. Многія знаныя дзеячы культуры не-не дый уздыхнуць па тым часе. Скажам, Іван Шамякін ледзь ня ў кожным творы бедаваў па распадзе «вялікай краіны». А вы не настальгуеце па савецкім часе?

**З. Б.:** Я настальгую па тым часе, але не

настальгую па Савецкім Саюзе, па той дыктатуры, якая была. Таму што мы жылі ў няпраўдзе. І зноў апынуліся ў няпраўдзе. Як тут можна перажываць настальгію? Мы проста чакаем, што да нас урэшце прыйдзе свабода.

**М. С.:** За што хваляць людзі Беларускае тэлебачаньне, дык гэта за трансьляцыю калядных набажэнстваў, асабліва калі з касьцёлаў – па-беларуску. Тады яго глядзяць усе: і каталікі, і праваслаўныя. Зь юбілеем тэлебачаньня вас, спадарыня Зінаіда!

**З. Б.:** Дзякуй. Тут я хачу падтрымаць вас. Сапраўды, Беларускае тэлебачаньне робіць добрую справу, трансьлюючы калядныя службы з касьцёлаў. Гэта сапраўды настолькі сьвяточна, хораша, калі чуеш беларускую мову, калі так добра камэнтуецца ўсё. Я заўсёды ўключаю тэлевізар, гляджу і слухаю. Гэта і ёсьць яднаньнем нацыі.



*Алесь Разанаў –*

паэт, эсэіст, перакладчык. Выпускнік Берасьцейскага пэдінстытуту імя А. Пушкіна. Працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Ф. Скарыны, у часопісе «Крыніца», быў віцэ-прэзыдэнтам Беларускага ПЭН-Цэнтру. Аўтар кніг «Каардынаты быцьця», «Вастрыё стралы», «Танец з вужакамі» ды інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Менску.

## *Алесь Разанаў:* «Наш час – час своеасаблівай бітвы»

***8 студзеня 2006 году***

*Паэт Алесь Разанаў пяць апошніх гадоў па запрашэньні нямецкіх пісьменьніцкіх арганізацый жыве ў Нямеччыне, на радзіме бывае наездамі. Тамсама, у Нямеччыне, выйшлі некалькі ягоных кніг, беларускі паэт быў нават уганараваны тамтэйшай прэстыжнай прэміяй Ёгана Гердэра. Нейтаймоўны экспэрымэнтатар, вынаходнік новых жанраў і формаў, Разанаў і на чужыне экспэрымэнтуе, спрабуе пісаць па-нямецку. Яго нядаўні прыезд на радзіму быў кароткачасовы, але плённы. У Менску пабачылі сьвет адразу дзьве новыя кнігі паэта – вэрсэты і ўзнаўленьні-пераказы тэкстаў старажытнай беларускай літаратуры. Прэзэнтаваўшы іх у сталічнай кавярні «Добрыя мысьлі», сустрэўшыся там зь сябрамі і прыхільнікамі, Алесь Разанаў ад'ехаў за мяжу ізноў – гэтым разам у Швайцарыю.*

**Міхась Скобла:** Спадар Алесь, ваша дарога ляжыць з чужыны на чужыну – праз Айчыну. Ці істотна, як далёка ад радзімы стаіць рабочы стол пісьменьніка?

**Алесь Разанаў:** Калі творчасьць падступаецца, то вельмі істотна, каб той асяродак, у якім гэта адбываецца, быў сваім. Проста ў чужым асяродку такога не адбудзецца. Муза ня будзе ведаць, куды прыйсьці. А сталом можа быць і поле, і сьцежка – дзе калі што адгукнецца і занатуецца. Прынамсі, свае «Гановэрскія пункціры» я пісаў не за сталом, а ў дарозе – на сьцежках, на вуліцах, пераходзячы масты, бываючы ў розных сытуацыях. А за сталом толькі перапісваў тое, што на сьцежках склалася.

**М. С.:** Жывучы ў Нямеччыне, вы пачалі пісаць



таксама і па-нямецку. Як апошнім часам некаторыя пісьменьнікі ў Беларусі – па-расейску. Ці не азначае гэта, што зь цягам часу вы ўсё больш будзеце прысутны ў нямецкай літаратуры і ўсё менш – у беларускай?

**А. Р.:** Што да прысутнасьці там і адсутнасьці тут, то гэта не зусім так. Адбываецца пастаяннае спражэньне таго кантэксту, той рэчаіснасьці, дзе цяпер знаходзісься, і той, зь якой спалучаны нечым непарыўным. Ад беларускага слова я, нават пішучы альбо малюючы свае нямецкія «Wortdichte», ніколі не адступаўся. Наадварот, беларускае слова было мне заўсёды асноваю і дапамогаю. Тут дзейнічае такі парадокс: калі ў мову пераможцы ідуць словы з мовы пераможанага, то гэтая мова пераможцы ўзбагачаецца. Калі ж наадварот, дык аказваецца, што мова пераможанага бяднее. Я хацеў і, здаецца, гэта зрабіў, што беларуская мова – у стане пераможцы. І тое, што рабіў, пісаў, маляваў нямецкімі словамі – «Wortdichte», – гэта дадатак да таго, што стваралася па-беларуску. Так што беларуская мая творчасьць, і ня толькі мая, яна пабагацее яшчэ і на нямецкі ўнёсак. Не пабяднее, а пабагацее.

**М. С.:** Газэта «Наша ніва» нядаўна апублікавала свой кніжны рэйтынг. І вось дзіва: зь дзесяці найлепшых кніг году восем – гэта ўспаміны, эпісталярый, энцыкляпэдыі. Увага чытача скіраваная ў рэтраспэктыву. Вось і вы ўзяліся ўзнаўляць старыя тэксты. Але ці можна ісьці наперад, павярнуўшы галаву назад?

**А. Р.:** Я думаю, што гэта вельмі цікавы і плённы працэс. Бо тое, што стварылася раней, яно не прачыталася, а калі прачыталася, то не да канца. Калі я ўзнаўляў тэксты, напісаныя амаль тысячагодзьдзе таму, ад Кірылы Тураўскага да Льва Сапегі, то зразумеў: там – скарбы. Там захаваныя скарбы. Толькі трэба тыя скарбы адкрыць, прыняць, увесьці іх у наш кантэкст, у нашу рэчаіснасьць. Я думаю, што

гэта ня ёсьць вандроўкай з аглядкай назад, гэта ўсё ж такі хада да саміх сябе. Каб сьцьвердзіцца самім і сьцьвердзіць сваё, трэба валодаць і ўзбагачацца тым, што стварылася раней.

**М. С.:** Што абумовіла ваш зварот да тэкстаў, якім 400, 500, 800, а то і больш гадоў?

**А. Р.:** Праца над імі распачалася недзе ў канцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Першым быў Францішак Скарына, яго прадмовы і пасьляслоўі. Я чытаў і перачытваў, і нешта мяне не адпускала ад яго тэкстаў. І я думаў: у чым справа? Там нешта захоўвалася нявыказанае, невымоўнае, ня ўкладзенае да канца ў словы. Знайшоў ключ – павярнуў яго, і прадмовы і пасьляслоўі Скарыны загаварылі як паэтычныя тэксты. Я іх ня выдумаў і вершы не наклаў на Скарынавы тэксты. Я проста здабыў іх адтуль, дзе яны знаходзіліся. Здабыў як самы сутны і існы голас... Мы ведалі, што Скарына напісаў некалькі прадмоваў і пасьляслоўяў, што ў яго ёсьць літаральна некалькі вершаў. А тут пайшлі касякі гэтых вершаў. Скарына на самай справе вымалёўваўся ў як бы новай постаці. Гэтым жа ключом я стаў адмыкаць і іншыя творы нашай старажытнай літаратуры: Кірылы Тураўскага, Мялеція Сматрыцкага, Іпація Пацея, Язэпа Руцкага, Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага і нават Льва Сапегі.

**М. С.:** У чым актуальнасьць тэкстаў пералічаных вамі творцаў? З XV стагодзьдзя ў XXI шлях усё ж няблізкі.

**А. Р.:** Каб гэтыя творы загучалі надзённа і актуальна, трэба было іх ня проста перакласьці, а даць ім новы кантэкст, гэта значыць нашу сучаснасьць. Узноўленыя тэксты доўга ляжалі ў шуфлядзе. Я проста чакаў – што будзе? Дарэчы, я яшчэ ня ўсіх пераклаў, каго варта. Яшчэ вярнуся, і гэтая кніга будзе пашырацца і дапаўняцца. Калі тэксты сабраліся ў адну кнігу, яны набылі нейкую дадатковую вартасьць



і якасьць. І я іх назваў пакуль што ўмоўна – беларускі кніжны эпас. Гэтыя творы ляжалі ў шуфлядзе і – дзіва – не старэлі, а набывалі ўсё большую актуальнасьць зь цягам нашага новага хуткаплыннага часу. Гаварылі творцы, гаварылі палітыкі, гаварылі культуролягі, усе гаварылі, а гэтыя творы маўчалі. Яны чакалі сваёй часіны. Як запасная дружына. А ведаеце, які цяпер час? Гэта час своеасаблівай бітвы, і тая запасная дружына мусіць сёньня ўваходзіць у дзеяньне і таксама ўдзельнічаць у гэтай бітве. Кніга гучыць актуальна, таму што згаданыя творцы кранулі вузлавыя пытаньні свайго часу, зьвярталіся да самага сутнаснага ў рэчаіснасьці і ў чалавеку. Зьмяніліся абалонкі, але самае сутнаснае засталося. Старажытныя тэксты гавораць нешта тое, чаго нават мы ня здольныя сказаць.

**М. С.:** Адзін перакладчык любым коштам зьберагае дух і літару першатэксту, другі – перакладае вольна. А вы пры ўзнаўленьні якімі прынцыпамі кіраваліся?

**А. Р.:** Я хацеў, каб гэта былі не насьледаваньні, напісаныя па матывах. Хацелася, каб тыя тэксты ва ўсёй сваёй паўнаце і дакладнасьці прыйшлі ў наш час. Але каб гучалі так, як гучалі тады, – як звон, як слова, да якога ўсе прыслухоўваюцца. Дарэчы, у працэсе працы ўзьнік як бы новы жанр, жанр у жанры (як гэта ёсьць, скажам, у паэзіі: эпас, лірыка). У перакладзе мы не знаходзім жанраў, але аказваецца, што яны ёсьць. Я знайшоў свой жанр у перакладзе і назваў яго ўзнаўленьнем. Дык вось, маім правілам было быць максымальна дакладным. І, здабыўшы гэтую максымальную дакладнасьць, даць словам, даць тэкстам максымальную свабоду.

**М. С.:** Калі чытаеш вас, часам бачыш, як вам дзесьці не хапае словаў, і яны тут жа прыдумваюцца. Некалі чэхі захацелі пазбавіцца ад замежнай лексыкі, і замест «тэатру» ўзьнікла «дзівадла», а замест

«журналіста» – «навінар». Ці не пара і нам правесьці падобную рэвізію?

**А. Р.:** Можна, толькі рабіць гэта трэба асьцярожна. Хай гэта робяць творцы: паэты, празаікі, перакладчыкі. Часам сапраўды ўзьнікае сытуацыя, калі слова ня хоча класьціся ў радок, і трэба вынаходзіць новае. Але цяпер ня самы спрыяльны час займацца словатворчасьцю. На гэтым варта будзе акцэнтаваць увагу тады, калі наш дом будзе стаяць трывала. Самае славутае слова, якое я вынайшаў, – заўзятар, яно ўвайшло ў мову, прышчапілася. Ну, ёсьць і іншыя, менш знакамітыя, скажам так, тварасловы. І ёсьць такія тварасловы, якія зьяўляюцца своеасаблівымі творамі, а ня словамі для ўжытку шырокага. Але, паўтаруся, з гэтым ня будзем сьпяшацца, хай гэта натуральна адбываецца.

**М. С.:** У сваіх узнаўленьнях вы пакідаеце тэрміны накшталт «наша руская мова», што натуральна ўспрымаецца ў Скарыны, але сёньняшняга школьніка можа ўвесьці ў зман. Ці не размываюць хвалі гэтых словаў нетрывалую сёньня выспу Беларусі?

**А. Р.:** Мінулыя стагодзьдзі шмат што ад нас адабралі. Адабралі і гэтыя найменьні: «Русь», «мова руская», «літоўскі» (статут) ці «літоўскае гаспадарства» (Вялікае Княства Літоўскае). Але будзем памятаць, што мы гэта мелі, і проста так ад гэтага немагчыма адмовіцца. А тыя, хто чытаюць гэтыя словы, хай разумнеюць. Ня ўсё так, Міхась, безнадзейна, ня ўсё стаіць на месцы. Будзем зважаць ня толькі на мінулае, дзе гучаць словы «руская мова», «літоўскае гаспадарства» і ўсё гэта разумеецца як наша. Будзем арыентавацца і ў наступнасьць. Магчыма, мы там нанава сустрэнем гэтыя словы – яны нас там будуць чакаць.

**М. С.:** Калі выдаецца факсыміле «Бібліі» Скарыны, пытаньняў да выразу «Біблія руска» няма. Але што да твораў папулярных... У школьных падручніках жа не тлумачыцца, што руская мова – гэта беларуская, а Расея – гэта Масковія.



**А. Р.:** Ну, тады трэба да тых узнаўленьняў, да прадмоваў і пасьляслоўяў Скарыны пісаць новыя прадмовы і пасьляслоўі. Тое, што ня робіцца ў нашых школах, на жаль, давайце рабіць супольнымі намаганьнямі з усіх бакоў.

**М. С.:** Існуе думка, што цэнзура паскарае мэтафарызацыю тэксту, што павялічвае яго мастацкую значнасьць. Ці гэта пісьменьнікі прыдумалі для самазаспакаеньня?

**А. Р.:** Маем досьвед: пры савецкай цэнзуры, паглядзіце, стварылася цэлая паэтыка. Асабліва гэтым ганарыліся і былі багатыя прыбалты. Яны стварылі сваё пісьмо, дзе можна было чытаць паміж радкамі. Зрэшты, ня толькі прыбалты, гэта скрозь было распаўсюджана. Потым, калі цэнзура адхілілася і стала можна прамаўляць сваё, ім кажуць: «Ну, гаварыце, што вы там хавалі». А яны: «Мы ўсё ўжо сказалі, усё ўжо ёсьць». Безумоўна, падобныя забароны выпрацоўваюць свой стыль, сваю паэтыку, і творца шукае шляхоў для самарэалізацыі. Але, урэшце, ня ў гэтым асноўны сэнс. Ну, дапусьцім, ёсьць у нас нейкі вельмі папулярны чалавек, нейкі лідэр. І ўсе пагляды зьвяртаюцца да яго. Адны кажуць: гэта ня той чалавек, які нам патрэбны. А другія: гэта якраз той чалавек. І хваляць яго, і ганьбуюць яго з усіх бакоў. Ну, і што? Набытак ёсьць у гэтым? Ну, так, нібы першы раз ёсьць. А калі гэта паўтараецца і паўтараецца бясконца, нібыта гэты чалавек – цэнтар сьвету? Ад гэтага літаратура яўна прайграе, яна ў страце, яна зацыкленая на нечым, яна ня можа нечага пераадолець. Таму хай яна будзе вольнай і самастойнай, а пісьменьнікі – вольнымі і самастойнымі ў сваёй творчасьці.

**М. С.:** У Беларусі чарговым разам зробленая спроба зрабіць літаратуру падкладкай дзяржаўнай мантыі: створаны прыўладны Саюз пісьменьнікаў,

улада забрала ў літаратараў іх выданьні. І вось ужо амаль тры гады такія знакавыя творцы, як Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законьнікаў, Уладзімер Някляеў, Віктар Казько, байкатуюць выданьні, што ўваходзяць у дзяржаўную рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і мастацтва». Але ж усю літаратуру ў адзін «Дзеяслоў» не ўвапхнеш. Як тут знайсьці прымірэньне?

**А. Р.:** А калі ў «Полымі» ці «Маладосьці» друкуюцца другія знаныя літаратары? Неяк гартануў «Полымя», убачыў там імёны пісьменьнікаў, зь якімі сябраваў і сябрую: Уладзімера Дамашэвіча, Кастуся Цьвіркі і іншых. Ну, няўжо тут ужо такі распадзел: калі з аднымі сябруеш, то з другімі – не? Гэта ўсё ж умоўна. І гэта ўжо не байкот нечага, а атрымліваецца байкот літаратуры альбо самабайкот. Я трымаюся іншага меркаваньня: друкуйцеся, дзе можаце. Пры ўмове, вядома, што вашы творы надрукуюць без цэнзуры. Друкуйцеся хоць у газэце «Советская Белоруссия», калі яна здолее надрукаваць тое, што вы напісалі... Таму што атрымліваецца нейкая самаізаляцыя. Сыходзімся ўсе на высьпе, як бы на чыстай прасторы, і ўсё роўна ня маем да канца паміж сабою згоды. Паўтаруся: калі ёсьць магчымасьць, друкуйцеся! Памятаеце словы Францішка Багушэвіча? «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!» То сёньня актуальнае: не пакідайце Беларусі! Не аддадзім Беларусі! Усюды, дзе магчыма, – у выданьнях, у аўтобусах-тралейбусах, на рынку, у размовах са знакамітымі ці простымі людзьмі – будзем самі сабою, будзем казаць сваё слова. Гэта больш істотна, чым абвясьціць: тут я друкуюся, а там не. Галоўнае – не выданьне, дзе ты друкуесься, а што друкуеш, галоўнае нават не Саюз пісьменьнікаў пад той ці іншай абрэвіятурай, а сама літаратура.

**М. С.:** Час ад часу прыяжджаючы на радзіму, вы ня можаце не заўважаць, што сфэра ўжываньня той мовы, на якой вы пішаце, звужаецца. Гэтая акалічнасьць прыглушае творчыя імпульсы?



**А. Р.:** Не прыглушае. Беларуская мова становіцца адзнакай элітарнасьці. Хочаце быць знакамітымі – гаварыце па-беларуску. Хочаце быць праведнікамі – гаварыце па-беларуску. На таго, хто гаворыць па-беларуску, глядзяць людзі і глядзіць Бог. Той лекар, што са сваімі пацыентамі гаворыць па-беларуску і па-беларуску выпісвае рэцэпты, ён ужо – зьява. І на рынку ў менскім мікрараёне «Малінаўка» я чуў пра беларускамоўнага лекара захопленыя водгукі.

**М. С.:** На пачатку 1980-х гадоў вашыя экспэрымэнты ў паэзіі падтрымваў тагачасны дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міхал Дубянецкі. Нягледзячы на тое што раней працаваў у ЦК КПБ, ён ня быў чалавекам старой закваскі?

**А. Р.:** Не, Дубянецкі быў якраз маладой закваскі, у ім памкненьні, скіраваныя ў будучыню, былі відавочныя. Ён спрыяў сапраўднаму ў літаратуры. Праблема з выданьнем у «Мастацкай літаратуры» маёй кнігі «Шлях-360» узьнікла не пры Дубянецкім-дырэктары і не пры ім яна вырашылася. А з Дубянецкім разам мы ў выдавецтве змагаліся за тое, каб цэнзура ня мела ўлады ні над беларускім словам, ні над беларускімі пісьменьнікамі.

**М. С.:** У Галоўліце сядзелі пільнавокія таварышы, і абхітрыць іх было практычна немагчыма.

**А. Р.:** Ну так, але часам удавалася. Скажам, калі я працаваў у аддзеле крытыкі і літаратуразнаўства, якім кіравала цудоўны чалавек Вера Сымонаўна Палтаран, мы падрыхтавалі да выданьня зборнік артыкулаў Максіма Гарэцкага. І цэнзар запатрабаваў, каб многія мясьціны ў тэксьце былі зьнятыя. Ну, даводзілася з гэтымі патрабаваньнямі згаджацца, але на сваіх умовах. І на месцы ўсіх купюраваных тэкстаў засталіся знакі цэнзуры – шматкроп'е ў дужках. І магчыма, самыя істотныя месцы ў той кнізе – гэта шматкроп'е ў дужках: красамоўная чытанка

для дасьведчанага чытача. Ці другі прыклад прыпамінаецца. 1982 год – стагодзьдзе Янкі Купалы. У выдавецтве мне было прапанавана ўкласьці кнігу выбраных твораў Купалы. Уклаў. Рэдактар прагледзеў хуценька: ну, спадчына, вядомыя творы... А я ў кнігу ўвёў забароненую цэнзурай на той час паэму «На Куцьцю». І выйшла кніга Купалы «Выйдзі з сэрцам, як з паходняй», якою я ганаруся.

**М. С.:** На ваш зборнік «Шлях-360» закрытую выдавецкую рэцэнзію пісаў прафэсар Алег Лойка. Рэцэнзія – адмоўная (яе нядаўна апублікаваў сам рэцэнзэнт). Ён даводзіў, што вы, пішучы пра «жывыя і мёртвыя мошчы», зьневажалі Леніна і Брэжнева. Нягледзячы на абвінавачваньні, сур'ёзныя па тым часе, кніга ўсё ж выйшла. Як такое магло стацца?

**А. Р.:** Кніга выйшла, але зь вялікай затрымкай. Гэта былі гады маёй нематы. Ня ведаю, каму мая немата пайшла на карысьць. Дзякуй Алегу Антонавічу Лойку за такое прызнаньне. А тады ягонай рэцэнзіяй выдаўцы падмацавалі сваё рашэньне кнігу не выдаваць. Чаму яна ўсё ж потым выйшла? Відаць, мая маўклівая прысутнасьць у літаратуры стала ўжо крычаць. Памятаю, з рукапісам «Шляху...» знаёміўся загадчык аддзелу культуры ЦК КПБ Іван Іванавіч Антановіч. Зь яго добраславеньня, па ягонай падказцы кніга набыла шмат новых адмоўных і станоўчых водгукаў. Урэшце прадмову да яе напісаў народны паэт Пімен Панчанка, пасьляслоўе – крытык Варлен Бечык. І кніга выйшла – са сваімі тэкстамі і падтэкстамі. Падтэксты да гэтага часу да канца яшчэ не прачытаныя.

**М. С.:** Лойка ў сваёй рэцэнзіі выстаўляе вас антысаветчыкам. Вы сьвядома пазначалі тыя палітычныя моманты, на якіх акцэнтаваўся рэцэнзэнт?

**А. Р.:** Не заўважаць тое, што кідаецца ў вочы, – немагчыма, гэта азначае здраджваць самой творчасьці. Я нічога наўмысна не рабіў, не гуляў у палітыку, у «левых» ці «правых», у «савецкага» ці «антысавецкага» паэта. У творчасьці ёсьць свае законы, свае адносіны і з часам, і з рэчаіснасьцю. Прыслухоўвайся да творчасьці, і яна сама расставіць словы на свае месцы, заўважыць тое, што позірк не заўважыў, або не заўважыць тое, на што ўсе паказваюць пальцамі: вось вам узор, зь яго вучыцеся. Творчасьць – дамінанта рэчаіснасьці.



**М. С.:** Вы працяглы час жывяце за мяжой. Што ўяўляе зь сябе вашае жыцьцё дзесьці там, у Цэнтральнай Эўропе?

**А. Р.:** Мой побыт там – гэта палёт пчалы. На тамтэйшых кветках, палях, лугах знаходжу нешта карыснае для айчыннай літаратуры. Што мне тыя падарожжы і адлегласьці кажуць і падказваюць? Гэта сустрэчы з новымі мясьцінамі, з новай рэчаіснасьцю. І ў гэтай рэчаіснасьці твой позірк становіцца сьвежым, кантрастным, больш сканцэнтраваным, ён заўважае тое, што насельнікі тае зямлі ня бачаць.

**М. С.:** Я бачу на вашай руцэ швайцарскі гадзіньнік з адметным цыфэрблятам: на ім толькі чатыры лічбы. Вам не патрэбен дакладны час?

**А. Р.:** А вы пільны... Мой гадзіньнік паказвае вельмі дакладны час, толькі час гэты мае своеасаблівы адлік. Міхась, хіба вы самі можаце акрэсьліць, у якім часе мы жывем? За вакном адліга, імгла, рэаліі размытыя. Размытыя ня толькі для вока, але і для думкі. Магчыма, такія гадзіньнікі, на якіх амаль няма лічбаў, вучаць нас лепш распазнаваць навакольны сьвет.

**М. С.:** Ведаю пісьменьнікаў, якія ня могуць жыць без сваёй бібліятэкі, без свайго архіву. Прыклад з гісторыі: Віктор Гюго вазіў з сабою ўласныя рукапісы ў спэцыяльным чамадане. А што ў доўгатрывалыя ад'езды зь Беларусі бераце з сабою вы?

**А. Р.:** Бяру нататнік і аловак – зь мяне досыць. Астатняе знайду там, куды еду, і астатняе знойдзе мяне там таксама.

**М. С.:** У адным з інтэрвію вы сказалі, што бела-

рускі эпас страчаны. Але ў нас сабрана і выдадзена больш за 50 тамоў фальклёру. Патрэбен толькі беларускі Эліяс Лёнрат, які сабраў і апрацаваў фінскі эпас «Калевалу». Ці знойдзецца ў нас такі чалавек?

**А. Р.:** Да пытаньня айчыннага эпасу зьвярталіся неаднаразова і літаратары, і фальклярысты. Ёсьць падстава: беларускі фальклёр багаты і ўнікальны. Якуб Колас уголас думаў пра героя, які прайшоў бы сьцежкамі беларускіх казак і зьяднаў бы іх у эпас. Творцы падступаліся да гэтай велічнай задумы, але фальклёрнага эпасу не атрымалася. Нехта на гэтай аснове складаў казкі ў вершах, як Уладзімер Дубоўка, а Якуб Колас, як вядома, стварыў свой эпас – «Новую зямлю». Што да фінскай «Калевалы», то Эліяс Лёнрат аказаўся якраз такім героем, які зьяднаў разнастайныя фрагмэнты і часткі ў руны, у эпас. Ён яго не ствараў, ён дапамог яму арганізавацца і акрэсьліцца. У нас іншая сытуацыя. І каб здабыць з радовішча беларускага фальклёру беларускі эпас, аднаго Лёнрата, відавочна, замала. Неабходная іншая тэмпэратура творчасьці, якая вярнула б сфармаванае ў стан першапачатку. Патрэбная іншая шкала разуменьня, якая б дазволіла нанава перапісаць вядомае. Для эпасу павінен прысьпець свой час, але гэта зусім не азначае, што ён немагчымы сёньня, на пераломе тысячагодзьдзяў. Паглядзіце ўважліва на тое, што ўжо ёсьць. Магчыма, у мазаіцы пункціраў здолееце ўбачыць крышталі эпасу.

**М. С.:** Вось ужо гадоў сто вядуцца размовы, што ў літаратуры існуе лішак свабоднай паэзіі. Заходняя і Сярэдняя Эўропа фактычна адмовілася ад традыцыйнага вершаскладаньня. Чым закончыцца экспансія вэрлібру ў Беларусь? Што чакае нашу літаратуру?

**А. Р.:** Вы мне задалі пытаньне, на якое я адказваў, калі паступаў на філфак Беларускага дзяржаўнага



ўнівэрсытэту ў 1966 годзе. Экзамэнатарамі тады былі Іван Навуменка і Вячаслаў Рагойша. У білеце таксама было пытаньне пра вэрлібр і традыцыйны верш: у чым паміж імі розьніца і якое месца займае вэрлібр у беларускай літаратурнай прасторы? Ну, я тады адказаў па-студэнцку: тое, што можна выказаць клясычным вершам, нельга выказаць вэрлібрам, і наадварот, што можна сказаць клясычным вершам, традыцыйны верш ня скажа. Сёньня, безумоўна, мы ўсе бачым, што вэрлібр усюды шырока прысутнічае. Але і традыцыйны верш таксама не зьнікае. Я асабіста ведаю нямецкіх творцаў, якія пішуць клясычныя санэты. Яны, як бы прайшоўшы круг, здабыўшы досьвед вершаскладаньня ў прасторы вэрлібру, вяртаюцца да традыцыйнага вершу. Справа не ў традыцыйным вершы ці вэрлібры. Графаманіяй можна займацца ў любой форме. Але калі будуць падыходзіць істотныя думкі і стукацца ў сьвядомасьць ці падсьвядомасьць, яны самі падкажуць, у якую форму ім трэба ўвасобіцца – у вольную ці традыцыйную. Што датычыць мяне, то я не пішу вэрлібраў. Я пішу вэрсэты. А вэрсэты – гэта не вэрлібры, гэта самы традыцыйны верш, які ўзяў здабыткі іншых жанраў, у тым ліку і вэрлібру.

**М. С.:** Паэт Робэрт Фрост неяк заўважыў, што пісаць свабодныя вершы – гэта як гуляць у тэніс пры апушчанай сетцы. З іншага боку, традыцыйная паэзія малапрывабная для заходніх перакладчыкаў. Што ж рабіць?

**А. Р.:** Хай Робэрт Фрост сам гуляе ў свае пінгпонгі. Параўнаньне яго, па-мойму, ня дужа ўдалае. Справа не ў напятай ці апушчанай сетцы, таму што і традыцыйны верш – ён не зусім гульня. І традыцыйны, і вольны вершы – гаворка істотная. Іншая справа – умельства. У традыцыйным вершы можна ўмець гаварыць у рыфму і ў мэтафару, а можна ня ўмець. У вольным вершы можна ўкладаць у радкі тое, што можна сказаць звычайнымі словамі. Што

да майго досьведу... Нямецкая перакладчыца Эльке Эрб, зь якой я найболей працаваў, робіць добрыя, дыхтоўныя пераклады, усе гэта адзначаюць, хто чытаў ці слухаў. Адначасова некалькі разоў узьнікала пытаньне. Скажам, мы разам чытаем: я ў арыгінале, яна ў перакладзе. І слухачы гавораць: гэта розныя тэксты, зусім іншае гучаньне па-беларуску і па-нямецку! Вершы, безумоўна, маюць сваю тонкую субструктуру. Прынамсі, вэрсэты арганізаваныя на моцным гука-сэнсавым пачатку. Ну, у нямецкай мове свае актавы, у беларускай – свае. І гучаць яны не зусім падобна, а часам і зусім непадобна. І перакладчык, паверце, не шукае лёгкага хлеба, ён, наадварот, шукае той цяжкасьці, якая яму дазволіць разгарнуцца, акрыліцца і зрабіць нешта, што арыгінал прапануе, але чым ён сам да канца не зьяўляецца... Што да беларускай паэзіі і літаратуры ў цэлым, то завочная ўвага да яе, гэта я на сабе адчуў, праяўляецца: а што там, а чаму там, а як там? Адзінае – не хапае перакладчыцкіх кадраў, людзей, якія чыталі б у арыгінале і прачытанае маглі б перакладаць. Іншыя славяне – чэхі, славенцы, палякі – яны па ўсёй Эўропе маюць даўніх сяброў, пастаянна адбываюцца міжнародныя літаратурныя сустрэчы, як, прыкладам, у Славеніі. І што толькі зьяўляецца ў іх вартае, адразу трапляе ў поле ўвагі перакладчыка. Мы ж па-за гэтым полем увагі. І вось тут наша асноўная праблема: няма дыялёгу паміж творцамі літаратуры і тымі, хто ўводзіць яе ў больш шырокі кантэкст.

**М. С.:** Вы выступаеце як тлумач ня толькі старажытных тэкстаў. Памятаю, была ў вас кніга «Дзьверы» – сумесная з паэткай Надзеяй Артымовіч, што жыве на Беласточчыне. Калі вы літоўца Марцінайцісаператлумачылі – добра, бо хто ж яго ў нас прачытае па-літоўску. Але ў выпадку з Артымовіч атрымалася, што беларус тлумачыць беларуску для беларусаў. Ці не дзівацтва?



**А. Р.:** Што вы, такое тлумачэньне вельмі неабходнае. Маё гермэнэўтычнае прачытаньне – не пераклад, гэта дакрананьне да таго глыбокага зьместу, якім напоўнены верш. Вельмі важна пагаварыць зь вершам і дазволіць яму выказацца ня ў полі самога верша, а ў полі кантэксту – дарэшты, да канца. У выпадку з Надзеяй Артымовіч так і адбывалася. Вершы могуць чытацца і ўспрымацца толькі тады, калі яны разгортваюцца тым патэнцыялам, тым зьместам, які яны маюць у сабе. Нават самыя вядомыя творы і творцы, той жа Купала, Багдановіч, маюць патрэбу ў перачытваньні. Кожны час мае свае асаблівасьці, і гэтыя асаблівасьці адначасова і аддаляюць нас ад напісаных тэкстаў, але і дазваляюць па-новаму зразумець ужо раней зьведанае.

**М. С.:** Адзін мой знаёмы крытык гэтак патлумачыў ваш зварот да нямецкай мовы: маўляў, швэдзкія акадэмікі не чытаюць па-беларуску. Ці сьвеціць Нобэлеўская прэмія беларусам?

**А. Р.:** Усё гэта сьмешна. Слухайце, вы што, пап'янелі з гэтай Нобэлеўскай прэміяй? Нібы Нобэлеўская прэмія – самае істотнае ў літаратуры. Прэмія ня ёсьць сарцавінай літаратуры. Яна мае дачыненьне да літаратуры, але ня самае галоўнае. Паўтаруся: самае галоўнае ў літаратуры – самі творы. Ну, а прэмія... Яна недзе там, вышэй-далей. Ну, Бог зь ёю, хай прысутнічае. Але ж гэта не пасада, на якую ўсе рвуцца. Як таксама і прэзыдэнт – гэта ня самая галоўная пасада. І прэзыдэнт ніколі ня ёсьць першаю асобаю ў дзяржаве, як бы на гэта мы самі не зарыентоўваліся ці нас не зарыентоўвалі. Першая асоба – гэта кожны з нас, калі ён разумны, калі ён сумленны, калі ён зьдзяйсьняе свой чалавечы абавязак.

**М. С.:** Шастаковіч у сваёй Пятнаццатай сымфоніі ўжываў фрагмэнты з Расіні і Вагнэра, але пазначаў пазыкі ў партытуры. Анатоль Сыс часам адштурхоўваўся ад радка Лоркі ці Міколы Купрэева, але

таксама не забываўся згадаць імёны аўтараў. Цяперашнія маладыя паэты пазычаюць без пазначэньняў. Калі вы свой радок у кагосьці ўбачыце, вас гэта моцна засмуціць?

**А. Р.:** Бачыў ужо я свае радкі ў чужых тэкстах. Мяне гэта ня тое што не засмучала, а нават цешыла. Тут можна нават ганарыцца, што ты і заўважаны, і ацэнены. Што твае радкі становяцца будматэрыялам для чужой хаты, матэрыялам для будучыні. Думаю, што дасьведчаны чытач зразумее, адкуль той ці гэты радок узяўся. А калі чытач разумее, то ён прымае гэтую гульню ў словы. Чаму б сучаснаму маладому творцу не пабыць трохі Купалам, не пабыць трохі Багдановічам... Але – трохі. Папярэдняе для таго, каб на яго арыентавацца. Але пераймаць яго азначае заставацца ў фармаце літаратурнага практыкаваньня, праяўляцца ў фармаце літаратурнай гульні. Такія тэксты могуць гучаць, на здароўе, і цікава, і займальна. Але яны не зусім арыгіналы. У гэтым іхняя асаблівасьць, і ў гэтым іхні першародны грэх. Будучыня ўсё расставіць на свае месцы.

**М. С.:** На пачатку гутаркі вы згадалі свае студэнцкія гады, давайце вернемся да іх і прыканцы. У 1968 годзе вы, будучы студэнтам філфаку БДУ, пратэставалі супраць русіфікацыі. За што і паплаціліся – мусілі давучвацца ў Берасьці. Што б вы пажадалі сёньняшняй моладзі?

**А. Р.:** Ну, што пажадаць? Зьдзяйсьняцца, але зьдзяйсьняцца так, каб разам з вамі зьдзяйсьнялася і наша рэчаіснасьць.



*Рыгор Барадулін –*
паэт, перакладчык, эсэіст. Выпускнік філфаку БДУ. Працаваў у рэдакцыях часопісаў, у выдавецтве «Мастацкая літаратура», узначальваў Беларускі ПЭН-Цэнтар. Народны паэт Беларусі. Аўтар кніг «Самота паломніцтва», «Эвангельле ад Мамы», «Ксты» ды інш. Сярод перакладаў – кнігі Ф. Гарсія Лоркі, А. Хаяма, Г. Містраль. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Вушаччыне. Жыве ў Менску.

## *Рыгор Барадулін:* «Беларусы – экспэрымэнтальная нацыя ў Пана Бога»

***21 лютага 2006 году***

*24 лютага спаўняецца 70 гадоў народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну, чыю творчасьць можна схарактарызаваць адным словам – клясыка. Хочаце ведаць жывую, іскрыстую беларускую мову? Чытайце Барадуліна. Вам даспадобы ў паэзіі сьвежая рыфма, рассыпістыя салюты мэтафараў і эпітэтаў? Чытайце Рыгора Барадуліна. Вам захацелася пачуць, як па-беларуску прамаўляюць Федэрыка Гарсія Лорка, Барыс Пастарнак, Габрыэля Містраль? Чытайце Рыгора Барадуліна. Вам не хапае словаў у айчынных слоўніках? Вы іх знойдзеце ў Рыгора Барадуліна, які мае свой уласны слоўнік, багацейшы за акадэмічныя. Прысутнасьць Барадуліна ў айчыннай літаратуры і культуры немагчыма не заўважыць. Але ў нашай краіне магчыма ўсё. Я разгортваю сёлетні адрыўны каляндар «Родны край», які выйшаў у дзяржаўным выдавецтве «Беларусь», і... ня бачу там юбілею паэта.*

**Міхась Скобла:** Спадар Рыгор, а вам ня крыўдна, што ваша 70-годзьдзе не адзначана ў афіцыйным календары?

**Рыгор Барадулін:** Ну, раз палічылі, што няма такой даты, хай будзе па-іхняму. Я з-за гэтага ня дужа перажываю. Калісьці ў дзіцячага лірыка Васіля Віткі быў верш пра тое, як паэт напісаў пра жаўранка, нясе свой твор у рэдакцыю і хвалюецца: надрукуюць ці не? Помню, як той верш заканчваўся: «А што, калі не надрукуюць? Ат, жаўранка і так пачуюць!». Вось і я сябе гэтым цешу. У нас наагул дзіўна. Выйшла кніга «Памяць» Вушацкага раёну. Дык там інфармацыя пра мяне даецца толькі да 1986



году. Нават не паведамляецца, што я ганаровы грамадзянін Вушаччыны. Ну і хай сабе. У маім узросьце мяне гэта мала хвалюе.

**М. С.:** Тыдзень таму мы з вамі сустракаліся ў лесе, у Ждановічах, у санаторыі «Крыніца». Як вам там адпачылася?

**Р. Б.:** Не паверыш – я ўпершыню быў у санаторыі. І мне адкрыўся малавядомы цэлы пласт насельніцтва. Гэта сапраўды электарат нашага кіраўніцтва.

**М. С.:** І што за кантынгент адпачывае цяпер у калісьці элітным санаторыі?

**Р. Б.:** Гэта пераважна былыя кіраўнікі, сустракаюцца ледзь ня ўдзельнікі штурму Зімняга палаца. Часам можна пабачыць «чарнобыльцаў», але іх вельмі мала. Усё больш прафэсійныя адпачыньнікі. І размовы ў іх адпаведныя: «я ў люксе», «а я ня ў люксе», «а ў тым санаторыі было лепей», «а ў тым кармілі лепш»... Сядзіць дама з былых кіраўнікоў. Даюць 200 грамаў адвару з траваў – для супакаеньня, для нырак. Доктар прапісвае: «Піць па сто грамаў ранкам і вечарам». А яна пытаецца: «А ці можна разбавіць мінэральнай вадой?» – «Навошта?» – «А каб болей было»... Стаіць на тэрыторыі санаторыя помнік Леніну, увесь у сьнезе. Дык я кажу: вас жа тут столькі камуністаў, былых і цяперашніх, хоць бы абмялі. Не, колішні правадыр іх не цікавіць. Пакуль гэты электарат будзе жыў-здароў, ніякіх пераменаў да лепшага ў нас ня будзе.

**М. С.:** У гісторыі паэзіі быў і залаты, і срэбны век. А цяпер які – на пачатку XXI ст. у Беларусі?

**Р. Б.:** У нас цяпер сынтэтычны век. Біблія пісалася ад рукі, не набіралася на кампутары. А цяпер суцэльная тэхнізацыя нараджае сынтэтычную паэзію. Хто ведае, можа, і такая камусьці патрэбная. Магчыма, паэзія калісьці ізноў вернецца да зямлі, але пакуль яна ад зямлі адрываецца. Штучная паэзія зручная для абалваньваньня народу. Я маю на ўвазе гэткую страшную зьяву, як расейскамоўная

папса. Блатныя, лягерныя песьні ў параўнаньні зь ёй – клясыка.

**М. С.:** Вы заўсёды шмат перакладалі, кажучы вашымі ж словамі, «ад мовы да мовы масьцілі кладку». І я заўважыў, што вы перакладаеце ня толькі клясыкаў сусьветнага маштабу, як Фэдэрыка Гарсія Лорку ці Габрыэлю Містраль, але і прадстаўнікоў малых і пакрыўджаных народаў, прыкладам курда Ганада Чарказяна ці чачэнца Зелімхана Яндарбіева... Навошта?

**Р. Б.:** Калі я перакладаю сусьветную клясыку, я хачу, каб наша мова была зь ёю нароўні. А наконт малых народаў... Я заўсёды гаварыў, што няма народаў малых, бываюць малыя паэты. Вы вельмі правільна сказалі пра пераклады паэтаў, што выступаюць ад імя пакрыўджаных народаў. Бо, кажучы словамі Сяргея Ясеніна, «в своей стране я словно иностранец». Таму мне і хочацца падаць руку гэткім жа пакрыўджаным. Пакрыўджаная мова вельмі адгуклівая да таварышкі па няшчасьці. Таму я і перакладаў і Чарказяна, і Яндарбіева.

**М. С.:** Калі вы нядаўна прапанавалі часопісу «Дзеяслоў» пераклады з талашскай мовы, то, прызнаюся, усёй маёй філялягічнай адукацыі хапіла, каб запытацца: а што, дзед Талаш таксама пісаў вершы? Дзе жыве такі народ – талашы?

**Р. Б.:** Дакладней, талышы. Іх некалькі мільёнаў, жывуць яны ў Азэрбайджане. Мова ў іх вельмі старажытная, бярэ свае пачаткі ад Авэсты. Талышы і за савецкім часам былі забытыя, і цяпер у загоне.

**М. С.:** Таксама пакрыўджаны народ?

**Р. Б.:** Так-так. Азэрбайджанская савецкая ўлада іх увогуле не прызнавала і не заўважала.

**М. С.:** І каго вы пераклалі з талышскай мовы?

**Р. Б.:** Ёсьць у іх паэт Ханалі Талыш. Ханалі – гэта імя, а псэўданімам ён абраў імя народу, як Леся Ўкраінка. Яшчэ пры Гейдары Аліеве адзін навуковец зь Пецярбургу напісаў пра талышоў. Дык азэрбайджанскае афіцыйнае радыё з дня ў дзень пачало трубіць, што няма такога народу і такой мовы. А пасьля спахапіліся: мы ж ім рэкляму робім! І якраз гэтая прапагандысцкая кампанія абудзіла талышоў да жыцьця. Яны ўспомнілі, што яны ёсьць. Самае страшнае – гэта замоўчваньне. А да таго, каго б'юць, заўсёды зьяўляюцца шкадаваньне і павага.



**М. С.:** Нядаўна выйшаў па-беларуску зборнік Зелімхана Яндарбіева – у вашым перакладзе. Стаўленьне ў сьвеце да яго неадназначнае. У Расеі ён – тэрарыст, таму і быў змушаны жыць у Катары, дзе і загінуў. Нагадаю, што пасьля сьмерці Дудаева ў 1996 годзе Яндарбіеў выконваў абавязкі прэзыдэнта Чачэніі. Скажу шчыра, я недаверліва стаўлюся да паэзіі палітыкаў.

**Р. Б.:** Яндарбіеў стаў палітыкам не ад добрага жыцьця. Пад канец жыцьця ён быў духоўнай асобай – імамам Чачэніі. Калі ён быў яшчэ жывы, мы гаварылі зь ім па тэлефоне. І калі я яму сказаў, што пераклаў імама Чачэніі і Папу Рымскага, а другія канфэсіі перакладаць ня буду, ён засьмяяўся. Я яго ўспрымаю як паэта. Бо палітыка – гэта вецер, а паэзія – гэта вечнае. Дый быць палітыкам маленькага народу ў расейскім палітычным моры дужа цяжка. Для палітыка Зелімхан быў занадта шчырым і даверлівым. Дарэчы, апошні ягоны клопат – пераклад Карану на чачэнскую мову. Таксама ён пабудаваў мячэт, па якім былі нанесеныя першыя расейскія ўдары. І мячэт той разбурылі. Дарэчы, калі пачынаўся налёт самалётаў, Зелімхан выбягаў з дому з канарэйкай у клетцы.

**М. С.:** Учынак паэта. Палітык ратаваў бы што іншае.

**Р. Б.:** Абсалютна. Дакумэнты там розныя... А ён – канарэйку. Яндарбіеў быў проста вымушаны займацца палітыкай. Як і Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала, Цішка Гартны... Яны вымушаныя былі ратаваць мову, народ, Край. Прафэсійных палітыкаў

у нас і цяпер мала. А трэба, каб былі прафэсійныя палітыкі, каб у іх былі грошы. Уладзімер Ільліч Ленін без вагончыка золата рэвалюцыі не зрабіў бы.

**М. С.:** Зелімхан Яндарбіеў прысьвяціў вершы Васілю Быкаву, Зянону Пазьняку. Адкуль у яго такая зацікаўленасьць Беларусьсю?

**Р. Б.:** Зелімхан сачыў за падзеямі ў Беларусі, часта званіў, распытваў пра навіны. Ён разумеў беларускую мову. Калі я яму верш прысьвяціў, ён узяў яго ў рамачку і трымаў на сваім стале. Яндарбіеў яшчэ пасьпеў напісаць прадмову да сваёй беларускай кнігі, дзе сваё знаёмства зь Беларусьсю назваў «падарункам ад Звышняга». Дарэчы, узарвалі Зелімхана па дарозе зь мячэту, дзе ён маліўся. А маліўся ён ня толькі за Чачэнію, але і за Беларусь, і за сваіх беларускіх сяброў. Прасіў у Бога спагады для беларусаў. І гэта сымбалічна.

**М. С.:** Адначасова зь вершамі імама Чачэніі Яндарбіева вы пераклалі і творы Папы Рымскага Яна Паўла II. Мусульманства і хрысьціянства (каталіцызм у дадзеным выпадку) – два розныя сьветы. Вам гэта не перашкаджала?

**Р. Б.:** Я лічу, што Бог адзін, а канфэсіі – гэта прафэсіі. Хай сабе гэта трохі і па-блюзьнерску гучыць. Беларусы – кшчоныя паганцы. У кожным народзе чым глыбей паганскія карані, тым ён больш трывалы, тым больш трывалая яго мова. І гэта так – і ў нас, і ў чачэнцаў. Канфэсіі – гэта наноснае, а самае глыбіннае – гэта паганства. Яно не пярэчыць Богу, яно славіць тварбу Божую. А калі пакланяюцца тварбе Божай, значыць, пакланяюцца Богу.

**М. С.:** Калі вы сказалі пра тварбу Божую, мне прыгадаліся словы Ўінстана Одэна. Дакладна ня памятаю, але сэнс такі: кампазытару Баху пашанцавала, паколькі ён, калі хацеў славіць Усявышняга, пісаў месу, адрасаваную непасрэдна Ўсявышняму. А калі паэт хоча славіць Творцу, то вымушаны



зьвяртацца да яго праз пасярэднікаў, гэта значыць, гаварыць пра сьвет, які ёсьць твор, і славіць твор, а не самога Творцу.

**Р. Б.:** Паводле Бібліі, напачатку было Слова, і ўсё сталася празь яго. Тут вельмі складана разабрацца: гук і слова – што было першым? Я лічу, што гук мае слоўную аснову. Самы геніяльны музыка ўсё ж думае словамі. Немагчыма думаць гукамі, мэлёдыяй. Слова мае сваю плоць. У Бібліі ж нідзе ня сказана, што першым быў гук. Так што, відаць, можна і словам непасрэдна зьвярнуцца да Звышняга. У біблейскім значэньні слова закладзеныя і гук, і мэлёдыя, і хвалі. І радыёхвалі.

**М. С.:** Скажыце, адкуль ваша хрысьціянская вера? Вы ж расьлі і сталелі ў час сталінізму яшчэ?

**Р. Б.:** Вера, як і мова, ад маці. Сям'я наша была хрысьціянскай. Мама вучыла мяне маліцца, вучыла не сядаць за стол, не перажагнаўшыся, выходзіць з дому ў дарогу, не адбіўшы паклонаў абразу, які вісеў на куце, умаены летам жывымі краскамі, а ўзімку – папяровымі кветкамі і, вядома ж, ахінуты вышываным ручніком. У савецкі час вернікі нагадвалі першахрысьціянаў – таіліся, хаваліся, але не схіліліся. Мне ўдалося ня быць ні піянэрам, ні камуністам. Хрысьціянскія матывы ў маіх вершах, як трава з-пад асфальту, прабіліся ў апошнія дзесяцігодзьдзі. А так яны жылі ў душы пад прыгнётам забароны. Душа – адзіны надзейны схоў, незалежны і недатыкальны.

**М. С.:** А калі і на якой мове вы ўпершыню прачыталі Біблію?

**Р. Б.:** Спачатку я прачытаў Біблію па-расейску. Біблія па-беларуску прыйшла да мяне ў апошнія гады існаваньня Савецкага Саюзу. Яна была перакладзеная і выдадзеная нашымі эмігрантамі, шчырымі вернікамі ў замежжы. Потым ужо былі іншыя пераклады і выданьні дома, у Беларусі. Божае слова

на роднай мове льецца нязмушана, яно прыпадае да сэрца, грэе душу.

**М. С.:** Паэт разьнявольвае слова, але ёсьць людзі, якія ставяць на яго сілкі. Як вы лічыце, дзяржаўная цэнзура мае права на існаваньне, ці пісьменьнік можа быць падобным да жонкі кесара, якую ніхто ня мог кантраляваць?

**Р. Б.:** Цэнзура неабходная толькі дзяржаве. Мастаку, паэту яна не патрэбная. Самае галоўнае для яго ў любой сытуацыі – не прадаць душу д'яблу. Душа непадцэнзурная. Самае галоўнае – не ісьці на павадку. Мастак сам сябе кантраляваць павінен, каб ня быць, як сёньняшняя моладзь гаворыць, «адвязаным».

**М. С.:** Каб не пісаць, як Андрэй Вазьнясенскі: «Чайка – гэта плаўкі Бога».

**Р. Б.:** Во-во. Нядаўна ў «Нашай Ніве» быў верш надрукаваны – «Хлопчык і копчык». Ну нельга ж трагедыю Купалы ператвараць у танную перасьмешку! Гэта непавага і да Купалы, і да самога сябе. Нейкі самакантроль павінен быць, каб не выходзіць за рамкі агульначалавечага. Трэба ведаць трагедыю Купалы, ён жа некалькі разоў спрабаваў скончыць самагубствам. І ператвараць яго трагедыю ў камэдыю – гэта ўсёдазвол, гэта горш чым цэнзура! Нават у зьвяроў ёсьць нейкія рамкі паводзінаў, і ў чалавека павінны быць. Ва ўсёдазволе ёсьць адзін цікавы аспэкт. Ат, пішыце, што хочаце, толькі ўладу не чапайце. А ў нас цяпер так: усёдазвол на пашляціну, на брыдкаслоўе, на зьнявагу Бога.

**М. С.:** Вы згадалі Янку Купалу. Ён славіў Сталіна, а Пікаса напісаў сталінскі партрэт. Такая творчасьць прыніжае генія?

**Р. Б.:** Па-першае, Богу – Богава, а кесару – кесарава. Па-другое, сабакам трэба кідаць косткі. Купала кідаў косткі, яго прымушалі, бо хацелі, каб менавіта Купала напісаў пра Сталіна. Бо астатнія не дацягвалі да адпаведнага ўзроўню, як ні пяліся.



Купала пісаў сталінскія панэгірыкі – як кідаў сабакам косткі. Творы гэтыя ў ягонай творчасьці не засталіся.

**М. С.:** Як жа не засталіся? У Поўным зборы твораў амаль увесь пяты том – «Табе, правадыр, мае песьні і думы...».

**Р. Б.:** Том гэты – як сьведчаньне, у якіх умовах жыў Купала і да чаго яго давялі. Том гэты тлумачыць, чаму Купала спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам. Так і атрымалася: ці яго скінулі, ці ён сам скінуўся. Ён жа быў як у акружэньні. Практычна паэтам кіраваў шафёр ягоны, які быў прыстаўлены да Купалы адпаведнымі службамі. Калі шафёр памёр, яго хавалі з адпаведнымі рангу ўшанаваньнямі. Купалу так не хавалі. Ён і жыў на Купалавай дачы ў Ляўках у будцы пры варотах, каб усё бачыць. Я так і пісаў некалі: «Каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі». Купала – пакутнік, і добра, што ў зборы твораў гэта паказана.

**М. С.:** Калі зірнуць агулам на ўсю беларускую паэзію і паспрабаваць вызначыць, які вобраз у ёй дамінуе, то атрымаецца – сьляза. Як у знакамітым фільме Мэла Гібсана «Пакуты Хрыстовы», дзе галоўныя кадры – не крыжовы шлях Ісуса Хрыста, не расьпінаньне, а калі падае сьляза. Геніяльна паказана. Ці не пара беларускай літаратуры адысьці ад гэтага патасу сьлязы?

**Р. Б.:** Сьляза надзвычай шматзначная. Ёсьць сьлёзы адчаю, сьлёзы жальбы і сьлёзы радасьці. Памятаеш народнае: «Мае сьлёзы паб'юць белы камень і лозы»? А дождж – гэта неба плача. Дождж радасьці на ўраджай, на рунь. Сьляза – як маленькі сымбаль зямнога шару. А раса – гэта ж таксама сьляза зямная. А ў расе, як у сьлязе, адбіваецца вясёлка. Раса можа быць, як сьляза і як пот, які таксама – вобраз сьлязы. А бяз поту нічога не бывае. Па Бібліі, «свой хлеб здабываць у поце чала свайго». А можна – «у сьлязе сваёй». Сьляза – як ачышчэньне. Гавораць: «Каб я

паплакаў, мне лягчэй стала б». Ты правільна пра фільм згадаў. Там сьляза акурат і сымбалізуе зямны шар. Зямля ў маштабах космасу – застыглая сьляза. Ёсьць жа гэткі выраз – акамянелыя сьлёзы.

**М. С.:** Бацька гісторыі Герадот пісаў пра славянскае племя будзінаў, якое стагодзьдзямі жыло ў паняверцы, раптоўна абудзілася і ўразілася прыгаствам роднай мовы. Што трэба, якая палітычная ці Божая воля, каб і зь беларусамі адбылося нешта падобнае?

**Р. Б.:** Беларусам, каб абудзіцца, трэба пачуць сваіх прарокаў – ад Францішка Скарыны да Васіля Быкава. Іх не заўсёды чулі, і чулі пераважна вушамі, а трэба пачуць сэрцам. Нам увесь час не давалі абудзіцца. Толькі прачнёмся, а нам – кладзіцеся! Як у больніцы. Беларусы – экспэрымэнтальная нацыя ў Пана Бога. А калі робіцца экспэрымэнт, то ён прадугледжвае добры канец, ён ня робіцца на зьнішчэньне. Другое пытаньне – колькі будзе цягнуцца экспэрымэнт... Той, хто на яго адкажа, будзе геніем.

**М. С.:** Здаецца, што можа быць больш праўдзівейшае і натуральнейшае за наказ Кастуся Каліноўскага: «Бывай здаровы, крывіцкі народзе! Жыві ў праўдзе, жыві ў свабодзе». Але атрымліваецца, што ў нашым народзе многа ахвотнікаў жыць у хлусьні. Адкуль такое жаданьне?

**Р. Б.:** Жаданьне жыць у хлусьні ад стойлавага ўтрыманьня народу. Беларусаў дзьвесьце гадоў трымала ў стойле Расея. Вынішчаная была эліта беларуская. А Беларусь – гэта цемя Эўропы, таму заўсёды б'юць па цемені. Ня б'юць па пятках, ня б'юць па азадку, а б'юць па цемені, каб выбіць розум. А тады – у стойла, і праўда ня трэба. Да таго ж праўда вочы коле. А хлусьня – салодкая, яна амаль датыкаецца да мары. І калі хлусьню, як ін'екцыю, увесьці ў мару, то хлусьня стане марай. Памятаеш лёзунг: «Наступнае пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме!»? Націск быў на слова «будзе». З хлусьнёй і спаць лёгка. А пасьля праўды не засьнеш. Я нядаўна задумаўся над словамі песьні: «Вякамі мы спалі ды нас разбудзілі, сказалі, што трэба рабіць...». Гучыць для нас знакава – «трэба рабіць», хопіць спаць. А каму хочацца працаваць... У нас больш ходкі лёзунг: «Пад'еў – аюсь у хлеў».



**М. С.:** Аляксандар Лукашэнка любіць паўтараць, што беларусы і расейцы – адзін народ. Да якой пары будзе існаваць пагроза з боку Расеі?

**Р. Б.:** Гэтая пагроза вечная. Таму што Расея ніяк ня можа пазбыцца імпэрскага мысьленьня. Яе ўсё цягне да імпэрыі. Савецкі Саюз быў самай сапраўднай імпэрыяй – з чырвоным сьцягам і пяцікутнай зоркай замест арла. Пакуль Расея не адмовіцца ад імпэрскіх замашак, яна будзе старацца паглынуць Беларусь. Адзіная пакуль перашкода на гэтым шляху – нежаданьне Лукашэнкі быць падначаленым... Я ня супраць Расеі, я ня супраць расейскага народу. Гэта вялікая культура, вялікі народ, але яму трэба навучыцца паважаць сваіх суседзяў. Быць вялікім за кошт другіх – гэта ня веліч. Дарэчы, вельмі добра пра нашу ўсходнюю суседку сказаў Уладзімер Ільліч Ленін: «Расея – турма народаў». І другія ў яго выказваньні былі пра Расею ня самыя прыемныя.

**М. С.:** Вы сябравалі зь Петрусём Броўкам – заснавальнікам выдавецтва «Беларуская савецкая энцыкляпэдыя». Пад яго наглядам узводзіўся і будынак Энцыкляпэдыі за Акадэміяй навук. І вось навіна: будынак забіраецца і перадаецца ў Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Энцыкляпэдысты ў роспачы: іх высяляюць. Што вам бачыцца за гэтым крокам уладаў?

**Р. Б.:** Энцыкляпэдыя будавалася на маёй памяці. Броўка гаварыў: «Калі б я напісаў, дзе мне давялося пабываць, каб атрымаць дазвол на Энцыкляпэдыю, то атрымалася б тры тамы!» З аднаго боку, мы крычым: «За стабільную, за самастойную, за неза-

лежную Беларусь!» А з другога боку, якая можа быць краіна без энцыкляпэдыі? Самы лепшы аргумэнт на карысьць стабільнасьці – энцыкляпэдыя. Бо энцыкляпэдыі, як правіла, не выдаюцца ў нестабільныя часы. Зрэшты, нашто нам энцыкляпэдыя, мы і так усё ведаем. Пачытайце школьныя падручнікі па гісторыі, там Кастусь Каліноўскі характарызуецца як авантурыст! Нават у савецкі час не дазвалялася гаварыць такое пра Каліноўскага! А тады ў Броўкі ў ЦК КПБ спыталіся прастадушна: «Навошта нам энцыкляпэдыя?» І Броўка адказаў: «Нацыя тады існуе, калі ў яе ёсьць энцыкляпэдыя і каляндар! Вам трэба пра гэта ведаць!» То нават цэкоўцы ведалі, што без энцыкляпэдыі нельга жыць. Энцыкляпэдыя – гэта памяць нацыі, яна дакопваецца да каранёў нацыі. Таму ўлады і сякуць пад корань.

**М. С.:** Беларуская мова робіцца ўсё больш чужой для беларускай улады. Відаць, зыходзячы з гэтага некаторыя беларускія літаратары пачынаюць пісаць яшчэ і па-расейску. І мне прыгадалася, што на розных мовах пісалі Карлас Шэрман, Валянцін Тарас, Аляксей Зарыцкі, Алег Лойка. А вы як ставіцеся да палімоўнай творчасьці?

**Р. Б.:** Калі пісьменьнік сур'ёзны, ён піша на адной мове. На мове маці, на мове крыві, на мове сваёй сьвядомасьці. А забаўляцца можна і на другой, і на трэцяй. І Пушкін пісаў па-французску. Але на якой мове Пушкін застаўся? Родная мова – гэта маці, а другая мова – гэта мачыха. Ты назваў прозьвішчы пісьменьнікаў. А я прывяду другі прыклад. Ёсьць такая паэтка Марына Наталіч (Натальля Давыдзенка). Яна карэнная расіянка, нарадзілася на Далёкім Усходзе, у горадзе Ваніна. Але вывучыла беларускую мову, піша на ёй вершы. А пераход некаторых нашых літаратараў на мову расейскую – гэта чыста палітычная кан'юнктура. Ня дай Бог кіраўнік дзяржавы па-фінску загаворыць, яны па-фінску пачнуць пісаць... Шэрман пісаў па-гішпанску, бо гэта была яго родная мова. Ён – зьява ўнікальная. Хоць калісьці Сталін гаварыў, што «незаменимых нэт», усё ж Шэрман практычна незаменны. Сьветлая яму памяць. Бяз Шэрмана я – як бяз рук у перакладаньні гішпанскай паэзіі. Сёньня ў нас самы пэрспэктыўны перакладчык – Лявон Баршчэўскі, які ведае пятнаццаць моваў. Моладзь цікавая падрастае. Яна, праўда, ня ведае натуральнай беларускай мовы. Трэба вывучыць. А «вывучыць» рыфмуецца з «вымучыць». Добра, што моладзь мае ня толькі крапівоўскі слоўнік, які калечыў беларускую мову, але і слоўнікі Ластоўскага, Насовіча... Наша бяда ў тым, што зьяўляюцца цэлыя пакаленьні этнаграфічных беларусаў.



**М. С.:** Цікавы перакладчык – Якуб Лапатка, які жыве ў Хельсынках. Ён цяпер перакладае фінскі эпас «Калевалу». Я чытаю руну за рунай, якія ён мне дасылае, і думаю: узяўся б хто з нашых паэтаў і напісаў эпічную паэму, заснаваную на беларускіх мітах! Вы, здаецца, падступаліся да гэтай тэмы?

**Р. Б.:** У мяне пачатая паэма, заснаваная на мітах, на паданьнях і легендах беларускіх. Калі Бог дасьць гадоў і сілаў, то я буду яе працягваць. Але ў нас такая краіна, ня ведаеш, што заўтра будзе. Вось давяду да ладу ўшацкі кнігазбор і вазьмуся. Бо цяпер мяне слоўнік вушацкі не адпускае. Я прачынаюся ці хаджу, а зь мяне, як камяні зь зямлі, выходзяць словы і выразы ўшацкія.

**М. С.:** Пакажыце, як будзе выглядаць будучая беларуская «Калевала».

**Р. Б.:** У адзін бок – сьведкам Бог – прайшла Дзьвіна, сьветлая да дна. А ў другі бок радасна пацёк сам Дняпро – сьцюдзёнае нутро. Вось у гэтых абшарах, дзе начуюць маланкі ў хмарах, Белаполь пачаў сяліцца каля вады, капаць крыніцы, заводзіць свае лады. У гэтага Белаполя ад розных жонак, бо тады дазвалялі законы, і разьвяліся розныя плямёны. Маладзіцы, са стога ўцёкшы папраўляць

спадніцы, мужчыны, адным духам асушыўшы коўш медавухі, выціраюць вусы. Плямёны гэтыя маюць прозьвішча – беларусы. Яны і да гэтага часу там ходзяць, зямельку скародзяць ды сеюць жыта. Жывуць і ўлежна, і ўежна, і самавіта.

**М. С.:** Натхненьня вам на гэтай эпічнай дзялянцы! Ваша пакаленьне – ці ня самае працавітае ў беларускай літаратуры. Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Мікола Арочка, Анатоль Клышка, Кастусь Цьвірка...І ніхто не пралайдачыў свой талент. Што гэтаму паспрыяла?

**Р. Б.:** Мы – дзеці вайны. Мы цягнуліся да ведаў як да сьвятла. Перад усімі намі стаяла задача: беларускую мову аграніць, адшліфаваць, каб яна была пачутая Богам. Мы – апошняе пакаленьне натуральных беларусаў. Кожнае беларускае слова мы бачылі ў расе. А пазьнейшыя пакаленьні бачылі тыя словы загорнутымі ў цэляфане.

**М. С.:** Прэзэнтацыі вашых новых кніг ладзяцца ў касьцёлах па ўсёй Беларусі. Ці ёсьць розьніца, дзе вершы чытаць – у Доме літаратара, напрыклад, ці ў касьцёле?

**Р. Б.:** У касьцёле выступаць больш адказна, але і ўдзячна. І ў Доме літаратара добра чыталася, але там больш трэба працаваць на публіку. А ў касьцёле ведаеш, што Бог чуе. Там нельга фальшывіць, вырабляцца, выстаўляць сябе. Памятаю надпіс у нейкім касьцёле: «Ціха! Бог блізка». І мяне ў храмах не пакідае адчуваньне, што Бог блізка. Падчас адной з прэзэнтацый у касьцёле да мяне падышла маладзіца і папрасіла: «Хутчэй падпішыце мне кнігу, бо трэба карову даіць, з поля прыйшла!» А яшчэ кажуць, што ў нас паэзію перасталі чытаць. З-за гэтай маладзіцы варта было ехаць за трыста кілямэтраў!

**М. С.:** Вы за сваё жыцьцё шмат дзе пабывалі. Давайце ўспомнім некалькі краінаў. Прыкладам, Кубу. Нядаўна па тэлебачаньні Ігар Лучанок захоплена расказваў, як ён сьпяваў «Подмосковные вечера» Фідэлю Кастра. А вы кубінскаму лідэру вершаў не чыталі?



**Р. Б.:** Не, я ня быў дапушчаны да гэткіх высокіх парогаў. Гэта толькі Лучанок за імі пабываў. Помню, калі я зьбіраўся на Кубу, адтуль якраз вярнуўся Васіль Быкаў. І ён мяне адгаворваў туды ехаць. Аказалася, там вельмі горача, да таго ж Васілю, як дарагому госьцю, паказалі кубінскую школу юных разьведчыкаў і падвялі да яго хлопчыка, які лепш за ўсіх пісаў даносы! І ўсё ж я паехаў. Гэта быў 1984 год. Найбольш мяне ўразілі кубінскія фільмы пра амэрыканскіх дывэрсантаў. Пераказваю сюжэт першага: ідзе дывэрсант з каністрай бэнзіну і з абярэмкам саломы. Падходзіць пад нейкі важны кубінскі аб’ект, аблівае яго бэнзінам, падкладвае салому, чыркае запалкай – полымя, і лёзунг на экране: «Рэвалюцыйная пільнасьць перш за ўсё!». Сюжэт другога: ідзе дывэрсант, цераз плячо ў яго ланцуг. Ён размахваецца і закідвае ланцуг на лінію высокага напружаньня. Замыканьне, і на экране лёзунг: «Будзьце пільнымі, рэвалюцыянэры!». На Кубе добра пагрэцца, але пагрэцца не душой, а целам.

**М. С.:** У ЗША вы езьдзілі ня проста пісьменьнікам, а ў складзе афіцыйнай дэлегацыі – на сэсію ААН. Прычым у той час, калі ўсе мы жылі ў гэтак званай імпэрыі зла. А ці было ў вас адчуваньне на вуліцах Нью-Ёрку, што вы знаходзіцеся ў «краіне дабра»?

**Р. Б.:** Я адчуваў, што амэрыканцам да лямпачкі, адкуль ты прыехаў – з сацыялістычнага ці капіталістычнага сьвету. У Амэрыцы кожны жыве, як яму хочацца. Другая справа – як жыве, з Богам у душы ці не. Але гэта ўжо філязофскае пытаньне... Пісьменьнікаў у дэлегацыі пачалі ўключаць, калі міністрам замежных справаў БССР быў Рыгор Кісялёў, дарэчы, вэтэрынар па адукацыі. Ён любіў выпіць і аднойчы акіянам прывёз у Нью-Ёрк цэлы чамадан малянкоўскіх шклянак. На свой дзень на-

родзінаў накрыў стол, наліў усім укоптур, і кожны павінен быў выпіць. І быў там адзін паэт, дыплямат і філёзаф, выпускнік МІМО. Піць, як і пісаць, ён ня мог – паводле сваіх фізычных і разумовых магчымасьцяў. Ён заўсёды ствараў оду ў гонар міністра Кісялёва, чытаў яе, выпіваў малянкоўскую шклянку і зьвіваўся пад крэслам. Адтуль яго потым і даставалі. Так паўтаралася з году ў год. Але калі я трапіў у дэлегацыю, Кісялёва ўжо не было. І мне нават даручылі выступіць па паперцы.

**М. С.:** А тэкст выступу вы самі пісалі?

**Р. Б.:** Не, што ты! Я быў проста ў ролі дыктара. Чытаў па-расейску з заўважным беларускім акцэнтам. Потым нашы прадстаўнікі ў ААН далі мне падшыўку беларускай эміграцкай прэсы. Далі ня проста так, а з разьлікам, каб я напісаў водгук. Я чытаў-чытаў і зразумеў, што калі адгукнуся, то гэта будзе выкарыстана спэцслужбамі. Я ўжо быў вучаны, разумеў, што такое вэрбоўка. Доўга трымаў падшыўку, нарэшце прыношу. «Ну, што вычытаў?» – пытаецца дыплямат. «Ведаеце, кажу, мне спадабаліся вершы Масея Сяднёва пра восень. Я пра іх магу напісаць». – «А пайшоў ты!..» І ўсё, на гэтым кантакты закончыліся. Дарэчы, працуючы ў ААН-аўскай бібліятэцы, я ўбачыў цікавы здымак. Часопіс «Амэрыка», на вокладцы асабіст ці целаахоўнік трымае пад пахі Чарненку, у генсека адвіслая сківаца, тупыя адсутныя вочы, а другі ахоўнік апранае яму плашч. І подпіс – кіраўнік Савецкага Саюзу. Дык я думаў, хто здымаў, – гэта не зь верталёту. Два трымалі, а трэці здымаў... А жылі мы ў Нью-Ёрку – як у інтэрнаце, самі сабе есьці варылі, бульбу на рынку куплялі. Я на тры месяцы нібы ў студэнцкае жыцьцё вярнуўся.

**М. С.:** Пасьля вяртаньня з замежных вандровак пісаліся нізкі вершаў, на гэтым тэма як бы вычэрпвалася. Гэта не датычыцца вашай паездкі ў Ерусалім. Пасьля паездкі на Сьвятую Зямлю біблейская тэматыка настала ўвайшла ў вашую творчасьць. Чатырыста гадоў таму князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка езьдзіў у Палестыну, дзе яго найбольш уразілі буслы ў пойме ракі. А што запомнілася вам?



**Р. Б.:** Ерусалім я стараўся ўвабраць у сэрца цалкам – з краявідамі, зь вежамі, з галубамі, з усімі дэталямі. Гэтая паездка мяне найбольш ускалыхнула. Я лічу, што ў душы кожнага чалавека разьлітая Біблія, яна – у прыказках, у прымаўках, у побыце, у позірках, уся мудрасьць ад Бібліі. Ерусалім даў мне сьвятла да канца маіх дзён. Езьдзіў я туды ад Беларускага ПЭН-Цэнтру. Карлас Шэрман даў мне сто даляраў і таньненькі калькулятар. Амбасадарам Беларусі ў Ізраілі быў Анатоль Фарфэль – выдатны чалавек, добра гаварыў па-беларуску. Даведаўся ён, колькі ў мяне грошай і толькі засьмяяўся: «Ня бойся, галодным ня будзеш». Дарэчы, ён мне расказаў, як яго інструктавалі падчас прызначэньня амбасадарам: «Ты ж глядзі там, габрэйскую лінію ня гні!». Калі ён быў амбасадарам, у Ізраіль прыяжджаў беларускі прэм'ер-міністар. Павялі яго на экскурсію па сьвятых месцах. Гід, доктар мастацтвазнаўства з Эрмітажу, кажа: «А вось гэта Капэрнаум, сынагога, дзе маліўся Ісус Хрыстос». Чыноўнік зьдзіўлена перапытаў: «Хрыстос у сынагозе маліўся?» – «А дзе ж Ён павінен маліцца?» – «Ну, безумоўна, у праваслаўнай царкве!» Яна пытаецца: «А вы хоць ведаеце, што Ісус Хрыстос быў габрэем?» – «Ну, гэтага быць ня можа...»

**М. С.:** Творчаму чалавеку бываць за мяжой карысна. А палітыку? Аляксандру Лукашэнку забаронены ўезд у 16 краінаў. Невыязны паэт – за савецкім часам гэта была звыклая зьява. А невыязнога палітыка як можна схарактарызаваць?

**Р. Б.:** Я разумею так, што ў Эўропе і сьвеце ня хочуць бачыць палітыка, які вязе ім учорашні дзень. У літаратуры ёсьць такі панятак – аксюмаран, ён

азначае нешта немагчымае, абсурднае: гарачы сьнег, халодны кіпень... Невыязны палітык – таксама аксюмаран. Як гэта можа быць невыязны палітык? У невыязнога палітыка і палітыка бязногая.

**М. С.:** Як стала нядаўна вядома, улады мяркуюць стварыць канфэдэрацыю творчых саюзаў і заняць пад яе сталічны Дом літаратара, якім даўно ўжо кіруюць не літаратары, а камэндант з Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Навошта ўладам аб'ядноўваць творчыя саюзы?

**Р. Б.:** Найлепшы спосаб пасварыць людзей – зьвязаць іхнія чубы, як у нас на Вушаччыне гаварылі – зьвязаць хахлы. Наогул, творчыя саюзы, створаныя за савецкім часам, нагадваюць пясочніцу: хай дзеці забаўляюцца, абы дарослым не перашкаджалі. Так і тут – хай творцы забаўляюцца, абы ў палітыку ня лезьлі. Калі цяпер аб'яднаць усіх пад адной страхой, то творчыя саюзы пагрузнуць у розных сварках і звадах. Ім не да творчасьці будзе. Калісьці творчыя саюзы мерыўся аб'яднаць Мікіта Хрушчоў. Хацеў аб'яднаць і аддаць на кіраваньне свайму зяцю Аджубею. Хрушчоў любіў езьдзіць на гарбату да Аляксандра Твардоўскага. І вось аднойчы ён прыехаў і кажа: «Аляксандар Трыфанавіч, задумалі мы аб'яднаць творчыя саюзы». А Твардоўскі: «А мы ўжо і назву прыдумалі». – «А якую?» – «АХуІн». – «А што такое АХуІн?» А Твардоўскі і тлумачыць: «Ассоциация художественной интеллигенции». Хрушчоў занепакоіўся, што яшчэ не аб'ядналі, а ўжо такую назвумянушку далі... Твардоўскі гэтым жартам стрымаў аб'яднаньне творчых саюзаў. Спрэчкі паміж уладай і мастаком, уладай і чалавекам – яны вечныя. Я вось нядаўна вычытаў чыйсьці выдатны афарызм на гэтую тэму: «Якім бы велічным ні здаваўся трон, усё роўна на ім сядзіць задніца».



*Уладзімер Падгол –*
палітоляг, філёзаф. Закончыў філязофскі факультэт БДУ. Працаваў кіраўніком інфармацыйна-аналітычнага цэнтру Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Аўтар кніг «Куля для прэзыдэнта», «Чортавы жорны» ды інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Віцебску. Жыве ў Менску.

## *Уладзімер Падгол:* «Цытатнік Лукашэнкі – гэта ягоны псыхалягічны гардэроб»

***12 сакавіка 2006 году***

*Вялікі каган Залатой Арды Чынгіс-хан меў у сваёй сьвіце адмысловага летапісца, які на гліняных дошчачках занатоўваў мудрыя думкі правадыра. Потым з тых думак прыдворнікі склалі адмысловы звод законаў – гэтак званыя Ясы. Што з таго, што стваральнік найвялікшай у гісторыі чалавецтва імпэрыі быў непісьменны. Галоўнае – умець сказаць, а не напісаць. У Кітаі і сёньня можна набыць у кнігарнях цытатнікі Мао Цзэдуна.*
*У Лібіі добра разыходзяцца зборнікі выказваньняў лідэра тамтэйшай джамахерыі палкоўніка Муамара Кадафі. Народ мусіць мець зручныя і падручныя мудраслоўі на ўсе выпадкі жыцьця, каб не абцяжарваць сябе непатрэбным думаньнем. «Думаць за народ» павінен усенародна абраны правадыр, а народу застаецца паўтараць яго думкі пры кожнай зручнай нагодзе. Нядаўна і ў Менску зьявіўся аналягічны цытатнік. Ягоны аўтар – Аляксандар Лукашэнка, а складальнік – Уладзімер Падгол.*

**Міхась Скобла:** Уладзімер, а ці выдаюцца падобныя цытатнікі ў дэмакратычным сьвеце?

**Уладзімер Падгол:** Так, выдаюцца. У 2002 годзе я быў у Злучаных Штатах Амэрыкі і зайшоў у кнігарню непадалёк ад Белага дому. І там на паліцы ляжала кніжачка выказваньняў Джорджа Буша – гэтак званыя бушызмы. І тады мне падумалася: а няблага было б сабраць і выдаць «лукашызмы». Яшчэ перад маёй паездкай у ЗША ідэю падобнай кнігі мне падказваў Васіль Сёмуха. Ён шмат гадоў са мной працаваў, дапамагаў мне як рэдактар кнігі «Куля для прэзыдэнта», дзе было многа цытат з



Лукашэнкі. Аднойчы Сёмуха мне і сказаў, што гэтыя цытаты – самастойны мастацкі твор, асабліва калі прыбраць мае камэнтары. Вось я і прыбраў... Складзены мною зборнік можна чытаць па-рознаму. Вось ты чытаў з іроніяй. А я аднойчы трапіў у нечаканую сытуацыю. Памятаеш, Лукашэнка ў 1996 годзе на Першым усенародным сходзе публічна на ўсю краіну заявіў: «Я праваслаўны атэіст». І калі я расказаў пра гэта адной адукаванай жанчыне, яна раптам кажа: «А што? І я праваслаўная атэістка!» У мяне быў шок. І тады я зразумеў: тое, з чаго мы з табой сьмяемся, многія людзі ўспрымаюць сур'ёзна. І калі ім даць пачытаць гэты зборнік, то яны падпішуцца пад 70% выказваньняў Лукашэнкі і будуць іх бараніць. Таму тут усё ня так проста наконт абсурду, які некаторымі ўспрымаецца як ісьціна.

**М. С.:** Праглядаючы цытатнік Лукашэнкі, я згадваў: гэта ён гаварыў, адарваўшыся ад паперкі, тут таксама імправізаваў. Не сакрэт, што для некаторых палітыкаў трапныя выказваньні пішуць прафэсійныя сьпічрайтэры. А тут атрымліваецца, што кіраўнік Беларусі – сам аўтар усіх выказваньняў?

**У. П.:** Чыста фармальна ты маеш рацыю. Але па сутнасьці, з псыхалягічнага пункту гледжаньня, гэтыя выказваньні прадыктавала Лукашэнку гісторыя ягонага роду. Я ў гэты зборнік ня ўсе абсурдныя цытаты ўключыў. У ім толькі выказваньні, дзе ён праяўляе свой архетып, гэта значыць, від дзейнасьці сваіх продкаў, якія жылі, можа, некалькі тысячагодзьдзяў таму. Гэта таксама від дзейнасьці і паганскіх багоў, у якіх верылі нашы продкі, абсалютна не адасабляючы боскага жыцьця ад свайго. Падам прыклад. 1996 год, тэлесэлектарная нарада – бітва за ўраджай. Лукашэнка зьвяртаецца да кіраўніка Берасьцейскай вобласьці Заламая: «Ты тройчы скардзіўся мне на засуху – я табе дождж даў!» Гэта сказаў не Лукашэнка, гэта сказаў Дажбог, паганскі бог. І Лукашэнка ў гэты момант абсалютна

верыў у тое, што гаварыў. Такім чынам, ён ёсьць проста рэтрансьлятарам архетыпаў. У гэтым яго ўнікальная здольнасьць – ня кожны такое можа.

**М. С.:** Але, калі адкінуць містыку, у зборніку ўсё ж ягоныя імправізацыі.

**У. П.:** Не, тут я з табою ізноў ня згодзен. Гэта не імправізацыі, гэта крыкі, воклічы ягонай душы. Справа ў тым, што архетып нельга праявіць у спакойным стане, ён праяўляецца толькі ў стрэсавай сытуацыі. Што для Лукашэнкі стрэсавая сытуацыя? Пагроза ягонаму жыцьцю альбо пагроза ягонай уладзе. Што адбылося на 3-м Усебеларускім сходзе? Лукашэнка адказваў на пагрозы Казуліна. Пасьля выступу Казуліна па тэлевізіі ён перажыў стрэс. І адразу палез архетып з глыбіняў ягонай душы. А калі стрэс праходзіць, ён прамаўляе культурненька, тады на ім цывілізацыйны налёт сучаснага прэзыдэнта. Яшчэ адзін прыклад. У ЗША я быў у адной сям'і. Адчыняю шафу на ўсю сьцяну – а там дзьвесьце пар чаравікаў, сто касьцюмаў вісіць! Вось і ў Лукашэнкі столькі ж душ, якія ён праяўляе ў розных стрэсавых сытуацыях.

**М. С.:** Максім Гарэцкі пісаў пра дзьве душы беларуса. А тут тысяча душ?

**У. П.:** Тысяча душ. Езьдзячы па Беларусі, Лукашэнка сустракаецца з тысячамі людзей, і ён імгненна адчувае псыхалягічныя чаканьні чалавека, зь якім размаўляе. І пачынае гаварыць зь ім, рэзанаваць тою душою, якая найбольш адпавядае ў дадзенай сытуацыі. У гэты момант ён выдатны актор. І мы бачым, што з бабулькай ён на адзін лад размаўляе, з дзядулькам – на другі лад, а з маладзіцай – зусім паіншаму. Абсалютна рознымі мовамі. Гэта нібы ягоны псыхалягічны гардэроб. Так што зборнік, пра які мы гаворым, можна было б назваць – «Псыхалягічны гардэроб Лукашэнкі».

**М. С.:** Выказваньні, сабраныя ў зборніку, трэба прызнаць, шырокавядомыя ў грамадзтве. Яны цытуюцца ў самых розных колах насельніцтва. У чым сакрэт іх папулярнасьці?



**У. П.:** Падчас выступаў Лукашэнкі мы назіраем фэномэн дэманстрацыі псыхалягічнага ценю. Тое самае, дарэчы, рабіў і Гітлер. Што гэта такое? Кожны чалавек ведае свае заганы, адмоўныя рысы і якасьці свайго характару. Зазвычай, чалавек у жыцьці імкнецца іх не праяўляць, стрымлівае сябе, умоўна кажучы, цывілізацыйнымі абцугамі. А вось палітычныя лідэры, прамаўляючы перад тысячамі і мільёнамі слухачоў (асабліва ў фрустраваным, заціснутым грамадзтве), часам інтуіцыйна пачынаюць дэманстраваць свой псыхалягічны цень – свае заганы, адмоўныя рысы. І гэта ўспрымаецца натоўпам як найвялікшая вартасьць. Людзі тады пачынаюць любіць свайго куміра. Лукашэнка адчувае, чаго і калі народ ад яго чакае. Каб далёка не хадзіць, прыгадаем 3-і Ўсебеларускі сход. Згадай, як Лукашэнка гаварыў пра Казуліна: «Ён бутэлькі зь півам на лыжні адкрываў!». І ўся заля рагоча! Паглядзі, які вобраз намаляваны суперніку, якога трэба зьнішчыць! У навуцы вядомыя сьмехавая іронія і сьмехавая агрэсія. У гэтым сэнсе іранічна-парадыйныя выказваньні Лукашэнкі – гэта своеасаблівыя кулі, якія мусяць забіваць супернікаў. Забіваць сьмехам.

**М. С.:** Пад кожнай цытатай ты пазначаеш: калі і дзе такое гаварылася, дзе было апублікавана. Але ёсьць цытаты і без спасылак, на ўзроўні чутак. Напрыклад, вось словы, нібыта сказаныя Лукашэнкам мітрапаліту Філярэту: «Ты навошта гэтыя нацыяналістычныя стужачкі начапіў?» (маецца на ўвазе мантыя Ўладыкі). Ці не здаецца табе, што гэта пайшла ўжо народная творчасьць, пачаўся іншы жанр?

**У. П.:** Не. Я хачу папярэдзіць усіх чытачоў: ва ўсім зборніку толькі некалькі цытат без дакладных спасылак. Што да згаданага табою выказваньня, то гэта

абсалютна дакладная цытата. І я гатовы назваць крыніцу – Лявон Баршчэўскі. Ён пачуў працытаваныя словы ад самога Філярэта. Гэта было ў 1995 годзе, пасьля таго як Філярэт напярэдадні рэфэрэндуму аб зьмене нацыянальнай сымболікі выйшаў у тэлеэтэр і паўтары гадзіны зь бела-чырвона-белымі стужкамі на мантыі зьвяртаўся да вернікаў з прамовай. Ён выйшаў на дэманстрацыю і прыцягваў увагу да таго, што Беларусь можа застацца адзінай дзяржавай у сьвеце, якая мае сьцяг з хрысьціянскімі колерамі. Вось пасьля таго тэлеэтэру Лукашэнка і папракнуў Філярэта. Падкрэсьліваю: усе выказваньні, зьмешчаныя ў зборніку, – гэта не народная творчасьць, гэта абсалютна дакладныя цытаты з выступаў Лукашэнкі. Дарэчы, ты трымаеш у руках трэцяе выданьне, і рыхтуецца чацьвертае. Зборнік карыстаецца попытам.

**М. С.:** Падзагаловак зборніка – «З калекцыі Ўладзімера Падгола». Як тэхнічна адбывалася фармаваньне гэтай калекцыі? Бо наўрад ці магчыма праслухаць усе выступы кіраўніка Беларусі. Табе нехта дапамагаў?

**У. П.:** Памочнікаў практычна не было, яны зьяўляюцца апошнім часам. Што я рабіў? Калі ішлі тэле- ці радыёвыступы, я запісваў на касэты. Калі выступ ідзе нудны, я раблю нешта сваё. Але калі пачынае праяўляцца архетып, я ўсё кідаю і проста атрымліваю асалоду. Бо перада мной зьяўляецца не цывілізаваны прэзыдэнт, а старажытны чалавек, які жыў пяць ці дзесяць тысячагодзьдзяў таму. Перад сабою ён бачыць племя, у ягоных вачах бляск вогнішча. І пайшоў душу сваю старажытную паказваць! Адбываецца як бы містыфікацыя псыхалягічнай бітвы з кімсьці.

**М. С.:** Неўзабаве прэзыдэнцкія выбары. Неаднаразова Аляксандар Лукашэнка як заклён паўтарае і паўтарае словы, што другі прэзыдэнт беларускаму народу не патрэбен. Фактычна ён хваліць сам сябе. Але ж у народзе ня любяць самахвалаў. Дык навошта шкодзіць самому сабе?



**У. П.:** А ён прыдумаў хітры спосаб. Лукашэнка ніколі сам сябе ня хваліць. Разыгрываецца спэктакль: ён як бы стаіць збоку і бачыць усіх збоку, разважае пра ўсё таксама збоку – ці пра народ, ці пра супернікаў, ці пра надвор'е жудаснае, ці пра Захад, ці пра Крэмль. І ён сам як бы збоку апісвае падзеі, якія адбываюцца між тым Лукашэнкам, які перад ім, і ўсімі астатнімі. Мы бачым спэктакль у асобах, які ён паставіў. І атрымліваецца, што ён сам сябе ня хваліць. У зборніку, дарэчы, шмат цытат, дзе ён пра сябе ў трэцяй асобе гаворыць.

**М. С.:** Увесь Менск застаўлены і завешаны плякатамі «За Беларусь!». Пад гэткім жа лёзунгам прайшлі па ўсёй краіне канцэрты папулярных выканаўцаў. Але наколькі «За Беларусь!» азначае «За Лукашэнку!»? Ці ўдалося ўладзе зманапалізаваць гэты лёзунг?

**У. П.:** Зьвярні ўвагу на адну рэч. Прыкладна месяц таму Лукашэнка даў інтэрвію беларускім дзяржаўным тэлеканалам. І гаварыў ён там пра сваё галоўнае дасягненьне – усталяваньне незалежнасьці Беларусі. І словы «незалежнасьць» і «сувэрэнітэт» падчас таго інтэрвію ён згадаў каля сарака разоў! У нас Беларусь і стабільная, і спакойная, і багатая, і інтэлектуальная і г. д. Уся гэтая прапаганда накіравана толькі на адно: атаясаміць слова «Беларусь» са словам «Лукашэнка». Да моманту выбараў падмяніць лёзунг «За Беларусь!» лёзунгам «За Лукашэнку!». І я думаю, што ў пэўнай ступені прапаганда дасягае сваёй мэты. Бо супернікі Лукашэнкі падаюцца ёю ж як людзі, што выступаюць супраць Беларусі. Яны, па афіцыйнай вэрсіі, маюць намер, калі прыйдуць да ўлады, прадаць Беларусь ці Захаду, ці Крамлю, ці алігархам. А Лукашэнка – адзіны абаронца сувэрэнітэту і незалежнасьці.

**М. С.:** Калі ён сорак разоў ужыў словы «незалеж-

насьць» і «сувэрэнітэт», значыць, ён усьведамляе іх значнасьць для народу. Дык што яму перашкаджае напоўніць іх адпаведным зьместам?

**У. П.:** Тое, што Лукашэнка часта ўжывае гэтыя словы, зусім ня значыць, што ён усьведамляе іх сапраўдны зьмест для народу. Ён усьведамляе гэты зьмест для сябе. Незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі для яго – гэта незалежнасьць і сувэрэнітэт Лукашэнкі. Проста на дадзеным гістарычным этапе так супала, што, баронячы сябе, сваю ўласную незалежнасьць, ён як сродак вымушаны выкарыстоўваць незалежнасьць Беларусі. Вось так пераплятаюцца ў гісторыі ўласныя інтарэсы і агульнанародныя.

**М. С.:** Патрэбу ў цьвёрдай руцэ, патрэбу ў асобе, якая возьме на сябе адказнасьць за ўсё, можна акрэсьліць тэрмінам «патэрналізм». Наколькі беларусы патэрналісцкі народ? Вунь Янка Купала яшчэ ў 1919 годзе пісаў: «На ўладара жджэ Беларусь даўно...» І рэфрэнам праз увесь верш: «прыйдзі, ўладар! прыйдзі, ўладар! прыйдзі, ўладар!». Патэр, ці бацька, павінен клапаціцца пра сваю сям’ю, свой народ. А Аляксандар Лукашэнка час ад часу заяўляе: гэта *мая Масква*, гэта *мой Ленінград* і нават гэта *мае сэрбы*. Чаму *чужое* – таксама *маё*?

**У. П.:** Для савецкіх беларусаў гэта не чужое. Лукашэнка ў адрозьненьне ад усіх палітыкаў улучна з Пуціным выкарыстоўвае ня толькі старажытныя архетыпы, але і нэаархетыпы, якія склаліся падчас панаваньня савецкай улады. І калі ён кажа *мая Масква* – так, для савецкіх беларусаў гэта *мая Масква*. Бо ў мазгах гэтых беларусаў жыве савецкая імпэрыя, калі ўвесь сьвет быў *наш*. І Лукашэнка працуе на гэтых нэаархетыпах. Калі лідэр абуджае ў людзях пэўны архетып, яны яго сілкуюць, зараджаюць. І тут ужо прыродная здольнасьць патрэбная, каб успрыняць гэтую энэргію масаў. Простай мовай кажучы, лідэр узбуджаецца, проста вар’яцее. Менавіта так падчас выступаў вар’яцеў Гітлер, падобны стан перажывае Лукашэнка. У Гітлеру абуджаўся архетып бога Вотана. Гэта бог буры, штурму, націску. А ў Лукашэнку нярэдка абуджаецца архетып бога Перуна. Праява Перуна, умоўна кажучы, – гэта калі раз на год, у вераб’іную ноч, усе злыдні і нячысьцікі зьбіраюцца на свой сход, лезуць з-пад зямлі, каб абраць сабе кіраўніка. І ў гэты час Пярун б’е іх маланкамі, заганяе назад пад зямлю, бо зьнішчыць зусім ня можа. Вось гэта тыповы архетып Перуна. Паглядзіце, як Лукашэнка ўчыняе публічныя разносы сваім падначаленым – грымоты, маланкі над галовамі міністраў.



**М. С.:** Паколькі гаворка пайшла пра багоў Вотана і Перуна, давай закранем тэму адносінаў дыктатараў да Бога. Лёзунг «Got mit uns – З намі Бог», ён жа шанаваўся і пры Гітлеры. Сталін, хоць і колішні вучань духоўнай сэмінарыі, быў атэістам. Усходнія дыктатары заўсёды дзейнічаюць ад імя Алага. Атрымліваецца, тут няма пэўных заканамернасьцяў?

**У. П.:** Няма. Але прыгадайце паводзіны Сталіна ў першыя месяцы вайны, калі саветы цярпелі паразу за паразай. Архетып сталінскі разваліўся, людзі пераставалі яму верыць. І Сталін зьвяртаецца да Бога, праводзяцца малебны ў храмах, царкве даюцца прывілеі. А ў сёньняшняй Беларусі склалася ўвогуле ўнікальная сытуацыя. Шматканфэсійнасьць паставіла Лукашэнку ў такія ўмовы, што ён нібы трошкі вышэй за самога Бога. Кіруючы канфэсіямі, вылучаючы праваслаўе і г. д., ён нібы бярэ на сябе пэўныя Божыя арганізацыйныя функцыі.

**М. С.:** Яшчэ адзін аспэкт: дыктатар і сям’я. І ў Сталіна, і ў Гітлера, і ў Лукашэнкі сямейныя адносіны ня склаліся. Што, сям’я замінае ўладарыць?

**У. П.:** Для ўладара, для дыктатара самы вялікі сэнс жыцьця – гэта народ. І ўсё, што замінае зносінам з народам (жонка, дзеці і г. д.), павінна быць адсунута ўбок. Дыктатары без усялякай псыхалягіч-

най навукі разумеюць, што яны патрэбныя народу безь сям'і, не прыватызаваныя жонкамі. Паглядзіце на дзяцей Лукашэнкі – сядзяць ціха, як мышы, бо бацька сказаў: ня дай бог высунецеся! Народ ня хоча бачыць паміж сабой і лідэрам кагосьці яшчэ. Лідэр павінен належаць яму цалкам.

**М. С.:** Атрымліваецца, што дыктатура – зьява інтэрнацыянальная. І калі зьяўляюцца спрыяльныя ўмовы, у пэўны час, у пэўным месцы абавязкова мае зьявіцца дыктатар?

**У. П.:** Так. І найпершая ўмова для зьяўленьня дыктатара – народ павінен быць разгублены, у яго мае быць выцерты сацыяльны пласт сьвядомасьці, гэта значыць, узьнікае недавер да ўсіх грамадзкіх і сацыяльных структураў. У народа абуджаецца ніжэйшы пласт мэнталітэту і зьяўляецца чаканьне цудатворцы, ідала-асілка. І яшчэ ёсьць адзін істотны момант. Дыктатар у пэўны момант як бы прыпісвае сабе недахопы народу, дэманструе іх публічна. Самы яскравы прыклад – Лукашэнка размаўляе на трасянцы, як і пераважная бальшыня народу. І вось гэта як цэмэнт змацоўвае любоў народа да дыктатара.

**М. С.:** Аляксандар Лукашэнка выказаўся практычна на ўсе тэмы. Якое ягонае выказваньне магло б быць выкарыстанае як эпітафія дыктатуры ў Беларусі?

**У. П.:** Я прыгадаў бы словы Лукашэнкі, сказаныя 14 сакавіка 2003 году на сустрэчы са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Вось яны: «Што такое Лукашэнка? Гэта маленькая, непрыкметная пылінка. І гэта нават не імгненьне – яго дзейнасьць». Вось такую аўтаэпітафію прыдумаў Лукашэнка сам сабе.



*Алесь Пушкін –*
мастак. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. 25 сакавіка 1989 году зладзіў першы беларускі пэрформанс, прысьвечаны Дню Волі. Займаўся росьпісамі храмаў. У 1993 годзе адкрыў у Віцебску першую ў краіне прыватную мастацкую галерэю «У Пушкіна», дзе праходзілі значныя культурна-грамадзкія акцыі. Уваходзіў у БНФ. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Бобр на Крупшчыне, дзе і жыве.

## *Алесь Пушкін:* «Уладзе сорамна за свае дзеяньні»

***2 красавіка 2006 году***

*Гэта быў сапраўдны хапун. Цягам аднаго тыдня, з 19 да 25 сакавіка 2006 году, у Беларусі было арыштавана больш за 500 чалавек. Людзей забіралі з хатаў, з працы, затрымлівалі проста на вуліцы. «Асабліва небясьпечных» арыштоўвалі прэвэнтыўна. Улада асьцерагалася, каб пасьля абвяшчэньня вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў людзі масава ня выйшлі на акцыі пратэсту і не падпалі пад уплыў гэтых самых «асабліва небясьпечных». У іх ліку апынуўся і мастак Алесь Пушкін, які жыве ў мястэчку Бобр Крупскага раёну і ў гэтыя неспакойныя дні не зьбіраўся арганізоўваць паспалітае рушаньне землякоў-бобраўцаў на сталіцу.*

**Міхась Скобла:** Алесь, апошні год ты больш часу праводзіш за мальбэртам. За што ж цябе арыштавалі?

**Алесь Пушкін:** Пачну з таго, што мы зь сям'ёй вырашылі ня браць удзелу ў галасаваньні і не ісьці на выбарчы ўчастак у дзень выбараў. 18 сакавіка да мяне дамоў прыехалі начальнік аховы грамадзкай бясьпекі Крупскага РАУС маёр Мікалай Макарэвіч і опэрупаўнаважаны па крымінальным вышуку Валеры Костачка. Яны пасадзілі мяне ў машыну, сінюю, зь мігалкамі, і павезьлі ў Крупкі. Там начальнік РАУС падпалкоўнік Уладзімер Пагуда паказаў мне два пратаколы. У іх было запісана, што грамадзяне мястэчка Бобр, ловячы рыбу на супрацьлеглым ад маёй хаты беразе ракі, чулі, як я гучна размаўляў па тэлефоне зь нейкім Сьцяпанам Сухарэнкам, лаяўся на яго матам, пагражаў узрываць школы, кідаць пацукоў у водаправоды і выказваўся, як



запісана ў пратаколе, дзіўным словам «супастат». Я выслухаў і падзякаваў міліцыянту за тое, што хоць убачу тых стукачоў, якія гэтую бязглузьдзіцу панапісвалі. Адзін зь іх – Сойка Іван Пятровіч, 1948 году нараджэньня, беларус.

**М. С.:** Гэта твой сусед?

**А. П.:** Так, праз раку жыве. Потым я яго пабачыў на судзе. І ён, гледзячы ў падлогу, пацьвердзіў, што ўсё так і было. Засунулі мяне, кажучы на іхным слэнгу, у «абязьяньнік» – сьледчы ізалятар. І сядзеў я там з 18 да 20 сакавіка. Потым адбыўся суд, на якім судзьдзя Вольга Хома пакарала мяне штрафам 31 000 рублёў.

**М. С.:** Давай вернемся да твайго суседа. Беларускія сяляне даносілі на інсургентаў у 1864-м, высочвалі слуцкіх паўстанцаў у 1920-м, дапамагалі МГБ лавіць беларускіх дывэрсантаў у 1952-м... Як ты лічыш, сёньня магчымая падобная сытуацыя?

**А. П.:** Ня толькі магчымая, гэта ўжо рэальная сытуацыя. Дастаткова аднаго загаду зьверху – і пачнецца... Калі дзяржава дасьць адмашку, гэтыя людзі, якія дзесяць гадоў стаялі поруч з табой у царкве і дапамагалі табе вазіць дровы, заўтра скажуць: так, ён вораг, ён фашыст, ён будзе паказваць ліхтарыкам натаўскім самалётам, дзе бамбіць, і адчыніць вароты натаўскім танкам.

**М. С.:** Гэта ж страшна. Гэта ж найгоршае, што можа быць.

**А. П.:** Тут я думаю пра тое, якую адказнасьць бярэ на сябе начальства, правакуючы ў людзях такую брыдоту. А што робіць Беларускае тэлебачаньне? Напярэдадні выбараў яно паказала фільм «Духоўная вайна». І бабулі ў царкве мне казалі: «Ну от, Саша, уключылі тэлевізар, думалі паглядзець духоўную перадачу, а там цябе, супастата, убачылі. Дык і ты супраць нашага прэзыдэнта?! І партрэт Джахара Дудаева намаляваў...» Я кажу ім: «Бачыце, і я “к злодеям причтён”».

**М. С.:** Сёньня можна пачуць папрокі тым ці іншым апазыцыйным палітыкам: не скарысталі наяўных сілаў ці, наадварот, пайшлі на непатрэбныя сутыкненьні. А ў якое канструктыўнае рэчышча можна было скіраваць 30-тысячны натоўп?

**А. П.:** Ня толькі 30-тысячны натоўп. Беларускі народ падымаецца. Энэргія масаў, энэргія моладзі, пратэставы электарат – у наяўнасьці. Нягледзячы на запалохваньні, на ўсю масавую прапаганду, людзі з прыходам вясны падняліся. У наяўнасьці добрыя рысы нашага жывога грамадзтва. Адчуваецца прага пераменаў. Як гэта скарыстаць? Трэба ведаць, што ў нас ніколі ня будуць дзейнічаць тэхналёгіі Заходу. Беларускі лідэр мусіць абапірацца на ўласна беларускія сродкі, на свае беларускія структуры, назавём гэта беларускай самапомаччу. Ён павінен мець чыстую біяграфію, не павінен быць помсьлівым, як адзін з кандыдатаў, каторага выпіхнулі з той лыжні, на якой ён бутэлькі адкаркоўваў. Ня трэба энэргію помсты накіроўваць на палітычнае змаганьне. Трэба зарабляць грошы, складвацца і рабіць палітычную партыю, вылучаць чыстага, нармальнага, маладога лідэра.

**М. С.:** Калі на менскіх вуліцах пачуліся выбухі, нам на радыё патэлефанаваў слухач і роспачна заявіў, што пачалася грамадзянская вайна. А ў цябе не было падобнага адчуваньня?

**А. П.:** Не, я ведаў, што гэта запалохваньне. Страляніна газавымі гранатамі дае дымавую заслону, дае спалох людзей, такая мэтодыка прадумваецца загадзя. Памятаеш 25 Сакавіка 2000 году? «Бэтээры», салдаты з сабакамі каля ЦУМу... Гэта ўсё для таго, каб запалохаць людзей. І сёлета было тое самае. Адзінае, што мяне насьцярожыла, – супрацьстаяньне розных сэгмэнтаў грамадзтва дасягае небясьпечнай рысы. Сапраўды, у нашым мірным грамадзтве распачаўся чарговы вітокнянавісьці, гэта жахлівая сытуацыя! Не на Акрэсьціна трэба было ісьці, а да расейскай амбасады.



**М. С.:** Алесь, я ведаю, ты – уцаркаўлёны чалавек, наведваеш царкву і супрацоўнічаеш як мастак з рознымі канфэсіямі. Давай пагаворым пра ролю ў сакавіцкіх падзеях Беларускай праваслаўнай царквы. Што гэтая тэма хвалюе грамадзтва, засьведчылі і шматлікія званкі на Радыё Свабода. Давай паслухаем адзін зь іх, запісаны аўтаадказьнікам 30 сакавіка.

**Спадар:** Хачу сказаць некалькі словаў пра ролю Праваслаўнай царквы і Філярэта ў падзеях пасьля выбараў. Каб вызначыць пазыцыю Філярэта, трэба згадаць, што пасьля ўручэньня Пуціным узнагароды Філярэту апошні сказаў: «Служу Расеі!». У гэтых словах уся ягоная сутнасьць. Ён жа сапраўды служыць Расеі, як і ўся Праваслаўная царква. У нас няма сваёй царквы, а ёсьць Беларускі экзархат – структура Расейскай праваслаўнай царквы. Замяніце Філярэта другім чалавекам – і ён будзе служыць Расеі. Каб Праваслаўная царква служыла Беларусі, трэба мець сваю аўтакефальную, незалежную ад Расеі і ад Расейскай царквы Праваслаўную царкву. Лукашэнка пасьлядоўна, прадумана, крок за крокам зьнішчае ўсё беларускае, а Філярэт забясьпечвае духоўны бок усёй гэтай справы. Так абодва служаць Расеі і карыстаюцца яе падтрымкай. І крыўдзіцца на Філярэта і Праваслаўную царкву ня трэба, неабходна проста разумець іх сутнасьць.

**М. С.:** Вось такі голас народу. Што скажаш на гэта, Алесь?

**А. П.:** Я слухаў камэнтар па БТ айца Фёдара Поўнага, які саркастычна называў сьвятароў беларускай народнай царквы, што стаялі побач зь мітынгоўцамі на Кастрычніцкай плошчы, самазванцамі. Маўляў, іх япіскапы ў Нью-Ёрку, у Амэрыцы, таму яны прадажныя. Але ён не сказаў, што на плошчы стаяў і ўніяцкі сьвятар з Воршы айцец Андрэй. Ён прастаяў першую ноч на марозе акурат у ачапленьні, дзе

было хіба найцяжэй. Ён нёс свой крыж з народам. А што да нашай афіцыйнай Праваслаўнай царквы... Я раскажу, што ў нашым прыходзе адбываецца. Для бобраўскага храму я зрабіў два абразы, тры месяцы працаваў. Напісаў апостала Яна і Маці Божую, якая стаіць каля ўкрыжаваньня. Напярэдадні выбараў я далажыў аб заканчэньні працы свайму сьвятару айцу Віктару. Сьвятар разам са старшынёй царкоўнага камітэту прыйшлі і прынялі маю працу – яны былі задаволеныя. Але потым я трапіў у пастарунак. Дык цяпер сьвятар баіцца забіраць абразы. Чаму так? Бо, як я думаю, гэты чалавек не свабодны. Ён мне і сам гаварыў: «Аляксандар, у царкве не працуюць, а служаць». Але ня ўсе сьвятары такія. Я ўспамінаю сьвятара Георгія Бортніка з Глыбоччыны, чый партрэт цяпер пішу. Ён быў расстраляны савецкай уладай у 1951 годзе, па сутнасьці, за тое, што размаўляў зь вернікамі па-беларуску, за тое, што дапамагаў Беларускай незалежніцкай партыі. Уладу не спыніла нават тое, што ў яго былі маленькія дзеткі. Так што былі сьвятары, якія падзялялі і радасьць, і бяду з народам. Ёсьць яны і сёньня.

**М. С.:** А што ты як праваслаўны вернік адчуў, калі пабачыў царкоўны ордэн на грудзях камандзіра СОБРу Паўлічэнкі?

**А. П.:** Вельмі складана гаварыць пра Беларускі экзархат РПЦ. Але я не выбіраў гэтае царквы. Спрадвеку мая бабуля, мая маці, мой бацька былі яе прыхаджанамі. Я ўцаркаўлёны чалавек, хаджу і малюся Богу ў бобраўскую царкву. Але мне вельмі цяжка цалаваць руку сьвятару, які дае мне крыж. Бо я вельмі ясна бачу, што гэта рука ўлады. А цалаваць руку ўлады мне ня хочацца. Але ж царква ёсьць жывым арганізмам, які складаецца зь людзей. А яны могуць памыляцца. Да таго ж Бог дае папушчэньні дзеля выпрабаваньня чалавека. Памятаеш, спачатку царква ўзнагародзіла Лукашэнку ордэнам Сьвятой Эўфрасіньні. А потым сьвецкая ўлада дала Філярэту званьне Героя Беларусі. Такі абмен. Таму і ня дзіўна, што царкоўныя ўлады ўзнагародзілі ордэнам роўнаапостальнага Сьвятога Ўладзімера абаронцу ўлады Паўлічэнку. І не выпадкова ордэн гэты носіць імя чалавека, які праліў столькі крыві, – князя Ўладзімера! Так, ён забіваў, але ён выканаў сваё містычнае пакліканьне: ён «увергнуў» нашыя землі ў правільную веру. І мне здаецца, што ў выпадку з Паўлічэнкам царкоўныя ўлады ўзнагародзілі ваеннага чалавека не выпадкова. Гэтым яны падкрэсьлілі два моманты. Момант першы: Паўлічэнка ёсьць уцаркаўлёным чалавекам – неўцаркаўлёным такія ўзнагароды не даюць. Момант другі: царква разглядае Паўлічэнку як абаронцу, як архістраціга, як Георгія Перамоганосцу, які стаіць на варце славянскіх праваслаўных каштоўнасьцяў.



**М. С.:** Пра якія каштоўнасьці ты гаворыш? Паўлічэнка даваў каманду на зьбіцьцё людзей, якія трымалі ў руках крыжы.

**А. П.:** Гэта сапраўды так. І, я думаю, гэта вельмі цяжка перажываецца самім Паўлічэнкам. Я дакладна ведаю, што яго пакінула першая жонка, ад яго адхінуліся многія сябры. Гэта сьведчыць, што нават самыя блізкія яго не разумеюць. Але ён выбар свой зрабіў. Ён будуе храм.

**М. С.:** У гэткім разе амаль кожны старшыня калгасу мае права на царкоўны ордэн. Бо сёньня амаль у кожным калгасе паўстаў ці новазбудаваны храм, ці адноўлены.

**А. П.:** Ну, што тут сказаць... Паспрабуй зірнуць на іхнія паводзіны зь іхніх жа пазыцыяў. Напэўна, вядзецца духоўная «брань», і ў гэтай духоўнай «брані» дзейнічаюць воіны. У дадзеным выпадку з боку дзяржавы ёсьць воін Дзімітрый, якому кананічна Праваслаўная царква падала знак: ты – наш абаронца. І, між іншым, гэта вельмі важна: ордэн гэты шмат ад чаго вызваляе Паўлічэнку, пазбаўляе яго ад згрызотаў сумленьня, цяжкіх думак, сораму.

**М. С.:** Пратэставы электарат, нават калі меркаваць паводле афіцыйных лічбаў Цэнтарвыбаркаму, у многія дзясяткі разоў перасягае колькасьць людзей, што выйшлі на вуліцу. Чаму людзі працягваюць абурацца на кухні?

**А. П.:** Людзі хочуць пераменаў. Беларускі народ дрэнны ў тым пляне, што лёгка паддаецца афіцыйнай прапагандзе. Прапаганда дапамагае праявіцца вельмі брудным рысам характару беларуса. Тым, пра якія пісаў Васіль Быкаў у сваіх творах – і ў «Жоўтым пясочку», і ў «Сотнікаве». Пытаньне маральнага выбару перад беларусамі гэтай вясной зноў паўстала. Ёсьць дабро і зло. Дзяржава асабіста для мяне атаясамліваецца са злом. Але ўладзе сорамна за свае дзеяньні. Міліцыянтам у маёй хаце было сорамна, яны чырванелі. Падпалкоўніку міліцыі было сорамна паказваць фальшывыя пратаколы. Стукачу было сорамна, ён вачэй ад зямлі не падняў. Судзьдзя сарамліва прызначыла мне штраф 31 000 рублёў, хоць магла даць і 600 000.

**М. С.:** Пра сорам улады падумаў і я, калі ішоў на запіс сёньняшняй перадачы. Сустрэў паблізу Адміністрацыі прэзыдэнта аднаго даволі высокага чыноўніка. У пахмурнае надвор'е ён быў у непранікальных чорных акулярах. І вылез ён з аўто з зацемненымі вокнамі. Але ці ўладзе бывае сорамна?

**А. П.:** І ва ўладзе –– жывыя людзі. Я назіраў, як паводзіў сябе начальнік Крупскага РАУС падпалкоўнік Уладзімер Пагуда. Ён родам з Маладэчна, ён шчыра любіць беларускую мову. Яму было сорамна, і ён, выдаючы мне даведку, нэрваваўся, нарабіў памылак, замест слова «справка» напісаў «спрака». Падмаладзіў мяне на некалькі гадоў. У яго дрыжалі рукі. Той жа маёр Макарэвіч, калі мяне арыштоўваў, таксама чырванеў. Бо ён забіраў не злачынцу, які кагосьці з дубальтоўкі застрэліў, а мастака. Дарэчы, я тады запісаў іхнія прозьвішчы і перадаў жонцы. А потым узяў на рукі двухгадовага сына Міколку і паказаў яму на міліцыянэраў: «Сыне, гэта ворагі! Яны здрадзілі Беларусі! Адпомсьці за тату, калі яго не выпусьцяць!» Маёр стаў чырвоны, нібы рак, і разгублена запытаўся: «Аляксандар Мікалаевіч, вы навошта дзіця настройваеце супраць міліцыі?» А я кажу: «Хіба ж гэта няпраўда? Вам жа сорамна! За што вы мяне арыштоўваеце?» І ён змоўчаў.



**М. С.:** Часам людзі сьмяюцца з улады, зь яе нехлямяжасьці, неадукаванасьці. Але ж спрадвеку казалі ў народзе: чужы дурань – сьмех, а свой дурань – грэх. У нас жа ўлада ня прышлая, не прысланая аднекуль, а свая.

**А. П.:** Калі я па тэлевізары назіраю за разгонам дэманстрацый у Расеі ці Парыжы, то ўнутрана застаюся спакойным. А тут мне балюча. Я ня ведаю, як мне ў сваім мястэчку Бобр далей жыць. Як дамагчыся таго, каб гэтыя людзі, калі ім дадуць злачынны загад, прыйшлі і сказалі: «Алесь, мне загадана цябе арыштаваць, але я сарваў пагоны і кінуў!» Ці прычакаю я таго часу, калі мой сусед, якому загадаюць падпісаць пратаколы на мяне – «тэрарыста», катэгарычна скажа: «Я ніколі гэтага не зраблю, бо я люблю нашага адзінага мастака». Вось якая цяпер асноўная для мяне праблема. А пакуль вера мне адно падказвае: «Зло дабром перамагай!»

**М. С.:** Аднак, твае пэрформансы часам правакуюць канфлікты. Я прыгадваю, як ты нацкоўваў на міліцыянтаў аўчарку...

**А. П.:** Той пэрформанс быў прысьвечаны тэме калябарацыянізму ў гады Другой сусьветнай вайны. Я зладзіў сваю акцыю пад назвай «Жаўнер удачы» паміж рэстарацыяй «Папараць-кветка» і Чырвоным касьцёлам. Я ўзяў нямецкую аўчарку па мянушцы Ганс, апрануўся ў форму, якую насілі жаўнеры беларускіх нацыянальных фармаваньняў у гады вайны, узяў лялькі дзіцячыя, узяў 3 мэтры 70 сантымэтраў белай тканіны, а таксама белую і чорную фарбы. Дзея пачалася пад музыку з альбому «Mutter»

нямецкага гурту «Rammstein». Я намаляваў беларускую васьміканцовую зорку, потым зьявілася аўчарка і пачала нешта вынюхваць. Нарэшце яна знайшла партрэты беларускіх генэралаў Усевалада Родзькі і Міхася Вітушкі. Іх лёсы надзвычай складаныя. Гэта людзі, якімі мы павінныя ганарыцца, але дзякуючы каланіяльнай палітыцы беларускіх уладаў, іх дзейнасьць ужо 57 гадоў замоўчваецца, хоць у спэцсховах КДБ да гэтай пары захоўваюцца іх асабістыя справы. Родзька і Вітушка стваралі Беларускую незалежніцкую партыю. І вось Ганс знайшоў іхнія партрэты...

**М. С.:** А аўчарка Ганс выконвала ролю фашыста?

**А. П.:** Ня буду тлумачыць, тут кожны павінен сам разьбірацца. Узяўшы лялькі, я пайшоў купаць іх у басэйне, а пакупаўшы, роўненька расклаў іх перад партрэтамі. На прасьцірадле зьбіраўся напісаць лёзунг «Слава героям!», які дзьве студэнткі з Коханава, Воля і Галя, павінны былі падняць над галовамі. Яшчэ дзьве дзяўчыны несьлі б партрэты Родзькі і Вітушкі. Мы меліся прайсьці па праспэкце Скарыны, які ў той сьвяточны дзень стаў пешаходнай зонай, да плошчы Перамогі. Бо, на маё перакананьне, лёсы Родзькі і Вітушкі наўпрост зьвязаныя з вызваленьнем Беларусі ад немцаў. Але ўжо праз 10 хвілінаў да мяне падышоў ахоўнік правапарадку, лейтэнант, і папярэдзіў, што выклікае нарад міліцыі, паколькі мае дзеяньні ніяк не зьвязаныя са сьвяточным плянам мерапрыемстваў у горадзе. Неўзабаве зьявіўся і нарад, які загадаў мне сабраць усе свае рэчы. Я адмовіўся падпарадкоўвацца і пачаў нацкоўваць Ганса на міліцыянтаў...

**М. С.:** А гэта ўжо сур'ёзна. Як рэагавалі міліцыянты?

**А. П.:** Я ледзь пасьпеў падняць угару партрэты генэралаў і крыкнуць: «Людзі! Памятайце аб подзьвігу Ўсевалада Родзькі і Міхася Вітушкі! Слава героям!» У мяне з рух выбілі партрэты, перакулілі фарбу, якая расьцяклася па ходніку і па чаравіках міліцыянтаў. Я супраціўляўся, як мог, пакуль мяне не запіхнулі ў варанок. Такім чынам, той пэрформанс не ўдалося завершыць.



**М. С.:** Як ні дзіўна, тады суд апраўдаў цябе. Хоць твае дзеяньні можна было кваліфікаваць як злоснае хуліганства.

**А. П.:** Мне здаецца, што яны ўсе ў той час былі разгубленыя. Бо ў той жа вечар быў зварот грамадзкасьці да Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, яна зьвярнулася ў АБСЭ, а адтуль паступіў адпаведны ліст у беларускае МЗС. Апрача гэтага, каля МЗС стаяў пікет з патрабаваньнем: «Свабоду Пушкіну!». Так што і на гэты раз мяне выратавалі журналісты. Чацьвертая ўлада...

**М. С.:** Я ведаю пра твой намер стварыць перасоўную выставу забароненых у Беларусі твораў і паказаць іх у Эўропе. Ці шмат такога мастацтва табе ўдалося сабраць?

**А. П.:** На працягу апошніх шасьці гадоў назапасілася дастаткова фактаў умяшаньня цэнзуры ў мастацкае жыцьцё – у жывапісе, у тэатры, у музыцы, у кінаматографе. Прыкладам, з выставаў суполкі «Пагоня» шторазу зьнімалася шмат твораў, забараняліся фільмы Хашчавацкага, выступы Касі Камоцкай і Лявона Вольскага, пастаноўкі опэраў Уладзімера Солтана ў свой час тармазіліся. Многія помнікі так і не былі ўсталяваныя. Усе гэтыя факты мной сабраныя. І летась адбылася выстава ў сталічнай галерэі «Золата», якая мела назву «Забаронена цэнзурай». Мне хацелася выдаць каталёг тае выставы – агулам там сабрана два дзясяткі твораў. Мы хочам паказаць «Забаронена цэнзурай» у Маскве, Беластоку і Варшаве. У гэтай справе мне паабяцаў дапамогу праваабарончы цэнтар «Вясна» і яго кіраўнік Алесь Бяляцкі. Увесь гэты праект быў прымеркаваны да Дня правоў чалавека.

**М. С.:** У адной зь мінулых перадачаў мастак Тодар Копша гаварыў, што творца, адмаўляючы, робіцца залежным ад аб'екту свайго адмаўленьня, як, дарэчы, і ўсхваляючы. Такім чынам, атрымліваецца, што, прыкладам, «Ліст беларускага народа вялікаму Сталіну» і сучасная пародыя-інсталяцыя на Лукашэнку – творы роднасныя і небясьпечныя найперш для самога аўтара. У цябе няма такога адчуваньня?

**А. П.:** Вельмі спакусьлівая сёньня тэма ўладара і мастака. Гэта відно па пэрформансах і Маладога Фронту, і «Зубра», і газэты «Навінкі». І можа стацца, што ты, падымаючы гэтую тэму, можаш стаць карлікам, а той, каго ты высьмейваеш, будзе героем. Таму лепей за ўсё рабіць так, як рабілі мудрыя кадэбістыбальшавікі: не заўважаць, не пісаць, не складаць, не маляваць... Але тэма ўладара і яго адказнасьці ўсё ж цікавіць мастакоў. У мяне два такія творы – фрэска «Судны дзень» у бобраўскай царкве, дзе ў гурце грэшнікаў намаляваны чалавек, падобны да сёньняшняга кіраўніка дзяржавы, а таксама пэрформанс «Вазок гною для прэзыдэнта»... Мне здаецца, што пасьля падзеяў 11 верасьня, пасьля палестынскай інтыфады людзі зусім па-іншаму глядзяць на таго мастака-камікадзэ, які замест тачкі толу прыцягнуў да рэзыдэнцыі тачку гною. Той мой пэрформанс выглядае ўсё больш гумарным і сьмешным: ну, прышпілілі цябе віламі да кучкі гною – нікуды ў гісторыі ты ўжо ня дзенесься... Сьвет не ўспрымае тэрарызм, не ўспрымае нават геройскія ўчынкі, калі яны гвалтоўныя, хоць і маюць высакародныя мэты.

**М. С.:** На адным са сваіх пэрформансаў ты косіш ружы: звычайнай касой звычайныя расквітнелыя ружы. Дзея гэтая выглядае як забойства – жывыя ж кветкі. Існуе легенда, быццам Мікелянджэлё закалоў на крыжы натурніка, каб больш дакладна паказаць на палатне пакуты Хрыста. У сучасных



пэрформансах шмат гульні са сьмерцю, часта выкарыстоўваюцца вобразы катафалка, шыбеніцы, кагосьці ў труне носяць-выносяць. Няўжо толькі падобным мастацтвам можна крануць сёньня людзкія душы?

**А. П.:** Вельмі сур'ёзнае пытаньне. Так, на фэстывалях пэрформансу заўважаецца цяга да сьмерці – тут можна прыгадаць творы Зьмітра Вішнёва, Юрася Барысевіча, Лявона Вольскага, Віктара Пятрова, Ігара Кашкурэвіча. Але трэба адыходзіць ад гэтай тэматыкі. Думаю, што дастаткова касіць касою ружы, якія прарасьлі праз чорныя сходы (гэта быў пэрформанс «Няміга»). Жыцьцё ж квітнее навакол, сьмерць сухая, а жыцьцё буяе. Вечная памяць цяжкому мастацтву, стагнацыі, трунам, ружам і косам! Жыве мастацтва сонечнае, маладое, як мёд залацісты!

**М. С.:** Ты ў сваіх пэрформансах бязьлітасна эксплюатуеш сваё цела. Гэтак у творы пад назвай «Фэнікс Беларусі» ты сам сябе падпальваеш, у пэрформансе «Язафат Кунцэвіч» ты плывеш у чаўне па зімовай зьледзянелай Дзьвіне, а ў пэрформансе «Зь мінуўшчыны» выліваеш на палатно 300 грамаў уласнай крыві... Гэта ўжо нават не экстрым, а пагроза жыцьцю. Хіба мастацкі вобраз, здабыты, створаны з пагрозай для жыцьця, больш каштоўны?

**А. П.:** Мае дзеяньні ня трэба разумець як мазахізм. Маўляў, хтосьці сьцябае сябе плёткай, а вось Пушкін зь мянтамі валтузіцца, кроў сабе пускае і ходзіць па Віцебску босым у васьміградусны мароз. Не. Я – праваслаўны артадокс. І гэта ляжыць у аснове таго, што я не шкадую сябе. Бо сказана ў Бібліі: «Пакутамі амыюся і пакутамі абялюся». Мне больш паверацць, калі я буду ісьці босым па сьнезе і лягу сам, а не пакладу манэкен ці падсьцялю саломкі там, дзе трэба паваліцца. Мне раілі прагматычныя людзі: навошта табе ўласная кроў? Купі на рынку кроў для крывяных каўбасаў і зробіш той самы пэрформанс.

Я не пагадзіўся, бо гэта быў бы падман гледача. Калі на творы кроў аўтара, зусім іншы канцэптуальны акцэнт узьнікае.

**М. С.:** Ведаю, што ты ня першы год вядзеш змаганьне за тое, каб у тваім Бабры была беларуская школа. Сёньня яна – расейскамоўная. У такую школу ты гатовы аддаць свайго сына?

**А. П.:** Канфлікт з адміністрацыяй школы ў мяне працягваецца. Дырэктарам там Шэкун Яўгенія Аляксееўна – жонка ваеннага, вядомы кантынгент. Яна люта ненавідзіць беларускую мову і культуру. Але я рыхтуюся аддаць свайго сына ў Бобраўскую школу. Чаму? Таму што пасаваць перад гэтай навалай нам ні ў якім разе нельга. Мой сын павінен расьці дужым, сьмелым і беларускім чалавекам. Ён пойдзе ў гэтую расейскую школу, і ён будзе адзіным вучнем, каго там будуць вымушаныя навучаць па-беларуску. Таму што гаспадарамі гэтай зямлі заўсёды будзем мы. Мой Міколка ў шостым пакаленьні прапісаны ў Бобраўскім сельсавеце... Па школьнай праблеме я напісаў афіцыйны ліст старшыні Менскага аблвыканкаму Мікалаю Фёдаравічу Дамашкевічу. Адказ прыйшоў на расейскай мове, і нічога новага там я не знайшоў, так, чарговая адпіска. Я думаў, што ў сувязі з новымі беларуска-расейскімі адносінамі ў Беларусі можа зьнікнуць і вядомая каляніяльная трыяда Мураўёва: расейскі поп, расейскі чыноўнік і расейская школа. Але не! Як вынікае з адказу, расейская школа ў нас у мястэчку будзе, расейскі поп у нас будзе. А замест расейскага чыноўніка – манкурты сваёй гадоўлі, якія, як і Шэкун, ненавідзяць усё беларускае.

**М. С.:** Ты – уцаркаўлёны чалавек, праваслаўны. Твая рэлігія прапаведуе пакору, зьмірэньне. Ты ня хочаш зьмірацца?

**А. П.:** Не хачу. І прыгадваю ў падобных выпадках словы Сергія Раданескага, адрасаваныя князю Дзьмітрыю Данскому: «Калі ў цябе будуць патрабаваць золата, каштоўныя рэчы – аддай. Калі будуць вымагаць коней і жывёлу – аддай. Але калі запатрабуюць душу – паўстань, ідзі вайной і пераможаш!». Гэтага запавету трэба сёньня прытрымлівацца праваслаўным беларусам.



**М. С.:** Ты маляваў абразы, а цяпер іх аднаўляеш. Што цяжэй?

**А. П.:** Лягчэй адрэстаўраваць стары, чым напісаць новы. Аднаўляць абразы – гэта зусім іншы працэс. Драпіны, пашкоджаньні, адставаньне фарбы, ляўкаснага слою... Я акуратна ўсё заклейваю адмысловай заклейкай, падводжу новыя грунты, умацоўваю фарбу, зьнішчаю шашаль, які патачыў дошку. Ад гэткага занятку спакайнее душа. А вось новы абраз напісаць – гэта больш складана. Трэба час, настрой адпаведны. Скажам, за апошнія гады мяне некалькі разоў арыштоўвалі, як я мог пісаць абразы? Пасядзіш тры дні ў адной камэры з дэбіламі і п’яніцамі, потым выйдзеш, яшчэ зь міліцыянтамі палаесься («Што вы маскалям служыце?») і што – пачнеш маляваць лік Багародзіцы?! Не, вядома ж.

**М. С.:** Дык як табе ўдаецца ў сёньняшніх умовах захоўваць душэўную раўнавагу, неабходную для часіны перад мальбэртам?

**А. П.:** Галоўнае – гэта своечасова зрабіць свой выбар. Калі мне аднойчы патэлефанавалі з «Комсомольской правды» і сказалі, што ў аднаго палітоляга – юбілей, «а ён вельмі любіць Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, і было б вельмі прыкольна, каб партрэт юбіляра зрабіў менавіта Пушкін». Пра гэта, маўляў, можна напісаць у суботняй «Камсамолцы» з накладам дзьвесьце тысячаў асобнікаў. А вам мы, маўляў, заплацім добры ганарар – 850 даляраў. Я папрасіў тры дні на роздум. Параіўся з жоначкай. І прыйшоў да такога выніку. Калі я пісаў Васіля Быкава, калі я пісаў Міхала Вітушку, Усевалада Родзьку, ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, то мне нельга пісаць таго палітоляга. І калі мне зноў

патэлефанавалі з «Камсамолкі», я сказаў ім сваё прынцыповае «не».

**М. С.:** Ты – вольны мастак, мастак нон-канфарміст і адначасова – мастак пасьпяховы, што рэдка бывае. У чым сакрэт твайго посьпеху?

**А. П.:** Па-першае, ты павінен прыняць адназначнае рашэньне: каму ты служыш? Ісьціне, свабодзе ці хлусьні, страху і крывадушнасьці. Па-другое, трэба мець сьціпласьць у жыцьці, не раскашаваць. І тут я вельмі ўдзячны сваёй жоначцы Яніне, яна ад мяне раскошы побытавае не патрабуе. І па-трэцяе, ты павінен жыць са сваім народам. Калі гэты народ культурны, ён пракорміць свайго мастака. Я ўпэўнены, што беларускі хлопец, які мае «джып» і добра прадае кампутары, рана ці позна захоча павесіць у сваёй хаце карціну Пушкіна.

**М. С.:** У цябе інтэнсіўнае, насычанае жыцьцё. Што праўда, падзеі ў ім пачынаюць паўтарацца. Стварыў – паказаў – арышт – суд. Стварыў – паказаў – арышт – трое сутак. Рамантыка... Цябе не бянтэжыць тая акалічнасьць, што ўлада ўвесьчасна ўмешваецца ў тваю творчасьць?

**А. П.:** Не бянтэжыць. Я спадзяюся, што час стагнацыі хутка скончыцца, і грамадзтва з разуменьнем будзе ставіцца да мастакоў. Закончацца і мае арышты, суды і суткі, якія мне вельмі не падабаюцца, бо цягнуць за сабою абмежаваньне свабоды. З-за таго, што быў асуджаны, я ня змог выехаць у ЗША, дзе ў Кліўлэндзе павінен быў расьпісваць беларускую царкву, ня быў выпушчаны ў Польшчу для ўдзелу ў выставе. Мне вельмі хочацца выстаўляцца ў Нацыянальным мастацкім музэі, у Палацы мастацтва. Праўда, я не хачу, каб чыноўнік з Саюзу мастакоў зьнімаў мае працы... Але я ведаю цьвёрда: сын паліцая, які вазіў тачку гною Лукашэнку, пры цяперашняй уладзе ня будзе прызнаны афіцыйна. Што ж, у свабоднага мастака праблемы з уладай будуць заўсёды.



*Генадзь Лойка –*

скульптар. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Музэі народнага дойлідзтва і побыту, у Заслаўскім гісторыка-культурным запаведніку, у Мастацкім каледжы імя І. Ахрэмчыка, у Менскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Мікелеўшчына на Мастоўшчыне. Жыве ў Менску.

## *Генадзь Лойка:* «Пясок разьвейваецца – легенды застаюцца»

***14 траўня 2006 году***

*«Абуджэньне Рагнеды», «Магіла льва», «Скуты Кейстут». Гэтыя творы мастацтва найлепш аглядаць з вышыні птушынага палёту. Стоячы побач, агледзець іх складана – настолькі яны вялікія. Да таго ж скульптуры гэтыя недаўгавечныя, бо зробленыя з самага нетрывалага матэрыялу. З 2000 году ў Беларусі ладзяцца пленэры пяшчанай скульптуры пад назвай «Легенда зь пяску». Велічныя постаці беларускай гісторыі, не знайшоўшы свайго ўвасабленьня ў помнікавай бронзе, паўстаюць там, дзе ёсьць пясок і вада. Дзеля гэтага выкладчык скульптуры менскай СШ № 185 Генадзь Лойка ўлетку перабіраецца з майстэрні ў пяшчаныя кар'еры.*

**Міхась Скобла:** Генадзь, ты – выпускнік скульптурнага аддзяленьня Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Трэба думаць, што ў акадэміі цябе вучылі ляпіць з рознага матэрыялу, але толькі не зь пяску. Як узьнікла ідэя працаваць менавіта зь пяском?

**Генадзь Лойка:** Ідэя ўзьнікла, калі мае вучні праходзілі чарговую летнюю практыку. Пясок – добры матэрыял, зь яго можна рабіць вялікія скульптуры. Прычым вельмі хутка. Пясок – ня газасылікатны блёк, які таксама добра рэжацца, але вельмі непрывабны з эстэтычнага гледзішча. А тварыць зь пяску так натуральна, хоць ён даволі свавольны матэрыял, рассыпаецца, трэба своечасова з вадой перамешваць. Спачатку я хацеў вывезьці дзяцей на які-небудзь пляж у ваколіцах Менску. І тут раптам успомніў, што ў Заслаўі – цэлыя пяшчаныя кар'еры. Мы паехалі туды – і «адкапалі» Рагнеду на тры з



паловай мэтры! А ў 2000 годзе якраз спаўнялася тысяча гадоў, як Рагнеда памерла. І мы вырашылі адмысловы пленэр правесьці. А ўвогуле, за пяць мінулых гадоў мы зладзілі пяць пленэраў: у Заслаўі, Магілёве, Навагрудку (двойчы) і ў Крэве.

**М. С.:** Хто твае паплечнікі і памочнікі? Бо гэта ж цяжкая фізычная праца: часам трэба перакінуць зь месца на месца дзясяткі тон пяску.

**Г. Л.:** Так, сапраўды, праца вельмі цяжкая, бо мы робім вялізныя скульптуры. Рагнеду першапачаткова хацелі зрабіць на сорак мэтраў! Думалі, будзе незвычайная падзея, тысячы людзей зьбяруцца, верталёты будуць кружыць у небе... Сабралася ж сто пяцьдзясят чалавек. Ды ўдзельнікаў было чалавек дваццаць пяць. І Рагнеда ў выніку таксама выйшла дваццаціпяцімэтровая. Але відовішча ўсё роўна атрымалася ўражлівае. На пленэрах са мной зазвычай працавалі Віктар Старухін, Андрусь Такінданг, Уладзімер Ануфрыеў, Зьміцер Захарэвіч, Максім Шняк, Валя Лойка (мая сястра), Яраш Лойка (мой сын). Ён, дарэчы, з шасьці гадоў езьдзіць па пленэрах.

**М. С.:** Кар'ер яму быў замест дзіцячай пясочніцы... А ці дапамагаюць вам мясцовыя ўлады?

**Г. Л.:** Калі мы рабілі праект «Абуджэньне Рагнеды», нам дапамагаў Заслаўскі гісторыка-культурны запаведнік. Нас забясьпечылі і шуфлямі, і вадой, і хлебам, і сокамі. Нават намёты далі. Калі ў Магілёве рабілі «Магілу льва», падключаўся гарвыканкам. А ў Навагрудку мы сядалі на хвост фэстам сярэднявечнай культуры, якія там праводзіліся. «Скутага Кейстута» ў Крэве адкопвалі з дапамогай моладзевай суполкі «Этна».

**М. С.:** Твае памочнікі перад пленэрам, мабыць, іспыты здаюць па фізычнай падрыхтоўцы?

**Г. Л.:** Не, у мяне іншыя крытэры. Я як настаўнік не магу браць толькі выдатнікаў ці тых, хто мае прыкладныя паводзіны. Не. Я – нацыяналіст, і

таму выбіраю дзяцей паводле моўнага прынцыпу: «Са мною паедзе той, хто будзе размаўляць толькі па-беларуску!». А потым хаджу і прыслухоўваюся: як яны размаўляюць? Разумею, што гэта вельмі высокі бар'ер, улічваючы нашы рэаліі. Мова ў нас і надалей важную ролю выконвае. Калі мы працуем, нас міліцыя абгароджвае стужачкай. І вось гэтую абгароджаную прастору мы называем краінай «Легенда зь пяску». Калі хто цікавіцца і хоча зайсьці – калі ласка! Мы ўсё пакажам і раскажам. Але толькі з адной умовай: гаварыце з намі па-беларуску! Гэткія ж самыя патрабаваньні і да журналістаў. Скажам, журналіст з расейскамоўнай «Советской Белоруссии» захацеў узяць у мяне інтэрвію і згадзіўся задаваць пытаньні па-беларуску. «Ну, што ж, – кажу, – мушу адказваць, хоць і не люблю вашай газэты». А карэспандэнтка ОНТ у Наваградку не захацела размаўляць па-беларуску, рогам упёрлася: «У меня работа, а у вас игра!» І ўсё – нічога ў яе не атрымалася.

**М. С.:** Пяшчаная скульптура, у якой кароткі век, што яна – у мастацтве? Ці не марнатраўства гэта, ці не дарэмная трата сілы? Пра гэта я запытаўся ў двух удзельнікаў пленэраў – мастака Алеся Пушкіна і будучага дызайнэра Андрэя Такінданга.

**Алесь Пушкін:** Здаецца, гульня ў пясочак. А мне ў гэтым бачыцца паратунак нашых душаў. Я ніколі не забуду пленэру ў Магілёве, калі мы рабілі зь пяску Машэку і Наталку на гарадзкім пляжы ля Сьвятога возера. І супала тая акцыя з Купальлем. Да нас далучаліся «пляжныя» магілёўцы, прыйшоў нават старшыня гарсавету Красноў. І яму настолькі спадабалася, што ён цяпер (пра гэта нават друк паведамляў) гаворыць па-беларуску і вельмі прыхільна ставіцца да нацыянальнай культуры. Увогуле, сярод чыноўнікаў Магілёўскага гарвыканкаму пайшла мода на беларускасьць. Генадзь Лойка – свабодны чалавек, ён не залежыць ні ад



Міністэрства культуры, ні ад замежных грантаў. Памятаеце містыку 1988 году, калі людзі пайшлі на Курапаты? Як амонаўцы акружылі іх у полі, і Зянон Пазьняк заклікаў усіх стаць на калені? Вось з таго часу і стаіць інтэлігенцыя на каленях. Але я з табою згодзен: самы вялікі мінус Лойкавай творчасьці – нетрываласьць матэрыялу. Пясок разбураецца, застаецца толькі памяць і фота. Што зробіш: у беларускай дзяржаве няма бронзавага Міндоўга, няма бронзавага Ўсяслава Чарадзея. Яны пакуль што на некалькі дзён паўстаюць у пяшчаных кар'ерах. Трэба прыдумаць тэхналёгію захаваньня пяшчаных скульптураў! Абмазваць іх якім-небудзь растворам – каб заставаліся на тысячу гадоў, як сфінксы ў эгіпецкай пустэльні!

**Андрэй Такіндаг:** Генадзь Лойка – рыцар-рамантык нашага часу. Такія людзі цяпер вельмі рэдка сустракаюцца. Каб такіх людзей было больш, то і краіна наша была б іншай, лепшай. Я прыгадваю будыйскіх манахаў, якія шмат месяцаў складаюць мазаіку, а потым уласнаручна разбураюць яе. Нашы пленэры – нешта падобнае. Бо ўсё цячэ, усё зьмяняецца, усё марнуецца. І таму «Легенда зь пяску» – гэта мастацка-філязофская зьява. Ты стараесься дзеля аднаго імгненьня. Шмат часу, шмат высілкаў кладзеш на ахвяру прыгажосьці.

**М. С.:** У сталічным фальварку «Добрыя мысьлі» (вул. Магілёўская, 12) нядаўна праходзіла фотавыстава, прысьвечаная пленэрам «Легенда зь пяску». Я зазірнуў у кнігу водгукаў і вось што там прачытаў: «Ваша Наталка з "Магілы льва" – папросту прыгажуня. Нават пяшчаная яна выглядае эратычна! Студэнты Акадэміі мастацтваў». Напаткаўся нават вершаваны водгук, напісаны, мабыць, пад уплывам Натальлі Арсеньневай: «Магутны Божа! Ўкленчыўшы, паўзком, / Мы молім: прытрымай за морам хмару. / Каб Генік Лойка быў заўжды зь пяском, / Да Беларусі далучы Сахару! / Алена і Кася». Генадзь,

я глядзеў на каменных скіфскіх бабаў у кіеўскім музэі – ну, зусім не эратычныя выявы. Як жа вы ў пяску можаце перадаць адпаведны імпульс?

**Г. Л.:** Мы не задаваліся такой ідэяй. *(Сьмяецца.)* Мы папросту хацелі паказаць Беларусь. Мабыць, таму яна і атрымалася такая эратычная. Ня ведаю...

**М. С.:** Вось я гляджу на «Скутага Кейстута»: ён у цябе такі вусата-барадаты. Як можна зь пяску вылепіць вус?

**Г.Л.:** Элемэнтарна. Галоўнае, каб былі вада і пясок. Мы не выкарыстоўваем клею. У Навагрудку паспрабавалі выкарыстаць іншую тэхналёгію: ставілі апалубку, залівалі мокры пясок. Але Міндоўг разваліўся. І мы потым тэрмінова зьляпілі толькі галаву ў кароне.

**М. С.:** Днямі я сустрэў знаёмага археоляга. Дык яго, як селяніна, цягне ў поле, на раскопы. І цябе таксама, мабыць, вабяць пяшчаныя кар'еры. Якія пленэры ты мяркуеш яшчэ зладзіць?

**Г. Л.:** Гэтым летам мы плянуем «адкапаць» дванаццаць залатых апосталаў, што калісьці зьніклі зь нясьвіскага замку Радзівілаў. Ёсьць ідэя зрабіць у Гомелі Цмока на беразе Сожа. Ёсьць задума зрабіць «Лябірынты» Ластоўскага. Ёсьць ружовая мара – паехаць у Вільню і разам зь літоўцамі зрабіць зь пяску «Жалезнага ваўка». Але самая галоўная задума – «Шлях з варагаў у грэкі». Мы цяпер жывём у сьвеце, дзе наймацней дзейнічае вэктар Захад – Усход. Нас называюць то апалячанымі расейцамі, то абруселымі палякамі. І мы ўсё не знаходзім сабе месца. Дык вось, мы хочам павярнуць гэты вэктар з поўначы на поўдзень. Зрабіць шлях з варагаў у грэкі, шлях у вырай ці шлях з выраю. Мы запросім па тры прадстаўнікі зь дзесяці краінаў з поўначы і з поўдня ад Беларусі – са Скандынавіі, з Прыбалтыкі, з Украіны, з Малдовы, з Грэцыі. Кожная брыгада зьлепіць сваю легенду, і такі ланцужок пяшчаных



легендаў будзе называцца «Шляхам з варагаў у грэкі». Расея і Польшча запрашацца ня будуць. Па выніках пленэру выдадзім каталёг. Але таксама – толькі ў тым выдавецтве, якое прыме нашы беларускамоўныя ўмовы.

**М. С.:** Калі вы знойдзеце добрага фундатара, то любое выдавецтва выдасьць ваш каталёг хоць на суахілі.

**Г. Л.:** Не, усе супрацоўнікі выдавецтва павінны будуць размаўляць па-беларуску. Хоць бы на час нашай супрацы. А на тым міжнародным пленэры мы цэлы тыдзень будзем сумесна жыць у намётах. Штовечар ля вогнішча будзе праходзіць навуковая канфэрэнцыя, будуць чытацца даклады. Кожная краіна раскажа пра сябе, пасьпявае, патанчыць. І гэты пленэр мы ператворым у дзяржаву. У нас будуць свае міністэрствы. Міністар працы будзе выдаваць шуфлі, забясьпечваць працаю. Вечарам у лягеры міністар гаспадаркі будзе выдаваць пайкі кашы і абсталёўваць месца для сну. Міністэрства фінансаў забясьпечыць хаджэньне ў краіне сваёй валюты – талера. Будуць у нас і свае сілавыя структуры. Памежнікі будуць хадзіць па пэрымэтры з сабакам, узірацца ў біноклі, ахоўваць межы і не прапускаць расейскамоўных наведнікаў. А на заканчэньне мы зладзім вялікі фэст, на якім моўная паліцыя будзе штрафаваць тых, хто размаўляе па-расейску, а значыць, зьнішчае беларускую мову. Ніхто такога яшчэ не рабіў, а мы зробім.

**М. С.:** Дэвізам тваіх пленэраў зьяўляюцца словы: «Arena volat mitus manet – Пясок зьнікае, міт застаецца». Радэн працаваў з мармурам, і ягоны «Вечны ідал» застанецца. Анатоль Анікейчык свае скульптуры адліваў з бронзы – і ягоны «Купала ў Ляўках» застанецца. А табе не шкада, што пасьля тваёй калясальнай працы застаюцца толькі груды пяску?

**Г. Л.:** Не, не шкада. Груды пяску таксама разьвей-

ваюцца. Самае галоўнае – каб засталася легенда. На пленэрах да нас часам падыходзяць дамачкі і ледзь не са сьлязьмі ў вачах пачынаюць прыгалошваць: «Ах, как жалко, что такая красота рассыплется! А нельзя ли как-то её сохранить?» А я ім кажу: «Ня тое шкадуеце. Пашкадуйце Беларусь, якая рассыпаецца, як пясок між пальцаў! Зірніце сабе пад ногі: вы ж топчаце залаты скарб – беларускую мову!» І – ты ведаеш? – дзейнічае... Перад намі шырокія далягляды. Нашы легенды спачываюць у зямлі. Пад залатым пяском ляжаць залатыя постаці беларускай гісторыі. І мы іх будзем «адкопваць»!

**М. С.:** У кар'еры ты змушаеш усіх размаўляць па-беларуску. А як табе ўдаецца не адступаць ад сваіх моўных прынцыпаў у расейскамоўнай СШ № 148, дзе ты працуеш?

**Г. Л.:** У школе я адразу сказаў, што буду весьці клясны журнал па-беларуску. Завуч паглядзела-паглядзела і згадзілася з маёй пазыцыяй. Хоць і заўважыла, што ёй будзе наганяй. Чаму будзе наганяй? Ад каго? Хто не зразумее маіх запісаў? Знайдзіце мне дэбіла, які не зразумее беларускамоўных запісаў у клясным журнале! Але чамусьці весьці журнал па-беларуску «не паложана». Вакол гэтага «не паложана» і будуецца ўся наша сыстэма адукацыі... Як я прывучаю дзяцей да беларускай мовы? На самым пачатку яны ў мяне абавязкова пытаюцца: «А вы умеете разговаривать по-русски?» Я кажу: «Не! Ня буду! Нават калі вы мяне будзеце біць, катаваць ці пад пазногці голкі заганяць! Я ня кіну беларускую мову! Буду гаварыць толькі па-беларуску!» І гэта мае вялікі эфэкт і больш уплывае на вучняў, чым увесь курс беларускай мовы і літаратуры, які яны праходзяць. І вучні мае пачынаюць паступова пераходзіць на беларускую мову. І яшчэ: я ніколі не перакладаю на ўроку незразумелых словаў. Чакаю. І абавязкова знойдзецца вучань, які падкажа. І тут таксама моцны выхаваўчы момант.



**М. С.:** Нядаўна на Радыё Свабода даслала ліст настаўніца з Маладэчанскага раёну Алена Краўцэвіч. У яе ў школе ўзьнікла праблема. Вучань на ўроку запытаўся, які дзяржаўны сьцяг быў у Беларусі з 1991 да 1995 году? Настаўніца расказала і паказала ілюстрацыю ў старым падручніку па гісторыі. Наступным днём яе выклікалі да дырэктара і папярэдзілі, каб больш такое не паўтарылася. А ў цябе падобных праблемаў не ўзьнікае?

**Г. Л.:** Узьнікаюць. Падчас мінулай прэзыдэнцкай кампаніі па горадзе вельмі шмат распаўсюдзілася значкаў «За Свабоду!». Вучні прыносяць іх у школу, носяць іх на ранцах, на адзеньні. А зь іх гэтыя значкі зьдзіраюць. Я сам нашу значку «Размаўляй са мной па-беларуску!», з выгляду яна падобная на значку «За Свабоду!». І таму яшчэ здалёк адміністрацыя крычыць: «Здымі!» А потым прыгледзіцца, прачытае: «Ну ладна, насі». Праўда, па-беларуску са мной размаўляць не пачынае... Дырэктарка школы Юрцэвіч Галіна Іванаўна аднойчы выклікала мяне на прафіляктычную гутарку. Як выявілася, яна ганарыцца тым, што ў мінулым была камсамольскай дзяячкай. А я кажу, што для мяне камсамольскі пэрыяд – самы чорны ў маёй біяграфіі. Я пагадзіўся з дырэктаркай наконт таго, што ў школе ня месца палітычнай дзейнасьці. У школе не павінна быць БРСМ, не павінна быць піянэраў – гэта палітычныя арганізацыі. А дырэктарка кажа: «Не, яны не палітычныя». «Як так? А як вы вызначаеце мяжу – дзе палітыка, а дзе не палітыка?» І яна пагадзілася, што складана вызначыцца. Як і ў іншым выпадку: дзе сканчаецца эротыка і пачынаецца парнаграфія? І тут ужо я зь ёю пагадзіўся.

**М. С.:** Ці магчыма ў сучаснай Беларусі, працуючы ў дзяржаўных структурах (а школа – структура дзяржаўная), займаючы нейкія кіроўчыя пасады, заставацца сумленным, патрыятычна настроеным чалавекам?

**Г. Л.:** Мне тут адразу згадваецца прыклад Прыбалтыкі. У Літве нацыяналісты ішлі ў літоўскую кампартыю і вешалі ў свае кабінэты партрэты Леніна з подпісам: «Leninas». І ніхто з Масквы ня мог да іх прычапіцца. Літоўскія камуністы знаходзілі магчымасьці зь бюджэту Савецкага Саюзу дастаць грошы на аднаўленьне Тракайскага замку, а беларускія камуністы ў той самы час у Беларусі ўзводзілі сьвінагадоўчыя комплексы. Так і з сыстэмай лукашэнкаўскай. Варта было б ісьці працаваць у яе, рабіцца завучамі і дырэктарамі. Але гэта немагчыма. Як у той кітайскай легендзе, памятаеш? Прыходзіць герой, перамагае Цмока і – тут жа сам становіцца Цмокам.

**М. С.:** Апрача скульптуры ты выкладаеш таксама і кераміку ў малодшых клясах. Дзеці і гліна, першаматэрыял, зь якога Бог зьляпіў першага чалавека... А што вылепіць пяцікляснік, калі яму не задаваць заданьня, не прымушаць, а пакінуць сам-насам з падрыхтаванай для лепкі глінай?

**Г. Л.:** О, у такія моманты вельмі цікава назіраць за дзецьмі. У мяне нядаўна прайшлі першыя азнаямляльныя ўрокі, на якіх вучні ўпершыню ўбачылі падрыхтаваную для лепкі гліну. Упершыню дакрануліся да яе, разьміналі і тут жа нешта ляпілі. Хлопцы – фігуры людзей, аўтамабілі, танкі... Пакуль што вучні проста ў захапленьні ад майго прадмету. Праўда, пройдзе час, і пачнецца руцінная штодзённая праца, згубіцца пачуцьцё захапленьня. Але цяпер мае вучні вельмі натхнёныя. Хочуць быць скульптарамі, хочуць вучыцца. І мне вельмі прыемна зь імі працаваць.



*Юрась Гарбінскі –*

гісторык літаратуры. Закончыў Менскі пэдінстытут імя М. Горкага, дзе пасьля выкладаў беларускую літаратуру. Працаваў у Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук, цяпер – на катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Супрацоўнічае зь Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Аўтар кніг «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагодзьдзя», «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: 1945–2005» ды інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Камаі на Пастаўшчыне. Жыве ў Варшаве.

## *Юрась Гарбінскі:* «Ідэя аўтакефаліі – скразная ў гісторыі БПЦ»

***28 траўня 2006 году***

*Імкненьне да аўтакефаліі (незалежнасьці) у Беларускай праваслаўнай царкве праявілася неўзабаве пасьля ўтварэньня БССР – на хвалі чарговага нацыянальнага адраджэньня. Аднак ужо ў 1928 годзе пачаліся бальшавіцкія рэпрэсіі супраць духавенства, мітрапаліт Мелхісэдэк і япіскапы, што прытрымліваліся ідэі аўтакефальнай царквы, былі высланыя ў Сібір, некаторыя зь іх загінулі ў турмах і лягерах. Наступная спроба ўнезалежніць Беларускую праваслаўную царкву была зробленая падчас Другой сусьветнай вайны на Ўсебеларускім царкоўным саборы, які адбыўся ў 1942 годзе ў Менску. І гэтая спроба не ўдалася... Нацыянальная царква: асобы, надзеі і памылкі – тэма гутаркі з дасьледчыкам гісторыі беларускага хрысьціянскага руху Юрасём Гарбінскім.*

**Міхась Скобла:** Юрась, летась выйшла ў сьвет падрыхтаваная вамі спадчына айца Мікалая Лапіцкага, сёлета вы спрычыніліся да выданьня мэмуараў архіяпіскапа Апанаса (Мартаса). Абодва былі ўдзельнікамі Ўсебеларускага сабору 1942 году, выступалі за самастойнасьць Беларускай праваслаўнай царквы. Якая роля архіяпіскапа Апанаса ў царкоўнай гісторыі Беларусі?

**Юрась Гарбінскі:** Архіяпіскап Апанас заслугоўвае ўвагі і памяці. Ён быў удзельнікам Усебеларускага царкоўнага сабору ў Менску ў 1942 годзе, ён уваходзіў у епіскапат Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Асоба арх. Апанаса няпростая, складаная, шмат у чым супярэчлівая – зрэшты, як і лёс Беларускай аўтакефальнай царквы. Будучы архіяпіскап выхоўваўся ва ўлоньні



Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, атрымаў багаслоўскую адукацыю ў Варшаўскім унівэрсытэце. Потым атрымаў манаскі пострыг у Пачаеўскай лаўры. У перадваенны час служыў у Польшчы. Калі пачалася Другая сусьветная вайна, беларускія дзеячы мелі надзею, што ў ваенных варунках удасца аднавіць беларускае рэлігійнае жыцьцё, з Расейскай праваслаўнай царквы ў Беларусі зрабіць Беларускую аўтакефальную, якая будзе служыць не Маскве, а інтарэсам беларускага народу. Незалежная царква мела ўзьнікнуць не на пустым месцы, ля ідэі аўтакефаліі стаялі яшчэ навагрудзка-літоўскія мітрапаліты, а потым аўтакефальную царкву аднавіў у 1922 годзе мітрапаліт Мелхісэдэк (Паеўскі). У гэтай канве і былі высьвечаныя ў япіскапы Апанас (Антон Мартас) і Філяфей (Уладзімер Нарко). Абодва беларусы. Нарко паходзіў з-за Нарачы, а Мартас – з Навагрудчыны.

**М. С.:** Вы ўжо згадалі, што архіяпіскап Апанас уваходзіў у епіскапат БАПЦ. У 1946 годзе, ужо на эміграцыі, ён прапаноўваў стварыць Беларускую нацыянальную царкву. І раптам – пераход у Расейскую зарубежную царкву. Пры ягоных поглядах як такое магло стацца?

**Ю. Г.:** Тут трэба вярнуцца ў гады Другой сусьветнай вайны, калі найвышэйшая ярархія Расейскай праваслаўнай царквы вяла патаемныя перамовы зь мітрапалітам Панцялейманам (Ражноўскім) пра далучэньне да РПЦ. Такім чынам, гэты працэс быў запачаткаваны раней. Ідэя беларускай аўтакефаліі падчас вайны мела вялікі супраціў з боку расейскага духавенства. Ішло жорсткае змаганьне. У гэтым кантэксьце, напэўна, варта разглядаць і сьмерць аднаго з гарачых прыхільнікаў аўтакефаліі – айца Івана Кушнера. Да нядаўняга часу мы чыталі ў розных дасьледаваньнях, што ён па дарозе зь Менску ў Ракаў падарваўся на партызанскай міне. Сёньня ёсьць падставы меркаваць, што міну гэтую яму

падклалі яшчэ ў Менску, і падклалі ворагі аўтакефаліі. Мы павінны разумець, што рабілася ўнутры Праваслаўнай царквы: з аднаго боку – беларусы-аўтакефалісты, з другога – расейскае духавенства, якое ніколі не падтрымлівала беларускай аўтакефаліі. Рэляцыі, якія высылалі зь Менску нямецкія спэцслужбы ў Бэрлін, сьведчылі адназначна, што працэс беларусізацыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі тармозіцца. І найперш галавой гэтай царквы – мітрапалітам Панцялейманам.

**М. С.:** Нездарма ён быў адхілены ад сваёй пасады і сасланы ў манастыр у Лядах пад Смалявічамі.

**Ю. Г.:** Так. І што яшчэ цікава: калі епіскапат Беларускай аўтакефальнай царквы ў 1944 годзе эвакуяваўся на Захад, то ў Чэхіі мітрапаліт Панцялейман запрапанаваў вярнуцца ў... Савецкі Саюз. Але большасьць япіскапаў не дала на гэта згоды, разумеючы, што іх могуць чакаць Салаўкі. У лепшым выпадку. У горшым іх проста маглі расстраляць як здраднікаў савецкай радзімы. Сем япіскапаў БАПЦ пасьля туляньняў у Польшчы і Чэхіі асталяваліся ў Тырсгайме (Нямеччына) і там вырашалі: а што рабіць далей? І тут усплыла ідэя далучэньня да Расейскай царквы. Адбыліся два галасаваньні. Першае не дало вынікаў, паколькі галасы падзяліліся напалову – тры япіскапы выказаліся за ўступленьне ў Расейскую зарубежную праваслаўную царкву, тры – супраць. У ліку апошніх – уладыка Апанас і ўладыка Філяфей, якія горача баранілі Беларускую аўтакефальную царкву. У часе другога галасаваньня галасы ізноў падзяліліся надвое, але голас мітрапаліта Панцялеймана, як зьверхніка Царквы, палічыўся за два галасы... Як адбываўся гэты пераход? Япіскапы Апанас і Філяфей запатрабавалі пэўных умоваў. А менавіта: што пераход будзе часовым і што беларускія япіскапы будуць і надалей мець магчымасьць служыць суайчыньнікам на эміграцыі. І гэтыя ўмовы былі прынятыя! І



толькі пасьля гэтага была падпісаная пастанова, і пачаўся працэс далучэньня да Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы.

**М. С.:** Як праваслаўная эміграцыя паставілася да таго, што засталася пакінутай сваімі пастырамі?

**Ю. Г.:** Далучэньне рабілася спадцішка. Беларусы даведаліся пра пераход япіскапаў толькі тады, калі пра гэта зьявілася інфармацыя ў друку. На Праваслаўным зьезьдзе ў Рэгенсбургу ў 1946 годзе беларускія вернікі прасілі япіскапаў не пакідаць іх. І нават быў такі шчымлівы момант: доктар Войтанка-Васілеўскі стаў перад імі на калені. Але было позна, далучэньне ўжо сталася фактам дакананым.

**М. С.:** Разам з арх. Апанасам да расейцаў перайшлі яшчэ шасьцёра беларускіх япіскапаў. Як склаўся іх далейшы лёс?

**Ю. Г.:** Досыць няпроста, а часам трагічна. У Нямеччыне неўзабаве памерлі мітрапаліт Панцялейман і архіяпіскап гарадзенскі і беластоцкі Бэнэдыкт. Япіскап Павал перайшоў у каталіцтва і атрымаў тытул біскупа гэракліёпальскага, у 1962 годзе ў Бэльгіі ён быў зьбіты аўтамабілем і памёр. Архіяпіскап пінскі Аляксандар, на якога разьлічвалі аўтакефалісты, у 1948 годзе быў скінуты невядомымі зь лесьвіцы і таксама памёр. На эміграцыі хадзілі чуткі, што да гэтага спрычыніліся савецкія спэцслужбы. Дарэчы, архіяпіскап Аляксандар даводзіў тым дзеячам, якія спадзяваліся на вяртаньне епіскапату БАПЦ, што трэба разьлічваць толькі на моладзь, трэба рыхтаваць беларускія сьвятарскія кадры. І, як паказаў час, ён меў рацыю... Архіяпіскап палескі і берасьцейскі Іаан у 1946 годзе вярнуўся ў Савецкі Саюз, узначальваў розныя япіскапствы, памёр у 1985 годзе. Япіскап гомельскі і мазырскі Грыгор узначальваў Чыкаска-Кліўлэндзкую япархію РЗПЦ, памёр у 1957 годзе. Япіскап смаленскі і бранскі Стэфан займаў пасаду япіскапа венскага і зальцбурскага, адышоў у лепшы сьвет у 1965 годзе. Архіяпіскап Філяфей працаваў

у Нямецкай япархіі, дастаткова добра ўладкаваўся ў жыцьці. Але ў прыватных гутарках (прыкладам, у кватэры незалежніцкіх дзеячаў Надзі і Зьмітра Касмовічаў) заўсёды падкрэсьліваў, што тут ён можа адпачыць ад расейшчыны, якая яму надакучвала ў царкве. Заўсёды, калі ўладыка Філяфей адчуваў сябе цяжка псыхічна, ён зь Вісбадэну ці з Гамбургу, дзе жыў і служыў, ехаў у Штутгарт да Касмовічаў, зь якімі сябраваў. На пачатку 1970-х гадоў Філяфей меў намер вярнуцца ў Беларусь, пра што ў Бэрліне ў прыватнай размове паінфармаваў архіяпіскапа Філярэта (Вахрамеева). Аднак такога кроку не зрабіў. Малавядомы факт: Філяфея аднойчы хацелі пазбавіць і пасады, і сану. І ён Сыноду РПЗЦ выставіў гэткі аргумэнт: мяне пазбавіць сану можа толькі епіскапат БАПЦ. Такім чынам, ён служыў Расейскай царкве, а пра сваё прыналежніцтва да беларускай успамінаў толькі тады, калі гэта было яму зручна. Усё гэта, безумоўна, характарызуе яго ня зь лепшага боку... Ня менш драматычна склаўся лёс уладыкі Апанаса. Пасьля далучэньня да РЗПЦ ён атрымаў намінацыю і выехаў у Гамбург, у 1950-я атрымаў прызначэньне ў Аўстралію, потым у Аргентыну. Ён увесь час падтрымліваў сувязь зь беларускай эміграцыяй, карэспандаваў зь незалежніцкім актывам з Саўт-Рывэру. Напачатку 1970-х гадоў быў адпраўлены ў адстаўку, меў намер узначаліць Беларускую царкву ў ЗША ў юрысдыкцыі Патрыярха Канстантынопальскага, але потым ізноў вярнуўся на службу. У 1983 годзе зямны шлях архіяпіскапа Апанаса, ярарха Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы і колішняга япіскапа Беларускай аўтакефальнай царквы, закончыўся. Магчыма, адчуваючы сваю віну перад беларусамі, ён не папрасіў у сваім тастаманце, каб яго пахавалі на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры. Свой апошні спачынак ён знайшоў на могілках манастыра Сьвятой Тройцы ў Джарданвіл (штат Нью-Ёрк, ЗША).



**М. С.:** Дзіўна, але РПЗЦ так і не прызнала арх. Апанаса сваім. Даручала япіскапствы, але заўсёды з пэўнымі агаворкамі. Чым ён выклікаў такі недавер?

**Ю. Г.:** Справа ў тым, што ён заўсёды падкрэсьліваў: у царкве няма месца палітыцы. Але царква, тым больш на эміграцыі, ня можа існаваць па-за палітыкай. Уладыка Апанас вымагаў, каб у цэрквах РЗПЦ не было ніякіх атрыбутаў, зьвязаных з Расейскай манархіяй, патрабаваў ад царкоўных старастаў, каб пры алтарах ня ставіўся сьцяг Расейскай імпэрыі. У расейскіх эміграцыйных пэрыёдыках «Сеятель» і «Русское слово» я знаходзіў адкрытыя лісты да ўладыкі Апанаса. Адзін з аўтараў такога ліста пісаў: «Вы никогда не поймете наших чувств, никогда не станете истинным пастырем Русской Зарубежной церкви. Вот уже 25 лет как вы епископ, но за это время вы даже не сочли нужным выучить русский язык. Вы не наш, даже хуже того, вы – наш враг». Зразумела, што адносіны кіраўніцтва РЗПЦ да ўладыкі Апанаса не маглі быць прыхільнымі. Вось, напрыклад, патрабаваньні, выстаўленыя яму перад прызначэньнем на чарговую катэдру ў Новым Сьвеце: «Чтобы с Вашей стороны было всегда проявляемо внимание к проявлениям русского патриотизма и к добрым начинаниям русских патриотических национальных организаций... Запрещается распространение книги “Беларусь” как антирусской...».

**М. С.:** А што гэта была за кніга, якая так не спадабалася Сыноду РПЗЦ?

**Ю. Г.:** Кніга была напісаная арх. Апанасам па-расейску і выйшла ў сьвет у 1964 годзе пад назвай «Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни». Яна давала рэтраспэкцыю беларускай гісторыі, у тым ліку гісторыі царкоўнай. Архіяпіскап напісаў вельмі прыгожы патрыятычны ўступ да гэтай кнігі, у якім выяўляліся беларускасьць аўтара,

яго далучанасьць да лёсу беларускага народу, да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У адным зь лістоў арх. Апанас пісаў айцу Мікалаю Лапіцкаму ў ЗША: «Мяне скубуць бальшавіцкія агенты за маю кніжку аб Беларусі». Натуральна, такое выданьне не магло ня выклікаць абурэньня з боку кіраўніцтва РЗПЦ. Але, і гэта нельга абмінуць, некаторыя беларускія эмігранты, прыкладам Юрка Віцьбіч, таксама крытыкавалі кнігу архіяпіскапа Апанаса.

**М. С.:** Калі я чытаў ліставаньне арх. Апанаса зь беларускімі царкоўнымі інстытуцыямі, мяне не пакідала дзіўнае ўражаньне. З аднаго боку, ён – кананічны ярарх РПЗЦ, з другога боку, зьвяртаецца да Зьезду праваслаўных беларусаў Паўночнай Амэрыкі: «Я лічыў і лічу сябе япіскапам Беларускай праваслаўнай царквы і ніколі не пераставаў быць такім». Раздваеньне нейкае.

**Ю. Г.:** У гэтых словах і выявілася супярэчнасьць уладыкі Апанаса. Думаю, што адказ на гэтае пытаньне трэба шукаць у аповесьці Максіма Гарэцкага «Дзьве душы». Вось гэтыя дзьве душы і прывялі архіяпіскапа да таго, што ён ня стаў сваім для расейскага зарубежніцтва і фактычна здрадзіў ідэі Беларускай аўтакефальнай царквы, якой так ахвярна служыў у час Другой сусьветнай вайны і ў першыя пасьляваенныя гады.

**М. С.:** Чаму ўсё ж арх. Апанас застаўся ва ўлоньні РПЗЦ, цягам доўгіх гадоў маючы намер выйсьці зь яе?

**Ю. Г.:** Ён спадзяваўся, што ўзначаліць беларускі праваслаўны прыход, атрымае матэрыяльнае забесьпячэньне. Аднак напачатку беларуская эміграцыя не магла сабе на такое дазволіць. У выніку пераходу беларускіх япіскапаў у РПЗП яна раскалолася, аслабела. І калі эмігранты за ўласныя грошы будавалі цэрквы, то разьлічвалі на такую самую самаахвярнасьць і з боку царкоўнай ярархіі. Чаго ад уладыкі Апанаса нашы суайчыньнікі за мяжой так і не дачакаліся.



**М. С.:** Вы днямі пабывалі ў Беларускім экзархаце, дзе перадалі дзьве кнігі – і айца Мікалая Лапіцкага, і арх. Апанаса – асабіста мітрапаліту Філярэту. Якою была ягоная рэакцыя?

**Ю. Г.:** Спатканьне было зьмястоўнае, прыемна адзначыць, што ў размове гучала беларуская мова. Мітрапаліт Філарэт з удзячнасьцю прыняў падараваныя выданьні. Я спадзяюся, што абедзьве кнігі дапамогуць уладыку зразумець душу праваслаўнага беларуса, яго патрэбы, сёньняшнія актуаліі беларускага рэлігійнага жыцьця. Бо Беларуская праваслаўная царква павінна быць беларускай ня толькі фармальна, але і рэальна. І ў гэтым клопат ня толькі беларускіх вернікаў-патрыётаў на Бацькаўшчыне, але і беларускай эміграцыі. Дарэчы, без дапамогі нашых суайчыньнікаў з Саўт-Рывэру (ЗША) – сп. Янкі і Надзі Запруднікаў, сп. Лізы Літаровіч – мэмуары арх. Апанаса яшчэ доўга пыліліся б у архіве. З гэтымі інтэнцыямі і былі перададзеныя названыя кнігі, у якіх падкрэсьліваецца (асабліва ў кнізе айца Мікалая Лапіцкага), што ідэя аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы – гэта скразная, магістральная ідэя ўсёй беларускай царкоўнай гісторыі. Хочацца верыць, што мітрапаліт Філярэт калі не разумеў гэтага раней, то зразумее пасьля азнаямленьня з падараванымі кнігамі.

**М. С.:** Такім чынам, арх. Апанас (Антон Мартас) паходзіў са спрадвечнай Беларусі, з Наваградчыны, выхоўваўся ва ўмовах польскага аўтакефальнага праваслаўя, у сталыя гады аднаўляў Беларускую праваслаўную аўтакефальную царкву, а закончыў жыцьцё ва ўлоньні Расейскай зарубежнай царквы. Што і казаць, шлях пакручасты і неадназначны. Але ў сваіх мэмуарах «На ніве Хрыстовай», якія можна лічыць своеасаблівым духоўным тастамантам уладыкі Апанаса, мы знаходзім нечаканае прызнаньне.

I піша гэта ярарх РПЗЦ, якая, да слова, нядаўна аб'ядналася з Маскоўскім патрыярхатам: «Цяпер з далёкай чужыны думкі мае імкнуцца да роднага краю, і памяць рысуе мілыя сэрцу, незабытыя малюнкі радзімы. Перад вачыма ажываюць беларускія векавечныя пушчы і дрымучыя лясы з багацьцем птушынага царства і разналікай зьверыны, якія некалі вабілі польскіх каралёў і расейскіх цароў. Былі тут татары і палякі, швэды і французы, немцы і расейцы. Кожны зь іх нешта пакінуў беларусам: татары – бізун, палякі – халеру, французы – пранцы, немцы – штунду, расейцы – зьнявагу маці ў лаянцы... "Беларусь, Беларусь залатая", – сьвежа зьвіняць словы юнацкай песьні, чаруюча дзеюць на душу, распаляючы агонь любові да радзімы. Але каб моцна яе любіць, трэба беларусам радзіцца і беларусам памерці, бо хто аброс чужым мясам, ня ўмее любіць Беларусі».



*Генадзь Бураўкін –*
паэт, публіцыст. Выпускнік аддзяленьня журналістыкі БДУ. Працаваў карэспандэнтам газэты «Правда», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосьць», старшынём Дзяржкамітэту БССР па тэлебачаньні і радыё, прадстаўніком Беларусі пры ААН, узначальваў ТБМ імя Ф. Скарыны. Аўтар кніг «Пяшчота», «Гняздо для птушкі радасьці», «Жураўліная пара» ды інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Расоншчыне. Жыве ў Менску.

## *Генадзь Бураўкін:* «Лекцыю пра Беларусь я прачытаў у Капітоліі»

***29 жніўня 2006 году***

*Аднойчы ў складзе нешматлікай пісьменьніцкай сябрыны выпала мне ехаць у начным цягніку разам з Генадзем Бураўкіным. Здаецца, у купэ тым разам ніхто так і не заснуў. Слухалі Бураўкіна. Апавядальнік ён – адмысловы, памяць мае выдатную. Звычайна з добрага творцы атрымліваецца дрэнны палітык, а з добрага палітыка – пасрэдны творца. Генадзь Бураўкін – шчасьлівае выключэньне з гэтага няпісанага правіла. І за пісьмовым сталом, і на высокіх дзяржаўных пасадах ён быў і застаецца прыкметным. Помніцца, у тым бяссонным купэ мы ўсе падбівалі расказчыка сядаць хутчэй за кнігу ўспамінаў. Ён тады аджартоўваўся, маўляў, мэмуары – жанр для сямідзесяцігадовых, трэба яшчэ гадоў пяць пачакаць. І вось – здарылася 70-годзьдзе...*

**Міхась Скобла:** Спадар Генадзь, апошнім часам вас рэдка можна застаць у Менску: вы ўсё на лецішчы. Дык ці падступіліся вы нарэшце да мэмуараў?

**Генадзь Бураўкін:** Падступіўся, хоць засвойваць гэты жанр, скажу шчыра, мне ня вельмі хочацца. Я пачаў пісаць вельмі важную для мяне кнігу, у якой ужо ёсьць назва – «Вузлы памяці». Я хачу прыгадаць падзеі, якіх быў сьведкам ці ўдзельнікам. У кнізе ня будзе храналёгіі, проста вузлы памяці, якія я пастараюся разьвязаць. На гэта, відаць, пойдзе некалькі гадоў. Няхай паэтычная муза трохі адпачне.

**М. С.:** Газэта «Наша Ніва» нядаўна правяла плебісцыт: хто з сучасных пісьменьнікаў найбольш варты званьня «Народны». І гэтае чытацкае веча вызначыла, што найбольш вартыя двое – Алесь



Разанаў і вы. Скажыце, а калі б быў падпісаны адпаведны ўказ, ці прынялі б вы гэтае званьне ад сёньняшняй улады?

**Г. Б.:** Спачатку я прыгадаю сытуацыю, у якую трапіў мой украінскі сябра Дзьмітро Паўлычка, калі яму было нададзена званьне Герой Украіны. І адпаведны ўказ падпісаў тагачасны прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма, да якога Паўлычка быў у вельмі жорсткай апазыцыі. І Дзьмітро ня ведаў, што рабіць. Прымаць – не прымаць? І ён усё ж вырашыў прыняць званьне. А потым ён мне расказаў, як усё адбывалася. Паўлычку паклікаў да сябе Кучма і сказаў наступнае: «Дзьмітро Паўлычка быў тады, калі кіраўніком Украіны быў Шчарбіцкі. Дзьмітро Паўлычка быў тады, калі Ўкраінай кіраваў Краўчук. Дзьмітро Паўлычка ёсьць цяпер, калі кірую я. І Дзьмітро Паўлычка будзе і пасьля мяне, калі прыйдзе новы прэзыдэнт. Паўлычка – будзе! А я, – прамовіў Кучма, – застануся ў гісторыі аўтарам указу пра наданьне Дзьмітру Паўлычку званьня Герой Украіны».Так што ў жыцьці часам бываюць няпростыя рэчы. І ня трэба ў залішняй зацятасьці часам адкідаць рацыянальнае зерне, якое бывае і ва ўчынках ня вельмі рацыянальных кіраўнікоў... Што да маёй асобы, то я абсалютна спакойны. У нас сёньня такая ўлада і такія кіраўнікі, якія ніколі не падумаюць пра званьне для мяне. Ніколі.

**М. С.:** Нядаўна ў інтэрвію нашаму радыё сьпявак Валеры Дайнэка прызнаўся, што лічыць сваёй сьпявацкай візытоўкай вашу песьню «Зачарованая». Яе спэцыяльна тройчы аранжавалі, паколькі з узростам зьмяняецца голас, а песьню гэтую Дайнэка хоча па-ранейшаму сьпяваць. «Зачарованай» ужо гадоў трыццаць. А ці пішаце вы песьні сёньня?

**Г. Б.:** Справа ў тым, што кампазытары і сьпевакі – такія людзі, якім хочацца гучаць. Гэта пісьменьнік можа напісаць твор, пакласьці яго ў шуфляду і чакаць лепшых часоў, калі твор будзе апублікаваны.

А сьпевакі і кампазытары чакаць ня могуць і ня хочуць... Песьні апошняга часу, якія мне дарагія, – гэта «Малітва» Эдуарда Ханка, якую сьпявала яго дачка Сьвятлана. Гэта «Суперніца» Мікалая Сацуры, якую выконвала Алеся. Гэта пару песьняў Міколы Яцкова ў выкананьні Нэлі Багуслаўскай. Але сёньня, на жаль, ня так часта я чую свае новыя песьні. Старыя часам гучаць, а новыя – не. А вершы для песьняў у мяне ёсьць. Але кампазытары, відаць, з-за майго прозьвішча цікавасьці да іх не праяўляюць... Дый наогул, новых беларускіх песьняў амаль не чуваць у этэры. Гучыць расейскамоўная папса – бяздарнае, бездапаможнае пляценьне словаў, дзе няма ні пачуцьця, ні майстэрства – абы што.

**М. С.:** Вы – герой апавяданьня Васіля Быкава «Інтэграцыя», твора вельмі змрочнага, дзе ўсе апазыцыянэры, прайграўшы вайну за незалежнасьць, страляюцца на вачах Галоўнакамандуючага. А ці былі вы героем якіх-небудзь больш жыцьцярадасных твораў?

**Г. Б.:** Я такую тэму не вывучаў, матэрыялаў не зьбіраў. Што можна згадаць? Ну, я ўпамінаюся ў «Сказе пра Лысую гару». Але, паўтаруся, я спэцыяльна падобную фактуру не падбіраў.

**М. С.:** Вы многа гадоў сябравалі з Васілём Быкавым. Таму даруйце за такое пытаньне: дзе нарадзіўся Быкаў?

**Г. Б.:** Афіцыйна месцам нараджэньня Быкава лічацца Бычкі. Я думаю, гэта і таму, што Бычкі і Быкаў вельмі стасуюцца між сабой. Хоць сам Васіль мне гаварыў, што не ў Бычках ён нарадзіўся, а ў Чарапоўшчыне.

**М. С.:** Ва ўсіх анкетах і аўтабіяграфіях, якія я пабачыў у асабістай справе пісьменьніка, Быкаў уласнаручна месцам свайго нараджэньня называў Чарапоўшчыну. Дык мо варта вярнуць гэты тапонім у біяграфію Быкава?

**Г. Б.:** Нават ня ведаю, што з гэтым фактам рабіць... Прыкладам, я нарадзіўся ў вёсцы Шуляціна, пасьля вайны яе ня стала на зямлі. Недалёка ад Шуляціна была вёска Тродавічы, і цяпер у маіх дакумэнтах напісана, што я нарадзіўся ў Тродавічах. Хоць я паўсюль падаю вёску Шуляціна, усюды, нават у энцыкляпэдычных даведніках, зрабілі месцам майго нараджэньня Тродавічы. Але ж гэта няпраўда. Магчыма, нешта падобнае адбылося і ў Васіля Быкава.

**М. С.:** У мэмуарах Пятро Краўчанка згадвае, як вы ў бытнасьць сваю прадстаўніком Беларусі пры ААН выканалі адну гістарычную місію ў Белым доме. У Краўчанкі пра гэта – два радкі. А ці не маглі б вы ўспомніць той выпадак больш падрабязна?

**Г. Б.:** Гэта адбылося ў 1991 годзе, пасьля вядомых падзеяў у Белавескай пушчы. Трэба было адвезьці ў Вашынгтон дакумэнты пра дэнансацыю дамовы аб утварэньні СССР і дакумэнты пра стварэньне СНД. Памятаю, мы сабраліся разам: прадстаўнік Савецкага Саюзу (пазьней – прадстаўнік Расеі) Юлій Варанцоў, прадстаўнік Украіны Генадзь Удавенка і я. Сталі раіцца: хто павязе? Па традыцыі гэтая роля павінна была быць у Варанцова. Але Юлій Міхайлавіч, як вельмі інтэлігентны і тонкі палітык, дыплямат і чалавек, сказаў: «Цяпер сталіца СНД – Менск. Таму дакумэнты ў Вашынгтон павінен везьці прадстаўнік Беларусі Генадзь Мікалаевіч Бураўкін». Так і атрымалася. Я паехаў і ўручыў дакумэнты спачатку дзяржсакратару Бэйкеру, а потым – Бушу-старэйшаму.

**М. С.:** І якая была іх рэакцыя?

**Г. Б.:** Яны абодва пыталіся: а якія настроі ў Менску? А што там будзе? Але я і сам дакладна нічога ня ведаў. Таму проста расказаў ім пра Беларусь, прачытаў міні-лекцыю. Зь іх боку былі выказаныя пажаданьні, што наваствораная Судружнасьць незалежных дзяржаваў павінна ісьці па цывілізаваным шляху свабоды і дэмакратыі.

**М. С.:** У тых жа мэмуарах Краўчанка піша, як ягоны папярэднік, міністар замежных спраў БССР Гурыновіч, калі прыяжджаў у Нью-Ёрк на сэсію ААН, падчас прыёмаў ад сваіх суачыньнікаў-эмігрантаў хаваўся ў курылцы. Вы згадвалі ў друку, што калі працавалі ў Нью-Ёрку, сустракаліся з Натальляй Арсеньневай, Янкам Запруднікам, Вітаўтам Кіпелем... А з кім усё ж пазьбягалі сустрэчаў?

**Г. Б.:** Мяне самі эмігранты папярэджвалі, з кім ня варта сустракацца. Там знаходзіліся некалькі чалавек, у чыёй біяграфіі былі факты дастаткова сур'ёзнага супрацоўніцтва з фашыстамі. Я не хачу гаварыць, што ў іх былі рукі ў крыві, але супрацоўніцтва з акупантамі было. Што я маю на ўвазе пад супрацоўніцтвам? Калі гэтыя людзі ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы карных акцый, калі яны выдавалі людзей, якіх немцы ці паліцыянты забівалі. І вось калі такія людзі зьяўляліся на прыёмах, мне ці Янка Запруднік, ці Масей Сяднёў, ці Вітаўт Кіпель гаварылі: «Спадар Генадзь, вунь сядзяць той і той – зь імі няясна...» Я ведаю, што ваенныя злачынцы вельмі строга перасьледуюцца ў ЗША. Гэтыя людзі там былі на волі, але прэтэнзіі да іх з боку савецкіх уладаў былі.

**М. С.:** Пасьля 12 гадоў фашысцкай дыктатуры, у 1945 годзе, у Мюнхэне выйшла літаратурная анталёгія «De profundis» («Зь нябыту»), куды ўвайшлі творы 65 нямецкіх пісьменьнікаў, якія пры Гітлеру зусім ня мелі магчымасьці друкавацца. Ці зьявіцца калі-небудзь падобная анталёгія ў нас? Ці наша літаратура больш здольная да мімікрыі, і публікавацца нашы пісьменьнікі калі не ў пераплёце, то на плоце, а ўсё роўна будуць?

**Г. Б.:** Пісьменьнікі, якія абралі формай свайго супраціву маўчаньне, ёсьць і ў нас. Можа, яны не зусім маўчаць. Проста яны пішуць тое, што чытачы ня ведаюць. Нешта падобнае было ў Савецкім Саюзе ў 1950-я і 1980-я гады. І мы праз дзесяцігодзьдзі чыталі творы, якія раней не маглі быць прачытаныя. Але яны ўсё ж зьявіліся ў друку, гэтыя сьведчаньні і дакумэнты эпохі. Так і цяпер. Гэткія творы абавязкова пішуцца. Я не магу сказаць, дзе яны, чые яны, але што яны ёсьць – не сумняваюся. І прыйдзе час – яны будуць прачытаныя. Тут, праўда, ёсьць небясьпека. Калі на паліцах кнігарняў няма новых кніг Віктара Казька ці Ніла Гілевіча, то на іх месца лягуць абсалютна выпадковыя, бяздарныя, кан'юнктурныя рэчы. Сьвятое месца пустым не бывае.



**М. С.:** Беларускаму грамадзтву, як заўсёды, бракуе кансалідацыі. А каб згуртаваць грамадзтва, неабходна спачатку згуртаваць эліту грамадзтва. І тут я хачу прыгадаць прыклад з гісторыі. З чужой гісторыі. З гісторыі франкісцкай Гішпаніі. Здаецца, у 1940 годзе 200 самых вядомых інтэлектуалаў Каталёніі (гэта гістарычная вобласьць Гішпаніі) сабраліся на гары Мансэрат і прынялі адозву да дыктатара Франка, дзе патрабавалі незалежнасьці і выкананьня правоў чалавека. Ці магчыма нешта падобнае ў нас? Ці нашы інтэлектуалы, як, скажам, і прафсаюзы, да дружнага, згуртаванага пратэсту ня здольныя?

**Г. Б.:** У нашай эліты разуменьне неабходнасьці гуртавацца ёсьць. Свой заклік да народу, да міжнароднага супольніцтва беларуская нацыянальная эліта зрабіла. Я маю на ўвазе Ўсебеларускі зьезд за незалежнасьць. Калі мы, прадстаўнікі нацыянальнай незалежнасьці, адчулі пагрозу, якая навісла над нашай незалежнасьцю, мы зрабілі тое, што маглі зрабіць, – мы склікалі і правялі зьезд. Для мяне і сёньня дзіва дзіўнае, якія нашыя партыі нясьпелыя, недальнабачныя. Яны ня толькі не падхапілі гэтую зробленую, я лічу, гістарычную справу, але адсунулі яе на другі плян. Чым увогуле нашы партыі займаліся апошнім часам? Займаліся парлямэнцкімі і прэзыдэнцкімі выбарамі – вельмі добра. Займаліся

ўсталяваньнем стасункаў з Эўропай – цудоўна. Займаліся выкрыцьцямі – гэта таксама трэба. Але самае галоўнае – гэта пытаньне беларускай незалежнасьці, а яно актуальнае і сёньня. Паглядзіце, як пад нашу эканоміку хітра і падступна падкопваюцца імпэрскія шавіністычныя сілы Расеі. Паглядзіце, як паступова ўлада пачынае здаваць нашыя лепшыя, самыя буйныя прадпрыемствы нафтаперапрацоўчай прамысловасьці, ці тую ж «Белшыну» – расейскім алігархам, гэтым эканамічным бандытам! Ідзе эканамічнае заваяваньне Беларусі, а нашы лідэры працягваюць займацца нейкімі ўнутранымі разборкамі: хто зь іх больш важны, хто зь іх большы прарок. А трэба старацца, каб людзі зразумелі: мы сёньня можам страціць тое, за што змагаліся вякамі, – нашу дзяржаўнасьць. Трэба сказаць, што ўвогуле нашы партыі ня вельмі прыслухоўваюцца да беларускай інтэлігенцыі, да нацыянальнай эліты. Можа быць, яны лічаць, што эліта – гэта партыйныя лідэры, а ня тыя выдатныя таленты, якімі мы ганарымся, – Янка Брыль, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч. Бо да думак і парадаў апошніх партыйныя лідэры ставяцца неяк звысоку.

**М. С.:** Раней было прынята лічыць, што шмат якія антыбеларускія дзеяньні ўлады зробленыя з падказкі альбо справакаваныя былым намесьнікам кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Ўладзімерам Замяталіным. Так меркавала, прынамсі, частка інтэлігенцыі. Замяталін – даўно ў адстаўцы, а разам зь ім – і памочнік прэзыдэнта Сяргей Посахаў, якога таксама нельга назваць прыхільнікам беларускай нацыянальнай палітыкі. Але ж нічога не зьмянілася: русіфікацыя працягваецца, незалежнасьць па-ранейшаму пад пагрозай. Якую ролю ў беларускай сытуацыі адыгрывае сьвіта і ці істотны яе ўплыў на караля?

**Г. Б.:** Я не сумняваюся, што ўплывае, і нярэдка даволі сур'ёзна. У 1998 годзе, калі праходзіла сустрэча Рады Саюзу пісьменьнікаў з Аляксандрам Лукашэнкам, я вельмі востра крытыкаваў Замяталіна. І быццам бы была маўклівая згода з боку Лукашэнкі. Але потым ён, як чалавек дастаткова адкрыты, сказаў: «Ну няўжо вы не разумееце, што калі б Замяталін не праводзіў маю палітыку, то ён не працаваў бы ў адміністрацыі!» Горка ня тое, што Замяталін і да яго падобныя, знаходзячыся на дзяржслужбе, адкрыта выказвалі і выказваюць сваю пагарду да ўсяго беларускага. Горка тое, што ў нашай краіне гэта становіцца ледзь ня правілам. І калі адыходзіць Замяталін, то на яго месца адразу знаходзіцца іншы чалавек. Гэта выдатна відно па Беларускім тэлебачаньні: адышоў Кісель – прыйшоў Чыкін, адышоў Чыкін – прыйшоў Рыбакоў, пасадзілі Рыбакова – прыйшоў Зімоўскі... І ўсе гэтыя людзі ня робяць абсалютна ніякіх паправак ні на час, ні на бясспрэчныя памылкі, што мелі месца ў працы БТ, ні на той бясспрэчна непрафэсійны ўзровень, які дэманструе тэлебачаньне. Памятаю, адзін з кіраўнікоў БТ у інтэрвію сказаў цікавую рэч: маўляў, пры чым тут кадры, былі б грошы, мы тады купім маскоўскіх высокапрафэсійных журналістаў, і яны нам зробяць выдатнае тэлебачаньне... Але Беларускае тэлебачаньне ні нэгры з Алябамы, ні прафэсіяналы з Масквы зрабіць ня змогуць. Каб зрабіць добрае нацыянальнае тэлебачаньне, трэба зразумець душу беларуса, адчуць дыханьне беларускай зямлі.

**М. С.:** Нядаўна па тэлеканале «EuroNews» я пабачыў тэлесюжэт пра ўнікальнага чалавека, якога завуць Здэнэк Кажышэк. Ён чэх. Гэта чалавек, якога немагчыма закаваць у ланцугі. Спрабавалі шмат разоў: аплятталі ланцугамі рукі, ногі, тулава, усё цела, а ён перад тэлекамэрамі за дзьве хвіліны вызваляўся. Калі можна будзе сказаць: мы – народ, які немагчыма закаваць у ланцугі?

**Г. Б.:** Гэта выдатны паэтычны вобраз, нават сымбаль. Такую самую здольнасьць – вызваляцца з ланцугоў няволі – маем і мы, беларусы. Але чамусьці мы яе ня часта выкарыстоўваем. Імкненьне да свабоды, да самастойнасьці, да годнасьці нацыянальнай мае суайчыньнікі праяўляюць у недастатковай ступені. На маю думку, уся справа ў ідэі, а менавіта ў нацыянальнай ідэі. У нашым грамадстве няма дастаткова шырокага разуменьня і прыняцьця яе. Пакуль мы ўсе не адчуем, што ў нашай прысутнасьці вырашаецца лёс беларускай дзяржаўнасьці, да таго часу мы будзем шукаць сабе нейкага апраўданьня. То лідэр ня той аказаўся, то ў няправільным кірунку павёў, то дапамога не з таго краю прыйшла... А справа ня толькі ў лідэры і не ў дапамозе збоку. Нам бракуе нацыянальнай еднасьці. Зьяднаемся – пераможам. А здольнасьць вызваляцца ў Беларусі ёсьць. Я ў гэтым не сумняваюся. І мне вельмі хочацца, каб мая краіна гэтую сваю здольнасьць у хуткім часе на поўную моц праявіла.



*Сяржук Сокалаў-Воюш* – паэт, празаік, бард. Закончыў філфак БДУ. Настаўнічаў, працаваў у Літаратурным музэі Якуба Коласа, у Беларускім акадэмічным тэатры ў Віцебску, на Радыё Свабода. Аўтар кніг «Кроў на сумётах», «Крывавы памол», песенных альбомаў «Песьні касінераў», «Нефармальны беларус» ды інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Астроўшчына на Полаччыне. Жыве ў Нью-Ёрку.

## *Сяржук Сокалаў-Воюш:* «Чужына для мяне застаецца непрымальнай»

***3 верасьня 2006 году***

*«Аксамітны летні вечар...» – схіляецца ён над гітарай, і заля дружна падхоплівае: «Ахінуў зямлю». Насьпяваныя дваццаць гадоў таму песьні жывуць у памяці людзей, хоць на радзіме за час адсутнасьці аўтара вырасла цэлае пакаленьне. У кожны свой прыезд у Беларусь ён дае канцэрты, і песьні касінераў адгукаюцца ў людзкіх душах дзіўным рэхам, якое заляцела ў новае тысячагодзьдзе са старога і не зьбіраецца сьціхаць. Пражыўшы пятнаццаць гадоў на чужыне, ён не адмовіўся ад беларускага грамадзянства, ад бела-чырвона-белай апаяскі на галаве, ад літаратурнай творчасьці на роднай мове. Сваю новую кнігу – фантасмагарычны раман пра Фэлікса Дзяржынскага «Крывавы памол» – аўтар прэзэнтаваў разам з новай праграмай «Песьні лісоўчыкаў». І кніга, і альбом напісаныя ў ЗША, дзе цяпер жыве Сяржук Сокалаў-Воюш.*

**Міхась Скобла:** Сяржук, вядомы расейскі пісьменьнік Марк Алданаў лічыў максымальным тэрмінам эміграцыі дзесяць гадоў. Герой ягонага раману «Дзявятае тэрмідора» гаворыць: «Я ў сваіх знаёмых эмігрантаў пытаюся: ці маеце вы магчымасьць перачакаць за мяжой 10 гадоў? Маеце – тады захоўвайце позу і высока трымайце сьцяг... А калі ня маеце, то патроху пачынайце цьвердзіць, што і на радзіме далёка ня ўсё кепскае, ёсьць добрыя пачаткі, ідэі, каштоўныя заваёвы». Ці можам мы прычакаць падобных прызнаньняў ад беларускай эміграцыі?

**Сяржук Сокалаў-Воюш:** За ўсю эміграцыю гаварыць ня буду, а за сябе скажу. Я – не эмігрант. Я не эміграваў зь Беларусі, я выехаў па сямейных



абставінах. Я нават кватэру сваю не прадаваў і кватарантам яе не здаваў. Кватэра чакае гаспадара. Мы прыехалі ўсёй сям'ёй, зрабілі ў ёй рамонт. Чалавек, які не зьбіраецца вяртацца, ён жа ня будзе рабіць рамонт, праўда? Сэнсу няма. А раз рамонт робіцца ў кватэры, значыць, рамонт адбудзецца і ў дзяржаве – позна ці рана. І ўсё стане на свае месцы. А я зьяўлюся ў Беларусі, напэўна, раней, чым будзе зроблены рамонт у дзяржаве. Што да іншай эміграцыі... Аднойчы Андрэй Рымашэўскі, які эміграваў зь Беларусі і жыве ў Чэхіі, сказаў мне: «Паглядзім, хто пры зьмене сытуацыі вернецца ў Беларусь. Я гатовы». Але вернуцца далёка ня ўсе, гэта зразумела. Многія людзі за мяжой уладкаваліся вельмі няблага.

**М. С.:** Апошнім часам беларускія ўлады трацяць нямала сродкаў і высілкаў на разьвіцьцё ў краіне турызму. Ты пабачыў сьвет, як лічыш, ці стане Беларусь у блізкай пэрспэктыве турыстычнай краінай?

**С. С.-В.:** Гэта залежыць ад многіх чыньнікаў. Найперш, павінна адбыцца рэстаўрацыя помнікаў гісторыі – нашых замкаў, палацаў. І нейкія беларускія экзоты павінны быць. Вось я нядаўна даведаўся, што па Прыпяці можна сплаўляцца на плытах. На плытах збудавалі хаты, у іх, дарэчы, ёсьць усе выгоды, можна плысьці, вудзіць рыбу, а гід будзе расказваць пра палескія дастапомнасьці. Так што Беларусь мае шанцы стаць турыстычнай, але дзеля гэтага трэба зрабіць вельмі шмат. Бо замак аднавіць – ня хату на плыце пабудаваць.

**М. С.:** Замкі і палацы пакуль не адноўленыя. А што можа прывабіць турыста, апрача рыбалкі на Прыпяці ды зуброў у Белавескай пушчы? Апрача прыроды?

**С. С.-В.:** Калі б ты спытаўся пра гэта гадоў пятнаццаць таму, я б адказаў: людзі ў нас прывабныя. На жаль, людзі нашы становяцца ўсё менш пры-

вабнымі. Яны сьпіваюцца, і гэта вельмі выразна відаць. На Віцебшчыне, па дарозе ў Сітна да Паўла Севярынца, я падвозіў жанчыну. Дык яна была п'янюткая! У тых мясьцінах бутэлька гарэлкі, гэтак званая максімка, каштуе 2100 рублёў. Што гэта як не мэтанакіраванае спойваньне народу?! Там проста павальнае п'янства. Ды і ў Менску пляшкі паўсюль валяюцца. Спойваньне – гэта чарговая хваля генацыду, толькі ў іншай форме... А замежнікам я б парэкамэндаваў беларускі экстрэмальны турызм – пераход праз балоты. Прычым пераход не на паўгадзіны, а вандроўкі па балотах на некалькі дзён. У нас такія магчымасьці яшчэ дзе-нідзе захаваліся. І, павер мне, балотны турызм – ня менш складаная справа, чым падняцца на Эвэрэст альбо ў часе шторму пераплысьці Ла-Манш. І ён дзякуючы свайму экстрыму карыстаўся б папулярнасьцю, я перакананы.

**М. С.:** Кожны творца, як правіла, дбае пра свае аўтарскія правы. Можна згадаць нядаўні прыклад: паэт Алесь Разанаў і мастак Віктар Маркавец зьвінавацілі «Мабільныя тэлесыстэмы» ў тым, што МТС выкарыстоўвае ў якасьці фірмовага знаку іх сумесны твор – яйкаквадрат... А ты пішаш: «Мой верш – нічый... І аніякі ў сьвеце капірайт яму не забароніць шматгалосься». Ты гэтак лёгка можаш адмовіцца ад сваіх твораў?

**С. С.-В.:** Не, я не адмаўляюся ад твораў. Я проста дазваляю іх выкарыстоўваць у які заўгодна спосаб, калі гэта не пярэчыць нацыянальнай ідэі і не прыносіць шкоды беларускаму народу. Вядомы кампазытар Мікола Пятрэнка, калі ў яго пыталіся пра песьню «Ручнікі», адказваў: «А гэта ўжо даўно не мая песьня, яна – усіхняя».

**М. С.:** А вось і вынік тваёй шчодрасьці. Я трымаю ў руках улётку, якая чамусьці з выявай Божай Маці Жыровіцкай, дзе без пазначэньня прозьвішча аўтара надрукаваны твой вершык для дзяцей: «Блакіт нябёс і белы бусел, і хмаркі ў небе – як абрус...».



**С. С.-В.:** Мой край завецца Беларусьсю, і сам я – хлопчык беларус.

**М. С.:** Няўжо не шкада, што твае радкі так далёка пайшлі ў народ, што забыліся на свайго «бацьку»?

**С. С.-В.:** Не шкада. Ёсьць і іншыя падобныя прыклады ў нашай культуры. Скажам, песьня «Бывайце здаровы». Яе напісаў Адам Русак, але яна даўно лічыцца народнай. І, па-мойму, гэта вялікі плюс для аўтара ў сэнсе маральнага задавальненьня: твой твор запатрабаваны народам. Ну, не пазначана маё імя на ўлётцы... І Бог зь ім. Я тут ня схільны прад'яўляць нейкія прэтэнзіі, аднаўляць аўтарства. І судзіцца з выдаўцамі гэтай улёткі не зьбіраюся.

**М. С.:** У Менску ты паказаў публіцы сваю новую музычную праграму – «Песьні лісоўчыкаў». Чым яны адрозьніваюцца ад тваіх жа шырокавядомых «Песьняў касінераў»?

**С. С.-В.:** Яны адрозьніваюцца і складам, і ладам. Я наўмысна для песьняў лісоўчыкаў абраў фальклёрны стыль, бо фальклёр дае проста неверагодныя магчымасьці. Напрыклад, можна паэтызаваць героя як заўгодна. У мяне ў адной зь песьняў гаворыцца: «Вось прыехалі яны – ў пазалоце жупаны». Жупаны не маглі быць «у пазалоце». Як і «залатыя шаблі». А ў фальклёрных песьнях усё гэта ёсьць. Стылізацыя пад фальклёр дае магчымасьць вольна рыфмаваць, часам па апошняй літары рыфма ідзе. Націск можна рабіць рухомым, словы старыя ўжываць і новыя вынаходзіць... А беларуская бардаўская песьня сёньня зазнае пэўны крызіс, зь якога трэба шукаць выйсьце. Пажадана, каб і іншыя барды заняліся такімі пошукамі, экспэрымэнтамі. Іхняя творчасьць стала застандартнай, бардаўская песьня павінна неяк мяняцца. І вось я шукаю, як абнавіць традыцыю. «Песьні лісоўчыкаў» сьпяваюцца без гітары, хоць у мяне была спроба прасьпяваць іх пад

лёру. Але я не валодаю гэтым інструмэнтам, дый ня маю яго. Але ж раней нашыя барды называліся менавіта лернікамі.

**М. С.:** На вечарыне ты, на зьдзіўленьне слухачоў, сьпяваў акапэльна. Прадэманструй якую-небудзь песьню лісоўчыка нашым слухачам.

**С. С.-В.** *(сьпявае)*: «Ой, хадзіла-хадзіла / Чорная сіла, / Ой, касіла старых ды малых, / Ой, жанок касіла. / Пан Якуб у Вільні быў, / Новую шаблячку набыў. / Вярнуўся дадому – вецер сьвішча / Па-над папялішчам. / Каб прагнаці гэтую бяду – / Чорную сілу са двара – / Ой, паеду, ой ды я паеду / Да пана Ляксандара, / Да пана Лісоўскага – / Да спадара-гаспадара, / Ворага маскоўскага. / Яго войска моцнае, / Яго войска дужае – / Там жа ўсе сябры мае, / Ён ворага здужае. / Яго войска слыннае, / Яго войска спраўнае. / Ён па Маскоўшчыне гуляе / Ды пазыкі вяртае – / За забітых брацетак, / Абражоных сёстрачак. / Ой, ды за зьдзек над родным краем / Ворага карае...»

**М. С.:** Файна! А ці доўга яшчэ беларусам сьпяваць паўстанцкія песьні?

**С. С.-В.:** Паўстанцкія песьні ніколі не старэюць. Паедзь ва Ўкраіну, паслухай, што сьпяваюць украінцы – на Львоўшчыне, Чарнігаўшчыне ці яшчэ дзе-небудзь. Фантастыка! І пра палкоўніка Сагайдачнага, і пра атаманаў розных. Такія песьні не старэюць, і гэта добра.

**М. С.:** Ты – аўтар фантасмагарычнага рамана «Крывавы памол». Твор мастацкі, выдуманы, а ягоны герой мае гістарычнае імя – Фэлікс Дзяржынскі. Чаму ты вырашыў зрабіць пэрсанажам свайго раману менавіта жалезнага Фэлікса?

**С. С.-В.:** Гэтую ідэю мне падказаў мой сябра Вінцук Вячорка. Неяк у размове, не датычнай літаратуры, ён сказаў: ёсьць такі найвядомейшы пэрсанаж у нашай гісторыі – Фэлікс Дзяржынскі. Палякі яго ня хочуць, расейцы яго ня хочуць, і мы таксама ад



яго адпіхваемся. А ён наш. Сапраўдны беларускі шляхціч, род Дзяржынскіх вядомы з XVII ст. А тое, што маем, мы павінны не адкідаць, а выкарыстоўваць у сваіх мэтах. Стварэньне беларускага Дракулы – галоўная ідэя майго раману. І потым, «Крывавы памол» – ён збольшага не прыдуманы. Я вывучыў біяграфію Дзяржынскага. І ягонае зямное жыцьцё (не жыцьцё вупара зь ікламі, а менавіта зямное) цалкам адпавядае апісанаму ў кнізе. Але, натуральна, у маёй інтэрпрэтацыі.

**М. С.:** Я нездарма спытаўся пра твайго героя Дзяржынскага. Летась у Варшаве я пазнаёміўся з паэтам Яцкам Любартам-Кшысіцам, які жыве ў Кракаве. Ён адрэкамэндаваўся сваяком Дзяржынскага і плянуе прыехаць у Беларусь. Калі ён прачытае «Крывавы памол», то можа пакрыўдзіцца за свайго родзіча і падаць на аўтара ў суд за абразу шляхецкага гонару. Ты гатовы да гэткага разьвіцьця падзеяў?

**С. С.-В.:** О, гэта было б клясна! Толькі спачатку ён павінен прызнаць, што Дзяржынскі – беларускі шляхціч. З нашчадкам беларускага шляхціча судзіцца было б цікава. Бо шляхецтва – гэта ня толькі маёмасны, але і духоўны статус. Так што я гатовы. Але сумняваюся, што ён падасьць у суд. Рэальныя нашчадкі Дракулы ня маюць жа нічога супраць таго вобраза свайго продка, які створаны ў літаратуры і кіно.

**М. С.:** Дзяржынскі ў цябе – крывасмок, вупар. А Фэліксу Эдмундавічу ў Менску нядаўна яшчэ адзін помнік паставілі і збудавалі ў лесе пад Койданавам шыкоўны музэй. Як ты да гэтага ставісься?

**С. С.-В.:** Вось і цудоўна! Мы якраз і гаварылі пра тое, што можа прывабіць у Беларусь замежных турыстаў. Калі мая кніга спадабаецца чытачам, то радзіма Дзяржынскага стане адным з культавых месцаў, куды можна прыехаць і паглядзець на помнікі беларускаму Дракулу. Я быў у музэі Дзяржынскага, я быў на тым месцы, дзе стаяў маёнтак Дзяржын-

скіх. Я знайшоў тую яму на месцы падвалу, куды ўпала маці Фэлікса перад тым, як яго нарадзіць. Яна пасьлізнулася на прыступках і ўпала. І там гэтае месца выразна відаць. Я аб'ехаў навакольныя вёскі, размаўляў зь мясцовымі жыхарамі, з супрацоўнікамі музэю. У той мясцовасьці я цяпер добра арыентуюся і добра ведаў, пра што пішу.

**М. С.:** У нядаўна выдадзенай энцыкляпэдыі «Беларускі фальклёр» розных нячысьцікаў не зьлічыць. Чаму нашыя людзі так цікавяцца інфэрнальным сьветам? Вось і ты паспрабаваў зазірнуць па той бок. А не баісься, што апісаныя табой істоты пачнуць нейкім чынам удзельнічаць у тваім жыцьці?

**С. С.-В.:** Страху няма. Хутчэй, ёсьць цікавасьць. Я чалавек, які трохі ўмее трымаць у руках асадку. І калі б нешта падобнае, пра што ты кажаш, адбылося, то тады я змог бы напісаць больш цікавыя рэчы... Мы часам чытаем пра Індыю, Тыбет, пра тое, якія дагістарычныя веды схаваныя ў тамтэйшых паданьнях, што трэба іх расшыфраваць... Ды ў нас саміх усё гэта ёсьць! У беларускіх народных песьнях і казках! Толькі іх трэба ўважліва прачытаць. І веды, узятыя адтуль, нічым ня горшыя за веды тыбецкіх манахаў, а можа, нават супадаюць зь іхнімі. У нашым фальклёры ёсьць свае комплексы фізычных і духоўных практыкаваньняў, якія нам трэба выцягнуць на белы сьвет. А навошта выцягваць? Ды таму, што нашаму чалавеку адпавядае тая сыстэма, якая склалася за стагодзьдзі і тысячагодзьдзі тут, на гэтай зямлі. Перанесьці тыбецкую сыстэму на нашага чалавека, можа, і цікава. Магчыма, сапраўды нейкая акупунктура ў нас і спрацуе. Але я ўпэўнены, што ў нас была свая сыстэма, і яна ня горшая за тыбецкую.

**М. С.:** Фонд Пётры Крэчэўскага, які знаходзіцца ў Нью-Ёрку, заснаваў літаратурную прэмію імя Янкі Юхнаўца. Ты – сябра адмысловай камісіі, якая гатовая даць прэмію твору, калі ён – нацыянальная,



моўная і вольная зьява. Патлумач, што азначаюць гэтыя крытэры?

**С. С.-В.:** Моўная зьява – значыць, чалавек можа экспэрымэнтаваць у галіне мовы. Гуляць са словам, не баяцца. Наогул, моўная сьмеласьць павінна быць. Мова ад гэтага толькі выйграе. Хоць чалавек і прайграе... Згадай Янку Станкевіча, які гаварыў на той мове, якую ён лічыў сапраўды беларускай. Часам зь яго сьмяяліся.

**М. С.:** Мне згадалася эпіграма Рыгора Крушыны на Янку Станкевіча, у якой акурат падкрэсьленыя ягоныя моўныя пошукі: «Пад скабамі тыхтала б'еццца, / Як порсткі таўкач у мяжджэрыку. / У Крывію дух мой імкнецца, / А кодаўб вязу я ў Амэрыку».

**С. С.-В.:** Насьмешак хапала. Вельмі многія не разумелі Станкевіча. Але сёньня слова «спадар», якое ён выцягнуў наверх, умацавалася ў сучаснай беларускай мове. Многія словы Станкевіча не прыжыліся. Але з-за аднаго «спадара» чалавеку можна пакланіцца і помнік паставіць... Вольная зьява – гэта вольнасьць выказваньня думкі, вольнасьць інтэрпрэтацыі чаго заўгодна, вольнасьць у самым шырокім сэнсе, калі аўтар ня мае ўнутранага цэнзара, перадусім палітычнага... І нацыянальная зьява – гэта важнасьць твору для жыцьця нацыі, яго запатрабаванасьць. Неабавязкова, каб твор меў масавага чытача незалежна ад узросту. Тут істотныя менавіта запатрабаванасьць, надзённасьць твору. А ён можа быць пра што заўгодна, нават пра ўсход сонца. Усё залежыць ад таго, як гэта напісана.

**М. С.:** Гадоў пяць-шэсьць таму ты заўзята складаў слоўнік беларускіх рыфмаў. Ці завершыў ты яго? Ці ўдалося абняць неабдымнае?

**С. С.-В.:** Неабдымнае абняць не ўдалося. Слоўнік рыфмаў застаўся незавершаным, і цяпер ён адкладзены, бо ўзьнікла тэрміновая патрэба ў другім слоўніку. І я яго зрабіў – тэрміналягічны слоўнік

Асманскай імпэрыі, Крымскага ханства, Малдовы, Трансільваніі і Валохіі. Рэч у тым, што героі майго раману трапілі ў Асманскую імпэрыю, і я з жахам зразумеў, што, апрача чалмы і мінарэту, нічога пра мусульманаў ня ведаю. Давялося сядаць за слоўнік. Праца над ім практычна скончаная, займае ён больш за 500 старонак. Упершыню ў слоўніку падаюцца біяграфіі ўсіх турэцкіх султанаў, усіх крымскіх ханаў. Я ўпершыню паспрабаваў сабраць імёны беларускіх паслоў у Крымскім ханстве і крымскіх паслоў у Беларусі. Падчас працы над слоўнікам траплялася шмат цікавых фактаў. Напрыклад, хто ведае, што ў Чуфут-Кале, вядомай крымскай турме для палітзьняволеных, першым вязьнем быў беларускі пасол Левус... Больш пра яго нічога невядома, толькі імя. Так што, у маім слоўніку чытач знойдзе вельмі шмат унікальнага беларускага матэрыялу.

**М. С.:** «Бо чужына сэрца джаліць, цісьне, як зьмяя» – хто ня ведае гэтых тваіх радкоў. Але мінаюць гады, і што, ужо ня так цісьне і ня так джаліць? Ці джаліць пачынае – радзіма?

**С. С.-В.:** Не, радзіма ня джаліць. Усё ў цытаванай песьні гучыць правільна, аж да радка: «Мне краёў чужых ня трэба». Калі чалавек апынаецца ў чужых краях, гэта не азначае, што яны яму патрэбныя. Часам так складаецца жыцьцё. Але я не прыжыўся на чужыне. Я не вучыў і не вучу ангельскую мову. У краме хлеба папытаць здолею, а дасканаліць ангельскую мне навошта? Фільмы галівудзкія можна глядзець і бязь веданьня мовы: там усё зразумела па сюжэце. Тое самае і ў амэрыканскім тэатры, куды мы часам ходзім з жонкай. Гэта ў Купалаўскім тэатры беларускае слова важнае, безь яго не зразумееш, што адбываецца на сцэне... Паўтараю сказанае на пачатку нашай гутаркі: я зьбіраюся вярнуцца ў Беларусь. Чужына для мяне пэрсанальна па-ранейшаму застаецца непрымальнай.



*Аляксей Каўка –*
гісторык, пісьменьнік. Закончыў БДУ і Акадэмію грамадзкіх навук у Маскве. Працаваў у Інстытуце экономікі АН СССР, дарадцам савецкай амбасады ў Варшаве, у Інстытуце сусьветнай літаратуры імя М. Горкага, рэдагаваў часопіс «Советское славяноведение». Доктар філялягічных навук. Аўтар кніг «Тут мой народ», «От Скорины до Купалы» ды інш. Выдае гісторыка-літаратурны гадавік «Скарыніч». Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Машчаліна на Ігуменшчыне. Жыве ў Маскве.

## *Аляксей Каўка:* «На кампраміс з д'яблам ісьці ня варта»

***10 верасьня 2006 году***

*Наведаўшыся ў Маскву, зайшоў у кнігарню «Глёбус» непадалёк ад Лубянкі. Выпадкова ўзяў у рукі кнігу паэзіі Іны Кабыш, гартануў, і вока зачапілася за наступныя радкі: «Богоданная, как зарница, / рукотворная, как звезда, / дорогая моя столица, / золотая моя орда». Трапна. Зірнуў у анатацыю: паэтка нарадзілася, жыве і выкладае расейскую літаратуру ў Маскве. Значыць, чужацкім паклёпам працытаваны верш называць не выпадае... Залатой ардой называюць сваю белакаменную сталіцу самі расейцы. А чым Масква ёсьць для беларусаў?Амаль паўстагодзьдзя пражыў у гэтым горадзе філёляг з гістарычным ухілам Аляксей Каўка, колішні навуковы супрацоўнік некалькіх маскоўскіх акадэмічных інстытутаў.*

**Міхась Скобла:** Спадар Аляксей, адна з чэхаўскіх гераіняў паўтарае як заклён: «У Маскву! У Маскву! У Маскву!». А нядаўна я перачытваў дзёньнікі Алеся Адамовіча і напаткаў таксама трохкратнае: «У Глушу! У Глушу! У Глушу!». Чаму беларусы ў Маскве не прыжываюцца? Чаму яна іх адпрэчвае – і прыжыцьцёва, і нават пасьмяротна?

**Алесь Каўка:** Можа, вы трохі перабольшваеце. Дыяспара беларуская ў Маскве даволі шматлікая – каля 80 000 чалавек. І масавага выезду беларусаў з гораду я нешта ня бачыў. Наадварот, апошнім часам назіраецца наступ на Маскву з боку Беларусі. Але стрыжань вашага пытаньня мне зразумелы, і ў ім ёсьць свая рацыя. Што тут можна адказаць? Прыцягненьне радзімы – яно неадольнае. Прыгадайма народнае: «Дарагі той куток, дзе вязалі пупок». Ці словы Францішка Багушэвіча: «Калок свой мілейшы, чым чужыя клямкі». Так што «і мне б дамоў вярнуцца ня госьцем і спачыць на ціхім пагосьце, пахілёна ля крыжа маці. “Набадзяўся, сыночак, хваце...”» Ну, але гэты мой мінор, магчыма, недарэчы.

**М. С.:** Сапраўды, мінор не зусім дарэчы: нядаўна ў вас выйшлі адразу дзьве кнігі – падзея для аўтара, я думаю, радасная. Адна зь іх – «Ад Скарыны да Купалы» – выдадзеная пад грыфам Інстытуту сусьветнай літаратуры Расейскай Акадэміі навук. А ці ёсьць у гэтым інстытуце аддзел беларускай літаратуры? Увогуле, акадэмічная расейская навука цікавіцца беларусістыкай?

**А. К.:** У маім Інстытуце сусьветнай літаратуры адмысловага беларускага аддзелу няма, зрэшты як і аддзелаў літаратуры іншых краінаў – былых савецкіх рэспублік. Ёсьць аддзел літаратураў народаў Расеі і краінаў СНД. Няблага прадстаўлена там украіністыка, каўкаскія літаратуры. Апошнія пятнаццаць гадоў у гэтым інстытуце беларусістыкай давялося займацца мне. Пэўны плён – і ў згаданай вамі кнізе «Ад Скарыны да Купалы». Дарэчы, лічу сваім абавязкам выказаць удзячнасьць кіраўніцтву інстытуту і Расейскаму навуковаму гуманітарнаму фонду, якія фінансавалі гэтае выданьне. А фінансаваньне выбіць у Маскве няпроста: вельмі патрабавальны адбор, конкурс вялікі. І факт выхаду навуковай кнігі на беларускую тэму ў Маскве ёсьць пачаткам адказу на ваша пытаньне. Мне хочацца зьвярнуць увагу на два ракурсы ўспрыманьня Беларусі ў Расеі. Ракурс палітычны – ён вядомы, нават стэрэатыпны: «Единый народ, единая история, единое государство». Дагаворваюцца часам і да «общего языка». Другі ракурс больш паглыблены, больш аб'ектыўны – акадэмічна-навуковы. І з гэтага гледзішча апошнім часам увага да нашай краіны, да нашай культуры, да гісторыі, увогуле да супольнасьці беларускай сярод навуковай грамадз-

касьці Расеі відавочна ўзрастае. Можна гаварыць пра якасна іншы падыход.

**М. С.:** А ў чым гэты новы якасны падыход выяўляецца?

**А. К.:** Магу прывесьці канкрэтныя прыклады. Апошнім часам выйшла пару вельмі вартасных навуковых кніг. Прыкладам: «Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским», штогоднікі «Беларусь и Украина», якія выдае Інстытут славяназнаўства, дзе даволі аб'ектыўна, паглыблена аналізуюцца пытаньні нашай гістарычнай і дзяржаўнай традыцыі, праблемы расейска-беларускіх узаемадачыненьняў цягам многіх стагодзьдзяў. Альбо можна згадаць вясёлую паводле зьместу і сур'ёзную паводле навуковага апарату кнігу «Белорусский эротический фольклор»... Дысэртацыі кандыдацкія па беларуска-расейскіх узаемаадносінах абараняюцца. Прыкладам, нядаўна была абароненая дысэртацыя «Белорусская диаспора в Москве» – вельмі цікавае навуковае дасьледаваньне. У маскоўскім Славянскім унівэрсытэце трохі выкладаецца беларусістыка, там плённа працуюць навукоўцы Юры Лабынцаў і Ларыса Шавінская. Тры гады таму мне давялося сустракацца са слухачамі беларускага патоку ў Бранскім пэдагагічным унівэрсытэце. Там адмыслова набраная група, у якой няблага вывучаецца беларуская мова і ўвогуле беларусістыка, прычым расейцамі зь мясцовых ваколіцаў. Так што зрухі ў нашых дачыненьнях ёсьць, і яны спрыяюць фармаваньню ў расейскай пrасторы не міталягізаванага, не «ущербного», а рэальнага вобразу Беларусі і беларуса.

**М. С.:** «Абмаскалены беларус – вялікая і страшная тэма», – прачытаў я ў вашай новай кнізе «Каб не забыцца». А чым «абмаскалены» наш суайчыньнік – больш страшная зьява, чым, напрыклад, «апалячаны беларус»?

**А. К.:** У чым тут страх, у чым праблема? Незваротная страта сваёй нацыянальнай тоеснасьці ў іншым этнічным асяродзьдзі. Раней лічылася, што беларусаў у Расеі – каля мільёну. Цяпер – 800 000. Хоць статыстыка расейская тут, мабыць, скажам па-расейску, «лукавит». Відаць, «абмаскалены беларус» – гэткая ж страшная зьява, як і «беларус апалячаны». Гадоў дваццаць таму ў Польшчы налічвалася каля 300 000 беларусаў. Колькі засталося цяпер? Трохі больш за 50 000. Вельмі паказальныя лічбы. Але ўзмоцнены супраціў гэтай аб'ектыўнай асыміляцыі павінны прысутнічаць у нашай сьвядомасьці. Я хачу згадаць сьветлай памяці нашага мысьляра і летапісца Міколу Ўлашчыка. Аднойчы ў размове са мною ён заўважыў пра Ўладзімера Калесьніка, які жыў у зрусіфікаваным Берасьці: «Бачыце – адзін чалавек, а колькі Беларусі на сабе трымае». Дык і ўсім нам трэба трымаць «на сабе Беларусі» колькі змогі.

**М. С.:** У часопісе «Дзеяслоў» пачалі публікавацца вашы дзёньнікі з часоў побыту ў Варшаве ў якасьці дарадцы савецкай амбасады ў Польшчы. Гэта канец 1970 – пачатак 1980-х гадоў. У Янкі Купалы: «Варшава панская і царская Масква». Маўляў, у сваіх захопніцкіх памкненьнях для Беларусі аднолькавыя. А па вашых назіраньнях, хто з нашых суседзяў больш прыхільны да Беларусі?

**А. К.:** Гэта наш кон – знаходжаньне паміж, якое камплікавала і працягвае камплікаваць нашае нацыянальнае самапачуцьцё. У часы Купалы назіралася пэўная раўнавага, калі можна так сказаць, па сіле ўціску. Памятаеце, і ў Коласа падобнае: «З двух бакоў айцы дубінай заганялі нас у рай» – і з польскага, і з расейскага. Але сёньня сытуацыя цалкам зьмянілася. З боку Польшчы для Беларусі як дзяржаўнай цэласьці няма пагрозы. Толькі адзін прыклад. У Варшаўскім унівэрсытэце ёсьць катэдра беларускай філялёгіі. А дзе яна ў Маскве? Так што тут Купала, відаць, не паўтарыў бы свой цалкам

справядлівы для свайго часу папрок. Згадаю яшчэ адзін паказальны факт. Неяк у Варшаве ладзілі мы ў Доме савецкай навукі і культуры вечарыну, прысьвечаную беларускай паэзіі. І прыйшоў на яе сівы як лунь польскі паэт Ежы Путрамант. Памятаю, як падчас свайго выступу ён зачытаў на памяць верш Максіма Танка: «Ну што, кажы, што ў вас чуваць, – / Пачаў стары пра сенажаць. / Успомніў жыта і авёс, / А вочы – мокрыя ад сьлёз». І далей да апошняга радка Путрамант на адным дыханьні выдыхнуў, выгукнуў, вычуліў той танкаўскі верш! І падагульніў пан Ежы сваё нязвыклае чытаньне проста і шчыра: «Po-białorusku mowić nie potrafię, a ten wiersz pamiętam. I to jest siła poezji!»

**М. С.:** Сапраўды, яскравы факт. А ці даводзілася вам бачыць нешта падобнае ў Маскве?

**А. К.:** За ўсе гады жыцьця ў Маскве мне, на жаль, ні разу не прыйшлося перажыць падобнага эстэтычнага ўзрушэньня ад гучаньня роднага беларускага слова з вуснаў расейскага пісьменьніка, хоць не адзін зь іх часам пахваляўся сваімі беларускімі каранямі «от бабушки или дедушки»... Стаўленьне тут на масавым узроўні застаецца ранейшым, імпэрскім: «Белорусы – наши младшие братья, мы их и без перевода понимаем».

**М. С.:** Наконт зразумеласьці нашай мовы для расейцаў... Нядаўна мне ў рукі трапіў «Русско-белорусский разговорник», выдадзены ў Маскве выдавецтвам «Астрель». У ім пад 3000 выразаў, і прызначаны ён для бізнэсмэнаў і турыстаў. Як вы лічыце, ён ім патрэбен?

**А. К.:** Відаць, патрэбен, калі выдалі. Бачыце, ужо ня толькі акадэмічная навука, а грамадзкасьць, бізнэсоўцы, турысты цягнуцца да беларускага слова! Значыць, яны цікавяцца нашай краінай, яны яе паважаюць, яны хочуць спасьцігнуць беларускую мову. Я, дарэчы, маю гэты размоўнік. І, гартаючы яго, думаў: каб менскім чыноўнікам на стол па асобніку пакласьці, можа, яны пачалі б вывучаць хоць па размоўніку сваю дзяржаўную мову?! Я ўжо тыдзень у Менску – і ні па тэлевізары, ні па радыё, нідзе ніводнага беларускага слова з вуснаў чыноўнікаў не пачуў! Хоць яны не зьнікаюць ні з этэру, ні з экрану. Так што падзякуем расейскім братам, якія хоць трохі вылечваюць нас ад нашай нематы і глухаты... Дарэчы, прыяцель мой, які падараваў мне гэты размоўнік, пакінуў на ім гэткае кранальнае пажаданьне: «Ты туляк, арловец ці масквіч, сала з бульбай зьеўшы упрыкуску, ад Уралу аж па Брайтан-біч з Каўкам гавары па-беларуску!». Мне гэты аўтограф цепліць душу.

**М. С.:** Перад наступным пытаньнем прывяду цытату з успамінаў Кастуся Езавітава пра Першы Ўсебеларускі кангрэс 1917 году: «Калі хор засьпяваў беларускі гімн “Адвеку мы спалі...”, шмат у каго з маладых і старэйшых нашых дзеячоў спаўзла па шчацэ нечаканая сьляза». Але да гэтай пары мы ня ведалі аўтара гэтай песьні-гімну. Яе то падавалі ананімна, то прыпісвалі Ўладзіславу Галубку. А вы знайшлі імя аўтара. Дык хто ж ён?

**А. К.:** Аляксандар Аляксандравіч Мікульчык – нараджэнец мястэчка Шацк на Пухаўшчыне, аднагодак Янкі Купалы. Пашчасьціла мне адшукаць арыгінал гэтага вершу пад першапачатковай назвай «Сялянская марсэльеза». Гэтая песьня мела ўсенароднае бытаваньне. Мне пісаў Сяргей Грахоўскі, што ў ягоныя школьныя гады ў кожнай школе перад пачаткам урокаў сьпявалі «Адвеку мы спалі...». Потым, у сувязі з барацьбой з «нацдэмамі», заглухла гэтая песьня. І мне вось што падумалася. Было б няблага ля Пішчалаўскага замку, дзе Мікульчык сядзеў за падазрэньне ў тэрарызьме, ці ў Шацку, дзе ён нарадзіўся, усталяваць стэлу зь векавечнымі словамі «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі, мы зналі, што трэба рабіць! Аляксандар Мікульчык». Тым бо-

лей што ў Менску не бракуе помнікаў, неадэкватных нашай гісторыі і культуры.

**М. С.:** Калі ўжо мы загаварылі пра помнік аўтару славутай песьні, згадаю нядаўна вычытанае: у Латвіі народных песьняў-дайнаў – паўтара мільёна! І латышы вельмі ганарацца: амаль кожнаму па песьні прыпадае! А ў нас ці набярэцца столькі песьняў, каб кожнаму беларусу – хоць па адной?

**А. К.:** На мільёны песьні лічыць я ўсё ж не адважуся. Але для мяне відавочна, што па якасьці, па самабытнасьці нашай народнай песеннай культуры мы нікому ў сьвеце не саступаем. Вазьміце хоць бы наш песенны валачобны цыкль, непаўтораны нідзе. А нашыя прымаўкі, прыказкі, прыпеўкі... Нядаўна выйшла энцыкляпэдыя міталёгіі беларускай, там толькі пазначаныя тэмы, а калі разгарнуць іх!.. Гэта ж багацьце! Іншая справа – як мы гэтае багацьце выкарыстоўваем, наколькі мы зь яго духоўна багацеем.

**М. С.:** Вы родам з Ігуменшчыны – цяперашняй Чэрвеньшчыны. Сёлета ў вашым родным Чэрвені на старых могілках была знойдзеная магіла Апанаса Мякоты – роднага дзеда Максіма Багдановіча. Я ведаю, што вы днямі там пабывалі. Ці добраўпарадкаваная яна, ці ўнесеная ў раённы рэестар помнікаў, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы?

**А. К.:** Я лічу гэта адкрыцьцём у багдановічазнаўстве, у нашай нацыянальнай культуры. Мне прыемна, што адшукаў помнік мой даўні сябар, былы настаўнік-фізык, мясцовы краязнавец Уладзімер Дарагуш. Ён лепей пра ўсё можа расказаць.

**М. С.:** Мы патэлефанавалі ў Чэрвень Уладзімеру Дарагушу і вось што пачулі.

**Уладзімер Дарагуш:** Знаходка магілы дзеда Максіма Багдановіча нікога зь мясцовых уладаў не зацікавіла. Я зьвяртаўся да загадчыцы ідэалягічнага аддзелу Чэрвеньскага райвыканкаму, каб далі некалькі бэтонных брускоў – абгарадзіць магілу. Пачуў адказ: няма грошай. Нікому гэтая магіла не патрэбная. Ніхто яе ў рэестар помнікаў гісторыі і культуры ня ўносіў. Усё ўпіраецца ў грошы. Быццам на добраўпарадкаваньне магілы трэба мільёны. Я трохі яе ўпарадкаваў, пясочкам падсыпаў, але ж трэба давесьці да ладу.



**М. С.:** У Чэрвеньскім райвыканкаме не знайшлося сродкаў на чатыры слупкі, каб абгарадзіць магілу дзеда беларускага геніяльнага паэта. Тут ужо нават не адносіны ўладаў да беларускай нацыянальнай культуры, гэта нешта іншае... Што скажаце, спадар Аляксей?

**А. К.:** У зьвязку з гэтым хочацца прыгадаць адну старазапаветную прыпавесьць. Хам, адзін з сыноў Ноя, згледзеў на сьпячым з падпітку бацьку непрыкрыты сорам. І памкнуўся справакаваць братоў на пацяшэньне са старога. Але тыя, Сім і Яфет, не спакусіліся блюзьнерствам, далікатна ахінуўшы агаленьне на бацькавым целе. Дарэчы, гэтую старазапаветную калізію ў свой час пранікліва пракамэнтаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: «Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны – п'яніца, і зусім выпусьціў з-пад увагі тое, што ён пабудаваў каўчэг і ўратаваў сьвет». Дык ня будзем жа і мы хамамі ў адносінах да сваіх сьвятыняў! Нядаўна я перагортваў свой дзёньнік і спыніўся на запісе ад 10 чэрвеня 1979 году (прашу прабачэньня за самацытату): «Я павінен рабіць тое, што павінен рабіць і ў чым бачу сваё пакліканьне. Так дзейнічае сьветлы наш працаўнік Янка Брыль, ёсьць і нам на каго раўняцца». Можа, нас цяпер чуе з-за неспасьціжнай далёкай мяжы Іван Антонавіч Брыль? Хай ведае, што слова яго сьветлае жыве, справа яго жыве, як жывуць слова і справа Янкі Купалы, Васіля Быкава і ўся наша незьнішчальная беларушчына.

**М. С.:** «У сьцягах нашых многа сьвятла», – пісаў згаданы вамі Янка Брыль. Ці павінен беларускі ін-

тэлігент станавіцца пад той беларускі сьцяг, у якім сьвятла значна менш?

**А. К.:** У сьвеце адвечна змагаюцца два полі – цемра хлусьні і сьвятло праўды. Інтэлігент не павінен ісьці на кампраміс з д'яблам, валадаром і распаўсюднікам цемры, як бы д'ябал ні шчыраваў, ні пагражаў, ні зацікаўліваў... Хачу расказаць пра адзін паказальны, на мой погляд, выпадак. Беларускі хлопец з Маладэчна прыехаў паступаць у Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў. На іспыце па расейскай літаратуры яго папрасілі прачытаць на памяць верш. Разгубіўся хлопец, пазабываўся ўсе расейскія вершы і пытае: «А беларускі можна?» «Да, пожалуйста». І хлопец прачытаў верш маладэчанскага паэта і мастака Лявона Цімохіна: «У храме славы сьвечка воскам плача, / А кат пад маскай закруціў свой вус. / Ня сьцерпела хлусьні нутро юначае, / На плошчу выйшаў хлопец-беларус. / Сабакі, каскі, бронетраспарцёры – / Бы катафалкі, роў і дым, смурод. / Дзіця на сцэне, ў лёджыях акторы, / Такі тэатар і такі народ». Анямеў выкладчык, за хлопца – і павёў у суседнюю аўдыторыю, да свайго калегі і змусіў паўтарыць. І верш, пачуты двума расейскімі інтэлігентамі, стаў калі не вырашальным, то істотным дапаможным чыньнікам пры паступленьні. Вучыцца хлопец у тым інстытуце, ужо на другім курсе. Так што ўсё залежыць ад таго, якое ты вытвараеш вакол сябе ўласна беларускае поле, калі яно моцнае – яно будзе зразуметае і падтрыманае.

**М. С.:** Беларускі верш дапамог хлопцу з Маладэчна паступіць у прэстыжны маскоўскі інстытут. А беларускі тралейбус возіць масквічоў. Ці езьдзілі вы на тралейбусе, на якім напісана: «Подарок москвичам от Александра Лукашенко»?

**А. К.:** Чуў я пра такі тралейбус, езьдзіць на ім, праўда, не давялося – не супадаюць ягоныя маршруты з маімі. Маскву і масквічоў ня зьдзівіш сёньня самымі экстравагантнымі падарункамі. Адно магу сказаць: тралейбус той, колькі б ён па Маскве ні езьдзіў, не паўторыць лёс браневіка ля Фінляндзкага вакзалу ў Пецярбургу.



**М. С.:** У Менску нярэдка бываюць маскоўскія чыноўнікі, вось і нядаўна візытаваў міністар харчаваньня ўраду Масквы. А ці трапляюцца беларускія тавары ў маскоўскіх крамах? Хочацца пачуць думку канкрэтнага спажыўца.

**А. К.:** Я часта ежджу электрычкай на сваё лецішча ў напрамку Тулы. Па вагонах звычайна ідуць гандляры, іх там называюць *афені*, і прадаюць розныя тавары. І я неаднойчы чуў: «Производство Белоруссии! Дешевле, чем на рынке!» Зубную пасту носяць, сурвэткі арыгінальныя ільняныя, іншыя рэчы. І гандлёвая марка Беларусі выклікае давер у пакупнікоў. І прадукты беларускія ў Маскве сустракаюцца. Ну, а пра лядоўні ды газавыя пліты ўсе ведаюць – рэчы капітальныя і эстэтычныя. Так што беларуская таварная прысутнасьць у Маскве і ваколіцах заўважная. Але на адным расейскім рынку нам сваіх эканамічных інтарэсаў ня вырашыць, трэба на ўсе бакі старацца. У Расеі свае праблемы. Скажам, летась у Расеі пшаніца дужа ўрадзіла. Не змаглі выкупіць, стварыць рэзэрвовыя фонды, сёньня ў Расеі хлеб даражэе штодня, закупляюць зерне на Захадзе.

**М. С.:** Гэты год афіцыйна абвешчаны Годам беларускай культуры ў Расеі. Ці не перажыла сябе гэтая, яшчэ савецкая, традыцыя – культуру падмяняць мерапрыемствамі?

**А. К.:** Не, тут я ня згодзен. Дні культуры – гэта добра. Хай сабе і з масавымі прэзэнтацыямі ды іншымі відовішчамі. Сёлета ў Маскве заплянаванае адкрыцьцё помніка Янку Купалу*. Калі яно адбудзецца, гэта будзе сапраўды гістарычная падзея. Але

*Помнік Янку Купалу ў Маскве ўсталяваны на Кутузаўскім праспэкце, але дасюль афіцыйна не адкрыты.

ў дачыненьні да афіцыйных культурных мерапрыемстваў ёсьць адна праблема. Наколькі адэкватна, аб'ектыўна і паўнакроўна ў афіцыйных канцэртах і выставах у Расеі прэзэнтуецца культура беларускага народу? Наколькі яна ўлічвае і культуру Міхася Забэйды-Суміцкага, Уладзімера Караткевіча, Васіля Быкава? Нядаўна расейскага мастака Шылава прымала ў Менску першая асоба дзяржавы, ганаравала яго ордэнам Скарыны. А ці прычакаюць беларускія мастакі падобнага прыёму ў Маскве? А што, у тым жа Манежы суполка «Пагоня» ня вартая выстаўляцца? Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, сьветлай памяці Яўген Кулік – гэта што, не мастацтва Беларусі? На іх палотнах – наша аўра духоўная, наша эстэтычная вобразнасьць, харашыня нашая. Тое, у чым мы як народ непаўторныя. А сёньня беларуская культура пульсоўна і дынамічна выказвае сваю жыцьцястойкасьць, свой супраціў той самай цемры хлусьні, пра якую мы гаварылі, сьцьвярджаючы і пашыраючы поле сьвятла і праўды.

**М. С.:** Прыяжджаючы ў Беларусь, вы ня любіце сядзець у Менску. Цягне на родную Ігуменшчыну?

**А. К.:** Вельмі цягне, і з гадамі ўсё больш гэты магнэз спрацоўвае. Я прыяжджаю штогод на Радаўніцу, каб наведаць магілы родных. Самае яскравае сёлетняе ўражаньне: выходжу на ганак ранютка, а на вежу каля маёй роднай хаты прыляцелі буслы і клякочуць, робяць кругі спакою над маім Машчалінам. Бела-чырвона-белы колер лунае над Беларусьсю, жаўранкі не перастаюць сьвірчэць і прашываць нябёсы, людзі садзяць бульбу, пахне ральлёй... І перад адвечным зямным беларускім клопатам адступаюць і бачацца часовымі ўсе тыя згрызоты, якія нас штодня, штогадзіны дапякаюць. Калі іх вымяраць гэтым вялікім і вечным часам, яны мізарнеюць відавочна, і яны прамінуць.



*Сяргей Ёрш –*
гісторык. Выпускнік Менскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя М. Танка. Працаваў дырэктарам Народнага музэю ў Слоніме, журналістам у незалежных выданьнях. Адзін з выдаўцоў часопіса «Беларускі рэзыстанс». Аўтар кніг «Вяртаньне БНП», «Рыцар свабоды: Вінцэнт Гадлеўскі», «Беларускі супраціў» (у суаўтарстве з С. Горбікам). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў Слоніме. Жыве ў Менску.

## *Сяргей Ёрш:* «Двойчы ў Белавежы рабіўся замах на Хрушчова»

***29 кастрычніка 2006 году***

*За часам СССР у слаўным сузор'і рэспубліксясьцёр Беларусь горда менавалася рэспублікай-партызанкай. Кіраваў ёю былы партызан Пятро Машэраў, рэспубліканскую кінастудыю ў саюзных кіношных колах называлі «Партызан-фільмам», пра партызанаў у беларускіх пушчах галасіста на ўвесь белы сьвет сьпявалі «Песьняры». У той жа час галоўнай гістарычнай працай пра беларускі партызанскі рух лічылася таўшчэзная (720 старонак) кніга колішняга шэфа МДБ БССР Лаўрэнція Цанавы, выдадзеная ў 1951 годзе. Пад якім ракурсам там разглядалася беларуская «партызанка» ў гады Другой сусьветнай, – тлумачыць наўрад ці патрэбна... А былі ж ня толькі партызаны савецкія, ды і партызаншчына як зьява не закончылася ў Беларусі зь пераможнымі салютамі ў 1945-м. Нядаўна ў Львове пабачыла сьвет кніга на акрэсьленую тэму – «Беларускі супраціў», адзін зь яе аўтараў – гісторык Сяргей Ёрш.*

**Міхась Скобла:** Сяргей, як прынята лічыць, пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны ў Беларусі нарэшце ўсталяваліся доўгачаканыя мір і спакой, і рэспубліка ў арэоле савецка-партызанскай славы пачала ўзьнімацца з руінаў. Вы ж пішаце, што для многіх беларусаў вайна ў 1945 годзе не закончылася. Што ж гэта была за вайна пасьля вайны?

**Сяргей Ёрш:** Гэта была вельмі доўгая вайна, якая працягвалася больш за дзесяць гадоў. У ёй удзельнічалі розныя сілы – і польскія, і ўкраінскія, і, вядома ж, беларускія. Статыстыка сьведчыць, што ў 1945 годзе на нелегальным становішчы ў Беларусі знаходзілася каля 117 000 чалавек. Гэта былі мужчыны



прызыўнога веку, якія не хацелі ісьці служыць у Савецкую Армію альбо проста хаваліся ад савецкіх уладаў, баючыся патрапіць пад рэпрэсіі. У час вайны яны працавалі ў акупацыйных установах, выкладалі ў беларускіх школах альбо служылі ў Беларускай краёвай абароне. Такім чынам, было шмат людзей, якія хаваліся. Аднак існавалі яшчэ і арганізацыі, якія мэтанакіравана арганізоўвалі антысавецкі супраціў. Былі створаныя падпольныя партызанскія структуры, якія гадамі не давалі спакою савецкай уладзе на нашай зямлі.

**М. С.:** Вы кажаце, што паваенная антысавецкая «партызанка» ў Беларусі чынілася ня толькі стыхійна, але і мела арганізаваны характар. Ці было гэта магчыма пад носам ва ўздужэлай за вайну савецкай дзяржбясьпекі, калі ня тое што за дывэрсію, але нават за неасьцярожна сказанае слова людзі траплялі за краты?

**С. Ё.:** Яшчэ ў час нямецкай акупацыі існавала і актыўна дзейнічала Беларуская незалежніцкая партыя, якую заснаваў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, закатаваны нацыстамі ў сьнежні 1942 году. БНП яшчэ пры немцах пачала ствараць нацыянальныя партызанскія аддзелы. Некаторыя з гэтых аддзелаў дзейнічалі да лета 1944 году, калі сюды прыйшла Савецкая Армія, працягвалі ваяваць яны і ў пазьнейшы час. Але самая моцная структура была створаная ў 1944 годзе, пазьней яна атрымала назву «Чорны кот». Узначальваў гэтую арганізацыю маёр Міхал Вітушка.

**М. С.:** Апрача «Чорнага ката», якія ўзброеныя групы дзейнічалі ў Беларусі і хто імі кіраваў?

**С. Ё.:** У паваенны час існавалі некалькі аўтаномных арганізацый. Напрыклад, арганізацыя «Вітаўта», якая з 1946 да 1947 году дзейнічала на тэрыторыі Віленшчыны і сумежных раёнаў, але зьвесткі пра яе супярэчлівыя. На Палесьсі дзейнічаў партызанскі атрад атамана Якуба Харэўскага, які

пачаў партызаніць яшчэ ў 1920-я гады. Спачатку ён партызаніў супраць палякаў – да 1925 году, потым уцёк на тэрыторыю Савецкай Беларусі, жыў у сваякоў пад Менскам. Калі пачаліся рэпрэсіі 1937 году, ён вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, быў на нелегальным становішчы. У 1939 годзе зноў удзельнічаў у антыпольскай «партызанцы», потым зноў хаваўся ад савецкай улады... А ў 1941-м пачаў партызаніць супраць немцаў. Цікавы момант: калі ўвосень 1944 году немцы закідалі ў Беларусь свае групы, беларускія і ўкраінскія, якія спрабавалі ўзрываць савецкія цягнікі, то Харэўскі гэтаму перашкаджаў. У яго была свая тактыка, ён лічыў, што да капітуляцыі Нямеччыны ён будзе хаўрусьнікам Савецкага Саюзу (хоць Саветы пра гэта, напэўна, ня ведалі). А пасьля капітуляцыі Нямеччыны Харэўскі распачаў антысавецкую партызанскую барацьбу. Хачу яшчэ адзначыць, што на Нясьвіжчыне і ў сумежных раёнах у 1945–1949 гадах дзейнічаў атрад Івана Раманчука. Гэта былы беларускі настаўнік, які ў 1944 годзе перайшоў на нелегальнае становішча. Раманчук быў кіраўніком нелегальнай арганізацыі «Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі». У 1949-м ён быў арыштаваны, адседзеў 25 гадоў у савецкім лягеры. Потым вярнуўся ў Беларусь і яшчэ пасьпеў стварыць сям'ю.

**М. С.:** Зь першых месяцаў вайны на Гарадзеншчыне дзейнічаў савецкі партызанскі атрад імя Кастуся Каліноўскага (у ім, дарэчы, змагаўся будучы вядомы пісьменьнік Аляксей Карпюк). Але і ў антысавецкім руху былі аддзелы каліноўшчыкаў. Што яны зь сябе ўяўлялі?

**С. Ё.:** Атрады каліноўшчыкаў ствараліся пры ўдзеле Беларускай незалежніцкай партыі з 1944 году. Яны складаліся пераважна з моладзевага крыла партыі. Каліноўшчыкі павінны былі дачакацца дэсантаў беларускага батальёну «Дальвіц» і ўжо тады разгортваць антысавецкую «партызанку». Каліноўшчыкі дзейнічалі асобна ад «Чорнага ката». Увогуле, паваенны беларускі супраціў можна падзяліць на тры часткі: 1 – найбольш масавая — стыхійны рух, які ня меў агульнага цэнтру; 2 – партызанскі рух, які ўтварала Беларуская незалежніцкая партыя (у тым ліку каліноўшчыкі і беларускія дэсанты); 3 – згаданая ўжо арганізацыя «Чорны кот» Вітушкі.

**М. С.:** Савецкая «партызанка» падчас вайны падтрымлівалася дэсантамі з Усходу, з гэтак званай Вялікай Зямлі. Антысавецкая – дэсантамі з Захаду. Колькі дэсантных групаў было высаджана ў паваеннай Беларусі і зь якімі мэтамі?

**С. Ё.:** Дэсантных групаў было высаджана ў Беларусь па вайне як мінімум пяць. Напрыклад, згадаем першы дэсант 1949 году на Беласточчыну – дзеля падтрымкі антысавецкай «партызанкі». У 1951 годзе дэсант быў скінуты ў раёне Мазыра – факт абсалютна невядомы. Дэсантнікі мусілі зьдзейсьніць дывэрсію на адным зь мясцовых прадпрыемстваў. Але гэтыя беларускія хлопцы адмовіліся ад дывэрсіі, адышлі ў бок Белавескай пушчы і далучыліся да атрада з арганізацыі Вітушкі, які там дзейнічаў. Яшчэ адзін малавядомы дэсант быў высаджаны ў красавіку 1951 году ў Заходнім Палесьсі. Кіраваў групай старэйшы лейтэнант Сымон Міхальчук. Дарэчы, гэтай групе была даручаная адмысловая місія. Справа ў тым, што за паўтара году да гэтага Саветы пераслалі на Захад свайго агента, які прэзэнтаваў сябе прадстаўніком падпольнай арганізацыі з Палесься. Каб праверыць, ці існуе насамрэч такая арганізацыя, туды была скінутая група Міхальчука. Прычым яна была скінутая на тры дні раней сплянаванага тэрміну. І калі Міхальчук са сваімі хлопцамі падышлі да таго месца, дзе мусіў быць дэсант, там ужо ішла падрыхтоўка: войскі МДБ наладжвалі ачапленьне. Міхальчук тэрмінова паслаў на Захад радыёграму. І ў адпаведны дзень да зямлі з амэры-

канскага самалёта пайшлі парашуты, але былі яны з выбухоўкай, і некалькі афіцэраў МДБ загінулі. А атрад Міхальчука працягваў дзейнічаць у тым раёне яшчэ доўгі час. І толькі 28 сакавіка 1953 году, прыкрываючы адыход сваіх партызанаў з акружэньня, Міхальчук падарваў гранатай сябе і супрацоўнікаў МДБ, якія падышлі ў той момант да яго.

**М. С.:** Вы неаднойчы згадалі імя Міхала Вітушкі. Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі» піша пра яго: «Вітушка жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі». Якою была ягоная роля ў беларускім антысавецкім супраціве?

**С. Ё.:** Міхал Вітушка быў вельмі таленавітым вайскоўцам, разумным палітыкам, добрым арганізатарам. Ён здолеў стварыць, будзем казаць праўду – пры дапамозе нямецкіх спэцслужбаў – моцную арганізацыю, якая налічвала, па розных зьвестках, 3000–3500 чалавек. Гэтая арганізацыя была адзінай на ўсёй тэрыторыі СССР, якую не ўдалося цалкам разграміць органам МДБ. Яна праіснавала фактычна да канца 1950-х гадоў. Ніхто зь сяброў галоўнага штабу беларускага партызанскага руху, якім кіраваў Вітушка, ня быў забіты ці арыштаваны савецкай дзяржбясьпекай. Многія з гэтых людзей спакойна жылі і памерлі ці ў Польшчы, ці на Захадзе. Частку сваіх паплечнікаў Вітушка з дапамогай заходніх спэцслужбаў здолеў вывесьці за мяжу, хоць гэта зрабіць было вельмі няпроста.

**М. С.:** У вашай кнізе я вычытаў сэнсацыйную навіну: яшчэ сёлета Вітушка быў жывы. Якія ў вас на гэта ёсьць доказы?

**С. Ё.:** Калі мы зь Сержуком Горбікам мінулай восеньню пачыналі пісаць кнігу «Беларускі супраціў», то атрымалі інфармацыю: Міхал Вітушка жыве, яму ідзе 99-ы год. Гэтую навіну мы даведаліся ад вэтэранаў беларускага партызанскага руху, якія жывуць у Нямеччыне. Яны паведамілі, што ў Вітушкі ёсьць сям'я, дзеці, унукі. Ён напісаў успаміны, якія



пакуль не апублікаваныя. Не пра ўсё я цяпер магу распавесьці... Прывяду адзін з доказаў таго, што Міхал Вітушка не загінуў, як пра тое неаднойчы афіцыйна паведамлялася. Пасьля вайны савецкія спэцслужбы спрабавалі дамагчыся ад Захаду выдачы «ваенных злачынцаў», сярод якіх фігуравала і прозьвішча былога камандзіра «Чорнага ката». У 1945 годзе на тэрыторыі Беларусі загінуў другі Вітушка – Мікалай. І савецкай дзяржбясьпецы было выгодна абвесьціць, што яны ліквідавалі няўлоўнага Міхала Вітушку. На вялікі жаль, кнігу «Беларускі супраціў» ён пабачыць не пасьпеў. У красавіку 2006 году Міхал Вітушка памёр у адным з альпійскіх пансіянатаў у Баварыі.

**М. С.:** З тэлехронікі мне памятаецца паваенны партызанскі парад у Менску. Перад Домам Ураду праходзяць нястройныя шэрагі партызанаў, апранутых хто ў чым. А ці мелі нейкую ўніформу ўдзельнікі антысавецкай «партызанкі»?

**С. Ё.:** Калі гаварыць пра стыхійную «партызанку», то ніякай формы яе ўдзельнікі, вядома ж, ня мелі. Калі ж да «партызанкі» далучаўся жаўнер Беларускай краёвай абароны, то ён працягваў насіць уніформу БКА. «Чорны кот» выкарыстоўваў савецкую альбо нямецкую дэсантную ўніформу. Цікава, якія звароты, па сьведчаньнях вэтэранаў, практыкаваліся паміж партызанамі: «Спадар камандзір!» альбо «Пан камандзір!». Я таксама пацікавіўся ў былых партызанаў, якія песьні яны сьпявалі? Аказваецца, народныя, якія да вайны гучалі ў беларускіх вёсках. А партызаны з «Чорнага ката» мелі за свой афіцыйны гімн славутую «Пагоню».

**М. С.:** І яшчэ адна паралель напрошваецца. Савецкія партызаны мелі свае лясныя друкарні, выпускалі самадзейныя газэты з назвамі накшталт «Партызанская дубінка». Ці мелі свой друк партызаны, якія з савецкай уладай змагаліся?

**С. Ё.:** Безумоўна, такі друк быў. І найлепш дру-

карская справа была пастаўленая ў структурах Міхала Вітушкі. З 1945 года пачалі выходзіць падпольныя газэты, улёткі і брашуры. Галоўным выданьнем беларускага партызанскага руху была газэта «За волю», рэдактарам якой выступаў сам Вітушка. Выходзілі таксама дзясяткі іншых выданьняў, прыгадаю, напрыклад, газэту «Душы бальшавіцкую гадзіну!». Істотны момант: пераважная бальшыня партызанскіх выданьняў, выяўленая МДБ ў паваеннай Беларусі, выдавалася на беларускай мове. І тут хацелася б расказаць пра такі факт. У лістападзе 1947 году, уначы, невядомыя людзі напалі на друкарню ў горадзе Калінкавічы, захапілі беларускія шрыфты, іншае друкарскае начыньне і ўсё вывезьлі ў невядомым кірунку. Сьлед гэтых шрыфтоў быў потым заўважаны «спэцыялістамі» ў падпольных друках, якія зьявіліся па ўсёй Беларусі – і на Віцебшчыне, і на Магілёўшчыне, і на Гарадзеншчыне, і на Берасьцейшчыне.

**М. С.:** Калінкавіцкая друкарня працягвала працаваць... Сяргей, яшчэ за часам Расейскай імпэрыі ў Белавескай пушчы любілі паляваць на дзікоў ды зуброў спачатку цары, а потым і генсекі КПСС. Але, паводле вашай кнігі, палявалі ня толькі яны, але і на іх?

**С. Ё.:** Сапраўды, у 1957 годзе ў Белавескую пушчу, акурат у знакамітую сёньня рэзыдэнцыю Віскулі, прыяжджаў Мікіта Хрушчоў. І Міхал Вітушка, які на той час ужо зварочваў сваю дзейнасьць, вырашыў правесьці апошнюю гучную апэрацыю па зьнішчэньні кіраўніка Камуністычнай партыі Савецкага Саюзу. Спачатку плянавалася, што будуць задзейнічаныя дзьве ўзброеныя групы: адна прарвецца з тэрыторыі Польшчы, другая будзе дзейнічаць у самой пушчы. Аднак пасьля выведкі высьветлілася, што і рэзыдэнцыя, і сам Хрушчоў вельмі добра ахоўваюцца. Тады было вырашана паставіць некалькі мінаў па маршруце перасоўваньня Хрушчова, што і было зроблена. Аднак на мінах падарвалася другая машына, у якой ехалі маскоўскія генэралы і палкоўнікі... І гэты замах ня быў адзінкавым. У 1962 годзе ў Белавескай пушчы ізноў палявалі на Хрушчова. У яго нехта страляў, але тыя вэтэраны, зь якімі мы кантактавалі, гаварылі, што да гэтага замаху яны ня мелі дачыненьня. Але і на гэты раз замах прайшоў няўдала.



**М. С.:** І да якога часу працягвалася антысавецкая «партызанка»? Калі яна канчаткова затухла?

**С. Ё.:** Партызанскія атрады Вітушкі, тыя, што не былі ліквідаваныя войскамі МДБ, змагаліся да пачатку 1950-х гадоў. Пасьля яшчэ некалькі гадоў дзейнічала ўзброенае падпольле. Апошні партызанскі атрад, які ўваходзіў у арганізацыю «Чорны кот» і ваяваў супраць савецкай улады, – атрад Аўгена Жыхара, які быў вядомы таксама як паэт. Ён дзейнічаў на Віцебшчыне. Жыхар загінуў у студзені 1955-га, напярэдадні свайго сыходу на Захад. Да канца 1950-х падпольная барацьба была спыненая, значная частка яе ўдзельнікаў, што выжылі, засталіся жыць у Польшчы ці СССР. Некаторым і ў пазьнейшы час арганізоўвалі ўцёкі на Захад, калі зьяўлялася пагроза арышту.

**М. С.:** Колькі беларускіх партызанаў здолелі пасьля вайны патрапіць на Захад?

**С. Ё.:** Як мінімум некалькі соцень. Больш-менш дакладныя лічбы могуць быць у архівах заходніх спэцслужбаў, якія праводзілі апытаньні ўцекачоў з-за «жалезнай заслоны». Гэта былі ня толькі байцы партызанскіх аддзелаў, якімі камандаваў Міхал Вітушка, але і ўдзельнікі іншых партызанскіх фармацыяў і падпольных арганізацыяў. Апошнія на Захад сыходзілі па адным і невялікімі групамі ўжо ад 1945 году. Шлях іх ляжаў праз Польшчу ў Чэхію альбо Бэрлін, а адтуль – у Заходнюю Нямеччыну. Скажам, у 1945 годзе на Захад сышлі рэшткі партызанскага атраду Язэпа Таўпекі, які падчас нямецкай

акупацыі дзейнічаў у трохкутніку Баранавічы – Слонім – Івацэвічы. У 1947 годзе перайшоў мяжу атрад Івана Перагуда, які партызаніў на Палесьсі. Праз Латвію прабіраліся на Захад партызаны групы Міхальчука. Гэты шлях быў найболыш небясьпечным, паколькі беларусам даводзілася выходзіць на кантакт з удзельнікамі латыскага супраціву, шукаць тамтэйшыя падпольныя яўкі. Латышы на маторках вывозілі беларусаў у нэўтральныя воды, а тыя далей кіраваліся ў Швэцыю. Былі выпадкі, калі савецкія памежныя караблі абстрэльвалі лодкі ўцекачоў.

**М. С.:** Мне неаднойчы даводзілася чуць, што паваенная антысавецкая «партызанка» напалову прыдуманая такімі гісторыкамі, як Сяргей Ёрш, Андрэй Блінец, Сяржук Горбік. Як вы лічыце, пасьля выхаду вашай кнігі расстаўленыя ўсе кропкі над і?

**С. Ё.:** Не, яшчэ ня ўсе кропкі над і расстаўленыя. Галоўная задача цяпер – шукаць і публікаваць дакумэнты. Дарэчы, большасьць дакумэнтаў па арганізацыі Вітушкі засакрэчаная ня толькі ў Беларусі ды Расеі, але і на Захадзе. І ўсё ж, я спадзяюся, у найбліжэйшыя гады зьявіцца цэлы зборнік дакумэнтаў, прысьвечаны беларускаму супраціву.



*Віктар Хурсік –*
журналіст, выдавец, дасьледчык гісторыі. Закончыў машынабудаўнічы факультэт БПІ. Працаваў на Менскім станкабудаўнічым заводзе імя С. Кірава, у рэдакцыі газэты «Зьвязда». Цяпер – дырэктар прыватнага выдавецтва. Аўтар кніг «Белы лебедзь у промнях славы: Магдалена Радзівіл», «Трагедыя белай гвардыі», «Кроў і попел Дражна». Нарадзіўся ў 1953 годзе на станцыі Ўборак Асіповіцкага раёну. Жыве ў Менску.

## *Віктар Хурсік:* «Вёску Дражна спалілі партызаны»

***19 лістапада 2006 году***

*У 2004 годзе журналіст газэты «Зьвязда» Віктар Хурсік атрымаў рэдакцыйнае заданьне – выехаць у вёску Дражна Старадарожскага раёну і разабрацца ў абставінах трагедыі, што адбылася там у гады Другой сусьветнай вайны. 14 красавіка 1943 году ў Дражна загінулі мірныя людзі, а сама вёска пайшла дымам у неба. Па савецкай традыцыі ўсе злачынствы ваеннага часу звыкла сьпісваліся на немцаў, але гэтым разам з Дражна ў «Зьвязду» прыйшоў ліст, які сьведчыў пра іншае і вымагаў праверкі. Журналіст выехаў на месца і... У выніку на сьвет зьявілася кніга «Кроў і попел Дражна», якая ўскалыхнула грамадзкую думку.*

**Міхась Скобла:** Віктар, вёска Дражна ў Старадароскім раёне была вядомая хіба тым, што ў ёй нарадзіўся Ўладзімер Дражын – колішні віцэ-прэм'ер беларускага ўраду, а цяпер – амбасадар Беларусі ў Літве. Аднак пасьля выхаду вашай кнігі вёску, верагодна, чакае зусім іншая слава. Што ўсё ж такі адбылося ў Дражна тым памятным днём 14 красавіка 1943 году?

**Віктар Хурсік:** Дражна сапраўды нічым не адметнае. Апрача хіба таго, што разьмяшчаецца на вышыні і мае выгоднае геаграфічнае становішча. Падчас Другой сусьветнай вайны гэта выкарысталі немцы, якія разьмясьцілі ў Дражна ўмацаваны паліцэйскі гарнізон. Там знаходзіліся каля 80 паліцаяў, таму вёска ўяўляла зь сябе моцны арэшак для партызанаў. Цягам 1943 году яны двойчы спрабавалі авалодаць Дражна. Першы напад быў зьдзейсьнены 15 студзеня і быў цалкам няўдалым – палеглі многа партызанаў. Відавочна, яны



вырашылі ўзяць рэванш, і 14 красавіка адбылося другое наступленьне партызанаў на вёску. Падчас гэтай «апэрацыі» забіваліся выключна мірныя людзі. Загінулі 25 дражненцаў, былі спаленыя 37 хатаў і вясковая школа.

**М. С.:** Хто забіваў людзей і паліў хаты?

**В. Х.:** Партызаны. Я магу абсаютна дакладна засьведчыць пры дапамозе дакумэнтаў, якія знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве Рэспублікі Беларусь, што сама апэрацыя прайшла няўдала і загінулі мірныя людзі. Партызанскі атрад імя Кутузава, які нёс адказнасьць за зачыстку вёскі, спаліў частку Дражна, гэтак званы Засьценак, разам з жыхарамі. Атрад уваходзіў у 2-ю Менскую брыгаду, якою камандаваў камбрыг Сяргей Іваноў. Год таму я сустракаўся з былым партызанскім камбрыгам Героем Савецкага Саюзу Віктарам Ільлічом Лівенцавым і распытваў у яго пра партызанскія сутычкі з паліцаямі. І ён тлумачыў, што сапраўды часам здаралася рознае. І калі абстрэльвалі вёску, магла нейкая хата загарэцца. Але Лівенцаў падкрэсьліў: «Тое, што здарылася ў Дражна, – загадзя сплянаванае і сьвядома ажыцьцёўленае злачынства». Я дакладна прыводжу яго словы ў сваёй кнізе «Кроў і попел Дражна». І яшчэ Лівенцаў зазначыў, што адносіны партызанскіх камбрыгаў той зоны, дзе дзейнічала 2-я Менская брыгада, да яе камбрыга Іванова, былі адмоўнымі. І яшчэ раз былы партызанскі камбрыг падкрэсьліў, што Дражна і некаторыя другія вёскі былі спаленыя камбрыгам Івановым.

**М. С.:** Ці засталіся сьведкі дражненскай трагедыі?

**В. Х.:** Сьведкі, дзякуй Богу, ёсьць. Напрыклад, браты Віктар і Ўладзімер Коласы. Першы зь іх жыве ў Горадні, другі – у Гомелі. У Менску жыве Мікалай Пятроўскі, ёсьць жывыя сьведкі і ў самім Дражна. А нядаўна я атрымаў ліст ажно зь Пярмі – ад жанчыны, маці якой была відавочцай гэтай трагедыі.

**М. С.:** Мы зьвязаліся па тэлефоне з жыхаром Горадні, нараджэнцам Дражна Віктарам Коласам, 1933 году нараджэньня, і папрасілі яго прыгадаць падзеі 1943 году.

**Віктар Колас:** Забівалі мірных людзей партызаны, гэта адназначна. Мы ў хаце былі – бацька, мой старэйшы брат і я. У хату забег камісарчык у чорнай скуранцы і наставіў на нас сваю «дзесяцізарадку». Бацька і кажа яму: «Што вы робіце? Мы ж мірныя людзі...» А той – бах-бах. Бацьку першага забіў. Я засланіў сабою старэйшага брата, але мяне Бог сьцярог. Потым ужо на сваім адзеньні я налічыў шэсьць дзірак.

**М. С.:** А цяпер давайце паслухаем Мікалая Пятроўскага, 1929 году нараджэньня, жыхара Менску.

**Мікалай Пятроўскі:** Калі я прачнуўся, усё гарэла. Стралянiна, страшна было. Выскачылі мы зь сястрой з хаты, якая ўжо гарэла, на двор. Ляглі поруч на зямлі. А маці хацела выратаваць жывёлу, карову – галоўную карміліцу, вярнулася. Я сястры кажу: «Каця, паглядзі, дзе мама». А сам павярнуўся, гляджу, а яны, як крумкачы, чалавек дзесяць, зь яе зьдзекаваліся страшна, акрываўленая была.

**М. С.:** А хто зьдзекаваўся?

**М. П.:** Партызаны! Партызаны забівалі! Я лічу, што гэта бандыты, а не партызаны. Самыя сапраўдныя бандыты. Калолі маці штыкамі, страшна было глядзець. Я крычу: «Каця, паглянь – маму забілі!» Яна паднялася. І тут я заўважыў, што за плотам стаіць высокага росту чалавек у скуранцы. І раптам ён прыцэліўся ў Кацю і стрэліў! І патрапіў проста ў сэрца. Яна ўпала, а я, малы, падняць яе не магу. «Што з табою, Каця?» Бачу – кроў пацякла з грудзей. А поруч з нашым домам суседзкі дом гарэў. Прозьвішча іх было – Субцэльныя. Мнагадзетная сям'я была. Дом гарыць, і я бачу, як гаспадыню сям'і з грудным дзіцем на руках у агонь кідаюць.



**М. С.:** Хто кідаў?

**М. П.:** Партызаны кідалі! Проста з маленькай дачушкай на руках! У хаце той згарэў яшчэ адзін сын гэтай жанчыны.

**М. С.:** Гэта былі сьведкі дражненскай трагедыі Віктар Колас і Мікалай Пятроўскі. Віктар, давайце ізноў зьвернемся да дакумэнтальных фактаў. Пералічыце, якія партызанскія злучэньні ўдзельнічалі ў дражненскай апэрацыі?

**В. Х.:** Як я ўжо гаварыў, на Дражна наступала 2-я Менская партызанская брыгада, якую ўзначальваў камбрыг Сяргей Іваноў, з паходжаньня ленінградзец. На штурм вёскі ішлі атрад імя Варашылава, атрад імя Суворава, атрад імя Чапаева і габрэйскі атрад імя Кутузава. Я дакладна не магу назваць лічбу, але партызанаў было каля 300 чалавек. Афіцыйная статыстыка сьведчыць, што падчас апэрацыі былі зьнішчаныя звыш 270 паліцаяў і «рознай сvалаты».

**М. С.:** А «розная сvалата» што азначае?

**В. Х.:** Такой характарыстыкай зручна карыстацца. Яна дазваляе занесьці ў стратную катэгорыю ўсіх, каго напаткала партызанская куля. Зьвярніце ўвагу: зьнішчана 270 паліцаяў. І гэта пры тым, што паліцаі сядзелі ва ўмацаваных дзотах, а партызаны наступалі па голым полі. Як можна пры такім раскладзе пакласьці дзьве роты непрыяцеля, а самім панесьці страты, у дзясяткі разоў меншыя? Любы вайсковец вам скажа, што гэта проста лухта несусьветная, разьлічаная на недасьведчаных людзей. Я карыстаўся выключна архіўнымі дакумэнтамі. Прывяду цытату з баявога загаду № 35, у якім пастаўленая задача на штурм Дражна. Самае цікавае, што партызаны ня ведалі, колькі там паліцэйскіх. У загадзе лічбавая колькасьць ворагаў пазначаная ад рукі чарнілам і перапраўленая з 200 чалавек на 230. Яўна, што лічба завышаная. А партызанская статыстыка проста зьдзіўляе. Колькасьць забітых і параненых

выпраўлялася неаднойчы. І вось чаму. У 1943 годзе Вярхоўны галоўнакамандуючы Іосіф Сталін у адносінах да партызанаў выказаўся прыблізна так: «Вы шмат ваюеце, а вынікаў ня бачна». Таму ў той час наверх трэба было паведамляць пра мінімальныя свае страты, а ворагаў, наадварот, павінна было быць як мага больш. І хацеў бы яшчэ зьвярнуць увагу на адну акалічнасьць з загаду № 35. Нібы ў той Чачні, другі эшалён патызанаў мусіў праверыць усе хаты, гумны і правесьці поўную зачыстку ў вёсцы.

**М. С.:** Вы наведваліся ў Дражна і бачылі помнік, які стаіць непадалёк ад вёскі. Калі ў архівах захаваліся прозьвішчы загінулых там партызанаў, афіцыйна – герояў, чаму помнік да гэтай пары безыменны?

**В. Х.:** Адказ тут даволі просты.Аднаўляючы прозьвішчы, трэба будзе аднавіць і памяць, вярнуцца да фактычных падзеяў таго трагічнага дня. Позна ці рана ўлады павінны будуць прызнаць факт трагедыі. Калі ўжо казаць пра сам помнік, то трэба, безумоўна, побач ставіць другі, на якім павінен быць высечаны надпіс: «Ахвярам партызанскага злачынства».

**М. С.:** Апрача іншага мяне ўразіў адзін факт з вашай кнігі. Зь некалькіх сотняў партызанаў, што ўдзельнічалі ў зьнішчэньні Дражна і дражненцаў, толькі адзін адмовіўся выканаць злачынны загад. Гэта Аляксей Сташэнка. І – быў расстраляны асабіста камбрыгам. Чаму ўсё ж партызаны ішлі і забівалі, палілі сваіх?

**В. Х.:** У партызанаў існавала субардынацыя, было сваё камандаваньне. Пыртызанскі рух можна па-рознаму ацэньваць, і я не ацэньваю яго адназначна. Але ў адносінах да дражненскай трагедыі я хачу працытаваць адзін дакумэнт. Справа ў тым, што тады, адразу пасьля бойні ў Дражна, усю праўду схаваць не ўдалося. І партызанскіх кіраўнікоў выклікалі на допыт у Штаб партызанскага руху, які



месьціўся на станцыі Сходня пад Масквой. Вось што адказваў асабісту па прозьвішчы Касой старшыня падпольнага Рудзенскага міжрайкаму партыі Глебаў, у чыёй зоне знаходзілася Дражна: «Хваравітай зьявай было і цяпер ёсьць злоўжываньне самагонкай. Гэта назіраецца ня толькі з боку байцоў, але і з боку асобных камандзіраў. Напрыклад, начальнік штабу брыгады Цішчанка неаднойчы напіваўся да такога стану, што проста дыскрэдытаваў камандаваньне брыгады перад партыйным кіраўніцтвам». Вынікам гэтых п’янак сталі забойствы, здаралася, забівалі адзін аднаго. Безумоўна, маральна-палітычная сытуацыя ў атрадах адыграла сваю ролю ў дзеяньнях партызанаў і ў Дражна.

**В. Х.:** Калі выйшла ваша кніга, вас зьвінавацілі ў антысэмітызьме. З пратэстам выступіў адзін з кіраўнікоў Саюзу беларускіх габрэйскіх аб’яднаньняў Якаў Басін. Чаму вы называеце адзін з партызанскіх атрадаў – атрад імя Кутузава – габрэйскім?

**В. Х.:** Пра гэта гаварылі жывыя сьведкі. Але іх сьведчаньні я паставіў пад сумненьне. Таму што зьнешняе падабенства да габрэяў можа быць аднесенае і да армянаў, і да другіх нацыянальнасьцяў. Таму я зьвярнуўся да дакумэнтаў. Прыводжу сьведчаньне згаданага ўжо старшыні Рудзенскага міжрайкаму Глебава: «Немцы выклікалі адну дзяўчыну, апрацавалі яе і далі заданьне ісьці ў партызанскі атрад. У паліцыі ёй сказалі, што існуе Пяты атрад – габрэйскі...». Пяты атрад імя Кутузава адзначаны як «габрэйскі» і ў паказаньнях партызанскага камандзіра Сокала-Дамажырава, які таксама пабываў на допыце ў Сходні. Ён зазначыў: «Пяты атрад, дзе камандзірам Лапідус, мае многа правалаў баявых апэрацый». І далей ён гаворыць: «Аднойчы ў вёску, дзе знаходзіўся наш атрад, прыбыла машына, на якой прыехалі габрэі з гета. Мы пытаемся: “Якім чынам вы трапілі ў партызанскі атрад?” Яны

адказваюць: “Мы купілі за золата машыну, купілі пропуск і прыехалі”». Усяго прыехала каля 20 чалавек габрэяў... Я хацеў бы адзначыць, што ніякім чынам не хачу кінуць ценю на габрэйскую нацыю і на дзяржаву Ізраіль. Перад імі я нізка схіляю галаву за той Галакост, які давялося перажыць габрэям. Але факт меў месца. І як дасьледчык я павінен быў сказаць праўду: Пяты атрад імя Кутузава, які паліў Дражна і зьнішчаў дражненцаў, быў габрэйскім. Зрэшты, гэта пацьвярджаецца і сьпісам асабовага складу атраду, які я прывёў у сваёй кнізе. Ён захоўваецца ў Нацыянальным архіве Беларусі.

**М. С.:** Ці спрабавалі вы высьветліць лёсы тых партызанскіх камандзіраў, якія палілі Дражна?

**В. Х.:** У маштабах усёй Беларусі толькі чатыры партызанскія камандзіры панесьлі пасьля вайны пакараньне за падобныя злачынствы, за забойствы мірных грамадзянаў. Што да тых партызанаў, што дзейнічалі ў Дражна. Ніхто зь іх ня быў пакараны. Мне было цікава, як адносяцца іншыя партызаны да «дражненскіх герояў». І калі я сустракаўся з камбрыгам Віктарам Лівенцавым, я пра гэта пытаўся. У мяне маецца дыктафонны запіс размовы, зь якой я працытую фрагмэнт. Пытаньне: «Чаму не далі зорку героя камбрыгу Іванову?» Адказ: «Вельмі супярэчлівая фігура... Вы разумееце нават камбрыгі, камандзіры атрадаў, якія былі зь ім побач, а гэта Філіпскіх, Меркуль, Ціхаміраў, Каралёў, абвінавачваюць Іванова ў тым, што ён спаліў некалькі населеных пунктаў... Гэтак нельга было пастураць. Гэта несправядліва». Паказальны далейшы лёс камбрыга Іванова. Відаць, яму не давалі спакою галасы ахвяраў Дражна. Пасьля вайны ён працаваў на Рудзенскім заводзе плястмасавых вырабаў, шмат піў. І ў 1975 годзе застрэліўся...

**М. С.:** Як вы лічыце, трагедыя Дражна – гэта адзінкавы выпадак? Ці падобныя прыклады мелі месца і ў другіх рэгіёнах Беларусі?



**В. Х.:** Пасьля таго як выйшла кніга «Кроў і попел Дражна», да мяне сталі зьвяртацца людзі з расказамі пра партызанскія злачынствы па ўсёй Беларусі. Я атрымліваю інфармацыю пра рабункі, марадзёрства, забойствы. Такіх зьвестак большае з кожным днём. Як выглядае, кожны жыхар Беларусі мае нешта дадаць да гэтага сьпісу-мартыралёгу. На сёньня я дакладна ведаю, што партызаны зьнішчылі вёску зь мірнымі жыхарамі ў Налібоках. Гэтакі ж лёс напаткаў вёску Старасельле Бялыніцкага раёну. Думаю, што сьпіс вёсак, зьнішчаных партызанамі, будзе павялічвацца. Усе гэтыя выпадкі наўмысна замоўчваліся цягам дзесяцігодзьдзяў. Іначай яны ўсплылі б на Нюрнбэрскім працэсе, як тое адбылося з Катыньню. Пакуль у гэтым пытаньні ня будзе пастаўленая кропка, датуль беларусам ня ведаць нацыянальнага прымірэньня. У пэрспэктыве павінна быць напісаная сапраўдная гісторыя беларускага партызанскага руху.

**М.С.:** Пра ахвяраў Хатыні мы ведаем. Пра забітых у Катыні цяпер таксама ведаем. Давайце назавем прозьвішчы тых, хто загінуў у Дражне. Загінуў не са зброяй у руках, а ў сваіх хатах, на сваіх падворках.

Сьпіс мірных жыхароў вёскі Дражна,
забітых партызанамі 15 красавіка 1943 году

*Гейсік Алена Аляксееўна, Гейсік Лізавета Аляксееўна, Грыневіч Агаф'я Сымонаўна, Грыневіч Анатоль Вінцэсевіч, Грыневіч Тэкля, Грыневіч Таццяна Сымонаўна, Дражын Гардзей Іванавіч, Колас Лявон Мікалаевіч, Колас Павал Паўлавіч, Леановіч (Шамко) Браніслава Андрэеўна, Парахня Ніна Пятроўна, Пятроўская Алеся Пятроўна, Пятроўскі Іван Антонавіч, Пятроўская Кацярына Іванаўна, Пятроўскі Сьцяпан, Пятроўскі Ўладзімер Іванавіч, Субцэльны Адам Максімавіч, Субцэльная Кацярына Максімаўна, Субцэльная Тэкля, Шамко Валянціна Аляксандраўна, Шамко Марыя Іванаўна, Шамко Мікалай Аляксандравіч, Шамко Тэкля.*

**М. С.:** Віктар, ваенныя злачынствы ня маюць тэрміну даўнасьці. І сёньня яшчэ ў розных краінах сьвету адшукваюць і судзяць ваенных злачынцаў. Як вы лічыце, ці будуць калі-небудзь знойдзеныя забойцы мірных жыхароў Дражна?

**В. Х.:** Галоўны сьведка трагедыі Мікалай Іванавіч Пятроўскі зьвяртаўся ў Генэральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь з просьбай завесьці крымінальную справу па факце партызанскага злачынства. На жаль, Генэральная пракуратура яму адмовіла – на падставе таго, што няма жывых сьведкаў і аднавіць падзеі немагчыма. Да іх жывы сьведка зьвяртаецца, а яны – «няма сьведкаў». Ёсьць сьведкі, ёсьць адпаведныя дакумэнты – пра гэта гаворыцца ў маёй кнізе. Праўда павінна быць аддзеленая ад хлусьні, а сапраўдныя героі – ад злачынцаў. Бязьвінна загінулых у вёсцы Дражна людзей мы мусім годна ўшанаваць. Гэта наш сьвяты абавязак. А канчатковую кропку ў гэтай справе павінен паставіць суд.



*Мая Яніцкая –*
мастацтвазнаўца. Закончыла Інстытут гандлю ў Маскве. Працавала ў Міністэрстве мясцовай прамысловасьці, у выдавецтве «БелСЭ», у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру АН Беларусі, у Беларускім інстытуце праблемаў культуры. Аўтарка кніг «Беларускае мастацкае шкло», «Вытокі шкларобства Беларусі» ды інш. Нарадзілася ў 1931 годзе на хутары Валянцінава на Лагойшчыне. Жыве ў Менску.

## *Мая Яніцкая:* «Слуцкія паясы забараняліся расейскай уладай»

***21 сьнежня 2006 году***

*Пра залатыя паясы, тканыя ў XVIII стагодзьдзі ў Слуцку, мільёны беларусаў ведаюць са знакамітага верша Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі». Але на ўласныя вочы пабачыць гэтыя шэдэўры ўжытковага мастацтва пашчасьціла далёка ня ўсім. Паколькі ў самой Беларусі слуцкіх паясоў зьбераглося ўсяго некалькі, а тыя выставы, якія зрэдку ладзяцца, як правіла, у сталіцы, – пераважна зборныя. Дзеля іх слуцкія паясы прывозяцца з маскоўскіх і пецярбурскіх музэяў. «Пакінуць» іх у Беларусі хоць у выглядзе якасных адбіткаў – гэткая задача стаяла перад айчыннымі мастацтвазнаўцамі. І нарэшце задача гэтая вырашана – у выдавецтве «Асобны дах» выйшаў альбом слуцкіх паясоў, укладзены Маяй Яніцкай.*

**Міхась Скобла:** Спадарыня Мая, я ведаю, што над гэтым альбомам вы працавалі цягам доўгіх гадоў. А калі ўпершыню вам прыйшла ў галаву ідэя сабраць і выдаць выявы слуцкіх паясоў?

**Мая Яніцкая:** Альбом ішоў да чытача доўга і пакутліва – больш за трыццаць гадоў. Дзіўна, але адначасова са мной у 1970-я гады зацікавіліся слуцкімі паясамі фотамастак Валянцін Ждановіч, мастачка па тэкстылі Галіна Крываблоцкая і дызайнэр Валеры Лявунін (яны стваралі строі для ансамбля «Песьняры»). Менавіта Лявунін і стаў ініцыятарам і рухавіком гэтага выдавецкага праекту. Ён цягам усіх гэтых гадоў выношваў ідэю сабраць і выдаць выявы паясоў на добрым паліграфічным узроўні. І Богу было заўгодна, каб тры гады таму мы сустрэліся. Скажу шчыра, калі мне патэлефанаваў Лявунін і спытаўся, ці згодная я ўзяць удзел у гэтым



праекце, радасьці маёй не было канца! Таму што альбом «Слуцкія паясы» ўжо фактычна быў мною падрыхтаваны. Яшчэ ў 1992 годзе я склала каталёг слуцкіх паясоў, якія знаходзяцца ў музэях Беларусі, Расеі, Украіны і Польшчы. Але грошай на выданьне ў дзяржавы не было.

**М. С.:** Са школьных гадоў мы памятаем хрэстаматыйны верш Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі». Дык усё ж ткачыхі ці ткачы ткалі слуцкія паясы?

**М. Я.:** Ткацтва слуцкіх паясоў, слуцкіх бязворсавых і ворсавых дываноў пачалося яшчэ ў XVI–XVII стагодзьдзях, задоўга да таго, як князем Мікалаем Казімерам Радзівілам была створаная Слуцкая мануфактура-пэрсіярня. Паясы насілі і магнаты, і шляхта, і нават сяляне, гэта быў традыцыйны элемэнт адзеньня. Цэхавыя рамесьнікі ў гарадах ткалі іх і раней, але па іншых узорах і тэхналёгіях. Максім Багдановіч пісаў: «І тчэ, забыўшыся, рука заміж пэрсідзкага узору цьвяток радзімы васілька». Паэт не памыляецца: паясы ткалі і ткачыхі, але не па пэрсідзкіх тэхналёгіях. А калі дасьледавалі архівы Слуцкай мануфактуры, то там сярод ткачоў ткачыхаў сапраўды няма – прозьвішчы толькі мужчынскія. Пры вырабе слуцкіх паясоў хто быў галоўным? Не мастак, які стварыў узор, рысунак на кардоне, а ткач, які ўмеў ткаць з выкарыстаньнем срэбных і залатых нітаў. Узоры паясоў ствараліся мясцовымі, беларускімі мастакамі. Мы ведаем іх прозьвішчы: Крыцкі, Лютніцкі, Гадоўскі, Хаецкі, Дубіцкія (апошнія – з дынастыі гравёраў, якія працавалі спачатку на Ўрэцкай гуце Радзівілаў, а іх нашчадкі потым – ткачамі і мастакамі на Слуцкай мануфактуры). І сьпіс беларускіх ткачоў даволі вялікі. Але тэхналёгію пэрсідзкіх і турэцкіх паясоў на Слуцкай мануфактуры ўвёў былы ткач Станіслаўскай мануфактуры Ян Маджарскі (армянін, народжаны ў Стамбуле). Менавіта зь ім Мікалай Казімер

Радзівіл дамовіўся ткаць паясы па зацьверджаных князем узорах. Пазьней Ян Маджарскі арандаваў мануфактуру. З 1794 году паясы ткаліся «паводле мясцовай кнігі ўзораў».

**М. С.:** На той час (другая палова XVIII стагодзьдзя) эўрапейцы мелі чым падперазацца: існавалі і высока цаніліся лівонскія, кракаўскія, валынскія паясы, маскоўскія кушакі. На якім месцы сярод іх былі слуцкія паясы?

**М. Я.:** Слуцкая мануфактура зрабіла каштоўны ўнёсак у эўрапейскае мастацкае ткацтва, выпрацавала свой тып пояса. Слуцкія паясы за кароткі час, з 1758 году, заваявалі вялікую папулярнасьць у Беларусі, Польшчы і Заходняй Эўропе. Іх замаўлялі пераважна багатыя людзі, бо каштавалі яны дорага. Калі Радзівіл падпісваў дамову зь Янам Маджарскім, то там было запісана: «Абавязкова навучыць мясцоваго хлопца гэтай пэрсідзкай рабоце». Значыць, Маджарскі быў запрошаны толькі для таго, каб навучыць мясцовых майстроў рэдкай тэхналёгіі. І ня больш. Падкрэсьлю, вытканыя паводле гэтай тэхналёгіі паясы карысталіся вялікім попытам. Іх узоры, створаныя мясцовымі мастакамі, паўтараў нават ткач Ліёнскай мануфактуры – француз Сэманд. Выкарыстоўвалі ўмельства нашых майстроў і іншыя замежныя мануфактуры.

**М. С.:** Паясы, зразумела, для таго, каб падпаясвацца. Даўжыня некаторых слуцкіх паясоў сягала да 5 мэтраў. Навошта такая даўжыня? Няўжо нашыя продкі былі гэткія мажныя?

**М. Я.:** Не. Поясам абкручваліся некалькі разоў, а канцы яшчэ зьвісалі па баках. Я бачыла партрэт шляхціча, на якім пояс сьпераду яшчэ і бантам завязаны. Таму паясы і былі такія доўгія – па тры, чатыры, пяць мэтраў. Кожны выбіраў пояс на свой густ і з улікам памераў фігуры.

**М. С.:** Слуцкія паясы ткалі. А чаму яны называюцца літыя? Слова «літы» больш падыходзіць да нейкіх мэталюргічных працэсаў.



**М. Я.:** Так, вы маеце рацыю. Літымі паясы называліся таму, што пры іх вытворчасьці ўжываліся ня толькі шаўковыя ніткі, але і мэталёвыя – срэбныя і залатыя – ніты. Мясцовай сарматызаванай шляхце гэта падабалася. Гэта сьведчыла пра заможнасьць гаспадара поясу. Калі пояс блішчаў, гэта выглядала шыкоўна. Літыя паясы адрозьніваліся тым, што аснова і ўток рабіліся з мэталёвых нітаў. А каляровы ўзор ткаўся шаўковымі ніткамі.

**М. С.:** Значыць, «залатыя паясы» – гэта не эпітэт Максіма Багдановіча. Колькі золата патрэбна было на выраб пояса?

**М. Я.:** На выраб слуцкага пояса (пэрсідзкага тыпу) даўжынёй у шэсьць локцяў з шаўковымі ніткамі розных колераў, а таксама са срэбнымі і залатымі нітамі ішло паўфунту золата (200 грамаў) і 47 грамаў срэбра. Таму паясы такія цяжкія. Іх называлі літымі яшчэ і таму, што залатыя прадзеныя ніты хутка расьплюшчваліся адмысловым мэталёвым валікам, які Ян Маджарскі прывёз з Канстантынопалю.

**М. С.:** Слуцкая мануфактура перажыла тры падзелы Рэчы Паспалітай. І – спыніла сваё існаваньне ў 1848 годзе, таму што паясы нібыта былі забароненыя расейскай уладай. Я разумею, чаму забаранялася беларуская мова, чаму па-за законам апынулася сама назва «Беларусь»... Але чаму пад забаронай апынуліся слуцкія паясы?

**М. Я.:** Царскі ўрад Расеі забараніў насіць кунтушы, а зь імі падпалі пад забарону і паясы, якімі іх падпярэзвалі. Кунтуш лічыўся этнічна польскім адзеньнем. Такое рашэньне паступова і прывяло да спаду попыту на паясы, якія надавалі шляхце гонару. Чыноўнікі Расейскай імпэрыі лічылі, што слуцкія паясы – гэта праява «польскага нацыяналізму». Рэч Паспалітую Расея разглядала вы-

ключна як Польшчу і ўсіх яе насельнікаў лічыла палякамі. Расейцы хацелі, каб ніякіх сьлядоў былой велічы Рэчы Паспалітай, у склад якой, як мы ведаем, уваходзіла і Вялікае Княства Літоўскае, не засталося. Каб насельніцтва далучаных зямель нават адзеньнем не адрозьнівалася ад расейцаў. Але беларуская і польская шляхта ўсё роўна насіла паясы, якія патроху ткаліся, нягледзячы на забарону. Мне давялося бачыць паясы з вытканай на іх «Пагоняй». Праўда, здымкі маюцца толькі чорна-белыя, і з гэтай прычыны паясы з «Пагоняй» ня трапілі ў альбом. Сёньня выдаць усе вядомыя слуцкія паясы надзвычай цяжка, бо замежныя музэі патрабуюць за публікацыю вялікія грошы. Гэта за савецкім часам можна было паехаць, напрыклад, у Маскву і наздымаць паясоў колькі заўгодна. І я памятаю, як мы езьдзілі туды з Валянцінам Ждановічам, і ён здымаў усё, што было трэба. Частка яго здымкаў зьмешчаная і ў нашым альбоме.

**М. С.:** Вы згадалі пра свае паездкі ў маскоўскія музэі, і мне ўспомнілася, як Генадзь Кахаоўскі – на той час дырэктар Маладэчанскага краязнаўчага музэю – прывёз адзін слуцкі пояс з Масквы ў свой музэй. Ён змог дамовіцца з дырэктарам Расейскага дзяржаўнага музэю Васілём Вярбіцкім, беларусам з паходжаньня, і той дазволіў выменяць пояс на нейкую даматканую посьцілку. А колькі сёньня на ўліку слуцкіх паясоў у Беларусі?

**М. Я.:** У Маладэчанскім музэі – адзін. У Музэі старажытнай беларускай культуры НАН Беларусі захоўваюцца два паясы і фрагмэнты паясоў (да аднаго мэтру), нашытыя на ксяндзоўскіх арнатах. Колькі там арнатаў – дакладна сказаць не магу, у адкрытай экспазыцыі знаходзіцца толькі адзін. Фрагмэнты паясоў (вельмі маленькія, па 20 см) ёсьць у Слуцкім краязнаўчым музэі. Ёсьць фрагмэнты слуцкіх паясоў у Нацыянальным мастацкім музэі. У Нацыянальным музэі гісторыі і культуры захоўваецца 10 паясоў Слуцкай мануфактуры і некалькі паясоў зь іншых мануфактураў, якія насьледавалі слуцкія паясныя ўзоры.



**М. С.:** І ў Літаратурным музэі Максіма Багдановіча адзін пояс ёсьць. Яго знайшоў скульптар Генадзь Лойка. Дзе і пры якіх абставінах – хай раскажа ён сам.

**Генадзь Лойка:** Гэта было ў 1996 годзе ў маёй роднай вёсцы Мікелеўшчына на Мастоўшчыне. Я быў летам дома, вучыўся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. Палез на гарышча ў адной хаце – і бачу: нешта блішчыць на тканіне. Памятаю, адразу думка мільганула: «цьвяток радзімы васілька» зараз знайду. Разгортваю – і праўда! На жаль, даведацца, адкуль паходзіць пояс, я ня змог: гаспадару хаты, дзеду, мову адняло, а бабка таксама не разьбіралася ў дзедавых справах. Ад поясу бахрама, кутасы адарваліся, дык я стараўся прышыць іх чырвонаю ніткаю. Падшыў і думаю: трэба падараваць пояс у Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музэй. Пояс знойдзены на Мастоўшчыне, дзе ж яму быць, як ня ў гэтым, знакамітым на ўсю Гарадзеншчыну музэі? Але, думаю, сьпярша пакажу знаходку сваім менскім сябрам. Памятаю, у інтэрнаце на Акадэмічнай сабраліся Генадзь Сагановіч, Мікола Крывальцэвіч, Вінцук Вячорка, Анатоль Сыс. Сабраліся і сталі думаць: што рабіць з поясам. Хлопцы адгаварылі мяне ад ранейшай задумы. Памеркавалі і вырашылі: пояс павінен захоўвацца ў менскім Музэі Максіма Багдановіча. Але вырашылі не аддаваць яго туды, а прадаць. І прадалі – за тысячу рублёў, на той час даволі вялікія грошы.

**М. С.:** І на што вы іх патрацілі?

**Г. Л.:** Пусьцілі на музыку. Тады якраз падымалася «Мроя», і мы вырашылі купіць музычныя інструмэнты для «Мроі», падтрымаць актуальную тады справу – беларускую рок-музыку.

**М. С.:** Мы пачулі, як коштам слуцкага поясу ўвя-

домілася легенда беларускага року – гурт «Мроя». Спадарыня Мая, а цяпер я раскажу сваю гісторыю. Гадоў дзесяць таму мы зь сябрамі наведаліся ў касьцёл у Ружанах. Ня ведаю, чым мы прыйшліся даспадобы ксяндзу, але ён завёў нас у сакрыстыю, адчыніў шафу – і мы ахнулі. Там віселі арнаты, пашытыя са слуцкіх паясоў. Ці знаходзіцца гэтае багацьце на вашым дасьледчыцкім уліку?

**М. Я.:** Я была з экспэдыцыяй у Ружанах і бачыла тыя арнаты. Нават склала на некаторыя зь іх навуковыя пашпарты, якія зьберагаюцца ў Музэі старажытнай беларускай культуры. Сёе-тое было дазволена сфатаграфаваць, з намі тады быў фатограф Георгі Ліхтаровіч. Але, зноў жа, здымкі тады рабіліся чорна-белыя, а паказваць слуцкія паясы ў чорна-белым колеры немагчыма. Так што паясы, нашытыя на арнаты, улічаныя толькі часткова, і то толькі па Берасьцейскай і часткова па Віцебскай абласьцях. Па астатніх – не. Здымкі ружанскіх арнатаў з нашытымі на іх фрагмэнтамі слуцкіх паясоў надрукавала Надзея Высоцкая ў альбоме «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII–XVIII стагодзьдзяў».

**М. С.:** Паколькі мы жывем у рынкавых умовах, напрошваецца пытаньне: колькі сёньня каштуе слуцкі пояс?

**М. Я.:** Сёньняшняга рынкавага кошту слуцкага поясу я ня ведаю. Я мастацтвазнаўца, а не калекцыянэр. Але калі я ў 1992 годзе была ў Польшчы і нашу дэлегацыю прымаў польскі міністар культуры пан Ягела, то тады палякі ў прыватных размовах гаварылі, што на замежных аўкцыёнах за слуцкі пояс давалі 300 000 даляраў. Колькі ён каштуе цяпер, праз чатырнаццаць гадоў, я ня ведаю.



*Сяргей Цімохаў –*

мастак. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Працаваў на мастацкіх камбінатах у Гомелі і Наваполацку, дырэктарам галерэі «РЫСА» (Полацак). Цяпер – намесьнік старшыні Саюзу беларускіх мастакоў, сябра суполкі «Пагоня». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Кротаў Калінкавіцкага раёну. Жыве ў Менску.

## *Сяржук Цімохаў:* «Ноч музэяў далучае нас да Эўропы»

*20 траўня 2007 году*

*Беларусы любяць начныя сьвяты. У ноч на Купальле мы шукаем чароўную папараць-кветку і ачышчаемся ў агні ды вадзе. У шчадроўскую ноч беларускія дзяўчаты варожаць на суджаных, прыдумаўшы дзеля гэтага дзясяткі самых розных магічных абрадаў. У сьветлую велікодную ноч беларускія храмы перапоўненыя: усе чакаюць уваскрашэньня Збаўцы роду чалавечага... Ноч музэяў – таксама начное сьвята. Ужо зь вечару 19 траўня некаторыя менскія музэі бясплатна адчынілі свае дзьверы для шматлікіх наведнікаў. Да ініцыятывы, запачаткаванай восем гадоў таму супрацоўнікамі парыскага Люўру, ужо далучыліся больш за 2000 музэяў Эўропы. Пачынальнікам Ночы музэяў у Беларусі выступіў Нацыянальны мастацкі музэй, дзе ў межах сёлетняй акцыі адчынілася выстава мастака Сержука Цімохава.*

**Міхась Скобла:** Сяржук, «Ноч музэяў» – яшчэ трохі нязвыклую для Беларусі акцыю – ты аздобіў сваёй выставай, якую назваў «Чары ночы». У беларускім народным календары чарадзейныя ночы бываюць на Каляды, на Купальле... А ў чым чарадзейства звычайнай ночы з 19 на 20 траўня?

**Сяржук Цімохаў:** Ты маеш рацыю, мая сэрыя «Чары ночы» пачалася з Купальля, з купальскай чарадзейнай ночы, калі адбываецца ачышчэньне душы праз агонь, ваду і паветра. Акцыя «Ноч музэяў» для Беларусі пакуль што сапраўды нязвыклая. У чым яе сэнс? Каб прыцягнуць як мага больш шырокае кола людзей да музэйнай справы, да выяўленчага мастацтва. Сёлета да гэтай ініцыятывы далучыліся апрача Нацыянальнага мастацкага музэю і іншыя беларускія музэі – Нацыянальны гістарычны, Літаратурны музэй Максіма Багдановіча, Музэй сучаснага мастацтва. Прыемна, што іх кола пашыраецца. Такім чынам, Ноч музэяў далучае нас да Эўропы. Пагадзіся, «Чары ночы» і Ноч музэяў – яны сугучныя. І таму калі мне прапанавалі правесьці такую выставу, я адразу з задавальненьнем згадзіўся.



**М. С.:** Твая выстава сярод іншых «начных» мастацкіх акцый выклікала ці не найбольшую цікавасьць у моладзі. Ты вельмі далікатна і рамантычна паказваеш аголеную жаночую натуру. Твая жывапісная сэрыя «Грацыі» налічвае каля дзясятка твораў. А не баісься паўтораў?

**С. Ц.:** Прыходзіць час, калі мастак, у якім жанры ён ні працуе, вычэрпвае свае магчымасьці, завяршае пэўную тэму і пачынае іншую. Гэта нармальна. Я пакуль што не вычарпаўся. Працаваць у жанры ню – адначасова і прыемна, і складана. Прыемна, бо жанчына – гэта крыніца прыгажосьці, гармоніі, зь якой спрадвеку наталяліся і паэты, і мастакі, і кампазытары. Падчас стварэньня нізкі «Чары ночы» ставілася мэта паказаць прыгажосьць жаночага цела ў гарманічнай еднасьці з прыродай, адпрэчыўшы працу кутур'е. Бо жанчына – гэта не манэкен! Кожная жанчына сама па сабе ўжо твор мастацтва, які варта ўзьнесьці ў ранг боства... А складана пісаць жанчыну таму, што мяжа паміж цнатлівасьцю, якая ў маіх творах ёсьць, і бессаромнасьцю, якая можа зьявіцца, ледзь адчувальная. Творачы ў гэтым жанры, лёгка апусьціцца ніжэй за эротыку.

**М. С.:** Розныя мастакі па-рознаму разумелі эротыку. Напрыклад, калі параўнаць францускіх мастакоў Рэнуара і Тулюз-Лятрэка. Апошніستварaў жаночыя вобразы ці не празьмерна натуралістычна, часам зьневажаючы жаночае хараство. А калі ты працуеш над сваімі «грацыямі», ці трымаесься нейкай эстэтычнай сыстэмы, за якую – ні кроку?

**С. Ц.:** Пэўна ж, ёсьць такая сыстэма. Але словамі гэта патлумачыць складана, усё адбываецца на ўзроўні падсьвядомасьці, інтуіцыі. Малюючы аголенае цела, я баюся перайсьці мяжу непрыстойнасьці. Ёсьць парнаграфія, а ёсьць эротыка. А ёсьць яшчэ больш лагодная эстэтыка формы, эстэтыка колеру, якая нават не кранаецца эратычнага. І я заўважыў, што гэтая эстэтыка дзейсная ў маіх творах. Аднойчы чалавек глядзеў-глядзеў на маю працу, а потым і кажа: «Гэты твор я з задавальненьнем павесіў бы дома ў перадпакоі». Я пытаюся: «А чаму ня ў спальні?» «А навошта ў спальні?» Пра што гэта сьведчыць? Мае «грацыі» – чыста дэкаратыўнае, прыгожае мастацтва.

**М. С.:** У цябе дзясяткі твораў у жанры ню. Ці няма праблемаў з натурніцамі?

**С. Ц.:** Не, з натурніцамі праблемаў няма, бо я абыходжуся бязь іх. Малюю па памяці, з галавы. Але падобнае пытаньне час ад часу паўстае. Асабліва калі шукаеш, як пасадзіць чарговую «грацыю». Бо, зрабіўшы пяцьдзясят – шэсьцьдзесят пазыцый, з кожным разам усё складаней знайсьці новую. Але я за дзевяць гадоў навучаньня, спачатку ў мастацкай вучэльні, а потым у Мастацкім інстытуце, атрымаў такія веды, што, адчуваю, змагу ўсё астатняе жыцьцё працаваць без натуры.

**М. С.:** Ты – вучань народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі, творцы акадэмічна-строгага, асабліва што датычыць тваёй улюбёнай тэмы... А хто з мастакоў у трактоўцы жаночага вобразу табе найбольш блізкі?

**С. Ц.:** Калі браць жанр ню, то я нават не згадаю, хто зь беларускіх мастакоў ладзіў пэрсанальную выставу на гэтую тэму. Гады тры таму была выстава Алеся Ксяндзова ў Палацы мастацтваў, але там былі дамешкі і іншых жанраў. А больш – я нават і не прыгадаю, хоць пільна сачу за творчасьцю калегаў. Сапраўды, у нас жанр ню – некранутае поле. Калі



ж прыгадваць тое, што за мяжой рабілася... Ну, усім вядомы Мадыльяні. Хто ім толькі ні захапляўся... І я ім захапляўся і працягваю захапляцца. Але тут я хацеў бы згадаць імя швайцарскага мастака Ганса Эрні. Ён мяне прывабіў яшчэ ў працэсе вучобы, прывабіў рысай, лініяй, якою ён валодае незвычайна, ляканічна. У яго таксама ёсьць вялікая сэрыя жаночых постацяў, праўда не зусім аголеных. Як ні дзіўна, Эрні амаль невядомы на Захадзе. Будучы ў Нямеччыне, у Дрэздэне, у Боне ці Кёльне, я ўвесь час заходзіў у мастацкія крамы і пытаўся: а ці ёсьць у вас Ганс Эрні? Прадавачкі доўга шукалі па кампутары, урэшце пацiскалі плячыма і казалі: «Прабачце, няма». Дык вось, акурат Эрні найбольш паўплываў на мяне ў выбары манэры пісьма.

**М. С.:** У цябе адбыліся тры пэрсанальныя выставы ў Нямеччыне, адна – у Сэрбіі. Адбываліся яны і на радзіме – у Полацку, Менску, Горадні. А дзе цябе больш разумеюць – у Беларусі ці за мяжой?

**С. Ц.:** Мне шанцуе: мяне добра разумеюць і тут, і там.

**М. С.:** У цябе шмат твораў, заснаваных на паганскай міталёгіі. Што можа амэрыканец ці немец у іх зразумець?

**С. Ц.:** Як ні дзіўна, замежнікі паганскую міталёгію разумеюць лепш, чым беларусы. Гэта мяне заўсёды зьдзіўляла і працягвае зьдзіўляць. Аднойчы лёс зьвёў мяне з парай пажылых людзей, якія прыехалі ў Беларусь са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Яны прыйшлі да мяне ў майстэрню, і мы знайшлі зь імі агульную тэму – паганскую. Аказалася, што яны добра арыентуюцца ў старажытных славянскіх паганскіх сымбалях, разумеюць сьвяты, якія ў нас прывязаныя да народнага календара, да зімовага і летняга сонцастаяньня. Амэрыканцы нават набылі мае працы на фальклёрныя сюжэты. Так што, як аказалася, тэма гэтая – інтэрнацыянальная.

**М. С.:** Вось што піша мастацтвазнаўца Маг-

рэта Бурнэйка: «Паганства ўваходзіць у жыцьцё чалавека, займаючы месца чужых, а таму так і не ўсьвядомленых да канца філязофіяў, якія паступова ператвараюцца ў вясёлкавыя бурбалкі на паверхні існасьці. І бездапаможны ў сваіх пазасусьветных блуканьнях падарожны нарэшце адчувае глебу пад нагамі, ён вяртаецца да сваіх першапачаткаў, да такіх звычайных зьяваў, як вада, паветра, агонь і зямля, дрэва і камень. А ён, яшчэ ніхто ўчора, сёньня – сэнс і першааснова ўсяго, што навокал. Зямля прымае чалавека ў свае абдоймы, нібы дзіця, якому доўга забаранялі ступаць басанож па роснай траве. Натуральныя пошукі духоўнасьці, спроба спасьціжэньня Бога ў творах Сержука Цімохава знайшлі трывалы сэнс у вяртаньні да спрадвечнага, дахрысьціянскага». Напісана гэта было каля 10 гадоў таму. Што для цябе паганства і ці не зьмянілася з узростам тваё стаўленьне да яго?

**С. Ц.:** Як мастак я жыву тэмай паганства. Азірніся на нашу гісторыю пачынаючы з X ст., паглядзі, што дало хрысьціянства беларускаму народу. І столькі пытаньняў адразу ўзьнікае! Хрысьціянства вельмі зьвязанае з палітыкай. Як толькі зьявілася дзяржава, узьнікла неабходнасьць усталяваньня адной рэлігіі. А як толькі пачалі дзяліцца імпэрыі, Рымская ці Бізантыйская, пачала дзяліцца і рэлігія. Ці можа быць Бог матэрыялізаваны, як гэта падаецца ў хрысьціянстве? На мой погляд, Бог ня можа выглядаць так, як чалавек. Бог – гэта згустак, квінтэсэнцыя энэргіі, якая існуе вакол зямной прасторы. Гэта і сонца, і месяц, і зямля, і дрэвы, і вада, і магнітныя хвалі. Гэта і энэргія, якую вылучаюць мільярды людзей.

**М. С.:** Але ж і ў паганскай рэлігіі багі мелі зямное ўвасабленьне.

**С. Ц.:** Згодзен, Перуна вычэсвалі з дрэва з канкрэтным абліччам. Але гэта было бачаньнем суб'ектыўным – чалавека ці часткі людзей. Не існавала канону, як гэта ёсьць у хрысьціянстве. І мастаку ў хрысьціянстве няўтульна, бо трэба трымацца канонаў. І калі Феафан Грэк ці Андрэй Рублёў малявалі сваіх сьвятых, малявалі экспрэсіўна, то гэта засталося ў гісторыі мастацтва як школа. Але назавіце мне хоць аднаго мастака за апошнія стагодзьдзі, які сьцьвердзіў сябе ў рэлігійным мастацтве. Няма яскравых імёнаў, бо канон занявольвае мастака, не дае яму выявіцца. Вось табе прыклад: зьбіраліся расьпісваць Крыжа-Ўзьвіжанскую царкву ў Полацку і хацелі запрасіць прафэсійнага мастака. Але ўрэшце запрасілі аматара, які зрабіў салодкія падробачкі, але не парушыў канонаў.



**М. С.:** На сваіх выставах ты часам выкарыстоўваеш камяні. Адмыслова раскладзеныя на падлозе, яны ствараюць пэўны кантэкст для твайго жывапісу. Што трэба зрабіць з каменем, каб ён азваўся, парушыў сваё векавечнае маўчаньне?

**С. Ц.:** Камяні для мяне – жывыя істоты. І калі мы прыносім камень у выставачную залю, ён набывае іншы статус, набліжаецца да твору мастацтва. Літаральна ўчора я ехаў з Полаччыны, і абапал дарогі мільгалі расьпісаныя рознымі заклікамі камяні: «Беражыце лес!», «Сьцеражыцеся пажару!» ды іншае. Ну навошта так рабіць? Камень – гэта ж таксама прырода, навошта вы яго зьнішчаеце? Гэта тое самае, што забіць лася, зрабіць зь яго пудзіла і напісаць на ім: «Беражыце ласёў!». Стаўленьне да камянёў павінна быць, як і да ўсёй астатняй прыроды – да возера, да ракі... Пакуль мы не ўсьвядомім, што мы толькі часьцінка жывой прыроды, мы будзем толькі тлець і ўрэшце развалімся.

**М. С.:** Мастакі часам любяць пахваліцца: мае творы знаходзяцца ў зборах у... І пералічваюць галерэі і краіны. Але няшмат хто можа пахваліцца замежнай пэрсанальнай выставай. Каб яна адбылася, мастак павінен прыкласьці не абы-якія намаганьні, ці ж ня так?

**С. Ц.:** Сапраўды, для гэтага патрэбныя ня толькі выдатныя творы, але і пэўныя арганізацыйныя здольнасьці. Скажам, падрыхтоўка да маёй выставы ў нямецкім горадзе Віль, што паблізу Кёльна, вялася каля году. Дарэчы, на выставе была прадстаўленая і мая жонка Рыта Цімохава, усяго наведнікі пабачылі 23 творы – графіка, акварэлі, алейныя творы.

**М. С.:** У вас сям'я мастакоў, а майстэрня, я ведаю, адна. Ня цесна працаваць?

**С. Ц.:** У майстэрні на 18 квадратных мэтраў мне і аднаму цесна. Месца мала, асабліва калі рыхтуесься да выставы і хочацца творы расставіць. Мне яшчэ пашанцавала, што жонка – кніжны графік, і ёй дастаткова для працы стала. Пакуль яна працуе пераважна дома, але без майстэрні мастаку нельга, яна для яго – куточак душы... Мы прабылі ў Нямеччыне каля дваццаці дзён, наведалі Кёльн, Дрэздэн, Бэрлін і Патсдам. Падарожныя выдаткі аплаціў арганізатар выставы «Volksbank» – вядомы нямецкі банк. Дарэчы, банк мае сваю шыкоўную мастацкую галерэю, дзе традыцыйна праводзяцца выставы. І наша выстава была вельмі добра арганізаваная, гасьцей запрасілі каля сотні чалавек, музыкі гралі выдатны джаз. Адчувалася, што ўсё гэтае дзейства – для немцаў сьвята.

**М. С.:** Нямецкі банк арганізуе выставу беларускага мастака. А беларускія банкіры як да мастацтва адносяцца?

**С. Ц.:** І нашы банкі пастунова пачынаюць цікавіцца мастацтвам. Скажам, «Прыёрбанк» і «Беларусбанк» маюць свае калекцыі, і час ад часу набываюць для іх творы. Вельмі прыемна, што і нашы банкіры пачынаюць разумець: мастацтвам займацца – і прыемна, і прэстыжна.

**М. С.:** Мастацкая акцыя «Ноч музэяў» прыйшла да нас з Францыі. І падобна на тое, што прыжылася, сёлета ладзілася ўжо чацьверты раз. А што яшчэ нам ня шкодзіла б запазычыць на Захадзе?



**С. Ц.:** У краінах Заходняй Эўропы ладзяцца вельмі цікавыя зборныя выставы. З розных музэяў сьвету звозяцца, напрыклад, творы Пікаса ці Мадыльяні. Выстава экспануецца тры месяцы, а потым пераяжджае ў другі горад, потым вандруе далей, у іншыя краіны. Да нас такія выставы, на жаль, не даяжджаюць. Дык вось, я хацеў бы, каб наша краіна магла прымаць такія зборныя перасоўныя выставы заходнеэўрапейскага жывапісу. Маральна мы да гэтага гатовыя, засталося сасьпець матэрыяльна.

**М. С.:** На тваім каталёгу радкі Максіма Багдановіча: «Хто мы такія? Толькі падарожныя – папутнікі сярод нябёсаў». Мне ў гэтых радках, нароўні зь іх сьветлым гуманізмам, заўсёды чуўся і адчай паэта. Мне бліжэй радкі паэта-набэлянта зь невялічкай вэст-індыйскай выспачкі Сэнт-Люсія Дэрэка Ўолката: «Альбо я нацыя, альбо я – ніхто». А кім сябе адчувае мастак Цімохаў – у краіне, у сьвеце, у сусьвеце?

**С. Ц.:** Я не адчуваю, што я – нацыя. Памятаеш, Сяргей Дубавец у «Вострай браме» праводзіў дасьледаваньне, хто зь беларускіх творцаў адважваўся сказаць: я – народ. Усяго трох ці чатырох ён налічыў, у тым ліку Янку Купалу. Вялікая адказнасьць – гаварыць так, і я пра гэта нават ня думаю. Я адчуваю сябе маленькай пяшчынкай беларускага космасу, якая калі пакіне маленькі сьлед у гісторыі сваёй нацыі, то я буду вельмі задаволены ў іншым жыцьці, калі яно ёсьць.

**М. С.:** Ты зьяўляесься сябрам суполкі «Пагоня», у якой сабраліся найбольш актыўныя ў сваёй грамадзкай чыннасьці мастакі. Мастак павінен разварушваць апатычнае грамадзтва, ці гэта не ўваходзіць у ягоныя абавязкі?

**С. Ц.:** Найперш мастак павінен ствараць добрае і цікавае мастацтва. Калі мастакі зладзяць выдатную выставу, зьбярэцца безьліч людзей, і мастакі будуць прамаўляць па-беларуску і стаяць на пазыцыях

беларушчыны, гэтая выстава, нават калі на ёй ня будзе твораў зь бела-чырвона-белымі сьцягамі, яна будзе глыбока беларускай і сама стане сьцягам, за якім пойдуць людзі. Але калі бела-чырвона-белыя сьцягі мы будзем маляваць на кепскіх карцінах, мы будзем дапамагаць нашым незычліўцам, а сабе рабіць як найгорш.

**М. С.:** Ты – уладальнік Гран-пры кніжнага біенале ў Бялградзе, зладзіў чатыры пэрсанальныя выставы за мяжой. Посьпех. Да мастака, які дамагаецца посьпеху там, ці зьмяняюцца адносіны тут?

**С. Ц.:** Мастак мусіць працаваць і быць цікавым найперш самому сабе. Але, сапраўды, наш творца спачатку павінен дамагчыся прызнаньня за мяжой, і толькі пасьля гэтага ён стане вядомым на радзіме. Думаю, што калі б выдатны, арыгінальны мастак Язэп Драздовіч застаўся за мяжою, як у свой час зрабіў Марк Шагал, ён вярнуўся б у Беларусь у арэоле славы. І нам не спатрэбіліся б дзясяткі гадоў неймаверных высілкаў, каб гэты арэол стварыць. А так даводзіцца той жа «Пагоні» ладзіць пленэры, выдаваць альбомы і не стамляцца тлумачыць усяму сьвету, хто такі Драздовіч. Таму я не асуджаю тых мастакоў, якія працуюць там. Гэта лепш, чым біцца ў глухую сьцяну тут.



*Юры Туронак –*
гісторык. Закончыў Галоўную школу плянаваньня і статыстыкі ў Варшаве. Працаваў у Польскай зьнешнегандлёвай палаце, кіраваў варшаўскай філіяй Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Польшчы. Доктар гістарычных навук. Аўтар кніг «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», «Людзі СБМ», «Мадэрная гісторыя Беларусі» ды інш. Нарадзіўся ў 1929 годзе ў мястэчку Дукшты (цяпер Літва). Жыве ў Варшаве.

## *Юры Туронак:* «СБМ – не падарунак фюрэра»

***5 ліпеня 2007 году***

*Да кніг прафэсара Юрыя Туронка ў Беларусі апошнім часам назіраецца павышаная ўвага. Паводле апытаньня газэты «Наша Ніва», ягоная «Мадэрная гісторыя Беларусі» прызнаная найлепшай кнігай 2006 году. А частка накладу другой кнігі – «Людзі СБМ» – была сёлета сканфіскаваная супрацоўнікамі КДБ на складзе Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». На яе старонках Юры Туронак вычарпальна адказаў на пытаньні, зьвязаныя зь дзейнасьцю Саюзу беларускай моладзі ў гады Другой сусьветнай вайны. Пра герояў і антыгерояў сканфіскаванай кнігі мы гутарым з прафэсарам у ягонай гасьціннай варшаўскай кватэры на вуліцы Тамковай.*

**Міхась Скобла:** Спадар Юры, колькі гадоў вы займаліся Саюзам беларускай моладзі?

**Юры Туронак:** СБМ я вывучаў чатыры гады. У сваёй кнізе я імкнуўся паказаць на падставе новых дакумэнтаў працэдуру стварэньня СБМ, ролю ў гэтым працэсе беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца і Генрыка Барановіча, а таксама гаўляйтэра Беларусі Вільгельма Кубэ. Дарэчы, апошні вызначыў іншы, у адрозьненьне ад намераў бэрлінскіх уладаў, кірунак дзейнасьці СБМ.

**М. С.:** У сваім дасьледаваньні вы закранаеце і аспэкты вялікай палітыкі. Скажыце, няўжо гаўляйтэр Беларусі Вільгэльм Кубэ і сапраўды меў далёкасяжную мэту: стварэньне беларускай дзяржавы, хай сабе і пад нямецкім пратэктаратам?

**Ю. Т.:** Акурат у гэтым вінаваціў Кубэ шэф Службы бясьпекі (СД) у Менску Штраўх. Але вырашэньне такога пытаньня не было ў кампэтэнцыі Кубэ. Нават міністар Усходніх акупаваных абшараў Розэнбэрг ня мог тут нічога вырашыць. Гэта мог вырашыць толькі Гітлер. Кубэ проста спрыяў разьвіцьцю і ўмацаваньню нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, перш за ўсё моладзі, якая магла б адыграць вырашальную ролю ў вельмі няпростай справе – адбудове дзяржаўнасьці Беларусі. Напрыклад, Кубэ гаварыў: «Беларусь была ня больш як імглістым геаграфічным паняткам». Для выпраўленьня гэтага становішча ў Генэральнай акрузе Беларусь і былі арганізаваныя пачатковыя і сярэднія школы, наладжвалася пэўная культурная дзейнасьць. Дзеля гэтага ж быў заснаваны і СБМ.



**М. С.:** У публічных выступах Кубэ называў СБМ падарункам фюрэра Беларусі. Чаму ж падобных «падарункаў» ад Гітлера не атрымала Ўкраіна ці, скажам, Літва – нашы суседзі?

**Ю. Т.:** Я ўпэўнены: Гітлер СБМам не займаўся. Аб такім «падарунку» не магло быць і гаворкі. У 1943 годзе, пасьля Курскай бітвы, Гітлер думаў пра што заўгодна, толькі не аб арганізацыях моладзі на акупаванай тэрыторыі. Арганізацыя СБМ была справай беларускіх дзеячаў у Бэрліне і Кубэ ў Менску. Разам яны проста заснавалі гэтую арганізацыю, і яна дзейнічала, наколькі гэта было магчыма. Выказваньне Кубэ пра «падарунак Гітлера» пазьней выкарыстоўвалася некаторымі менскімі гісторыкамі дзеля дыскрэдытацыі СБМ як фашысцкай арганізацыі. Але я перакананы, што спасылкі на Гітлера мелі выключна прапагандысцкі характар. І для Кубэ тут справа была простая: згодна з прынцыпам фюрэрства, усё, што стваралася ў абсягу нацыянал-сацыялістычнага кіраўніцтва, лічылася вынікам ідэяў вярхоўнага правадыра.

**М. С.:** Вы называеце цэнтры шкаленьня кіраўнічых кадраў для СБМ. Іх было чатыры: у Менску, у Драздах, у Альбярціне і Флярыянаве. Што там вывучалі, якая была праграма?

**Ю. Т.:** Праграма курсаў складалася з інтэнсіўных спартовых і шыхтавых заняткаў, з арганізацыйнага інструктажу, вывучэньня беларускай гісторыі, песень, літаратуры ды іншых галінаў беларусазнаўства. Курсанты слухалі даклады на актуальныя палітычныя тэмы, знаёміліся з пэдагагічнымі аспэктамі працы з моладзьдзю. Надавалася вялікая ўвага пытаньням аховы здароўя, гігіены, дысцыпліны і парадку. Выпускнікі курсаў атрымлівалі прызначэньні, прымалі ўрачыстае забавязаньне працаваць на карысьць Бацькаўшчыны. Часта ладзіліся розныя сяброўскія вечарыны. Важнае псыхалягічнае значэньне мела штодзённае ўздыманьне і апусканьне бела-чырвона-белага сьцягу. Паводле справаздачы кіраўніка СБМ Міхася Ганька, праз усе чатыры цэнтры за ўвесь час іх існаваньня прайшлі 1317 актывістаў.

**М. С.:** На здымках, зьмешчаных у вашай кнізе, відно, як эсбээмаўцы маршавалі па гарадзкіх вуліцах. А якія ў іх былі шыхтовыя песьні?

**Ю. Т.:** На просьбу Міхася Ганька ў 1943 годзе кампазытарам Міколам Шчагловым-Куліковічам быў падрыхтаваны «Юнацкі сьпеўнік». Там амаль усе песьні былі старыя, даўнейшыя. Узьнікла вялікая патрэба стварыць новыя. На дзіва, знайшлося нямала паэтаў і кампазытараў, якія працавалі ў гэтым кірунку, і моладзевых патрыятычных песьняў за кароткі час было створана каля дзесяці, у тым ліку «Марш маладых» (аўтар словаў – настаўнік Навагрудзкай сэмінарыі Аляксей Анішчык), марш «Зважай» (аўтары – паэт Тодар Лебяда і кампазытар М. Іваноў), «Беларусь» (словы Міхася Кавыля, музыка Міколы Равенскага). А гімнам СБМ лічылася песьня Альбіна Стэповіча «Беларусь перад усім».

**М. С.:** Саюз беларускай моладзі меў свой друкаваны орган – часопіс «Жыве Беларусь». Колькі нумароў выйшла і што ўяўляла зь сябе гэтае выданьне?



**Ю. Т.:** Выйшла дзесяць нумароў. Адзінаццаты падрыхтавалі, але ў Беларусі не пасьпелі выдаць. Здаецца, ён выйшаў у Нямеччыне, у Тропаве, але мне яго не давялося пабачыць. Афіцыйным выдаўцом і вельмі актыўным аўтарам часопісу «Жыве Беларусь» быў Міхась Ганько, рэдактарамі – Уладзімер Кушаль і Расьціслаў Нарушэвіч. Супрацоўнікі рэдакцыі – Надзея Абрамава, Алесь Кароткі, Галіна Бузук, Уладзімер Гарэлік, Барыс Суравы, Аўген Калубовіч ды інш. Нумары часопісу ўяўлялі зь сябе даволі аб'ёмныя сшыткі. Там прысутнічала перш за ўсё палітычная праблематыка, мастацкая літаратура, хроніка. Друкаваліся розныя прынагодныя матэрыялы, прысьвечаныя Фабіяну Акінчыцу, Вацлаву Іваноўскаму, папулярызаваліся постаці айчыннай гісторыі – Ігнат Грынявіцкі, Усевалад Ігнатоўскі і г. д. Вельмі цікавы быў зьмест. З часопісам супрацоўнічалі шматлікія аўтары, ён някепска разьвіваўся, што праўда, вельмі кароткі час.

**М. С.:** Вы пішаце, што на кіраўнічыя пасады ў Саюзе беларускай моладзі часам прызначаліся былыя палонныя чырвонаармейцы. Ці не было гэта кадравай памылкай вышэйшага кіраўніцтва СБМ?

**Ю. Т.:** Не, гэта не было памылкай. Такую кадравую палітыку праводзіў перш за ўсё Акінчыц, які імкнуўся да ўяўнай улады ў Беларусі і рыхтаваў пад сябе адпаведныя кадры. І такія кадры знайшліся на той час у Нямеччыне – ваеннапалонныя чырвонаармейцы, беларусы, якія пагадзіліся пайсьці на супрацоўніцтва з Акінчыцам. Агулам было перашколена і выслана зь Нямеччыны ў Беларусь 130 чалавек. Большасьць зь іх працавала ў галіне прапаганды, а таксама перакладчыкамі ў акруговых камісарыятах. З гэтых ваеннапалонных і меркавалася атрымліваць кіраўнікоў СБМ. На курсах СБМ у чэрвені 1943 году ў Менску займаліся больш як 20 курсантаў, у тым ліку палова зь іх – былыя палон-

ныя чырвонаармейцы. З чырвонаармейцаў паходзілі намесьнік Ганька Дзьмітры Стэльмах, супрацоўнікі кіраўнічага штабу Васіль Цыкуноў і Васіль Брэль. Акруговымі кіраўнікамі былі прызначаныя Сяргей Бузак (на Менскую акругу), Максім Бабкоў (Лідчына), Мікіта Каляда (Наваградчына), Фёдар Шпак (Баранавіцкая акруга), Палікарп Манькоў (Случчына). Кубэ ня вельмі пагаджаўся з такой кадравай палітыкай, але, зь іншага боку, ён націскаў на тое, каб кіраўнічыя пасады займалі мясцовыя дзеячы. Цікава, што ўсяго пяць актывістаў пакінулі СБМ і перайшлі ў партызаны: сьцежку праклаў Каляда, за ім падаліся Брэль, Бабкоў, Рыгор Фралоў і Цыкуноў. Так што нельга сказаць, што падобныя выпадкі былі шматлікія.

**М. С.:** Розныя дасьледчыкі падаюць розную колькасьць чальцоў СБМ: ад 8000 да 100 000 чалавек. А ваша лічба якая?

**Ю. Т.:** Я пагаджаюся са справаздачамі кіраўніцтва СБМ. Паводле іх, на тэрыторыі Генэральнай акругі Беларусь было 8500 чальцоў СБМ. Плюс – каля 1000 у ваеннай зоне ва Ўсходняй Беларусі. Разам – каля 10 000 юнакоў і юначак. Тут ёсьць адзін істотны момант. У Нямеччыне таксама налічвалася каля 3500 нібыта чальцоў СБМ. Але гэта былі не эсбээмаўцы, якія выехалі на працу ў Нямеччыну (гэтак званая працоўная група СБМ). Гэта была неарганізаваная моладзь, якую там, у Нямеччыне, хацелі ўцягнуць у працоўную групу. Крыху папоўніўся СБМ там, але бальшыня не ўступала – не хацелі. Таму быў выдадзены загад, адміністрацыйным спосабам іх усіх залічылі ў СБМ. Разам выйшла 12 600 чалавек. Але я не лічу гэтых, прымусова ўключаных. Рэальна ў СБМ было каля 10 000 чальцоў.

**М. С.:** Многія эсбээмаўцы апынуліся ў 1943–1944 гадах у Нямеччыне. Чым ім там давялося займацца?



**Ю. Т.:** Чальцы працоўнай групы займаліся выключна працай на нямецкіх заводах. Зусім іншая катэгорыя – удзельнікі ваенна-дапаможнай службы, перш за ўсё Люфтвафэ, яны служылі ў зэнітнай артылерыі. Там былі як чальцы СБМ, так і людзі, не зьвязаныя з гэтай арганізацыяй. Хоць усім ім давалі бела-чырвона-белыя павязкі на рукавы. Закіды некаторых гісторыкаў, што СБМ, маўляў, уплываў на мабілізацыю моладзі ў Люфтвафэ, ня маюць пад сабой падставаў. У Літве ці ва Ўкраіне моладзевых арганізацый не было, а літоўцы ці ўкраінцы ў Люфтвафэ служылі. Справа ў тым, што моладзь ішла служыць добраахвотна. У Беларусі службу гэтую нельга зьвязваць з СБМ, хоць адпаведная прапаганда вялася, як і паўсюль на той час.

**М. С.:** Вядома, як ставіўся Гітлер ды ягоныя памагатыя да паняволеных народаў. Вы ў сваёй кнізе цытуеце выказваньне на гэтую тэму райхсфюрэра СС Гімлера: «Калі нейкі беларус ці ўкраінец стварае сваё войска, то, нягледзячы на гэта, ён жа застаецца расейцам (ist er doch trotzdem ein Russe). Уявіце сабе, што прыходзіць да мяне нехта, напрыклад нейкі нямецкі эмігрант з Баварыі ці Бадэну, і кажа, што ён ня немец, а толькі баварац ці бадэнец, і змагаецца за свабоду Баварыі ці Бадэну. Гэта ж бяз сэнсу. Такое нам натварыў толькі гэты дурань Розэнбэрг»... Нягледзячы на гэткую пазыцыю нямецкіх правадыроў, кіраўнік СБМ Міхась Ганько трымаўся ідэалёгіі нацыянал-сацыялізму. Ці гэта была зь ягонага боку палітычная гульня?

**Ю. Т.:** Мне здаецца, для Ганька гэта не было палітычнай гульнёй. Гэткая ідэалёгія была ягоным перакананьнем. На гэтае перакананьне, магчыма, адмоўна паўплывала стаўка Гімлера на генэрала Ўласава, імкненьне залічыць у армію Ўласава ўсіх: украінцаў, беларусаў ды іншых грамадзянаў Савецкага Саюзу. Але ішлі ўжо апошнія месяцы вайны, і ніякага рэальнага значэньня тая армія ня мела. Па

вайне Міхась Ганько зьбіраўся вярнуцца ў Беларусь і ўдзельнічаць у антысавецкім партызанскім руху. Ён пра гэта неаднойчы публічна заяўляў, але сваіх намераў не ажыцьцявіў. Ганько застаўся ў Празе, дзе і загінуў. Якім чынам – невядома. Але ёсьць надзея, што факт ягонай сьмерці зафіксаваны ў дакумэнтах, якія савецкія органы ў 1945 годзе захапілі ў Празе. Яны знаходзяцца, хутчэй за ўсё, у маскоўскім Архіве найноўшай гісторыі.

**М. С.:** Паўсюль у Эўропе мінулая вайна называецца Другой сусьветнай. У Беларусі ж яна – Вялікая Айчынная. Які тэрмін, на вашу думку, больш адпавядае гістарычнай праўдзе?

**Ю. Т.:** Калі пачалася вайна, я знаходзіўся ў Дукштах – цяпер гэта ўсходняя Літва, некалькі кілямэтраў ад мяжы зь Беларусьсю. Для нас вайна пачалася 1 верасьня 1939 году. А на ўсходзе Беларусі ніякай вайны не адчувалася. Вялікая Айчынная... Гм... Для мяне ні Вялікай, ні Айчыннай гэтая вайна ніколі не была. Для насельнікаў Прыбалтыкі, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, што сталі часткаю СССР ў 1939–1940 гадах, гэта была і ёсьць Другая сусьветная вайна. Але лягічна, што для жыхароў Усходняй Беларусі яна была Вялікай Айчыннай, калі лічыць, што для іх Савецкі Саюз быў адной вялікай айчынай. Думаю, тут справа ня толькі тэрміналёгіі. Гэтае пытаньне можна разглядаць па-рознаму. Я лічу, што больш правільная назва – Другая сусьветная вайна.



*Леанід Дранько-Майсюк –*
паэт, празаік, перакладчык. Закончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у Беларускім нацыянальным драмтэатры імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Тут», «Стомленасьць Парыжам», «Анёлак і я» ды інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Менску.

## *Леанід Дранько-Майсюк:* «Паэзія – сьвецкая рэлігія прыгожых людзей»

***10 кастрычніка 2007 году***

*Беспрацоўны настаўнік ці беспрацоўны журналіст – зьява даволі звыклая для беларускага грамадзтва. А вось беспрацоўны паэт – статус новы, пакуль што не асэнсаваны айчыннымі сацыёлягамі. У Беларусі і за савецкім часам, пры шчодрых ганарарах, літаратурнай працай зараблялі на жыцьцё лічаныя творцы. У Беларусі сучаснай выжыць на ганарары ад публікацый стала немагчыма. Тым ня менш сёй-той выжывае. Паэт Леанід Дранько-Майсюк яшчэ ў 2002 годзе звольніўся з выдавецтва «Мастацкая літаратура» і з тае пары нідзе ня служыць. У няпэўным статусе беспрацоўнага ён і сустрэў сваё пяцідзесяцігодзьдзе.*

**Міхась Скобла:** Леанід, вольны мастак – гэта няблага, але ж ёсьць сям'я, ёсьць гэткі празаічны панятак, як хлеб надзённы. Ці табе ўдаецца зарабляць на жыцьцё вершамі?

**Леанід Дранько-Майсюк:** Гэта тая дзівосная сытуацыя, паводле якой, сапраўды, на жыцьцё я зарабляю сваёй паэзіяй. Апошнім часам даводзіцца шмат выступаць, езьдзіць па ўсёй Беларусі з чытаньнем вершаў. Гэта ўзбагачае прастору майго творчага існаваньня і падмацоўвае мяне матэрыяльна.

**М. С.:** Не шкадуеш, што ў свой час сышоў зь дзяржаўнага выдавецтва?

**Л. Д.-М.:** Не шкадую. Тады, у 2002 годзе, акурат аб'ядноўваліся выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». Падчас такіх аб'яднаньняў абавязкова зьяўляюцца лішнія людзі, якім няма куды падзецца. У выпадку з выдавецтвамі гэта былі выдатныя прафэсіяналы – мастакі, рэдактары, карэктары. І я вырашыў сысьці, бо ведаў, што, застаўшыся бяз працы, буду сябе лягчэй пачуваць, чым нехта іншы. У аддзеле кадраў мне сказалі, што трэба дзеля таго, каб не перапыніўся стаж, стаць на ўлік у цэнтры занятасьці, што я і зрабіў. І даволі працяглы час я быў афіцыйна зарэгістраваны ў якасьці беспрацоўнага на біржы Цэнтральнага раёну гораду Менску.

**М. С.:** І як ставіліся ў цэнтры занятасьці да беспрацоўнага паэта, якую працу табе там прапанавалі?

**Л. Д.-М.:** Памятаю, што мяне там сустрэлі вельмі прыхільна. У цэнтры занятасьці працуюць вельмі мілыя і ўважлівыя людзі, адмыслоўцы сваёй справы. Мы дамовіліся, што я сваёй паэзіяй буду ахоўваць кветкі ў сталічным Батанічным садзе.

**М. С.:** Табе было прапанавана працаваць там вартаўніком?

**Л. Д.-М.:** Так, і ахоўваць кветкі паэзіяй – гэта найвышэйшае мастацтва вартаўніцтва.

**М. С.:** Вельмі своеасаблівы падарунак да твайго пяцідзесяцігодзьдзя зрабіла Міністэрства адукацыі. Тваё імя зьнікла са школьных праграмаў па літаратуры – разам з імёнамі Ўладзімера Някляева, Вольгі Іпатавай, Сьвятланы Алексіевіч, іншых пісьменьнікаў. Цябе гэта вельмі засмуціла?

**Л. Д.-М.:** Смуткаваць – занятак не для мяне. Мне хочацца закранутую табой праблему вывесьці за межы майго імя і сказаць пра тое, што колькасьць гадзінаў, якая адведзена ў нашых навучальных установах на вывучэньне беларускай мовы і літаратуры, вельмі і вельмі недастатковая. Нам часам кажуць, што дзеткам цяжка даецца аб'ёмная навучальная праграма. Паводле гэтай лёгікі, скарачаецца сваё, павялічваецца чужое, і дзеткі зь першае клясы вывучаюць не беларускую, а, скажам, ангельскую мову. Са школьнай праграмы па беларускай літаратуры ўвогуле нельга выкрэсьліваць ніводнага пісьменьніка, бо ў кожнага пісьменьніка ёсьць твор, які павінен вывучацца ў школе. Нельга замяняць імя на імя,

трэба імя дадаваць да імя. Сучасная наша літаратура разьвіваецца, яна маральна і эстэтычна багатая, і яе ў поўным аб'ёме павінны ведаць школьнікі. Павінен існаваць баланс паміж неабходным і патрэбным. Колькі гадзінаў адведзена на вывучэньне, скажам, кампутарнай тэхнікі, столькі ж гадзінаў павінна быць адведзена і на вывучэньне беларускай мовы і літаратуры.

**М. С.:** Я чытаў, што Восіп Мандэльштам, калі ня меў паблізу сяброў ці знаёмцаў, тэлефанаваў свайму сьледчаму, які выклікаў яго на допыты, і дэклямаваў яму новыя вершы. А як з гэтым у цябе? Ці патрабуе новы твор неадкладнай сустрэчы з чытачом?

**Л. Д.-М.:** Даволі працяглы час я ня думаў пра свайго чытача. Мне вельмі падабаўся сам працэс пісаньня, і я складаў вершы для самога сябе. Аднак абставіны прымусілі мяне паверыць у незвычайнае: аказваецца, ёсьць людзі, і іх дастаткова многа, якія цябе, менавіта цябе, чытаюць. І зь нейкага моманту я зразумеў, што нельга і надалей ня ўлічваць думкі і пачуцьці гэтых людзей. Што літаратура дзейсная тады, калі мае свайго актыўнага чытача. Гэта зусім ня значыць, што ў сваёй творчасьці я стаў падладжвацца пад нечый настрой, але я пачаў «адрасаваць» свае вершы, свае апавяданьні тым прыхільнікам прыгожага пісьменства, якім мае творы неабходныя. Прызнаюся, занятак гэты спрыяе натхненьню. Ёсьць у мяне проза, надрукаваная ў часопісе «Дзеяслоў», называецца яна – «Анёлак і я». Гэта і ёсьць узор адраснай творчасьці. Увогуле, улічваючы абставіны, у якіх апынулася беларуская мова, творы, напісаныя на ёй, павінны ісьці па апостальскіх сьцежках – гэта значыць даходзіць да кожнай душы.

**М. С.:** Пытаньне толькі – колькі такіх душаў павінна быць. Нядаўна кумір шасьцідзясятнікаў Яўген Яўтушэнка паабяцаў ізноў сабраць цэлы стадыён прыхільнікаў паэзіі, як гэта адбывалася ў гады



ягонай маладосьці. А ці магчымы ў нас у Беларусі масавы ўсплёск цікавасьці да паэзіі?

**Л. Д.-М.:** На жаль, статыстычна пацьвердзіць колькасьць аматараў паэзіі немагчыма. Але масавы ўсплёск цікавасьці да паэзіі магчымы. Калі мы канчаткова атруцімся псэўдамастацтвам, якое пануе сёньня, калі мы зразумеем, што кніга не падлягае замене на яе электронную вэрсію, калі мы адкінем культ коміксаў, падробак, пераробак, усялякіх падмалёвак і падтанцовак... Калі мы выпрацуем законы, паводле якіх будуць карацца «дзеячы», дзейнасьць якіх накіравана на тое, каб забясьпечыць школьныя бібліятэкі скарочанымі варыянтамі клясычных твораў... Урэшце, калі мы здолеем прапанаваць грамадзтву заместа культу жывата культ розуму... Вось тады, я ўпэўнены, паэзія вернецца ў вялікія аўдыторыі. Працэс гэты няпросты і даволі доўгі, але я веру: не адзінкі, а сотні і тысячы будуць слухаць паэтаў. Беларуская паэзія па сутнасьці сваёй народная, яна ня можа заставацца на хісткіх эстрадках пэрформансаў ці на старонках піжоністых выданьняў, наклад якіх сарамліва прыкрываецца лічбай 299. Беларуская паэзія – сьвецкая рэлігія прыгожых людзей, памятайма пра гэта!

**М. С.:** А якая самая масавая аўдыторыя, перад якою табе даводзілася выступаць з чытаньнем вершаў?

**Л. Д.-М.:** Пяцьсот ці шэсьцьсот удзячных слухачоў слухалі вершы ў Мастах. Вельмі шмат людзей было ў 1997 годзе на маёй творчай вечарыне ў сталічнай філярмоніі. Вялікая аўдыторыя была на «Славянскім базары». Маладэчанскі фэстываль песьні і паэзіі можна згадаць.

**М. С.:** А згадай самую нешматлюдную залю.

**Л. Д.-М.:** Самыя нешматлюдныя залі ў Эўропе. У Парыжы мяне слухалі дзесяць чалавек, у Мадрыдзе – пяць, у Лісабоне – тры.

**М. С.:** Значыць, выступаць трэба дома... Апошнім

часам ты пішаш і прозу. І мне тут хочацца згадаць лібімага намі абодвума Міхася Стральцова: «Люблю я прозы дух цьвярозы, яе густы зямляны дух. Яна і жартам, як сур'ёзам, карчы варочае за двух». А вось мне здаецца, што мастацкія магчымасьці паэзіі значна большыя, чымся прозы, – пагадзіся.

**Л. Д.-М.:** Ёсьць і іншая думка. Кажуць, што ў прозы шырэйшае дыханьне. Аднак жа і ў паэзіі дыханьне ня менш аб'ёмнае. Згадайма «Новую зямлю», «Сымона-музыку» альбо дзьве апошнія, абсалютна цудоўныя паэмы Ўладзімера Някляева «Палянэз» і «Ложак для пчалы». Гэтыя творы сьведчаць, што глыбіня і вышыня паэзіі – бязьмерныя. У Літаратурным інстытуце ў Маскве мяне вучылі, што паміж паэзіяй і прозай няма ніякай розьніцы, хіба што розьніца існуе ў рытме. У прозы ён менш акцэнтаваны. У 1989 годзе Галіна Булыка пазнаёміла мяне з маскоўскім паэтам Юрыем Кузьняцовым. Ён тады гасьцяваў у Менску. І вось частую я ў сябе дома вялікага расейскага паэта кавай (дарэчы, ад гарэлкі ён адмовіўся) і пытаюся: «А чаму вы, Юры Палікарпавіч, ня пішаце прозу?» Ён адказвае: «Уся мая проза ў маёй паэзіі...» І ўсё ж ёсьць, скажу так, тэмы ўласна празаічныя. І кожны паэт мусіць напісаць кніжку добрай практычнай прозы – ад сьветлага дэтэктыву да дапаможніка, напрыклад, па пчалярстве ці агародніцтве.

**М. С.:** Ведаю, што ты апошнім часам працуеш над тэмай «Антон Луцкевіч і Давыд-Гарадок». Што ў выніку павінна атрымацца?

**Л. Д.-М.:** У выніку павінна атрымацца аповесьць-п'еса. Яна будзе называцца «Зь Вільні ў Давыд-Гарадок, і з Давыд-Гарадка ў Вільню». Дзякуючы Анатолю Сідарэвічу, ягонай стараннай, высокапрафэсійнай працы па вяртаньні да чытача вялікай спадчыны Антона Луцкевіча, дзякуючы Сяргею Дубаўцу, ягонаму аналітычнаму мастацтву, празь якое эпоха Луцкевіча наблізілася да мяне, дзякуючы



клопату прафэсара Ўладзімера Міхнюка і сапраўднага паэта архіўнай прасторы Віталя Скалабана я адчуў, што мушу напісаць сваю прозу пра дырэктара Беларускага музэю ў Вільні Антона Луцкевіча. Менавіта ў такой якасьці ён прыехаў у 1936 годзе ў Давыд-Гарадок, каб дасьледаваць дубовыя труны, якія былі знойдзены падчас будаўніцтва царквы на Замкавай гары. Антон Луцкевіч навукова даказаў, што ў гэтых дубовых саркафагах пахаваныя давыдгарадоцкія князі, а самі саркафагі знаходзяцца ў культурным слоі зямлі XII ст. Я веру, што неўзабаве наша грамадзтва па-сапраўднаму ацэніць дзейнасьць Антона Луцкевіча. У Менску яму абавязкова будзе пастаўлены помнік, адчынены музэй. Без Антона Луцкевіча не было б Беларусі як дзяржавы.

**М. С.:** Жыў-быў такі японскі мастак Кацусіка Хакусай – аўтар вядомага альбому «Трыццаць шэсьць відаў Фудыямы». Ён пісаў у розных манэрах і кожнага разу, мяняючы манэру, мяняў і сваё імя. І такіх пэрыядаў у ягоным жыцьці было больш за трыццаць. А ў цябе патрэбы ў псэўданіме ніколі не ўзьнікала?

**Л. Д.-М.:** Я ніколі не карыстаўся псэўданімамі. Ёсьць такі панятак – гетэранімія, гетэранімны азначае «рознаіменны». Нашы паэты, нашы клясыкі любілі па неабходнасьці (сацыяльнай і палітычнай) мастацтва гетэраніміі. Успомнім шматлікія псэўданімы Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Францішка Багушэвіча, Цёткі... Літаратура – занятак небясьпечны, і таму аўтар звычайна прыкрываў сваё сапраўднае прозьвішча выдуманым імем. А яшчэ, каб стварыць уражаньне, што, напрыклад, ён, Францішак Багушэвіч, у мастацкім пісьменстве не адзін. Варта тут згадаць і вялікага партугальскага паэта Фэрнанду Пэсоа, сапраўднага караля рознаіменнасьці. У яго былі дзясяткі і дзясяткі псэўданімаў. Кожны свой рукапіс ён падпісваў новым прозьвішчам, даваў гэтаму прозьвішчу біяграфію

і, па сутнасьці, ствараў новага пісьменьніка. Псэўданім, нават расшыфраваны, заўсёды мае адценьне таямнічасьці.

**М. С.:** 6 кастрычніка ў Беларусі адзначаўся Дзень архівіста. Ці зьбіраеш ты архіў, ці згодны з Барысам Пастарнакам, які пісаў: «Не надо заводить архива, над рукописями трястись»?

**Л. Д.-М.:** Мы – краіна расьцярушаных, а то і наогул згубленых архіваў. Мы – прастора кепска вывучаных архіваў. Таму ўсё тое станоўчае, што робіцца ў галіне архівістыкі, у мяне выклікае вялікую павагу. Сяргей Шупа сабраў два вялікія тамы архіваў БНР. Гэтая праца заслугоўвае ордэна Ганаровага Легіёну. Вельмі плённа працуе дасьледчык Віталь Скалабан. Дакумэнталістыка робіць мастацкае мысьленьне дысцыплінаваным, дапамагае пазьбягаць фантазійных выкрунтасаў... Я зьбіраю архіў, але пад замком не трымаю. Маім фотаархівам карыстаюцца журналісты (асабліва іканаграфіяй 1930 году), а мае рукапісы паступова пераходзяць на захаваньне ў Музэй гісторыі беларускай літаратуры.

**М. С.:** Днямі зь Віцебску прыйшла навіна: тамтэйшыя ўлады загадалі ў гарадзкіх кнігарнях гандляваць цыгарэтамі. І кніжныя стэлажы стаяць поруч з цыгарэтнымі. Як табе падабаецца гэткае суседзтва?

**Л. Д.-М.:** Павінна быць культура гандлю, і прадаваць цыгарэты ці віно поруч з кнігамі – няправільна. Так быць не павінна. Памятаю, як на пачатку 1990-х гадоў пачалі зьнікаць бібліятэкі, іх забіралі пад розныя прыбытковыя ўстановы. У нашы дні зьнікаюць кнігарні. Яшчэ нядаўна прадавалі кнігі ў падземным пераходзе станцыі мэтро «Кастрычніцкая», а цяпер там прадаюць віно. Літаральна на маіх вачах зьнікла кнігарня «Ноты», яна была на вуліцы Леніна – цяпер там крама па продажы мабільных тэлефонаў (далькажыкаў). Сёньняшняя офісна-глянцавая цывілізацыя засоўвае кнігарні ў



цёмны кут, і пакуль яна перамагае. Спадзяюся, такі стан рэчаў часовы, фатальных наступстваў ня будзе. Кнігарні выжывуць гэтак жа, як выжылі цэрквы.

**М. С.:** У кнізе «Паэтаграфічны раман» ты закрануў тэму паэт і ягоная неадпаведнасьць сацыяльнай і палітычнай будзённасьці. Не адпавядалі гэтай самай будзённасьці Янка Купала і Ларыса Геніюш, Аляксандар Блок і Васіль Стус... А што бывае, калі паэт адпавядае рэчаіснасьці?

**Л. Д.-М.:** Калі паэт адпавядае па ўсіх парамэтрах, сацыяльных, маральных і палітычных, рэчаіснасьці, тады ён ператвараецца ў палітычнага падтанцоўшчыка, тады ён з творчай асобы паволі, але няўхільна ператвараецца ў чалавека абслугі. Такіх прыкладаў шмат у гісторыі літаратуры. І самы клясычны і сумны прыклад у гэтым сэнсе – трагедыя Маякоўскага.

**М. С.:** А калі пытаньне павярнуць на іншы лад: ці павінен паэт адпавядаць мэнтальнасьці народу? І ня толькі паэт, але і прэзыдэнт таксама. Можа, усе нашыя беды і праблемы апошніх гадоў ад таго, што не адпавядае наш народ свайму кіраўніку? Прэзыдэнт у нас даволі тэмпэрамэнтны, а народ – пераважна рахманы.

**Л. Д.-М.:** Паэт не павінен думаць пра сваю адпаведнасьць мэнтальнасьці народу. Гэта ня той філязофскі пастулят, пра які паэт павінен штодня дбаць: адпавядаць ці не адпавядаць. Янка Купала пра гэта ня дбаў, ён проста жыў, творча існаваў. Ён – самае дакладнае ўвасабленьне беларускага народу, ягоных мужнасьці, працавітасьці, трагедыі і, магчыма, ягонай пасіўнасьці. Пэўнай часткі беларускага народу прэзыдэнт Лукашэнка адпавядае. Але я належу да той вялікай часткі нашага народу, паміж якой і кіраўніком дзяржавы існуе бяздонная прорва.

**М. С.:** «Воўчы голас радзімы» – тваё вызначэньне. Ад воўчага голасу можна ўцякаць на край сьвету...

Што дае эміграцыя творцу? Прыгадваю, зь якімі выдатнымі кнігамі – паэзіі і прозы – вярнуўся зь Фінляндыі Ўладзімер Някляеў.

**Л. Д.-М.:** Сказана: хлеб эміграцыі горкі, салодкім быць ён ня можа. У жыцьцёвым сэнсе, бясспрэчна, эміграцыя для творцы – трагедыя. А ў творчым – мабыць, гэта своеасаблівае шчасьце. Някляеў на чужыне шмат працаваў, ягоныя фінскія паэмы і аповесьці для нашай сучаснай літаратуры – пасапраўднаму новае слова. Новы празаічны далягляд някляеўскі нарадзіўся менавіта ў эміграцыі. Што да мяне, то я нікому, у тым ліку сабе, не пажадаў бы апынуцца на эміграцыйнай высьпе, але ня ўсё нам падуладна, і часам здараецца так, што мы – мацнейшыя за нейкія абставіны, а жыцьцё мацнейшае за нас. І ў выніку гэтага мы сядаем у эміграцыйны цягнік.

**М. С.:** Эміграцыя нагадвае старасьць, калі ты застаўся жыць – ужо бяз блізкіх і сяброў. Я не хачу гаварыць пра фізычны ўзрост: цела звычайна не супадае ў старэньні з душой. Пушкін незадоўга да сьмерці прызнаўся, што адчувае сябе тысячагадовым старцам. А што дае старасьць паэту – жыцьцёвы досьвед, самазаспакаеньне, майстэрства?

**Л. Д.-М.:** Старасьць – зьява дастаткова страшная. Гэта згасаньне, разбурэньне ня толькі цела, але і, што страшней, розуму і інтэлекту. Цікава, што Максім Багдановіч не дажыў да старасьці, Янка Купала ўбачыў старасьць, Якуб Колас зжыўся зь ёю, а Кандрат Крапіва быў старасьцю зьедзены. Вельмі часта здараецца, што старасьць – поўная адсутнасьць творчасьці, як у гэтых маіх радках: «Але ў канцы жыцьця, як не складаеш вершы, / тады й жывеш! / Апошні ўздых і ёсьць твой верш найлепшы, / найгеніяльны верш...».

**М. С.:** Мы ўжо згадвалі імя Міхася Стральцова, якому сёлета, дарэчы, споўнілася б 70 гадоў. Ведаю,



што Стральцоў – адзін з тваіх улюбёных творцаў. Чым ён табе блізкі?

**Л. Д.-М.:** У любой сфэры чалавечай дзейнасьці існуе, як вядома, попыт на майстэрства. У літаратуры – таксама, і нават у першую чаргу чым дзе... Бо літаратура – гэта перш за ўсё ня *што* напісана, а *як* напісана. Міхась Стральцоў – майстар. Для вытанчаных чытачоў творы Стральцова цікавыя хараством пісьма, дасканаласьцю думкі – увогуле прыгажосьцю беларускай мовы. А для людзей, якія проста любяць чытаць па-беларуску, Стральцоў цікавы сваёй нявыдуманасьцю, сваёй цудоўнай жыцьцёвай зразумеласьцю. І таму ягоныя апавяданьні «Смаленьне вепрука», «Сьвет Іванавіч, былы донжуан» чытаюцца як папулярныя раманы, а ягоныя аповесьці «Загадка Багдановіча», «Дзень у шэсьцьдзесят сутак», «Адзін лапаць, адзін чунь» успрымаюцца як эмацыйна-інтэлектуальнае падарожжа... У адным з артыкулаў Стральцоў пісаў пра Янку Брыля: маўляў, Брыль – гэта той пісьменьнік, чый талент не папсаваны таннай парадаксальнасьцю. І талент самога Стральцова – празаіка, паэта, эсэіста, крытыка, выхавальніка літаратурнай моладзі – таксама не папсаваны таннай парадаксальнасьцю. Досьвед Міхася Стральцова вучыць: у літаратуры трэба пазьбягаць і псэўдасур'ёзнасьці, і элемэнтаў цыркацтва. Калі я думаю пра будучыню беларускай літаратуры, то перш за ўсё думаю пра Міхася Стральцова – гэта значыць, уяўляю літаратуру без надзіманай сур'ёзнасьці і цыркацтва.

**М. С.:** Ты рэдагаваў апошнюю прыжыцьцёвую кнігу Стральцова – паэтычны зборнік «Мой сьвеце ясны». Ці лёгка ён пагаджаўся зь нейкімі рэдактарскімі заўвагамі?

**Л. Д.-М.:** Мне не спадабаўся адзін верш Стральцова, і цяпер я вельмі шкадую, што сказаў яму пра гэта. Міхась Лявонавіч тут жа гэты верш выкінуў са сваёй кніжкі. Нават ня памятаю, аб чым быў

той верш, памятаю толькі рыфму зь яго: «віза – тэлевізар». Яна мне здалася няўдалай. Зрэшты, у працэсе рэдагаваньня ня гэта было галоўнае. Сам аўтар быў незадаволены сваёй кнігай. Страшэнна незадаволены! Я яго супакойваў, як мог. Выхад кнігі па тэхнічных прычынах расьцягнуўся амаль на два гады (па тым часе тэрмін неверагодна вялікі!), і ўвесь гэты час Стральцоў скардзіўся мне і пры сустрэчы, і па тэлефоне – на сябе, на свае вершы... У маёй рэдактарскай практыцы такога сябененавіснага аўтара больш не сустракалася... Памятаю, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Серафім Андраюк прапанаваў выдаць «Мой сьвеце ясны» ў палепшаным афармленьні, мастак Аляксандар Шэвераў зрабіў цудоўныя ілюстрацыі, Мікола Федзюковіч напісаў узьнёслую рэцэнзію, Рыгор Барадулін – чулую анатацыю. Вясною 1986 году кніга выйшла, у Доме літаратара адбылася прэзэнтацыя ўжо адразу дзьвюх кніжак (якраз пасьпеў зьявіцца і зборнік артыкулаў «Пячатка майстра»). Памятаю, тая прэзэнтацыя не палепшыла настрой Міхася Стральцова. Можна было падумаць, што ён не любіў сваю творчасьць.

**М. С.:** «А знаеш што, а знаеш што, мой сябра мілы, ты ля душы маёй пастой у час панылы...» Анатоль Сідарэвіч пісаў у мэмуарах, што акурат і не было каму «пастаяць ля душы». Сябра не было. Няўжо Стральцоў быў такі адзінокі?

**Л. Д.-М.:** У Міхася Стральцова быў няпросты характар, і ў ягоных сяброў таксама – няпростыя характары. Гэтым шмат што тлумачыцца. Стральцоў не шукаў самоты, самота жыла ў ім, ён быў самотнікам. Вядома, ад людзей, якіх паважаў, ён хацеў разуменьня, і ад яго таксама чакалі разуменьня. Гэта звычайная, клясычная сытуацыя. Яна скарачае жыцьцё мастака, але ўпрыгожвае ягоную біяграфію.

**М. С.:** У 1981 годзе Стральцоў апынуўся ў Мазырскім лячэбна-працоўным прафілякторыі. І так сталася, што адзіным чалавекам, які наведаў паэта там, быў ты. Як пераносіў Стральцоў сваё вымушанае знаходжаньне ў гэтай спэцыфічнай установе?



**Л. Д.-М.:** Мы гаварылі пра самоту Стральцова, пра яго творчую адзіноту... Я гэта называю філязофскім сіроцтвам. Дык вось, гэтае філязофскае сіроцтва Міхася Стральцова было, на жаль, стомленае, кажучы вобразна, сумнымі дарамі Вакха. Сапраўды, больш за год ён прабыў у Мазырскім лячэбна-працоўным прафілякторыі. 28 студзеня 1982 году я наведаў яго. Была зіма, стаяў моцны мароз. Памятаю, я прыехаў дахаты з Масквы, дзе вучыўся ў Літінстытуце, і адразу сказаў бацькам, што паеду да Стральцова. Мама схадзіла на базар, купіла сыр, сала, яшчэ нешта. Я так шкадую, што ўсё гэта ня ўзяў з сабою, а трэба было... Уражаньне ад месца, у якім апынуўся Стральцоў, было вельмі гнятлівым: высокі глухі плот з калючым дротам, на КПП узброеныя прапаршчыкі, закрытыя кратамі вокны, падобныя на астрожнікаў пацыенты, цьмяны глыбокі сьнег, злосны брэх вартаўнічай аўчаркі... «Што, ад убачанага сэрца апала?» – Стральцоў усьміхнуўся і супакоіў мяне тым, што фрагмэнтам вядомай пушкінскай страфы надпісаў мне сваю кнігу «На ўспамін аб радасьці»: «...И я судьбу благословил, когда мой двор уединённый, печальным снегом занесённый, твой колокольчик огласил». «Мой двор уединённый» – так Стральцоў ахрысьціў савецкі ЛТП!

**М. С.:** Стральцоў пісаў пра «нацыянальнасьць мэтафары», цытаваў пры гэтым Купалу: «і стагнаў яловы плот, хохлік бегаў ля варот». Ці правамерна гаварыць пра «нацыянальнасьць» выяўленчых сродкаў у паэзіі?

**Л. Д.-М.:** Мэтафара, як вядома, – паэтычны моўны выраз, ужыты ў пераносным значэньні. Менавіта ў пераносным, таму невыпадкова ў 1920-я

гады гэтае грэцкае слова па-беларуску менавалася «пераносьняй». Мэтафара – гэта ня толькі мастацкая зьява, але і псыхалягічная, таму Міхась Стральцоў меў рацыю, калі пісаў пра «нацыянальнасьць мэтафары». Згадаем самога Стральцова: «І раньняй восені пара / зь яе бадзёрай адзінотай / з прысадаў, саду і двара / ужо глядзіць зусім ня ўпотай – / не зварухні, не закрані! / Няхай халодна грані граюць, / пакуль кляновыя агні / красой апошняю палаюць!». Дык вось, гэтыя радкі – як увасабленьне нашай нацыянальнай памяркоўнасьці: маўляў, ня трэба чапаць тое, што створана ня намі... А вось прыклад украінскай мэтафары, з паэзіі Ў. Самійленкі: «Люба веселочко! Будь ти й мені за ознаку надії, / що не потоне народ наш без сліду в народностях інших!». А вось польскі прыклад, з паэзіі Галчыньскага: «O, tajemniczosci staroswiecka tych lisci nad murem browaru. / Za tym murem oszalaty Augustyn topi w studni zofte pantofle». Адразу чуецца нязвыклая для нас містыка і бачацца незразумелыя для ўраўнаважанага беларускага характару выбрыкі... А вось самапахвальба імпэрскага паэта: «Я памятник воздвиг себе нерукотворный...». Параўнаем са сьціпласьцю Янкі Купалы: «Я не паэта, о крый мяне Божа!» – і яшчэ раз пераканаемся: меў рацыю Стральцоў – ёсьць яна, ёсьць нацыянальная мэтафара.

**М. С.:** Сталых паэтаў моладзь нярэдка папракае ў пэўных даўніх грахах. Нашы маладыя крытыкі часам падлічваюць, колькі вершаў той ці іншы паэт прысьвяціў Кампартыі ці Леніну. Бываючы, напрыклад, у Польшчы, я нешта ня чуў, каб за падобнае папракалі Галчыньскага ці Шымборску.

**Л. Д.-М.:** І нам ня варта нікога папракаць. Неаднойчы і я чуў, як у грахах сталінізму вінавацілі Петруся Броўку, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанку, Янку Брыля. На гэта я заўсёды адказваю: ня трэба папракаць, а трэба захапляцца, трэба шчыра радавацца, што той жа Броўка склаў



цудоўны верш «Пахне чабор», што Танк напісаў унікальную кнігу «Лісткі календара», што Куляшоў стварыў геніяльную паэму «Хамуціюс», што Панчанка ўзбагаціў нашу літаратуру дзівосным «Іранскім дзёньнікам», а Брыль падараваў нам клясычныя апавяданьні «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», «Пасынак», «Цуды ў хаціне»... А што да грахоў, то клясыкам дазволена бываць там, дзе існуе грэх...

**М. С.:** Рызыкоўнае сьцьверджаньне – дзе дазволена бываць паэтам... Я на свае вочы бачыў: па Вільні езьдзяць тралейбусы з партрэтамі Данелайціса. У Варшаве паэтычныя фэстывалі праходзяць у колішняй каралеўскай рэзыдэнцыі ў Лазенках. У праскім мэтро, там, дзе ў нас рэкляма, вывешаныя пляншэты з клясычнай паэзіяй. Як ты лічыш, паэзія – зьява камэрная ці мае права на паўсядзённую прысутнасьць у нашым жыцьці?

**Л. Д.-М.:** У свой час у Парыжы я бачыў віно пад назвай «Моцарт». І тады ж падумаў: было б цудоўна, калі б якое-небудзь смачнае віно называлася «Янка Купала»! Ты згадаў іншыя прыклады. І ў нас так павінна быць. Бо нашы паэты-клясыкі – ня проста паэты. Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч выканалі ня толькі эстэтычную функцыю, то бок ня толькі стварылі беларускую літаратурную мову і напісалі свае цудоўныя творы, а яшчэ яны выканалі і дзяржавабудаўнічую функцыю, яны пабудавалі Беларусь. Без Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча не было б Беларусі як незалежнай дзяржавы. І таму дзяржава павінна штодня прапагандаваць гэтыя вялікія імёны. Прынамсі, партрэты нашых вялікіх паэтаў павінны ўпрыгожваць ня толькі бібліятэкі, але і афіцыйныя ўстановы.

**М. С.:** І хіба апошні блёк пытаньняў. Ты – аўтар выдатных песьняў «Полька беларуская», «Ружы», цэлага альбому «Цацачная крама». Што робіцца

зь беларускай песьняй? Яе сёньня практычна не чуваць на БТ, на шматлікіх фэстывалях.

**Л. Д.-М.:** Пры Станіславе Шушкевічу па-беларуску сьпявалі ўсе – кажучы па-народнаму, і жук, і жаба, і мох і балота. Мой кватэрны тэлефон на пачатку 1990-х гадоў чырванеў ад напругі, на дзень было па 10 званкоў. Званілі сьпевакі, кампазытары, аранжыроўшчыкі, рэдактары музычных рэдакцый, кіраўнікі песенных фэстываляў, дырыжоры, нават мамы і таты будучых сьпевакоў і сьпявачак. Усім патрэбны былі беларускія тэксты, беларускія вершы. Тады на тэлебачаньні быў фэстываль «Песьню бярыце з сабою», дзейнічала дзяржаўная праграма па прапагандзе беларускай песьні. Тады вельмі шмат у гэтым кірунку рабіла Беларускае радыё і Людміла Георгіеўна Палкоўнікава – выдатны музычны рэдактар. Шмат было выязных канцэртаў, на якіх гучалі толькі беларускія песьні. Сёньняшняя сытуацыя не патрабуе глыбокіх аналізаў. У нашай краіне прапагандуюцца расейская і ангельская мовы, таму на ўсіх сцэнах – лічаныя беларускія песьні.

**М. С.:** Цікавую песьню пачула краіна са сцэны сёлетняга «Славянскага базару». У выкананьні Анатоля Ярмоленкі і «Сяброў» прагучала літаральна наступнае: «Россия – рядом, Литва – направо, а Украина – слева за рекой. Соседка Польша – по курсу прямо, а мы тут в центре, и до нас подать рукой». Адразу напрошваецца пытаньне: якой часткай цела Беларусь павернутая да брацкай Расеі і куды яна рухаецца? Песьня, на першы погляд, гучыць парадыйна, але потым падумалася: а раптам гэта палітычная заява, выказаная ў гэткай арыгінальнай форме?

**Л. Д.-М.:** Тэкст працытаванай табою песьні нагадвае геаграфічны этуд. Увогуле ж, «Славянскі базар» – бясспрэчна, зьява палітычная. На ім заўжды прысутнічаюць вядомыя палітыкі. І гэта



невыпадкова. Памятаю, як некалькі гадоў таму ў сваім выступленьні на фэстывалі прэзыдэнт Расеі Ўладзімер Пуцін зрабіў акцэнт адносна таго, што Віцебск – гэта беларускі горад. Чуць такое было вельмі прыемна. Хацелася б, каб гэты фэстываль з нашага беларускага боку быў не інтэрнацыянальна-славянскім, а беларуска-славянскім. У гэтым была б самая лепшая палітыка. А што да таго, як стаіць Беларусь да Расеі – вачыма ці плячыма... Мяркую, што не вачыма і не плячыма, а так, як Бог паставіў.

**М. С.:** Цяпер назіраецца мода на старыя песьні. Алесь Камоцкі нават выпусьціў цэлы альбом «Песьні з бацькоўскай кружэлкі»: там расейскія песьні, перакладзеныя ім на беларускую мову. А на маё зьдзіўленае пытаньне, дзе ж беларускія старыя шлягеры, адказаў, што яму помняцца толькі расейскія. А ты ведаеш нашы песьні, вартыя вяртаньня ў этэр і на сцэну?

**Л. Д.-М.:** Я ведаю шмат такіх песьняў, мяне, шчыра прызнаюся, зьдзівіла выказваньне паважанага Алеся Камоцкага. Зрэшты, гэта так па-нашаму, гэта так па-беларуску – ня ведаць сваё, а то і наогул прытаптаць сваё. Дарэчы, шлягер – гэта ня толькі папулярная песьня, гэта панятак больш шырокі. Шлягер – гэта яшчэ і проста модны музычны твор, скажам, інструмэнтальная п'еса. Такіх твораў у нас дастаткова. Успомнім песьні Ісака Любана на словы Адама Русака: «Бывайце здаровы», «Не глядзі на другіх», «Толькі з табою», «Не шукай». Успомнім інструмэнтальныя п'есы Яўгена Глебава, напрыклад славутае адажыё з балету «Маленькі прынц». А песьні Ігара Лучанка, вядомыя кожнаму, як і песьні Эдуарда Ханка! Іх проста немагчыма пералічыць. А песьні Зьмітра Вайцюшкевіча, дарэчы, на словы таго ж Камоцкага, – хіба яны не беларускія шлягеры?! Хіба яны ня вартыя ўвагі?

**М. С.:** Калі я слухаю сучасныя песьні, мне хочацца

затуліць вушы. Як пазбавіцца той безгустоўшчыны і графаманіі, якая запаланіла песенны этэр?

**Л. Д.-М.:** Я – за разумную цэнзуру, за тое, каб на тэлебачаньні і радыё, на песенных фэстывалях існавалі мастацкія рады. На нашай эстрадзе, у этэры пануе анархія, гучыць тое, што не павінна гучаць, што абражае душу. Пануе ня музыка, а псэўдамузыка, не паэзія, а псэўдапаэзія. Часам нашы выканаўцы паводзяць сябе так, нібыта яны не грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а работнікі якой-небудзь «Рязанской областной филармонии». Я ўпэўнены, што сёньняшняя папсовая антыкультура разбэшчвае дзяцей. Ну добра, вывелі вы 14-гадовую дзяўчынку на сцэну, навучылі яе скакаць, аднак жа ня трэба дзіця па-панэльнаму агаляць і фарбаваць яму вусны і вочы...

**М. С.:** У сувязі з тым, што этэрная прастора беларускай песьні звужаецца, кампазытары часта замаўляюць паэтам расейскамоўныя тэксты. Ці не спрабаваў ты пісаць песьні па-расейску?

**Л. Д.-М.:** Я заўсёды адмаўляўся ад прапановы пісаць для нашых сьпевакоў па-расейску. А прапановы такія былі, і даволі зманлівыя, грашовыя, а то і наогул фінансава-пэрспэктыўныя. Лічу для сябе гэта непрымальным – пісаць не па-беларуску. Нашы сьпевакі, якія пяюць па-расейску, сьвядома ставяць сябе нават не ў другі і ня ў трэці, а ў дзясяты рад суседняй культуры. Я ўжо не кажу, дзе яны апынаюцца, калі пачынаюць сьпяваць па-ангельску. Ну, калі хочуць там быць, то і няхай... Мы цікавыя сьвету толькі беларускай песьняй, толькі беларускай мовай! Вядома, разумнаму сьвету, а не папсоваму.



*Вольга Дзёмкіна –*
мастачка. Выпускніца Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Працавала на Менскім вытворча-мастацкім камбінаце, дзе займалася пераважна габэленамі, стварала сцэнічныя строі для ансамбля «Песьняры». Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Забаеньне на Лепельшчыне. Жыве ў Ліёне (Францыя).

## *Вольга Дзёмкіна:* «За мяжой мастаку трэба пачынаць з нуля»

***3 жніўня 2008 году***

*Мастацтва нараджаецца ў душы чалавека, самай таямнічай субстанцыі на зямлі. Яе ўжо і ўзважылі, і апісаць паспрабавалі, але – не разгадалі. Рэлігія змушае верыць у душу, мастацтва душу выяўляе, як праяўлялі ў XIX ст. першыя адбіткі-дагератыпы. Калі мастак зьяжджае, ён звозіць з сабой і свой сьвет, сваё сьвятло. Існуе іранічная прыказка: нельга вывезьці за мяжу сьвятло ў бутэльцы. Але можна вывезьці яго ў душы... Мастачка Вольга Дзёмкіна выехала ў Францыю адзінаццаць гадоў таму – у 1997-м. Думала павандраваць і вярнуцца, але лёс распарадзіўся іначай. Вольга выйшла замуж за француза, зьдзівіла сваімі габэленамі Францыю – радзіму мастацкага ткацтва. Ёй пайшлі заказы ад кнігавыдаўцоў, артыкулы пра яе зьявіліся ў заходнеэўрапейскіх мастацкіх энцыкляпэдыях. Яе габэлены і карціны праменяцца сьвятлом і колерамі Беларусі, куды мастачка зрэдку прыяжджае.*

**Міхась Скобла:** Спадарыня Вольга, я не пытаюся пра ваш тамтэйшы побыт, пра моўныя праблемы, раскажыце, як вы акліматызаваліся ў францускім грамадзтве менавіта як мастачка?

**Вольга Дзёмкіна:** Калі птушка пералятае ў больш цёплае, у больш сьветлае гняздо, яна павінна адаптавацца. Павінна прывыкнуць да іншага асяродзьдзя, да новых расьлінаў, да новага сонца, хоць здаецца, што сонца сьвеціць усім аднолькава. Безумоўна, забыць мінулае і пачаць новае жыцьцё мастаку вельмі няпроста. Усё трэба пачынаць з нуля. Перанараджацца. Бо творчасьць замежнага мастака, які прыехаў у іншую краіну, успрымаецца там не адразу. Каб зразумець ягонае мастацтва, каб адчуць ягоныя традыцыі, ягонае мысьленьне, трэба разумець краіну, зь якой ён прыехаў, трэба ведаць, якія карані яго сілкавалі, якія воды абмывалі, якія вятры вычувалі вібрацыю ягонай душы. Зразумела, я пра ўсё гэта ня думала, проста працягвала звыкла працаваць, не спыняючыся, нават тады, калі жыцьцё ня надта ласкава абыходзілася са мною. Я – не эмігрант, не палітычны ўцякач, я не перайшла па патайных сьцежках мяжу, я проста зьдзяйсьняла сваё жыцьцёвае падарожжа, і так сталася, што давялося спыніцца ў Францыі. Але грамадзянства ў мяне застаецца беларускае, і я ня бачу патрэбы яго зьмяняць.

**М. С.:** У Беларусі вас ведалі як майстра габэлену, я памятаю вашыя шыкоўныя творы на выставах. А ці займаецеся вы мастацкім ткацтвам у Францыі?

**В. Д.:** Магчыма, мой адказ будзе нечаканкай для радыёслухачоў, для маіх беларускіх каляжанак, якія працуюць у жанры габэлену. Але, на дзіва, у Францыі габэлен як від сучаснага мастацтва дарэшты зьнік. І калі я прывезла свае творы і выставіла іх у Парыжы, Ліёне, Сант-Эцьене, Ам’ене, то людзі прыходзілі на выставы і бясконца зьдзіўляліся. А сёй-той нават думаў, што я пісала пэндзлем па тканінах! Гэта мяне нават абразіла, бо габэлен нарадзіўся на зямлі Францыі! Менавіта Францыя – радзіма габэлену! Я была ў шоку. І толькі пасьля зразумела, што габэлен у Францыі ўсё ж застаўся, але толькі ў выглядзе музэйных рэстаўрацый. І сёньня ў Францыі я маю пэрспэктыву як габэленшчыца, мая задача – адрадзіць габэлен у Ліёне.

**М. С.:** Французам пашанцавала: прыехала Вольга Дзёмкіна і адродзіць для іх іхні ж габэлен.

**В. Д.:** Адрадзіць габэлен – мабыць, сказана залішне гучна. Але, зрэшты, так яно і ёсьць. Мне прапанавалі ўзначаліць майстэрні мастацкага ткацтва. Паверце, гэта адбылося не адразу. Да мяне

ў майстэрню прыходзілі людзі, аглядалі, абмацвалі мае габэлены, вельмі доўга прыглядаліся, гадамі, і вось толькі цяпер кіраўнікі тэкстыльнай прамысловасьці зрабілі мне гэткую прапанову. Для мяне гэта ганарова і адказна. Але мне таксама хочацца спалучыць габэлен француcкі і габэлен беларускі і паглядзець, што атрымаецца ў выніку. Чаму ж не? Хоць французы і адкрылі габэлен, але ж не заўсёды ім тут быць заканадаўцамі моды. Я дакажу, што і беларусы могуць распачаць рэнэсанс, адрадзіць тое, што страчана!

**М. С.:** Думаю, што гэта вам цалкам па сілах. Днямі ў Літаратурным музэі Янкі Купалы вы прэзэнтавалі кнігу «Падарожжа на плянэту мараў» – ваш супольны праект зь літоўскай пісьменьніцай Эміліяй Баленене-Легутэ. Як такое сталася магчымым, што ў Францыі пачалі выходзіць прыгожыя беларускія кнігі?

**В. Д.:** О, тут цэлая гісторыя! Трыццаць гадоў таму я купіла гэтую кніжачку ў Баранавічах. І яна сталася адной з маіх улюбёных кніг. Я безьліч разоў перачытвала яе, захаплялася творчасьцю пісьменьніцы, якой ніколі ня бачыла. Ведаеце, для добрых казак няма ўзросту. Калі ты маленькі, то пры іх чытаньні бачыш і адчуваеш адно, а калі ты дарослы – адкрываецца зусім іншы сэнс! І вось, ужо ў Францыі, я аднойчы расказала сюжэт адной казкі свайму мужу Жаку д'Экалю, ён быў у захапленьні, і мы вырашылі перавыдаць гэтую кнігу па-беларуску, па-французску і па-ангельску. І мы ажыцьцявілі задуманае, папярэдне знайшоўшы Эмілію Баленене-Легутэ. Мы зь ёй доўга размаўлялі па тэлефоне, а потым і пісьмы пасыпаліся. Яе душа ўспрымае навакольны сьвет суадпаведна душы беларускай. Аказваецца, Эмілія жыве каля саменькай мяжы зь Беларусьсю, восем кілямэтраў ад яе лецішча да мяжы. Яна выдатна ведае беларускую мову, перакладала на літоўскую апавяданьні Вячаслава



Адамчыка, творы Алеся Разанава. Эмілія цудоўна на памяць чытае вершы Янкі Купалы, у яе сэрцы – абсалютная сымпатыя да Беларусі.

**М. С.:** Ужо ў XXI ст. вы сталі ўладальніцай залатога мэдалю Міжнароднай акадэміі мастацтва і літаратуры ў Парыжы і мэдалю Нацыянальнай асамблеі Францыі. За якія мастацкія дасягненьні вы атрымалі гэтыя прэстыжныя ўзнагароды?

**В. Д.:** Мне трошкі няёмка гаварыць пра свае ўзнагароды... Яны – за мастацкую працу. Я пісала з выкарыстаньнем тэхнікі, якая для маіх беларускіх калегаў здасца новаю. Я пісала па дрэве, гэтую фрэскавую манеру я дасканала вывучыла ў Італіі. Я зрабіла нізку твораў «Першыя суніцы», духмяныя суніцы – гэта маё дзяцінства. За свае беларускія суніцы я атрымала францускі мэдаль, а другі мэдаль – за аздабленьне кнігі паэзіі Гіёма Апалінэра, продкі якога таксама паходзяць зь Беларусі. Для выдаўцоў гэта быў сюрпрыз. І яшчэ адну ўзнагароду маю – за твор, які нарадзіўся на вачах у публікі. У Францыі практыкуюцца такія імправізацыі. Я імправізавала на тэму прыроды паўднёвай Францыі, ваколіцаў Ліёну, дзе я жыву, дзе шмат вінаў, дзе вельмі прыгожа, непаўторна адзначаюцца народныя сьвяты.

**М. С.:** Вы згадалі пра Апалінэра і францускія віны, і мне прыгадалася, што ён называў бутлі з шампанскім найлепшай у сьвеце артылерыяй... Вы ўваходзіце ў Раду мастакоў Францыі. Гэта аналяг нашага Саюзу мастакоў?

**В. Д.:** Так, гэта падобныя арганізацыі, але Рада мастакоў мае больш шырокія магчымасьці і паўнамоцтвы. У Саюзе мастакоў толькі беларускія творцы, а ў Радзе сяброўства інтэрнацыянальнае. Чальцы рады маюць магчымасьць выстаўляць свае творы ня толькі ў Францыі, але і ў Англіі, Швайцарыі, Швэцыі і г. д. І я, напрыклад, з гэтага карыстаю і даволі актыўна паказваю сваё мастацтва ў Заходняй і Цэнтральнай Эўропе, у Скандынавіі.

**М. С.:** У Парыжы да нядаўняга часу жыў вядомы беларускі мастак і скульптар Міхась Наўмовіч, а цяпер жыве графік Барыс Забораў зь Менску. Ці сустракаецеся вы там са сваімі землякамі?

**В. Д.:** На жаль, вельмі рэдка. Але я сачу за творчасьцю землякоў. Трэба сказаць, што ў Францыі, напрыклад у тым жа Парыжы, адбываецца безьліч самых розных мастацкіх імпрэзаў. Вельмі цяжка ўсё дапільнаваць. Зусім ня так, як у сымпатычным Менску, – можна ведаць пра ўсе падзеі, прысутнічаць на ўсіх выставах.

**М. С.:** Вы аздобілі некалькі кніг для францускіх выдавецтваў. Кніжная графіка ў Беларусі перажывае ня лепшыя часы, мастакам, дый пісьменьнікам, жывецца ня соладка. А як у Францыі? Ці можа францускі мастак кніжнай графікай зарабіць на жыцьцё?

**В. Д.:** Калі мастак мае імя, калі ён дасягнуў пэўнага ўзроўню, то і жыве ён, ня маючы матэрыяльных турботаў. Гэта тычыцца ня толькі мастакоў, але і пісьменьнікаў, дзеячаў тэатру. Кніжная графіка – гэта толькі маленькая частка маёй творчасьці, я ілюструю толькі тыя кніжкі, якія мне вельмі падабаюцца. Гэта творчасьць для душы. Я аздобіла ўжо шэсьць кніжак, і да мяне зьвяртаецца шмат пісьменьнікаў Францыі, якія просяць праілюстраваць іх творы. А пасьля таго як я атрымала мэдаль Акадэміі літаратуры і мастацтва LUTES у Парыжы, мне замовілі ілюстрацыі да кнігі «Мы – племя баранаў». Гэта гумарыстычная гісторыя Францыі. Выдавецтву спадабаўся стыль маёй творчасьці.

**М. С.:** У вашых фантастычных малюнках ёсьць штосьці ад колеравай гамы Марка Шагала, які, дарэчы, доўгі час жыў і працаваў у Францыі. Ці прызнаеце вы ў сваёй палітры пэўныя шагалаўскія ўплывы?

**В. Д.:** Я вельмі паважаю і люблю Шагала, ганаруся, што я – ягоная зямлячка. Шагал вельмі



славуты ў Францыі і ва ўсім сьвеце. Але наконт уплываў... Я ніколі не імкнулася быць падобнай да кагосьці, у мяне свая маленькая сьцежачка ў мастацтве. Мы з Шагалам паходзім зь Віцебшчыны, а там шмат азёраў. Магчыма, наш сіні колер адтуль, з поўначы Беларусі. Сінім колерам да нас прамаўляе душа Беларусі. Мая колеравая гама – адбітак маёй беларускай зямлі. Яе колеры, яе рытм, яе музыка і ствараюць маю палітру.

**М. С.:** Я ведаю, што вы на пачатку 1980-х гадоў бывалі ў Зэльве ў Ларысы Геніюш. У лісьце ад 15 верасьня 1982 году паэтка пісала Валянціне Трыгубовіч: «Мілая Вольга Дзёмкіна пакінула мне вялікую акварэль зэльвенскага касьцёла». Што вам памятаецца з тых пагасьцінаў у Ларысы Антонаўны?

**В. Д.:** Ларыса Геніюш – мая ўлюбёная паэтка, яе творы я часта перачытваю ў Францыі. Далёка ад радзімы я адчуваю патрэбу зьвяртацца да яе паэзіі. Мне пашчасьціла яе бачыць, зь ёю сустракацца. Незабыўны час падарожжаў, экспэдыцый, якія ў свой час арганізоўваў Музэй старажытнай культуры пры Акадэміі навук, калі там працавала Вольга Царашчатава. Аднойчы раніцай мы пад'яжджалі да Зэльвы, і я ўбачыла касьцёл – такі прыгожы! У лагчыне ляжалі туманы, і коні праскакалі. Мы прыпыніліся, выйшлі з аўтобуса, і пакуль усе астатнія былі занятыя сваімі справамі, я хуценька напісала на кардоне пэйзаж з касьцёлам. Калі мы зайшлі ў хату да Ларысы Геніюш, пэйзаж яшчэ ня высах. Ларыса Антонаўна глянула і кажа: «Гэта ж мой краявід! Гляджу – і маёй душы так добра!» Мне было прыемна, і я вырашыла падараваць пэйзаж паэтцы. А яна заўпарцілася: «Не, даражэнькая Вольга, я не вазьму, лепш падаруйце яго Вользе Царашчатавай, для музэю». Я праявіла настойлівасьць. І тады Ларыса Антонаўна хуценька выйшла і вярнулася зь вялізнай хусткай, расьпісанай прыгожымі ружамі,

з кутасамі, якую прыслалі эмігранты з Канады. Гэтым разам ужо я пачала супраціўляцца: «Гэта ж падарунак вам, я не вазьму, гэта немагчыма...» І тады паэтка ўзяла і разрэзала хустку на чатыры часткі, бо нас там было чатыры жанчыны. Выйшла кожнай па хустцы.

**М. С.:** І дзе цяпер вашая хустка?

**В. Д.:** Яна заўсёды са мной, я захоўваю яе як дарагую рэліквію, як памяць пра паэтку, якая аддала сваю любоў і сваё жыццё беларускай зямлі, уславіла яе прыгажосьць.

**М. С.:** Сёньня маладыя беларускія мастакі імкнуцца любым спосабам трапіць на Захад, знайсьці прызнаньне ў той жа Францыі, у Нямеччыне. Што б вы ім параілі?

**В. Д.:** Мастаку заўсёды трэба быць самім сабой, бо ў душы кожнага творцы адгукаецца каларыт тае зямлі, дзе ён народжаны, дзе гадаваўся і вырас. Учора я трапіла ў майстэрню народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва. На ягоных палотнах – тыповы беларускі каларыт, характэрныя беларускія краявіды. Калі глядзіш, проста фізычна адчуваеш вібрацыі душы мастака. Вось гэта вельмі важна. Я магу ганарыцца, што Шчамялёў – мой пэдагог, што ён дапамог мне знайсьці сябе, скіраваў мяне ісьці па сваёй маленькай сьцежачцы. Ня трэба імкнуцца на аўтамагістралі ў мастацтве, яны могуць зьбіць з панталыку і расьціснуць. Трэба ісьці сваёй сьцежкай і разумець, што сьвятло маленькай зоркі часам больш заўважнае на чорным небе, чым сонца ў сьпякотны дзень.



*Міхась Чарняўскі –*

археоляг, пісьменьнік. Закончыў Менскі пэдінстытут. Працаваў у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, цяпер выкладае ў БДУ. Доктар гістарычных навук. Быў сябрам Сойму БНФ, старшынём менскай гарадзкой арганізацыі БСДГ. Аўтар кніг «Страла Расамахі», «Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч», «Як пошуг маланкі: Расьціслаў Лапіцкі» ды інш. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Круці на Мядзельшчыне. Жыве ў Менску.

## *Міхась Чарняўскі:* «Расьціслаў Лапіцкі – герой будучай Беларусі»

***31 жніўня 2008 году***

*У цёмную восеньскую ноч з 27 на 28 кастрычніка 1950 году ва ўрочышчы Красны Беражок пад Вялейкай над сьвежавыкапанай ямай прагучаў прысуд: «Именем Союза Советских Социалистических Республик...». Грымнулі стрэлы, і дваццацідвухгадовы юнак упаў на жоўты пясок. Гэта быў Расьціслаў Лапіцкі – кіраўнік антыкамуністычнага падпольля на Мядзельшчыне і Смаргоншчыне ў паваенны час. Доўгія гады шляхамі беларускіх падпольнікаў ішоў гісторык Міхась Чарняўскі. У выніку на сьвет зьявіўся зборнік дакумэнтаў і ўспамінаў пра тагачасныя падзеі, а таксама біяграфічны нарыс «Як пошуг маланкі», прысьвечаны Расьціславу Лапіцкаму. Яму 1 верасьня 2008 году споўнілася б 80 гадоў.*

**Міхась Скобла:** Спадар Міхась, ваша першая публікацыя на гэтую тэму пад назвай «Расьціслаў Лапіцкі – з кагорты невядомых герояў» зьявілася яшчэ ў 1997 годзе ў «Беларускай маладзёжнай газеце». А калі вы ўпершыню пачулі гэтае прозьвішча?

**Міхась Чарняўскі:** Гэта было вельмі даўно, яшчэ ў 1951 годзе, калі я пайшоў у пятую клясу Мядзельскай школы. Аднойчы нам на ўрок батанікі прынесьлі цудоўныя малюнкі, зробленыя на тыльным баку шпалеры каляровымі алоўкамі. Я трошкі захапляўся маляваньнем, і мне гэтыя малюнкі спадабаліся. «А хто маляваў?» – пытаюся. І тут старшаклясьнікі, людзі больш спрактыкаваныя, патлумачылі: «Аўтар малюнкаў – наш Славік Лапіцкі, якога расстралялі за тое, што ён быў за Беларусь». Гэтае паведамленьне – нашага вучня «расстралялі



за Беларусь» – мяне вельмі ўразіла... Арганізацыя Лапіцкага была створаная на Мядзельшчыне, у Мядзельскай школе, дастваралася яна ў Смаргонскай школе. Яе ўдзельнікаў аб'ядноўвала імкненьне супрацьстаяць маскоўскаму камунізму, які ўспрымаўся як акупацыйны. Справа ў тым, што ў канцы 40-х гадоў камуністы ў Заходняй Беларусі разгарнулі прымусовую калектывізацыю, у выніку якой ад сялянаў-гаспадароў адбіралася амаль уся маёмасьць, найперш зямля. Хто спрабаваў упарціцца, абкладаўся вялізнымі падаткамі і затым як «нядоімшчык» трапляў у турму або абвяшчаўся кулаком і вывозіўся зь сям'ёй у Сібір. Бывалі выпадкі, калі селянін, змушаны напісаць заяву ў калгас, вяртаўся дахаты і канчаў жыцьцё самагубствам. Адначасова з калектывізацыяй вялася жорсткая барацьба з рэлігіяй, а яшчэ з Расеі ехалі і асядалі тут шматлікія начальнікі – з матам, з п'янствам і распустай, з русіфікацыяй, якая з кожным годам мацнела... Бачачы, як пакутуюць ад тэрору бацькі, іх дзеці неяк спрабавалі ім дапамагчы. А як? Вось яны і арганізоўваліся, пісалі і распаўсюджвалі ўлёткі, у якіх заклікалі не ўступаць у калгасы, «бо камуністы вас абмануць». Абдумвалі і іншыя спосабы барацьбы. Падкрэсьлю, што арганізатарам, ідэолягам і натхняльнікам падпольля быў Расьціслаў Лапіцкі – асоба надзвычай моцная, надзеленая прыродай самымі рознымі талентамі. Вакол яго гуртавалася пераважна школьная моладзь. Калі арганізацыю выкрылі, на лаве падсудных апынуліся дзевятнаццаць чалавек. Двое – Расьціслаў Лапіцкі і Факунда Несьцяровіч – былі прыгавораныя да расстрэлу. Зянон, Аўгусьцін і Ганна Ахрамовічы, Восіп Блізьнюк, Анатоль Карней, Юзаф Качэрга, Соф'я Лапыцька, Эдуард Сташкевіч, Тадэвуш Хацілоўскі, Леакадзія і Часлаў Цыбоўскія, Тамара Юшкевіч атрымалі па дваццаць пяць гадоў зьняволеньня. Тацьцяна Юшкевіч, Канстанцін Іваноўскі, Зьбігнеў Пашкевіч,

Марыя Барташэвіч былі асуджаныя да дзесяці гадоў няволі, Часлава Ашукоўская – да васьмі. Адзін з падпольнікаў, Генадзь Нафрановіч, падчас затрыманьня застрэліўся.

**М. С.:** Расьціслаў Лапіцкі – сын сьвятара, прытым сьвятара зрусіфікаванай праваслаўнай царквы. Звычайна, у такіх сем'ях цураюцца беларускасьці. Адкуль жа ў Расьціслава ўзяўся беларускі патрыятызм?

**М. Ч.:** Гэта загадка, хоць некаторыя сьвятары, і ня толькі каталіцкія, працавалі ў міжваенны час на беларускай ніве. Я ня ведаю, ці мелі беларускі патрыятызм у душы бацька і маці Расьціслава. Ягоная сястра Вольга расказвала мне, як яна аднойчы прапанавала бацьку весьці царкоўную службу па-беларуску. Дык маці нават паўшчувала яе, маўляў, ты памыляесься, трэба весьці па-расейску... Але ўсе дзеці Лапіцкіх, на дзіва, вырасьлі нацыянальна сьвядомымі. На самога ж Расьціслава, напэўна, паўплываў прыклад старэйшых братоў, якія вучыліся ў Вільні і Варшаве і набіраліся патрыятычнага духу ў тамтэйшых беларускіх асяродках.

**М. С.:** А колькі ўсяго дзяцей было ў сьвятара Лапіцкага?

**М. Ч.:** Тры сыны і дачка. А яшчэ адзін сын памёр у дзіцячым узросьце.

**М. С.:** Камуністычная ўлада зачыняла цэрквы і касьцёлы. Расьціслаў Лапіцкі гэта бачыў, як бачыў і тое, якімі вялікімі падаткамі савецкая ўлада абкладала сялянаў. Зразумела, адкуль паходзіць ягоны антыкамуністычны настрой. Але адкуль у душы дваццацігадовага хлопца, сына праваслаўнага сьвятара, такая антырасейская скіраванасьць і выказваньні накшталт: «Калі ты ведаеш, што хлеб з гэтай нівы пойдзе маскалю – спалі ніву»?

**М. Ч.:** Відаць, «маскаль» тут – панятак зборны. Словам гэтым магло абазначацца ўсё, што ішло з усходу – і з Усходняй Беларусі, і з Расеі, усё, што нёс ў Заходнюю Беларусь камунізм. Я ня думаю, што Расьціслаў Лапіцкі меў нейкія антырасейскія перакананьні. Ён, дарэчы, цудоўна валодаў расейскай мовай, ён нават пісаў вершы – і па-беларуску, і па-расейску. Добра валодаў ён і польскай мовай. Лапіцкі быў патрыётам Беларусі, але ў той жа час ня меў аніякіх фобіяў. Хачу адзначыць, што ў адрозьненьне ад чальцоў Саюзу беларускіх патрыётаў, які дзейнічаў на Пастаўшчыне і Глыбоччыне, ад чальцоў «Чайкі», якая існавала ў баранавіцка-слонімскім рэгіёне, арганізацыя Лапіцкага не была цалкам прабеларускай або прапольскай, хоць у ёй былі і беларускія, і польскія патрыёты. Колішнія падпольнікі мне расказвалі, што яны стараліся абыходзіць нацыянальнае пытаньне. Яны былі антыкамуністамі, антысталінцамі, але не задаваліся пытаньнем: «А што тут будзе – Беларусь ці Польшча пасьля перамогі над камунізмам?». Яны падкрэсьлівалі, што нацыянальнае пытаньне магло іх разьяднаць. І яшчэ адзін момант. Калі я знаёміўся з былымі ўдзельнікамі беларускага нацыянальнага руху, то бачыў, што яны засталіся перакананымі беларускімі патрыётамі і сёньня, што яны паміж сабой цесна гуртуюцца і цяпер. А прыхільнікі антыкамуністычных рухаў трошкі адрозьніваюцца. Калі камунізм, як кажуць, ляснуў, то зьнікла нешта, што іх лучыла. Для іх іхняе падпольле – гэта проста падзея маладосьці, яны нават мала падтрымоўваюць сувязі паміж сабой

**М. С.:** Камуністычная ідэя – часовая, а нацыянальная – вечная?

**М. Ч.:** Так. Асабліва калі яна канчаткова ня вырашаная.

**М. С.:** Поруч з Расьціславам Лапіцкім мне хочацца паставіць Янку Філістовіча і Цімоха Вострыкава, якія былі дэсантаваныя ў Беларусь з Заходняй Нямеччыны ў 1952 годзе. Яны верылі, яны ведалі, што неўзабаве халодная вайна перарасьце

ў вайну сапраўдную, і яны проста рыхтуюць глебу для збройнага змаганьня з камунізмам. А на што спадзяваліся Лапіцкі з паплечнікамі?

**М. Ч.:** Спадзяваліся на тое самае. Калі б не было халоднай вайны, палітычнага абвастрэньня, Бэрлінскага крызісу, калі б не чакалася трэцяя сусьветная, то і падпольле, магчыма, ня ўзьнікла б. Падчас Другой сусьветнай быў зьнішчаны фашызм, думалася, што ў выніку трэцяй будзе зьнішчаны і камунізм, – вось што натхняла падпольнікаў, давала ім сілу. Удзельнікі мядзельска-смаргонскага падпольля ня толькі ўлёткі друкавалі і распаўсюджвалі. Яны зьбіралі ваенныя карты, шукалі зброю, плянавалі, як толькі пачнецца вайна, стварыць партызанскі атрад і пайсьці ў лес.

**М. С.:** Дык гэта не былі юначыя забаўкі, гульня ў канспірацыю? Яны пры спрыяльных абставінах арганізавана маглі ўзяць у рукі зброю?

**М. Ч.:** Маглі. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты выйшлі з ваеннага часу, яны ўсе нюхалі порах, яны ўсе ўмелі страляць, маглі ўзарваць міну, кінуць гранату. Яны маральна і фізычна былі гатовыя да ўзброенай барацьбы.

**М. С.:** Расьціслава Лапіцкага і ягонага намесьніка па арганізацыі Факунду Несьцяровіча ваенны трыбунал Беларускай вайсковай акругі прыгаварыў да найвышэйшай меры пакараньня. «Самае дарагое ў чалавека – гэта жыцьцё», – міжволі прыгадваюцца словы аднаго савецкага клясыка. Чаму ўсё ж Лапіцкі катэгарычна адмовіўся ад памілаваньня?

**М. Ч.:** Усе, хто ведаў Лапіцкага, у адзін голас падкрэсьлівалі ягоную нянавісьць да камунізму. Напэўна, ён настолькі ненавідзеў камуністаў, што папрасіць ў іх памілаваньня было ніжэй яго чалавечай годнасьці. І нават на судзе, калі яму далі апошняе слова, ён сказаў, што калі застанецца жыць, то будзе працягваць змагацца супраць камунізму ў любой кропцы зямнога шару. І калі Прэзыдыюм



Вярхоўнага Савету СССР памілаваў Лапіцкага (бяз просьбы асуджанага), ён адмовіўся ад літасьці. Лапіцкага не хацелі і расстрэльваць, хоць і прысудзілі да сьмерці. Карным органам трэба было яго зламаць, каб ён папрасіў прабачэньня, пакаяўся. Зломлены герой – гэта ўжо не герой, ён ужо растаптаны. І таму двойчы з Масквы прыходзілі запыты: ці згадзіўся Лапіцкі на памілаваньне? Ім не патрэбны быў мёртвы герой, які застанецца ў беларускай сьвядомасьці на стагодзьдзі. І Лапіцкі, напэўна, сам гэта разумеў. І ён не пайшоў на гэтую зьдзелку коштам свайго жыцьця. І быў расстраляны ў ноч з 27 на 28 кастрычніка 1950 году ў лесе пад Вялейкай. Ён застаўся сапраўдным героем. Прызнаюся, я ня ведаю яму роўных у пасьляваенным антыкамуністычным супраціве на тэрыторыі Беларусі.

**М. С.:** Вы сталі дасьведчаным летапісцам мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падпольля. Вы апыталі і запісалі дзясяткі сьведкаў і ўдзельнікаў гэтага падпольля. Я заўважыў, што ў цяперашняй Беларусі старэйшыя людзі асьцерагаюцца гаварыць пра тое, пра што маўчалі ўсё жыцьцё. Як вам удалося ўвайсьці ў давер і столькі выпытаць – цэлы зборнік атрымаўся.

**М. Ч.:** Давер быў дасягнуты не адразу. Я мэтанакіравана пачаў зьбіраць гэтыя ўспаміны недзе з 1992 году. Вядома ж, здараліся розныя сытуацыі. Некаторыя не хацелі гаварыць зусім, некаторыя казалі, што нічога ня памятаюць, зь некаторымі даводзілася сустракацца па тры-чатыры, а то і па пяць разоў. Бывала, чалавек пачынаў расказваць, я даставаў мікрафон – і ён адразу змаўкаў. Паводле ўспамінаў, і на допытах у 1950 годзе яны дакладна так сябе паводзілі. Хачу тут зазначыць, што колішнія падпольнікі, якія жылі і жывуць у Польшчы, Літве, Расеі, паводзіліся больш сьмела і расказвалі намнога больш, чым зь іх выбілі на жорсткіх допытах каты следчыя. І таго, што яны мне расказалі,

няма ні ў пратаколах, ні ў шматтомавых судовых справах.

*З успамінаў Юзафа Качэргі*
*(запісаных у чэрвені 2006 году ў Шчэціне)*

Лапіцкі быў на адну клясу старэйшы. Гэта быў цікавы хлопец, вельмі актыўны. Ён прыяжджаў на драўляным ровары, зробленым з калаўротаў. Слухаў радыё, перадачы Бі-Бі-Сі. Ён быў заўсёды супраць улады камуністаў. У камсамол заахвочвалі, а ён не ўступаў. Насіў значок з галавой сабакі. Казаў, што той пільнуе яго ад камуністычных сабачак. Першы раз антысавецкія ўлёткі друкаваліся і распаўсюджваліся вясной 1948 году. Тэксты пісаў Расьціслаў Лапіцкі, яны ўсе былі на беларускай мове. Улёткі клеілі і раскідвалі – у Мядзеле і па вёсках... Недзе на пачатку лютага 1950 году позьнім вечарам у акно нашай хаты пастукалі. Гэта быў Лапіцкі, вельмі замерзлы і змучаны. Расказаў мне, што яго шукаюць эмдэбісты, а ён ад іх хаваецца. Перахоўваўся ў нашым доме ўвесь наступны дзень, а як сьцямнела, зноў выбраўся ў дарогу... А 10 лютага 1950 году на ўрок у нашую клясу прыйшоў міліцыянт і сказаў, што павінен даставіць мяне ў раённае аддзяленьне міліцыі (там было і МДБ). І павёў. Я ведаў ужо, што мяне арыштуюць. Потым перавезьлі ў Вялейскую турму, а тады ў Маладэчна, у турму каля вакзалу. Везьлі ў «чорным воране», завязаўшы вочы і скруціўшы шнурком рукі за сьпінай. Назаўтра павезьлі ў турму ў Галянова. Там дапытвалі ў пакоі на другім паверсе. І гэтак амаль кожную ноч – пяць месяцаў! Калі ўбачылі, што ўпіраюся, перайшлі на лаянку, зьдзекі, біцьцё. Мне зламалі дзьве рабрыны, выбілі некалькі зубоў, білі пад рэбры, пад дых, па печані і нырках. Аднаго разу прывялі на вочную стаўку Лапіцкага. Расьціслаў выглядаў зусім змарнелым, быў зьбіты, хворы, адмарожаныя ногі былі закручаныя нейкімі анучамі. Мяне пасадзілі каля адной сьцяны, Лапіцкага – каля сьцяны насупраць. «Лапицкий тебе давал листовки? – Не. – А ты, Лапицкий, давал Качерге листовки? – Не». Нічога той вочнай стаўкай ад нас не дабіліся... І вось 20 ліпеня пачаўся суд у Галянове. Судзіла нас тройка афіцэраў. Не было ні пракурора, ні адвакатаў. Калі судзьдзі зачытвалі тэксты ўлётак, такія выразы, як «Сьмерць Сталіну» або «Сьмерць сталінскім шакалам», яны нават баяліся вымаўляць... У апошні дзень падсудным далі магчымасьць выступіць. Апошнім гаварыў Расьціслаў Лапіцкі. Гаварыў доўга. Яго словы былі абвінавачаньнем камуністам і камунізму. Адразу пасьля суду Лапіцкаму і Несьцяровічу, як прыгавораным да сьмяротнага пакараньня, зьвязалі рукі і вывелі з залі... Пра апошнія хвіліны жыцьця Расьціслава Лапіцкага мне расказаў Факунда Несьцяровіч, калі вярнуўся зь сібірскіх канцлягераў. Лапіцкага і Несьцяровіча падвялі да выкапанай ямы, паставілі побач. Зачыталі прысуд да расстрэлу Факусю. А затым тут жа абвясьцілі пастанову Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР аб памілаваньні. Зачыталі такі ж прысуд Расьціславу. Аднак рашэньне аб памілаваньні не абвяшчалі. А яно ж было і на Лапіцкага. Аднак той катэгарычна яшчэ ў турме адмовіўся ад няпрошанай ляскі.

**М. С.:** Спадар Міхась, ёсьць кніга Аляксандра Лукашука «Вяртаньне нацыяналіста» – пра Янку Філістовіча. Ёсьць кніга Сяргея Ярша і Сержука Горбіка «Беларускі супраціў», дзе ёсьць разьдзелы пра Міхала Вітушку. Сёлета зьявілася ваша кніга «Як пошуг маланкі» – пра Расьціслава Лапіцкага. Хто гэтыя людзі – змагары-адзіночкі, фанатыкі беларускай нацыянальнай ідэі?

**М. Ч.:** Гэта нам падаецца, што яны былі адзіночкамі, а насамрэч антыкамуністычны рух быў даволі масавым. Мы шмат чаго ня ведаем, дакумэнты схаваныя ў архівах. І як толькі пачынаеш там капацца, вывуджваць нейкую інфармацыю, то аказваецца, што антыкамуністычны рух ахапляў

вялікія тэрыторыі. Вось глядзіце: падчас паваеннай калектывізацыі ў Беларусі было адзінаццаць абласьцей. І штогод толькі абласныя суды праводзілі па 40–50 палітычных працэсаў. Па рэспубліцы атрымліваецца каля паўтысячы працэсаў. Памножце на пяць гадоў – атрымаецца вельмі сур'ёзная лічба. А дабаўце яшчэ раённыя суды і ваенныя трыбуналы. Проста мы пра гэта пакуль зусім мала ведаем, гэтай гісторыяй амаль ніхто не займаецца. А калі архівы будуць адкрытыя, калі над гэтай тэмай будуць працаваць не адзіночкі – за кошт свайго часу і сваіх сродкаў, а дзяржаўная інстытуцыя на сотню чалавек, то адразу ўвідочніцца, які гэта быў масавы, глыбокі, ідэйны рух. Гісторыкі, якія кіраваліся марксісцка-ленінскай мэтадалёгіяй, падобныя рухі і арганізацыі называлі антысавецкімі, а іх удзельнікаў – антысаветчыкамі. Калі ж зыходзіць з мэтадалёгіі навуковай, то яны былі антыкамуністамі. Ніхто з былых падпольнікаў не сказаў мне, што ён быў супраць саветаў або савецкай улады. Усе яны змагаліся з камуністамі і камунізмам, бо на сваім жыцьцёвым досьведзе пераканаліся, што гэтак званыя саветы, як і «дыктатура пралетарыяту», былі фігавымі лісткамі татальнай улады камуністычнага чынавенства. Расьціслаў Лапіцкі як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыкамуністычнага руху займае годнае месца ў пантэоне герояў Беларусі. Настане час, і яго імем будуць названыя вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў, а ў цэнтры Вялейкі замест «вождя мирового пролетариата» паўстане помнік гэтаму беларускаму патрыёту.



*Георгі Каржанеўскі –*
краязнаўца. Закончыў факультэт гідрамэліярацыі Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках. Працаваў на будаўніцтве Вялейска-Менскай воднай сыстэмы, пры закладцы Ленінградзкай АЭС, у Валожынскім ПМК трэсту «Менскводбуд». Аўтар кнігі «Мікола Гусоўскі і яго час». Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Аўдзеевічы на Наваградчыне. Жыве ў Валожыне.

## *Георгі Каржанеўскі:* «Крыжы памяці ў Рэспубліцы Комі – мой абавязак»

*2 лістапада 2008 году*

*Архіпэляг Гулаг аплёў калючым дротам і заставіў вартаўнічымі вышкамі палову Савецкага Саюзу. І сёньня ў непраходнай тайзе трухнеюць напаўразбураныя баракі, пагрымваюць над шырокімі сібірскімі рэкамі масты, збудаваныя рукамі вязьняў. Ніводнае статыстычнае ўпраўленьне не адкажа дакладна, колькі «ворагаў народу» навечна легла ў зямлю на тых грандыёзных будоўлях і лесапавалах. Мільёны і мільёны. Тысячы безыменных могілак засталіся на месцах колішніх лягераў. Зарасьлі яны лесам, мала хто памятае да іх дарогу... Але не ў беларускім гэта звычаі – забываць магілы продкаў. Георгі Каржанеўскі штогод, як толькі пацяплее, едзе ў Рэспубліку Комі і ўсталёўвае там на месцы масавых пахаваньняў крыжы. Ушаноўвае памяць загінулых у Гулагу суайчыньнікаў. Не знайшоўшы аднадумцаў у сваім родным Валожыне, у Беларусі, ён адшукаў іх у Варкуце, у Абезі, у Інце, у Салехардзе. І з гэтага шляху яго ня могуць зьбіць ні застрашваньні з боку тамтэйшых уладаў, ні абыякавасьць з боку ўладаў беларускіх.*

**Міхась Скобла:** Спадар Георгі, па прафэсіі вы інжынэр-гідратэхнік, жывяце ў Валожыне. Як жа вы апынуліся ў далёкай Рэспубліцы Комі, на месцы колішніх савецкіх канцлягераў?

**Георгі Каржанеўскі:** Я хацеў вызваліць бацьку. Мне было два гады, калі яго ў 1951 годзе арыштавалі – не хацеў ісьці ў калгас. Яго судзілі па трох артыкулах, зьвінавацілі ў шпіянажы на карысьць Польшчы, у падрыхтоўцы збройнага выступу супраць савецкай улады... Вывезьлі ў Комі АССР, у Інту, у лягер Мінэральны – найбольш страшны ў сыстэме Гулагу. Там сядзелі «контаррэвалюцыянэры», «здраднікі радзімы». У 1956 годзе бацьку нібыта вызвалілі, але забаранілі адтуль выяжджаць. Ён ня мог нікуды паехаць, ня мог вярнуцца ў Беларусь. А ён інкогніта ўзяў і прыехаў. Памятаю, прыходзіў да мяне ў школу. Потым, кажа, схаджу ў адведкі да маці і вярнуся. І – не вярнуўся. Нехта выдаў, і яго схапілі. Патрымалі трохі ў турме ў Навагрудку і вывезьлі назад у лягер. Потым ён яшчэ некалькі разоў прыяжджаў, таксама патаемна. Дзякуй Богу, тады абышлося. Але афіцыйна пакінуць Комі ён ня меў права. У 1990 годзе я ад імя бацькі напісаў ліст польскаму прэм'еру Мазавецкаму (бацька ў мяне – паляк, а маці – беларуска), каб дапамог.

**М. С.:** Дык нават у 1990 годзе ваш бацька ня мог вярнуцца на радзіму?

**Г. К.:** Не, ня мог. І Мазавецкі даў загад польскай амбасадзе ў Маскве разабрацца ў сытуацыі. У тым жа годзе я паехаў у Інту з прадстаўніком амбасады, польскім тэлебачаньнем і журналістамі. Памятаю, як там зьдзіўляліся: маўляў, з-за аднаго чалавека цэлая дэлегацыя прыехала! Але тым разам мы бацьку ня вызвалілі. Валакіта гэтая цягнулася некалькі гадоў. І толькі ў 1993 годзе бацька атрымаў неабходныя паперы на выезд. Хоць рэабілітаваны быў у 1991-м. Найбольш супраціўляліся ўлады ў Менску, не хацелі яго вызваляць. А калі дакумэнты зь Менску пайшлі ў Інту, іх там прытрымала мясцовае КДБ.

**М. С.:** А як ад лёсу роднага бацькі вы прыйшлі да лёсаў тысячаў і тысячаў ахвяраў Гулагу?

**Г. К.:** Па вяртаньні ў Беларусь бацька сказаў мне, што ў яго – абавязак перад сябрамі, якія навечна засталіся там, у Комі. І мы паехалі зь ім у Інту – я ж ня мог яго аднаго адпусьціць. Памятаю, як ён хваляваўся, калі паказваў мне тыя мясьціны. «Вось тут, – кажа, – ляжыць цэлы этап зь Беларусі. Людзі проста замерзьлі, і іх у агульнай яме закапалі.

А цяпер тут хочуць будаваць дом. І сьцены пачалі ўжо ўзводзіць. Нельга тут дом, на магіле, будаваць. Мы не павінны дазволіць гэтага. Хай царкву пабудуюць, але ня дом. Тут не павінны людзі жыць». І вось я за ім хадзіў па Інце і ўсё запамінаў. Ведаеце, я яму і тут, у Беларусі, ва ўсім дапамагаў, але яго неадольна цягнула ў Інту. І мы зноў ехалі туды. І за кожным разам ён мяне ўводзіў у новае кола праблемаў. Зьяўляліся новыя пахаваньні, новыя прозьвішчы.

**М. С.:** Перад нашай гутаркай вы паказалі мне фотаздымкі памятных крыжоў, усталяваных у Рэспубліцы Комі прадстаўнікамі розных народаў. Дзе канкрэтна стаіць Беларускі Крыж?

**Г. К.:** Беларускі Крыж стаіць у Абезі – гэта паміж Інтой і Варкутой. Там была філія лягеру Мінэральны, дзе сядзелі найбольш вядомыя людзі. Туды, напрыклад, выслалі князя Васіля Сьвятаполка-Мірскага. Там адбывала пакараньне Ларыса Геніюш. Там знаходзілася вельмі шмат вядомых людзей. У мяне ёсьць падрабязныя сьпісы, я прывёз.

**М. С.:** З кім вы кантактуеце ў Комі? Ці ёсьць там у вас аднадумцы?

**Г. К.:** Мы з бацькам наладзілі сувязь з тамтэйшымі аддзяленьнямі «Мэмарыялу». Інцінскае аддзяленьне ўзначальвае спадар Дзямідаў. Але мне найбольш спадабаўся кіраўнік «Мэмарыялу» ў Абезі – Віктар Ложкін. Ён вельмі шчыры і дакладны чалавек, у нас зь ім супрацоўніцтва і цяпер працягваецца. Ён мне дасылае прозьвішчы людзей, магілы якіх там знайшліся, каб сваякі маглі прыехаць і ўшанаваць памяць крэўнікаў. Комі – людзі даволі прымхлівыя, і яны хочуць, каб кожны чалавек, які быў бязьвінна загублены на іхняй зямлі, быў ушанаваны. У іх нават на дзяржаўным узроўні прынятая праграма пад назвай «Ачышчэньне», падпісаная прэзыдэнтам Рэспублікі Комі.

**М. С.:** Я ведаю, што вы зьвярталіся і да беларускіх



уладаў у справе ўшанаваньня ахвяраў Гулагу ў Комі. Што канкрэтна вы прапаноўвалі?

**Г. К.:** Я пісаў Аляксандру Лукашэнку і прасіў такую дробязь – узнагародзіць ад імя беларускай дзяржавы Віктара Ложкіна, ён так шмат робіць для беларусаў! Але адказу на свой зварот не атрымаў. Праўда, зь беларускай амбасады ў Маскве Ложкіну прыйшоў падзячны ліст. І ўсё на гэтым. А Віктар заслугоўвае дзяржаўнай узнагароды – ён столькі беларускіх пахаваньняў адшукаў! Там цяпер пастаўленыя звычайныя драўляныя калкі з таблічкамі, а трэба ўсталяваць крыжы. Вельмі шкада, што ў нас дзяржава гэтым абсалютна не займаецца. Літоўская дзяржава займаецца, Польшча займаецца, а Рэспубліка Беларусь – не.

**М. С.:** Як вы ўжо згадалі, у Абезі адбывала пакараньне Ларыса Геніюш. Ці ведае пра гэты факт кіраўнік тамтэйшага «Мэмарыялу» Віктар Ложкін?

**Г. К.:** А як жа! Ложкін ведаў, што ў Беларусі выдадзеныя кнігі Ларысы Геніюш, ён чытаў яе «Споведзь» у часопісе «Дружба народов» у перакладзе на расейскую мову. А там жа ёсьць цэлы разьдзел успамінаў пра Абезь. І ён зьвярнуўся да мяне: пашукай у Беларусі кнігі Геніюш, мы зробім экспазыцыю у нашым музэі рэпрэсій. Я кінуўся па кнігарнях – няма кніг Ларысы Геніюш. Дзякуй Богу, дапамаглі добрыя людзі, і кнігі ў Абезь высланыя. Віктар Ложкін паабяцаў пашукаць лягерную справу Ларысы Геніюш. Гэта вельмі важна – ведаць пра той пэрыяд у жыцьці Геніюш. Я чытаў у Сьвятаполка-Мірскага, што яна была ў лягеры своеасаблівым сьцягам, прычым ня толькі для беларусаў, але і для палякаў, і для ўкраінцаў, і для літоўцаў – для ўсіх вязьняў. Настолькі моцны духам чалавек быў!

**М. С.:** Калі кінуць позірк на мапу, калі зірнуць у той бок з Цэнтральнай Эўропы – дзе тая Рэспубліка Комі! На сотні кілямэтраў тундра, тайга, а ў тайзе –

вядома, якія законы. А вы не баіцеся езьдзіць туды адзін?

**Г. К.:** Ведаеце, комі – талерантныя, добрыя людзі, я іх люблю. А мой бацька, калі там жыў, нават вывучыў іхнюю мову. Я лічу, што за іх паводзінамі, што датычна лягернага мінулага, сочаць спэцслужбы, трымаюць іх «пад каўпаком». Гэта я зразумеў па адносінах да сябе. Аднойчы я здымаў інцінскія вуліцы, дзе колішнія вязьні будавалі дамы. Да мяне падышоў чалавек, не прадставіўся і хацеў забраць фотаапарат. Добра, што бацька не разгубіўся і груба, па-лягернаму, прыкрыкнуў на яго. І чалавек разгубіўся, адышоў.

**М. С.:** Вы мяркуеце, што ўлады Комі з падазрэньнем ставяцца да вашай пошукавай дзейнасьці?

**Г. К.:** Я лічу, што нашчадкі тых людзей, якія ахоўвалі і забівалі ў лягерах «ворагаў народу», там, на месцы, сёньня маюць уладу і хочуць схаваць ранейшыя злачынствы. Раскажу вам такую гісторыю. У 1997 годзе я вяртаўся цягніком з Інты і саступіў сваё месца нейкаму п’яніцы. Ён лёг на ніжнюю паліцу, а я перабраўся на верхнюю. А там жа ўсе адзін другога баяцца, ніхто ні з кім не гаворыць. Раніцай гляджу – няма таго чалавека, а боты ягоныя – стаяць. Пытаюся ў суседзяў па вагоне – маўчаць. І так ехалі ажно да Яраслаўля. У Яраслаўлі прыйшоў міліцыянт і пытаецца ў мяне: чаму вы не папярэдзілі правадніцу, што вашую пляцкарту заняў іншы чалавек? Кажу: ён мяне прагнаў. «Вы ведаеце, – кажа міліцыянт, – той чалавек прапаў». Запісалі мае пашпартныя дадзеныя і паабяцалі паклікаць на апазнаньне, калі знойдуць. Але не паклікалі, значыць, не знайшлі. Там, перад Пячорай, ад паселішча да паселішча – дзясяткі кілямэтраў. І таго чалавека, мабыць, ваўкі зьелі.

**М. С.:** Вы сапраўды лічыце, што на месцы таго няшчаснага чалавека маглі апынуцца вы? І што гэта была сплянаваная кімсьці апэрацыя?



**Г. К.:** Зразумела, я не магу гэта сьцьвярджаць з пэўнасьцю. Але мне потым па сакрэце сказала правадніца, што бачыла, як два дужыя чалавекі выносілі таго пасажыра з майго месца. Але чаму яна не папярэдзіла нікога? І пра гэта ніхто ня ведаў. Усё ноччу адбылося, выкінулі чалавека соннага і босага зь цягніка, ён спаў.

**М. С.:** Выходзячы з вамі расказанага, ці плянуеце вы і надалей езьдзіць у Рэспубліку Комі, каб працягваць справу ўшанаваньня загінулых у савецкіх лягерах суайчыньнікаў?

**Г. К.:** Бацька незадоўга перад сваёй сьмерцю паказаў мне месцы, дзе абавязкова трэба паставіць крыжы. Найперш гэта Абезь – там крыж ужо стаіць. Затым у Юр-Шоры, на месцы расстралянага лягеру. Аляксандар Салжаніцын пісаў, што там быў бунт, але гэта ня так. Бацька расказваў мне: расстрэл вязьняў справакавала адміністрацыя лягеру, каб застрашыць іншыя лягеры. Я размаўляў з чалавекам, які прысутнічаў пры тым расстрэле. Людзям стралялі ў сьпіну! Там загінулі 66 чалавек, сярод іх было нямала беларусаў. У Юр-Шоры літоўцы паставілі помнік, немцы – вялікі крыж, а беларусы – не зрабілі нічога. Бацьку я паабяцаў, што ўсталюем крыжы ў Юр-Шоры, у паселішчы Усьць-Уса, у Салехардзе і пабудуем невялічкую каплічку ў Інце. І я цяпер шукаю аднадумцаў. Лепш ехаць двум-тром, чым аднаму...

**М. С.:** У Беларусі ідзе апантанае змаганьне з крыжамі памяці – у Дражна на Старадарожчыне, у Курапатах... А ці ня чыняцца падобныя акты вандалізму ў Рэспубліцы Комі? Там жа, як вы сказалі, пры ўладзе дзеці сталіністаў.

**Г. К.:** Яны кіруюць хіба на нізавым узроўні. Але, як я ўжо гаварыў, у Рэспубліцы Комі прынятая дзяржаўная праграма ўшанаваньня памяці ахвяраў рэпрэсій. І крыжы знаходзяцца там пад аховай дзяржавы. Комі хочуць ачысьціць сваю зямлю ад

злачынстваў сталінскіх злыдняў. У Беларусі, на жаль, гэтым займаюцца толькі грамадзкія арганізацыі, якім улада чыніць перашкоды. Бабуля мая казала, што 2 лістапада, на Дзяды, душы памерлых назіраюць за тым, як нашчадкі даглядаюць іх магілы. Каму перашкаджаюць крыжы ў Курапатах? Я там начаваў адну ноч, прывозіў харчы юнакам, якія там дзяжурылі. Думаю, што мне ў Курапатах прысьніцца? Прысьніўся голас, які чытаў малітву «Ойча наш». І раптам крык: «Пажар!» Усе выбеглі з намёту. Бачу – стаіць машына на асфальце, і агеньчык сьвеціцца, значыць, вядуцца здымкі. А нейкі чалавек ходзіць у цемры і гаворыць напаўголасу: «Приём, я в Куропатах». Значыць, з рацыяй. Хацелі мы яго злавіць, толькі дзе ж у цемры знойдзеш... Тыя людзі, якія нішчаць крыжы ў Курапатах, зьневажаюць Бога і беларускі народ. І прыйдзе час – іх спасьцігне Божая кара.



*Барыс Пятровіч*

(сапр. прозьвішча Сачанка) – празаік, паэт. Выпускнік журфаку БДУ. Працаваў у рэдакцыях тыднёвіка «ЛіМ», часопіса «Полымя». Цяпер – галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў», першы намесьнік старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Аўтар кніг «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць ня страшна» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнічыне. Жыве ў Менску.

## *Барыс Пятровіч:* «Пажыцьцёвым бывае толькі зьняволеньне»

***11 лістапада 2008 году***

*За савецкім часам шлях у шырокі сьвет для беларускага пісьменьніка ляжаў праз Маскву. Выдалі цябе там у перакладзе на расейскую мову – значыць ёсьць шанец трапіць і на замежны кніжны рынак. З эпохай незалежнасьці Масква перастала быць ранейшым цэнтрам прыцягненьня, але літаратурная прастора далёкага замежжа для беларускіх творцаў бліжэй ад гэтага ня стала. Цяпер кожны мусіць дбаць пра сябе сам, зрэшты, так яно і павінна быць. Нядаўна ў швэдзкім выдавецтве «Ratus» выйшла кніга прозы Барыса Пятровіча. Гэта першы ў гісторыі пераклад на швэдзкую беспасярэдне зь беларускай. Аўтар быў запрошаны ў Стакгольм на прэзэнтацыю кнігі, сустрэчы з чытачамі адбыліся і ў іншых гарадах Швэцыі.*

**Міхась Скобла:** Барыс, як цябе прымалі ў Швэцыі, як прайшла прэзэнтацыя тваёй кнігі?

**Барыс Пятровіч:** Уражаньні засталіся незабыўныя. Шчыра прызнацца, я ехаў туды зь нейкай насьцярожанасьцю і хваляваньнем. Былі сумненьні: якая там цікавасьць можа быць у швэдаў да нейкага аўтара зь Беларусі? Але сустрэчы прайшлі дзякуючы арганізатарам на найвышэйшым узроўні. Арганізатары – гэта найперш выдавец Пэр Бэргстром, міжнародны сакратар швэдзкага Саюзу пісьменьнікаў Генрык Карл Энбом і перакладчык Дзьмітры Плакс. Адбылося ўсяго пяць сустрэчаў, зь іх дзьве – у Стакгольме, тры – на поўдні Швэцыі. У Стакгольме былі сустрэчы ў Міжнароднай бібліятэцы і ў тэатры «Гільятын».

**М. С.:** Калі параўнаць сустрэчы ў Стакгольме з тымі сустрэчамі, якія адбыліся ў іншых швэдзкіх гарадах, ці адрозьніваюцца там сталічныя і правінцыйныя аматары літаратуры?



**Б. П.:** Мне падалося, што вялікіх адрозьненьняў няма, таму што я быў у найбуйнейшых гарадах – Гётэборгу і Мальмё, якія ў пэўным сэнсе спаборнічаюць са Стакгольмам, і правінцыйнымі іх цяжка назваць. Уразіла, што на сустрэчы прыходзіла даволі шмат людзей. Скажам, у тэатар «Гільятын» прыйшлі болей за сто чалавек, пры гэтым уваход быў платны і каштаваў каля сямі эўра. У Гётэборгу я ўдзельнічаў у міжнародным паэтычным фэстывалі. Гэта адзін з найвядомейшых і найаўтарытэтнейшых фэстываляў у Эўропе, і туды запрашаюцца паэты з Заходняй Эўропы і Амэрыкі. Гэтым разам таксама былі прадстаўнікі Злучаных Штатаў, Вялікай Брытаніі, Францыі, Бэльгіі, Даніі. З Усходняй Эўропы быў толькі я адзін.

**М. С.:** А якім накладам выйшла твая швэдзкая кніга?

**Б. П.:** Здаецца, тысяча асобнікаў. І пасьля нашых сустрэчаў выдавец мне сказаў, што калі ў Швэцыі за першы год кніга падобнага фармату і малавядомага замежнага аўтара разыходзіцца ў колькасьці ста пяцідзесяці асобнікаў, то гэта лічыцца посьпехам. І дадаў, што мы на прэзэнтацыях прадалі якраз сто пяцьдзясят асобнікаў, такім чынам, праграма мінімум была выкананая толькі за гэтую паездку.

**М. С.:** А калі параўнаць грамадзкі статус пісьменьніка ў Швэцыі і ў Беларусі – дзе ён вышэйшы?

**Б. П.:** Пісьменьнікі ў Швэцыі маюць падтрымку дзяржавы. Куды б мы ні прыяжджалі, а ў нас праходзілі сустрэчы таксама ў Саюзе пісьменьнікаў, у выдавецтвах, у рэдакцыях часопісаў, усюды падкрэсьлівалася, што швэдзкіх літаратараў падтрымлівае дзяржава. Мы наведаліся ў гэтак званы Выдавецкі цэнтар, дзе выходзіць больш за сто часо-

пісаў культурніцкага кірунку. Цэнтар арганізаваны дзяржавай і апякуецца ім дзяржава. Ён уяўляе зь сябе вялізныя памяшканьні, дзе стаяць кампутары, дзе працуюць людзі, якія дапамагаюць выдаваць часопісы ўсім жадаючым. Калі чалавеку ці групе людзей захацелася выдаць часопіс, яны могуць прыйсьці ў гэты цэнтар са сваёй ідэяй, ім дапамогуць выдаць часопіс, дапамогуць напачатку з распаўсюдам. І калі гэта будзе цікавае выданьне, калі яно будзе карыстацца попытам, то дзяржава і надалей яго падтрымае. І не патрэбная ні рэгістрацыя, ні ліцэнзаваньне... Прычым такіх цэнтраў у Швэцыі чатыры: у Стакгольме, у Мальмё, у Гётэборгу і яшчэ ў адным горадзе на поўначы Швэцыі, я не запомніў яго назву. І ў кожным выходзяць выданьні на падобных умовах. Зь іх каля дзесяці адсоткаў – гэта літаратурныя выданьні.

**М. С.:** Перад тваім прыездам у Швэцыю Нобэлеўскі камітэт у Стакгольме акурат прысуджаў Нобэлеўскія прэміі. Статус гэтай прэміі ва ўсім сьвеце традыцыйна высокі. А якое стаўленьне да «нобэлеўкі» ў саміх швэдаў?

**Б. П.:** Швэды ставяцца да самой прэміі, да пісьменьнікаў, якія атрымліваюць гэтую прэмію, з найвялікшай павагай. Іх кнігі распрадаюцца імгненна, адразу выходзяць некалькі выданьняў пісьменьнікаў-набэлянтаў. Праўда, даўнавата прэмію не атрымлівалі самі швэды. Пэўна, яны, як і мы, беларусы, зачакаліся сьвята і на сваёй вуліцы.

**М. С.:** Ці ня першы крок па шляху беларуска-швэдзкага супрацоўніцтва зрабіў яшчэ Максім Багдановіч, сто гадоў таму пераклаўшы верш швэдзка-фінскага паэта Ёхана Людвіга Рунэбэрга «Паво». А якімі бачацца табе пэрспэктывы беларуска-швэдзкіх стасункаў сёньня?

**Б. П.:** Штогод зь лёгкай рукі амбасадара Швэцыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана і фотамастачкі Марыі Сёдэрбэрг праводзяцца Дні літаратуры і культуры Швэцыі ў Беларусі. На гэтыя Дні прыязджаюць са Швэцыі пісьменьнікі, да гэтых Дзён перакладаюцца на беларускую мову іх творы. І беларускія пісьменьнікі ахвотна далучаюцца, і іх творы перакладаюцца на швэдзкую мову. Скажам, сёлета такія сустрэчы праходзілі ў Полацку, Баранавічах, Лунінцы. З нашага боку ў праграме Дзён удзельнічалі Вольга Іпатава, Уладзімер Арлоў, Валянцін Акудовіч, Віка Трэнас, Арцём Кавалеўскі. Летась літаратурныя маршруты разам са швэдамі па Беларусі пракладалі Ўладзімер Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Джэці, Віктар Жыбуль. Такім чынам, швэды, прынамсі швэдзкія пісьменьнікі, збольшага ведаюць сучасную беларускую літаратуру. У Стакгольме мы сустракаліся з выдаўцом Б'ёрнам Лінэлем, ён пацікавіўся сёньняшнім станам беларускай літаратуры, і была размова пра тое, што варта скласьці сьпіс трыццаці найцікавейшых беларускіх літаратараў і перадаць яму. Швэды, у прынцыпе, хацелі б выдаваць сучасную беларускую літаратуру па-швэдзку.

**М. С.:** У сьвятле сказанага табой, можа, прыйшла пара нам забыцца на адну беларускую прыказку, якой, мабыць, гадоў трыста. Памятаеш: «Стуль маскалі, а стуль швяды – дзе падзецца з такой бяды»?

**Б. П.:** Прыказка, зразумела, страціла сваю актуальнасьць. Прынамсі, адносна швэдаў...

**М. С.:** А цяпер давай пагаворым пра тваю прозу. У назвах тваіх кніг прысутнічае быцьцёва-жыцьцёвая дамінанта: «Жыць ня страшна», «Шчасьце быць». Быцьцё ў нас доўгі час вызначала сьвядомасьць, пакуль нейкі дасьціпнік «быцьцё» не замяніў на «біцьцё». Гэткі сабе беларускі варыянт вядомай формулы Маркса. А паводле Барыса Пятровіча, быцьцё – гэта шчасьце?

**Б. П.:** Для мяне любое быцьцё – шчасьце. Быць лісточкам, травінкай, мурашом... А ўжо чалавекам – няважна, здаровым ці цяжка хворым, калекам – тым болей. Трэба толькі ўмець бачыць гэтае

шчасьце і ўмець браць яго ад жыцьця... Ну, а найбольшае шчасьце, найвышэйшая ступень яго – ня быць увогуле і ня ведаць, што ёсьць жыцьцё... Гэта такі відочны парадокс, які я люблю і якіх нямала ў маіх кнігах. З-за якіх мяне часам не разумеюць. Да прыкладу, падобны парадокс быў закладзены калісьці ў прадмове да першага нумару «Дзеяслова». Там было сказана, што сапраўдная літаратура заўсёды існавала па-за палітыкай, але заўсёды была ў апазыцыі да ўладаў... Нібыта відочная супярэчнасьць: па-за палітыкай і ў апазыцыі. Аднак гэта па сёньняшнім часе так здаецца, калі нават размова па-беларуску лічыцца палітыкай. Хоць правільнасьць і лягічнасьць гэтых пастулятаў даказваецца вельмі проста. Возьмем канкрэтнага пісьменьніка, скажам, Караткевіча. Зь ім гэтая формула стасуецца абсалютна: у сваёй творчасьці на той – савецкі – час ён абсалютна быў па-за палітыкай, з аднаго боку, а з другога – ён быў у апазыцыі да тагачасных уладаў.

**М. С.:** Адзін з тваіх герояў, раней у сувязях з Кітаем не заўважаны, нечакана на пару з кітайскім паэтам Ду Фу ідзе ў госьці да Лі Бо. А да каго зь беларускіх клясыкаў у патойбочны сьвет ты хацеў бы наведацца і пра што пагаварыць?

**Б. П.:** Зь Лі Бо я так і ня ўбачыўся – прачнуўся... А з кім хацеў бы пабачыцца, каго прысьніць? Менавіта прысьніць, як нешта выпадковае, бо я не кірую сваімі снамі, хоць шмат увагі аддаю ім у творах. Ну, пэўна, зь Янкам Купалам, Вацлавам Ластоўскім, Антонам Луцкевічам, Уладзімерам Дубоўкам, Максімам Гарэцкім, Уладзімерам Караткевічам... Сустрэцца, каб спытаць у іх нешта (зрэшты, у Купалы я спытаў бы пра абставіны ягонай сьмерці), а сказаць ім: усё ня так кепска, хлопцы: Беларусь жыве! Болей за тое, стала незалежнай, пра што яны ў сваім далёкім мінулым марылі, за што змагаліся, але адышлі ў іншы сьвет, мажліва, у поўным пэсімізме... Цяжка ім там цяпер. Многія зь іх нарадзіліся і жыцьцё пражылі



пры Саветах, як той жа Караткевіч, нават і ня думаючы, што так хутка ўсё зьменіцца. Цяжка і нам тут, але ёсьць каму змагацца за Беларусь і працягваць іхную справу. А яшчэ я хацеў бы пагутарыць са сваім дзядзькам Барысам Іванавічам Сачанкам. Ён вельмі шмат зрабіў для мяне ў дзяцінстве, фактычна ўратаваў ад сьмерці. Мы часта зь ім бачыліся, але не гаварылі пра істотнае, я сам адкладваў размову на потым... Барыс Іванавіч адышоў так раптоўна, што я нават не пасьпеў яму падзякаваць за тое ўратаваньне. І цяпер шкадую, што ў свой час не сказаў патрэбных словаў... Вельмі важна, па-мойму, своечасова сказаць дзякуй чалавеку, каб потым не пакутаваць, не шкадаваць з-за свае сьціпласьці і непатрэбнае сарамлівасьці.

**М. С.:** У цябе ёсьць нізка кароткіх, на адзін-два абзацы, твораў – піліпікаў, названых так па імі галоўнага героя. Ён мне нагадвае літоўскага Кукуціса – героя балядаў Марцэлюса Марцінайціса. Дарэчы, Алесь Разанаў, калі перакладаў тыя баляды, так увайшоў у ролю, што напісаў некалькі «Балядаў Кукуціса» сам. Кукуціс – увасабленьне літоўскай кемлівасьці, хітрасьці, жыцьцёвай практычнасьці. А твой Піліп – увасабленьне чаго?

**Б. П.:** Я вельмі не люблю, калі на літаратуру ўзвальваюць дадатковыя клопаты, тым самым нібыта падвышаючы яе значэньне. Што я маю на ўвазе? Існуе распаўсюджанае меркаваньне, што літаратура павінна канцэнтравана адлюстроўваць рэчаіснасьць, шукаць у ёй нейкія агульназначныя, грамадзка значныя моманты і падаваць у вобразе аднаго героя цэлы народ... Ня ведаю, як там Кукуціс, а мой Піліп такі адзін, ён індывідуал, а ня нейкі зборны вобраз народу. Ён такі, як ёсьць, ён жывы чалавек з усімі ягонымі слабасьцямі. Ён ня можа быць увасабленьнем народу, бо ён адзіны такі, адзінкавы... Зрэшты, гэта савецкія традыцыі – Платон Каратаеў, дзед Шчукар...

**М. С.:** Чаму толькі савецкія? У чэхаў ёсьць салдат Швэйк.

**Б. П.:** Ну так. Але тыя, што навязваюцца нам з боку расейскай літаратуры, трэба паціху забываць. Тым болей што і Платон Каратаеў, і дзед Шчукар – таксама адзіныя і непаўторныя, інакш бы яны не запомніліся, згубіліся б. А ўвогуле Піліп, хутчэй, нагадвае гэтак званых чудзікаў – герояў Шукшына. Такіх «чудзікаў» у Расеі мала, але на іх творчым патэнцыяле і трымаецца Расея. У нас такіх Піліпаў мноства... Зноў у мяне парадокс і супярэчаньне самому сабе: індывідуал і мноства, але хіба гэта кепска, калі неадназначных, непадобных да іншых асобаў шмат?

**М. С.:** У сувязі з палітычным ладам у Беларусі з-за мяжы часам можна пачуць спачуваньні беларускаму народу. Ты ў сваіх кнігах таксама спачуваеш народу. А ўвогуле, калі і пры якіх абставінах мастак можа і павінен апэляваць да народу?

**Б. П.:** Цяжкае для мяне пытаньне. Адзін з маіх герояў, разважаючы пра сытуацыю ў краіне, зрываецца на раздражненьне і злосьць, называе народ быдлам, якому трэба толькі сытая паша ды жорсткі пастух... А потым апамятваецца, згадвае пра сваіх бацькоў і думае: дык што – і яны таксама быдла?.. Не. І далей, ня ведаю хто – я ці герой – думаем: народ ні ў чым не вінаваты, народ у масе сваёй – дзіця, якому можна паабяцаць прыгожую цацку, прыгожае жыцьцё заўтра і падмануць... Такія прыёмы ў цывілізаваным сьвеце, у нармальным, дэмакратычным грамадзтве забароненыя. У нас жа можна ўсё. Увогуле, няма кепскіх народаў, згадаем хоць бы прыклад Нямеччыны, дзе да ўлады прыйшоў Гітлер. Ёсьць кепскія лідэры, кіраўнікі, і зь іх трэба пытаць напоўніцу за кожнае абяцаньне, за кожны падман дзеля нейкіх сваіх інтарэсаў. Я спачуваю народу і ні ў чым яго не абвінавачваю... І слова «дзіця» зусім ня трэба ўспрымаць як нейкую адмоўную ацэнку. Якраз наадварот. Бо, паўтаруся, вінаваты не народ, а тыя, хто ім кіруе і хто дазваляе сабе ісьці на падман.



**М. С.:** Заможнае жыцьцё нам, колькі сябе помню, абяцаюць. Ад аднаго прэзыдэнцкага тэрміну да другога. Увогуле, як адчувае сябе пісьменьнік у краіне, у якой дзейны прэзыдэнт мае права абірацца пажыцьцёва?

**Б. П.:** Пажыцьцёвым ня можа быць шчасьце, радасьць, пажыцьцёвым можа быць толькі зьняволеньне, пакараньне. Той чалавек, які дамагаецца «пажыцьцёвасьці», пакуль, відаць, не разумее гэтага. Калі б ён задумаўся на хвіліну, ён спытаў бы ў сябе: а навошта? Усё жыцьцё змагацца зь ветракамі, змагацца за тое, каб уседзець у крэсьле... Ці ня лепш аддацца простым чалавечым радасьцям, пабыць ня толькі «бацькам», але і дзедам.

**М. С.:** Ты зьяўляесься галоўным рэдактарам часопісу «Дзеяслоў», які, я тут дазволю сабе цытату з кнігі «Гісторыя Беларусі» Захара Шыбекі, «гуртуе вакол сябе здаровыя пісьменьніцкія сілы». Няўжо ў Беларусі гэтых здаровых пісьменьніцкіх сілаў настолькі няшмат, што ўсе яны змаглі згуртавацца вакол аднаго-адзінага выданьня?

**Б. П.:** Чаму ж вакол аднаго-адзінага? Выходзяць яшчэ і «Полымя», і «Маладосьць», часам друкуе мастацкія творы «ARCHE»... Ня трэба іх скідваць з рахунку, бо дзякуючы таксама і ім літаратура жыве, і выданьні гэтыя займаюць пэўную нішу. Што да здаровых сілаў... Хто будзе спрачацца з фактам, што вакол «Дзеяслова» сапраўды аб'ядналіся найлепшыя на сёньня беларускія літаратары? Пагартайце «Полымя» і «Дзеяслоў» і параўнайце. І ўсё адразу стане зразумелым... Але мы нікога ні ў чым не абмяжоўваем. Мы кажам, што друкуем усіх, незалежна ад іх пазыцыі і літаратурных прыхільнасьцяў. Нас могуць абвінаваціць і абвінавачваюць хіба ў элітарнасьці, у тым, што мы «задужа высока паднялі планку». Але,

думаю, маладым прыемна друкавацца, дэбютаваць побач з Быкавым, Брылём, Барадуліным, Бураўкіным, Гілевічам, Някляевым, Законьнікавым, якія, дарэчы, нідзе, апроч «Дзеяслова», не друкуюцца... А выдатных, сапраўды, ніколі не было шмат. Але – зноў жа, парадокс. Кажу: выдатных няшмат, але згадваю палітычныя кампаніі дзейнай улады і мушу падкрэсьліць, што не знайшлося сярод нашых вядомых і маладых пісьменьнікаў такіх, хто б заклікаў народ галасаваць так, як патрэбна ўладзе. Штоþразу даводзіцца выпісваць агітатараў з Масквы – таго ж Праханава, таго ж Куняева.

**М. С.:** Ты – першы намесьнік старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, які, у адрозьненьне, скажам, ад Саюзу кампазытараў, не падтрымлівае дзейную ўладу. Якія могуць быць пэрспэктывы ў СБП у Беларусі?

**Б. П.:** Сваю грамадзянскую пазыцыю адносна тых ці іншых дзеяньняў улады неаднаразова выказвалі вядомыя пісьменьнікі, у тым ліку і старшыня нашага Саюзу. Хоць многія сёньня лічаць за лепшае маўчаць. Але ў нашай краіне маўчаньне расцэньваецца не як згода, паводле прыказкі, а як нязгода. Трэба крычаць: адабраем, падтрымліваем! Тады цябе «правільна» зразумеюць... Што тычыцца будучыні Саюзу, дык куды ўжо горш, чым ёсьць? На жаль, улада ў сёньняшняй Беларусі да творцаў не прыслухоўваецца, іх проста не заўважае. Творцаў у нашай краіне цалкам замянілі спартсмэны. І камусьці гэта дужа падабаецца. Але па жыцьці я аптыміст. Хоць тыя, хто мяне ведае асабіста, могуць з гэтым не пагадзіцца. Называюць характэрнымі для мяне рысамі сум, самоту, адвечную стому. Але гэта толькі чыста зьнешняе ўражаньне, бо вочы ў мяне яшчэ не патухлі. Я аптыміст, я веру, я ўпэўнены, што гэты час і гэты лад не назаўсёды. У 80-я гады мінулага стагодзьдзя мы зь сябрамі зьбіраліся на кватэры ў Гомелі і казалі, што будзем змагацца за Беларусь нават са зброяй у руках. І ніхто тады ня думаў, што СССР, гэты волат на гліняных нагах, так хутка рухне: літаральна праз пару гадоў... І якой бы беспрасьветнай не здавалася камусьці наша будучыня, я ўпэўнена паўтараю: і гэты час, і гэты лад не назаўсёды!.. У мяне ў адным з тэкстаў ёсьць словы, якія могуць стаць своеасаблівым дэвізам: «Не чакаць, а быць гатовым!». Гэта зусім не азначае, што трэба сядзець склаўшы рукі і чакаць, пакуль нешта зьменіцца. Якраз наадварот: заўсёды быць гатовым – да працы, да барацьбы, да зьменаў... Гэта вельмі цяжка – быць увесь час у стане сьціснутай спружыны. Але, па-мойму, інакай жыць нельга.



**М. С.:** Нядаўна ў Акадэміі навук склалі «Сьпіс сацыяльна значнай літаратуры». Цытую з таго сьпісу пазыцыю пад нумарам 108: «Барыс Пятровіч. Празаік. Аўтар кніг “Ловы”, “Сон між пачвар”, “Фрэскі”, аповесьці “Пуціна”. Тэмы сучасныя, героі сучасныя, манэра пісьма сучасная. Да 60-годзьдзя зь дня нараджэньня пісьменьніка ў 2019 годзе мэтазгодна выдаць “Выбраныя творы”». Даўгавата чакаць – ажно адзінаццаць гадоў... Ці ў цябе свой плян выданьня ўласных кніг?

**Б. П.:** Мне сьмешна было слухаць... Што ж, дзякуй роднай дзяржаве за клопат і за слова «сучасны», якое тройчы прагучала. Я даўно не спадзяюся, што нехта мяне выдасьць. Пачынаючы з 1994 году я не насіў сваіх твораў у дзяржаўныя выдавецтвы. Ад тае пары ў мяне там нічога не выходзіла і не плянуецца да выданьня. Мае апошнія па часе кнігі «Шчасьце быць» і «Жыць ня страшна» выходзілі ў недзяржаўных выдавецтвах «Тэхнапрынт» і «Медысонт».

**М. С.:** Часопіс «Дзеяслоў», які ты рэдагуеш, ужо ня першы год публікуе невядомыя творы Васіля Быкава. Друкаваць Быкава адказна і прэстыжна. Аднак я ведаю, што «Дзеяслоў» меў і праблемы, зьвязаныя менавіта з публікацыяй быкаўскіх твораў.

**Б. П.:** Так, гэта было адразу пасьля надрукава-

ньня аповесьці «Аўганец». Памятаю, у Доме літаратара да мяне падышоў Мікалай Чаргінец і спытаўся: «Ці праўда, што вы надрукавалі “Аўганца”? А там не пра мяне?» – «Не, кажу, не пра вас». – «А дайце пачытаць». – «Калі ласка, чытайце». І неўзабаве мы даведваемся, што кіраўніцтва «Белкнігі» атрымала ліст разгневаных вэтэранаў, якія зьвінавацілі «Дзеяслоў» у «амаральнасьці». Маўляў, у часопісе ўжываецца ненарматыўная лексыка. Я параіў бы вэтэранам зазірнуць у кнігарні і паглядзець, што там прадаецца. А там і сёньня можна адшукаць сумнавядомы раман Чаргінца «Тайна Авальнага кабінэту». Магчыма, слухачы «Свабоды» чыталі рэцэнзію на яго Аляксандра Фядуты (была ў «Нашай Ніве»). Там ёсьць такі-і-ія цытаткі...Чамусьці нашых вэтэранаў-маралістаў падобныя творы не бянтэжаць. Васіль Быкаў і «Дзеяслоў» такой лексыкі сабе ніколі не дазвалялі.

**М. С.:** Што з быкаўскай школы засвоена новымі пакаленьнямі ў літаратуры? У чым урокі Быкава для моладзі?

**Б. П.:** Васіль Быкаў любіў ставіць сваіх герояў у экстрэмальныя сытуацыі. А гэткія сытуацыі бываюць ня толькі на вайне, хапае іх і ў наш час. Я думаю, што пасьлядоўнікі Быкава былі ў сакавіку 2006 годзе на Кастрычніцкай плошчы. І сёньня яны пішуць свае маладыя мэмуары, свае ўспаміны пра тыя падзеі, якія перажылі ў намётавым гарадку, у камэрах на Акрэсьціна. Так што прадаўжальнікі быкаўскай справы падрастаюць. У літаратуру ідзе вельмі цікавае пакаленьне, і часопіс «Дзеяслоў» спрычыняецца да ягонага творчага росту. У кожным нумары мы друкуем дэбютантаў. Апроч таго, нядаўна мы распачалі выпуск бібліятэчкі «Дзеяслова», дзе будзем друкаваць найперш маладых літаратараў, каб аблегчыць ім шлях у літаратуру.



*Зьдзіслаў Сіцька –*
гісторык, журналіст. Закончыў журфак БДУ. Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», у Дзяржаўным камітэце Беларусі па кінематаграфіі, у рэдакцыях газэты «Наша слова» і часопіса «Дыялёг». Аўтар кніг «Чалавек, які зьбіраў камяні: Ігнат Дамейка», «Утроп літвы». Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Пашкоўцы Ляхавіцкага раёну. Жыве ў Менску.

## *Зьдзіслаў Сіцька:* «Літва – ня племя, а ваярскі стан»

***3 чэрвеня 2009 году***

*2009 год у Беларусі і Літве абвешчаны годам 1000-годзьдзя гістарычнай Літвы. Але да гэтай пары гісторыкі дзьвюх краінаў не прыйшлі да згоды пры вызначэньні месцазнаходжаньня і паходжаньня той самай старажытнай Літвы. Калі пачытаць дасьледаваньні беларускіх гісторыкаў (Мікола Ермаловіч, Алесь Краўцэвіч) і гісторыкаў літоўскіх (Эдвардас Гудавічус), то ствараецца ўражаньне, што пішуць яны пра дзьве розныя гістарычныя Літвы. Хто зь іх мае большую рацыю – мы ня будзем высьвятляць. Пакуль дзьве гістарычныя школы плывуць па моры супольнай гісторыі ў розных караблях паралельнымі курсамі, беларускі гісторык-самавук Зьдзіслаў Сіцька прапанаваў свой погляд на племя літву, ад якога, як лічыцца, і атрымала назву магутная дзяржава нашых продкаў – Вялікае Княства Літоўскае.*

**Міхась Скобла:** Спадар Зьдзіслаў, літоўскія гісторыкі даводзяць, што літва – гэта балцкае племя. Мікола Ермаловіч даказваў ягонае славянскае паходжаньне. У вас – уласная, адрозная ад усіх ранейшых, вэрсія адносна Літвы. У чым яе сэнс?

**Здзіслаў Сіцька:** Я прыйшоў да высновы, што літва – гэта ня племя, а ваярскі стан. Першыя зьвесткі пра гэты ваярскі стан сустракаюцца ў Мекленбургіі, у розных мекленбурскіх дакумэнтах, датычных жыцьця палабскіх славянаў. Мекленбургія – гэта паўночная частка ўсходняй Нямеччыны, тэрыторыя на поўнач ад Бэрліну, абшар паміж Лабай і Одэрам. Праз пэўны час пад націскам саксаў частка заходніх славянаў павінна была пайсьці зь Мекленбургу шукаць сабе новае прыстанішча. І яны пайшлі на ўсход, аселі ў Мазоўшы і Панямоньні.



**М. С.:** «Повоеваша литва», «новгорожане и литва били, секли и имали», «приходи литва», «бишася литва», «истопе литва на Двине»... Дык гэтая літва – усяго толькі найміты, якія ваявалі? На чым грунтуюцца вашыя высновы?

**З. С.:** Ва ўсе часы ваярскай справай займаліся пэўныя людзі. Звычайныя земляробы ня мелі магчымасьці самі сябе абараняць, бо на вайне трэба было мець ваярскае майстэрства. І вайсковай справай урэшце заняліся пэўныя сацыяльныя станы, якія ня мелі ўласнасьці, не былі прывязаныя да зямлі. Да падобных станаў належалі, напрыклад, казакі, янычары, самураі, мамелюкі. Гэткім жа ваярскім станам была і літва. Назаву пяць аргумэнтаў на карысьць гэтай вэрсіі. Першы аргумэнт – гэтак званыя ўсходнелітоўскія курганы: адметныя пахавальныя абрады, прынамсі, спальваньне нябожчыкаў і насыпаньне над прахам велічных курганоў. А гэта ж тыповы славянскі звычай. Жамойты не палілі сваіх нябожчыкаў, а хавалі іх у звычайных грунтавых магілах. Другі аргумэнт – тэрыторыя, на якой племя пражывае. Навукоўцы вызначаюць этнічны абшар паводле адпаведных назваў – этнатапонімаў. Назву «літва» мы знаходзім і на Балканах, і ў Нямеччыне (прыкладам –Літоўка, Літэн, Літсоў), і ў Мазоўшы, і на тэрыторыі сучаснай Беларусі, і ў расейскіх Мяшчоры, Цюмені, дальняй Сібіры. Трэці аргумэнт – сам сэнс слова «літва», утворанага паводле славянскага ўзору ад кораня «літ» (як: дзятва, братва, гаспадарства, спадарства, казацтва, паства). У нямецкіх гістарычных дакумэнтах, што датычацца захопленых германцамі колішніх славянскіх земляў, знаходзім літаў. Літамі называлі напаўзалежных людзей, якія не належалі ні да аднаго са станаў тагачаснага грамадзтва, таму што паходзілі з палонных ваяроў. Чацьверты аргумэнт – мова.

Кожнае племя мае сваю мову, свой фальклёр. Нідзе ў гістарычных крыніцах, у летапісах не гаворыцца пра літоўскую мову, ня знойдзена і аўтэнтычных запісаў літоўскага фальклёру. Ёсьць фальклёр жамойцкі, а літоўскага – няма. Няма і не магло быць перакладу законаў Вялікага Княства Літоўскага, прыкладам Статуту, на «літоўскую» мову. У Літве «мова народу славянская», – сьцьвярджаў італьянскі гуманіст Эней Сыльвій Пікаляміні ў творы «Апісаньне Азіі і Эўропы ды іх народаў». А гэта ж папа Пій II (знаходзіўся на сьвятым пасадзе цягам 1458–1464 гадоў). На жаль, нават гісторыкі Касьцёлу не прыслухаліся да папы... І пяты аргумэнт – прылады працы. Кожнае племя мае свой набор прыладаў працы, які залежыць ад умоваў іх існаваньня. На абшары гэтак званых літоўскіх кургханоў няма знаходак ні сярпоў, ні плугоў, зрэдку ёсьць толькі знаходкі косаў, а ўсе астатнія знаходкі – зброя. Нават знакаміты расейскі архэоляг Валянцін Сядоў зьдзіўляўся, што да сярэдзіны XX ст. у шматлікіх пахаваньнях літвы не было знойдзена земляробчых прыладаў працы. Таксама розным былі ў жамойтаў і літвы вопратка, жаночыя ўпрыгожаньні, міталёгія.

**М. С.:** А як вы ставіцеся да вэрсіі Міколы Ермаловіча, які літву «пасяліў» у Верхнім Панямоньні ды на Наваградчыне? Дастаткова зірнуць на мапу, каб пераканацца, што канцэнтрацыя тапонімаў з коранем «літ» назіраецца менавіта ў гэтым рэгіёне.

**З. С.:** Так, абшар паміж Бугам і вадазборам Нёмана вызначаецца найбольш поўным наборам тапонімаў «літва». Шаноўны Мікола Іванавіч зыходзіў з таго, што тапонімы «літва» знаходзіліся толькі ў Панямоньні, але яны ёсьць і ў Пабужжы. Менавіта там мы знаходзім ня толькі тапонімы «літва», а вельмі цікавыя, на мой погляд, спалучэньні тапонімаў «літва» з тапонімамі «русь». У Пабужжы ёсьць вёскі Стара Літва і Стара Русь – паселішчы Высокамазавецкага павету Падляскага ваяводзтва (яны згадваюцца ў «Попісе войска Вялікага Княства Літоўскага» за 1528 год). На поўдзень ад іх знаходзім блізка адна ад адной вёскі Костры-Літва і Выліны-Русь. А на поўнач ад вядомага польскага гораду Ломжа таксама можна назіраць цікавы «зьбег» тапонімаў. Прыкладам, паводле люстрацыі 1660 году, у візьненскім старостве знаходзіліся вёскі «Вярцішаў, альбо Рус» ды «Літва, альбо Ксенжа». Варта дадаць, што да візьненскай парафіі належалі вёскі Крэва, Крэва-Плябанкі, Крэва Новае, Крэва Старое.



**М. С.:** Вы ўсё ж настойваеце на тым, што літва – гэта надтэрытарыяльны панятак?

**З. С.:** Так. Бо не магла адна частка племені жыць у адным месцы, а другая – у іншым, аддаленым на тысячы кілямэтраў. На тое, што літва жыла на велізарным абшары, паказвае менавіта тапаніміка.

**М. С.:** Але ж у 1253 годзе Міндоўг стаў Dei gra rex Litovie – з Божай ласкі каралём Літвы. Як можна стаць каралём нейкага ваярскага стану?

**З. С.:** Міндоўг стаў каралём дзяржавы, якая складалася зь земляў ад Дзьвіны да Прыпяці, ад Буга да Дняпра. (Вядома, што Драгічын Надбускі быў памежным горадам Полацкага княства. Вядомы расейскі гісторык Іван Бяляеў далучаў гэты горад да ліку полацкіх калёніяў.) На гэтай тэрыторыі жыло некалькі плямёнаў. І Міндоўг быў абаронцам гэтых земляў. На поўнач ад Прыпяці не ступала нага мангольскага захопніка. Гэты абшар Панямоньня і Пабужжа не зазнаў іхняга нашэсьця. Палачане, паводле майго меркаваньня, паставілі ваяводам у Наваградку менавіта Міндоўга – сына полацкага князя, унука князя Расьціслава Рагвалодавіча, вядомага з Уваскрасенскага летапісу. Міндоўг здолеў абараніць незалежнасьць Наваградчыны і паўднёва-заходняй часткі Полацкага княства. Ён стаў знаным абаронцам усіх гэтых земляў. Уявіце сабе: 1241 год, спаленыя гарады Русі, разбураны Кіеў, спалены

Ўладзімер-Валынскі, панішчаныя Кракаў ды іншыя польскія гарады, а гарады на поўнач ад Прыпяці сталяць цэлыя. Найлепшы прыклад таму – старажытнае Берасьце, цяперашні археалягічны скансэн. Нашыя землі абараніў ад манголаў менавіта Міндоўг. То і ня дзіва, што жыхары і ўладары Наваградку (а гэта быў вельмі багаты горад) лепшага князя для сябе і ня бачылі. Таму пазьней і згадзіліся на яго каранацыю ў Наваградку.

**М. С.:** Вы сваёй вэрсіяй пераблытаеце ўсе карты гісторыкам. Што ж мы тады адзначаем сёлета – якое «1000-годзьдзе Літвы»? Выходзіць, і дату гэтую трэба адмяняць?

**З. С.:** Адмяняць ня варта, бо гэта ўсё ж такі гістарычная падзея. Хоць, шчыра кажучы, падзея ня вельмі гуманная. У 1009 годзе забілі місіянэра Бруна Квэрфурдзкага, які хацеў хрысьціць літву. Вельмі верагодна, што літва ўжо на той час вызначыла сябе нейкімі ўчынкамі, хутчэй за ўсё, ваярскімі. Язычніцкая літва супрацьстаяла хрысьціянізацыі, а Бруна Квэрфурдзкі быў пасланы як місіянэр хрысьціць паганцаў Пабужжа. Тады ж быў забіты і яцьвяскі князь Націмер, якога Бруна ахрысьціў. (Дарэчы, імя Націмер часта згадваецца ў прыгаданым «Попісе войска ВКЛ».) Усе гэтыя падзеі і зьвязаныя менавіта са спробамі хрышчэньня літвы – жыхароў згаданых паселішчаў Пабужжа. Таму што на ўсходзе, напрыклад у Наваградку і Полацку, ужо існавалі хрысьціянскія сьвятыні.

**М. С.:** А што сьведчыць на карысьць таго, што літва – хай сабе ваярскі стан, хай сабе племя – была славянскага паходжаньня?

**З. С.:** Калі пачынаеш разглядаць усё назоўніцтва, якое прывязваецца да яцьвягаў і да ўяўнага племені літва, то аказваецца, што сэнс большасьці гэтых назваў вельмі празрысты. Відавочныя іх славянскія карані, славянскія фарманты. Возьмем, напрыклад, раку Лятаўку, ад якой сучасныя літоўскія дасьледчыкі і гісторыкі выводзяць паходжаньне назвы Літва. Аказваецца, рака Лятаўка была і ў вадазборы Дунаю, а гэта – паўночна-ўсходняя частка сучаснай Вугоршчыны. Больш таго, рака з такой назвай ёсьць і ў Чэхіі. Цікавая сытуацыя атрымліваецца і з гарадамі, якія лічацца літоўскімі, балцкімі. Самы яскравы прыклад – горад Укмерге. Калі пачынаеш шукаць у гістарычных крыніцах гэты горад, то спачатку знаходзіш Вількмерге, а самая першасная форма назвы – Вілкамір. Літоўцы, каб схаваць славянскае паходжаньне гораду, зьмянілі яго гістарычную назву. Старажытныя Меднікі цяпер маюць назву Варняй, тая ж Вострая Брама ў Вільні таксама займела літоўскую назву. Дарэчы, калі мы ўжо згадалі Вострую Браму... У шмат якіх усходнеславянскіх гарадах былі, кажучы на сучасны лад, мікрараёны – канцы. Вядомыя канцы ў старажытным Ноўгарадзе, Татарскі канец у старажытным Менску. Згадаем прадмесьце Літоўскі канец у старажытным горадзе Абольчы (цяпер вёска Абольцы ў Талачынскім раёне). Востры канец быў і ў Вільні, дзе і паўстала гэтак званая Вострая Брама.

**М. С.:** У сваёй кнізе, якая мае адметную назву – «Утроп Літвы», вы ставіце пад сумнеў «літоўскі радавод» Міндоўга. Нібыта і Палямон, і Кунас, і Жывінбуд, і Ердзівіл, і Кукавойт, і Рынгольт – мітычныя князі. На чым грунтуюцца вашы сумневы?

**З. С.:** Утроп – гэта сынонім словаў «у сьлед», «наўсьлед». Слова гэткае зафіксавана ў нашых старых слоўніках. Што да імёнаў, якія выдаюцца за імёны літоўскія, якія нібыта паходзяць з балцкіх моваў, то часам гэта выглядае папросту сьмешна. Паверце, усё гэта выдумана, асабліва імёны князёў, апісаных у кроніках і летапісах. Прыкладам, ніхто ніколі не зьвяртаў увагу на князёў, названых у Галіцка-Валынскім летапісе. Там пералічаныя дваццаць пяць князёў, якія прыйшлі да валынскага князя, дакладней, да вялікай княгіні – жонкі князя

Рамана Галіцкага, прынесьлі мір. Самае цікавае, што ў пераліку гэтых літоўскіх князёў ёсьць і жамойцкія, ёсьць і вядомыя Рушкавічы, Булевічы, князі зь Дзяволтвы, але няма ніводнага князя з гэтак званай Аўкштайціі, якая падаецца цяпер як адна з гістарычных абласьцей, дзе менавіта і ўзьнік літоўскі этнас. Прыйшлі князі нават недзе з-пад Дзьвіны, а аўкштайцкіх, паўтараю, няма. Да таго ж імёны князёў, прыкладам Жывінбут, Ердзівіл, Кінцібут, Вонібут, Бутавіт, Едзівіл, Спрудзейка, якія падаюцца за нібыта літоўскія, балцкія, утрымваюць фарманты (часткі імёнаў), уласьцівыя славянскаму назоўніцтву. Відавочна, што гэта выдуманыя імёны, якія былі пазьней упісаныя ў летапісы. Мікола Ермаловіч называў біскупа Паўла Гальшанскага ініцыятарам «новай рэдакцыі» летапісу.

**М. С.:** Ваша вэрсія адносна тэрміну «літва», пэўна ж, выкліча вострае непрыманьне з боку літоўскіх гісторыкаў. У свой час яны не ўспрымалі ўсур'ёз вэрсію Міколы Ермаловіча. А вы не баіцеся стаць у Літве persona non grata?

**З. С.:** Буду шкадаваць, калі такое станецца. Я служыў у войску ў Літве, у Клайпэдзкім краі. Разам са мною служыў жэмайт Альгіс, які вучыў мяне гаварыць па-літоўску. Ад таго часу ў маёй душы – сантымэнт да гэтай краіны, пашана да літоўскай мовы. Я ніколі ня быў жэмайтафобам ці летувафобам. Але калі я чытаю ў артыкуле літоўскага гісторыка пра ненавуковасьць і абсурднасьць гіпотэзы Міколы Ермаловіча, мне баліць. Мікола Ермаловіч не пагаджаўся з маёй гіпотэзай, але гэта ня значыць, што я не паважаю Ермаловіча як гісторыка, вялікага працаўніка на беларускай гістарычнай ніве. Памятаеце, аднаму літаратурнаму герою ў сэрца стукаў «попел Клааса». Гэтаксама і мне стукае ў сэрца попел Міколы Ермаловіча.



*Алесь Краўцэвіч –*
археоляг, гісторык, пісьменьнік. Выпускнік гістфаку БДУ. Працаваў у Інстытуце гісторыі АН Беларусі, першым прарэктарам Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту імя Янкі Купалы. Доктар гістарычных навук. Аўтар кніг «Стварэньне Вялікага Княства Літоўскага», «Міндаўг», «Рыцары і дойліды Гародні» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Лупачы на Мастоўшчыне. Жыве ў Горадні.

## *Алесь Краўцэвіч:* «Кастусь Каліноўскі – нацыянальны герой № 1»

***28 верасьня 2009 году***

*З усіх выдатных дзеячаў беларускай гісторыі Кастусь Каліноўскі, здавалася б, – адна з самых пантэонна-непахісных, праверанных часам, постацяў. Правадыр нацыянальна-вызвольнага паўстаньня, выдавец першай беларускамоўнай газэты «Мужыцкая праўда», ён і загінуў па-геройску, на царскай шыбеніцы. Аднак для сёньняшняй афіцыйнай гістарыяграфіі Каліноўскі – аніяк не нацыянальны герой, пра што можна прачытаць у найноўшых падручніках па гісторыі Беларусі ды пачуць у прапагандысцкіх перадачах па дзяржаўным радыё. У абарону Кастуся Каліноўскага Беларускае гістарычнае таварыства зладзіла міжнародную навуковую канфэрэнцыю «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакумэнтах і культурнай традыцыі», якая прайшла ў Менску 25 верасьня. Пасьля яе заканчэньня мы сустрэліся са старшынём таварыства доктарам гістарычных навук Алесем Краўцэвічам.*

**Міхась Скобла:** Алесь, асоба Кастуся Каліноўскага ды ягоная эпоха дастаткова добра вывучаныя нашымі гісторыкамі (дастаткова прыгадаць выдатныя дакумэнтальныя кнігі Генадзя Кісялёва). Дык ці патрабуецца Каліноўскаму ваша абарона?

**Алесь Краўцэвіч:** Гэта сапраўды выглядае даволі дзіўна. У незалежнай Беларусі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі нечакана пачаў падпадаць пад дэгераізацыю. За савецкім часам Каліноўскі быў больш сацыяльным, чым нацыянальным героем, але ў апошнія гады і гэты міт стаў бурыцца ідэалягічным апаратам. У сёньняшніх падручніках можна прачытаць, што Кастусь Каліноўскі – не беларускі нацыянальны герой. Тамсама напісана, што, наадварот, яго вешальнік Мураўёў – таленавіты адміністратар. Таму мы, прафэсіяналы, навукоўцы, гісторыкі, дактары, кандыдаты і магістры, людзі, якія займаюцца спэцыяльна і той эпохай, і Каліноўскім, вырашылі сабрацца і сказаць сваё слова пра Кастуся Каліноўскага, пра паўстаньне 1863 году. Акрамя Беларускага гістарычнага таварыства у Польшчы, кіраўніком якога зьяўляецца Алег Латышонак, у арганізацыі канфэрэнцыі нам вялікую дапамогу аказаў Польскі інстытут у Менску і асабіста спадар Пётар Казакевіч – дырэктар гэтага інстытуту. Памяшканьне прадаставіў Беларускі інстытут правазнаўства, які месьціцца на вуліцы Караля, 3. Намаганьнямі чыста грамадзкіх інстытуцый нам удалося арганізаваць сур'ёзную навуковую канфэрэнцыю зь якасна надрукаванымі афішамі, з праграмамі, з бэджыкамі для ўдзельнікаў і г. д.

**М. С.:** А каму ў Беларусі патрэбная дэгераізацыя Кастуся Каліноўскага? Хто сьпіхвае яго з пастамэнту нацыянальнага героя?

**А. К.:** Вось я трымаю ў руках падручнік па гісторыі Беларусі для 10-й клясы са старажытных часоў да кастрычніка 1917 году. Яго аўтары – Трашчанок, Вераб'ёў, Валжанкоў. Гэтыя людзі напісалі падручнік для школаў зь беларускай мовай навучаньня, не валодаючы беларускай мовай. Бо на падручніку пазначана: перакладчыкі з расейскай мовы – Варановіч, Саламаха, Славута. Ажно шэсьць чалавек атрымалі ганарар за гэты падручнік. Ён выпушчаны ў сьвет выдавецтвам «Адукацыя і выхаваньне» накладам 2140 асобнікаў, на ім стаіць грыф: «Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь». Падручнік не прадаецца ў кнігарнях, ён адразу разасланы па школах. У ім ёсьць такі падпараграф: «Гістарыяграфічны міт пра Вікенція Кастуся Каліноўскага», дзе робіцца выснова, што «аніякіх аб'ектыўных падставаў для ператварэньня

Кастуся Каліноўскага ў нацыянальнага героя беларускага народу не існуе». Літаральна на той самай старонцы паведамляецца, што «славуты генэрал Міхаіл Мураўёў» быў ня толькі вешальнікам, але і «таленавітым адміністратарам і арганізатарам». Такім чынам, вучні павінны засвоіць наступнае: наш герой – не Каліноўскі, наш герой – Мураўёў. Але ў Мураўёва рукі па локці ў крыві паўстанцаў!

**М. С.:** Міт пра «Мураўёва ня толькі вешальніка» прапагандуецца не адным Трашчанком. Аднаго разу мне давялося прысутнічаць на міжнароднай канфэрэнцыі ў Празе, на якой выступаў знакаміты чэскі навуковец Міраслаў Грох. Дык ён таксама гаварыў пра амбівалентнасьць асобы Мураўёва – маўляў, ён і караў, і нёс Паўночна-Заходняму краю асьвету. Я не ўстрымаўся і запярэчыў прафэсару, што шыбеніца ня можа быць амбівалентнай...

**А. К.:** Што зробіш, нават такія шаноўныя дасьледчыкі, як Міраслаў Грох, ня ведаюць беларускай гістарыяграфіі. Ня ведаюць пераважна па той прычыне, што яна недаступная эўрапейскім дасьледчыкам. Якраз на канфэрэнцыі на гэта зьвярталася ўвага. Затое ў Эўропе шырокавядомая расейская гістарыяграфія, яна і прапагандуецца, у тым ліку на розных мовах. Нават наша маленькая суседка Літва мае два англамоўныя гістарычныя часопісы, дзе прапагандуюцца веды летувіскіх гісторыкаў пра іх краіну. А наш Інстытут гісторыі – структурнае падразьдзяленьне Нацыянальнай Акадэміі навук – ня мае аніводнага пэрыядычнага выданьня! Вось вам параўнаньне... Таму мы спрабуем гэтую сытуцыю неяк зьмяніць.

**М. С.:** У канфэрэнцыі бралі ўдзел і польскія навукоўцы. А як ставіцца да асобы Каліноўскага польская гістарыяграфія?

**А. К.:** Польская гістарыяграфія вельмі станоўча ставіцца да асобы Каліноўскага. Мы з палякамі ня дзелім Каліноўскага. Ён лічыў сябе грамадзянінам былой Рэчы Паспалітай, ён меў кантакты з палякамі, у тым ліку стасункі падпарадкаваньня з цэнтрам паўстаньня ў Польшчы. Паўстаньне 1863 году – гэта наша агульная справа, гэта змаганьне «за нашу і вашу вольнасьць». Лёзунг са сьцягоў Касьцюшкі выдатна пасуе і да дзейнасьці Кастуся Каліноўскага.



**М. С.:** Нездарма гаворыцца, што паэзія – мова душы. Свой перадсьмяротны верш «Марыська, чарнаброва галубка мая...» Каліноўскі напісаў на беларускай мове. Значыць, душа ягоная прамаўляла па-беларуску. На якой падставе вашыя апанэнты залічваюць Каліноўскага ў палянафілы?

**А. К.:** Яны выкарыстоўваюць яго падвойнае імя – Вікенцій Канстанцін Каліноўскі, цьвердзячы, што ніякі ён не Кастусь, а – Вікенцій. Хоць на канфэрэнцыі паводле дакумэнтаў было даказана, што ў сям'і ўжывалася імя Кастусь. Нашыя апанэнты выкарыстоўваюць тую акалічнасьць, што паўстанцы мелі сувязь з польскім цэнтрам. Трэба сказаць, што спроба назваць Каліноўскага палякам, палянафілам, які хацеў аддаць беларусаў панскай Польшчы, – вельмі прымітыўная, бо аб'ектыўных падставаў бэсьціць гэтага героя няма. Каліноўскі – герой клясычны. Гэта чалавек, які аддаў жыцьцё за ідэю, які не завагаўся нават пад шыбеніцай! Каліноўскі пасуе на героя нават зьнешне: прыгожы інтэлігентны твар. Я перакананы, што нашыя апанэнты ніколі ня знойдуць рэальных падставаў, каб абліць яго брудам.

**М. С.:** У публікацыях некаторых навукоўцаў (прыкладам, Уладзімера Казьберука) можна прачытаць, што Каліноўскі падчас паўстаньня затэрарызаваў ледзь ня ўсю Гарадзеншчыну. Што праўда, факты ягонай «тэрарыстычнай дзейнасьці», як правіла, не прыводзяцца.

**А. К.:** На канфэрэнцыі пра гэта таксама была гаворка ў спэцыяльным навуковым дакладзе.

Каліноўскага называлі рашучым. Ён заклікаў да пакараньня сьмерцю здраднікаў паўстаньня са шляхты, але ў рэальнасьці пакараньняў гэтых не было. Прысуды проста не выконваліся. Каліноўскі па сваёй натуры быў мяккім чалавекам, аніякім не тэрарыстам. Вось вам факт для параўнаньня. На загад Мураўёва ў адной Гарадзенскай губэрні было зраўняна зь зямлёй, спалена, вынішчана больш за 500 шляхецкіх сядзібаў, а людзі, усе да аднаго – ад немаўляці да старога, які ня мог хадзіць, высланыя ў Сібір. Расейскія вайсковыя павятовыя начальнікі мелі поўную ўладу падчас паўстаньня і маглі караць сьмерцю нават бяз выраку ваенна-палявога суду. І некаторыя гэта рабілі, каб выслужыцца. Вось гэта тэрор. Мы апублікуем матэрыялы канфэрэнцыі асобным выданьнем, і гэта будзе словам прафэсіяналаў у абарону Каліноўскага. Яшчэ раз паўтаруся: Каліноўскі заслугоўвае быць на вяршыні пантэону нацыянальных герояў Беларусі. Яму павінны стаяць помнікі па ўсёй краіне, пра яго трэба пісаць кнігі, здымаць фільмы. І мы маем магчымасьць усё гэта зрабіць, таму што тая эпоха пакінула шмат крыніцаў. У нас ёсьць рэальная падстава «ажывіць» Каліноўскага, паглядзець, якім ён быў. Ягонае жыцьцё, ягонае змаганьне, ягоная сьмерць цалкам адпавядаюць таму, каб ён стаў нацыянальным героем Беларусі № 1.

**М. С.:** Алесь, ужо некалькі выданьняў вытрымала твая кніга «Стварэньне Вялікага Княства Літоўскага». Чаму яна выйшла не ў Беларусі, а ў польскім горадзе Жэшаве пад грыфам тамтэйшага Ўнівэрсытэту Марыі Кюры-Скландоўскай?»

**А. К.:** Першае выданьне павінна было выйсьці ў выдавецтве «Беларуская навука», зь якім я супрацоўнічаю ўжо каля дзесяці гадоў – выдаў там пяць сваіх кніг. Але выдавецтва адказала, што Дзяржаўны камітэт у справах друку адмовіўся фінансаваць маю кнігу. Зь яе выданьнем была цэлая



гісторыя. Супрацоўнікі выдавецтва прыхоўвалі кнігу ў розных рубрыках выдавецкага пляну, а чыноўнікі Дзяржкамдруку знаходзілі яе і выкідалі. Афіцыйнае тлумачэньне – бракуе грошай. Але па неафіцыйных зьвестках, я знаходжуся ў чорным сьпісе аўтараў, непажаданых для сёньняшняга рэжыму... Мне ўдалося выдрукаваць 300 асобнікаў уласным коштам дзякуючы дапамозе добрых людзей, якія ў прыватнай друкарні на ашчаджанай паперы за мае ўласныя грошыкі надрукавалі гэтыя 300 асобнікаў. Аказалася, што гэтага мала. І ў Жэшаве, дзе я часам чытаю лекцыі, унівэрсытэт пайшоў насустрач і фінансаваў выданьне 1000 асобнікаў кнігі па-беларуску. Апрача гэтага, Фонд Сораса ў Парыжы дапамог выдаць яшчэ 1000 асобнікаў – у той жа друкарні ў Польшчы. Мне ўдалося перавезьці ўвесь наклад у Беларусь, і цяпер кніга распаўсюджваецца праз кнігарні і ўнівэрсытэты.

**М. С.:** Дзясяткі гадоў савецкія гісторыкі нам даводзілі, што Літва (мелася на ўвазе – балцкія плямёны) у старажытны час захапіла сучасныя беларускія землі. Мікола Ермаловіч у свой час аргумэнтавана даказваў адваротнае – што славяне захапілі і асымілявалі балтаў. Ты ж прапануеш новую канцэпцыю і трактуеш Вялікае Княства як балцка-славянскую біэтнічную дзяржаву, дзе ніхто нікога не заваёўваў, а ўсё абышлося мірна. Якія гістарычныя факты паслужылі падмуркам для падобнага цьверджаньня?

**А. К.:** Рэцэнзэнты, якія даводзяць, быццам я ад пачатку імкнуся нешта даказаць, памыляюцца. Я бяру сукупнасьць гістарычных фактаў, наяўных крыніцаў і раблю высновы. У сваёй кнізе я разглядаю працэс утварэньня дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага на фоне самай буйной зьявы ў нашай гісторыі – працэсу балта-славянскіх кантактаў. Ён добра вывучаны, ён паказвае, што ўсё адбывалася мірна, што славяне з балтамі ўзаемадзейнічалі,

абменьваліся культурай, і узьнікаў новы этнас – беларусы. ВКЛ як дзяржава зьявілася ў кантактнай зоне – на Панямоньні, паміж балтамі і славянамі, і была вынікам і праявай гэтых кантактаў. Штуршком да ўтварэньня ВКЛ стала пагроза з боку татара-манголаў і Тэўтонскага ордэну, калі была разбураная этна-палітычна-культурная сыстэма Ўсходняй Эўропы. Мясцовыя балты і славяне аб’ядналіся, каб абараніць сваю тэрыторыю ад ворагаў. Я не хацеў ад пачатку даказваць біэтнічнасьць ВКЛ, гэта прыйшло само па сабе, на аснове аналізу фактаў. На жаль, мая канцэпцыя была вельмі нэгатыўна ўспрынятая ў літоўскім друку. Нашы паўночныя суседзі ўжо выпрацавалі свой погляд на гісторыю ВКЛ і цяпер проста ня церпяць ніякай альтэрнатывы. У іхных поглядах на ВКЛ вельмі мала месца адводзіцца беларусам. Як быццам мы не існавалі. І калі мы заяўляем, што мы там таксама жылі, што ВКЛ – таксама і наша спадчына, наша дзяржава, гэта выклікае ў літоўцаў як мінімум раздражненьне. Дыялёг зь літоўскімі калегамі ідзе вельмі цяжка.

**М. С.:** А як успрымаецца, як вывучаецца Вялікае Княства Літоўскае нашымі другімі суседзямі – палякамі ды ўкраінцамі?

**А. К.:** У свой час мы і зь літоўскімі гісторыкамі прыйшлі да паразуменьня, у 1993 годзе адбыліся некалькі афіцыйных канфэрэнцыяў. Дамовіліся нават пра тэрміналёгію, вырашылі карыстацца тэрмінам «Беларуска-літоўскае гаспадарства» альбо «Літоўска-беларускае гаспадарства», што ёсьць адно і тое ж. Але цяпер літоўцы катэгарычна ня хочуць дзяліцца спадчынай ВКЛ з намі. Клясычная ўкраінская гістарыяграфія, у тым ліку Міхайла Грушэўскі, прызнаюць ВКЛ утворам больш беларускага народу, чым украінскага. Хоць у працах іхных сучасных гісторыкаў можна знайсьці цьверджаньні, што ВКЛ – украінская дзяржава. Што датычыць польскай гістарыяграфіі, то там існуе даволі нэўтральнае



стаўленьне да ВКЛ. Яго вывучаюць, палітычна ацэньваюць яго як дзяржаву літоўскую, а культурна – як дзяржаву русінскую (беларускую).

**М. С.:** Давай ізноў вернемся з часоў ВКЛ у Рэспубліку Беларусь. У незалежнай Беларусі пабачылі сьвет шасьцітамовая «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі», трохтамовая «Археалёгія Беларусі». Маем гістарычныя дзяржаўныя і недзяржаўныя часопісы... Як бы і няблага ўсё. Як бы ты ахарактарызаваў стан сучаснай гістарычнай навукі?

**А. К.:** Галоўнай нэгатыўнай зьявай у сучаснай беларускай навуцы зьяўляецца раскол у асяродзьдзі гісторыкаў. Існуюць дзьве процілеглыя плыні гістарычнай навукі. Да першай належаць гісторыкі, якія пішуць гісторыю краіны як суб'ектную і бачаць Беларусь суб’ектам уласнай гісторыі. Да другой плыні належаць тыя, хто рэанімуе каляніяльную гісторыю Беларусі. Яна сёньня штучна рэанімаваная праз палітыку ўлады. Вяртаюцца старыя савецкія канцэпцыі. Гэта вельмі цікавая зьява: раскол нам паказаў, хто ёсьць хто. Гісторыкі, якія на пачатку 1990-х гадоў парабіліся ўсе патрыётамі Беларусі, сёньня выявілі сваё сапраўднае аблічча. Нацыянальныя гісторыкі, якія пішуць суб’ектную гісторыю Беларусі, захавалі вернасьць свайму выбару. А тыя прыстасаванцы, супрацоўнікі прапагандысцкага апарату Камуністычнай партыі зноў вярнуліся на старыя пазыцыі. Пра гэта ня любяць гаварыць, гэта стараюцца не афішаваць, не паказваць, але гэта рэальны факт, які ёсьць асноўнай праявай разьвіцьця сёньняшняй гістарычнай навукі. І самае непрыемнае, што ўлада штучна адмяжоўвае нацыянальных гісторыкаў ад уплыву на масавую сьвядомасьць.

**М. С.:** Памятаецца, як на адной з сустрэчаў з расейскімі журналістамі Аляксандар Лукашэнка крытычна адазваўся пра Аршанскую бітву. Відаць, каб дагадзіць гасьцям з Расеі. Беларусы ў той бітве, маўляў, ня ўдзельнічалі, дый хто каго перамог –

пытаньне дарэшты нявысьветленае. Дык ці варта адзначаць Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасьня, калі гэтая бітва адбылася?

**А. К.:** Безумоўна, варта. Аршанская бітва 1514 году – сапраўды вялікая перамога: 40 тысячаў вояў разграмілі ўдвая большую групоўку маскоўскіх войскаў, захапілі ў палон усё яе камандаваньне. Значэньне гэтай перамогі ў беларускай гісторыі ў тым, што яна мела вялікае маральнае значэньне: уся Эўропа пра яе пісала, германскі імпэратар пасьля яе нават адмовіўся ад саюзу з Маскоўскім княствам. Аршанская бітва на некалькі дзесяцігодзьдзяў уратавала Беларусь (найперш Усходнюю) ад спусташэньняў, пажараў, гвалтаў, забойстваў, якія чынілі на нашай тэрыторыі маскоўскія войскі. Яна ўратавала жыцьцё сотням тысяч жыхароў Полаччыны, Гомельшчыны ды Магілёўшчыны. Хто ведае, можа, сярод тых уратаваных былі і продкі Аляксандра Лукашэнкі.

**М. С.:** Ты ачольваеш Беларускае гістарычнае таварыства. Што ўяўляе зь сябе гэтая арганізацыя ды якія ў яе мэты?

**А. К.:** Беларускае гістарычнае таварыства – гэта агульнакраёвая арганізацыя беларускіх гісторыкаў, якая ўжо налічвае каля сотні сяброў. Фармальны мінімальны крытэр сяброўства – ступень кандыдата навук. Сёньняшнія дзяржаўныя кіроўчыя структуры ня ў стане каардынаваць разьвіцьцё гістарычнай навукі. Яны чакаюць указаньняў з палітычнай адміністрацыі. Гэтыя структуры зьяўляюцца прыдаткам апарату выканаўчай улады і падпарадкаваныя гэтаму апарату. Таму мы вырашылі, што самі павінны арганізоўваць сваё навуковае жыцьцё. Мы вырашылі, што ніхто, акрамя нас, гісторыкаў-прафэсіяналаў, ня ведае, як пісаць праўдзівую гісторыю Беларусі. Я думаю, што ў нашага таварыства ёсьць пэрспэктывы.



**М. С.:** Апошняе маё пытаньне мае крыху жартоўны характар. І тым ня менш я спадзяюся пачуць на яго сур'ёзны адказ. У мінулым, падчас кіраваньня ў Беларусі былога партызана Машэрава, кажуць, няблага жылі і адпаведна шанаваліся былыя ўдзельнікі партызанскага руху. Сёньня ў Расеі, пры Пуціне, «воспряли духом» усе былыя й цяперашнія супрацоўнікі органаў дзяржбясьпекі. А як беларускія гісторыкі пачуваюць сябе ў краіне, якою ўжо восем гадоў кіруе гісторык паводле дыплёму?

**А. К.:** У выкладчыкаў гістарычнага факультэту Магілёўскага пэдінстытуту, якія вучылі студэнта Сашу Лукашэнку, трэба адабраць пэнсіі. Наш прэзыдэнт любіць гаварыць, што ён – «экономист от рождения». Ён можа таксама сказаць, што ён — гісторык ад нараджэньня, але гэта не дадасьць яму ні ведаў, ні гістарычнага розуму. Каб тыя магілёўскія выкладчыкі хоць трохі навучылі Лукашэнку суб'ектнай праўдзівай гісторыі Беларусі, то, магчыма, і нам, гісторыкам, і ўсім беларусам сёньня жылося б трохі лягчэй. Мы шмат разоў бачылі, як Аляксандар Рыгоравіч займаецца спортам – гуляе ў хакей, футбол, бегае на лыжах і бяз лыжаў. Усё гэта добра, але ніхто ня бачыў у тэлевізары, каб ён чытаў кнігі. Можна ж знайсьці час і пачытаць разумную кнігу, каб ведаць, што «таварыш Сапега» – не таварыш, а канцлер Вялікага Княства Літоўскага, які на беларускай мове выдаў адзін з найлепшых кодэксаў права ў Эўропе. Урэшце, каб у будучых падручніках па гісторыі Аляксандар Лукашэнка не застаўся беларускім прэзыдэнтам, пры якім памерла мова і культура беларускага народу.

# Іменны паказьнік

**В**







**Г**

## Д







## Е



## Ё

## Ж



## З



## І





## К

**Л**

## М







## Н

### О



### П







### Р

### С







### Т

### У



### Ф





### Х



### Ц



### Ч

## Ш





## Э



## Ю



## Я

# Пра аўтара



Фота Станіслава Шушкевіча

Міхась Скобла нарадзіўся 23 лістапада 1966 году на хутары паблізу мястэчка Дзярэчын на Зэльвеншчыне. Закончыў філфак БДУ (1991). Савецкую салдатчыну адслужыў у дэсантна-штурмавой брыгадзе на тэрыторыі Літвы і Заходняй Украіны (1985—1987).

Працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара часопісаў «Роднае слова» і «Бярозка», у выдавецтве «Беларускі кнігазбор», у Міністэрстве культуры і друку. З 1998 году супрацоўнічае з Радыё Свабода, дзе вядзе аўтарскую праграму «Вольная студыя».

Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў і Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Зьяўляецца намесьнікам старшыні СБП (з 2002). Аўтар кніг «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994), «Камень-перунок» (1998), «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), «Нашэсьце Поўні» (2001), «Акно для матылькоў» (2009) ды інш. Уклаў дзьве фундамэнтальныя паэтычныя анталёгіі: «Краса і сіла: беларуская паэзія XX стагодзьдзя» (2003) і «Галасы з-за небакраю: паэзія сьвету ў беларускіх перакладах XX стагодзьдзя» (2008).

Праграма «Вольная студыя» ў 2000 годзе была адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-Цэнтру.



# Summary

For more than a decade, the well-known poet and literary historian Mihas Skobla has been hosting guests each week in RFE/RL's Minsk radio studio. His show, like this book, is called Free Studio in honor of the program's theme and the guests' commitment to challenge the Belarusian authorities' efforts to silence their voices with censorship, reprisals and prison. This book is a compilation of the 50 most compelling conversations that have taken place over the years. It includes a poet whose words condemned him to political prison, a philosopher forced to defend his opinions with hunger strikes, a well known artist whose work can no longer be freely exhibited in the country, an author whose once-read books have been banned, a teacher who lost her job for participating in an anti-government demonstration, and a once leading politician whose disagreement with the government led to his internment in labor camps . While the world celebrates the 20th anniversary of the end of Communism in Europe, their sacrifices remind us that the human spirit sadly remains tested in the 21st century. Yet despite all odds and obstacles, their often unrecognized defiance to retain simple and essential dignities is a call to everyone to remember that the fight for freedom in Europe is not yet over and that until it is, voices like theirs will not be easily silenced.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.




**Дарога
праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty:
Reflections for
Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка
беларускай літаратуры
ў этэры Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004.




**Дуліна
ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА
ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская
Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—
25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.